БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ

Д. Я. Бугаёў

# ЖЫЦЦЁМ ІДУЧЫ

## З гісторыі беларускай літаратуры і літаратурнай крытыкі

МІНСК
БДУ
2013

УДК 821.161.3.09“19/20” (081) + 82.09(476)(091)“19/20”(081)
ББК 83.3(4Беи)6+83(4Беи) г
Б90

*Друкуецца па рашэнні*
*Рэдакцыйна-выдавецкага савета*
*Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*

Рэцэнзенты:
доктар філалагічных навук *І. В. Жук*;
доктар філалагічных навук *Г. К. Тычко*

**Бугаёў, Д. Я.**
Б90 Жыццём ідучы: з гісторыі беларускай літаратуры і літаратурнай крытыкі / Д. Я. Бугаёў. – Мінск : БДУ, 2013. – 303 с.
ISBN 978-985-518-930-6.

Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў (нар. у 1929 г.) – прафесар філалогіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1984) – працаваў на філалагічным факультэце БДУ з 1964 па 2008 г. У літаратурнай крытыцы і літаратуразнаўстве выступае з 1957 г.

Кніга складаецца з артыкулаў па гісторыі беларускай літаратуры і крытыкі, дакументальных згадак пра гісторыю БДУ ў лёсах яго выкладчыкаў 1960–2000 гг. Разгледжаны творы І. Шамякіна, Р. Барадуліна, В. Зуёнка, В. Казько, М. Мятліцкага, Ю. Станкевіча, А. Наварыча, Л. Рублеўскай, створаны літаратурныя партрэты В. Быкава, І. Навуменкі, І. Чыгрынава, М. і Г. Гарэцкіх, даследчыкаў С. Александровіча, В. Барысенкі, С. Гусака, В. Каваленкі, У. Калесніка, Ф. Янкоўскага.

**УДК 821.161.3.09“19/20” (081) + 82.09(476)(091)“19/20”(081)**
**ББК 83.3(4Беи)6+83(4Беи) г**

**ISBN 978-985-518-930-6**



# ВЕРНАСЦЬ ПРЫЗВАННЮ

Яго пазнаеш здалёк: рухавая постаць, шпаркая хада, праніклівы позірк, імгненная рэакцыя, малады бадзёры голас, у якім чуецца захапленне жыццём, спагада і падтрымка, абурэнне і гнеў. Міжволі згадваеш той вобраз шукальніка ісціны, які стварыў некалі Якуб Колас у вершы «Наперад»: «Адзначан для кожнай істоты свой век. / Жыццё ж безупынна ўсё крочыць і крочыць, / А разам з ім — вечны юнак-чалавек... / Вітай жа дарогі і новыя далі, / І вечнага руху святыя скрыжалі, / І юнасць людскую, і мудрае слова...» Бліскучы лектар і прапагандыст роднага слова — гэта пра яго ў «Сказе пра Лысую гару» з несумненнай сімпатыяй сказана: «Змітрок рыўком прайшоў наперад, / Адкашляў хрыпку на хаду / І з развароту, без паперак / Абрынуў шквал на грамаду». Сваёй эрудыцыяй, красамоўствам, логікай, досціпам, энергіяй Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў шмат гадоў зараджаў студэнцкую і творчую моладзь і сам напаўняўся радасным адчуваннем волі і прастору.

Мала хто пры гэтым ведае, які цяжар успамінаў пра перажытае, сяброў і калег, якіх ужо няма, пра Янку Брыля, свайго суседа па пад'ездзе, якога ўжо не сустрэнеш на чарговай праходцы над берагам Свіслачы, нясе ў сабе гэты чалавек, які ў свой час перажыў клінічную смерць, нарадзіўся нанава і робіць тое, што рабіў усё сваё жыццё: піша, чытае, пераглядае раней напісанае, бясконца шліфуе і ўдасканальвае стыль — і ўсё гэта з глыбокай падзякаю жыццю і лёсу. На чым грунтуецца яго апантанасць? На прыродным тэмпераменце байца? На разуменні патрэб часу? Адказ адзін: на вернасці свайму прызванню змагара за Бацькаўшчыну, на любові да Беларусі, красу якой ён бачыць найперш у мастацкім слове, роднай літаратуры, у навуковай ісціне, нарэшце ў роднай прыродзе, у нашых людзях. Байцоўскі характар і грамадзянскі тэмперамент заўсёды штурхалі яго ў бок эпіцэнтра літаратурна-творчага жыцця, дзе вырашаўся лёс гуманістычных змен у краіне, абвяргаліся замахі рудыментаў вульгарнага сацыялагізму ў навуцы на гістарычную ісціну і адбывалася маштабнае «адкрыццё рэчаіснасці». У 1960-я гг. Д. Бугаёў стаў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры АН БССР, затым — дацэнтам, прафесарам у БДУ. Выкладчыцкую працу спалучаў з навуковай дзей-

насцю, узяўшы на сябе цяжкую місію ўкаранення навуковых адкрыццяў у адукацыйным працэсе. Гэта выяўляецца не толькі ў змесце, але і ў форме серыі навуковых манаграфій: «Шчодрае сэрца пісьменніка» (1963), «Паэзія Максіма Танка» (1964), «Уладзімір Дубоўка» (1965), «Максім Гарэцкі» (1968), «Шматграннасць» (1970), «Зброяй сатыры, зброяй праўды» (1971). Навуковы падыход спалучаецца з папулярнай манерай пісьма, разлічанай як на прафесіяналаў, так і на шырокага чытача.

Гэта былі кнігі-адкрыцці, якія ўбіралі ў сябе вынікі архіўных пошукаў, пачціва-любоўнага вывучэння першакрыніц, пісьменніцкіх рукапісаў. Фактура даследаванняў Д. Бугаёва заўсёды надзвычай багатая і шматбаковая, што сведчыць аб яго ўніверсалізме і энцыклапедызме. У далейшым гэтыя якасці і асаблівасці даследчыцкага таленту паглыбіліся і ўдасканаліліся ў навуковых манаграфіях: «Вернасць прызванню» (1977), «Чалавечнасць» (1984), «Васіль Быкаў» (1987), «Арганічнасць таленту» (1989), прысвечаных творчасці В. Каваля, П. Галавача, М. Лобана, А. Чарнышэвіча, І. Мележа, В. Быкава, Я. Брыля, І. Шамякіна, І. Навуменкі, А. Адамовіча, М. Аўрамчыка, А. Лойкі, І. Чыгрынава, А. Вярцінскага, М. Стральцова, Г. Бураўкіна, Я. Янішчыц і інш.

Асаблівае месца ў навуковай дзейнасці Д. Бугаёва займае кніга літаратурных артыкулаў «Талент і праца» (1979), за якую аўтар узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа (1984). Гэта кніга — выніковая і ўключае лепшыя навукова-крытычныя працы, напісаныя больш за дваццаць гадоў плённага пошуку і роздуму. Змест кнігі шматгранна адлюстроўвае творчы дыяпазон аўтара.

Д. Бугаёў аднолькава ўпэўнена адчувае сябе і ў ролі гісторыка беларускай класікі, і ў ролі крытыка, і ў ролі папулярызатара лепшых дасягненняў айчыннай літаратуры. Заўважаецца і жанрава-стылявая разнастайнасць: манаграфічнае даследаванне, творчы партрэт, праблемныя, аглядныя, нарэшце, юбілейныя артыкулы, рэцэнзіі, водгукі. А цэментуючым пачаткам тут з'яўляецца асоба аўтара.

Напрацаваная на працягу шасці дзесяцігоддзяў творчай дзейнасці літаратуразнаўчая тэхналогія плённая і ў новых акалічнасцях. Аб гэтым выразна сведчаць выданні Дзмітрыя Бугаёва «Дасягнутае і страчанае» (1999), «Спавядальнае слова» (2001), «Служэнне Беларусі» (2003), шматлікія артыкулы, рэцэнзіі, успаміны, якія нязменна выклікаюць цікавасць у чытача, творчыя партрэты, змешчаныя ў «Гісторыях» беларускай літаратуры, падручніках для вышэйшых і сярэдніх устаноў. Яго даследчае поле шпарка пашыраецца, сведчаннем таму кніга, якую трымае ў руках чытач. Дзмітрыю Бугаёву гістарычная ісціна даражэй за ўсё. Ён адкрыты, шчыры, узрушаны, сур'ёзны, дасціпны ў сваіх вывадах.

*Міхась Тычына*



# ВОБРАЗ МАЦІ І ЎВОГУЛЕ ЖАНЧЫНЫ Ў ТВОРАХ ІВАНА ШАМЯКІНА

Для кожнага прыстойнага чалавека ў цывілізаваным грамадстве маці — найбліжэйшы і самы дарагі, можна сказаць, святы чалавек. Гэтая акалічнасць знаходзіць адлюстраванне ў творчасці выдатных пісьменнікаў розных народаў свету. Беларуская літаратура новага часу таксама заўсёды аддавала вялікую ўвагу жанчыне. Асабліва хораша пісаў пра яе Якуб Колас. Ягоная палеская кветка Ядвіся з трылогіі «На ростанях» стала адным з самых паэтычных вобразаў беларускай жанчыны. А хіба можна забыць чароўную купалаўскую Паўлінку з аднайменнай камедыі ці прыгожую ды разумную Ганну Чарнушку з мележаўскай «Палескай хронікі» і цэлы шэраг іншых з любоўю і пяшчотай напісаных нашымі майстрамі мастацкага слова жаночых вобразаў, праз якія адметнасць беларускага нацыянальнага характару, яго лепшыя рысы адлюстраваліся ярка, глыбока і align рознабакова.

Па ўмовах жыцця ў дзіцячыя і юнацкія гады Іван Шамякін быў найбольш блізкі да маладога Якуба Коласа. Абодва яны раслі і сталелі ў сям'і лесніка, з малалецтва прывучаліся спасцігаць красу беларускага лесу, багацце душы яго ахоўнікаў. Гэтая блізкасць жыццёвых вытокаў, вядома ж, уплывала і на творчасць Івана Шамякіна, для яго коласаўская традыцыя ва ўсёй глыбіннасці аказалася вельмі прывабнай і па-сапраўднаму плённай.

Думаецца, што Івану Шамякіну надзвычай імпанавала Коласава непахісная сардэчная адданасць жонцы Марыі Дзмітрыеўне. Сваё сямейнае жыццё з Марыяй Філатаўнай Кротавай Іван Пятровіч усталёўваў на такім жа прынцыпе. Ва ўсякім разе, гарманічнасць гэтага жыцця, заснаваная на глыбокай духоўнай еднасці мужа і жонкі, у абодвух пісьменнікаў бясспрэчная.

Можна прыгадаць, што ў радаводах Коласа і Шамякіна ёсць блізкія рысы. Тут прыкметна арганічная чалавечнасць сямейных традыцый.

Добра вядома, з якою сардэчнасцю ставіўся Якуб Колас да любімага дзецьмі дзядзькі Антося, які сваё жыццё прысвяціў сям'і брата Міхала, Коласавага бацькі.

У радаводзе бацькоў Івана Шамякіна асаблівай чалавечнасцю вызначалася матчына лінія Кротавых, пра якую пісьменнік грунтоўна расказваў у дзённікава-мемуарным нарысе «Карэнні і галіны» з аднайменнай кнігі, выдадзенай у 1986 годзе.

Пра сваю маці ён ці не найбольш падрабязна напісаў у аўтабіяграфіі, змешчанай у калектыўнай кнізе «Пяцьдзесят чатыры дарогі» (1963).

У характары маці Іван Пятровіч найперш вылучае працавітасць і мужнасць. «Гэтая маленькая, нізенькая жанчына — мая маці — была мужным і дужым чалавекам. Яна сама рабіла любую мужчынскую работу ўдзень, а ўвечары прала і ткала. Магчыма, што зрэдку на яе нападаў страх», — чытаем у аўтабіяграфіі.

Падставы для страху былі важкія, бо жанчыне часта даводзілася заставацца з малымі дзецьмі ў хаце лесніка, якая стаяла ў густым сасновым лесе. Гэта здаралася тады, калі бацька Пятро Мінавіч затрымліваўся на дальнім абходзе або трапляў у бальніцу, паранены парубшчыкамі. Ляснік ён быў строгі, і парубшчыкі помсцілі яму, пагражалі расправіцца з сям'ёй. Каб адагнаць страх і паказаць, што яна не з палахлівых, у выпадку чаго жартаваць не будзе, жанчына «брала стрэльбу, выходзіла на ганак і страляла ў паветра». «Гэтыя яе стрэлы, — працягвае пісьменнік, — былі прадметам жартаў суседніх леснікоў, якія часам збіраліся разам, рыхтуючы аблаву на парубшчыкаў». Але Сынклеце Шамякінай (так звалі маці пісьменніка) было не да жартаў.

Сваіх дзяцей, як і кожная маці, любіла, а працаваць іх прымушала яшчэ змалку. Івану Пятровічу, як і мноству іншых вясковых хлапчукоў, даводзілася быць пастухом — пасвіць уласную жывёлу, часта з дадаткам сялянскіх бычкоў і цялушак. Занятак не дужа складаны, але свае нязручнасці ў ім былі. Галоўная з іх тая, што трэба было вельмі рана ўставаць: «Будзіла мяне маці са слязамі на вачах а пятай гадзіне раніцы».

У дзённікавай кнізе «Роздум на апошнім перагоне» (1998) І. Шамякін падкрэсліў і матчыну памяркоўнасць у абыходжанні з людзьмі, яе гасціннасць і мяккасць. «Мне, — піша ён тут, — ніколі не была ўласціва бацькава суровасць, яго злаславасць. Я — увесь у маці, у яе быў надзіва мяккі характар. Сварлівасць матак некаторых маіх сяброў непрыемна ўражвала, з малых гадоў я лічыў, што ўсе маткі павінны быць такімі, як наша. Калі яна часам і сцёбала нас ручніком, — іншай зброі экзекуцыі не прызнавала, — то ад гэтага нам з Паўлам (малодшы брат пісьменніка) хацелася не плакаць, а смя-

яцца. Плакалі мы назнарок, каб маці лягчэй стала, хутчэй адышло ад сэрца. Хітруны! Паплачам — і маці тут жа шкадавала нас, намазвала скібкі хлеба маслам ці давала па драбку цукру».

Ствараючы вобразы жанчын у сваіх творах, І. Шамякін арыентаваўся не толькі на ўсё добрае, што было ў маці, але і на вельмі прывабныя рысы характару сваёй жонкі, пра якую з вялікім замілаваннем згадваў мноства разоў і асабліва грунтоўна напісаў у аўтабіяграфічнай аповесці «Слаўся, Марыя!». Тут пісьменнік стварыў сапраўдны гімн жонцы, яе высакародству і характару. Гэтая аповесць, змешчаная ў кнізе «Пошукі прытулку» (2001), мае ёмісты падзагаловак «Гісторыя кахання, любові, жыцця». Іван Пятровіч цяпер падкрэсліў, што і Таццяна Маеўская з «Глыбокай плыні» (1949), і Тася Батрак з рамана «Вазьму твой боль» (1979), і Поля Шугачова з «Атлантаў і карыятыд» (1974), а таксама такія жанчыны са складаным лёсам, як Надзя Сваяцкая са «Снежных зім» (1970) або Вольга Ляновіч з аповесці «Гандлярка і паэт» (1976), — адны ў большай, другія ў меншай меры, але ўвабралі ў сябе нейкія рысы Марыі Філатаўны. Сёетое, узятае ад яе, ёсць і ў іншых жанчын з твораў, напісаных І. Шамякіным у розны час.

Асабліва шмат жончыных рысаў замацавана за Сашай Траянавай з пенталогіі «Трывожнае шчасце» (1950—1965). Гэтая кніга — адзін з самых аўтабіяграфічных твораў пісьменніка. Прынамсі, аповесці «Непаўторная вясна», «Агонь і снег», «Мост», самыя праўдзівыя, псіхалагічна глыбокія ў кнізе, падаюць Сашу Траянаву вельмі блізкай да рэальнай Марыі Філатаўны. Жончыны «вернасць, адданасць мужу, дзецям» І. Шамякін тут паказаў з сапраўднай натхнёнасцю. Праўда, у аповесці «Агонь і снег» Саша Траянава не выступае як непасрэдная дзейная асоба. Але Пятро Шапятовіч (у рэальнасці сам Іван Шамякін) «жыве, ваюе, кахаючы яе» (у двукоссі словы пісьменніка).

Самая адметная рыса прыстойнай жанчыны — любоў да дзяцей, клопат пра іх. Станоўчыя жаночыя вобразы з твораў І. Шамякіна шчодра надзелены гэтай якасцю. Скажам, Поля Шугачова з «Атлантаў і карыятыд» з задавальненнем росціць ажно пяцёра дзяцей.

Сапраўдную цану жыцця можа зведаць толькі жанчына, якая становіцца маці, раскрываецца ў клопатах пра дзяцей. Гэтая думка выразна акцэнтуецца ў рамане «Снежныя зімы». Але яна прачытваецца і ў іншых творах пісьменніка.

Хораша паэтызуецца ў «Трывожным шчасці» матчын клопат Сашы Траянавай пра малую Лену: «За адным заняткам Саша забывалася на ўсё іншае — калі карміла дачушку, гуляла з ёй. Ленка ачуняла і ў чатыры месяцы

была тоўсценькая, рухавая і — кожнай маці так здаецца! — надзвычай разумная для свайго ўзросту. Яна ўжо ўмела смяяцца, хапаць за валасы, за нос, драпацца. І ўсё больш і больш рабілася падобнай на бацьку. У яе ўсмешцы Саша пазнавала ўсмешку Пятра, яго прыжмур вачэй, яго зморшчынку на лбе, а радзімая плямка на мочцы вушка была такой дакладнай копіяй, што маці заўсёды смяялася, гледзячы на яе».

«Цёпла, утульна» становіцца на душы і мужчынам, калі яны бачаць, «як завіхаецца жанчына», клапоцячыся пра дзетак. Гэта псіхалагічна дакладныя назіранні ўжо з рамана «Атланты і карыятыды».

Але і любасць да дзяцей не перашкаджае жанчынам з твораў І. Шамякіна ісці на вялікую рызыку, калі трэба змагацца з ворагам, які замахнуўся на будучыню чалавецтва.

Тая ж Саша Траянава, не зважаючы на небяспеку такога кроку, ратуе партызана, загнанага паліцаямі ў калодзеж. Самаахвярна змагаюцца на фронце зенітчыцы з рамана «Зеніт» (1987), у якім жаночыя вобразы прадстаўлены ў разнастайнасці адметных і яркіх характараў. Асабліва выразна напісаны тут такія персанажы, як вынаходлівая Ванда Жмур, якая не губляецца ў любой сітуацыі, сціплая штабная машыністка Жэня Ігнацьева, адданая дзецям і мужу фінка Ліка Іваністава і, вядома ж, Ліда Асташка, смерць якой ад выбуху фінскай міны, закладзенай у печ, падкрэслівае, што небяспека на вайне падсцерагала людзей на кожным кроку.

Пакутліва складваўся лёс некаторых падпольшчыкаў. Так адбылося з Зосяй Савіч з рамана «Сэрца на далоні» (1964). Яна дапамагала ратаваць змагароў з гітлераўцамі і была за гэта загнана ў фашысцкі канцлагер, а пасля перамогі апынулася ў Сібіры, бо яе бацька доктар Савіч працаваў і пры акупантах. Іх ён ненавідзеў, шмат дапамагаў патрыётам, за што і заплаціў жыццём. Але яго доўгі час лічылі здраднікам. Так і дачка трапіла ў чорны спіс ужо да сваіх.

Вобраз жанчыны з гранічна абвостраным матчыным пачуццём намаляваны ў рамане «Злая зорка» (1993), які прысвечаны чарнобыльскай трагедыі. Вольга Андрэеўна з гэтага рамана памірае сама, калі здагадалася пра непазбежнасць блізкай смерці малодшага сына Глеба (ён працаваў у Чарнобылі інжынерам на станцыі) і адчула, што ў Афганістане загінуў старэйшы сын Барыс, капітан савецкай арміі. Праз яго вобраз ставіцца і такое пытанне: «Завошта мы павінны паміраць у гарах чужой краіны?» І яшчэ: «А каму патрэбны нашы смерці?.. Маткам нашым? Жонкам? Нявестам?» Такія пытанні ў сувязі з савецкім умяшаннем у афганскія падзеі наша літаратура калі і згадвала, дык нячаста.

Хораша пісаў І. Шамякін не толькі ў абставінах вайны ці ў сувязі з ёю, але і ў мірных умовах. Ці не найлепшы прыклад тут апавяданне «Непрыго-

жая» з кнігі «Вячэрні сеанс» (1968). Яно вельмі простае па сюжэтнай канве. Пісьменнік прыехаў у вясковую школу, каб пазнаёміцца з настаўніцай, якая гадуе чужых дзяўчынку і хлопчыка, бо сваіх дзяцей не мае. Аказалася, што пісьменнік і тая настаўніца знаёмыя яшчэ са школьных гадоў, калі яны не толькі вучыліся ў адным класе, але і наладжвалі спатканні з працяглымі размовамі і салодкімі пацалункамі. Успаміны пра той час гучаць у апавяданні вельмі натуральна.

З выдатным разуменнем жаночай псіхалогіі падаецца ўжо сталая настаўніца Надзежда Іванаўна. Кранае даверлівасць яе прызнання: засталася незамужняй таму, што яе не пакахаў той, каго кахала яна. «Я — непрыгожая. — Яна вымавіла гэтыя словы з суровай бязлітаснасцю да сябе, але без злосці да іншых. — А хто сватаўся проста так — я адмовіла. Я не магла проста так — абы стаць жонкай». І над усім у сціплай вясковай настаўніцы пераважае клопат пра дзяцей.

На добрай, вельмі чалавечнай ноце апавяданне і закончана: «На развітанне яна моцна паціснула мне руку, далонь яе была шурпатая, мазолістая — жанчына не цуралася любой працы. І мне раптам захацелася пацалаваць гэтую руку. Не, мне захацелася больш — абняць і пацалаваць яе самую. Але, безумоўна, пацалаваць не так, як некалі ў юнацтве, і ўвогуле не як жанчыну, а як добрага чалавека, за тое, што, не маючы асабістага шчасця, яна не страціла веру ў людзей, у прыгажосць жыцця і сама стварае гэту прыгажосць. Але я пабаяўся, што яна можа не зразумець майго парыву».

Выдатная проза. У такой прозе набываюць красамоўную выразнасць і як бы мімаходзь, але вельмі дарэчы кінутыя дэталі (моцны поціск жаночай рукі, шурпатасць яе мазолістай далоні), і даверлівасць самой інтанацыі, даверлівасць, за якою стаіць шчырасць пісьменніцкага пачуцця.

Ёсць у І. Шамякіна і аповесць пра жанчыну эмансіпіраваную, здольную кінуць выклік свайму асяроддзю, калі яно не разумее яе. Гутарка ідзе пра аповесць «Ах, Міхаліна, Міхаліна!» з той жа кнігі «Вячэрні сеанс». Гераіня гэтай аповесці Міхаліна Казіміраўна, таксама школьная настаўніца. Маючы трохгадовага сына і мужа, яна пакахала другога, завуча (потым ён стане дырэктарам) сваёй школы, і ходзіць з ім на спатканні, зусім не цнатлівыя. Яе каханак Аляксандр Дзямідавіч жанаты, мае дваіх дзяцей. А ягоная жонка, якую называюць «баба-гром», кабета не проста рашучая, а гатовая горла перагрызці таму, хто паквапіцца на яе ўласнасць. Міхаліну яна пакуль не загрызла, як быццам не збіраецца гэтага рабіць і ў далейшым, а свайго Аляксандра Дзямідавіча аддубасіла так, што ён у школу тыдзень не хадзіў. Пасля з’явіўся са слядамі сінякоў і трохі загоенымі драпінамі.

Словам, безагляднае каханне Міхаліны атрымала розгалас скандальны. Але адважная настаўніца пасля ўсіх начальніцкіх ушчуванняў знаходзіць «саламонава» рашэнне: Аляксандра Дзямідавіча яна збіраецца кахаць і надалей, але любоўныя спатканні з ім паабяцала спыніць. Жанчына неардынарная, яна як быццам здольная і на такі варыянт. Прывабная сіла характару ў яе ёсць. Можа, і стрымае абяцанне...

Але вось абраннік яе, той Аляксандр Дзямідавіч, асаблівай прыхільнасці не выклікае. Ствараецца ўражанне, што гэта не сапраўдны мужчына, а нейкая размазня. І за што толькі пакахала яго Міхаліна?

Ох, драбнеюць нашы мужчыны, драбнеюць. Здаецца, што жанчыны іх абстаўляюць калі не ва ўсім, дык у многім.

*2008 г.*





# ШЫРЫНЯ НАТУРЫ, БАГАЦЦЕ ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ
## (Іван Навуменка)

Кажуць, што Іван Якаўлевіч Навуменка[1] носіць абутак сорак сёмага памеру. У гэта лёгка паверыць, паглядзеўшы на яго мажную постаць. Шчодра надзелены ён і пісьменніцкім талентам, а яшчэ талентам даследчыка, не скупы на праявы чалавечнасці, умее быць памяркоўным і добразычлівым у стасунках з самымі рознымі людзьмі. І канечне ж, умее працаваць з той мэтанакіраванасцю, якая не дазваляе расслабляцца ці ўвогуле пастаянна хадзіць улегцы.

Усе поспехі Івана Якаўлевіча Навуменкі ў літаратуры, навуцы, грамадскай дзейнасці дасягнуты не па волі выпадку, нейкага асабліва шчаслівага збегу спрыяльных абставін, а як вынік вялікай, натхнёнай працы, якая звычайна ўласціва тым, хто (вядома, пры сапраўднай таленавітасці) не мітусіцца, не кідаецца з адной крайнасці ў другую, а напорыста працуе там, дзе адчувае магчымасці і грамадскую патрэбу, попыт на гэтыя магчымасці.

А зроблена І. Навуменкам за 80 гадоў яго жыцця так многа, што дзіву даешся. Да сёлетніх Рэспубліканскіх навуковых чытанняў, прысвечаных Івану Навуменку, прымеркавана ажно 52 даклады. А былі ж яшчэ выступленні і даклады, не пазначаныя ў друкаванай праграме чытанняў. І ва ўсіх выступоўцаў, хоць гаварылі яны пра аднаго чалавека, было што сказаць.

Я таксама хачу дадаць свае тры грошыкі ў агульную скарбонку, бо ў 1964—1972 гадах працаваў разам з ім на адной кафедры. Гутарка ідзе пра кафедру беларускай літаратуры БДУ. Калі я прыйшоў сюды, І. Навуменка быў дацэнтам, але ўжо нацэльваўся на доктарскую дысертацыю. У 1969 годзе ён узначаліў гэтую кафедру. Так што я тры гады хадзіў пад яго непасрэдным кіраўніцтвам.

---

[1] Гады жыцця І. Я. Навуменкі — 1925—2006.

А яшчэ ў 1967 годзе І. Навуменка разам з А. Лойкам і Ф. Куляшовым, загадчыкам кафедры рускай і класічнай літаратуры, абаранілі мяне ад паклёпніцкіх нагавораў, якія пагражалі звальненнем з працы з вельмі непрыемным палітычным ярлыком. Такія ярлыкі і тады ламалі людскія лёсы балюча і надоўга. Пра тагачаснае заступніцтва І. Навуменкі, за якое я бясконца ўдзячны яму, як і Лойку ды Куляшову (ён ужо нябожчык), мне даводзілася падрабязна пісаць у аўтабіяграфіі «Жыццём ідучы...». Таму цяпер прыгадаю некалькі іншых момантаў з нашых дзелавых стасункаў, у якіх памяркоўнасць Івана Якаўлевіча, добразычлівасць да факультэцкіх калег высвечваліся пэўна і ярка.

Асабліва наглядна гэта праявілася ў час Навуменкавай працы над кнігамі пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Гэтыя кнігі сталі этапнымі ў нашым літаратуразнаўстве. Яны друкаваліся асобнымі выданнямі ўжо два разы і цяпер запланаваны для новай публікацыі. Яны рыхтаваліся як доктарская дысертацыя Івана Якаўлевіча. Яе ён паспяхова абараніў у 1969 годзе, а праз тры гады атрымаў за гэтыя кнігі і Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Якуба Коласа.

Я меў пэўнае дачыненне толькі да выдання купалаўскай кнігі. Пад загалоўкам «Янка Купала. Духоўны воблік героя» яна выйшла ў 1967 годзе. На адвароце тытульнага ліста пазначана маё прозвішча як навуковага рэдактара.

На гэтую ганаровую місію запрасіў Іван Якаўлевіч. За даўнасцю часу я ўжо не памятаю, ці ўдакладняў хоць што-небудзь, хоць якую дробязь у аўтарскім тэксце кнігі. А тое, што яна зрабіла вельмі моцнае ўражанне, памятаю і цяпер. Ды пра гэта сведчыць і мая прадмова, якою адкрываецца выданне. Зразумела, што пісалася яна па просьбе Івана Якаўлевіча. Галоўны сэнс той прадмовы зводзіцца да абгрунтавання наватарскага характару кнігі, у якой Іван Навуменка ўпершыню ў нашым літаратуразнаўстве паказаў, «як выкрышталізоўвалася і паступова ўзбагачалася ў творах паэта канцэпцыя жыцця і чалавека, як змяняўся духоўны воблік купалаўскага героя на розных этапах творчага развіцця мастака» (цытата з прадмовы). Завастралася ўвага і на тым, што гаворка пра канцэпцыю чалавека, духоўны воблік героя ў Янкі Купалы вядзецца І. Навуменкам праз супастаўленне купалаўскай творчасці з творчасцю Якуба Коласа і З. Бядулі, паглыбляецца, выходзячы на шырокі літаратуразнаўчы прастор, за кошт разгляду паэзіі М. Чарота і У. Дубоўкі, М. Танка, А. Куляшова і П. Панчанкі, фактычна «становіцца даследаваннем непаўторнай мастацкай індывідуальнасці гэтых паэтаў».

Цяпер я перачытаў не толькі сваю прадмову, якую Навуменка тады ўхваліў, але і ўсю кнігу. Мушу сказаць, што мы паслядоўна трымаліся тагачасных ідэалагічных каардынатаў. Іначай, вядома, і быць не магло. Але кніга

І. Навуменкі і сёння чытаецца з цікавасцю. Найперш таму, што ў ёй ярка адлюстроўваўся свой час. Такім чынам, яна стала своеасаблівым сведчаннем пра яго, сведчаннем, як цяпер кажуць, прэзентатыўным, далёка не ардынарным. Выразна выявілася тут вялікая эрудзіраванасць даследчыка, яго глыбіннасць, якая ўрэшце вывела аўтара ў акадэмічныя шэрагі. Навуменка падаў Купалу не толькі на звыклым ужо тады беларуска-рускім фоне, але і ў грунтоўным еўрапейскім кантэксце, у якім з бездакорнай эстэтычнай чуласцю разгледжаны творчасць паэта, яго вершы і паэмы, у тым ліку драматычныя, а таксама драматургія ад «Паўлінкі» да «Тутэйшых».

Маё, канечне ж, сціплае дачыненне да кнігі пра Янку Купалу Іван Навуменка прыняў з удзячнасцю. Ён прэзентаваў мне сваю працу з такім аўтографам: «Дарагому Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву, рэдактару і калегу, з добрымі пачуццямі павагі і ўдзячнасці. І. Навуменка. 27. XII. 67».

Тады ж я атрымаў ад аўтара і кнігу І. Я. Навуменкі «Пісьменнікі-дэмакраты» (Мінск, 1967). Тут аўтограф трошкі іншы, але, як і першы, напісаны характэрным для Івана Якаўлевіча вельмі выразным, я сказаў бы, цвёрда-напорыстым почыркам, так што кожнае слова чытаецца лёгка, без натугі: «Дарагому Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву са шчырасцю. І. Навуменка. 27. XII. 67 г.».

Гэтая кніга невялікая памерам, але таксама вельмі змястоўная. Тут разглядаецца беларуская літаратура XIX стагоддзя — паэма «Тарас на Парнасе», творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, згадваюцца імёны А. Гурыновіча, Ф. Тапчэўскага, А. Абуховіча.

Гэта быў уступны раздзел доктарскай дысертацыі. У выданні гэтай кнігі я не ўдзельнічаў, а атрымаў яе ў падарунак таму, што рыхтаваў кафедральнае заключэнне для Навуменкавай абароны. Падпісваў яго М. Ларчанка, тагачасны загадчык кафедры беларускай літаратуры БДУ.

Захаваўся ў мяне і аўтограф І. Я. Навуменкі, зроблены на першым томе шасцітомнага Збору твораў Івана Якаўлевіча. Тады ён быў ужо акадэмікам і віцэ-прэзідэнтам нашай акадэміі навук, але і ганарыстасці па-ранейшаму не праяўляў і падпісаў кнігу зноў добразычліва: «Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву, калегу, з якім добра і лёгка працавалася ў нашым БДУ. І. Навуменка. 17.04.82».

17 верасня таго ж 1982 года І. Навуменка так падпісваў мне свой зборнік пісьменніцкай крытыкі «Кніга адкрывае свет» (Мінск, 1978): «Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву на ўспамін аб сумесным вясновым знаходжанні ў ”Каралішчавічах”, якія заўсёды былі лясным прытулкам для пісьменніка».

Гэтая добразычлівасць выказвалася праз дзесяцігоддзе пасля таго, як Іван Якаўлевіч перастаў працаваць на філфаку. Тлумачылася яна не ў апошнюю чаргу тым, што я нямала пісаў пра творы Навуменкі і, здаецца, заўсёды з

пахвалой, часам аспрэчваючы крытычныя стэрэатыпы. Адным з тагачасных стэрэатыпаў быў папрок, што Навуменка збіваецца на паўторы самога сябе. А на самой справе ў гэткіх «паўторах» быў глыбокі сэнс. Праз іх выяўлялася трывалая вернасць аўтара свайму маладому герою-равесніку, блізкаму да самога пісьменніка і па жыццёвым вопыце, і ў псіхалагічным плане. «Такая вернасць сімпатычнаму для яго чалавечаму тыпу, любімаму герою ідзе ў празаіка менавіта ад вернасці ўласнаму жыццёваму вопыту, асабістым душэўным набыткам, якія і звязваюць самай трывалай і арганічнай сувяззю пісьменніка з яго "каронным", запаветным героем. У гэткай вернасці заключаецца не слабасць, а сіла мастака. Нездарма ж мы заўсёды знаходзім яе ў вялікіх пісьменнікаў, лёгка адрозніваючы, напрыклад, любога талстоўскага героя ад героя, характэрнага для Дастаеўскага, не блытаючы бальзакаўскі псіхалагічны тып з шолахаўскім, – усе яны нешта істотнае бяруць ад сваіх стваральнікаў. І так звычайна бывае ў кожнага значнага пісьменніка».

Гэта цытата з майго прысвечанага Івану Навуменку манаграфічнага артыкула, змешчанага ў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры, ч. II» (Мінск, 1982). Згаданая «Гісторыя» выдавалася з грыфам Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР як вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў універсітэтаў.

Гэтая акалічнасць падвышала вагу артыкула, які меў вынікова-падсумавальны характар. Ён і пісаўся на аснове маіх ранейшых публікацый пра Навуменкаву творчасць, якія змяшчаліся ў перыёдыцы, а потым і ў кнігах «Талент і праца» (1979), «Чалавечнасць» (1985).

Іван Якаўлевіч неаднойчы з пахвалой гаварыў пры асабістых сустрэчах пра мае публікацыі, прысвечаныя яму. І я заўсёды рабіў іх з ахвотай, бо бачыў, усведамляў, як шмат новага для нашай літаратуры давала яго мастацкая проза. З апавяданняў Навуменкі мне асабліва падабаліся сапраўдныя шэдэўры ў гэтым жанры «Іван ды Мар'я», «Мульменкаў сад», цікавымі ўяўляліся і многія яго аповесці. А значнасць раманаў «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», «Смутак белых начэй» і некаторых іншых увогуле цяжка пераацаніць. Усе гэтыя творы належаць да той вельмі яркай літаратурнай плыні ў прозе, што тады ствралася самымі лепшымі нашымі пісьменнікамі, мастакамі слова, якія прымалі асабісты дзейсны ўдзел у барацьбе з гітлераўцамі, увогуле мелі надзвычай багаты і markedly разнабаковы жыццёвы вопыт і асэнсоўвалі яго ў сваёй творчасці сумленна і шчыра. Таму ў творах, якія ўжо самім фактам свайго існавання перакрэслівалі лакіровачна-прыхарошвальную белетрыстыку пасрэдных літаратараў, выразна, а то і магутна пульсуе подых жывога жыцця, пададзенага ў яго няспрошчаным абліччы, з мноствам нявыдуманых праблем, народжаных і мірным часам да-

ваеннай і пасляваеннай пары, і нечувана цяжкою вайной, у якой была здабыта вялікая перамога, абаронена будучыня чалавецтва.

Гэткая літаратура (яна стваралася І. Мележам, Я. Брылём, І. Шамякіным, І. Навуменкам, В. Быкавым і А. Кулакоўскім ды яшчэ цэлым шэрагам пісьменнікаў) тады прываблівала сэрцы шматлікіх чытачоў, якія шукалі ў літаратуры праўду. І. Навуменка ведаў пра ўсё гэта і па сваёй журналісцкай працы ў палескай глыбінцы, а потым і ў сталічнай «Звяздзе», і як чалавек, які з маладых гадоў прагна чытаў мастацкую літаратуру. Сваю ўласную пісьменніцкую сілу ён адчуваў добра і ганарыўся ёю.

У кнізе «Доўгая дарога дадому» Васіль Быкаў прыгадаў: «Аднойчы ў прыватнай размове за сталом ... Іван Навуменка сказаў: “Я лепшы за цябе пісьменнік, толькі ты ўмееш завастраць”. Што ж, мабыць, доктар і акадэмік меў рацыю, сапраўды ў мяне атрымлівалася востра».

Такое сцвярджэнне Івана Якаўлевіча можа здзівіць тых, хто ведае пра ўстойлівы рэзананс быкаўскай творчасці на прасторах былой савецкай краіны ад Брэста да Уладзівастока, ва ўсёй Еўропе і ў свеце. Але дзівіцца не варта, бо ў пэўным сэнсе Навуменка і праўда меў рацыю. Яго стылёвая палітра ў лепшых творах выглядае больш markdown рознабаковай, багацейшай на эмацыянальную нюансіроўку, адкрыта выяўленую лірызацыю ў параўнанні са строгай і стрыманай, як бы нават трохі аскетычнай у сваёй суровасці быкаўскай стылістыкай, у якой звычайна няма і блізка слоўнай расквечанасці, Навуменку не чужой. Быкаў жа і сам казаў, што ён, як правіла, аддаваў перавагу «пяру аналітыка», пісьму, у якім вызначальнымі з’яўляюцца «лапідарнасць, выразнасць без лішка, нават сухасць, скупасць моўных сродкаў, якія могуць быць блізкімі толькі графіцы».

Ад гэтай звыклай, устойлівай стылёвай арыентацыі, якая была надзвычай арганічнай для суровага быкаўскага рэалізму, пісьменнік відавочна адышоў, здаецца, аднойчы — у «Альпійскай баладзе», пры паказе кахання Івана Цярэшкі і Джуліі Навелі на фоне расквітнелых альпійскіх макаў. Тут аказалася дарэчы і шчодрая эмацыянальная насычанасць аўтарскага апавядання, і непрыхавана выяўленая багатая і моцная, аж да пранізлівасці, пачуццёвасць, увогуле яркая рамантызаваная стылістыка. Словам, «Альпійская балада» паказала, што Быкаў можа быць вялікім майстрам і ў прыгожа аздобленай, ярка расквечанай рамантычнай прозе.

Але ўласцівае яму абвострана-трагедыйнае бачанне рэчаіснасці вымушала не захапляцца прыгожым расквечваннем, а ўладарна схіляла пісаць востра, бескампрамісна, ні ў чым не пастпаючыся выпакутаванай ім на крутых жыццёвых дарогах, асабліва ў вайне з фашызмам, суровай і жорсткай праўдай пра чалавека і свет, якую вялікі мастак прынёс у літаратуру,

сцвердзіўшы гэтую праўду з такой сілаю, што яго творы скаланулі сэрцы мільёнаў людзей. І як ахоўнікі афіцыёзнай маны і лакіровачнага прыхарошвання ні лупцавалі Васіля Быкава за бескампрамісную праўду яго твораў, ён заставаўся верным ёй да канца сваіх зямных дзён.

Няхай даруе Іван Якаўлевіч за шчырасць, але мушу прызнацца, што, рыхтуючы цяперашні артыкул, я яшчэ раз перачытаў не толькі цэлы шэраг яго мастацкіх твораў, атрымаўшы ад іх новае задавальненне, але і важкі том літаратурнай крытыкі з шасцітомніка. Многае і тут, у гэтым томе, уражвае і размахам аўтарскай думкі, і тонкасцю назіранняў, і адточанасцю стылю, і далікатнасцю, з якою робяцца некаторыя крытычныя закіды. Але даводзілася спатыкацца на тым, што Іван Якаўлевіч далучаўся да яўна несправядлівых афіцыёзных ацэнак самых вострых твораў Быкава («Мёртвым не баліць»), той жа аповесці «Дабрасельцы» А. Кулакоўскага, тэндэнцыйны разнос якой па камандзе зверху ў свой час надоўга выбіў гэтага неардынарнага мастака з творчай каляіны.

Магчыма, гэтае далучэнне да разносных афіцыйных ацэнак дыктавалася тым, што Іван Якаўлевіч быў членам бальшавіцкай партыі. І партыйная дысцыпліна, у бальшавікоў строгая, вымушала на падтрымку разноснай крытыкі лепшых, найбольш вострых і праўдзівых мастацкіх твораў. Як бы там ні было, але прыродная Навуменкава далікатнасць, яго памяркоўнасць і добразычлівасць у такіх выпадках не спрацоўвалі.

Закрануўшы пытанне пра ацэнку твораў Васіля Быкава, хачу сказаць колькі слоў і пра ўласныя ўзаемадачыненні з ім. Абставіны склаліся так, што яшчэ да пераходу ў БДУ, у якасці супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, я трапіў у Гродна (была службовая паездка) і меў надзвычай цёплыя сустрэчы з Васілём Быкавым (пэўнае знаёмства з ім і ўзаемная прыхільнасць былі ўжо і да гэтага). Карацей кажучы, Быкаў стаў для мяне эталонам пісьменніка, чалавека, грамадзяніна, непахіснага барацьбіта за праўду ва ўсім і ўсюды.

Васіль Уладзіміравіч таксама ставіўся да мяне як да блізкага сябра і аднойчы, ужо на схіле свайго жыцця, напісаў у лісце, прысланым з Хельсінкі, нават так: «Я памятаю і шаную ўсё добрае, што ты напісаў у свой час пра мяне і мае кнігі і дапамог мне застацца чалавекам у наш бесчалавечны час». На самой справе вучыў чалавечнасці і мяне, і мноства іншых людзей ён сам, вучыў і сваімі творамі, і ўсім ладам жыцця, сваёй бескампраміснасцю ў змаганні з няпраўдай і злом пры любых абставінах.

Маё захапленне Васілём Быкавым непасрэдна не закранала Івана Навуменку і на нашых стасунках з ім практычна не адбівалася, хаця, як мне здаецца, павінна было нараджаць думку, што я як крытык недастаткова праніклівы, не бачу, хто з беларускіх пісьменнікаў піша найлепш.

А вось сяброўства з Іванам Чыгрынавым, пра якое ўжо выказваўся ў друку даволі падрабязна, Івана Якаўлевіча, мякка кажучы, насцярожвала. Бо Іван Гаўрылавіч у той перыяд, калі ён быў адным з кіраўнікоў нашага Саюза пісьменнікаў і на гэтай пасадзе адказваў за развіццё празаічных жанраў, у некаторых сваіх дакладах малавата ўвагі аддаваў творам Івана Навуменкі.

Іван Чыгрынаў настойліва дамагаўся і ўрэшце дамогся (насуперак адкрытаму супраціўленню Івана Навуменкі), каб я атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

Вядома, пазіцыя Івана Гаўрылавіча ў гэтым пытанні была мне куды бліжэй за пазіцыю Івана Якаўлевіча, бо добрая (ды нават і дробная) прэмія заўсёды радуе таго, хто яе атрымлівае. А Дзяржаўная прэмія ў нас увогуле даецца адзін раз у жыцці.

Зрэшты, і злачынства ў пярэчаннях Івана Навуменкі я не бачыў, бо тыя пярэчанні былі адкрытымі, з нейкімі закуліснымі хадамі не звязанымі. Думаць жа так ці інакш кожны чалавек мае законнае, неад'емнае права. Захоўванне гэтага права мне ўяўляецца выключна важным.

Ды пара ўжо закругляцца. Мяне папраўдзе радуе, што Іван Якаўлевіч і ў сваім вельмі салідным узросце захоўвае добрую пісьменніцкую і даследчыцкую форму. Пра гэта сведчаць і яго мастацкія творы апошніх гадоў, і навуковыя працы гэтага часу. Асабліва спадабалася мне з навуковых прац кніга «Ранні Кузьма Чорны (1923—1929)», выдадзеная І. Навуменкам у 2000 годзе. Яна зноў невялікая памерам, а напісана з акадэмічнай глыбінёй і ўдумлівасцю вельмі ўважлівага навукоўца, з тонкім разуменнем псіхалогіі мастацкай творчасці і сапраўды пісьменніцкім стылем. А старонкі, прысвечаныя ролі Кнута Гамсуна ў мастацкім станаўленні Кузьмы Чорнага, можна разглядаць як узор даследчыцкай аналітыкі.

Хочацца парадавацца і за сям'ю Івана Якаўлевіча. Выхаваць такіх нашчадкаў, як ягоныя дзеці, гэта таксама вялікая, вельмі вялікая справа, сапраўдная ўдача папраўдзе маштабнага чалавека, шырыня натуры якога, а яшчэ добразычлівасць, паважлівае стаўленне да людзей і ўменне працаваць на поўную моц, дабіваючыся выдатных поспехаў, перадаліся і яго дзецям.

*2005 г.*





# ВОБРАЗ МАЦІ І ЎВОГУЛЕ ЖАНЧЫНЫ Ў ТВОРАХ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Васіль Быкаў вызначаўся непахіснасцю ў адстойванні сваіх перакананняў, той праўды, якую ён спасцігаў на крывавых франтавых дарогах і ў шматлікіх выпрабаваннях жыцця без вайны, у якім яму таксама выпала нямала нягод. Але па складзе душы ён быў вельмі далікатным, чулым чалавекам, здольным з выключнай вастрынёй рэагаваць на людскія болі і беды. Ён рашуча кідаўся на дапамогу многім людзям, калі над імі навісала небяспека, не думаючы пра нязручнасці і цяжкасці для сябе. Асабліва пяшчотна ставіўся ён да ўласнай маці, ад якой і ўспрыняў яе вялікую дабрыню і спагадлівасць.

Зрэшты, увага і любоў да маці, клопат пра яе закладваюцца на генным узроўні ў абсалютнай большасці людзей. Тыя ж, у каго гэтага няма, разглядаюцца як анамальныя, як вырадкі. І вырадкамі яны становяцца, хутчэй за ўсё, пад уплывам розных акалічнасцей, якія ў такіх выпадках, відаць, разбураюць і генную спадчыннасць. У быкаўскай аповесці «Аблава» такое разбурэнне з кар'ерысцкіх меркаванняў адбываецца ў Міколы Роўбы, які, стаўшы бальшавіцкім кіраўніком раёна, заганяе ў балотную багну ўласнага раскулачанага бацьку, калі ён адважыўся ўцячы з высылкі на радзіму.

Гэткая бесчалавечнасць проста жахала Быкава. Яго пяшчотная душа крыкам крычала ад такой нялюдскасці. Пра сваіх бацькоў ён заўсёды згадваў з вялікай павažлівасцю і сардэчнасцю, асабліва вылучаючы матчыну ласкавасць і дабрыню. Алесю Адамовічу ён расказваў такі эпізод са свайго дзяцінства: «Я раптам прачынаюся ад таго, што галосіць маці. А я ў дзяцінстве быў вельмі чуйны да яе настрою, вельмі хараша было, калі яна вясёлая... А калі яе настрой падаў — гэта я заўсёды адчуваў, як барометр, адразу яно адбівалася на маім самаадчуванні. Дык вось раптам плача маці. Такога ніколі не было, калі нешта там здаралася ў яе з бацькам, яна проста маўчала. А тут — чуць не наўзрыд, душачыся слязамі, плача. Я, помню, прахапіўся. Аказваецца, учора арганізаваліся ў калгас, і сёння, значыць, раніцай прыехалі

і з засекаў, з кадушак, у істопцы забралі ўсё насенне. А гэта сакавік быў прыкладна, якраз пара сеяць. І чым дзяцей карміць, што самой есці».

Пра драматызм гэтай падзеі і матчыну роспач, выкліканую ёю, Быкаў згадваў і ў сваёй унікальнай аўтабіяграфічнай кнізе «Доўгая дарога дадому», якая стала для пісьменніка яго апошнім прыжыццёвым выданнем. Тут Быкаў пасведчыў, што яго маці (яе звалі Ганна Рыгораўна) «паходзіла з вёскі Завулак», якая пасля заканчэння грамадзянскай вайны апынулася за мяжой — на польскім баку. І там застаўся матчын брат Лявон. Афіцыйная савецкая прапаганда сцвярджала, што «працоўныя ў Польшчы гібеюць без правоў і без хлеба». У верасні 1939 г. Заходняя Беларусь далучылася да Савецкай краіны. Але жыхароў з Савецкай Беларусі на заходнія абшары не пускалі — старая граніца заставалася. І ахоўвалі яе «па-ранейшаму пільна», — зазначае Быкаў. Але ягоную маці ўжо не магла стрымаць і граніца. Прабіраючыся знаёмымі ёй з дзяцінства абходнымі сцяжынкамі «цераз лес, балота, каля возера», Ганна Рыгораўна дайшла да брата, але дужа вялікай галечы ў яго не ўбачыла. Яна прынесла ад яго сваім галодным сямейнікам «гасцінцы — у мяшэчку трохі мукі і бараннюю лытку. Аказалася, што брат пад панскім прыгнётам усё ж жыве лепей, чым сястра-калгасніца, у якой на стале даўно няма хлеба».

Яшчэ больш падрабязна расказана пра матулю ў «Пункцірах жыцця», таксама аўтабіяграфічным творы, які пасмяротна (з 2005 г.) друкуецца ў часопісе «Дзеяслоў». Тут Васіль Быкаў напісаў: «Усю маладосць сваю маці ўспамінала пра родныя мясціны, пра брата Лявона, што застаўся па той бок, і дужа баялася, каб не надарылася бяда ў 1937—1938 гадах, калі забіралі шмат каго з тых, чые родзічы апынуліся за мяжой. Бог бярог; маіх бацькоў не забралі. Маці была ўжо дужа далікатная характарам, не надта здаровая, часта хварэла. Я не чуў ад яе якой сваркі з бацькам, ніводнага злосна-пагрозлівага слова да дзяцей. Усё — ласкава, лагодна, з нейкай застарэлай тугой на душы. Мусіць, таму, што жыццё аднеслася да яе даволі драпежна: у гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны яна страціла першага мужа, пасля (ужо за маёй памяццю) памерла яе ад яго дачушка, шаснаццацігадовая Антунінка (ад прастуды). Маці была непісьменная (амаль). І колькі я яе памятаю, заўжды ў працы, у нязбыўным гаротным клопаце — як накарміць, у што апрануць нас траіх (гаворка тут пра самога Васіля, яго брата Міколу, таксама ўжо нябожчыка, і сястру Валю. — *Д. Б.*). І гэты свой клопат яна несла моўчкі. Толькі ўсё адбівалася на твары, і я змалку выдатна адчуваў змены яе настрою па выразах яе спакутаванага твару».

Але пражыла Ганна Рыгораўна, можа, дзякуючы свайму лагоднаму характару, некароткі век, у нябыт яна «неўпрыкмет адышла» ў 90 гадоў.

Пяшчотная любоў да маці адлюстравалася і ў мастацкіх творах пісьменніка. Вельмі яскравае рэха гэтай любові прагучала ў першай сапраўднай быкаўскай аповесці «Жураўліны крык». Тут пра маладога хлопца Глечыка, нездарма пісьменнікам названага Васількам, гаворыцца: «Васілька вельмі любіў маці — дужа ласкавую, прыгожую і добрую жанчыну, з якой усе людзі ў пасёлку абыходзіліся вельмі прыветна. Яна ніколі не ведала сярдзітага, грубага слова, была заўжды вясёлая, бывала, кожны, хто сустракаўся з ёю, адразу радасна і светла ўсміхаўся».

Амаль што кожны штрых гэтых згадак мае аўтабіяграфічную для пісьменніка падаснову. З быкаўскім жыццёвым лёсам лёгка суадносіцца і Глечыкава вучоба ў Віцебскай ФЗН, і, канечне ж, яго бедаванне ў самым пекле бою пра «родную, адзіную» матулю. «Як ты цяпер там, у варожым палоне адна? Што з табой зробяць крывавыя вылюдкі і хто заступіцца за цябе?» — трывожна думае Глечык. І за ягоным трывожным роздумам адчуваецца ўласная быкаўская трывога ваеннай пары за маці, якая тады таксама была на акупаванай гітлераўцамі тэрыторыі, хоць і не адна, а са сваім мужам, Васілёвым бацькам.

А вось Глечыкавы думкі пра настаўніцу Клаўдзію Якаўлеўну, якая «любіла яго ў школе, несучы яму са сваёй шчодрай на ласку душы сарамлівую і цёплую жаночую прыхільнасць». Гэта зноў адгалосак уласна быкаўскіх пачуццяў да ягонай кубліцкай настаўніцы Клаўдзіі Якаўлеўны па прозвішчы Пашута. У яе Быкаў вучыўся, пачынаючы з пятага класа. У «Пункцірах жыцця» ён згадваў, што хлопцы-пяцікласнікі «дужа палюбілі яе, а яна нас таксама... усе наступныя гады прайшлі ў атмасферы тае ўлюбёнасці ў гэтую настаўніцу, ды і яна неяк не па-настаўніцку выказвала сваю прыхільнасць. Вядома, я па-расейску вучыўся выдатна, можа, таму яна заўсёды ласкава адносілася да мяне — бывала, падыдзе, пакладзе руку на мае валасы, далікатна пагладзіць. Канешне, было страшэнна няёмка, амаль сорамна, але і радасна. І хто ведае, што болей значыла ў лёсе падлетка — тая яе навука па расейскай мове і літаратуры ці проста надта чалавечае, мацярынскае ці сястрынскае стаўленне да яго».

У нататках «Тры абзацы аўтабіяграфіі» Васіль Быкаў падкрэсліваў: «Усю вайну і яшчэ дзесяць год пасля яе быў далёка ад Беларусі, але светлы вобраз роднага краю мацярынскай пяшчотай жыў у маім сэрцы». Такім чынам, і Радзіма ў свядомасці пісьменніка лучылася з вобразам маці, асацыіравалася з ім.

У гэтым сэнсе паказальна і тое, што мацярынскі пачатак Васіль Быкаў вылучаў у шэрагу жаночых вобразаў, намаляваных у розных аповесцях. Скажам, у «Трэцяй ракеце» створаны вельмі прывабны вобраз Люсі Сінявочкі, якая гіне разам з артылерыйскім разлікам супрацьтанкавай гарматы

«саракапяткі». З выгляду Люся амаль дзяўчо, «гадоў на шаснаццаць». Але ў яе вельмі выразная спагадлівасць і такое глыбокае разуменне людзей, адчутае менавіта душою жанчыны, што і вопытныя ў жыццёвых справах артылерысты ўспрымаюць яе не толькі раўнёю, але ў нечым і больш праніклівай, здольнай спасцігаць тое, што ім недаступна. Ды і сама яна прызнаецца тым саракапятчыкам: «Мне часам здаецца, што я намнога старэйшая за ўсіх вас. Здаецца, адчуваю, разумею тое, чаго вы не разумееце. Вы такія слаўныя, храбрыя, толькі вы не разумееце сябе. Вы трымаеце сябе так, нібы ўвесь век, да вас і пасля вас, была і будзе адна толькі вайна. Без вайны вы сябе не ўяўляеце. Ці не так? І ўсё вы мераеце салдацкай меркай. Іншай у вас няма. Праўда ж? Іншы пераживае: медалём не ўзнагародзілі. Іншы імкнецца як спрытней пахваліцца сілай, падужаць каго ці яшчэ як сябе паказаць. А таго вы не разумееце, што недзе ў кожнага з вас маці, ну ці там дзяўчына і што вы дарагія ім зусім не гэтым. Ім гэта зусім не патрэбна. Ды і няважна гэта. Важна душа ў чалавеку: каб ён быў сумленны, адданы, таварыскі, праўдзівы».

Па сутнасці, гэта не проста сяброўская гаворка, а мацярынскае стаўленне да тых людзей, з якімі Люся дзяліла франтавыя нягоды.

Бадай, яшчэ больш выразна такое мацярынскае стаўленне ў Веры Вераценнікавай да франтавога мужа — ротнага камандзіра лейтэнанта Самохіна («Яго батальён»). Па вайсковым званні Вера — малодшы сяржант. Яна цяжарная. Але пайсці ў тыл жанчына рашуча адмаўляецца, бо не хоча і не можа пакінуць мужа, якім прывыкла апекавацца з мацярынскай клапатлівасцю. «Доўга ты без мяне ўцалееш? Дурань, ты ж на першай гадзіне галаву пакладзеш. За табой жа, як за маленькім, глядзець трэба! — праз слёзы казала Вера», калі і Самохін паспрабаваў угаварыць яе пакінуць перадавую. Вядома, свайго лейтэнанта яна не ўратавала, бо той і не думаў хавацца за жончыну спадніцу (у сапраўдных баях гэта было і немагчыма), але за жыццё любага змагалася да канца, а пасля яго гібелі і ягонай ротай камандавала. Ды ўрэшце загінула і сама. У магілу яе кладуць побач з Самохіным. «Гутман у цьмяным святле з ліхтарыка паправіў на Веры гімнасцёрку, склаў на грудзях яе заўжды залітыя ёдам рукі. Колькі людзей гэтыя рукі ўратавалі ад смерці, павыцягвалі з-пад агню, паўладкоўвалі ў выпадковыя палявыя сховішчы, перавязалі, дагледзелі... Але вось наступіла і яе чарга», — з пранізлівым болем за дачасную гібель жанчыны напісаў Васіль Быкаў, для перадачы ўсёй скрухі таго пахавання перайшоўшы на рэдкую ў сваёй звыклай стылістыцы хоць і стрыманую, але адкрытую эмацыянальнасць.

Хораша напісана і пра Янінку, усмешыстую гарадзенскую дзяўчыну, якая стала першым і адзіным каханнем лейтэнанта Ігара Іваноўскага (аповесць «Дажыць да світання»). Яму выпадзе вельмі пакутная доля на вайне — сплы-

ваючы крывёю, дачакацца ў напаўсмяротным стане фрыца-абозніка і апошняю гранатай узарваць яго разам з сабою. А з дзяўчынай лёс звёў лейтэнанта яшчэ тады, калі хлопец толькі ехаў на вайсковую службу. Янінка проста зачаравала яго «сваёй юнай пекнасцю», натуральнасцю паводзін, у якіх жаноцкая прывабнасць праяўляецца нязмушана, як бы сама сабою. Дзяўчына «была ў цёмнай ладнай спадніцы і светлай шаўковай кофтачцы з маленькім белым каўнерыкам каля тонкай шыі, на яе нагах цвёрда пастуквалі высокія абцасікі модных туфляў. Прывабная, яна здавалася старэйшай за свае юныя гады і вышэйшая ростам — амаль упоравень з яго [лейтэнантавым] плячом. Яны ўсё ішлі вуліцай, і яму было нязвыкла прыемна, што яе тут многія ведалі і паважна віталіся... Яна адказвала з падкрэсленай ветлівасцю, але і з нейкай няўлоўнай годнасцю». Вядома, гэта была годнасць здагадлівай жанчыны, якая ў юнацкім узросце інтуітыўна адчувала сваё вялікае прадвызначэнне — працягваць род чалавечы.

Напісана пра Яніну не без любавання яе прыгажосцю, нават з лёгкім налётам рамантызацыі, у Быкава даволі рэдкай, а тут прыкметнай, як прыкметная і пэўная паэтычнасць, бадай што і замілаванасць, якая праглядвае ў тым жа багацці памяншальна-ласкавых слоў пры згадцы пра адзенне і абутак дзяўчыны.

Чытацкую сімпатыю выклікаюць і многія іншыя жанчыны з твораў пісьменніка. Сярод іх экзатычная Джулія Навелі з «Альпійскай балады», вельмі прыгожая дзяўчына з жорстка-трагічным лёсам Франя (аповесць «Пакахай мяне, салдацік»). У аповесці «Мёртвым не баліць» захапляе непрыгожая знешне, вельмі прывабная сваёй чалавечай сутнасцю «агонь-дзяўчына» Каця Шчарбенка, якая першай кідаецца туды, куды не адважваюцца ступаць мужчыны, баючыся трапіць на мінную пастку. Праўда, на замініраваным полі Каця і падрываецца. Але гэта не столькі вынік безразважнай смеласці, уласцівай дзяўчыне, колькі бесчалавечнага загаду злавеснага палахліўца з асабістаў Сахно, які пагнаў падначаленых на тое міннае поле.

У аповесці «Воўчая зграя» прыхільна абмалявана партызанская радыстка са звонкім мілагучным голасам Клава Шарохіна. Апынуўшыся сярод народных мсціўцаў у варожым тыле, дзяўчына таварышаў па зброі «зачаравала з першага позірку: такая яна была ладная ў сваім новенькім беленькім кажушку і ў маленькіх валёначках, якія міла рыпелі на ранішнім марозіку, вушы яе ладнай цыгейкавай шапкі былі какетліва падвязаны на патыліцы, на лоб высыпалася гуллівая грыўка, а на маленькіх руках ладна сядзелі футравыя рукавіцы з белым шнурочкам, закінутым за каўнер кажушка». У партызанскім атрадзе Клаве даводзіцца раджаць дзіця, бацька якога, партызанскі камандзір, ужо загінуў. Сітуацыя складваецца крута, бо тавары-

шам па барацьбе, абкладзеным паліцаямі, як ваўкамі, трэба браць на сябе клопат не толькі пра парадзіху, але і пра малое. Аднак і ў такіх умовах яны адчуваюць значнасць, нават веліч жанчыны-маці, яе, калі хочаце, святасць. Гэта выказана вуснамі партызана Леўчука, які і ўратуе Клавіна дзіця. «Як ні дзіўна, але менавіта цяпер ён упершыню за шмат год адчуў сябе не байцом-партызанам, не разведчыкам ці кулямётчыкам, а найперш чалавекам, гэта было нова і надзвычай прыемна. Так, нібы не было ўжо і вайны», — перадаюцца ў аповесці важкія гуманістычныя думкі Леўчука. Яны азначаюць, што клопат пра жанчыну, якая дае новае жыццё, дабратворна ўздзейнічае на чалавека, узвышае яго.

Шмат пісаў Васіль Быкаў пра жаночыя мужнасць і самаахвярнасць. Іх праяўляе і цётка Ядвіга з «Абеліска», якая бярэ на сябе клопат пра акружэнцаў, хоць гэта звязана з вялікай рызыкай для яе самой і яе ж дзяцей, і жанчына, якая дапамагае ратавацца Азевічу, хоць ён у даваенныя гады зрабіў ёй нямала шкоды (тая ж аповесць), і Варвара Бараноўская з рамана «Кар'ер», і Войцікава маці, якую паліцаі арыштавалі з-за сына ды гатовы былі адпусціць яе, калі хлопец здасца сам. Але жанчына ні ў якім разе не магла засланіцца сынам. Яна пайшла на смерць, каб застаўся жыць ён (аповесць «У тумане»).

Выключная самаахвярнасць уласцівая Дзёмчысе (Аўгінні Вокунь) з аповесці «Сотнікаў». Яна мае траіх уласных дзяцей, але дапамагае хавацца партызанам. А калі паліцаі высачылі яе ды паабяцалі не чыніць расправы пры ўмове, што яна выдасць тых, хто хаваў яўрэйскую дзяўчыну Басю, Аўгіння адмаўляецца гэта зрабіць. З крыкамі, з болем, роспаччу, але адмаўляецца, бо разумее, што пайсці на згодніцтва з паліцаямі азначае здраду, якая ніколі не будзе даравана сваімі людзьмі.

Тут мы выходзім на праблему несумяшчальнасці сваіх і чужынцаў — гітлераўскай набрыдзі і яе прыслужнікаў, тых, каго патрыёты зняважліва называлі бобікамі. Гэтую несумяшчальнасць адчуваюць і добра выказваюць многія быкаўскія героі. Вось Зося Нарэйка з аповесці «Пайсці і не вярнуцца» тлумачыць выкрутліваму эгаісту Антону Галубіну, калі ён падумаў, што перамагаюць гітлераўцы, і прапанаваў перакінуцца да іх, каб захаваць сабе жыццё: «Антон, ты не разумееш... Каму жыць не хочацца? Я ж зусім і не жыла яшчэ, можна сказаць. Але што ж ты прапануеш? Ісці да фашыстаў? Што ж гэта такое? Гэта ж горш, чым нават смерць. Тут трэба згубіць сумленне. Яны ж чума дваццатага стагоддзя. Супраць іх увесь свет. З імі ж жыць немагчыма, яны ж звяры... Мы — людзі. І мы ніколі не пагодзімся з імі, нават калі яны і пераможуць. Ты кажаш, што няма выбару. Выбар ёсць: або мы, або яны. Во ў чым наш выбар».

Да такой жа высновы, выказанай з нязменшай пэўнасцю, прыходзяць у «Знаку бяды» Пятрок і Сцепаніда Багацькі, вобразы якіх Быкаў пры псіхалагічнай распрацоўцы часткова пісаў са сваіх бацькоў. Толькі матчыну далікатнасць ён перадаў Петраку, а бацькаву рашучасць замацаваў за Сцепанідай, якая палічыла за лепшае згарэць разам са сваёй хатай, чым скарыцца нелюдзям, паддацца паліцэйскаму зброду.

Рэдка, але пісаў Быкаў і пра жанчын, нявартых вялікай павагі (Паліна Пташкіна з «Абеліска», наркаманка з «Ваўчынай ямы»).

Многія сапраўдныя, высакародныя, далікатныя і пяшчотныя жанчыны ў творах пісьменніка гінуць у ваеннай віхуры, якая адлюстроўваецца амаль ва ўсіх аповесцях Быкава. Так было і ў рэальным жыцці. У ім жанчыны таксама найчасцей гінулі, бо былі найменш падрыхтаваны да таго пекла, якім з'яўляецца вайна. Быкаў пісаў пра яе трагедыйнасць («самае праклятае з усіх ліхаў, заведзеных жыццём на зямлі» — ягоныя словы) з усёй жорсткасцю суровай праўды. Праз пакутніцкі, трагедыйны лёс жанчыны гэтая праўда выяўлялася з найбольшай выразнасцю і сілай.

*2005 г.*





# ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ ВАСІЛЯ БЫКАВА

У чалавечай гісторыі XX стагоддзе, мусіць, самае жорсткае і крывавае. Для Беларусі, яе культуры і літаратуры яно стала парою шматлікіх выпрабаванняў і мноства страт на самых розных напрамках. Але яно ж, гэтае стагоддзе, выяўляючы жыццёвую сілу нацыі, нарадзіла і такіх волатаў духу, як нашы класікі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі і шэраг іншых.

У другой палове стагоддзя іх самаахвярную працу на карысць Бацькаўшчыны, іх мастакоўскія традыцыі бадай з найбольшым поспехам працягваў і развіваў, уздымаючы на новую вышыню, Васіль Быкаў, які здабыў ці не самае шырокае ў параўнанні з іншымі нашымі пісьменнікамі гэтай пары прызнанне ў свеце, стаў класікам не толькі беларускай, але і сусветнай літаратуры.

У сябе на Радзіме ён, як гэта звычайна бывае, сутыкаўся і з рэзкімі нападкамі, і з гарачай, вельмі шчырай пашанай. Яна ўрэшце набыла такі маштаб, што Васіля Быкава сталі называць сумленнем нацыі. Яго вялікі маральны аўтарытэт не ствараўся штучна. Ён трывала забяспечаны выдатным пісьменніцкім талентам, уменнем мастака дакопвацца да глыбіннай праўды пра людское жыццё на скразняках часу і, вядома ж, чалавечнасцю. Яна для Быкава была вельмі арганічнай, яскрава выяўлялася і на побытавым узроўні, і ў літаратурнай творчасці.

Цяперашняя гаворка пра Васіля Быкава прымеркавана да юбілею пісьменніка. І адбываецца яна напярэдадні вялікай даты ў гісторыі краіны — 60-годдзя вызвалення Беларусі ад гітлераўскага нашэсця. Таму ў разважаннях пра быкаўскую творчасць я спынюся пераважна на пісьменніцкай ацэнцы фашызму і подзвігу народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Сёння ўжо і ў нас адкрыта прызнаюцца, што ў перыяд Другой сусветнай вайны, часткаю якой была і наша Вялікая Айчынная, мужную ўзброеную барацьбу супроць нямецкага фашызму і яго саюзніка японскага мілітарызму

вялі многія народы свету. Гэтая барацьба вялася на велізарным абшары — ад Еўропы і Азіі да Аляскі на паўночнаамерыканскім кантыненце, да Афрыкі, Аўстраліі і Новай Зеландыі. Але на нашу долю ў барацьбе супроць гітлераўцаў выпаў найбольшы цяжар.

Добра вядома таксама, што Васіль Быкаў прымаў самы актыўны ўдзел у Айчыннай вайне. На фронт ён трапіў у самым яе пачатку, а з кастрычніка 1943 года ў званні малодшага лейтэнанта, атрыманага пасля Саратаўскага ваеннага вучылішча, з баямі ішоў праз Украіну, Малдавію, Румынію, Венгрыю і Аўстрыю, дзе сустрэў і вялікую Перамогу. Ён быў двойчы паранены і тысячы разоў рызыкаваў жыццём.

У крытычнай літаратуры пра Быкава шчодра цытуюцца шматлікія выказванні пісьменніка пра яго нянавісць да вайны. Ён і сапраўды яшчэ ў «Жураўліным крыку» напісаў, што гэта «самае праклятае з усіх ліхаў, заведзеных жыццём на зямлі».

Праўда і тое, што Быкаў лічыў чалавечае жыццё найвышэйшай каштоўнасцю. «Жыццё — гэта самы вялікі Божы дар, гэта вялікае шчасце, вышэй за яго нічога быць не можа на Зямлі», — казаў ён ужо ў канцы 1990-х гадоў. Ды і ў тым жа «Жураўліным крыку» быкаўскі Глечык, персанаж псіхалагічна вельмі блізкі да самога пісьменніка, усімі фібрамі душы адчувае цану жыцця: «А жыць так хацелася — хоць як-небудзь: у сцюжы, голадзе, страху, хоць у такім жудасным пекле, якім была вайна, — усё роўна хацелася жыць».

Але і ўжо ў зусім безнадзейным становішчы, калі Глечык застаўся адзін, ён не кідае баявой пазіцыі, а, заціснуўшы ў руках апошнюю гранату, рыхтуецца да смяротнай сутычкі з гітлераўцамі. Скласці зброю ён не можа сабе дазволіць ні ў якім разе. Бо Васіль Быкаў надзяліў Глечыка сваім уласным веданнем таго, што верхаводы гітлераўцаў, збіраючыся ўсталяваць панаванне над светам, тэарэтычна абгрунтавалі і ў паняволеных краінах здзяйснялі на практыцы найвялікшыя злачынствы супроць чалавечнасці.

Фашызм адбіраў у чалавека не толькі права на свабоду, але і на жыццё. Таму Быкаў і ненавідзеў фашызм як самае вялікае зло. «Гэта д'ябальская сацыяльная з'ява, пабудаваная на страху, бяздумным падначаленні і авантурызме», — пісаў ён.

Нездарма ж і тыпова быкаўскі герой з «Трэцяй ракеты» Жаўтых, які вайну ў прынцыпе не прымае, бо яна ў яго забрала бацьку (загінуў на руска-японскай вайне) і пакалечыла брата, з поўнай перакананасцю зазначае, што супроць фашызму неабходна змагацца да канца. «Тут ужо нічога не скажаш. Тут трэба», — лаканічна, з той разважлівасцю, за якою адчуваецца народная мудрасць, робіць выснову Жаўтых. Ён таксама гіне, але як салдат, змагар, непахісны абаронца Радзімы.

І так у Быкава скрозь. У яго творах права на станоўчасць, гэта значыць на чалавечую павагу, набываюць толькі тыя ўдзельнікі вайны, якія ў самых складаных абставінах думалі найперш не пра захаванне ўласнага жыцця, а пра неабходнасць абараняць краіну ад фашызму. І зусім заканамерна, што ў быкаўскіх творах пра Айчынную вайну здрада салдацкаму абавязку, а тым больш прыслужніцтва гітлераўцам не даруюцца нікому і ніколі.

Хачу гэта падкрэсліць, бо ўжо даводзілася чытаць артыкул («Полымя», 2000, № 9), у якім абсалютна беспадстаўна, яўна насуперак таму, што напісана ў «Жураўліным крыку», робіцца спроба фактычнага апраўдання здрадніка Івана Пшанічнага з гэтай аповесці. Ён выдаецца крытыкам ледзь не за анёлка. Маўляў, у яго і бацька «быў добрым сем'янінам, справядлівым, спагадлівым чалавекам», гатовым у ліхую часіну выручыць з бяды іншых людзей, бо сам выхоўваўся «на прынцыпах спрадвечнай культуры» і сына выхоўваў «у хрысціянскім духу». У Быкава ж той нібыта дабрадзей характарызуецца як «сквапны, злы, несправядлівы» хцівец, гатовы за ненаўмысна зламаную касу люта збіваць падлетка. Сам Іван Пшанічны ў крытыка робіцца «годным прадаўжальнікам добрых і мудрых бацькоўскіх традыцый». Гэта ўжо нібыта «маральна трывалы чалавек», які знаходзіць духоўную апору ў народнай культуры і праяўляе «сапраўдную моц народнага характару». Так крытык гаворыць пра здрадніка, які ў пісьменніка кідае баявую пазіцыю і ідзе добраахвотна здацца ў палон гітлераўцам, спадзеючыся з іх дапамогаю ўладкаваць сваё бясконца дарагое жыццё.

У Быкава здраднік бясслаўна гіне. Іначай і не магло быць у пісьменніка, які настойліва сцвярджаў, што супрацьстаяць фашызму неабходна было ўсімі магчымымі сродкамі, цаной чалавечых жыццяў таксама, у першую чаргу жыццяў салдацкіх.

«Якім бы дарагім ні было жыццё кожнага, лёс Радзімы і чалавецтва непараўнальна важней». Гэта цытата з быкаўскага артыкула «Наша сіла і воля», які напісаны ў 1983 годзе, але перадрукоўваўся неаднаразова, у тым ліку ў апошнім томе беларускага шасцітомніка, выдадзеным ужо ў 1994 годзе.

Васіль Быкаў сапраўды выразна ўсведамляў, што нашы воіны, бароняччы сваю краіну ад гітлераўскага нашэсця, змагаліся і за чалавецтва, за яго нармальную будучыню. Вялікую Айчынную вайну, перамога ў якой аплачана мільёнамі чалавечых жыццяў, пісьменнік называў цэлай эпохай у гісторыі краіны, бліскучай старонкай яе гісторыі. Выказванняў з такімі ацэнкамі Вялікай Айчыннай вайны, яе цяжару і велічы ў Быкава шмат. Нагадаю яшчэ адно з іх. «Сталінград для краіны быў аднойчы ў вайну, а для салдата на пярэднім краі ён здараўся куды як часта. І ўсё ж трэба было намагчыся, каб выжыць [толькі не цаной здрады, ухілення ад барацьбы] і — галоўнае —

перамагчы, бо пагібель часам была як здрада жывым. Салдат з усяе сілы павінен быў біцца за сябе і таварышаў, тым самым ён змагаўся за Радзіму, бо сам быў часткай Радзімы і народа, у імя жыцця і свабоды якіх і вялася тая вайна. Затое нічога ў нашым жыцці не магло параўнацца з той радасцю, якую давялося перажыць у самую сонечную вясну Перамогі. Гэта была найвышэйшая ўзнагарода за ўсе пакуты вайны, за пралітую кроў і слёзы таксама» (артыкул «Замест аўтабіяграфіі»).

Быкаўская чалавечнасць выразна выяўлялася і ў тым, як настойліва змагаўся пісьменнік за праўдзівае адлюстраванне вайны. «Безумоўную вернасць праўдзе» ён лічыў абавязковай у паказе Айчыннай вайны. «Гаварыць няпраўду аб ёй не толькі амаральна, але і злачынна як у адносінах да мільёнаў яе ахвяр, так і ў адносінах да будучыні. Людзі зямлі павінны ведаць, ад якой небяспекі яны пазбавіліся і якой цаной дасталося ім гэта збавенне», — напісаў Васіль Быкаў у 1981 годзе.

Недапушчальнымі былі для яго «фальшывая ўзнёсласць, сентыментальнасць, слюнявае сюсюканне», як і бяздумнае пацяшальніцтва «фарсаў на крыві, камедый на чалавечых пакутах». Усяму гэтаму Быкаў супрацьстаўляў глыбокі псіхалагізм, дакладнасць суровага рэалізму, уменне «бачыць перад сабой перш за ўсё чалавека». Змагацца за яго, «хаваць гатоўнасць у любы момант рынуцца ў бой за справядлівасць» — такім уяўляўся Быкаву «маўклівы заклік» баявых пабрацімаў, якія аддалі свае жыццё ў барацьбе супроць фашызму. Ён ведаў, што «мёртвым не баліць» (назва адной з самых выдатных быкаўскіх аповесцей), ужо не баліць. Але сам меў надзвычай нізкі болевы парог, які бывае толькі ў самых выдатных мастакоў, калі яны чужую бяду, болі і беды іншых людзей успрымаюць як свае ўласныя і таму практычна заўсёды адчуваюць любую дыскамфортнасць рэчаіснасці, праявы жорсткасці і неўладкаванасці ў свеце. Таму ён са скрухай пісаў калі не пра ўсе, дык пра галоўныя болевыя кропкі нашай гісторыі і сучаснасці («чорныя ляды» слуцкіх паўстанцаў, гвалтоўнасць калектывізацыі, Курапаты, чарнобыльская трагедыя і многае іншае).

Васіль Быкаў — пісьменнік з трагедыйным бачаннем жыцця. Пры вельмі нізкім болевым парогу такое бачанне тыповае. Ён з вялікім песімізмам глядзеў на цяперашняе жыццё і нашу будучыню. І вельмі прагнуў, каб ягоны песімізм «быў абвергнуты жыццём ці гісторыяй». А цяперашняя рэчаіснасць надзвычай складанага свету відавочных падстаў для абвяржэння не давала.

Зрэшты, у нас ёсць магчымасць неаспрэчна давесці, што Быкаў у сваім песімізме перабольшваў, памыляўся. Для гэтага трэба «няшмат»: знайсці прымальнае вырашэнне вострых духоўных, маральна-этычных праблем і дасягнуць прыкладна такога ўзроўню дабрабыту, як у немцаў, швейцарцаў,

шведаў, амерыканцаў ды ў народаў іншых цяперашніх багатых краін. Мы да гэтага імкнёмся. Так сцвярджаюць нашы палітыкі. Дасягнем? Быкаўская душа і на тым свеце парадуецца. Кажу гэта, бо ведаю, як пісьменнік радаваўся людской радасці, сам любіў рабіць прыемнае людзям. Ён жа і ў практычным жыцці вызначаўся сваёй чалавечнасцю, можна сказаць, выключнай душэўнай далікатнасцю. Пра іх праявы і ў дачыненні да маёй грэшнай асобы я ўжо згадваў у друку, у тым ліку ў артыкуле для кнігі «Наш Быкаў», якая выйшла з друку дзякуючы вялікім намаганням Генадзя Бураўкіна і клопатам шэрагу іншых прыхільнікаў вялікага быкаўскага таленту.

Не магу не адзначыць, што Васілю Быкаву было зусім не ўласціва самазахапленне, якое часта распірае пасрэдных літаратараў, нахрапам вылязае з усяго, што яны робяць.

Не лічыў сябе Быкаў і ўладальнікам ісціны ў апошняй інстанцыі. Ён заўсёды быў у пошуках і з цягам часу прыйшоў да рэзкага адмаўлення камунізму, які называў камунафашызмам, сутнасна блізкім гітлерызму, гэткім жа згубным для чалавецтва, як і карычневая разнавіднасць таталітарызму.

Васіль Быкаў памяркоўна ставіўся да крытычных заўваг, калі яны ішлі ад шчырай пераконанасці даследчыка, а не ад жадання спляжыць пісьменніка ва ўгоду ідэалагічным заказчыкам. Я шмат пісаў пра Быкава пры яго жыцці, пісаў з пахвалою, а то і з захапленнем. Але зрэдку даводзілася сёетое аспрэчваць у ягоных творах. Быкаў за маё аспрэчванне не крыўдаваў ніколі, бо прызнаваў права на ўласную думку і за даследчыкамі літаратуры. Гутарка ідзе ні ў якім разе не пра злоснае распінанне твораў, знарочыстае перакручванне іх сэнсу і іншыя маніпуляцыі, практыкаваныя дагодлівымі кан'юнктуршчыкамі, якія ў свой час папсавалі майстру нямала крыві. Але яго славы і велічы гэткае шаманства пахіснуць не магло. Так было пры зямным жыцці вялікага пісьменніка. Пасмяротна маштаб яго таленту, значнасць яго літаратурнага подзвігу, яго грамадзянскай мужнасці высвечваецца яшчэ больш ярка, наглядна і пераканальна. Цяперашнія юбілейныя ўшанаванні Быкава таксама доказ таго, як многа значыў ён у нашым жыцці, у жыцці мільёнаў людзей. Вялікія мастакі не паміраюць. Яны застаюцца ў свядомасці чалавецтва назаўсёды. Неўміручасць суджана і Васілю Быкаву.

*2004 г.*





## ПЕРАД ФАКТАМ ЗДЫМІЦЕ КАПЯЛЮШ

Вынесеныя ў загаловак словы належаць акадэміку І. П. Паўлаву, выдатнаму рускаму фізіёлагу, які з дапамогай філігранных эксперыментаў на сабаках абгрунтоўваў тэорыю ўмоўных рэфлексаў і ўстанавіў шэраг іншых заканамернасцей функцыянавання жывога арганізма. Далёкая ад навукі прыбіральшчыца цёця Каця з бліскучай камедыі К. Крапівы «Хто смяецца апошнім» дзівілася з таго, што паўлаўскія паслядоўнікі, працягваючы доследы знакамітага вучонага, «папракручвалі сабакам дзіркі ў баку ды ўліваюць ім туды яду». «Хіба ім не хапае гэтых дзірак, што сабакам бог даў?» — зазначала спагадлівая да жывых стварэнняў жанчына. «Трэба ж хоць адным вокам глянуць, што там у сярэдзіне робіцца», — тлумачыў цёці Каці дворнік Нічыпар, які да навукі непасрэднага дачынення не меў, але, мабыць, здагадваўся, што добрая фактычная ўзброенасць ёй патрэбна.

Можна сказаць больш: без грунтоўна выверанай фактычнай асновы навуковая праца (калі гэта не тэарэтычна-філасофскі трактат, дзе аснову складаюць разважанні даследчыка) атрымліваецца павярхоўнай і непераканальнай. Бо ў такім разе пераважае аўтарская інтэрпрэтацыя. А яна заўсёды суб'ектыўная. І бывае такая суб'ектыўнасць вытлумачэння, што проста дзіву даешся. Згадаю адзін параўнальна нядаўні прыклад. У артыкуле «Веліч праўды і справядлівасці» («Полымя», 2000, № 9) М. Пажарыцкі з Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы звярнуўся да быкаўскай аповесці «Жураўліны крык» і даў такую інтэрпрэтацыю вобразаў Івана Пшанічнага і яго бацькі Супрона, якая ў многіх выпадках рэзка разыходзілася з тым, што напісана пра іх Васілём Быкавым. А гэта значыць, што фактычны змест твора, яго рэальная фактура, у пісьменніка вельмі выразная, адвольна скажаюцца да непазнавальнасці. А ў дадатак да ўсяго крытык сцвярджае, што сам аўтар так бачыць сваіх персанажаў. «Але Іван Пшанічны — маральна трывалы чалавек. Менавіта для яго народная культура аказалася той духоўнай апорай, якую не так лёгка знішчыць... Ён праявіў сапраўдную моц народнага

характару», — зазначае М. Пажарыцкі, а потым яшчэ разважае пра народную душу ў дастасаванні да ўсё таго ж Івана Пшанічнага.

І гэта гаворыцца пра таго, хто добраахвотна пайшоў здавацца ў палон да гітлераўцаў, якія збіраліся на захопленых абшарах вынішчаць не толькі народную культуру, але і сам народ, адкрыта абвяшчаючы славян «недачалавекамі», далёкімі ад «арыйскіх» стандартаў (сябе гітлераўцы лічылі безумоўна вартымі тых стандартаў).

Крытык, канечне ж, ведае, што здрадніцтва ніяк не вяжацца ні з высокай духоўнасцю, нібыта таксама ўласцівай Івану Пшанічнаму, ні з народнай культурай, народнай традыцыяй. Здрада ж заўсёды нясе ганебны пачатак. І таму нават тыя, дзеля каго яна робіцца, звычайна ставяцца да здраднікаў насцярожана. На пэўны час узвышаючы іх, больш-менш дальнабачныя палітыкі разважаюць прыкладна так: сёння ён здрадзіў майму канкурэнту, а заўтра можа здрадзіць і мне. Словам, вельмі ж незайздросная яна, роля прадажнікаў.

Ніяк не ўзгадняецца здрадніцтва і з сапраўды патрыятычнымі пачуццямі. Крытык усведамляе і гэта і таму пагаджаецца, што «здрада Радзіме не апраўдваецца нічым». Аднак адразу за гэтым прызнаннем ідзе апраўдальны пасаж: «Але радзіму ў Івана Пшанічнага даўно ўжо адабралі. Ён з тых людзей, якія былі зацкаваны савецкай таталітарнай сістэмай і загнаны ёю ў тупік».

Гэта праўда, што бальшавікі сваёй дыскрымінацыяй цэлых пластоў насельніцтва па класавай прыкмеце («не тое» сацыяльнае паходжанне разглядалася бальшавіцкімі правадырамі як падстава для рэпрэсій) нарабілі шмат шкоды. Але ж мільёны пакрыўджаных імі людзей ад радзімы ўсё роўна не адмаўляліся, да гітлераўцаў на службу не беглі, а ў часіну ліхалецця ішлі самаадданa бараніць родны край ад чужынцаў. Так зрабіў і сын бязвінна расстралянага бальшавікамі Максіма Гарэцкага Леанід, які за няласкавую для яго бацькі Радзіму, нікольні не вагаючыся, аддаў сваё маладое жыццё. У адным з франтавых лістоў ён напісаў: «Я абяцаў быць адданым да канца Савецкаму Саюзу. Смерці я не баюся. І калі здарыцца, што нас акружаць, у палон возьмуць толькі мой труп». Загінуў ён не ў акружэнні, а ў звычайным па тых часах зацятым баі ў балотных абшарах Ленінградскай вобласці. Паведамленне пра яго смерць прыслаў у Беларусь франтавы таварыш, апошні жывы чырвонаармеец з падраздзялення, якім камандаваў Леанід Гарэцкі.

Гераізм у змаганні з фашыстамі праяўлялі і так званыя штрафнікі, людзі, якія за розныя крымінальныя злачынствы атрымлівалі судовае пакаранне. Але за краты іх тады не саджалі, а накіроўвалі на фронт у штрафныя батальёны. Ёсць звесткі, што шмат штрафнікоў мужна абаранялі Сталінград.

У аповесці «Жураўліны крык» адзін з самых яркіх персанажаў — Віцька Свіст. За сапраўдную правіну ён трапіў пад суд, адбыўшы пакаранне, няблага ўладкаваўся на Далёкім Усходзе і мог бы там праседзець усю вайну, але сам напрасіўся на фронт, дзе загінуў у няроўным паядынку з гітлераўскімі танкамі. Так ваявалі сапраўдныя патрыёты, якія мелі высокі чалавечы патэнцыял.

А як паводзіў сябе ў франтавых умовах Іван Пшанічны? М. Пажарыцкі сцвярджае, што ён «не збіраўся пакідаць баявую пазіцыю», «здаючыся ў палон, думае ўсё ж не пра помсту: ён глядзіць на немцаў не як на ворагаў, сваіх крыўдзіцеляў, а як на людзей, у якіх спадзяецца знайсці збавенне ад пакут (больш яму, у прынцыпе, нічога не трэба)». Пра тое, што Іван Пшанічны спадзяецца пад уладай гітлераўцаў займець «людскае жыццё», згадваецца і ў аповесці. Але анёлкам, накшталт таго, якім робіць яго М. Пажарыцкі, у «Жураўліным крыку» Іван Пшанічны не выглядае. Гэта сквапны тып з мардатым адкормленым тварам. У чырвонаармейцаў ён атрымаў зняважлівую мянушку Мурло. А жаданне для аднаго сябе шукаць збавення ад пакут ды яшчэ ў стане ворага, які намагаецца заняволіць тваю Радзіму, увогуле з'яўляецца яскравай праявай шкурніцтва, якое ніякага спачування не заслугоўвае.

Потым жа Іван Пшанічны, выношваючы думку пра здачу ў палон гітлераўцам, не толькі спадзяваўся « ў спакоі і па-людску зажыць хоць на старасці год» (словы з аповесці, працытаваныя крытыкам), але і выношваў даволі амбітныя планы: «Не можа быць, каб немцы не ацанілі як трэба яго шчырасці і не аддзячылі яму. У лагер яго як добраахвотнага перабежчыка не павінны адправіць, відаць, адпусцяць на волю, а можа, нават паставяць на якую кіраўнічую пасаду ў горадзе ці сельскай мясцовасці. Гэта было зманліва. О, тады Пшанічны паказаў бы свае здольнасці, даказаў бы яго апекунам, што яны не памыліліся ў ім. Ён бы не пашкадаваў ні сябе, ні людзей, гэтых пакорлівых працаўнікоў, якіх немцы за некалькі месяцаў прымусяць скарыцца. Немцам, вядома, патрэбны адданыя людзі, каб кіраваць вялізным абшарам заваяванай Расіі, і Пшанічны, калі добра возьмецца, магчыма, дарасце да якіх чыноў. Скончыцца вайна, і тады няблага было б прыдбаць невялікую ды ладную сядзібу». Вось на што спадзяецца нягоднік.

Для ажыццяўлення такіх спадзяванняў Іван Пшанічны гатовы на многае. Ён лічыў магчымым забіць аднапалчаніна Фішара, калі той стане на шляху перабежчыка. «З гэтым "вучоным"-няўдакам управіцца яму, калі б што здарылася, было б няцяжка», — мяркуе здраднік. Але Фішар быў «у сакрэце» трохі наперадзе ад іншых чырвонаармейцаў, ён не заўважыў уцёкаў Пшанічнага і таму не трапіў пад яго расправу, а загінуў у няроўным баі ад фашысцкай кулі.

Намерваўся Пшанічны выдаць гітлераўцам і ўсё, што ведаў пра армію. «Калі б патрабавалі даць звесткі пра свой полк, ён не таіўся б. Навошта? Усё роўна раней ці пазней полк разаб'юць канчаткова, гэта зусім не залежыць ад таго, пасведчыць ім Пшанічны ці не. Калі запатрабуюць яшчэ чаго, ён зробіць усё, бо ўсё гэта будзе для яго і супраць тых, ад каго ён досыць напакутаваўся на сваім вяку».

Апошнія словы заслугоўваюць асаблівай увагі, бо тут зусім недвухсэнсоўна сцвярджаецца, што матыў помсты, наяўнасць якога ў Пшанічнага адмаўляе Пажарыцкі, быў вельмі істотны ў здрадніцтве перабежчыка. Нездарма ж ён «таемна радаваўся», калі пачалося гітлераўскае нашэсце на краіну.

М. Пажарыцкі піша і пра тое, што, трапіўшы на перадавую, «чырвонаармеец Пшанічны не збіраўся пакідаць баявую пазіцыю». Гэта зноў жа не адпавядае фактычнаму зместу твора. Васіль Быкаў выразна падкрэсліў, што Пшанічны даўно падрыхтаваўся да здрадніцтва. Таму Іван рупліва прыхаваў «нямецкі пропуск-лістоўку», у якой прапаноўвалася добраахвотная здача ў палон.

Пшанічны яўна зацыкліўся на крыўдзе і злосці на бальшавікоў, якія з-за раскулачанага бацькі не дазволілі хлопцу заняць належнае месца ў грамадстве. Вынік той зацыкленасці жахлівы. «Толькі — сам сабе, сам для сябе, наперакор усім — такі воўчы дэвіз засвоіў пакрысе Іван Пшанічны. Ён не грэбаваў нічым, — калі тое трэба было — хлусіў, краў, ашукваў, да слабейшых у яго заўжды накіпала нянавісць, дужэйшых ён пабойваўся і ненавідзеў. Ён разумеў, што рабіўся нягодны, нялюдскі, злы і нядобры, як бацька, але перайначыць сябе ўжо не мог і каціўся ўсё болей туды, куды гнала чалавека ягоная крыўда і злосць», — чытаем у аповесці.

Іванаў бацька — гэта Супрон Пшанічны. Пра яго, злога і нядобрага, М. Пажарыцкі, зноў насуперак фактычнаму зместу твора, піша апалагетычна: «Супрон быў добрым сем'янінам, спагадлівым чалавекам. У цяжкую часіну людзі не раз звярталіся да яго па дапамогу. Ён ішоў ім насустрач, выручаў». «Стварэнню матэрыяльнага дабрабыту стары Пшанічны надаваў нямала ўвагі, аднак у першую чаргу імкнуўся да больш высокіх каштоўнасцяў».

Зусім іншая атэстацыя даецца Супрону ў аповесці. Там падлетак Яшка Церах сцвярджае, «што стары Пшанічны — вясковы міраед, што ён змардаваў яго, Іванаву, маці, бы батрака, заездзіў самога Івана, што ён гатовы задушыцца ад сквапнасці». Перабольшвае хлопец? Здаецца, не, бо цану Супронавай выручкі добра ведае. Гэта ягоная матуля, удава Міроніха (яна далёкая сваячка Супрона), звярталася да старэйшага Пшанічнага па дапа-

магу (пра іншыя выпадкі ў аповесці не згадваецца). І той з незадаволеным пакырхваннем і злосным чмыханнем адшкадаваў пуд збожжа. Але не з-за спагады да гаротнай жанчыны, а як плату за парабкоўства Яшкі — Супрон «у касьбу, жніво, малацьбу» наймаў работнікаў і ставіўся да іх вельмі патрабавальна, так, што «мала хто мог дагадзіць яму». Цяпер была якраз касьба, праца нялёгкая і для дарослага чалавека. А тут давялося выжыльвацца не вельмі моцнаму падлетку. І ён незнарок зламаў гаспадарову касу. «За зламаную касу Яшка працаваў у іх лішні тыдзень — стагаваў, сушыў, звозіў сена, затым яшчэ памагаў у жніво». Словам, з прыхільнікам «больш высокіх каштоўнасцяў» расплаціўся спаўна, праўда, не духоўна, а матэрыяльна, фізічнай працай. А быў жа ён яшчэ жорстка біты, тады ж, як зламаў касу.

З гэтай нагоды Супрон, шалёны ад злосці, «аберуч схапіў касільна, замахнуўся і, крычучы і ўсё больш звярэючы, пачаў ім біць хлопца па галаве, руках, якія ўзняў той, каб засланіцца».

Разглядаючы эпізод дзікай расправы раззлаванага ўласніка з нанятым парабкам за міжвольную правіну, потым жа і кампенсаваную, М. Пажарыцкі згадвае пра «добрыя і мудрыя бацькоўскія традыцыі» ў сям'і Пшанічных і зусім пэўна апраўдвае лютасць Супрона, маўляў, ён, «відаць, вельмі любіў» тую зламаную касу. «Сваімі адносінамі да яе персанаж нагадвае дзядзьку Антося з "Новай зямлі" Якуба Коласа», — падсумоўвае крытык.

І як толькі ўзнялася рука напісаць такое? Гэта найдабрэйшы дзядзька Антось з яго выключнай любасцю да дзяцей мог дзіка дубасіць падлетка?! Каб дапусціць такую недарэчную думку, трэба зусім не зважаць на рэальны змест «Новай зямлі» ды і ад фактаў самой рэчаіснасці абстрагавацца, бо дзядзька Антось не толькі герой коласаўскай паэмы, але і чалавек, які існаваў у рэальным жыцці (Коласаў вельмі рахманы дзядзька). Адвольная суб'ектывісцкая інтэрпрэтацыя не палічылася і з гэтым. А лічыцца з фактамі трэба абавязкова, бо яны, як даўно сказана, упартая рэч. Яны здольныя ўносіць яснасць у самых заблытаных сітуацыях.

Дзеля яснасці і я падкрэслю, што ў палеміцы з М. Пажарыцкім не ставіў сабе задачу грунтоўна аналізаваць «Жураўліны крык» ды тлумачыць, чаму ў аповесці кулак паказаны зусім інačай, чым у «Знаку бяды», «Аблаве» і іншых быкаўскіх творах. Пра гэта мне ўжо даводзілася разважаць у іншых публікацыях. Цяпер жа я свядома вылучаў толькі адзін аспект — наколькі важныя пры аналізе мастацкага твора ўвага і павага да яго фактычнага, рэальнага, не прыдуманага ітэрпрэтатарам зместу.

На такую прыдумку яўна збіваецца і Т. М. Грыцаль з Баранавіч. Маю на ўвазе яго артыкул «Экзістэнцыялізм у аповесці В. Быкава «Аблава», апублікаваны ў зборніку «Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай. Матэрыялы V Міжнароднай канферэнцыі да 50-годдзя БДУ». Ч. 1. Мінск, 2001.

Тут Т. Грыцаль дае такую інтэрпрэтацыю вобраза Міколы Роўбы, якая зусім не адпавядае рэальнаму фактычнаму зместу быкаўскай аповесці. Яўна насуперак В. Быкаву крытык сцвярджае: «Міколка, сын Хведара Роўбы, таксама па-свойму сумленны чалавек... Ён дзейнічае ў імя нейкіх найвышэйшых грамадскіх прынцыпаў». Гаворыцца гэта ў дачыненні да персанажа, які ў творы пісьменніка якраз сумленне страціў канчаткова і безнадзейна. І не «найвышэйшыя грамадскія прынцыпы» вызначаюць яго дзеянні, а ўсяго толькі непрыхаваны кар'ерызм. Узначаліўшы бальшавіцкае кіраўніцтва раёнам, ён праяўляе асаблівую жорсткасць, «нібы цівун той», «усё мацюгом ды пагрозай, Сібірру палохае». І не толькі палохае, але і практычна дзейнічае ў такім кірунку. Вяршыня яго лютасці — дзікае паляванне на роднага бацьку, пад кіраўніцтвам некалі жаласлівага, а цяпер зусім бесчалавечнага сына загнанага ў балотную багну, якая і стала магілай для папраўдзе сумленнага чалавека-працаўніка, ні ў чым не вінаватага перад людзьмі і светам.

Дайшоўшы да такой дзікасці, Роўбаў сын парушыў усе маральныя прынцыпы, пераступіў агульначалавечыя маральныя каштоўнасці.

Нагадаю, што ў «Бібліі» (Стары Запавет) нават толькі непавага да бацькоў разглядаецца як найвялікшы грэх. «Хто ліхасловіць бацьку свайго або маці сваю, таго трэба аддаваць смерці», — сцвярджаецца ў мудрай кнізе. Дык пра якую сумленнасць можна разважаць у дачыненні да літаратурнага персанажа, які не толькі выказаў вялікую непавагу да роднага бацькі, але і арганізаваў смяротную аблаву на яго?

Павага да фактаў, высокая дакладнасць у падачы іх патрабуецца ў гістарычнай і ўвогуле дакументальнай літаратуры, якая без такой дакладнасці вядзе да скажэння гістарычнай перспектывы, праўды гісторыі.

Думаецца, што цяпер дакументальная літаратура выклікае ўсё большую цікавасць. Не ў апошнюю чаргу гэта звязана з тым, што ў дакументальных творах розных жанраў павага да фактаў намнога большая, чым у голай белетрыстыцы пасрэдных літаратараў. Мне цікава чытаць кнігі з багатай фактычнай асновай нават тады, калі гэтыя кнігі ў стылёвых адносінах адпрацаваны не найлепшым чынам ці ўяўляюцца спрэчнымі і ў канцэптуальным плане.

Сярод выданняў, прачытаных у апошні час, назаву наступныя (усе на рускай мове, надрукаваны ў Маскве): Марцін Эміс. Сталін Іосіф Грозны (2003), Б. В. Сакалоў. Сталін: Улада і кроў (2004), Анры Труайя. Максім Горкі (2004), Анатолій Уткін. Другая сусветная вайна (2003). Аўтары кніг — людзі розныя. Так, Марцін Эміс характарызуецца ў выданні як класік сучаснай англійскай літаратуры, адзін з самых папулярных у сваёй краіне. Анры Труайя — член французскай акадэміі, таксама сусветная славутасць. Анатолій Уткін і Барыс Сакалоў — рускія гісторыкі. Бацькі першага з іх —

удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, якія ў складзе савецкіх войск з баямі адступалі ад Буга да Волгі, змагаліся з гітлераўцамі ў руінах Сталінграда і потым дайшлі да Берліна. У Б. Сакалова апублікавана больш за дваццаць кніг і вялікая колькасць артыкулаў.

Усе працы, пра якія цяпер размова, аб'ёмныя. Важкі фаліянт А. Уткіна мае ажно 960 старонак нармальнага кніжнага фармату, набраных драбнаватым шрыфтам. Але згаданыя выданні я адолеў без натугі, праштудзіраваў з вялікай увагай, бо знайшоў у іх багацце фактаў, якія гавораць куды больш за аўтарскае сюсюканне, якім бы віртуозна-вытанчаным яно ні было. Многія дакументальныя матэрыялы з гэтых кніг уяўляюцца мне ўнікальнымі.

Працытую з працы Уткіна адну мясціну са шматзначнымі сведчаннямі, заснаванымі на дакументальнай глебе. Гутарка тут ідзе пра Тэгеранскую канферэнцыю кіраўнікоў СССР, ЗША і Англіі ў 1943 годзе. У размове з Рузвельтам Сталін тады «высока ацаніў амерыканскую дапамогу: «Я хачу расказаць вам пра тое, што, з рускага пункту гледжання, прэзідэнт і народ Злучаных Штатаў зрабілі для перамогі ў вайне. Самае галоўнае ў гэтай вайне — машыны. Злучаныя Штаты паказалі, што яны здольныя ствараць ад васьмі да дзесяці тысяч самалётаў у месяц. Расія можа выпускаць, самае большае, тры тысячы самалётаў у месяц. Англія робіць ад трох да трох з паловай тысяч... Злучаныя Штаты можна назваць краінай машын. Не маючы гэтых машын праз сістэму ленд-ліза, мы б прайгралі гэтую вайну». «Гэта, — бярэ слова даследчык, — быў першы і самы красамоўны выпадак афіцыйнай удзячнасці савецкага кіраўніцтва за пастаўкі па ленд-лізу». Далей яшчэ дадаецца, што тады Сталін, як ніколі раней ці пазней («адзіны раз»), быў да канца шчыры ў адкрытай пахвале амерыканцаў.

Ленд-ліз — праграма амерыканскай дапамогі ў гады вайны, па якой Савецкаму Саюзу для барацьбы супроць гітлераўцаў даваліся грашовыя крэдыты, тэхніка, метал для ваеннай прамысловасці, адзенне, абутак і харчаванне для арміі і насельніцтва. У гэтай праграме як донары ўдзельнічалі таксама Англія і Канада.

З баявой тэхнікі, атрыманай нашай краінай па ленд-лізу, былі належна ацэнены амерыканскія знішчальнікі «Мустанг», бамбардзіроўшчыкі «Мітчэл», транспартныя самалёты «Дакота». Гэтыя тыпы самалётаў савецкія лётчыкі прымалі з задавальненнем, а пра танкі, таксама пастаўленыя па ленд-лізу, нашы танкісты выказаліся больш скептычна, аддаючы перавагу айчынным мадэлям. Асабліва цаніўся славуты «Т-34», прызнаны лепшым з усіх танкаў, якія выкарыстоўваліся ў Другой сусветнай вайне.

Цікава, што Сталін таксама прасіў амерыканцаў «прысылаць грузавікі, а не танкі». Танкаў, лічыў ён, мы наробім і самі, а добрых грузавікоў у нас

няма. Выручалі магутныя амерыканскія «студэбекеры» ды іхнія ж уседарожныя штабныя машыны джыпы (легкавікі) «Віліс» і «Додж», на якіх тады ездзілі савецкія вайсковыя кіраўнікі розных рангаў. Яны ж шырока выкарыстоўвалі партатыўныя амерыканскія радыёўстаноўкі і іншыя сродкі сувязі. Усё гэта вельмі істотна палепшыла тэхнічную аснашчанасць Чырвонай Арміі, зрабіла яе больш мабільнай. Мабільнасць жа ў вайне з высокай канцэнтрацыяй тэхнікі ды пры частых імклівых зменах аператыўнай абстаноўкі набывала асаблівае значэнне. Гэта была адна з істотных умоў перамогі над добра ўзброенай гітлераўскай арміяй.

Багата насычаная фактычным матэрыялам кніга А. Уткіна даносіць такую думку да чытача доказна і пераканальна, хаця, праўду кажучы, праца ў цэлым не пазбаўлена шматслоўнасці, залішніх паўтораў і іншых стылёвых «агрэхаў».

У кнізе Б. Сакалова мяне ўразіла сведчанне, што А. А. Жданаў у захапленні спіртнымі напоямі дайшоў да алкагалізму і «не валодаў ніякімі арганізацыйнымі здольнасцямі. Уменне ж пісаць даклады з пагромнымі выпадамі супроць Ахматавай і Зошчанкі ў плане магчымага будучага ажыццяўлення ўладных паўнамоцтваў няшмат каштавала».

Прымушае жахнуцца і нагаданая аўтарам крутасць Сталіна ў расправе з такімі неардынарнымі кіраўнікамі Ленінграда ў перыяд блакады гераічнага горада, як М. А. Вазнясенскі, А. А. Кузняцоў, М. І. Радзіёнаў, П. С. Папкоў. Усе яны па так званай «ленінградскай справе» ў 1950 годзе былі расстраляны. Такі ж лёс спасціг, паведамляе Б. Сакалоў, яшчэ некалькі сот пакутнікаў, а ўсяго пад розныя рэпрэсіі і тады падпала «да дзвюх тысяч чалавек». Гэта пасля ўсяго таго, што выпала на іх долю ў гады вайны...

Не, невыпадкова Марцін Эміс назваў сваю кнігу «Сталін Іосіф Грозны». Тут урэзваюцца ў памяць старонкі, добра ўгрунтаваныя мноствам жахлівых па сутнасці, але красамоўных па доказнасці фактаў пра сталінскую жорсткасць і непрадказальнасць ягоных распраў, калі сённяшні блізкі паплечнік і нават любімец заўтра падпадаў пад жахлівыя катаванні і расстрэл.

Нельга забыць і сведчанне пра вядомага англійскага пісьменніка Б. Шоу, які «наведаў СССР у самы разгар голаду, выкліканага наступствамі сталінскай калектывізацыі, і заявіў пасля вяртання з Савецкага Саюза, што савецкія грамадзяне харчуюцца лепш за ўсіх у Еўропе».

А хіба можна не жахнуцца, прачытаўшы ў кнізе Марціна Эміса пра масавы характар даносаў у сталінскія часы. Тады, сцвярджае англічанін, абапіраючыся на сведчанні вельмі аўтарытэтных людзей, у любой савецкай установе, па прыблізных падліках, «кожны пяты супрацоўнік пісаў даносы на сваіх калег... У гэтай сувязі дарэчы аддаць належнае самаму грознаму і

праслаўленаму даносчыку ва ўсёй краіне — вялікай Нікалаенка, гэтаму бічу Кіева. Гэтая лютая мегера, адзіная з усіх даносчыкаў, удастоілася асаблівай пахвалы самога Сталіна: "просты чалавек з нізоў". Нікалаенка, па яго словах, стала сапраўднай "гераіняй". Варта было Нікалаенка паявіцца на вуліцы, як шматлюдныя вуліцы Кіева адразу пусцелі; прысутнасць яе на якім-небудзь сходзе выклікала смяртэльны жах».

У кнізе Анры Труайя таксама багата цікавых фактаў. Адзін з іх — сведчанне мастака Аненкава пра тое, як жыў М. Горкі ў цяжкія для краіны першыя паслярэвалюцыйныя гады: «У шматпакаёвай і зручнай кватэры Горкага не было ні ў чым недахопу... Сябра Леніна і пастаянны наведвальнік Смольнага, Горкі належаў да катэгорыі "любімых таварышаў", заснавальнікаў новага прывілеяванага класа. "Любімыя таварышы" жылі заможна. Яны жылі нават лепш, чым у дарэвалюцыйны час... у вельмі багатай бібліятэцы гэтага "марксіста", на полках якой цясніліся кнігі па ўсіх галінах чалавечай культуры, я не знайшоў (а я шукаў старанна) ні аднаго тома твораў Карла Маркса. Маркса Горкі называў "Карлушкам", а Леніна — "дваранчыкам"», — здзіўляўся Аненкаў.

Добрай фактычнай выверанасцю вызначаецца наша гістарычная проза апошніх дзесяцігоддзяў — творы У. Арлова, В. Іпатавай, А. Лойкі, В. Коўтун, Л. Дайнекі, Г. Далідовіча, Э. Ялугіна, А. Мальдзіса, К. Тарасава, В. Чаропкі і іншых, не кажучы ўжо пра знакавыя для нашай літаратуры аповесці і раманы незабыўнага У. Караткевіча, з якога ў другой палове XX стагоддзя і пачалася праца па рэабілітацыі беларускай гісторыі, па выхаванні паважлівага стаўлення да яе выдатных старонак.

Асаблівую ролю ў аднаўленні гістарычнай свядомасці народа, да якой бальшавікі ставіліся вельмі насцярожана, шукаючы тут злачынны нацыяналізм, Караткевіч надаваў вялікай эпічнай прозе, яе галоўнаму жанру — раману. «Без гістарычнага рамана, гістарычнай літаратуры ўвогуле не можа абудзіцца нацыя, бо няма нацыі без пачуцця гістарызму, без спакойнага гонару за сябе і проста самапавагі, без веры ў тое, што яна ёсць, яна непераходзячая сталая вечная каштоўнасць вечнага чалавецтва і па ўсіх гэтых прычынах павінна жыць дзейсна і велічна, ведаючы сабе цану і ў дрэнным, і ў вялікім», — запісаў ён у дзённіку за некалькі гадоў да смерці, якая вялікім болем адгукнулася ў сэрцах беларускіх патрыётаў.

Варта адзначыць, што Караткевіч у сваім клопаце пра гістарычную свядомасць нацыі быў сугучны Пушкіну, які ў свой час падкрэсліваў: «Павага да мінулага — вось рыса, якая адрознівае адукаванасць ад дзікасці». І яшчэ ён жа: «Дзікасць, подласць і невуцтва не паважаюць мінулага, рабалепствуючы перад адной сучаснасцю».

Зрэшты, і пра сучаснасць ды і пра асабіста перажытае можна напісаць з пачуццём гістарызму, з усведамленнем таго, што і твае сведчанні, калі яны не адвольная прыдумка, маюць гістарычную каштоўнасць, бо адлюстроўваюць нешта істотнае ў сваім часе. Спашлюся на «кнігу адной маладосці» «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля. Першы варыянт гэтай аўтабіяграфічнай кнігі пісаўся па зусім свежых слядах (1942—1944 гады). Але гістарычная дакладнасць і тут вельмі высокая, бо ўся фактура твора рэальная, у поўным сэнсе слова сапраўдная. І ўзноўлена яна з выдатным пісьменніцкім майстэрствам.

На рэальных фактах выбудавана і дакументальная аповесць Янкі Брыля «Муштук і папка», у якой расказана пра трагічны лёс старэйшага брата пісьменніка Валодзі, знішчанага бальшавікамі ў час сталінскіх рэпрэсій.

Такія дакументальныя кнігі звычайна ўражваюць ужо сваім фактычным зместам. А калі яны, як у Брыля, напісаны пяром майстра самага высокага класа, дык іх уздзеянне на чытача набывае асаблівую моц.

Выйшаўшы на гаворку пра ўласна дакументальную літаратуру, хачу падкрэсліць, што ў нас ёсць унікальныя ўзоры такой літаратуры. Найперш тут трэба згадаць кнігі пра злачынствы нацыстаў «Я з вогненнай вёскі» А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка і «Блакадную кнігу» А. Адамовіча і рускага пісьменніка Д. Граніна, дзе адлюстравана трагедыя гераічнага Ленінграда, супраціўленне якога гітлераўцы імкнуліся зламаць кашчавай рукою страшэннага голаду.

У свой час моцна прагучалі дакументальныя кнігі І. Новікава «Руіны страляюць ва ўпор», «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску», «Тварам да небяспекі» — пра мінскае і віцебскае антыгітлераўскае падполле.

Вельмі цікавымі атрымаліся густа насычаныя фактычным матэрыялам успаміны І. Новікава «У пошуках ісціны» («Маладосць», 1999, № 10). Тут І. Новікаў працягвае размову пра трагічную гісторыю мінскіх падпольшчыкаў, а таксама падрабязна, з трывалай апорай на шматлікія дакументы расказвае, хто і чаму перашкаджаў аднаўляць праўду пра ўдзельнікаў антыгітлераўскага супраціўлення ў Беларусі.

Вельмі багатыя на факты і цікавыя кнігі ўспамінаў шэрагу аўтараў. Без натугі ўспрымаецца, скажам, нядаўна выдадзеная кніга М. Аўрамчыка «Знаёмыя постаці» (Мінск, 2004). Тут сабраны напісаныя ў розны час нарысы-ўспаміны пра Янку Купалу і яго жонку Уладзіславу Францаўну (цёцю Уладзю), Якуба Коласа, К. Крапіву, З. Бядулю, М. Лынькова, П. Глебку, І. Мележа, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанку, А. Пысіна, А. Грачанікава, блізкіх сяброў аўтара А. Коршака і М. Сурначова, якія загінулі на вайне. Прыхільным словам згадваюцца таксама В. Палтаран, Б. Карпаў, С. Александровіч і іншыя літаратары, партыйны кіраўнік рэспублікі ў 1965—1980 гадах П. Машэраў.

Характэрная асаблівасць нарысаў Аўрамчыка — іх добразычлівасць і тое, што яны фіксуюць уражанні аўтара ад асабістых сустрэч з людзьмі, пра якіх ён напісаў. І тыя штрыхі, дэталі, факты, якія з большай ці меншай шчодрасцю прыгадваюцца ў розных нарысах кнігі, маюць для нас бясспрэчную каштоўнасць, бо яны ўбачаны ўчэпістым вокам назіральнага чалавека і нясуць на сабе выразную пячатку адметнасці — так бачыў сваіх герояў менавіта Аўрамчык.

У 2004 годзе, але трошку пазней за Аўрамчыкаў зборнік, выйшла і кніга ўспамінаў «Наш Быкаў». Падрыхтаваў гэтую кнігу, якой, думаецца, наканавана вялікая грамадская цікавасць, Генадзь Бураўкін. Ён і ў час самых злосных нападак на пісьменніка мужна бараніў яго. А цяпер ён вельмі аператыўна сабраў прадстаўнічае кола аўтараў, якія добра ведалі выдатнага мастака і сябравалі з ім, з той ці іншай нагоды сустракаліся, захапляліся яго творчасцю, цанілі яго грамадзянскую мужнасць і чалавечае высакародства.

Сярод тых, для каго Васіль Быкаў быў сапраўды «наш», непахісны аўтарытэт у справах жыццёвых ці творчых, а то і адных і другіх, бачым сястру майстра Валю, яго сына, медыка па прафесіі Васіля, найбліжэйшага сябра Рыгора Барадуліна. Законнае месца па праву трывалага сяброўства тут і ў В. Тараса, С. Законнікава, А. Кудраўца, А. Вярцінскага, В. Казько, А. Жука і шэрагу іншых беларускіх пісьменнікаў. Ёсць у кнізе і маскоўскія сябры Быкава, даследчыкі яго творчасці Л. Лазараў, В. Аскоцкі. Украіна прадстаўлена пісьменніцкімі імёнамі Д. Паўлычкі, У. Яварыўскага, Р. Лубкіўскага. Сваё слова сказалі таксама слынныя літоўскія майстры пяра В. Пяткявічус і М. Слуцкіс, нашы прадстаўнікі выяўленчага мастацтва Л. Шчамялёў і Г. Вашчанка, такія выдатныя вучоныя беларусы з сусветным прызнаннем, як акадэмікі некалькіх акадэмій Р. Гарэцкі і Б. Кіт, шэраг нашых і замежных грамадскіх дзеячаў. А ў выніку воблік Васіля Быкава паўстае праз цікавыя канкрэтныя сведчанні ў многіх выразных абрысах, хоць, вядома, і не з вычарпальнай паўнатою, якая ў дачыненні да асоб быкаўскага маштабу, мабыць, недасягальная ўжо таму, што яны праз свае творы здольныя раскрывацца ў розныя часы ўсё новымі гранямі.

Сам Васіль Быкаў, ужо смяртэльна хворы, здзейсніў яшчэ адзін подзвіг, стварыўшы кнігу «Доўгая дарога дадому» (Мінск, 2002). У нашай літаратуры ўспамінаў гэта ўнікальная з'ява, твор, які здзіўляе багаццем фактаў, глыбінёй пісьменніцкага роздуму над жыццём чалавека і грамадства ў бурлівым ХХ стагоддзі, на самых крутых перавалах гістарычнага быцця, калі на долю беларусаў раз за разам выпадалі вельмі суровыя, часта жахлівыя выпрабаванні.

Кніга была задумана як бясхітрасны расказ, даверліва-спавядальнае слова пра ўласны лёс аўтара, воляю часу і абставін вымушанага прайсці

праз такое віхурнае кола падзей, толькі выжыць у якім, а тым больш застацца незламаным чалавекам было неймаверна цяжка.

Васіль Быкаў годна, вельмі мужна адольваў мноства перашкод, якія паўставалі перад ім. Але ў «Доўгай дарозе дадому» ён рашуча пазбягае ўсякай патэтыкі, гучных слоў, прыхарошвання ўласнай асобы, яе выпінання, якое вельмі ж шкодзіць у мемуарах амбіцыёзных аўтараў. Ён і тут застаецца такім жа сціплым, далікатна стрыманым, якім быў і ў рэальным, практычным жыцці. Але бачыў ён і ўдумліва асэнсоўваў вельмі многае і перадаў чытачу сваё асэнсаванне рэчаіснасці без прэтэнцыёзнасці і мудрагельства. Галоўнае, да чаго ён імкнуўся ў кнізе, зводзіцца да максімальнай праўдзівасці ва ўсім. Выдатнае чуццё мастака і чалавечая праніклівасць падказалі яму, што гэтага можна дасягнуць з найбольшым поспехам менавіта праз даверліва-спавядальную гаворку пра ўсё перажытае, перадуманае, вынашанае, а то і выпакутаванае ў мастакоўскіх і практычна-жыццёвых пошуках.

Даверліва-спавядальны характар «Доўгай дарогі дадому» абумоўліваўся і тым, што гэта кніга-развітанне. Яна стала апошнім прыжыццёвым выданнем у Васіля Быкава. Што якраз так і будзе, ён добра ведаў. Такая акалічнасць таксама вымагала шчырасці асаблівай, выключнай, бо перад тварам вечнасці хоць які фальш недапушчальны ў прынцыпе.

Вядома, Васіль Быкаў і ва ўсёй сваёй творчасці за праўду змагаўся апантана. Але ва ўмовах жорсткага ідэалагічнага ўціску і яму не заўсёды ўдавалася адстаяць напісанае ад большых ці меншых цэнзурных скажэнняў, з якімі даводзілася, заціснуўшы душэўны боль, мірыцца, каб твор усё ж дайшоў да чытача. Пра гэта згадваецца і ў «Доўгай дарозе дадому», якая, на шчасце, выйшла без цэнзурнага ўмяшання.

Васіль Быкаў на працягу ўсяго свайго творчага шляху аддаваў перавагу творам адносна невялікага памеру (славутая гранічна сціслая быкаўская аповесць як жанравая разнавіднасць гэтай літаратурнай формы), а ў апошнія гады і ўвогуле стаў пісаць галоўным чынам кароткія прытчы (прыпавесці) са шматзначным падтэкстам. А «Доўгая дарога дадому» ёмістая не толькі рэальным зместам, але і памерам. У ёй ажно 544 старонкі. З'ява для Быкава выключная. І напісана ўсё гэта толькі па памяці. Яна ў пісьменніка заставалася выдатнай да канца яго зямных дзён. Але і сведчанні вельмі добрай памяці час ад часу не шкодзіць звяраць з дакументамі. У Васіля Быкава такой магчымасці не было. Ствараючы «Доўгую дарогу дадому», ніякімі дакументальнымі матэрыяламі карыстацца ён не мог. І ўсё ж кніга атрымалася вельмі змястоўнай, дакладнай і ў фактычным плане. Я спатыкнуўся толькі на дзвюх мясцінах, у якіх быкаўская памяць дала збой.

Так, у кнізе сцвярджаецца, што за выданне рамана «Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіч «адзін змагаўся з колішнім знакамітым выдавецкім

босам Матузавым. І ўсё ж ён перамог, раман выйшаў». На самой справе перамагчы таго боса, які ўзначальваў выдавецтва «Мастацкая літаратура», Караткевічу дапамагалі многія. Дастаткова сказаць, што ў падтрымку Караткевіча выступіў наш Саюз пісьменнікаў, уплыў якога на выдавецтва ў той час быў моцны. Па ініцыятыве Івана Мележа, які ў якасці аднаго з сакратароў СП адказваў за развіццё прозы, у лютым 1967 года было наладжана абмеркаванне Караткевічавага рамана на сумесным пасяджэнні сакратарыята СП і секцый прозы і крытыкі. У падтрымку Караткевіча на тым пасяджэнні выказаліся сам І. Мележ (ён вёў сход), Я. Брыль (ён тады таксама быў сакратаром СП), А. Адамовіч, І. Навуменка, Н. Гілевіч, А. Мальдзіс, Г. Кісялёў і іншыя. Гэта істотна паспрыяла Караткевічу.

Другая фактычная недакладнасць у кнізе «Доўгая дарога дадому» датычыць В. Бурана, яго дысертацыі пра быкаўскую творчасць. «Дысертацыю не прымалі, бо там даваліся не тыя ацэнкі некаторым момантам маёй творчасці. Васіль біўся над ёй колькі месяцаў, і ўсё марна. Я сказаў яму: "Напішы ты, што ім патрэбна..." Мы разам сядзелі вечар, і я памагаў яму рабіць фармулёўкі ўласных творчых хібаў. Здаецца, тое памагло, дысертацыю прынялі», — зазначана ў Быкава.

Праўда заключаецца ў тым, што ніхто Буранаву дысертацыю не адхіляў. А ён сам пасля рэзкай крытыкі аповесцей «Мёртвым не баліць» і «Праклятая вышыня» моцна напалохаўся і паехаў у Гродню да Васіля Быкава за паратункам. І пісьменнік сапраўды ратаваў яго. Але гэта была залішняя перастрахоўка, бо ўсе, хто вырашаў лёс дысертацыі, не маглі яе «зарэзаць» з прычыны таго, што афіцыёзнага разносу тады яшчэ толькі двух твораў Быкава не прымалі.

Сярод нядаўна апублікаваных пісьменніцкіх успамінаў, цікавых найперш фактычнай насычанасцю, варта згадаць «Начныя ўспаміны» І. Шамякіна, якія змяшчаліся ў 2001 годзе ў газеце «Літаратура і мастацтва». Добрае ўражанне пакінула яго ж дакументальная аповесць-успамін «Слаўся, Марыя!» («Маладосць», 1999, № 5, 6 і 7) — усхваляваны твор пра жонку пісьменніка Марыю Філатаўну, якая не толькі была вернай спадарожніцай Івана Пятровіча, але і стала прататыпам вобразаў прывабных гераінь у шэрагу яго твораў.

У 2002 годзе ў выдавецтве «Беларускі кнігазбор», галоўным рэдактарам якога з'яўляецца К. Цвірка, пасмяротна выйшла кніга выбраных прац акадэміка Г. Гарэцкага, выдатнага вучонага, аднаго з заснавальнікаў нацыянальнай акадэміі навук, які па асноўнай спецыяльнасці быў геолагам, але вызначаўся і шырокім літаратурна-культурным кругаглядам. У кнігу ўвайшлі яго ўспаміны пра старэйшага брата Максіма Гарэцкага (серыя артыкулаў),

а таксама артыкулы-ўспаміны пра Янку Купалу, Якуба Коласа, К. Крапіву, У. Дубоўку, П. Глебку.

Кніга ўключае і надзвычай цікавыя лісты аўтара, якія таксама з'яўляюцца дакументам часу, вядома, прыватным, але вельмі красамоўным у сваёй сапраўднай дакладнасці.

Дапоўнена выданне змястоўнымі ўспамінамі пра бацьку (Г. Гарэцкага) яго сыноў Усяслава і Радзіма. Радзім Гаўрылавіч і ў апошнія гады апублікаваў у Мінску некалькі змястоўных, надзвычай багатых на факты прац, звязаных з гісторыяй беларускай культуры, мовы, літаратуры. Гэта кнігі: «Шляхам адраджэння» (1997), «Ахвярую сваім «я»... Максім і Гаўрыла Гарэцкія» (1998), «Вечна жыве Беларусь! Артыкулы, інтэрв'ю, замалёўкі» (2003).

Усяслаў Гаўрылавіч (ён у бацькоў быў першынцам) па сваёй знакамітасці крыху саступае Радзіму, але таксама мае вельмі высокую навуковую і чалавечую рэпутацыю. Ён працуе ў Маскве на педагагічнай ніве, член-карэспандэнт Расійскай акадэміі адукацыі, стварыў цэлы шэраг прызнаных школьных падручнікаў.

На трывалым фактычным грунце трымаюцца і ўспаміны С. Шушкевіча «Мой лёс», апублікаваныя пакуль што толькі ў перыёдыцы. Вядома, С. С. Шушкевіч, аўтар гэтых успамінаў, у адрозненне ад свайго бацькі С. П. Шушкевіча, прафесійным пісьменнікам, як і Усяслаў ды Радзім Гарэцкія, не з'яўляецца, але расказаў ён пра сябе і бацьку талкова, з добрай дакументальнасцю.

Яшчэ раз вяртаючыся да І. Шамякіна, адзначу яго важкую кнігу «Роздум на апошнім перагоне» (Мінск, 1998), дзе змешчаны багатыя на факты пісьменніцкія дзённікі 1980—1995 гадоў.

У 1995—1997 гадах у «Полымі» пасмяротна апублікаваны шматгадовыя дзённікі М. Танка, каштоўныя і сваёй велізарнай фактычнай насычанасцю, і літаратурна-эстэтычнай важкасцю, якая ўласціва добрай дакументальнай прозе.

Яшчэ ў 1988 годзе выйшла асобным выданнем кніга Н. Гілевіча «Перажыўшы вайну» з падзагалоўкам «Аповесць у абразках памяці». Гэта таксама па сутнасці дзённікавая проза. Напісана яна хораша і вызначаецца зноў жа грунтоўнай фактычнай насычанасцю.

Дзённікава-ўспамінальны характар маюць і апошнія творы А. Адамовіча. Згадаю яго «Падарожжа з Мінска ў Маскву і назад» і «Vixi» (Пражыта). Скончаныя раздзелы незавершанай кнігі». Апублікаваны абодва творы ў перыёдыцы ў 1994 годзе. У самым пачатку таго года А. Адамовіч раптоўна памёр, не дачакаўшыся і часопіснай публікацыі гэтых твораў. А яны, асабліва «Vixi», вельмі багатыя на факты, роздум, прагнозы і выдатна адлюстроўваюць

ваяўнічы грамадзянскі тэмперамент А. Адамовіча, яго жаданне і ўменне неадкладна кідацца туды, дзе ўзнікае пагроза бяды, каб прадухіліць няшчасце, а калі яно ўжо здараецца, каб зменшыць наступствы. Таму ён так рашуча папярэджваў пра магчымасць тэрмаядзернай катастрофы, калі яна найбольш пагражала чалавецтву, так настойліва дамагаўся праўды пра Чарнобыль, якую бальшавіцкая кіраўнічая наменклатура, асабліва ў Беларусі, імкнулася схаваць ад народа, каб нічога не рабіць для яго паратунку. Маўляў, беларусам атам не страшны. А. Адамовіч ад спецыялістаў-навукоўцаў добра ведаў, што радыяцыя ў вельмі высокай канцэнтрацыі забівае беларусаў гэтак жа няўмольна, як і ўсіх іншых людзей. І рабіў ён, кінуўшы асабістыя справы, нямала практычных захадаў для паратунку чарнобыльцаў.

Кніжнае выданне аповесці «Vixi» выйшла ў 2002 годзе ў складзе аднайменнага зборніка, у якім змешчаны і некаторыя іншыя творы аўтара. У аповесці дзве структурна розныя часткі. Першая частка мае назву «З-пад кропельніцы». Гэта старонкі з запісной кніжкі, чысты дзённік, які А. Адамовіч вёў у канцы 1991-га – першай палове 1992 г., фіксуючы ўсе адценні свайго пасляінфарктнага стану – цяжкі, але яшчэ не смяротны, як наступны інфаркт, які быў у А. Адамовіча ўначы з 20 на 21 снежня. З дзённікавых запісаў у яго атрымаўся чалавечы дакумент, вельмі дакладны ў фактычнай частцы, сумленны ва ўсім.

Другая частка аповесці ідзе пад загалоўкам «Ізноў пачынаецца дзяцінства». Тут змешчаны надзейна падмацаваныя багаццем фактаў успаміны з выхадам не толькі на самыя першыя памятлівыя гады, але і на свае кнігі, з гаворкай пра тое, што ў Адамовічавых кнігах з моцным аўтабіяграфічным пачаткам адлюстравалася ў дакладнай адпаведнасці з жыццёвай рэальнасцю, а што і чаму так ці іначай карэкціравалася, дадумвалася, па розных прычынах перайначвалася. А ў выніку нарадзілася, як і ў Васіля Быкава «Доўгая дарога дадому», кніга-споведзь, шчырая, як перад тварам вечнасці. Праз яе, тую размову, маштаб асобы А. Адамовіча акрэсліваецца з яркай пераканаўчасцю. Яна дасягаецца не за кошт рысоўкі, Алесю Адамовічу, як і Васілю Быкаву, зусім не ўласцівай, а менавіта за кошт шчырасці, адкрытасці, сумленнай і не галаслоўнай, а заглыбленай у фактычныя рэаліі гаворкі пра сябе і час. Так што і дзённікава-ўспамінальная проза, асабліва ў тых выпадках, калі яе піша, абапіраючыся на факты, выдатны, ніколькі не схільны да фальшу мастак, можа вельмі многае.

Пераважна дзённікавы характар, калі казаць пра сутнасць, а не знешняе афармленне запісаў аўтара, маюць філігранна адпрацаваныя кнігі Я. Брыля «Пішу як жыву» (1994), «З людзьмі і сам-насам» (2003), «Блакітны зніч» (2004). Праўда, кніга «Пішу як жыву» ўвабрала не толькі брылёўскія

лірычныя мініяцюры і іншыя запісы, сутнасна блізкія да дзённікавай прозы, але і ўжо згадваную дакументальную аповесць «Муштук і папка», шэраг апавяданняў зусім не дзённікавага характару ды вельмі прачулыя нататкі пра маці «За светлую памяць», таксама без дзённікавай прывязкі. Мне пра гэтую кнігу ўжо даводзілася выказвацца ў друку. Таму ў заключэнне толькі падкрэслю, што дзённікавая проза, у якой вельмі важная фактычная насычанасць, нявыдуманасць сведчанняў, заўсёды вызначаецца адметнасцю аўтарскіх поглядаў. І яны, як і ў кнігах успамінаў, звычайна далёка неідэнтычныя ў розных аўтараў. Бывае, што несупадзенне пункту гледжання на занатаваныя падзеі, з'явы, факты даходзіць і да дыяметральнай супрацьлегласці — тое, што адзін ацэньвае станоўча, другі катэгарычна адмаўляе. Але вельмі ўжо баяцца разбежак, калі яны і значныя, наўрад ці трэба. У прынцыпе гэта нармальная, а на практыцы непазбежная з'ява. Важна, каб не было выдумкі і падтасовак, няпраўды ў самой факталагічнай аснове. А з вытлумачэннем, інтэрпрэтацыяй удумлівы чытач разбярэцца і сам.

*2004 г.*





## ПРАЗАІЧНЫЯ ЭЛЕГІІ ВАСІЛЯ ЗУЁНКА

У шостым нумары «Полымя» за 1999 год змешчаны дзве празаічныя элегіі, напісаныя Васілём Зуёнкам, які ўжо даўно і вельмі трывала сцвердзіў сябе ў паэзіі. Ягоныя вершы і паэмы прызнаны на самых розных узроўнях. У свой час іх шчыра віталі У. Караткевіч і Г. Бураўкін, А. Вярцінскі і А. Грачанікаў, К. Цвірка і Г. Далідовіч, В. Іпатава і В. Вярба, а яшчэ шэраг іншых «таварышаў па пяру», а таксама многія прафесійныя крытыкі, сярод якіх былі і такія майстры крытычнага слова, як Р. Бярозкін і У. Калеснік. І ўсе яны звычайна не скупіліся на пахвалу таленавітаму паэту. Той жа У. Караткевіч адгукнуўся на выдадзены ў 1966 годзе зборнік «Крэсіва» (першая кніга Зуёнкавай лірыкі для дарослых чытачоў) грунтоўнай рэцэнзіяй, якой даў шматзначную назву «Крэсіва. Іскры. Агонь». Як галоўную якасць паэзіі В. Зуёнка ён вылучыў «сапраўдную чалавечую дабрату», падкрэсліўшы, што «гэта дабрата трывогі, папярэджання, мужнасці». І, як звычайна, меў рацыю, бо матывы трывогі і папярэджання сапраўды былі ў «Крэсіве», а з цягам часу сталі гучаць у паэта ўсё больш моцна і пэўна. Сёння гэта бачыцца асабліва выразна.

Раблю такую выснову, зноў перачытаўшы Зуёнкавы кнігі, якія ёсць у маёй дамашняй бібліятэцы. Іх набралася нямала: «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980), «Світальныя птушкі» (1982), «Лукам’е» (1984), «Вызначэнне» (1987), «Лета трывожных дажджоў» (1990), «Чорная лесвіца» (1992), «Пісьмы з гэтага свету» (1995) і вялікі двухтомнік выбраных твораў (1996, 1998). У першым томе памерам 446 старонак змешчаны вершы паэта. У трошкі меншы другі том (319 стар.) увайшлі ўсе пяць Зуёнкавых паэм: «Лукам’е», «Сяліба», «Прыцягненне», «Маўчанне травы» і «Падарожжа вакол двара». Таму кніга паэм атрымала назву «Пяцірэчча». Том лірыкі мае загаловак «Гронка цішыні». Назва, вядома, з падтэкстам, палемічна-парадаксальная, бо ні задаволенай улагоджанасці, ні заспакоенай сузіральнасці ў паэзіі Зуёнка няма, прынамсі,

я такога не заўважыў. Наадварот, паэтаў верш найчасцей бунтуе, спрачаецца і зноў жа мужна папярэджвае. Нездарма ж цішыня ў аднайменным вершы, які можна разглядаць як твор, што абгрунтоўвае назву тома, — гэтая цішыня вельмі адметная. Яна голасна прамаўляе, «звініць!» (клічнік тут, канечне ж, не мой, а Зуёнкаў). І гэты звон, калі мець на ўвазе ўсю паэзію аўтара, а не толькі адзін канкрэтны верш, адлюстроўвае самыя балючыя нашы болі і крыўдныя нягоды, прычым адлюстроўвае таленавіта і шматбакова, без спрашчэння і дагодлівай афіцыёзнасці. А калі нейкія ўступкі казёншчыне ў паэта зрэдку і пракідаліся (зусім без гэтага пры камуністычным рэжыме ні ў кога, хто ў той час тады друкаваўся, не абыходзілася), дык аўтар, рэдагуючы двухтомнік, паздымаў адпаведныя радкі і строфы, а цалкам сапсаваныя дзяжурнай афіцыяльшчынай творы не дапусціў да перавыдання.

Вяртаючыся да ацэнкі Зуёнкавай паэзіі ягонымі паплечнікамі, зазначу яшчэ, што асабліва ўзнёсла пісаў пра яе Р. Барадулін. У артыкуле «Як маланка, нечаканы...» (1984) ён сцвярджаў: «Паэму “Маўчанне травы” можна без усялякіх агаворак і перасцярог ставіць не дужа далёка ад коласаўскай “Новай зямлі”».

Права на такое збліжэнне, лічыць паэт, дае тое, што і Зуёнкава паэма — твор пра «лёс народа, пра лёс жыцця на зямлі. Гэта своеасаблівая анталогія каранёў чалавека працы, каранёў дабра і зла, каранёў нашай мовы ў канкрэтных праявах, анталогія зямлі ў расе і шэрані, у руні і ў шрамах акопаў». Барадуліну належыць і прадмова да двухтомніка, у якой падкрэслена, што «паэзія Васіля Зуёнка мае эпічны пачатак». Зноў сказана слушна. А гэта азначае, што Зуёнак невыпадкова звярнуўся і да прозы.

Ды калі казаць зусім дакладна, дык цяперашнія Зуёнкавы элегіі не першыя спробы ягонага пяра на празаічным полі. У паэта ўжо была кніга вельмі добрай крытычнай прозы «Лінія высокага напружання» (1983), былі нарысы, замалёўкі і апавяданні для дзяцей. А вось празаічныя элегіі сапраўды з’явіліся ўпершыню. І яны ўвогуле нязвыклыя, бо ў традыцыйным разуменні элегія — жанр паэтычны. Гэтым тэрмінам тэорыя літаратуры пазначае вершаваныя творы журботнага, меланхалічнага зместу, прасякнутыя сумным настроем, які адлюстроўвае незадаволенасць жыццём ці шкадаванне пра тое, што ўжо мінулася. Для звыклай, класічнай элегіі характэрныя глыбокая эмацыянальнасць, тонкасць і псіхалагічная насычанасць пісьма, яго дакладная стылёвая вывеpанасць. У Зуёнкавых элегіях усё гэта таксама ў наяўнасці. Таму ёсць усе падставы лічыць іх законнай мадэрнізацыяй вядомага жанру. Тым больш што сучасная літаратура даволі свабодна абыходзіцца з жанравымі канонамі і ў выпадку патрэбы лёгка парушае іх.

Асабліва змястоўнай і па-сапраўднаму глыбокай уяўляецца мне элегія «Супоня». Твор атрымаў такую назву, таму што на моцнай сыра-

мятнай супоні павесіўся адзін з цэнтральных герояў твора. Гэта Муня, ён жа — Эмануіл Аляксеевіч, чалавек з пароды праўдашукальнікаў, лёс якіх у таталітарным грамадстве заўсёды незайздросны. Так адбылося і з Мунем. Газетчык па прафесіі, сумленны і, здаецца, таленавіты, ён ва ўсім імкнецца да справядлівасці, але ані не ўмее хітраваць. Таму і церпіць адно паражэнне за другім. Канец ягонай газетнай кар'еры ўжо ў часы «вертыкальшчыкаў» афіцыйна патлумачаны плагіятам, хоць на самой справе, як кажа Муня, «зусім наадварот было: чужыя думкі ўспрацівіўся я выдаваць за свае. Якраз з-за гэтай самай "вертыкалі" рэдактар у нас новы аб'явіўся — з былых райкомаўцаў, зростак такі аглоблі з дугою. Ну і давай усіх "вывертыкальваць" — што ні напішаш, слова ў слова каб у "вертыкальны" тон было. А ў мяне — свая галава на плячах і свае рахубы... "Не-е, — кажу, — гэта не за райкомаўскім сталом вымовы шлёпаць..."».

Аднак тады Муню толькі вымову і ўляпілі, а на пасадзе ён яшчэ неяк утрымаўся, хоць падчас ягонага дзяжурства ў газеце «замест "райком партыі" ўсяго ды праскочыла "райкорм партыі": "р" лішняе ўплішчылася ды такі сэнс засвяціла!» Новыя ж улады абышліся з праўдалюбцам куды больш крута. Зрэшты, новыя яны толькі адносна, бо кадры скрозь засталіся старыя, хоць сваю фразеалогію трохі і перайначылі. «А во нагнаў жа мяне той самы ганчак райкомаўскі, зноў ухапіўся, ды ўжо не за лыткі, а з аглаблёю...» — працягвае сваю споведзь Муня. Вось і падаўся ён у фермеры, але і тут вялікай удачы не меў. Падводзілі ўсё тыя ж няўменне хітраваць, бескарыслівасць і сумленнасць. У часы, калі «жыццё робіцца ўсё больш глухім і бессардэчным», гэта вельмі вялікія заганы, пераадолець якія ў Муні няма сілы.

Па натуры гэты назіральны газетчык яшчэ і філосаф. Але жыццёвыя няўдачы, абумоўленыя найперш змрочнай рэчаіснасцю і толькі ўзмоцненыя характарам персанажа, робяць яго філасофію вельмі песімістычнай. «От, ты кажаш: "хамут...", а хочаш — я табе скажу: хамут гэты — усё жыццё наша. І нехта, самы хітры і нахабны, зацягвае супоню... Гэткі выходзіць паварот: любі жыццё ці праклінай, а яно бярэ тваю шыю ў клешчы, аблягае загрывак і персі: цягні, выжыльвайся... Трасуцца сцёгны, іскры крывавыя ўваччу, — а ты цягні... цягні, аж пакуль з капытоў... Воля — яна толькі ў марах», — тлумачыць Муня, адчуваючы сябе хоць і дастойным у прынцыпе, але лішнім у такім жыцці чалавекам.

Кажу тут пра дастойнасць у прынцыпе, бо і сам Муня далёка не бязгрэшны. Зведаў ён карцёжніцтва ды п'янства, хоць незадоўга да самагубства наважыўся «завязаць» і з картаю, і з чаркаю, ужо і адступнога «зафугасіў» на поўную катушку. Збіраўся ўжо і ад'язджаць, ці не ў «райгазету», куды яго клікалі, як ён спадзяваўся, на сталую працу. А потым, здаецца, нечакана і для самога сябе, Муня перадумаў. Чаму? У элегіі зусім пэўнага адказу на

гэты конт няма. Але відавочна, што Муню ўсё ж не хочацца пакідаць абжытыя мясціны, дзе застаюцца і пасаджаны ім адным бярозавы гаёк, празваны вяскоўцамі паркам, і выган з траўкай-мураўкай, такой ласкавай, што «хоць да шчакі прыкладвай», і палі, на якіх «жыта ў трубку ідзе», бульба лапушыцца, словам, уся тая любата, з якою зжылася чулая Мунева душа. А яшчэ ён на пошце «пісьмо нейкае атрымаў». Яно і дабіла канчаткова. Што было ў тым пісьме, застаецца загадкай. Аўтар, вядома, знарок пакідае такую загадкавасць без расшыфроўкі. Але і так зразумела, што сумленны чалавек не вытрымаў сучасных жыццёвых штормаў («у разбітым карыце плывеш — не для шторму пасудзіна», — гаворыць, маючы на ўвазе Мунева няўменне прыстасоўвацца да абставін за кошт сумленнасці, ягоны сябра).

Не задалося ў Муні і асабістае жыццё. Пакахаў ён значна маладзейшую дзяўчыну Клаву, якая на пэўны час звязала з ім свой лёс яўна без кахання, толькі дзеля таго, каб з'ехаць ад абрыдлых ёй вяскоўцаў у горад. Дык і даймае яна Муню на кожным кроку, здзекуючыся з яго часам адкрыта, а найчасцей прыхавана, праз розныя дробязі, чапляецца за якія жанчына вельмі вынаходліва. Псіхалагічная пранікнёнасць, дакладнасць ва ўсіх дэталях, якая заўважаецца і ў паказе іншых персанажаў, тут, у абмалёўцы Клавы, уражвае ці не найбольш.

Знешне дзяўчына падалася закаханаму Муню вельмі прывабнай, падобнай на крамяную радысачку, «вось толькі-толькі з градкі, абмытая свежай, са студні, вадою, з гуллівымі пераскокамі сонечных зайчыкаў, з хвосцікам валасоў, заціснутых гумкаю на самай макаўцы...». Але даволі хутка «радысачка» паказвае свой сапраўдны нораў, ператвараючыся калі не ў здрадліва-горкі яблык, то, як сказана ў элегіі, у «спахмурнелы грэцкі арэх». Двухсэнсоўна-з'едлівыя яе жарцікі ў халодны зімовы дзень: «А знаеш, калі б ты памёр, ну хоць бы сабе зараз, — я, напэўна б, і не заплакала... Слёзы на холадзе стынуць...»

Не даводзіцца здзіўляцца і таму, што нават з мужавага імя яна пацвельваецца далёка не бяскрыўдна, маўляў, яно «нейкае ... халоднае, як жаба». А чаго варта тое, што амаль з першых дзён замужжа Клава зганяе Муню з агульнага ложка, заяўляючы, што ўдваіх на ім «і цесна, і вузка». І нібыта залішне штурхаецца мужанёк, а ў дадатак і дыхае, як паравоз, — «ад гарачыні і поту звар'яцець можна, на сценку палезці...». Вось што значыць сысціся з нялюбым! А неўзабаве з'явіўся ў пакоі і трэці сем'янін. Не, не дзіця, нашчадкаў яны не займелі, а «абрыдлы, прыкры для Муні... ложак-раскладанец. Па вечарах ён разгортваўся, лязгаючы жалезным шкілетам, выцягваўся, прыўзнімаючы ўзгалоўе, тупа глядзеў на Муню нейкім дапатопным дыназаўрам-страшыдлам і, здаецца, пытаўся: "Ну што — маеш? Зарабіў ордэр на начлег?.. Кладзіся, кладзіся — са мной не ўпацееш..."».

Тое, што жалезная пачвара пад пяром пісьменніка ажывае і пачынае здзекавацца з няшчаснага чалавека, ужо надае размове злавесны сэнс, выразна падкрэсліваючы ўсю меру абсурду, што пануе ў нашым сучасным жыцці. Натуральна, што пасля гэтых і іншых выбрыкаў сямейная ідылія, на якую было спадзяваўся наш герой, ператварылася ў прывід, стала недасягальным фантомам. І дажываў Муня свае ўкарочаныя ім самім гады ўжо бабылём, у вясковай хаце, што дасталася яму пасля сестрынай смерці. Вельмі незайздросны чалавечы лёс!..

Надта каларытна выпісаны і Муневы сябры па чарцы і карцёжных гульнях — Корцік і Дэбет, людзі без прозвішчаў, а толькі з мянушкамі. Гэта таксама знак чалавечай абяздоленасці, прыніжэння асобы, яе занядбанасці. Застаецца пазначанай толькі ранейшая прафесійная прыналежнасць. Корцік атрымаў сваю клічку з-за колішняй марской службы. Ён — былы марак з Балтыкі, звыштэрміновік-добраахвотнік, звольнены за прыхільнасць да алкаголю. А ўвогуле чалавек ён не благі, па-свойму спагадлівы, разумны і часам яшчэ суцяшае сябе марай, што зможа некалі пакрасавацца «на капітанскім мосціку — дзе-небудзь ля Чорнай Афрыкі...». Мара зноў жа прывідная, нязбыўная. Але ж трэба чалавеку хоць нечым сябе заспакойваць ды суцяшаць, каб жыццё не станавілася, як у Муні, зусім не выносным.

Дэбет так названы з той прычыны, што працаваў рахункаводам, а цяпер ён ужо на пенсіі і можа падзарабляць хіба на выпадковых работах, калі яны трапляюцца. Ды ён улягаць у працу не вельмі імкнецца. Па чалавечых параметрах Дэбет яўна саступае і Муню, і Корціку, бо ў адрозненне ад іх зайздрослівы і прыцісклівы, схільны да дробязнага хітравання. Сваю пасаду ён страціў з-за таго, што аказаўся не ў ладах з тэхнічным прагрэсам, не змог працаваць на самых простых камп'ютарах. А падхалімнічаць навучыўся, засвоіў, што самае бяспечнае ў часы фарысейства і крывадушнасці — заўсёды і ва ўсім дэманстратыўна падтрымліваць любы афіцыёз. Напісана пра ўсё гэта не без з'едлівасці і зноў жа з тонкай псіхалагічнай выверкай, якая забяспечвае сапраўднасць кожнага Дэбетавага жэста і слова. А мова ў яго шчодра расквечаная жарганізмамі. Гэты лексічны пласт трапна выкарыстоўваецца і ў гаворцы іншых персанажаў, асабліва ў Корціка, у якога марскі каларыт проста кідаецца ў вочы.

Наогул, хараство Зуёнкавых элегій у многім трымаецца на багацці і тонкасці іх эмацыянальна насычанай стылістыкі, на ўменні аўтара сцісла, але заўсёды дакладна акрэсліць чалавечы характар персанажа каларытным у сваёй выразнасці, сэнсава і экспрэсіўна ёмістым словам. За майстэрскім валоданнем гэткім словам адчуваецца вопыт працы аўтара ў паэзіі.

Вельмі прывабны Зуёнак і ў эканомных пейзажных штрыхах, у партрэтных і рэчыўных дэталях, трапнасці якіх нярэдка можна пазайздросціць.

Вось як падае ён сутычку двух сваіх герояў: «Дэбет выцягваў шыю, лосны ад тлушчу твар звужаўся, збягаючыся да носа, і ўсёадно як пачырванелай дзюбай, сыкаў на Корціка. А той, у сваёй злінялай, мытай-перамытай, што і палоскі ледзь угадваліся, цяльняшцы, выдаваў на перапялёсага шчупака, які ў падлёдную задуху сам сабой выкідваўся з палонкі і на ўсе пашчэнкі хапаў паветра, — здаецца, у Корціка і вушы, быццам жабры, падшавельваліся».

Тонкай настраёвасцю вызначаецца элегія «Куды павёў лапаць». Тут Зуёнак, не хаваючыся за вобраз безыменнага апавядальніка, а непасрэдна ад свайго сапраўднага імя расказвае пра двух вядомых яму сімпатычных вяскоўцаў — старавера Лявона і мужычкі Гапулькі, лёс якіх паяднала моцнае каханне. Яно нарадзілася і захавала сваю трываласць насуперак устойлівай старой традыцыі, якая асуджала блізкія інтымныя стасункі паміж прадстаўнікамі розных рэлігійных канфесій.

Элегія «Куды павёў лапаць» датуецца 1994 годам, «Супоня» — 1999-м. Значыць, ёсць падставы меркаваць, што Васіль Зуёнак да гэтага жанру прыахвоціўся сур’ёзна. Што ж, у добры час!

Пакуль артыкул рыхтаваўся да друку, выйшаў першы нумар «Полымя» за 2000 год, дзе змешчаны яшчэ тры Зуёнкавых элегіі: «Чаравікі для баўэра», «Штаны» і «Дзяцей шкада...». Усе яны напісаны хораша, пранікнёна, зноў жа з журботнай настраёвасцю, выкліканай невясёлымі жыццёвымі рэаліямі, што ўзнаўляюцца ў творах. Але «Штаны» вылучаюцца асабліва шчымлівым гучаннем. Пачатыя яны з гумарам, які паўнаўладна гучыць на цэлым шэрагу старонак, а завершаныя на вельмі балючай трагічнай ноце. Так асэнсоўваецца горкі лёс добрага вясковага хлопца Хомкі, які памірае, не пакінуўшы нашчадкаў: ягоную мужчынскую сілу, а потым і жыццё няўмольна з’ела радыяцыя, атрыманая ў час службы ў ракетных войсках. Праклящце, якое пасля Чарнобыля абрынулася на цэлы народ, ужо напаткала шмат беларусаў і працягвае забіраць усё новыя ахвяры... Адсюль і асаблівая гаркота фінальных акордаў гэтай проста выдатнай элегіі.

*2000 г.*





# ЯНЫ АБОДВА НЕПАЎТОРНЫЯ ВА ЎСІМ

Рыгора Барадуліна звязвае даўняе сяброўства з Васілём Быкавым[1]. Яно грунтуецца і на зямляцкай блізкасці (абодва знакамітыя пісьменнікі паходзяць з Ушаччыны), і на супадзенні галоўных чалавечых і творчых арыентацый (катэгарычнае непрыманне ў жыцці, літаратуры фальшу і крывадушнасці, дагодлівага прыстасавальніцтва да ўладаў, паслядоўная абарона беларушчыны, тым больш настойлівая, чым большая пагроза навісае над нашай будучыняй як нацыі, самабытнага этнасу).

У таталітарнай дзяржаве бескампрамíснае адстойванне прынцыповых грамадзянскіх пазіцый нараджае для мастакоў, якія не апускаюцца да карыслівага прыслужніцтва, шмат праблем творчага плана. А ў самых абвостраных сітуацыях узнікае і небяспека для жыцця саміх творцаў.

Асабліва выразна такая пагроза паўстала ў апошнія гады яго жыцця перад Васілём Быкавым. Сваю вялікую мужнасць ён засведчыў у час Айчыннай вайны, у пекле якой шмат разоў глядзеў у вочы смерці. Але цяпер ён не стаў яшчэ раз выпрабоўваць лёс (усё ж і Бог беражэ беражонага), а выехаў за межы Беларусі, спачатку ў Фінляндыю (у Хельсінкі), а потым у ФРГ. Прытулак у абедзвюх краінах яму забяспечыла падтрымка зарубежных пісьменнікаў, якія вельмі высока цэняць выдатны быкаўскі талент, яго грамадзянскую мужнасць, непахіснасць у абароне праўды і чалавечнасці.

У той перыяд, калі Васіль Быкаў быў «у змушаным выраі» ў Фінляндыі, Рыгор Барадулін, каб хоць трохі паслабіць сябраў сум па Радзіме, пасылаў яму ў Хельсінкі вершаваныя лісты, якія і склалі першы раздзел кнігі «Лісты ў Хельсінкі».

Пачынаецца ж яна ёміста-шматзначным эпіграфам, які таксама належыць вынаходліваму барадулінскаму пяру:

[1] *Барадулін Р.* Лісты ў Хельсінкі. Мінск, 2000.

Будуць часам ідалы раструшчаны,
Свет разумны стоміцца ад крыкаў.
Васільком у жыце беларушчыны
Назаўсёды застанецца Быкаў.

Гэта напісана хораша і добра выяўляе паважлівасць, з якою Барадулін ставіцца да быкаўскай творчасці і яго самога.

Ёсць у кнізе і невялікая прадмова Васіля Быкава. У ёй дакладна акрэсліваецца характар зборніка, у якім, апрача барадулінскіх вершаў, змешчаны і быкаўскія малюнкі, што складаюць заключны раздзел пад назваю «Водгалас». Такім чынам, атрымалася вельмі арыгінальная пераклічка двух выдатных майстроў: вершы паэта падсвечаны малюнкамі празаіка, які прафесійным жывапісцам не з'яўляўся, аднак умее выказвацца не толькі словам, але і выяўленчым штрыхом. Зрэшты, працытую самога Васіля Быкава: «Кажуць, што эпісталярны жанр цяпер не ў модзе. Ліставанне, якое цягам стагоддзяў было ці не адзіным сродкам зносінаў між людзьмі, саступае новым, электронным сродкам. Слова папяровае ўсё часцей мяняецца на візуальны вобраз — болей багаты і даступны для ўспрымання. І калі што трымаецца старых людскіх звычак, дык гэта паэзія. Думка і пачуццё ўпарта не хочуць знікаць з традыцыйных, гутэнбергаўскіх радкоў, надта яны паядналіся ў чалавечай свядомасці і пакуль што трымаюцца адзін аднаго.

Так, паэзія не можа абысціся без напісанага (выдрукаванага) радка, таму Рыгор Барадулін паўтара гады пісаў вершаваныя лісты ў Фінляндыю. Вядома, што ростань абвастрае пачуцці — да каханай, сябра або Радзімы — і часам нараджае шэдэўры вершаванай паэтычнай думкі. У гэтай невялічкай кніжачцы безліч самых сур'ёзных думак і самай высокай паэзіі чалавечага існавання. Натуральна, што празаік у гэтым сэнсе не можа спаборнічаць звыклымі сродкамі і абраў не надта традыцыйны спосаб дыялогу — выяўленчы. Атрымалася не дужа гарманічна і стылёва (можа, нават дызгарманічна), але часам і ў дызгармоніі ёсць свой лад і прывабнасць».

Сказана, як заўсёды ў Быкава, слушна і трапна. Я ж пачну разгляд барадулінскіх лістоў з гаворкі пра багацце думак і пачуццёвай насычанасці ў вершах паэта. На першым плане ў іх матывы суму, выкліканыя і расстаннем з сябрам, і самім характарам нашага часу, які паэт у адной з нядаўніх гутарак афарыстычна назваў часам выпаўзання змей. Вызначэнне скрушліва-змрочнае, але небеспадстаўнае. Гэта выразна разумееш, наслухаўшыся той цынічнай хлусні, з якою вылазяць на людзі некаторыя абаронцы самых горшых узораў афіцыёзу.

Для чулай душы паэта гэткая хлусня асабліва невыносная. І таму нікольkі не дзівішся, прачытаўшы ў Барадуліна: «Яшчэ імгненне — // І душа за-

вые». Такая канцоўка самага першага ліста (усе яны ў кнізе адметнай назвы не маюць, а толькі пазначаюцца ў парадку чарговасці). Згаданы ліст і пачаты кідкім пейзажным штрыхом, за якім зноў жа паўстае змрочны ў грамадскім плане воблік нашых дзён: «Дажджы й дажджы, // І хмары, і самота, // І глухата // З усходу да заходу». Гэты матыў суму, скрухі, глухога да людскіх турбот часу праходзіць праз увесь зборнік. Дрэвы ў паэта «маўчаць, дрывамі стаўшы ад пакуты» («Ліст другі»). «Свабодны ад будкі і ад ланцуга // Сабака брэша ў ноч глухавата. // Нібы пытае, чыя чарга // Завыць, каб забыць, // Што жыцця не багата» («Ліст дванаццаты»). «Як стол жалобны, // Усё наўколле» («Ліст шаснаццаты»). Усё гэта былі «Лісты з Вушачы».

У «Лістах з Менску» таксама блізкая па сваёй скрушлівасці карціна: «Ніхто не патрэбен нікому, // Апроч самога сябе» («Ліст другі»). «У душы мае свой закутак // І туды не пускае нікога // Катаржнік пажыццёвы — // Смутак» («Ліст шосты»). «А сэрца б'ецца // Наўздрыж. // Як салаўіная песня // Аб крыж» («Ліст восьмы»). «Паціху самота // Да змоўклай тугі // Звыкае, // Звыкае, // Звыкае...» («Ліст адзінаццаты»). «Каб труною стаць, // Сасна расце» («Ліст дванаццаты»). Тамсама ж: «Перапёлка смутку гнёзды ўе». «Толькі верад // На душы // Ды камяні ляжаць» («Ліст васямнаццаты»).

І ўжо як квінтэсэнцыя матываў суму і журбы ўспрымаецца «Ліст дваццаць пяты», з якога падаю дзве апошнія страфы:

Мы не жывем —
Мы толькі жнем журбу,
Цапамі нашай памяці
Малоцім.
Зажураныя,
Ў неба шлем мальбу.
Мяхі журбы
Даем свайму гарбу
І час наш блоцім.

І кожны з нас
Журбу ў сабе нясе.
Дубам журба
Маланкай крышыць кроны.
І тоіцца
Журба ў жывой красе.
Журбою пахнуць
Словы нашы ўсе,
Наш хлеб надзённы.

Перабольшванне? Празмернае згушчэнне фарбаў? Як сказаць. Пісаў некалі і Янка Купала:

Бываюць хвілі горкіх жаляў,
Душа і ные і баліць;
Агонь пякельны грудзі паліць,
І нечым той агонь заліць.
У гэткай хвілі цяжкай, труднай
Нямілым робіцца жыццё,
Пракляў бы цэлы свет злалюдны
І сэрца роднага біццё.
Пракляў бы свет і быт, і долю,
Усё б на лес сухі паслаў,
І даў бы думам спаць уволю
І сам бы спаў, навекі спаў.

Душа чалавечая ў залежнасці ад канкрэтных акалічнасцей праяўляе сябе па-рознаму. Бывае яна і зняверанай. І тады крычыць ад болю, скрухі, жыццёвай неўладкаванасці, а то і сумуе ад усведамлення абмежаванасці зямных дзён чалавека. А ў выніку нараджаюцца такія няўмольныя па сваёй неаспрэчнасці радкі, як у Максіма Багдановіча: «Шмат у нашым жыцці ёсць дарог. // А вядуць яны ўсе да магілы».

Рыгор Барадулін яўна пераклікаецца з Багдановічам у «Лісце дваццаць першым»:

Жыццё не азіраецца ніколі,
Ідзе ды йдзе дарогаю адной.
І да магілы за яго спіной
Ты блізішся ці шпарка, ці паволі.

Пераклічка, магчыма, і незнарочыстая, міжвольная, але зразумелая і натуральная: чым больш жыве чалавек, чым горш ён сябе пачувае, тым часцей яму даводзіцца задумвацца пра непазбежны скон.

У Барадуліна каталізатарам адпаведнага настрою, акрамя саліднага ўзросту (сёмы дзясятак размяняны), была і бальнічная палата, у якай верш ствараўся. І ўсё той жа сум па сябру-выгнанніку працаваў у гэтым кірунку.

Матыў вымушанага расстання з Радзімай таксама займае ў кнізе вельмі істотнае месца, становіцца адной з яе галоўных дамінант. І тэма Радзімы набывае розныя павароты. Тут ёсць і сцвярджэнне, што для роднага краю нялішні кожны яго сын, бо нават самы слабы, нягеглы з іх можа ўрэшце зрабіць нешта карыснае для Радзімы. У бітве з прышэльцамі і аб яго, недалужнага, хоць крыху «варожы затупіцца меч» («Ліст трэці» з Менску).

Не менш трапна выказана думка, што і няўдзячная Радзіма застаецца дарагой для сапраўднага патрыёта:

І выгнанец
Хоча на радзіму,
Хоць счужэлую,
Але сваю.
Зябка ў сцюжу
Коміну без дыму,
Без гнязда
Самотна салаўю...
(*«Ліст трынаццаты» з Вушачы*)

І ўжо як апафеоз Радзіме гучыць «Ліст шаснаццаты» з Менску, дзе слова паэта даводзіць, што страта Радзімы — найбольшая бяда, бо там, на Радзіме, застаецца ўсё самае дарагое. Там «і камень, як падушка пухавая», і «мароз цяплейшы ў роднай старане», у ёй і «хмара з граду здасца хлебам з соллю». Так асэнсоўваецца горыч вымушанага ад'езду Быкава з Беларусі.

Але зрэдку ў барадулінскіх пасланнях сябру пракідаюцца і мажорныя ноты. Адзін з вершаў мажорнай танальнасці — «Ліст чатырнаццаты» з Менску, напісаны з нагоды Вялікадня. Некалькі разоў паўтораны радок «Хрыстос Уваскрос!» успрымаецца тут як знак надзеі на лепшае і для нас, беларусаў. Пробліск надзеі бачыцца і ў «Лісце дваццаць чацвёртым», дзе сцвярджаецца, што цяперашні народ-натоўп, у якім бракуе душ, годных «для добрых дзей», вечна не будзе такім. Ён мусіць абудзіцца. І тады «выясніцца сонца, дзень настане» інакшы, нежурботны.

Праблескі светлага настрою і радасці заўважаюцца з розных лістоў пра «вясёлага бацьку, шчаслівую маму», пра памятныя імгненні маленства, пра «багоўку» (божую кароўку), якая ўспрымаецца як «кропелька вясёлкі», пра яблычны спас і іншыя ўжо ва ўсякім разе не змрочныя жыццёвыя рэаліі.

Ды і размова пра непазбежнае завяршэнне чалавечага жыцця магільным грудком у Барадуліна вядзецца ў большасці выпадкаў без прыкметнага надрыву, з філасофскай разважлівасцю, хоць, вядома ж, «гадоў сваіх незваротных шкода».

Барадулінская лірыка ўвогуле звычайна мае значную філасофскую заглыбленасць. Выразна праяўляецца гэтая асаблівасць і ў «Лістах у Хельсінкі». Як даволі яскравы ўзор філасофскай насычанасці верша можна згадаць хоць бы «Ліст сёмы» з Менску:

Час знянацку змесціцца ў зярнятку
І засне ў настылай баразне,
Каб прачнуцца рунню па вясне,
Даганяць сябе спачатку.

Свету
Цесна думаць у зярнятку —
Ў вечнасці ў маленькім кулачку.
Ціха й скрыпка жаліцца смычку.
Хоча гук сябе
Пачуць спачатку.
Час аднойчы
Змесціцца ў зярнятку.

Рыгор Барадулін даўно сцвердзіў сябе як віртуозны майстар, паэзія якога прыемна здзіўляе цудамі вынаходлівасці. Незвычайная шчодрасць мастакоўскай фантазіі, а можна сказаць — і буянства яе, густата вобразнасці, забяспечаная яркасцю тропаў, асабліва кідкай метафа-

рычнасцю і нечаканасцю трапнай асацыятыўнасці, рытмічная свабода і арыгільнасць, багацце гукапісу, увогуле дзівосная інструментоўка радка, уменне знайсці ў арсенале народнай мовы незацяганае, часта зіхоткаіскрыстае слова, ды і слова зусім звычайнае павярнуць так, што яно пачынае праменіцца новым святлом, — усё гэта ўласціва Барадуліну і выразна адчуваецца ў ягоных «Лістах у Хельсінкі».

Для нагляднасці нагадаю некалькі прыкладаў выяўленчай яркасці, характэрнай для паэта. «Высокая мелодыя тугі у незабытным краі ціха стыне». «За каўнер небасхілу змрок сцюдзёна цячэ». «Дыспут вечны сабакі вядуць дваравіта» (маюцца на ўвазе сабакі дваровыя). «Стомленасць, як памяркоўная пані, ціха ступае па гулкай жарстве». «І на іржышчы будзённасці колка босай душы». «Туга ў спакою на руцэ засне». «Трымае радасць дні свае ў прыполе. Жалоба ў чорнай хустцы плач нясе». «Сукі... укамянелі зоркамі ў бярвенні». «Слязою яблык дрыжыць на галіне». «П'яніць нявіннай віны віно». «Гурбы выгарбілі перапутак». «Гады маладыя адкукарэкалі». «Ружай хоча быць калючы дрот»... Прачытаеш такое, і становіцца зразумела, якая багатая, слухмяная і гнуткая наша мова, калі ёй аддае сваю душу выдатны паэт.

У «Лістах у Хельсінкі», як ужо гаварылася, шмат роздуму пра непазбежнасць для кожнага чалавека развітання з зямным жыццём. Адзначалася і тое, што да такога роздуму схіляе паэта ягоны ўзрост. Але душою, пачуццямі, сваім эмацыянальным светам, вастрынёю рэакцыі на рэчаіснасць Барадулін па-ранейшаму застаецца надзіва маладым. Ён і працуе з маладой энергіяй, нават апантанасцю: друкуе ўсё новыя цыклы вершаў, шмат перакладае, публікуе народныя песні, запісаныя ад маці. А які ён няўрымсліва-гарэзлівы ў параўнальна нядаўнім зборніку саланаватага народнага гумару «Здубавецця»! Значыць, жыве і будзе жыць Беларусь, калі ў яе ёсць такія самаахвярныя творцы.

Арыгінальнасцю вызначаюцца і быкаўскія малюнкі, змешчаныя ў кнізе «Лісты ў Хельсінкі». Яны даюць пэўнае ўяўленне пра тое, у якіх умовах жыў і што рабіў Васіль Быкаў у Фінляндыі, як ён успрымаў краіну, якая дала яму прытулак, хто наведваў выгнанніка, як ставілася да яго зарубежная грамадскасць і інш. Словам, інфарматыўнасць гэтых малюнкаў істотная. Яна павялічваецца і за кошт лаканічных быкаўскіх подпісаў-каментарыяў. У іх таксама адчуваюцца настальгічныя ноткі суму па Радзіме, зрэдку, як мне здалося, праглядвае і адценне жартоўнасці.

Так адбываўся абмен думкамі блізкіх сяброў. І добра, што гэтыя думкі цяпер маем магчымасць спасцігаць і мы.

*2004 г.*





## СЛОВА МАЙСТРА НЕ СТАРЭЕ

Глыбокі след у нашай літаратуры пакінуў Іван Чыгрынаў. Чытацкай свядомасцю ён успрымаецца перш за ўсё як стваральнік пяці раманаў пра Айчынную вайну («Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужыя», «Вяртанне да віны», «Не ўсе мы згінем»). У гэтых раманах, аб'яднаных адзінствам герояў (Дзяніс Зазыба, Радзівон Чубар і інш.), паказана не толькі тое, як супроць гітлераўскіх прыхадняў змагаліся нашы людзі, але і як яны жылі ў той трагічны час. А між тым Іван Гаўрылавіч быў і выдатным майстрам апавядання. Паэт Масей Сяднёў, які стаў прататыпам чыгрынаўскага героя Масея Зазыбы, казаў: «У жанры апавядання я гатовы паставіць Івана Чыгрынава на першае месца, залічыць яго да ліку нашых класікаў. Апрача артыстызму, я вычуваю ў ім і наша, нацыянальнае — філасофію, псіхіку, быт, норавы нашага народа».

Сказана вельмі слушна. Лепшыя чыгрынаўскія апавяданні сапраўды вызначаюцца сваёй неардынарнасцю, глыбіннай праўдзівасцю. Пісьменнік і ў часы моцнага ідэалагічнага дыктату не баяўся выходзіць на вельмі складаныя жыццёвыя праблемы, хоць гэта было звязана з вялікай рызыкай. Рэзкія нападкі з боку ідэалагічных наглядчыкаў, якія і ў літаратуры больш за ўсё баяліся праўды, выклікала пасля апублікавання ў часопісе «Полымя» апавяданне «У ціхім тумане». Гэтая, па словах Л. Дранько-Майсюка, «маленькая трагічная сімфонія» ўпершыню была надрукавана ў 1963 годзе пад загалоўкам «Маці». Іван Чыгрынаў потым мусіў адмовіцца ад таго загалоўка і даць больш нейтральную назву, бо пісьменніка вінавацілі ўжо за тое, што ён па-чалавечы спачувальна напісаў пра маці паліцая і тым як быццам апраўдаў і самога здрадніка.

Але такога апраўдання ў творы няма і блізка. Рэйдаў Яшка, які пайшоў у паліцыю, помсцячы за арыштаванага ў калектывізацыю бацьку, і прымае актыўны ўдзел у карных аперацыях гітлераўцаў, адназначна называецца здраднікам: «Якава Рэйду партызаны потым злавілі толькі на другое лета...

Здрадніка прывезлі ў Бароўку і застрэлілі на краі бярозавага балота, там, дзе ледзь не круглы год цвякае пад нагамі іржавая вада». Яго нікім не дагледжаная магіла даўно зарасла дзірваном і зраўнялася з балотным пяском. Гэта таксама недвухсэнсоўны паказчык сапраўдных адносін нашых людзей да здраднікаў.

Дык што ж турбавала Чыгрынава? Ён напісаў пра чалавечую трагедыю старой Матруны Рэйдзіхі, якая, праз шэраг гадоў знайшоўшы закінутую магілу Яшкі, аплаквае не паліцая, а сына. Па сыне ж, які б ён ні быў, матчына сэрца баліць заўсёды. Такая ўжо ў людзей псіхалогія, нескажона адлюстраваная пісьменнікам.

Вядома, гэта агульначалавечы, а не вузкакласавы падыход. Для нашай ідэалагізаванай літаратуры ў 1960-я гады ён быў яшчэ нязвыклы. Чыгрынаў адважыўся парушыць тую нязвыкласць, бо разумеў, што вузкакласавымі меркамі, якія на першы план вылучалі нянавісць, цывілізаванае грамадства пастаянна жыць не можа. Ды пісьменнік зусім не адмаўляў і заканамернасць нянавісці ў перыяд барацьбы з гітлераўцамі. Паказаў жа ён, што пацярпелыя ад карнікаў жыхары спаленай фашыстамі беларускай вёскі Бароўка тады, у віхуры вайны, «праклінালі на чым свет стаіць і немцаў, і здрадніка [Яшку], і маці, якая нарадзіла яго». І гэта адпавядала праўдзе свайго часу.

Але жыццё на месцы не стаіць. Яно няўхільна змяняецца, уносячы свае папраўкі-карэктывы ў людскія ўзаемадачыненні. Так адбылося і з героямі чыгрынаўскага апавядання «У ціхім тумане». У ім пастаўлена і рознабакова асэнсоўваецца праблема гневу і літасці ва ўзаемаадносінах былых ахвяр і здраднікаў Радзімы. Здраднікі, паўтару яшчэ раз, ніяк не апраўдваюцца, іх злачынствы не рэабілітуюцца, не выдаюцца за дабро ці за нейкую дробязь, вартую хутчэйшага забыцця. Але вастрыня нянавісці калі не да саміх здраднікаў, якім даравання, вядома, няма, дык да іхніх сваякоў, блізкіх ім людзей, — гэтая вастрыня з цягам часу прыглушаецца, гнеў саступае месца літасці, вытлумачальная ў сваім часе нецярпімасць змяняецца разуменнем і нават спагадай, за якою стаіць высакародства добрых людзей. Так па законах чалавечнасці вядуць сябе чыгрынаўскія героі, у прыватнасці Тараськова Ганна, вобраз якой для разумення праблематыкі твора вельмі важны.

Ганнінага бацьку павесілі немцы, а ім з-за старых крыўдаў зларадна дапамагаў і Яшка-паліцай. Дык Ганна пэўна ж была сярод тых, хто тады праклінаў і карнікаў, і іхніх прыслужнікаў, усё, як тады казалі, паліцэйскае кодла. Але прайшлі гады. Самога здрадніка, які атрымаў па заслугах, даўно няма на свеце. Таму ўжо можна па-чалавечы паставіцца і да ягоных сваякоў, у тым ліку да маці, вінаватай міжвольна толькі тым, што яна нарадзіла хлопца, які стаў паліцаем, не пытаючыся згоды ў яе.

Важна таксама, што Ганна ўспрымае Рэйдзіху як старую, нямоглую жанчыну, моцна патрапаную жыццёвымі нягодамі. Гэтая акалічнасць прыкметна падкрэсліваецца ў апавяданні: «Згорбленая, маленькая Рэйдзіха стаяла перад Ганнай босая — ногі былі парэпаныя, з пакручанымі пальцамі, як у вялікай птушкі, скінутай аднекуль з гнязда: яна цяпер чаплялася сваімі кіпцюрамі, каб перастаць нарэшце падаць, неяк затрымацца хоць тут, на зямлі». Увогуле, яна выглядае «як падстрэленая варона». У Рэйдзіхі «зусім ужо стары, збляклы» твар, спаласаваны рубцамі маршчын. І сама яна, нібы молячыся, шэпча без разліку на старонняе вуха: «Прытаміліся мае ножачкі, апускаюцца мае ручачкі, баліць маё ўсё цела... Пара спакой даць старым касцям...»

Зразумець матчын боль Рэйдзіхі, яе чалавечую трагедыю дапамагае Ганне і тое, што яна, акрамя бацькі, страціла яшчэ аднаго вельмі блізкага чалавека, свайго мужа, які дачасна загінуў на вайне. «Адна пяклуюся», — скрушліва зазначае Ганна. Так і нараджаецца ўжо спачуванне жанчыны да жанчыны. Дарэчы, яно хоць увогуле і ідавочнае, але не зусім адназначнае, суправаджаецца часам і супярэчлівымі рухамі душы. Прыгадаю, што Ганна спачатку глядзіць на Рэйдзіху з прыкрасцю і здзіўленнем, «як на прывід які» (у вёсцы Бароўка, дзе адбываюцца падзеі, старая не паяўлялася ўжо трыццаць гадоў і сведкай Яшкавых злачынстваў не была). Таму і стаяла яна (Ганна), «бы скамянелая, і не ведала, што рабіць. Надта ўжо нечакана выйшла гэта сустрэча».

Рэйдзіха таксама «больш за ўсё на свеце» баялася, што «людзі пачнуць гаварыць пра яе сына», ужо даўно мёртвага. Яна стараецца быць дагодлівай, усмешка перад Ганнай у яе атрымліваецца «палахлівая і вымушаная». Так што складанасці сітуацыі Чыгрынаў ніяк не абмінае. Але разам з тым ён дае нам ясна зразумець, што ў Ганнінай здольнасці, пераступаючы праз свае крыўды, адчуць чужую бяду і адгукнуцца на яе выяўлялася дабрыня нашых людзей, іх чалавечнасць, якую падтрымлівае і хрысціянская рэлігія. Яна, як вядома, бачыць у дараванні грахоў бліжняму бясспрэчную дабрачыннасць.

Тады, як пісалася апавяданне Чыгрынава, наша афіцыйная ідэалогія рэлігійны падыход адмаўляла, лічыла яго заганным. І таму празаік сваю сугучнасць з гэтым падыходам не афішыраваў. Але сёння яна, тая сугучнасць, заўважаецца выразна.

Пісьменнік наогул умеў бачыць жыццё ў яго складанасці. І гэта не толькі кладзе адбітак на пачуцці Ганны, але праглядвае і ў асобных пейзажных штрыхах, якія ўспрымаюцца як яшчэ адзін напамінак пра вайну, яе трагічнасць і крывавасць: «Яшчэ кідала сваю чырвань нябачнае ўжо сонца. І таму здавалася, што яно крывавіць». Вядома, гэта яўны водсвет ваеннага часу, яго кровапралітнасці.

Выразная настраёвасць, якая ўзмацняе эмацыянальнае гучанне твора, ёсць і ў іншых пейзажных мазках: «На ўсходзе па чыстым небе, толькі што

адарваўшыся ад зямлі, узбіралася ўгору сонца. Але яно было нейкае цяжкое, бы перагружанае чым, і амаль не праменілася.

Вёска як драмала яшчэ». Каб заўважыць усе такія нюансы і адценні, трэба быць не толькі назіральным чалавекам, але і добрым мастаком, здольным ажывіць пейзажныя малюнкі, прымусіць іх выпраменьваць паэтычнае святло. Яно вельмі адчувальнае і ў апісанні ранішняга туману, выкананым з філіграннай тонкасцю: «Туман яшчэ не паспеў зусім асесці, хоць на вёсцы яго і не было ўжо. Затое над возерам ён плаваў як абястлушчанае малако: то паднімаўся, паказваючы цёмнае люстра вады, то апускаўся заслонаю, хаваючы ўсё ад вачэй. Лес, што падступаўся да возера з другога боку, здавалася, калыхаўся, стоячы на воблаках».

Гэтая хісткасць, у нечым і прывіднасць, а ўжо зменлівасць дык бясспрэчна, паяўляюцца тут невыпадкова. Яны добра акцэнтуюць істотную для разумення твора рухомасць жывога жыцця, адсутнасць у ім застылай аднастайнасці, якая не можа заўсёды панаваць ні ў прыродзе, ні ў людскіх стасунках.

Канкрэтную фактуру многіх эпізодаў, пейзажных малюнкаў у тым ліку, пісьменнік часта браў з рэчаіснасці. У апісанні Бароўкі з апавядання «У ціхім тумане» ўгадваюцца некаторыя прыкметы Вялікага Бору — роднай вёскі аўтара. Словам, хораша пісаў Чыгрынаў, па-майстэрску адшліфоўваў у сваіх творах, асабліва ў апавяданнях, усё. Таму так натуральна, непрэтэнцыёзна, як бы само сабой разгортваецца ў іх змястоўнае сюжэтнае дзеянне, праз якое рэалізуецца задума твора, яго пафас, так натуральна жывуць, думаюць, спрачаюцца і спачуваюць адзін другому чыгрынаўскія героі.

Усе прыкметы класічнасці ёсць у апавяданні з эпічна ёмістай назвай «Ішоў на вайну чалавек». Яно напісана яшчэ ў 1963 годзе, але таксама і да сённяшніх дзён ніколькі не страціла сваёй эстэтычнай важкасці. Цэнтральнае месца ў творы займае ярка выпісаны вобраз шчырага вясковага працаўніка Ігната, чалавека звычайнага, але вельмі паважанага з-за ягонай дабрыні, спагадлівасці і душэўнай далікатнасці. Малюючы гэты вобраз эканомнымі, але трапнымі фарбамі, пісьменнік дасягае глыбокага пранікнення ў беларускую народную псіхалогію. З высокім майстэрствам паказвае ён лепшыя яе рысы, вельмі натуральна разгортваючы нескладаны падзейны сюжэт.

Сітуацыя ўзята для ваенных часоў не выключная, а хутчэй звыклая, будзённа-простая: вёску пакідае згаданы селянін Ігнат. Гэта апошні сапраўдны мужчына з той вёскі. Раней ён не быў мабілізаваны на вайну з-за хворай нагі. Цяпер яна паправілася. І трэба чалавеку ісці ваяваць. Пра гэта з усёй неаспрэчнасцю нагадвае лаканічная ваенкаматаўская павестка, якую Ігнат

прымае як належнае, хаця добра ўсведамляе, што «на вайну ісці — не жыта малаціць». Пакідаючы жонку Анюту з двума дзецьмі, ён толькі шкадуе, што за апошні дзень не зможа зрабіць усё тое мноства неадкладных спраў, да якіх за звыклымі гаспадарскімі клопатамі раней так і не дайшлі яго працавітыя рукі. З асаблівай вастрынёю пачынае Ігнат адчуваць цяпер усё навакольнае, мусіць, падсвядома ўлоўліваючы, што, магчыма, ужо больш ніколі не ўбачыць някідкае хараство роднага свету.

І яшчэ застаецца ў Ігната ноч развітальнага кахання з жонкай. Яно пададзена ў цнатліва-ўзвышаным ключы, без той натуралістычнай аголенасці, якая ўсё больш запалоньвае сучасную літаратуру, даходзячы ў некаторых аўтараў і ледзь не да адкрытай парнаграфічнасці. У апавяданні Чыгрынава самыя інтымныя падрабязнасці ўвогуле тактоўна апушчаны. Але моцны сваёй жыццёвасцю эпізод напісаны так, што мы выразна адчуваем усю не растрачаную за дзесяць шлюбных гадоў сардэчнасць узаемадачыненняў мужа і жонкі, іхнюю пяшчотнасць, абвостраную вельмі блізкім, ужо ранішнім, расстаннем: «Ігнат спачатку доўга цалаваў змакрэлы ад слёз жончын твар, адчуваючы, як налівалася млявай пяшчотаю цела, пасля падхапіў яе на рукі — якая яна ў яго лёгкая! — і, асцярожна ступаючы, панёс па сходках.

На шырокім выгане, што быў паміж полем і гародамі, усімі фарбамі лета пахла ў копах лугавое сена».

Зусім скупы пейзажны штрых, што завяршае эпізод, інтуіцыяй мастака дасканала выверaны і таму так шмат гаворыць пра пачуцці герояў. Бо гэта менавіта ім, Ігнату і Анюце, асабліва моцна пахла лугавое сена на тым выгане, дзе яны кахаюцца, хутчэй за ўсё, апошні раз — з найцяжэйшай вайны супроць гітлераўцаў, на якую ішоў Ігнат, вярталіся вельмі ж нямногія яго равеснікі.

Хораша гучыць магутны заключны акорд апавядання, яшчэ раз нагадваючы і пра сапраўдную павагу вяскоўцаў да Ігната, і пра натуральнасць учынкаў, думак і пачуццяў яго самога і ягонай жонкі, і пра разуменне людзьмі таго, што яго чакаюць вялікія выпрабаванні, ухіліцца ад якіх чалавек не можа, не мае права: «Праводзіць Ігната ўранні сабралася ўся вёска. А Ігнат быў спакойны, як зямля пасля дажджу, і нават жартаваў, хоць гэта яму не кожны раз і ўдавалася. Не спяшаючыся, ён абыходзіў па адным сваіх аднавяскоўцаў, трос ім рукі і сарамліва чырванеў: яму было трохі не па сабе ад таго, што праз яго да коўрат сабралася столькі народу. Жонка больш не плакала. І гэта падабалася Ігнату. І толькі пасля таго, як ужо развітаўся з усімі і пайшоў, паскараючы крок, па дарозе, ён пачуў за спіною немы плач. Бабы суцяшалі жонку, пацiху перагаворваліся і не пераставалі глядзець на дарогу, па якой ішоў на вайну яшчэ адзін чалавек».

За эпічнай важкасцю і стрыманай прастатой такіх бездакорна выпісаных малюнкаў з моцна скандэнсаванай унутранай энергіяй ужо ўгадваецца дыханне раманнай прозы. Зрэшты, далёка не кожны раман, прынамсі, з тых, што пісаліся ў нас у 1960-я гады, нёс у сабе столькі праўды пра чалавека, яго душэўнае высакародства, колькі ўмясціла яе невялікае апавяданне Івана Чыгрынава. У ім жа, акрамя ўсяго іншага, дакладна адлюстравана і дзіцячая псіхалогія, без знарочыстага падкрэслівання, але выразна паказана наіўнасць Ігнатавага сына, яшчэ хлапчука. Ён, даведаўшыся, што бацька ідзе на вайну, узрадаваўся, бо па сваім малалецтве яшчэ не разумеў, што менавіта для радасці тут менш за ўсё падстаў. Але ж дзеці застаюцца дзецьмі.

Логіку і псіхалогію дзяцей Іван Чыгрынаў адчуваў вельмі глыбока і дасканала выявіў не толькі ў апавяданні «Ішоў на вайну чалавек», але і ў іншых сваіх творах рознай жанравай прыналежнасці. Ён з бацькоўскай пяшчотнасцю любіў дзяцей, нярэдка хваліўся дзвюма сваімі дочкамі, якія закончылі сярэднюю школу кожная з залатым медалём, і асабліва ганарыўся ўнукам Іванам, які і знешне падобны на свайго славутага дзеда-пісьменніка, і некаторыя рысы ягонага характару атрымаў разма з дзедавымі генамі. Яны ж ідуць, як сцвярджаў Іван Гаўрылавіч, не ад мужыцкіх каранёў, а ад далёкага ажно ў шостым калене (для ўнука ўжо і ў сёмым) продка з панскага роду. Чыгрынаў называў і прозвішча таго панскага продка. Ды гэта ўжо іншы сюжэт, нагода для іншай размовы. Цяпер жа хіба дадам яшчэ тое, што ў пісьменніцкім асяроддзі вострыя на язык жартаўнікі трохі пасмейваліся з панскай радаслоўнай Івана Гаўрылавіча і не без намёку на яе ахрысцілі яго, трэба сказаць, ганаровай мянушкай «Святлейшы» — пад самога князя Пацёмкіна, які ў Крычаве збудаваў для сябе адмысловы палац. Ад Крычава ж да касцюковіцкага Вялікага Бору, у якім нарадзіўся Чыгрынаў, адлегласць яўна не касмічная...

*2000 г.*





# МАСТАЦКІ СВЕТ ІВАНА ЧЫГРЫНАВА

Так зазначаў пра Івана Чыгрынава Алесь Пісьмянкоў — «пісаць для яго азначала жыць». Ужо на схіле сваіх зямных дзён Іван Чыгрынаў, падсумоўваючы вынікі зробленага, казаў: «Літаратура стала маім жыццём, маім лёсам, маёй справай, вялікай справай». І ў яго шчырых словах не было перабольшвання: пісьменнік самааддана, з душэўнай апантанасцю, уласцівай выдатным мастакам, працаваў у літаратуры трыццаць пяць гадоў. Ён вызначаўся глыбінёй разумення часу і чалавека, рознабаковасцю творчых інтарэсаў і жанравых схільнасцей. Мастацкая проза ад кароткага апавядання да рамана з эпапейным замахам, драматычныя творы ад сцэнічнага абразка да поўнаметражных п'ес у выглядзе звыклай драмы і нязвыклага трагічнага гратэску, публіцыстыка ад дзённікавых занатовак і падарожных нататак да палымянага выступлення супраць чыноўніцкай абыякавасці ў дачыненні да ахвяр чарнобыльскай катастрофы, літаратурная крытыка ад невялікага настраёвага эсэ да грунтоўнага, канцэптуальна-заглыбленага артыкула з шырокім ахопам мастацкіх з'яў — усё гэта так ці іначай было падуладна пісьменніку, склала яго важкі творчы набытак, істотны для ўсёй беларускай літаратуры і ў яе барацьбе за праўду і чалавечнасць, і ў яе руху да эстэтычнай дасканаласці. Дапытлівая думка мастака, узброенага яркім адметным талентам, вялікай эрудыцыяй і моцным грамадзянскім тэмпераментам, свабодна сягала ад трапяткой сучаснасці да поўных драматызму старонак нашай шматпакутнай гісторыі. Але галоўнай падзеяй для чалавечага і пісьменніцкага лёсу Чыгрынава стала, як ён сам казаў, Айчынная вайна, сустрэтая ім ва ўражлівым дзіцячым узросце. Менавіта з глыбінным адлюстраваннем жыцця, подзвігу і трагедыі народа ў гэтыя вогненныя гады звязаны самыя значныя чыгрынаўскія дасягненні ў літаратуры, па справядлівасці ўшанаваныя званнямі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі (1974) і народнага пісьменніка Беларусі (1994), ганаровага доктара БДУ (1995).

Нарадзіўся Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў 21 снежня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна. Сям'я таксама была вялікая — мела ажно васьмёра дзяцей. Іх расціла галоўным чынам маці, Хадоска Ігнатаўна, з якой Іван Гаўрылавіч, зноў жа паводле ягонага сведчання, пісаў вобразы верамейкаўскіх жанчын у сваіх раманах пра Айчынную вайну.

Бацька больш займаўся грамадскімі справамі. Да вайны ён быў старшынёю сельсавета. З набліжэннем гітлераўцаў падаўся за лінію фронту. Ваеннае ліхалецце перажыў, але да сям'і не вярнуўся. У чыгрынаўскай аўтабіяграфіі пра гэта адна кароткая фраза: «Бацьку мы з вайны да сябе не дачакаліся». Сказана па сутнасці дакладна, але знарок прыглушана, так, каб толькі ўдумлівы чытач мог здагадацца пра вялікую асабістую драму пісьменніка, якому, відаць, вельмі балюча было дакранацца да незагойнай душэўнай раны...

Затое матчыну ролю ён падкрэсліваў з усёй катэгарычнасцю: «Я ўсім у жыцці абавязаны маці». Святая праўда, якую ўслед за Чыгрынавым маглі б паўтарыць многія з ягоных равеснікаў і трохі старэйшых сучаснікаў.

І яшчэ адна цытата з той жа аўтабіяграфіі: «Пасляваеннае жыццё ў нашых пясчаных і неўрадлівых мясцінах было цяжкае. Ды яно, як высветлілася для мяне потым, і ўсюды не песціла людзей. Ніяк не выходзіць з галавы шмат гадоў, напрыклад, такая карціна: ужо студэнтам універсітэта прыязджаю ў вёску і бачу, як выносіць з паўпустой хаты падатковы інспектар за нядоімкі нашу швейную машынку...»

Гэткую праўду пра той час яшчэ доўга не пускалі ў літаратуру. Чыгрынаў жа, стаўшы пісьменнікам, будзе зноў і зноў вяртацца да пакутлівага жыцця вяскоўцаў, выклікаючы нараканні і злосныя нападкі афіцыёзных артадоксаў.

Ды ўсё гэта адбудзецца значна пазней. А пакуль што ён канчаў Вялікаборскую сямігодку, а потым сярэднюю школу ў Саматэвічах, дзе намнога раней вучыўся і Аркадзь Куляшоў, якога Чыгрынаў асабіста ведаў яшчэ ў свае школьныя гады. Творчасць славутага земляка, арганічна звязаная з роднымі мясцінамі, па словах Чыгрынава, рабіла на яго асабліва моцнае ўражанне, «вучыла разумець літаратуру і надавала смеласці пісаць самому».

Пачынаў Чыгрынаў сваю пісьменніцкую працу, як, мусіць, і амаль што ўсе літаратары, з вершаў, якія друкаваліся ў раённай газеце, а таксама ў абласной «Магілёўскай праўдзе». «Іх Куляшоў чытаў. І яны падабаліся яму», — зазначаў Іван Гаўрылавіч у адным з апошніх інтэрв'ю.

У 1952 годзе Чыгрынаў паступіў у БДУ на філфак (аддзяленне журналістыкі), пасля заканчэння якога займаўся рэдактарскай працай у выдавецтве рэспубліканскай Акадэміі навук і ў часопісе «Полымя» (1957—1975). Больш за дзесяць гадоў (1975—1986) працаваў у кіраўніцтве Саюза пісьменнікаў

Беларусі, спачатку на пасадзе намесніка старшыні, а потым сакратара праўлення. З 1987 года і да канца свайго жыцця, якое абарвалася 5 студзеня 1996 года, узначальваў Беларускі фонд культуры. Быў таксама галоўным рэдактарам часопіса «Спадчына», выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР адзінаццатага склікання, у якасці старшыні пастаяннай дэпутацкай Камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах шмат зрабіў для таго, каб беларуская мова атрымала ў рэспубліцы статус дзяржаўнай.

Сталай літаратурнай працай Чыгрынаў заняўся крыху пазней за сваіх універсітэцкіх равеснікаў. Будучы студэнтам, ён яшчэ зрэдку публікаваў вершы, а на сур'ёзную мастацкую прозу, у якой знайшоў сваё прызванне, адважыўся толькі ў пачатку 60-х гадоў. У 1961 годзе ён у газеце «Літаратура і мастацтва» надрукаваў апавяданне «Праз гады», якое лічыў сапраўдным пачаткам сваёй пісьменніцкай працы. У гэтым творы ўжо выразна выявіліся прыкметы сталага чыгрынаўскага майстэрства. Акрылены ўдачай, пісьменнік працягваў працу над новымі апавяданнямі, якія потым увайшлі ў кнігі «Птушкі ляцяць на волю» (1965) і «Самы шчаслівы чалавек» (1967).

Чыгрынаў абараняў апавяданне і тэарэтычна, даводзіў яго «раўназначнасць з іншымі жанрамі» прозы і нават сцвярджаў, што гэты жанр «найбольш цяжкі, бо патрабуе не толькі руху думкі і пачуцця, але і завершанасці іх у дужа нешырокім разгарненні». І яшчэ: «Апавяданне, асабліва ў яго мініформах, дысцыплінуе мастака ідэйна і эстэтычна, не дае думцы бескантрольна і бязмежна расплывацца "па дрэве жыцця". Тут слова не патанае ў розных прыёмах пралогаў, аўтарскіх адступленнях, інтэрмедый, эпілогаў, што дазваляюць сабе аповесць і раман, а яно ўсё на віду, усё працуе на галоўную канцавую мэту, дзеля якой апавяданне пішацца. Можна звярнуцца да каго хочаце з прызнаных у літаратуры майстроў, каб пераканацца, што яны адштукоўвалі (па-руску кажучы, "отрабатывали") сваё валоданне вобразным словам менавіта ў жанры апавядання. Гэта адчувалі яны для сябе абавязковым, каб авалодаць усё новымі вышынямі чалавеказнаўства, раскрыцця асабістага душэўнага вопыту, уменнем мысліць (не думаць толькі, а мысліць!) вобразна і па-філасофску. Часам нават найперш па-філасофску!»

Разважанні вельмі слушныя і пераканальныя, заснаваныя на ўласным творчым вопыце аўтара.

Пра заслугі Івана Чыгрынава ў развіцці беларускага апавядання ўпэўнена выказваўся зямляк пісьменніка — вядомы паэт Масей Сяднёў: «Здаецца, упершыню ў беларускай літаратуры чытаю такія дасканалыя апавяданні. У жанры апавядання я гатовы паставіць Івана Чыгрынава на першае месца, залічыць яго да ліку нашых класікаў. Апрача артыстызму, я вывучаю ў ім і наша, нацыянальнае — філасофію, псіхіку, быт, норавы нашага народа.

Да гэтага імкнуўся Кузьма Чорны, але шмат сваіх твораў ён папсаваў, намагаючыся задаволіць партыйныя вымогі ў літаратуры.

У малым жанры, у жанры апавядання, Іван Чыгрынаў незраўнаны. У гэтым жанры, думаецца, ён больш дасканалы, чым у жанры эпапеі».

Зайздросна высокая ацэнка. І лепшыя чыгрынаўскія апавяданні ўпаўне апраўдваюць яе.

Тады, як стала паяўляцца ў друку малафарматная проза Чыгрынава, у нашай літаратуры ішло прыкметнае абнаўленне — яна хоць і патроху, са скрыпам, але вызвалялася ад яўнай алілуйшчыны, карыслівай лакіровачнасці і знарочыстага прыхарошвання нашай незайздроснай рэчаіснасці. Чыгрынаўскія апавяданні актыўна працавалі на гэтае абнаўленне і таму адразу апынуліся ў цэнтры літаратурнага працэсу. Іх горача абаранялі прыхільнікі новага і не менш заўзята атакавалі закамплексаваныя дагматыкі, якія ў ягоных творах шукалі ідэйныя заганы і палітычны крымінал, хоць на савецкую таталітарную сістэму, прынамсі, на яе галоўныя асновы, Чыгрынаў ніколі не замахваўся.

Пісьменнік як мог бараніўся ад несправядлівых наскокаў. Найбольш дапамагаў яму моцны мастакоўскі талент, які і выводзіў на перспектыўныя літаратурныя шляхі, дазваляў ствараць творы, якія на фоне тагачаснай літаратуры ўспрымаліся як мастацкае адкрыццё.

Давяраючыся свайму таленту, пісьменнік смела заглыбляўся ў рэальнае жыццё добра вядомых яму людзей, засяроджваў увагу на складаных праблемах рэчаіснасці. Ён праўдзіва, з жывой зацікаўленасцю маляваў змястоўныя ў сваёй чалавечай сутнасці, псіхалагічна ёмістыя і па-мастацку пераканальныя характары зусім не модных тады літаратурных герояў. Сярод іх — адзінокая ўдава, муж якой загінуў на фронце, а дачка, выйшаўшы замуж, падалася з вёскі («Жыве ў крайняй хаце ўдава»), працавітая жанчына Усцілля, якая мела ажно сямёра сыноў, а цяпер таксама жыве адзінока, бо трое з іх у розны час загінулі, а тыя, што засталіся жыць, раз'ехаліся па гарадах («Адна»), яшчэ адна вясковая працаўніца Аўгінка, якая па просьбе сына, што служыць у войску, едзе да гарадской нявесткі з жаданнем хоць трохі памагчы ёй, а тая адразу пачынае коса глядзець на свякруху («У горад»).

Нялёгкая доля і гарачлівага Янкі Галкоўскага, абвінавачанага ў замаху на забойства, хоць ён толькі паспрабаваў бараніць маці ад раз'юшанага чыноўніка, які ўзяўся бурыць печ у зямлянцы няшчаснай жанчыны (апавяданне са шчаслівым, яўна прыгладжаным канцом «Плывун»). Пасля доўгай валакіты Янку ўсё ж апраўдалі (знайшоўся вельмі сумленны следчы, які добра ведаў усе хітрыкі сваіх калег), але напакутавацца яму давялося багата. Пра ягонае жыццё ў вёсцы, яшчэ да арышту, выразна гаворыць такая дэталь: «Кармілі ў турме. Гэта таксама нешта значыць. Дома можна было рубіць хату цэлы дзень і не паесці, а ў турме палажана было карміць».

У апавяданні «За сто кіламетраў на абед» перад чытачом таксама паўстаюць галодныя вясковыя падлеткі, якія едуць у вельмі няблізкі дзетдом прасіць абеду.

Не асабліва эфектна выглядае і Палага з апавядання «Птушыныя сны», жанчына зноў жа працавітая і клапатлівая. Яна хоча мець нармальнае чалавечае жыццё. А яго няма. Бо ў дадатак да ўсяго для Палагі і яе равесніц у вёсцы не было жаніхоў. Яны «засталіся дзе толькі змаглі» — адны на Зяелаўскіх гарбах [пад Берлінам], другія на Венгерскай раўніне, а трэція... Трэція хоць і вярнуліся з вайны, але ў Бары не прыехалі...» Вось і мэнчыцца Палага ды раджае дзяцей ад каго выпадзе. «Яна нарадзіла дваіх яшчэ ў Барах, а трэцяга, якраз таго, што цяпер ляжаў пакалечаны, — ужо тут, у Зацішшы, і ніхто не ведаў, ад каго былі ў яе дзеці. Затое ўсе ведалі маці гэтых дзяцей...»

Грубая, непрывабная проза? Але літаратура, якая грэбліва пазбягае прозы жыцця, а займаецца яго лакіроўкай, далёка небяскрыўдным у сваёй падманлівасці прыхарошваннем, ці мае права называцца сапраўднай літаратурай? У тым і справа, што праз непрыхарошаныя пакручыстыя лёсы герояў з лепшых чыгрынаўскіх апавяданняў добра праглядвалася народнае жыццё тых часоў, жыццё цяжкое, складанае, з многімі нявырашанымі праблемамі, чалавечым болем і неўладкаванасцю.

Ужо тады Чыгрынаў дакранаўся да трагедыі ахвяр сталінскага тэрору (апавяданне «Народны камісар») і вельмі праўдзіва ўзнаўляў асобныя трагічныя эпізоды з часоў Айчыннай вайны. Так, у апавяданні «У баку ад дарогі» са шчымлівым болем, які адчуваецца за знешняй стрыманасцю аўтарскага пісьма, расказана пра незайздросны лёс нашых воінаў з разбітых у пачатку фашысцкага нашэсця вайсковых злучэнняў. Асабліва кранае тут смерць параненага капітана Кажанава (між іншым, у яго прозвішча чыгрынаўскага дзеда!), якога спрабавалі выратаваць цывільныя жыхары, але нічым не змаглі яму дапамагчы. Твор заканчваецца скупым, але вельмі шматзначным пейзажным штрыхом, які сведчыць пра высокае пісьменніцкае майстэрства: «Над лесам падымалася сонца. Яно было мутнае, невясёлае, быццам праплакала ўсю ноч над чалавечым горам».

Не менш ярка пісьменніцкія магчымасці Чыгрынава выявіліся ў выдатным апавяданні «Ішоў на вайну чалавек» (1965). Багата асабіста перажытага ўклаў Чыгрынаў і ў апавяданне «На пыльнай дарозе». Уласная драма пісьменніка, які пры жывым бацьку рос сіратой, угадваецца тут найперш у драматычнай абвостранасці перажыванняў Васілька Шасцярнёва, якога бацька, як і ў Чыгрынава, былы старшыня сельсавета, ужо вярнуўшыся з вайны, разам з іншымі дзецьмі «баязліва пакінуў у нястачы», пакінуў дзеля кар'еры, якой так і не здолеў зрабіць.

З апорай на асабіста перажытае звязана таксама глыбіня ў адлюстраванні дзіцячай псіхалогіі і дакладнасць многіх нявыдуманых дэталяў, якія скрозь сустракаюцца і ў многіх іншых апавяданнях пісьменніка. Дзеянне ў іх нярэдка «прывязваецца» да родных для аўтара мясцін, увогуле да паўднёва-ўсходняга кутка Магілёўшчыны, выразным каларытам якой афарбавана і мова Чыгрынава. Яна ўжо ў апавяданнях набывала эпічную важкасць, прыкметную ў самой інтанацыі фразы, у яе свабодным дыханні, характэрным для твораў добрых майстроў.

Заўважаецца ў чыгрынаўскіх апавяданнях і нежаданне націскаць на знешні, пераважна падзейны драматызм, знарок ускладняць сюжэтнае дзеянне, як гэта звычайна робяць пісьменнікі з рамантычным бачаннем свету, са схільнасцю да прыгодніцка-дэтэктыўнага пісьма. Чыгрынава ж і ў ягоных апавяданнях больш вабіў драматызм унутраны, скрыты ў штодзённай плыні жыцця, якое ў шэрагу твораў падавалася шматпланава, у align=розгнабаковых сувязях. Такая арыентацыя таксама выводзіла пісьменніка на вялікую, раманную прозу. Але шлях да яе ўскладнялі несправядлівыя разносы, якія ў 1960-я гады абрушваліся на Чыгрынава зноў і зноў. Асабліва рэзкія нападкі з боку ідэалагічных наглядчыкаў, якія ў літаратуры больш за ўсё баяліся праўды, выклікала тады апавяданне «У ціхім тумане» (1963)...

Словам, хораша пісаў Чыгрынаў, па-майстэрску адшліфоўваў у сваіх творах, асабліва ў апавяданнях, усё. Таму так нязмушана, непрэтэнцыёзна, як бы само сабой разгортваецца ў іх змястоўнае сюжэтнае дзеянне, праз якое рэалізуецца задума твора, яго пафас, так натуральна жывуць, думаюць, спрачаюцца і спачуваюць адзін другому чыгрынаўскія героі. Яны гавораць добрай літаратурнай мовай. Яна часам аздабляецца залацінкамі ўстойлівых выразаў — фразеалагізмаў («З панскага лесу ні сена, ні палена», апавяданне «У ціхім тумане»), трапнымі параўнаннямі з шырокім абагульненым зместам («На вайну ісці — не жыта малаціць», «Спакойны, як зямля пасля дажджу», «Гаспадарка без мужчын, што тое вяселле без музыкі», «Плакала ... як па нябожчыку» — усё з апавядання «Ішоў на вайну чалавек»).

Вельмі дарэчы ўжываецца ў Чыгрынава лексіка з каларытам Магілёўшчыны («Прагнала на ранкі за пастухом карову» — «У ціхім тумане»; «Каб жа знаццё», «Рушылі яны па загароддзю», «Да коўрат сабралася столькі народу» — «Ішоў на вайну чалавек»). У слоўніках, што выдаваліся або перавыдаваліся ў апошнія гады, большасць гэтых слоў з яўнай магілёўскай прывязкай ужо фіксуецца. Гэта значыць, што яны атрымліваюць правы грамадзянства ў агульналітаратурнай мове, хоць магілёўскага каларыту ад гэтага канчаткова не страчваюць. Толькі слова «коўраты» пакуль, здаецца, як агульная норма не ўзаконена. А яно абазначае вароты з жэрдак, што зачыня-

юць уваход на двор з боку вуліцы ці агарода. Даволі шырока выкарыстоўваў пісьменнік лексіку Магілёўшчыны ўжо ў дыялектных варыянтах у мове герояў свайго раманнага цыкла.

Пісаць першы раман Іван Чыгрынаў рашыўся ўсяго пасля дзвюх кніжак апавяданняў. І ўжо гэты раман атрымаўся з моцным эпапейным пачаткам, хаця менавіта на эпапею пісьменнік адразу не замахваўся. «Эпапея, — сведчыў ён у 1994 годзе, — вырысоўвалася паступова, хаця паступовасць гэтая ўкладвалася ў невялікі час. Але прыступаючы яшчэ да першага рамана, я быў гатовы сур'ёзна асэнсоўваць вайну».

Так нарадзіўся раман «Плач перапёлкі», у канцы 1970 года апублікаваны ў перыёдыцы, а праз два гады выдадзены і асобнай кнігай. Твор стаў значнай падзеяй у літаратурным жыцці, хутка набыў шырокую папулярнасць. Ён шмат разоў выдаваўся па-руску ў Маскве, выходзіў на мовах тагачасных савецкіх рэспублік (украінскай, літоўскай, латышскай, армянскай, малдаўскай, туркменскай) і за мяжой (у Балгарыі), а ў 1979 годзе разам з раманам «Апраўданне крыві» быў адзначаны прэстыжнай літаратурнай прэміяй імя А. Фадзеева.

Яшчэ да выхаду рамана асобным выданнем пра яго з пахвалою пісаў Іван Мележ, які вылучыў чыгрынаўскі «Плач перапёлкі» з агульнай празаічнай плыні 1970 года і звярнуў увагу на ўменне маладзейшага калегі «ствараць аб'ёмныя вобразы людзей» у сапраўды эпічным творы, адзначыў тое, што аўтар намаляваў «праўдзівую, шырокую, багатую фарбамі карціну незабыўнага лета 1941 года», па-майстэрску паказаў, «як у ліхалецці першых месяцаў вайны ў асяроддзі байцоў і ўчарашніх мірных людзей выяўляюцца цвярозасць, жыццёвая стойкасць і моц духу, здольныя супроцьстаяць неймавернай бядзе».

Дружна хвалілі "Плач перапёлкі" і крытыкі. Так, У. Юрэвіч, адгукаючыся зноў жа на часопісную публікацыю твора, сцвярджаў у газеце «Літаратура і мастацтва», што Чыгрынаў ужо ў першым сваім рамане выявіў «сваю прафесійную сталасць», «сваю адметнасць як майстар аналітычнай прозы». «У рамане "Плач перапёлкі" ёсць шматбаковы ахоп рэчаіснасці і глыбокае даследаванне яе, уменне справіцца з шматпланавасцю жыцця, паказанага ў яго заўсёдным руху... Героі рамана "Плач перапёлкі"... інтэлектуальныя сваім глыбінным зместам», — зазначыў крытык, ахарактарызаваўшы ў заключэнне Чыгрынава «як мастака-мысліцеля».

Няўмольны час, які ўсё ставіць на сваё месца, не перакрэсліў гэтых ацэнак, а толькі яшчэ падвысіў іх. «Бясспрэчна, гэта адзін з лепшых твораў беларускай прозы... Празаік, якому не было яшчэ і сарака гадоў, узбагаціў нашу літаратуру шэдэўрам, па значнасці роўным лепшым раманам М. Гарэцкага,

Кузьмы Чорнага, І. Мележа», — захоплена пісаў пра «Плач перапёлкі» і Л. Дранько-Майсюк ужо ў 1998 годзе.

У рамане «Плач перапёлкі» Чыгрынаў здолеў сапраўды па-мастацку сказаць пра Айчынную вайну шмат новага, таго, што яшчэ не знайшло належнага адлюстравання ў тагачаснай літаратуры. Ён глыбока, у многім падаследчыцку асэнсоўваў матэрыял ваеннай рэчаіснасці, хоць абапіраўся ў першую чаргу на сваё ўласнае веданне той вайны, вынесенае з дзяцінства.

Для стварэння тыпізаваных мастацкіх вобразаў Чыгрынаў ахвотна выкарыстоўваў рэальныя біяграфіі вядомых людзей, у тым ліку блізкіх сваякоў, якія станавіліся прататыпамі ягоных герояў. Моцнай апорай у гэтай працы служыла і ўсеабдымная памяць народа, аб якой К. Сіманаў слушна казаў, што толькі яна ўтрымлівае ў сабе ўсю праўду вайны.

Спасцігаць глыбіні гэтай праўды дапамагалі гутаркі з многімі людзьмі, якія яшчэ жылі вайною, шматлікія сустрэчы з былымі падпольшчыкамі і партызанамі, іх камандзірамі, з кіраўнікамі антыфашысцкай барацьбы на самых розных узроўнях.

Яшчэ са студэнцкай і нават школьнай пары Чыгрынава цікавіў раслінны і жывёльны свет Беларусі, яе гісторыя, асабліва гісторыя Магілёўшчыны ўвогуле і родных мясцін у прыватнасці, наш фальклор. Веданне ўсяго гэтага аблягчала працу над раманамі. Цяпер жа ён грунтоўна вывучаў партызанскія справаздачы і іншыя архіўныя матэрыялы, неабходныя для «Плачу перапёлкі» і ў яшчэ большай меры для наступных раманаў, успаміны, прысвечаныя ваенным гадам, і, вядома, мастацкую літаратуру пра Айчынную вайну.

Але якраз гэтая літаратура мала задавальняла пісьменніка. Многае ў ёй яму здавалася выдуманым, павярхоўна-прыблізным. Затое яна ўмацоўвала перакананне, што ён зможа «напісаць свой раман пра вайну», які не будзе паўтараць тое, што ўжо сказана іншымі. І толькі «Вайна пад стрэхамі» А. Адамовіча ды «Людзі на балоце» І. Мележа аказвалі на Чыгрынава непасрэдны станоўчы ўплыў як своеасаблівыя арыенціры ў пісьменніцкай працы. «Адамовіч вабіў сваім падыходам да вайны, а Мележ паказаў, што вось так, такой мовай, такім стылем, выкарыстоўваючы жывую гаворку герояў, можна пісаць раман», — падкрэсліваў празаік.

Мележаўская традыцыя ў яго раманнай прозе адчуваецца найбольш моцна. І выяўляецца яна не толькі ў эстэтычна апраўданым выкарыстанні дыялектнай мовы ў гаворцы герояў, але і ў рэалістычнай грунтоўнасці самой апавядальнай манеры, ва ўменні даследаваць глыбінныя токі і плыні народнага жыцця ў пераломны перыяд гісторыі.

У такія часы жыццё, няпростае заўсёды, надзвычай ускладняецца, пачынае ісці крутымі зігзагамі, рэзка абвастраючы свае драматычныя і трагедый-

ныя пачаткі. Але Чыгрынаў, звяртаючыся да паваротных часоў, спецыяльна не засяроджваў увагу толькі на іх драматызме і трагічнасці, а, наадварот, імкнуўся да паказу ўсёй магчымай паўнаты жыццёвых праяў і на крутым гістарычным зрэзе. Ён неаднойчы падкрэсліваў, што папярэдняя літаратура пра вайну звычайна пісала, як людзі ваююць. Сам жа ён лічыў патрэбным адлюстраваць і тое, як яны жылі і ў ваеннай віхуры. «У мяне чалавек хутчэй не на вайне, а ў вайне. Яна даставала ўсіх. А жыць усё роўна трэба было. І людзі жылі пры той жа акупацыі. Куды ім было дзецца? Пра гэта я і пішу. Пішу не так, як раней пісалі многія, а так, як было», — зазначаў Іван Гаўрылавіч ужо на схіле сваіх дзён. Гэтая ж думка гучала і ў ягоным інтэрв'ю 1994 года: «Людзі не толькі ваявалі. Яны яшчэ і проста жылі, думалі пра жыццё і смерць, пра дабро і зло, пра каханне і абавязак. Гэта паўната існавання была вынікам нястрачанай чалавечнасці перад наяўнасцю бесчалавечнасці, якую ўвасабляў фашызм».

Раман «Плач перапёлкі» храналагічна ахоплівае толькі два першыя месяцы вайны. Для краіны ў цэлым яны, тыя месяцы, былі аглушальна-трагічнымі, але на ўсю моц яшчэ не закранулі вёску Верамейкі, да якой сцягваюцца галоўныя падзейныя вузлы ў «Плачы перапёлкі» і ў іншых чыгрынаўскіх раманах. Дарэчы, такая вёска рэальна існуе на ўсходняй Магілёўшчыне — у Чэрыкаўскім раёне. Але празаік запазычыў ад яе толькі назву. Пісаў жа ён пра свой Вялікі Бор і ягоных жыхароў, якія станавіліся прататыпамі літаратурных герояў. І на пачатку вайны гэтыя героі яшчэ не зведалі ўсіх яе жахаў, хаця агульны трагедыйны фон ваеннага ліхалецця ўжо ў «Плачы перапёлкі» адчуваецца выразна.

Праўда, аўтар непасрэдна не паказвае разгром савецкіх армій улетку сорак першага года, не піша падрабязна пра цяжкія баі, што вяліся на велізарнай тэрыторыі, а калі згадвае пра іх, дык у агульных рысах і пераважна рэтраспектыўна, праз не асабліва дэталізаваныя ўспаміны вайскоўцаў, што прабіваліся з акружэння.

Такі падыход дыктаваўся самой біяграфіяй пісьменніка, тым, што ў яго не было асабістага ведання вайны франтавой, без якога больш-менш пераканальна напісаць пра яе ва ўсіх падрабязнасцях было вельмі цяжка, калі ўвогуле магчыма. Таму празаік і выбіраў іншы шлях, паказваў драматычную атмасферу пачатковага перыяду вайны праз згаданыя рэтраспекцыі, праз паяўленне ў Верамейках першых дэзерціраў, сустрэчу вяскоўцаў з танкістамі, якія ў калгасе шукаюць бензіну для запраўкі танкеткі, ды яшчэ праз клопаты раённага начальства пра тое, каб вывезці з Прыбесяддзя як мага больш матэрыяльных каштоўнасцей. Астатняе належала знішчаць. Партыйныя функцыянеры кіраваліся дырэктывай вярхоў, якая абавязвала пакідаць

ворагу «адну спустошаную зямлю». А што разам з той спустошанай зямлёю акупантам здавалі мільёны людзей, якім трэба было неяк жыць, — гэта складальнікаў дырэктывы асабліва не турбавала.

Горкая праўда часу, пра якую наша літаратура да чыгрынаўскіх раманаў так канкрэтна не пісала. Яна больш абыходзілася патрыятычнай рыторыкай. Чыгрынаў жа якраз рыторыкі імкнуўся пазбягаць. Яму важна было паказаць тую вайну, якую ён сам добра ведаў, гэта значыць вайну, убачаную вачыма звычайнага чалавека, таго мірнага жыхара, які пакутуе ад вайны і ўрэшце вымушаны ўцягвацца ў яе, хоць па звыклых нормах увогуле ваяваць не павінен. Такім чынам, гутарка ідзе пра вайну народную ў прамым сэнсе слова.

Пісьменннік выразна ўсведамляў гэтую адметнасць сваіх раманаў і ўсяляк падкрэсліваў яе. «Раман — гэта народ», — з палемічным запалам сцвярджаў ён, а закранаючы задуму «Плачу перапёлкі», казаў, што ставіў перад сабой задачу — паказаць свой «народ, расказаць пра яго, расказаць не спяшаючыся, шырока і грунтоўна, галоўнае — праўдзіва».

Адсюль ідзе выключная ўвага да народнай стыхіі, да жыцця верамейкаўцаў, гісторыі вёскі, яе побыту і ўвогуле ўсяго, што звязана з Верамейкамі. Бо тыя Верамейкі не проста галоўны падзейны асяродак у чыгрынаўскіх раманах, а, можна сказаць, цэнтр космасу, таго мастацкага свету, які стварае пісьменнік. Тут ён непасрэдна выходзіў на самае запаветнае, блізкае і дарагое з дзяцінства і таму дасягнуў найбольшага поспеху.

Ужо ў «Плачы перапёлкі» ярка выпісаны каларытныя постаці многіх верамейкаўцаў. Мудрай разважлівасцю і вялікай душэўнай спагадлівасцю вылучаецца блізкі па сваёй удумлівасці да герояў М. Гарэцкага сямідзесяцігадовы вясковы філосаф Парфён Вяршкоў, у свядомасці якога, як зазначаецца ў рамане «Апраўданне крыві», «акумуліравалася ўсё найбольш чыстае, здаровае, сумленнае і непадатлівае, на чым трымаецца ўклад» сельскага жыцця беларусаў. Там жа гаворыцца, што гэты малапісьменны селянін «умее ахопліваць сваім уяўленнем вялікія праблемы, што заўсёды набываюць грамадскую значнасць».

Ёсць сярод верамейкаўцаў і яшчэ адзін персанаж з філасофскім складам розуму. Гэта Кузьма Прыбыткоў. Ён, як і Парфён, умее арыгінальна разважаць пра жыццё, грамадскія праблемы, цікавіцца гісторыяй краю, трапна гаворыць пра хараство Беларусі і шматпакутнасць яе долі: «Я от думаю цяперака, дак неяк ажно дзіўна размешчана ета Беларуся наша, бытта Гасподзь знарок яе паклаў так. Усё праз нас з вайной ходзяць, усё праз нас. Здаецца, каб хто перанёс яе ў другое месца, дак і нам бы па-другому жылося. А зямля харошая, можа, нават лепшая за рай той. Ета ж падумаць толькі — у другіх

голад, дак ужо голад, людзі, як тыя мухі, гінуць, вазьмі хоць Украіну, тама во і нядаўна колькі паўмірала, а ў нас адно мужыкі паапухалі — не кара дак ягада, не ягада дак грыб, а тама ўжо бульба пойдзе, жыта, але чалавек неяк выб'ецца з бяды, абы не сядзеў рукі склаўшы. Не, зямля наша папраўдзе райская, а от жа...»

Вельмі шматзначнае тут гэтае «от жа»! Ды і ўвесь Кузьмоў маналог поўны глыбокага сэнсу. У ім ужо праклёўваўся матыў трагічнасці нашай гісторыі, які на поўную сілу загучаў толькі ў двух апошніх раманах. Тады ж, як пісаўся «Плач перапёлкі», гэты матыў развіваць было вельмі небяспечна, і пісьменнік адкрытым тэкстам толькі пазначыў яго.

Рызыкоўнай была і размова пра голад на Украіне, выкліканы, як вядома, калектывізацыяй па-сталінску. Чыгрынаў спачатку пісаў пра той голад больш падрабязна. Ён, па ягоных словах, паказваў, «як ішлі з Украіны галодныя людзі да нас у Беларусь, як паміралі на дарогах...». Аднак пільныя цэнзары ўсё гэта выкінулі. І толькі агульная згадка ўсё ж неяк праскочыла.

Вяртаючыся да паказу верамейкаўцаў, нельга не сказаць, што адметным характарам надзелены таксама Іван Падзерын. Гэты селянін з іранічнай мянушкай Цукар Мядовіч вызначаецца якраз адваротным — сваёй яршыстасцю, схільнасцю да грубаватага слова і салёных жартаў, уменнем «непрыстойна павыскаляцца з жанчынамі».

Жаночыя вобразы ў «Плачы перапёлкі» таксама абмаляваны цікава, змястоўна, з добрай псіхалагічнай заглыбленасцю. Таму і запамінаюцца ў рамане Палага Хахлова, Роза Самусёва, Дуня Пракопкіна, Сахвея Меляшонкава, Зазыбава Марфа і іншыя. Яны напісаны з павагай да іхняй жыццёвай учэпістасці і сілы, а то і з адкрытым любаваннем, якое праглядвае праз асобныя не пазбаўленыя паэтычнасці дэталі. Так, пра голас Дуні Пракопкінай гаворыцца, што ён «вылятаў з грудзей, як пасярэбраны».

Зрэшты, такія паэтычныя бліскаўкі ў чыгрынаўскай стылёвай сістэме рэдкія і выглядаюць хутчэй як выключэнне. Разуменне цяжару жаночай долі, асабліва ў часы ваеннага ліхалецця, ды і агульная стылёвая арыентацыя, стрымлівалі пісьменніка ад знарочыстага прыхарошвання вясковых жанчын, вымушалі яго звяртацца да падкрэслена рэалістычных фарбаў, якія скрозь выкарыстоўваюцца нават у абмалёўцы ўласнай маці (яна ў рамане называецца Хадоскай Гаўрыліхай і старшыніхай).

Не менш выразная гэтая скіраванасць і ў паказе Ганны Карпілавай, вобраз якой у раманнай канцэпцыі «Плачу перапёлкі» вельмі істотны. Празаік піша пра не абы-якую фізічную красу гэтай жанчыны, яе зайздроснае здароўе, душэўную лагоднасць, пакладзістасць (палітыкі ў дачыненні да грамадства называюць яе талерантнасцю) і вельмі ж ліхі лёс, які ў нечым

пераклікаецца з поўным суровых выпрабаванняў лёсам самой Беларусі, так часта распінанай рознымі заваёўнікамі і сваім бязглуздым начальствам. Ганну ж спачатку спакушае палявы вартаўнік, які ў галодны год паабяцаў хатомку калгаснай бульбы. Потым пайшлі верамейкаўскія мужыкі і розныя ўпаўнаважаныя, што наязджалі ў вёску. Але асабліва агідным быў недалужны прышэлец — татарын Рахім, паліцай, ад якога патыхала «гнілым і зусім не мужчынскім пахам, быццам чалавека толькі што выпусцілі аднекуль з мышынае саламарэзкі». Ён «браў» Ганну ўжо зусім не па-людску, прывязаўшы сонную да ложка. І яна перажывала гэты «гвалт над сабой, як самы вялікі здзек».

Што ж, як і звычайна на вайне, і ў нас многае рушылася, руйнавалася бязлітасна. І ўсё ж жыццё і тады неяк працягвалася. Сімвалам яго невынішчальнасці з'яўляюцца радзіны ў Сахвеі Меляшонкавай, на якія, не зважаючы на ўсе нягоды вайны, збіраюцца верамейкаўскія жанчыны. Праз гэтыя радзіны выдатна паказана трываласць вясковага свету, ягоная ўстойлівасць на разбуральных вятрах часу. Яе, гэтую ўстойлівасць, на нашых вачах калі не перакрэсліў канчаткова, дык надоўга паставіў пад сумненне толькі Чарнобыль, разбуральная сіла якога пераўзышла ўсе ваенныя жахі. Тады, як пісаліся «Плач перапёлкі» і два наступныя раманы, пра каварства «мірнага атама», пра тое, што ён можа жорстка адпомсціць за безадказна-панібрацкае стаўленне да сябе, ніхто са звычайных людзей і не здагадваўся. Чыгрынаў таксама ні пра што такое не думаў і таму з чыстай душой пісаў пра трываласць вясковага свету, пра здольнасць сваіх верамейкаўцаў насуперак усім нягодам, пакутам і жахам выйсці пераможцамі ў барацьбе за жыццё.

Вядома, і цяжар гэтай барацьбы ён паказваў з падкрэсленай праўдзівасцю. У гэтым плане вельмі цікавым уяўляецца вобраз старшыні верамейкаўскага калгаса Радзівона Чубара. Чалавек сумленны, выхаваны на строгім падпарадкаванні ідэалагічным устаноўкам, не кажучы ўжо пра партыйную дысцыпліну, беспакарана парушаць якую мог хіба што сам Сталін ды самыя блізкія ягоныя прыспешнікі, і то неафіцыйна, Чубар прывык ва ўсім давярацца не ўласнаму розуму, а ўказанням начальства. «Раз ёсць дырэктыва, трэба яе выконваць», — непахісна заяўляў ён. Вось чаму ў бязладдзі і неразбярысе першых месяцаў вайны Чубар адчувае яўную разгубленасць, ад якой і кідаецца на самыя рызыкоўныя крокі. Ён не толькі паліць збожжа, не думаючы, як будуць жыць людзі, пакінутыя ў акупацыі, але і самапраўна забівае ваенурача, які «быў у стане моцнай душэўнай дэпрэсіі», па сутнасці, псіхічна хворым. Па ваенным часе гэтае забойства, вядома, не было выключным, тым больш што Чубар палічыў разважанні ўрача шкоднымі для разгортвання барацьбы супроць акупантаў. Але ўсё роўна той самасуд

апраўдаць цяжка. Нездарма ж ён турбуе і самога Чубара, у якога на гэты конт няма пэўнасці ў сваёй праваце, а потым, ужо ў чацвёртым рамане, узнікае і пачуццё віны.

Увогуле, вобраз верамейкаўскага старшыні па задуме пісьменніка павінен быў стаць адным з галоўных і самых значных. І ён займае шмат месца ажно ў чатырох раманах, дапамагаючы мацаваць падзейныя сувязі ў гэтых творах. Але сапраўды значнай, эпічна важкай фігуры з Чубара ўсё ж, здаецца, не атрымалася. Ён быў, безумоўна, цікавым, пакуль выступаў як антыпод свайго былога намесніка Дзяніса Зазыбы, увасабляючы спрошчаны погляд на падзеі вайны, жыццё ў акупацыі і партызанскую барацьбу з фашыстамі. Але з цягам часу разыходжанні паміж гэтымі двума верамейкаўцамі згладжваюцца, а потым фактычна і знікаюць. Тым самым вычэрпваецца адна драматычная калізія, якая нараджала ўдзячную для мастацкай распрацоўкі інтрыгу і была істотнай для чыгрынаўскага бачання вайны. Пісьменніку давялося ўрэшце заняцца «скарачэннем штатаў». І ён у рамане «Вяртанне да віны» падрыхтаваў Чубару трагічны канец, на вайне зусім зразумелы, а для Радзівона з яго авантурыстычнымі замашкамі і цалкам апраўданы.

А Дзяніс Яўменавіч Зазыба застаўся. У спрэчцы з Чубарам ён перамог. Гэта наогул стрыжнявы для чыгрынаўскіх раманаў герой, на якім трымаюцца іх галоўныя сюжэтныя скляпенні, што змацоўваюць падзейны каркас. У вобразе Дзяніса Зазыбы найбольш ярка і выразна адлюстраваны чалавечнасць нашых людзей, глыбінна-народныя асновы іх свядомасці, маралі і этыкі. Ужо ў «Плачы перапёлкі» Зазыба паўстае як маштабны характар, намаляваны ў цэлым пераканальна, з добрай псіхалагічнай грунтоўнасцю. Ён жыве інтарэсамі грамадства, клапоціцца пра людзей і ў мірныя дні, і ў час ваеннага ліхалецця.

«Іх патрыятызм натуральны, як дыханне», — казаў пра сваіх герояў Чыгрынаў, успамінаючы пра мінулую вайну. Гэта больш за ўсё стасуецца якраз да Зазыбы, які пераконаны: «Хто з роднай зямлі ўцякае, той ворага не перамагае». І зусім натуральна, што Зазыба, не вагаючыся, робіць усё, што можа, для арганізацыі супраціўлення фашыстам і сам, ужо за межамі рамана «Плач перапёлкі», уключаецца ў партызанскую барацьбу.

Як і належала станоўчым персанажам па тагачасных савецкіх мерках, Дзяніс Яўменавіч мае гераічную біяграфію. Ён удзельнік грамадзянскай вайны, узнагароджаны высокім ордэнам, камуніст па перакананні, а не дзеля кар'еры. Праўда, ён з партыі выключаны з-за рэпрэсіраванага сына. Але гэтая акалічнасць чамусьці не перашкаджае партыйным кіраўнікам раёна з поўным даверам ставіцца да Зазыбы. І ўсё ж ён камуніст нетыповы. Гэта добра разумее былы махновец, а цяпер паліцай Брава-Жыватоўскі, які за-

значае, што правaверным камуністам быў Чубар з яго гатоўнасцю, не думаючы, рабіць усё, што скажа партыя, а Зазыба артадаксальнасцю якраз не вызначаўся. Ён не кідаўся выконваць бязглуздыя і асабліва бесчалавечныя дырэктывы, а праяўляў пэўную самастойнасць і сваіх вяскоўцаў шкадаваў, бо разумеў, што «селянін — тое ж садовае дрэва, трусі яго колькі хочаш, а пад корні не заглядвай», не падсякай іх.

Сам Дзяніс Яўменавіч з разважаннямі Брава-Жыватоўскага не пагаджаецца, лічыць іх недарэчнымі. Але, здаецца, больш на словах, якія прадыктаваны тым часам, калі пісаўся раман. Тады ўжо тое, што пісьменнік адважыўся неадпаведнага партыйным канонам камуніста зрабіць галоўным станоўчым героем, выглядала як смеласць і пэўны выклік. Вось і даводзілася гэты «грэх» неяк прытушоўваць запэўніваннямі наконт безумоўнай адданасці Зазыбы савецкай уладзе, тым парадкам, якія раней існавалі.

Зрэшты, і сам Чыгрынаў, хоць ён бачыў многія заганы нашай таталітарнай сістэмы і партыі, у якой, па ягоных жа словах, «радавога камуніста і партыйнага кіраўніка заўсёды раздзяляла бездань», тым не менш да канца сваіх дзён заставаўся прыхільнікам сацыялізму, а камуністаў, змяніўшы іх на аграрнікаў, пакінуў толькі тады, калі ранейшыя сябры па партыі падставілі яму крыўдную падножку на выбарах у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання.

Разважаючы пра свае адносіны да створаных персанажаў, Чыгрынаў прызнаваўся: «Я люблю ўсіх. Таму што ў кожнага, нават самага адмоўнага, нешта ўкладваеш ад сябе. Гэта вельмі няўлоўнае нешта, але яно ёсць». Такое, на першы погляд, парадаксальнае прызнанне растлумачвае поспех пісьменніка ў абмалёўцы дзейных асоб, якіх станоўчымі ніяк не назавеш. Той жа Брава-Жыватоўскі, які па сваёй чалавечай сутнасці ніяк не можа выклікаць нашай прыхільнасці, выглядае ў Чыгрынава настолькі каларытна, што здаецца выхапленым з самой рэчаіснасці. Гэта азначае, што мастак глыбока спасціг узноўлены ім чалавечы тып, адчуў яго да драбніц і як стваральнік нават у пэўнай меры душэўна зжыўся з ім. Вядома, празаік ніколькі не апраўдвае гэтага прыслужніка фашыстаў, але паказвае яго ў рэалістычнай манеры, без яўнага шаржу і карыкатурнай спрошчанасці, якая не стасуецца да паэтыкі «Плачу перапёлкі». І гэтая рэалістычнасць робіць асабліва пераканальным выкрыццё здрадніка.

Або ўзяць Мікіту Драніцу. Гэта, як сказана ад імя аўтара ў рамане «Апраўданне крыві», «перакідлівы і беспрынцыповы абібок». Ён гатовы прыслужваць любым уладарам. Пры бальшавіках ён па даручэнні энкаусаўскага начальства даносіў на верамейкаўцаў, прычым, робячы сваю подлую справу, «адчуваў над імі, бадай, упершыню, сваю вышэйшасць,

нібыта ў выніку гэтага меў над імі патаемную ўладу». Як прыйшлі гітлераўцы, Драніца ўжо стаў запабягаць перад Брава-Жыватоўскім, хаця і Зазыбы ён яшчэ пабойваецца. Словам, перад намі паўстае дробны, мітуслівы і разам з тым небяспечны гэтай сваёй здольнасцю на ўсё трапятун і прыліпала. Але як ён ярка выпісаны ўжо ў «Плачы перапёлкі»!

Вось зноў аўтарская характарыстыка, вельмі трапна падсвечаная лёгкай іроніяй: «Мікіта быў нізкі і вяртлявы, быццам чортам падшыты, мог цэлы дзень, без перапынку, бегаць па вёсцы, адно што пад вечар пачынаў трохі касабочыць і апускаць левае плячо». Бадай, яшчэ лепш, хоць і ў тым жа іранічным ключы, сказана пра ягоную мітуслівасць: «Мікіта быў трохі выпіўшы і напускаў на сябе важны выгляд, але гэта яму не давалася: па-першае, постаццю ён для важнасці не выйшаў, а па-другое, вочы ў яго сёння бегалі так, нібыта ўранні яны сарваліся з цвіка, а ўвечары ніяк не маглі трапіць на сваё ранейшае месца».

Чалавечая дробязнасць, як гэта ні дзіўна, спалучаецца ў Мікіты з пэўным прыродным розумам, які найбольш адчуваецца ў псіхалагічнай праніклівасці Драніцы і ў каларытнасці ягонай мовы («Мне яно, як кажуць, і не па кані і не па аглоблях»; «Мы таксама не на адным гаросе раслі» і інш.). Але розум гэты нейкі вельмі ўжо прыніжана-беларускі, скіраваны на дробныя хітрыкі і прыстасавальніцтва дзеля выжывання. Для асобных людзей гэта зрэдку бывае і ратункам, але робіцца згубным, калі апаноўвае людской масай, становіцца псіхалогіяй цэлай нацыі. Народ з такой псіхалогіяй прыніжанага прагматызму можа і зусім страціць сваю адметнасць і знікнуць, загінуць, калі ён не здолее нараджаць шматлікіх асоб, гатовых дзеля вялікай мэты на безаглядную самаахвярнасць.

Зрэшты, гэты глыбінны сэнс хітрыкаў розных драніцаў, добра зразумелы сёння, у рамане Чыгрынава не падкрэсліваецца. Але паколькі мастак пісаў сваіх персанажаў вельмі рэалістычна, з глыбокім пранікненнем у іх жыццёвую сутнасць, дык мы і маем магчымасць убачыць розныя грані іх псіхалогіі і яе небяспечнасць ужо ў новых гістарычных умовах.

Гутарка ідзе, такім чынам, пра сапраўднасць чыгрынаўскага мастацкага свету, пра яго своеасаблівую аб'ёмнасць, нават шматмернасць, якая асабліва выразна выяўляецца ў паказе верамейкаўцаў, іх побыту, звычаяў, мовы. Пра яе А. Лойка пісаў: у Чыгрынава «сапраўды жыве, гучыць, пульсуе, захапляе сваёй непаўторнасцю і багаццем мова магілёўскага Забесяддзя». Гэта паказвае сваю непаўторнасць, непадробленасць і хараство шматфарбны свет вельмі нялёгкага народнага жыцця. Яно падаецца ў шырокім грамадскім развароце, праз грунтоўнае, непаспешлівае, але затое вельмі дэталізаванае і гранічна заглыбленае аўтарскае апавяданне, арыентаванае на максімальную дакладнасць ва ўсім.

Гэтая асаблівасць эпічна важкага мастацкага стылю Чыгрынава-раманіста выразна акрэслілася ўжо ў «Плачы перапёлкі», рэалізаваўшыся тут у многім, у тым ліку і ў багацці і ёмістасці масавых сцэн, праз каларытнае шматгалоссе якіх вельмі яскрава і непасрэдна выказваецца думка народная, і ў вастрыні і сацыяльнай значымасці па-майстэрску напісаных дыялогаў-спрэчак, якія вядуць многія персанажы.

На стварэнне шматмернай карціны беларускай рэчаіснасці працуюць шматлікія ўстаўныя эпізоды пра смешныя і сур'ёзныя здарэнні, што згадваюцца па ходзе дзеяння, казачна-прытчавыя элементы, даволі частыя і вельмі важныя для аўтарскага бачання жыцця і чалавека прамыя экскурсы ў гісторыю і іншыя адступленні ад асноўнага не асабліва разгалінаванага падзейнага апавядання пра Айчынную вайну, сцэны з выразнай этнаграфічнай афарбоўкай, пейзажныя штрыхі і малюнкі, якія маюць мноства адценняў і выяўляюць, апрача ўсяго іншага, як бы знарок замаруджаны, нягледзячы на ўвесь драматызм вайны і пераменлівасць яе паваротаў, рух часу ў чыгрынаўскім мастацкім свеце. Уражваюць таксама прыродныя вобразы, нярэдка шматзначна-сімвалічныя, з філасофскім падтэкстам. Такую сімвалічнасць маюць выдатна зробленыя раздзелы пра ласёў, якіх, як і ўсё жывое, даймае вайна. Яна нішчыць не толькі людзей, але і красу прыроды, хараство навакольнага свету.

Словам, багата ўмясціў у сябе «Плач перапёлкі», раман, якому аўтар аддаў асабліва многа асабіста перажытага і ўспрынятага ад блізкіх людзей. Мусіць, таму гэты твор і аказаўся, бадай, самым цэласным ва ўсім раманным цыкле, створаным пісьменнікам.

Арганічным працягам «Плачу перапёлкі» сталі яшчэ чатыры раманы: «Апраўданне крыві» (1976), «Свае і чужыя» (1983), «Вяртанне да віны» (1992) і «Не ўсе мы згінем» (1996; усе даты тут азначаюць першую публікацыю адпаведнага твора). Такім чынам, чыгрынаўскае адлюстраванне Айчыннай вайны, па сутнасці эпапея пра яе, уклалася ў пяць важкіх тамоў. Храналогію падзей, як гэта звычайна рабілі і іншыя нашы раманісты, напрыклад М. Лынькоў у «Векапомных днях», Чыгрынаў давёў да лета 1944 года. Між тым пісьменнік збіраўся вывесці сваіх герояў і ў пасляваенны час, выйсці з імі, у прыватнасці, ажно на Чарнобыль і трэці кангрэс беларусаў, які адбываўся ў Мінску ў ліпені 1993 года. І толькі пасля завяршэння пятага рамана празаік, відаць, адчуўшы, што ягонае жыццё ўжо канчаецца, адмовіўся ад гэтага намеру. Літаральна за два тыдні да смерці ён казаў мне, што трэба было б напісаць і шосты раман, але сілы на гэта ўжо няма. І таму працягу не будзе.

Усе пяць чыгрынаўскіх кніг пра верамейкаўцаў аб'яднаны адзінствам асноўнага месца дзеяння, галоўных герояў і, вядома, аўтарскага пафасу, яго-

нага погляду на вайну і даваенныя падзеі. І ўсё ж гэты погляд з цягам часу ўдакладняўся. Звязана гэта з грамадскімі пераменамі, а калі казаць канкрэтна, дык з тым, што ў час працы над двума апошнімі раманамі пісьменніку ўжо не трэба было аглядвацца на цэнзурныя забароны, з-за якіх ён раней не пра ўсё мог сказаць з даступнай яму мерай праўдзівасці. Цяпер забароны адпалі. І празаік з большай раскаванасцю загаварыў пра многае. У раманах «Вяртанне да віны» і «Не ўсе мы згінем» ён піша пра тое, што і ў гады барацьбы з нямецкім фашызмам вайна на Беларусі нечым нагадвала вайну грамадзянскую, бо нашы людзі змагаліся не толькі супраць гітлераўцаў, але і сваіх, якія сталі чужымі, так ці іначай супрацоўнічалі з акупантамі. Дарэчы, здраднікаў, якіх на еўрапейскі манер называюць яшчэ калабарантамі, было, насуперак сцвярджэнням афіцыйнай савецкай прапаганды, вельмі багата, бадай, больш, чым партызан. Гэтак гаворыць у апошнім рамане нікім не аспрэчаны Дзяніс Зазыба, які тлумачыць: «У сорак першым паліцэйскія гарнізоны ўзніклі ледзь не ў кожным вялікім населеным пункце. Гэта пасля мы трохі пацяснілі гарнізоны, але ж колькасць паліцаяў, здаецца, засталася ранейшай. К нам у партызаны яны сталі перабягаць пазней, а так... Ды зрэшты нічога істотнага не змянілася да самага апошняга часу. Адзінкавыя выпадкі. Прынамсі, за кошт паліцэйскіх гарнізонаў партызанскія атрады яшчэ выраслі нязначна».

Яскравым прыкладам таго, як свае знішчалі сваіх, з'яўляецца пададзеная ў гэтым жа рамане па сутнасці прытчавая гісторыя Арцёма і Ціхона Касцюкоў. Яны — родныя браты, смяротэльная варожасць паміж якімі ўзнікла яшчэ з часоў калектывізацыі. Тады старэйшы Ціхон раскулачыў Арцёма. Той у вайну вярнуўся з высылкі ў родныя мясціны і жорстка адпомсціў брату. Стаўшы паліцаем, ён расстраляў яго жонку і дзяцей. Ціхон падаўся ў партызаны і, вядома, разлічыўся з Арцёмам, але зноў жа знішчыў не яго самога, а ягоную сям'ю. Вось такая кроўная помста па-беларуску, выкліканая людскім азвярэннем, віна за якое ўскладваецца на савецкую ўладу. «Звярынае пачуццё прыйшло да мяне нечакана. А выклікала яго савецкая ўлада. Гэта яна справакавала жорсткасць, на якую пайшоў брат у адносінах да мяне. Да калгасаў жа мы жылі як людзі», — пераконана заяўляе малодшы Касцюк. І ягоныя разважанні, якія яшчэ не так даўно не прапусціў бы ніякі наш цэнзар, не ўспрымаюцца як дэмагогія, бо нялюдскасць і жорсткасць сапраўды нараджаюць толькі жорсткасць у адказ. Яе праявы ў апошніх раманах Чыгрынава самыя разнастайныя.

Жорстка ваююць фашысты, якія бяруць заложнікаў з ліку мірных жыхароў і спальваюць цэлыя вёскі разам з людзьмі. Пра гэта наша літаратура аб вайне пісала заўсёды. Але яна звычайна замоўчвала, што не самым высакародным чынам нярэдка вялі сябе і партызаны. Чыгрынаў жа цяпер паказвае

і гэты бок справы. У яго і народныя мсціўцы займаюцца паборамі, не толькі вымушанымі, для сваіх патрэб, але і «для брата, для цешчы і свата...». Гэта з «Вяртання да віны». У рамане «Не ўсе мы згінем» тэма бясконцых пабораў узнікае зноў. Там жа згадваецца, што крутагорскія партызаны змагаюцца не столькі з гітлераўцамі, колькі з паліцаямі. Такім чынам, зноў фактычна свае б'юць сваіх, а ў выніку нясе страты наш жа народ, аслабляецца патэнцыял нацыі.

А яшчэ ў гэтым жа рамане засведчана, што на Беларусі без разбору чынілі расправы ўкраінскія партызаны. Паявіўшыся ў Верамейках, яны па паклёпніцкім нагаворы схопленага імі старасты Рамана Сёмачкіна «мужыкоў забралі ўначы, адвезлі на край лесу і каля межавога капца пасеклі тапарамі; сярод тых мужыкоў, як лічыў Зазыба, былі і вельмі прыстойныя людзі, якія наўрад ці дазволілі сабе працаваць употай на немцаў. Напрыклад, Тарасёк... Але ж партызаны таксама дзяліліся на сваіх і чужых, гэта значыць, на мясцовых і на прышлых. Свой яшчэ мог не спяшацца, спрабаваў высветліць віну. А што да беларуса літоўцу ці ўкраінцу?» Менавіта партызан з прышлых, «зусім п'яны коннік з чырвонай стужкай на кубанцы», забівае і Зазыбаву Марфу. Так ён вучыў няшчасных беларусаў «савецкую ўладу любіць».

Не робіць партызанам гонару і жорсткасць іхняй расправы з Брава-Жыватоўскім, якога не проста забіваюць, а, нібыта дзеля пацехі, кастрыруюць. Тое ж робяць і яшчэ з адным паліцаем ужо на ягоным вяселлі, а потым успамінаюць пра ўсё гэта як пра дасціпную забаву.

Такая нялюдская расправа патыхае садызмам, знарочыстым здзекам, няхай сабе і з ворагаў. Нездарма ж Зазыба, пачуўшы пахвальбу з гэтай нагоды, проста жахаецца, хоць яшчэ ў грамадзянскую вайну «наглядзеўся рознага паскудства... У недаверстве тады амаль аднолькава спаборнічалі як белыя, так і чырвоныя... Але тое, што пачуў ён цяпер, здаецца, пераўзыходзіла сваім цынізмам усё іншае».

Такі страшны воблік вайны наша літаратура падавала не часта. А Чыгрынаў жа яшчэ піша ў сваіх апошніх раманах і пра расправу з дзецьмі за грахі бацькоў, згадваючы, напрыклад, забойства зноў жа партызанамі «паліцаевага сына, лічы, яшчэ дзіця», вінаватае толькі ў тым, што бацька ўцёк. Зазыбу гэта зноў нагадала грамадзянскую вайну, калі таксама «сына каралі за бацьку, а бацьку за сына, асабліва пасля, у час раскулачвання». «Але Дзяніс Яўменавіч, — працягвае пісьменнік, — ніколі — ні раней, ні пазней — не хваліў у душы савецкую ўладу за гэта». І наогул, ён у адпаведнасці з гуманістычнай традыцыяй, якая вельмі часта парушалася ў савецкай літаратуры, лічыць, што «ваяваць з дзецьмі, дарэчы, як і з дапамогаю дзяцей», недапушчальна. Для нармальнага грамадства. Але як можна назваць

нармальнымі тых, хто пасылаў савецкую авіяцыю бамбіць лагер нашых ваеннапалонных у Крычаве? Чыгрынаў у рамане «Не ўсе мы згінем» напісаў і пра гэта («Нават на лагер ваеннапалонных самалёты з чырвонымі зоркамі не шкадавалі бомбаў»).

Гаворыць празаік і пра тое, як у 1941 годзе дрэнна ўзброеных апалчэнцаў клалі «пад гусеніцы нямецкіх танкаў», каб хоць такім жахлівым шляхам затрымаць, няхай і на вельмі кароткі час, фашысцкую армаду. А яшчэ нагадвае, як ужо ў пераможным сорак трэцім кідалі ў мясарубку на Проні і былых паліцаяў, і ўчарашніх партызан. Зноў затыкалі «дзіркі людзьмі». «У штабах аднолькавыя адносіны ў такіх выпадках – што да патрыётаў, што да здраднікаў. І тыя, і другія – проста матэрыял, з якога можна збудаваць перашкоду», – тлумачыць адзін з герояў апошняга рамана.

Гэта генерал Зеленадольскі. Ён упершыню паяўляецца толькі ў рамане «Не ўсе мы згінем». Чалавек ён рашучы, справядлівы і разумны, таму ў свой час і быў рэпрэсіраваны. І толькі ў пачатку вайны, калі яўна не хапала камандных кадраў, яго выпусцілі са зняволення і зноў вярнулі ў армейскія шэрагі. Зеленадольскі – дэмакрат па перакананнях. Ён надзелены праніклівым позіркам і здольнасцю востра рэагаваць на несправядлівасць. Гэта дало пісьменніку яшчэ адну магчымасць сказаць пра тое, што раней у нас замоўчвалася. Напрыклад, пра савецкае барства. Яно існавала ўжо з першых паслярэвалюцыйных гадоў. «Троцкі некалі не паспеў стаць наркомам, як заняў Архангельскае. Цэлую колішнюю сядзібу царскага вяльможы. Ды і другія наркомы ў шапкі не драмалі – па паркетах у асабняках коўзаліся ды карцінамі выдатных мастакоў гандлявалі. Гэта пасля іх пісьменнікі пачалі паказваць галоднымі, а то іншы раз і амаль босымі», – зазначае Зеленадольскі, а потым яшчэ дадае, што тое барства не знікла ў некаторых і ў суровыя ваенныя гады, калі таксама практыкаваліся шчодрыя генеральскія застоллі: «У рэстаране да вайны падобнага і то не заўсёды можна было за вялікія грошы мець».

Такія штрыхі істотныя не толькі для разумення ўсёй стракатасці ваеннай рэчаіснасці, але і як сведчанне таго, наколькі больш гнуткай, свабоднай і раскаванай стала пісьменніцкая думка, калі яна вызвалілася ад цэнзурнага ўціску.

Новае адчуваецца і ў паказе так званых нацыяналістаў, прыхільнікаў беларускай ідэі, якія пайшлі на супрацоўніцтва з немцамі. Ранейшая наша літаратура адназначна падавала іх як карыслівых здраднікаў беларускага народа, подлых акупанцкіх прыслужнікаў. У Чыгрынава таксама ёсць персанаж, захоплены беларускай нацыянальнай ідэяй. Гэта Алесь Астрашаб, дружбак рэпрэсіраванага пры бальшавіках Зазыбавага сына Масея. Ён паявіўся ў канцы рамана «Свае і чужыя». Служыць Алесь пры

гітлераўцах у Мінскай гарадской управе, мяркуючы, што і гэтая служба можа быць выкарыстана для адраджэння нацыянальнай культуры, а потым і дзяржаўнасці. «Нам больш не пагражае ні русіфікацыя, ні паланізацыя. І пакуль немцы б'юцца з бальшавікамі, мы маем час і магчымасць нарэшце пачаць выхоўваць свой народ у нацыянальным духу», — заяўляе Астрашаб, які прыехаў у Верамейкі з намерам далучыць і Масея да беларускай справы. Масей, вядома, адмаўляецца, бо глядзіць на ўсё гэта як на чарговую хімеру, выкліканую «правінцыяльным снабізмам», і падазроную валтузню, якая «нядобра пахне».

Гэткая цалкам адмоўная ацэнка Астрашабавай дзейнасці, па сутнасці, пераглядаецца ў рамане «Не ўсе мы згінем». Ва ўсякім разе, тут ужо не ставіцца пад сумненне шчырасць Алеся, які «калабарантнасць сваю тлумачыць проста: ён служыў сярод немцаў дзеля Беларусі», а ягоная смерць ад выбуху міны ўспрымаецца тым жа Масеем не толькі з жалем, але і як «нешта жахлівае». Разам з тым яна па-свойму і сімвалічная, бо выразна высвечвае крах тых ілюзій, якімі жыў Астрашаб, прывіднасць яго намаганняў і сапраўды нешта зрабіць для беларускай справы ў часы ваеннага ліхалецця.

Напісаў Чыгрынаў у апошнім рамане пра Другі ўсебеларускі кангрэс, праведзены ў Мінску ў канцы чэрвеня 1944 года. Генерал Зеленадольскі гаворыць пра яго як пра шабаш, наладжаны здраднікамі. Але такую атэстацыю не прымае Дзяніс Зазыба. Ён ведае, што ў тым кангрэсе прымаў удзел, праўда, у якасці госця, а не дэлегата, і ягоны Масей, які насуперак свайму ранейшаму намеру да беларускай справы ўсё ж далучыўся і якога бацька, тым не менш, не лічыць здраднікам. «Апошняе слова прагучала для Зазыбы, як нешта крыўднае, нават абразлівае. У чым у чым, але ён быў упэўнены, што да Масея гэтае вызначэнне не мела ніякага дачынення. Проста, менавіта такім чынам склаліся для яго жыццёвыя абставіны. Пачатак іх знаходзіўся ў трыццатых гадах, у нечаканым арышце», дарэчы, па цывілізаваных мерках, зусім несправядлівым. Гэта ўжо роздум старэйшага Зазыбы ў сувязі з тым, што ягоны сын, ратуючыся ад бальшавікоў, падаўся ў эміграцыю. Яна разглядаецца як з'ява трагічная, зыход «з радзімы вялікай часткі народу». І ў тым людскім мностве, слушна мяркуе Зазыба, па сутнасці, невінаватым быў не адзін Масей.

А ён жа таксама «супрацоўнічаў» з акупацыйным рэжымам — «друкаваўся ў газетах, якія выходзілі ў шматлікіх гарадах на акупіраванай тэрыторыі», быў пісарам у валасным упраўленні ў Бабінавічах, не пайшоў у партызаны, хоць яго клікалі туды, а яшчэ па прапанове папа Дворскага (персанаж не вымышлены, такі поп існаваў у сапраўднасці, пасля вайны мусіў стаць шаўцом, аднойчы і Чыгрынаву пашыў добрыя боты) перакладаў

на беларускую мову «цэлы круг малітваў і казанняў», прычым разглядаў гэту працу ўжо «не як нейкую хімеру, а як справу патрэбную і, можа, нават богазаўгодную».

А размовы якія былі ў яго з тым папом! Па бальшавіцкіх мерках суцэльны крымінал: «Ні Масей, ні Дворскі не падманваліся ні наконт савецкай улады, ні наконт акупантаў, яны моцна пачувалі сябе людзьмі тутэйшымі, гэта значыць, беларусамі, дарэчы, якія ні бальшавікам, ні немцам, калі разважаць шчыра, не патрэбны былі. Маўляў, штосьці прамежкавае — ні народ у выразным значэнні гэтага слова, ні нацыя. Карацей кажучы, ні тым, ні другім так званы беларускі нацыяналізм не падыходзіў. І калі б не палітыка, калі б не бягучы момант, з якога ўсе бакі хацелі мець выгаду, ніхто б не стаў гуляць у падобныя гульні, дарма што з цягам часу беларусы, нягледзячы на калатэчу, усё смялей вытыркаліся са сваёй нацыянальнай ідэяй». Вытыркаліся, вядома, людзі тыпу Алеся Астрашаба і самога Масея. А тое, што гэтую ідэю не ўдалося ажыццявіць, не ад іх, не ад беларусаў, увогуле, залежала.

Такіх разважанняў проста не магло быць у раманах, выдадзеных да адмены цэнзурных забарон. Зрэшты, у нас і цяпер нацыяналізм нярэдка разглядаецца як крымінал ці, ва ўсякім разе, як адмоўнае паняцце, «хаця на Захадзе гэта тое самае, што патрыятызм, — слушна падкрэслівае выдатны беларускі вучоны, пляменнік нашага літаратурнага класіка Радзім Гарэцкі. — Якія беларусы нацыяналісты — гэта проста смешна... У нас не толькі няма пачуцця перавагі над іншымі, а хутчэй комплекс непаўнацэннасці ў параўнанні з іншымі народамі».

Раней Чыгрынаў не гаварыў і пра тое, што пісаў свайго Масея Зазыбу з вядомага эмігранцкага паэта Масея Сяднёва, якога памятаў з ваенных гадоў, потым сустракаўся з ім, калі паэт, праз паўстагоддзя пасля вымушанага расстання, наведаў Беларусь.

Масей Сяднёў чытаў чыгрынаўскія творы, цаніў у раманах пісьменніка іх псіхалагізм, філасафічнасць, а пра апавяданні, як ужо згадвалася, і ўвогуле пісаў з захапленнем. Але толькі ў апошніх раманах Чыгрынава асноўныя вехі сяднёўскай біяграфіі ваеннай пары сталі праглядвацца ў вобразе Масея Зазыбы выразна. А ў «Вяртанні да віны» нават згадваецца сяброўства Гаўрылішынага Іванкі (гэта Чыгрынаў у дзяцінстве) з Масеем Зазыбам (у сапраўднасці з Сяднёвым): «Хлопчык даверліва падаў Масею руку. Яны сябравалі ў гэтае лета — Іванка і Масей. Здаецца, дзе толькі не пабывалі разам. І ў лесе, і ў полі. Сямігадовы Іванка ўжо скончыў да вайны клас, умеў чытаць, а найбольш — пытацца, хоць таксама даваў, калі можна сказаць так, кансультацыі па грыбах, ягадах».

У ранейшых раманах Масей Зазыба асцерагаўся расказваць пра свае лагерныя пакуты, належнае адлюстраванне якіх зноў жа пачалося толькі з

рамана «Вяртанне да віны». У гэтым творы сталінскія рэпрэсіі ўжо не разглядаюцца як нешта выпадковае, не звязанае з самой сутнасцю таталітарнай сістэмы, ледзь не стыхійнае бедства. «Савецкая ўлада ў тваёй бядзе невінаватая. Ты ж сам кажаш, ком з гары каціўся. Было, адмаўляць нельга. Але ж... не ўсюды аднолькава. У нас, напрыклад, дык ніводнага і пальцам не кранулі. Ды і не толькі ў нас. Значыць, самаўпраўства на месцах тварылася. А з верху за ім недагледзелі», — пераконваў, яўна з аглядкай на цэнзуру і насуперак праўдзе, Дзяніс Зазыба свайго сына ў «Апраўданні крыві». А ў «Вяртанні да віны» паявіўся рэпрэсіраваны прафесар Дзягель, гісторык па спецыяльнасці, які без усякіх агаворак і эківокаў тлумачыць: «Усё робіцца Сталіным і ягонай хеўрай свядома, іначай не адбывалася б гэтая “недарэчнасць” на працягу столькіх гадоў... у краіне ажыццяўляўся “няспынны тэрор”, той, за які заўсёды стаяў Троцкі і які цяпер, пасля выгнання Троцкага, ажыццяўляў “пад ленінскім прыкрыццем” Сталін».

Падкрэсліваецца цяпер і масавасць тэрору, яго выключная жорсткасць. «У Марыінску, куды трапіў беспадстаўна асуджаны Масей, знаходзіўся размеркавальны лагер, і новых зняволеных трымалі ў цягніках нядоўга, адно пакуль ішоў пералік. Але цягнікі ўсё падыходзілі і падыходзілі на станцыю. Ім проста не было канца, дарма што ўсе будынкі ў горадзе, прыдатныя хоць збольшага для ўтрымання людзей, былі перапоўнены; у некаторых зняволеныя нават спалі стоячы, а да бочкі, каб апрастацца, дабіраліся па галовах». І яшчэ: «Канвойных вакол калоны налічвалася небагата, затое лютавалі аўчаркі, якіх недзе вырошчвалі дзеля такога прызначэння ў гадавальніках, няйначай, навучаючы на асуджаных людзях. Канвойныя таксама мала чым адрозніваліся ад аўчарак».

Чалавек, які сутыкнуўся з усімі гэтымі жахамі, ужо не можа не думаць пра «зняважаную справядлівасць» і тое, як шмат народ «нацярпеўся ад савецкай улады». І Масей сапраўды пра ўсё гэта думае, але толькі ў двух апошніх раманах. Ён не прымае разлічаныя на наіўных дзівакоў дэмагагічныя запэўніванні, што ў здзеку над людзьмі вінаватымі былі толькі карныя органы, бо разумее, што яны «заўсёды дзейнічаюць у краіне адпаведна патрэбам улады».

Гэта з рамана «Не ўсе мы згінем». Там жа падаюцца і наступныя Масеевы развагі: «У савецкай улады заўсёды павінны быць вінаватыя. Яна без гэтага не можа». «Яна доўга помніць. Памяць у яе, на жаль, сапраўды надта доўгая і помслівая».

Масей быў пераконаны (і ў гэтым ён нікольні не памыляўся), што пасля перамогі над нямецкім фашызмам, за якую народу прыйшлося заплаціць неймаверна цяжкую цану, у нас «зноў пачнецца вялікі хапун, калі мала хто здолее апраўдацца» за любую дробязь. Яму ж самому сібірскі лагер быў зноў

гарантаваны. Таму сумленны і таленавіты хлопец, які не зрабіў нічога кепскага людзям і па агульначалавечых мерках не меў за сабою віны, але, як сам казаў, пабыў і ў савецкай, і ў нямецкай пастцы, — гэты хлопец рашаецца на эміграцыю. Выбраны ім шлях сапраўды крыжовы, бо ў віхуры вайны, якая тады яшчэ працягвалася, ён быў непрадказальны і поўны невядомасці. Але наша шматпакутная гісторыя прапаноўвала яго многім. І самыя моцныя з іх, у тым ліку жыццёвы прататып Масея Зазыбы Сяднёў, не згубіліся ў вялікім чужым свеце, а здолелі і там працаваць на карысць Бацькаўшчыны, якую яны заўсёды насілі ў сваім сэрцы.

Не забывае сваіх Верамеек і Масей Зазыба. У рамане «Вяртанне да віны» ёсць лаканічная згадка, што праз шмат гадоў «Масей вернецца сюды зноў. Але тады ягонае Забесяддзе будзе ўжо бязлюднае, у вялікай хваробе, якую ва ўсім свеце назавуць Чарнобылем!..».

У 1944-м гэтую страшную бяду ніхто прадбачыць, вядома, не мог. А горыч вымушанага расстання з Радзімай была моцнай. Дзянісу Зазыбу, які адчуваў, што траціць сына назаўсёды, здавалася нават, што той будзе толькі «мыкацца, гараваць па чужых краёх. А гэта, бадай, горай, чым адседжваць новы тэрмін на Калыме ці Пячоры».

Такія Зазыбавы думкі з рамана «Не ўсе мы згінем» паказваюць, што Дзяніс Яўменавіч ніяк не здагадваўся, што ягонаму Масею выпадзе не самы горшы, а ў нечым яшчэ і шчаслівы лёс, і яўна недаацэньваў здольнасць нашай тагачаснай таталітарнай сістэмы здзекавацца з чалавека, люта распінаць яго і ўрэшце ператвараць у лагерны пыл. Але пры ўсім тым старэйшы Зазыба цяпер куды больш рэалістычна глядзіць на некаторыя рэчы. Ён перастае наракаць, што сын «незаконна», «не па чыстай» вярнуўся са зняволення (яго адпусціў канвойны) і тым самым кідае цень на «заслужанага бацьку». Пракурорскі тон у дачыненні да вымучанага лагернай жорсткасцю хлопца паступова змяняецца на натуральную чалавечую спагаду да яго. Не менш істотна, што Дзяніс Яўменавіч вызваляецца ад свайго пэўнага фальшу і, зразумела, вымушанага хваласпеву савецкай уладзе і яе непагрэшнасці ва ўсім. А гэта значыць, што знікае той налёт саўковасці, які раней у Зазыбы ўсё ж адчуваўся, хоць і не быў такім моцным, як у Чубара і іншых зусім «правільных», цалкам артадаксальных партыйцаў.

Ёсць у двух апошніх раманах перамены і ў поглядзе на калгасы. Раней пісьменнік мусіў трохі прыхарошваць калгаснае жыццё. Рабілася гэта пераважна праз выказванні асобных персанажаў, а не праз канкрэтныя дэталі, якія, як мімаходная згадка пра хату Ганны Карпілавай, што «палохала сваімі пустымі кутамі і голымі сценамі», супрацьстаялі такому прыхарошванню. І яно зусім знікае ў раманах «Вяртанне да віны» і «Не ўсе мы згінем». Больш

таго, у «Вяртанні да віны» ідзе размова і пра ўзброенае супраціўленне сялян калектывізацыі. Тут упамінаецца Бешанковіцкае антыкалгаснае паўстанне, пасля падаўлення якога «нямала было арыштавана мужыкоў, расстраляна, як кажуць, на скорую руку, а найбольш вывезена ў Сібір, на Поўнач, дзе толькі ставала калючага дроту ды назіральных вышак».

Вельмі непераканальна выглядала ў тым жа «Плачы перапёлкі» далёкае ад рэальнага стану рэчаў падкрэсліванне вялікай сялянскай адданасці калгаснаму ладу, з-за якой верамейкаўцы і пры нямецкіх фашыстах нібыта не хацелі распускаць калгас і толькі бралі агульную маёмасць на захоўванне да вяртання бальшавікоў. У рамане «Не ўсе мы згінем», цяпер у адпаведнасці з жыццёвай праўдай, верамейкаўцы ўжо суцяшаюць сябе спадзяваннем, што пасля вайны калгасаў увогуле не будзе, і не спяшаюцца «зноў абагульняць зямлю і маёмасць».

Дзяніс Зазыба, хоць ён раней («Плач перапёлкі») як быццам бачыў у калгасе ўвасабленне сваёй мары, успрымае аднаасобніцкія схільнасці землякоў з натуральным спакоем разумнага селяніна.

І ўсё ж вобраз старога Зазыбы ў апошніх раманах яўна драматызуецца і ўрэшце становіцца бадай што трагедыйным: чалавек, які з адкрытай душой змагаўся за новы лад, прымаў актыўны ўдзел ва ўзброенай барацьбе за яго ўсталяванне, з цягам часу пачынае ўсведамляць, што з дапамогай насілля нельга вырашаць усе жыццёвыя праблемы. «Праўду не заўсёды робяць шабляй», — так фармулюе для сябе гэтую ісціну Зазыба, які і сам у канчатковым выніку апынуўся, па сутнасці, ля разбітага карыта — у спаленай вёсцы, без жонкі, забітай партызанамі, і сына, які хоць і застаўся жывы, але мусіць уцякаць з радзімы, назаўсёды пакідаючы адзінокага бацьку. І гэта была трагедыя не толькі Зазыбы, але ў пэўным сэнсе і ўсёй Беларусі, якая за гады вайны страціла многіх сваіх дзяцей.

Натуральна, што ў такім завяршэнні лёсу галоўнага героя бачыцца ўскладненне чыгрынаўскага погляду на вайну, у паказе якой цяпер таксама на поўную сілу загучалі трагічныя ноты. Вядома, пісьменнік, у адрозненне ад многіх сваіх папярэднікаў, і раней не націскаў толькі на яе гераічнасць, а імкнуўся, як сам казаў, адлюстраваць драматызм вайны «ў яе звычайным, будзённым цячэнні». Але ў апошніх раманах увага мастака ўсё больш засяроджвалася на вайне як трагічным «замарачэнні», якое аплочваецца вялікай народнай крывёю. Гэта блізкія і самому аўтару думкі Зазыбы з рамана «Вяртанне да віны», сама назва якога добра выяўляе зрухі ў чыгрынаўскім бачанні ваеннага часу. Растлумачваючы гэтую назву ў інтэрв'ю 1994 года, празаік падкрэсліў: «У вайну было вельмі многа вінаватых. Нават тыя вінаваты, хто віноўнымі сябе не лічаць. Пралітая людская кроў — гэта ўжо віна, а тады

колькі яе пралілі, людской крыві... Хіба можна гэта апраўдаць?» Такое выказванне было ўжо ў пэўнай меры і палемікай пісьменніка з самім сабою. Яно азначала, што Чыгрынаў імкнуўся надаць адваротны сэнс назве свайго рамана (другога па ліку) «Апраўданне крыві».

Цяпер празаік сцвярджаў, што сапраўдныя віноўнікі вайны — гэта тыя, хто крывадушнай палітыкай заігрывання з Гітлерам і дзікімі рэпрэсіямі ўнутры краіны справакавалі агрэсію нямецкіх фашыстаў, а потым перакладвалі сваю віну перад народам на ягоныя плечы, абвінаваціўшы, як сказана ў «Вяртанні да віны», усіх, «хто тут, у акупацыі, заставаўся».

Словам, вайна ў разуменні Чыгрынава, выяўленым у яго апошніх раманах, гэта перш за ўсё вялікая бяда, народная трагедыя, асабліва адчувальная для Беларусі, дзе было наканавана загінуць «ледзь не кожнаму другому чалавеку, незалежна ад таго, прымае ён чынны ўдзел у падзеях ці трапіў у іх выпадкова, стаўшы так званай нявіннай ахвярай («Не ўсе мы згінем»). Перабольшванне? Невялікае, бо ў цэлым па рэспубліцы загінуў кожны трэці, а ў некаторых раёнах, напрыклад на Віцебшчыне, — і кожны другі. Кажуць, што спіс ахвяр Беларусі ў Айчынную вайну, надрукаваны на машынцы, расцягнецца на 60 кіламетраў («ЛіМ», 1995, 5 мая).

Адсюль, ад гэтага рэальнага трагізму, ідзе і чыгрынаўскае настойлівае паўтарэнне: вайна «грашыма корміцца, затое весяліцца крывёй. І часта крывёю не тых, хто вінаваты ў ёй». «У вайну вельмі лёгка атруціцца чалавеку яе трупным дыханнем» («Вяртанне да віны»). «А вайна — яна ўся амаральная. Чорная, крывавая, брудная». «Людзі, нягледзячы ні на што, ішлі к перамозе праз бруд і кроў». «Чым бліжэй заставалася да канца вайны, тым болей крыві яна патрабавала» («Не ўсе мы згінем»).

На трагедыйнае завяршэнне лёсу Зазыбы, ягонай сям'і і многіх іншых верамейкаўцаў, завяршэнне, якое нясе ў сабе водсвет гэтай вялікай крыві і шматлікіх рэальных ахвяр, моцна ўплывала і чыгрынаўскае адчуванне агульнага трагізму нашай гісторыі, з-за якога не толькі апошняя, але і многія іншыя войны канчаліся для беларусаў адно велізарнымі стратамі ды разарэннем.

«Куды толькі ні хадзілі беларусы паходамі, многім дапамагалі ваяваць, наводзіць парадак, таленты свае аддавалі іншым народам, кадры ім пастаўлялі, словам, былі донарамі. А пра сябе як паклапаціліся? Які ў сябе парадак навялі?.. Дык вось, дзе мы толькі ні былі, чаго ні рабілі, а ўсё не для сябе, не для сваёй Бацькаўшчыны... Як быццам нейкае пракляцце над намі», — з горыччу разважаў пісьменнік ужо ў 1994 годзе. Праўда, ён пры гэтым падкрэсліваў, што «гістарычныя карані ў нас ёсць. Яшчэ жывыя і моцныя карані». Яны дазволяць развіваць «і нацыянальную дзяржаўнасць». Аднак жа на хуткі поспех у гэтай справе Чыгрынаў не спадзяваўся, бо бачыў, што

«цяпер нам вельмі не хапае добрых палітыкаў, такіх, якія б думалі пра будучыню нацыі і карысталіся шырокай падтрымкай народа».

Гэткае разуменне ў пісьменніка, які нашу гісторыю ведаў выдатна, куды лепш за многіх прафесійных гісторыкаў, узнікла, сфармавалася даўно і таксама схіляла яго да ўзмацнення трагізму ў апошніх раманах, на мастацкую канцэпцыю якіх ужо не ўплывалі ранейшыя абмежаванні.

Істотнай з'яўляецца і тая акалічнасць, што сучасная эпапея, як слушна пісаў Алесь Адамовіч яшчэ ў 1970-я гады, не можа быць ураўнаважана-спакойнай. Яна патрабуе «большай вастрыні і пачуццяў, і думак, і трагізму». Ды ўжо лёсы Грыгорыя Мелехава ў «Ціхім Доне» і Васіля Дзятла ў «Палескай хроніцы» невыпадкова атрымалі трагічнае завяршэнне. Гэта дыктавала бурлівая рэчаіснасць XX стагоддзя, якую добра адчуваў і Чыгрынаў. Асабліва турбавалі яго наступствы Чарнобыля, які паставіў вялікія пытальнікі над самой будучыняй нашага народа. Так што ўсё сыходзілася, ціснула ў адным напрамку, працавала на ўзмацненне трагізму ў апошніх чыгрынаўскіх раманах. Іх пісьменнік, паўтару, Чарнобылем і збіраўся закончыць, але з-за невылечнай хваробы не дацягнуў падзейны ланцуг да яго канкрэтнага паказу.

Увогуле, падзейны тэмп у чыгрынаўскіх раманах вельмі замаруджаны. Гэта тлумачыцца тым, што аўтарскае апавяданне ў іх арыентавана на паказ складанасці ваеннай рэчаіснасці праз глыбіннае даследаванне народнага жыцця, дэталёвы аналіз псіхалогіі герояў. А ў выніку раманы «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужыя» ахопліваюць толькі паўгода вайны — да разгрому гітлераўцаў пад Масквой уключна.

У апошніх раманах пісьменнік мусіў усё ж прыспешваць падзейны тэмп, каб давесці храналогію дзеяння да вызвалення Беларусі. Такім чынам, на раманы «Вяртанне да віны» і «Не ўсе мы згінем» прыпадае ўжо два з паловай гады ваеннага часу. Дыспрапорцыя яўная. Яна нарадзіла пэўную аблегчанасць пісьма, асабліва прыкметную ў апошнім творы. Ён у значнай меры ўспрымаецца як раман-эпілог, у якім знаходзяць сваё завяршэнне, нярэдка бегла-інфармацыйнае, галоўныя сюжэтныя лініі і лёсы герояў. Так што страты ёсць. Яны прыкметныя нават у абмалёўцы Дзяніса Зазыбы. Пры ўсім тым новым і надзвычай важным для мастацкай канцэпцыі чыгрынаўскай эпапеі, што паяўляецца ў стаўленні Зазыбы да жыцця і людзей, ён, Дзяніс Яўменавіч, цяпер, здаецца, у нечым трохі і драбнее, бо становіцца персанажам, неабходным найперш для сюжэтнага руху, з'яднання розных падзейных асяродкаў (раней гэтая роля належала пераважна Чубару). Словам, Зазыба ў рамане «Не ўсе мы згінем» перастае быць ключавой фігурай у свеце верамейкаўцаў, з якім цяпер траціць амаль усе свае ўстойлівыя сувязі.

Зрэшты, і гэтаму верамейкаўскаму свету, які ў віхуры ваеннага разарэння выглядаў найбольш устойлівым і трывалым, вайна нанесла вялікія страты, праз якія таксама высвечваецца трагізм і яе самой, і жыцця ўвогуле.

Прыкметны след пакінуў Чыгрынаў і ў драматургіі. Ён стварыў п'есы па сваіх апавяданнях (аповесць для тэатра «Дзівак з Ганчарнай вуліцы», па раманах «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужыя» (гэты твор мае назву «Свае і чужыя», яго жанравае вызначэнне — «драма ў двух частках»), а таксама цэлы шэраг арыгінальных драматычных твораў. Сярод іх вылучаецца гістарычны цыкл, які ахоплівае вялікі прамежак часу.

У драме «Звон — не малітва» паказаны лёс полацкай князёўны Рагнеды — Гарыславы і яе сына Ізяслава. Гэта — X стагоддзе. «Прымак» (зноў драма) прысвечаны беларуска-літоўскаму князю Ягайлу, які праз шлюб з каралевай Ядвігай стаў прымаком Польшчы — каралём Рэчы Паспалітай, пайшоўшы дзеля гэтага на далучэнне Вялікага Княства Літоўскага да польскай дзяржавы (Крэўская унія 1385 года). У Чыгрынава ён, ужо ў старасці, перабірае важнейшыя вехі свайго жыцця і скардзіцца на долю: «Увесь час тут у прымаках быць вельмі цяжка... Справа — у паляках... яны паквапіліся на Вялікае Княства. І я здрадзіў свайму народу. Здрадзіў брату Вітаўту, хоць вельмі любіў яго і цяпер люблю. Аднак каму скажаш? Жывуць два народы побач, а як сабакі паміж сабой».

Драма з пралогам і эпілогам «Чыстыя рэкі, мутныя воды» расказвае пра пакручастыя жыццёвыя шляхі Канстанціна Астрожскага і ягоную бліскучую перамогу ў бітве пад Оршай у 1514 годзе. Але пафас твора складае не столькі захапленне воінскай доблесцю продкаў, колькі горыч ад таго, што так часта з дапамогай зброі вырашаліся спрэчкі суседніх народаў. «На мір спадзяванняў ніхто не меў. Таму яшчэ доўга-доўга лілася беларуска-руская кроў!.. І яшчэ доўга нашы чыстыя рэкі цяклі мутныя ад гэтай крыві!..» — недвухсэнсоўна зазначаецца ў эпілогу п'есы.

Зразумела, што думка пісьменніка, які не прымаў варожасцяў паміж народамі-суседзямі, скіроўвалася ў сучаснасць. Яшчэ ў 1991 годзе, адразу пасля распаду былога СССР, ён падкрэсліваў: «Мяне радуе, што ствараецца новая эканамічная прастора. Хацелася, каб яна расшырылася не толькі за кошт былых савецкіх рэспублік. І адначасова вельмі непакоіць настойлівае імкненне нашых палітыкаў аб'яднацца ў прасторы палітычнай, зноў накрыць сябе каўпаком. Магчыма, у будучым гэта непазбежна. Але хацелася б, каб да палітычных аб'яднанняў Беларусь ішла як нацыянальная жыццяздольная дзяржава, а не ў цяперашняй якасці ўчарашняй правінцыі вялікай імперыі». Вельмі цвяроза мысліў мастак!

У «Следчай справе Вашчылы» аўтар стварыў яркі вобраз кіраўніка сялянскага паўстання на Крычаўшчыне ў XVIII стагоддзі.

Постаць Васіля Вашчылы цікавіла пісьменніка шмат гадоў. Спачатку ён меў намер напісаць пра Вашчылу раман, але адмовіўся ад гэтай задумы, бо атрымалася п'еса, напісаная, як лічыў аўтар, «дэталёва, аб'ёмна».

Яшчэ з прыкідкай на раман Чыгрынаў грунтоўна, як мала хто з прафесійных гісторыкаў, даследаваў усё, што звязана з Вашчылавай дзейнасцю. «Я старанна вывучаў гісторыю паўстання Вашчылы. Пазнаёміўся з яго сапраўднай судовай справай, якая праляжала ў архівах 240 гадоў... Раней пра яго наогул гаварылі ў сувязі з антыяўрэйскімі выступленнямі. Крычаўскае староства ў Радзівілаў арэндавалі яўрэі Іцкавічы. Але паўстанне было не антыяўрэйскім, а антыфеадальным. Яно ўзнікла як пратэст супроць цяжкіх жыццёвых умоў. Радзівіл з ім расправіўся. Куды зніклі Іцкавічы — невядома. Відаць, яны загінулі ў падвалах Радзівіла. Напэўна, ён узяў іх пад сваю "апеку". Я ў п'есе напісаў, што цыгане іх аграбілі і кінулі ў балота. Баронства цыганскае там было. А калі штосьці з гісторыі дакладна не вядома, прыходзіцца дадумваць. Але я настойваю, што паўстанне было менавіта антыфеадальнае, накіраванае супроць прыгнёту наогул. А яўрэі тут ні пры чым. Прыгнятаў жа не толькі арандатар, але і князь», — патлумачыў мне Чыгрынаў у 1994 годзе. А потым яшчэ і дадаў, што «ў час паўстання браты Іцкавічы ўжо не былі арандатарамі Крычаўскага староства. Іх ужо і ў Крычаве не было». З гісторыкаў, якія давалі слушную трактоўку паўстанню пад кіраўніцтвам Вашчылы, пісьменнік называў толькі В. Мялешку і П. Лойку.

П'еса пра Вашчылу з поспехам ішла ў Магілёўскім тэатры, перадавалася па радыё. Думаецца, што гэта самы значны драматычны твор Чыгрынава.

«Гістарычная рэканструкцыя ў дзвюх дзеях» — такое жанравае вызначэнне даў пісьменнік п'есе «Зайграй, зайграй, хлопча малы». Гэты твор пераносіць нас у XIX стагоддзе, прымушае задумацца над лёсам Паўлюка Багрыма, які застаўся для нашчадкаў аўтарам аднаго выдатнага верша.

На пачатку XX стагоддзя адбываецца дзея ў драме «Савіцкі», прысвечанай таксама трагічнаму лёсу сялянскага абаронцы ў духу Робін Гуда і пушкінскага Дуброўскага.

Драма следчага ў перыяд сталінскіх рэпрэсій узнаўляецца ў п'есе «Чалавек з мядзведжым тварам». А ў трагічным гратэску «Ігракі» галоўнымі дзейнымі асобамі з'яўляюцца Сталін і Гітлер, палітычныя гульні якіх скончыліся зноў жа вялікай крывёю Другой сусветнай вайны.

Нарэшце чарнобыльская трагедыя асэнсоўваецца ў п'есах «Хто вінаваты» і «Толькі мёртвыя не вяртаюцца». Маецца на ўвазе, што мёртвыя не вяртаюцца дамоў, у забруджаныя радыяцыяй хаты. Літаратура ж, калі яна сапраўды таленавітая, дык здольная вяртаць да нас, у нашу свядомасць і тых, хто даўно пакінуў гэты свет, а таксама засяляць яго створанымі ёй самою персанажамі, якія становяцца нашымі жывымі спадарожнікамі.

Гэта ўлічваў Чыгрынаў у сваёй працы над гістарычнымі творамі. «Народ, нацыя самі сябе ствараюць, — сцвярджаў ён. — Але іх гісторыю трэба паказаць. Толькі тады мы выйдзем у вялікі свет. А так што ж атрымліваецца? На

працягу цэлых стагоддзяў мы шмат ваявалі, неслі вялікія ахвяры. А хто пра гэта ведае? У свеце не ведалі. Таму што не было вялікага, агульнапрызнанага нацыянальнага мастацтва, такой жа літаратуры. Не было каму замацаваць нашы здзяйсненні».

У такіх выказваннях адчуваецца пэўнае завастрэнне ці перабольшанне, бо ўсё ж сапраўды значную літаратуру з творамі сусветнага ўзроўню мы маем. Але з-за прыніжанага стану нашай мовы і працяглай адсутнасці ў нас паўнацэннай дзяржаўнасці мы не атрымалі таго розгаласу ў свеце, якога наш шматпакутны народ варты. Чыгрынаў гэта ўсведамляў з абвостранасцю неардынарнага мастака.

Ён быў чалавекам з маштабным поглядам на рэчаіснасць, глыбока разумеў усю складанасць нашага нацыянальнага быцця. Сам ён працаваў вельмі мэтанакіравана, але без хапатлівасці і мітусні, кажучы словамі А. Пісьмянкова, з «непаспешлівай беларускай грунтоўнасцю». Яна была характэрнай і для яго грамадскай дзейнасці, вартай глыбокай павагі, і для пісьменніцкай творчасці.

Для паўнаты ўяўлення пра яго творчыя набыткі варта прыгадаць яшчэ працу Чыгрынава над сцэнарыямі шматсерыйных тэлефільмаў пра Айчынную вайну. Адзін з іх («Руіны страляюць») зроблены ў суаўтарстве з І. Новікавым па ягоных дакументальных творах, другі напісаны паводле ўласнага раманнага цыкла.

Зрэдку звяртаўся Іван Гаўрылавіч і да перакладчыцкай справы. Яму належаць пераклады асобных твораў І. Андрыча і Х. К. Андэрсена, М. Горкага і У. Вішнеўскага, В. Бялова, У. Салаухіна і Я. Носава, шэрагу армянскіх пісьменнікаў (зб. апавяданняў «Кветкі Арарата» Р. Іванчыка) і некаторых іншых аўтараў.

Усё, за што браўся Іван Чыгрынаў, ён рабіў з поўнай аддачай і вялікай зацікаўленасцю лёсам чалавека і краіны, роднай Беларусі, шчырым клопатам пра наша духоўнае багацце. І таму ягоная творчасць заняла трывалае месца ў беларускай літаратуры, узбагаціла яе здабыткамі, якія маюць доўгатэрміновае значэнне, будуць служыць многім пакаленням.

*2003 г.*





# ПАХАВАЛЬНАЯ ПЕСНЯ З ПРОБЛІСКАМ НАДЗЕІ

Мастакоўская неардынарнасць Віктара Казько, яркая таленавітасць усяго, што выходзіць з-пад ягонага пяра, даўно не выклікае сумненне. Ён атрымаў прызнанне і ў чытачоў, і ў самых патрабавальных крытыкаў яшчэ сваімі рускамоўнымі творамі (аповесці «Высакосны год», «Цёмны лес — тайга густая», «Дзень добры і бывай», «Аповесць пра беспрытульнае каханне»). Але потым усё ж адважыўся перайсці на родную беларускую мову, ад якой пэўны час быў зусім адарваны складанымі абставінымі жыцця. Мабыць, загаварыў урэшце «голас крыві», абудзілася генная памяць, атрыманая ў спадчыну ад бацькоў, страчаных вельмі рана, яшчэ малым дзіцем (Казько застаўся круглым сіратою ў трохгадовым узросце).

Зрабіць рашучы паварот да родных вытокаў, да беларускага слова дапамагалі сяброўскія парады Івана Мележа, які меў асабліва чуйны слых на ўсё сапраўднае, заўважаў пісьменніцкі талент па самых першых праявах і добра бачыў, у якім кірунку ён можа з найбольшым поспехам развівацца.

У беларускай літаратуры Віктар Казько адразу заняў сваё трывалае і вельмі прыкметнае месца. Гэта з усёй пераканальнасцю засведчылі аповесці і раманы «Суд у Слабадзе», «Неруш», «Хроніка дзетдомаўскага сада», «Но пасаран», «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел».

Пра ўсе гэтыя творы мне з той ці іншай нагоды ўжо даводзілася выказвацца ў друку. Таму цяпер я спынюся толькі на дзвюх новых аповесцях празаіка — «Прахожы» і «Да сустрэчы...», апублікаваных у часопісе «Полымя» (1995, № 9; 1997, № 5).

Ужо ў рамане «Неруш» і асабліва ў «Хроніцы дзетдомаўскага сада» выразна выявілася імкненне Віктара Казько да мастакоўскага даследавання самых вострых праблем сучаснасці, а таксама да складанай арганізацыі апавядальнай плыні твора, яго сюжэтна-кампазіцыйнай структуры, у якой, перакрыжоўваючыся, узаемадзейнічаюць састаўныя элементы рознага

кшталту: уласна мастацкая выяўленчасць, у сваю чаргу, таксама далёка неаднародная, неадназначная ў сваёй разнапланавасці. Паэтыка канкрэтна-рэалістычная, для якой характэрна яркая дэталізацыя, а часта і гумарыстычная падсветка, тут спалучаецца з умоўна-сімвалічнай вобразнасцю і шматзначна-прытчавым пачаткам. Усё гэта цягне за сабой і разнастайнасць экспрэсіўна-стылёвых рэгістраў, сярод якіх усё большую ролю набывае непасрэдна аўтарскае слова рознай эмацыянальнай афарбоўкі. Вельмі часта яно з’едліва-іранічнае, парадаксальна-падкавырыстае, поўнае прыхаваных, а то і адкрытых выпадаў супраць многіх прыкрых рэалій нашага часу, непрымальных для гуманістычнай свядомасці пісьменніка.

Прыгадваючы, як стваралася «Хроніка дзетдомаўскага сада», празаік у гутарцы з У. Ягоўдзікам зазначаў: «На пачатку работы я не ведаў, што і як напішацца, але адчуваў: сабраны матэрыял патрабуе нейкай свабоднай, раскаванай формы. Наогул, калі прызнацца, я не люблю сюжэта, ён мне не ўдаецца. Каб перадаць тое, што накіпела ў душы, выліць увесь свой боль, мне патрэбна была менавіта свабодная форма расказу з частымі вяртаннямі ў мінулае, з аўтарскімі адступленнямі — разгорнутымі роздумамі. Я перш за ўсё ішоў за думкаю, баяўся страціць напружанасць гэтай думкі». Далей, са спасылкай на тэарэтыкаў, яшчэ гаварылася пра вялікія магчымасці не звыклай эпічнасці, а рамана-эсэ, рамана-даследавання.

Гэтыя формы цяпер і сапраўды набываюць усё большае пашырэнне. Іх уплыў на творчасць Казько бясспрэчны і вельмі моцны. Нездарма ж пісьменнік ужо «Хроніку дзетдомаўскага сада» ў часопісных публікацыях называў трохі іначай: «Сад, альбо Заблытаны след рамана». Гэтым загалоўкам падкрэслівалася нетрадыцыйнасць твора, складанасць яго апавядальнай плыні, у якой галоўным формаўтваральным пачаткам выступае не прывычнае для эпічнай класікі разгортванне падзейнага сюжэта, а пісьменніцкая думка. Менавіта яна ўладарна дыктуе апавядальную форму, падпарадкоўвае сабе ўсё ў творы.

Прыярытэт аўтарскай думкі несумненны і ў аповесцях «Прахожы» і «Да сустрэчы...», дзе яшчэ ўзмацняюцца жанравыя прыкметы прозы-роздуму, эсэ, даследавання, рознабакова нюансіраваных псіхалагічных экскурсаў з вельмі абмежаванай падзейнасцю. Трывалы непасрэдна падзейны ланцуг з добрай дапасаванасцю ўсіх ягоных звенняў, які трымае ў выразна і нават строга акрэсленым рэчышчы апавядальную плынь у класічнай эпіцы, тут змяняецца скупым свавольна-зігзажыстым падзейным пункцірам, часта няпэўна-загадкавым, а то і прывідна-хісткім, містыфікаваным, калі нельга адназначна сказаць, тая або іншая падзея на самой справе адбылася ў мастацкім свеце твора ці яна толькі прымроілася аўтару-апавядальніку.

Так, у аповесці «Прахожы» падзейную аснову складае ў многім загадкавая гісторыя рудога ката Міхлі, якога за галавастасць і кемлівасць называюць яшчэ і Леніным. «Разумнік, лабасты, ну чыста Уладзімір Ільіч Ленін... Пайшоў у кош», — выносіць свой прысуд кацяняці, пацалаваўшы яго, мусіць, іудзіным пацалункам, гаспадыня той хаты, на гарышчы якой паявіўся на свет гэты разумнік-хітрун. Прысуд быў смяротны, бо ў згаданым кашы кацянят неслі тапіць. Але Міхля не затануў. Ён неяк выратаваўся, каб зноў і зноў трапляць у арбіту пісьменніцкага роздуму, які і складае ўнутранаглыбінны сюжэт твора, яго сапраўдны змест.

У аповесці «Да сустрэчы...» уласна падзейная аснова таксама небагатая. Гэта твор пра паміранне мастака, выдатнага Майстра, які ўжо на схіле жыцця, у свае самыя апошнія дні, падводзіць несуцяшальныя вынікі пражытаму і зробленаму. Але непаслядоўнае ўзнаўленне перажытага, калі не ва ўсёй паўнаце, вядома, практычна немагчымай, дык у большасці паваротных момантаў, з'яўляецца самым істотным, галоўным у аповесці, а Майстраў роздум пра сваё жыццё і час, эпоху, якая таксама адыходзіць, у пэўным сэнсе памірае разам з мастаком і ягонымі паплечнікамі і праціўнікамі па мастацтве. Многія ж эпізоды, падрабязнасці жыццёвай біяграфіі Майстра і яго творчасці ўвогуле падаюцца сумарна-абагулена і вельмі няпэўна. Толькі намёкамі, якія могуць абрывацца зусім нечакана. У жывым працэсе мыслення такія абрывы і недагаворкі вельмі натуральныя. Але паўнаце і канкрэтнасці ўяўлення пра справы мастака яны, зразумела, не садзейнічаюць. У творы нават не гаворыцца, у якой галіне мастацтва працуе Майстра.

Аповесць прысвечана памяці вядомага беларускага кінарэжысёра Віктара Турава, які нарадзіўся ў Магілёве. З Магілёвам звязаны і лёс Майстра з аповесці «Да сустрэчы...». Як і рэальны Віктар Тураў, памірае намаляваны пісьменнікам мастак адразу пасля свайго шасцідзесяцігоддзя ад страшнай хваробы — раку. Улічваючы гэтыя факты і некаторыя іншыя супадзенні, можна сцвярджаць, што жыццёвая і творчая біяграфія менавіта Турава дала галоўную зачэпку для роздуму празаіка пра лёс мастака і мастацтва ў наш час.

Але Казько выкарыстоўвае і некаторыя дэталі, звязаныя, як можна здагадацца дасведчанаму чалавеку, з Андрэем Макаёнкам. Ёсць у творы прамыя згадкі пра Максіма Танка і Пімена Панчанку.

Словам, зусім невыпадкова, што Майстра пакінуты безыменным, а сфера яго дзейнасці ў мастацтве дакладна не называецца. Так падкрэсліваецца «зборнасць», шырокая абагульненасць вобраза, яго характэрнасць, а калі хочаце, і тыповасць для нашай яшчэ савецкай і цяперашняй рэчаіснасці. А пісьменніцкі роздум пра чалавека ў XX стагоддзі, пра пакутлівыя шляхі мастака і мастацтва ў эпоху вялікай, бязлітаснай і, як аказалася, згубнай ломкі

ўсяго, распачатай бальшавікамі ў 1917 годзе, — гэты роздум (пераважна ад імя Майстра і праз ягоныя думкі, разважанні, здагадкі, прызнанні) атрымаў прастору для разгарнення, стаў вельмі цікавым, глыбокім і сапраўды маштабным.

У абедзвюх аповесцях выдатна паказана бязладдзе нашага цяперашняга і нядаўняга жыцця, яго парадаксальнасць, абсурднасць і нейкая фантасмагарычнасць, адлюстраванне якіх найбольш уражвае і ў «Прахожым», і ў «Да сустрэчы...».

Адна з яркіх праяў гэтай фантасмагарычнасці — уяўная раздвоенасць самога апавядальніка ў аповесці «Прахожы», асэнсаваная з'едліва-іранічна, з выразнай праекцыяй на сучаснае грамадства: «Не ведаю, хто я. Хаця і дакументы маю. Пашпарт дзяржавы, якая ўжо не існуе. Мова чужая, чаравікі заморскія — са старых запасаў, фрэнч шэра-бура-малінавы, а штых... не, штыха няма. А быў, быў нямецкі, у хаце лучыну калоць. Ды нейкія заезджыя калекцыянеры ногі яму прырабілі. І як нешта ўсё роўна прырабілі і мне. Памянялі галаву на адно месца. І я не прыкмеціў бы, навошта мне сёння тая галава, ды толькі ў пэўны неадкладны час блытацца пачаў: ці то есці, ці то... І мерзне на ветры новая галава, прывыкла да штаноў. І перад іншымі людзьмі было спачатку крыху няёмка. Але потым прыгледзеўся: бацюхнысветы, ды гэта ж такое сёння не толькі ў мяне аднаго». І працяг: «Добра яшчэ, што мне, як таму арлу, прыладзілі толькі дзве галавы. А каб болей, я адчуваю, яны б проста разадралі мяне што тую жабу, жыўцом з'елі. А так пакуль жывы. Галовы камандуюць, а я ні з месца, хай самі паміж сабой разбіраюцца. Якая пераможа, той і буду падпарадкоўвацца».

Фантасмагорыя разгортваецца і далей. Апавядальнік, яшчэ ўзмацняючы праекцыю дурноты на грамадства і яўна мецячы пры гэтым у адміністрацыйны сверб вялікіх чыноўнікаў, зазначае: «Вось так і ў маёй галаве боўтаюцца нічым не стрыманыя думкі, пазбаўленыя перагародак [як у яйку-баўтуне, дзе жаўток змешваецца з бялком]. Адна наскоквае, наязджае на другую. І атрымліваецца адна толькі дурнота. Падазраю, што такое сёння адбываецца не з адным толькі мной, не сляпы і не глухі, слухаю радыё і калі-нікалі гляджу тэлевізар і чытаю... Спрэс адны толькі людзі без перагародак у галаве. Баюся, што скора-скора ад іх пачне патыхаць гніллю і гноем. За сябе таксама баюся.

Смярдзіць, смярдзіць нешта чалавек напрыканцы другога тысячагоддзя, як тая рыба, гніе з галавы».

Кіраўнічае безгалоўе і агульная людская безадказнасць нараджаюць мноства складаных праблем, сярод якіх у аповесці «Прахожы» звяртаецца ўвага на страту беларусамі «гістарычнай памяці», вялікае пашырэнне п'янства,

паміранне вёскі, жахі Чарнобыля, ад якіх пісьменніцкая думка сягае ўжо ў космас. Так гранічна завастраецца экалагічная праблема: «Апаганілі сваю матухну-Зямлю, цяпер замахваемся і на іншыя планеты, на сусвет. Космас нас вабіць і прыцягвае да сябе. На Млечным Шляху выспацца і паблукаць, разгадаць яго таямніцы марым. І толькі марым. Колькі ж гэтага ўсяго нашага ламачча круціцца ў тым космасе. Колькі дзірак і праколін над нашай галавой. Якія толькі хапуны і калатуны не хапаюць і не калоцяць нас сёння, таго-сяго да смерці. Бясконца доўжацца магнітныя буры ў космасе, а ў чалавека на Зямлі ціснe сэрца і кружыцца галава, уціскае і ўкручвае яго ў сырую маці-зямлю. Сярод зімы ні з таго ні з сяго ўсчынаюцца навальніцы з громам і маланкай. Бясконца, як у ліхаманцы, то на адным краі Зямлі, то на другім узнікаюць землятрусы. І людзі падаюць пачкамі ўжо. Гэта сёння, калі космас яшчэ толькі прыгожая мара. А што будзе заўтра, калі мы, як татара-мангольская арда на чале з новым Мамаем, хлынем туды... Рана, рана нам яшчэ туды. Мы ж абавязкова і там пачнем са свінарніка. У нас жа завядзёнка такая — пачынаць са свінарніка.Ператвараць усё ў свінарнік, а потым чухаць патыліцу: нешта не так. На ўвесь сусвет з таго Млечнага Шляху разляжацца парасячы віскат, смурод і чалавечы плач. Як і на Зямлі, пачнецца барацьба за чысціню сусвету, у выніку якой каменя на камені не застанецца, не застанецца і знаку ад самога сусвету».

Залішне змрочная карціна, занадта вялікае перабольшанне? Але вельмі ж неабачліва гаспадараць людзі на нашай планеце, асабліва ў краінах, якія яшчэ нядаўна называліся сацыялістычнымі і на словах як быццам клапаціліся найперш пра чалавека, аднак менавіта яго і губілі найбольш. Вось і енчыць чалавечая душа, крыкам крычыць, а то і губіць сябе самазабойствам. Пра гэта таксама з вялікай горыччу гаворыцца ў «Прахожым».

Развіваючы матыў разбурэння чалавечай душы як вынік шматгадовага бязладдзя ў краіне, аўтар згадвае і ўсё больш пагрозлівае ўзмацненне разладу паміж бацькамі і дзецьмі, што таксама з'яўляецца прыкметай крызіснага стану грамадства. «Раней дзяцей знаходзілі ў капусце з каляровай соскай у роце», — разважае апавядальнік з пэўнай жартоўна-казачнай гуллівасцю, якая хутка змяняецца на іншы тон, ужо зусім горкі, бо «дзяцей усё часцей і часцей знаходзяць на сметніках. І ўпрыгожаны яны цяпер не ружовымі банцікамі, а спехам пагрызенай, крывавячай яшчэ пупавінай, як пятлёй, вяроўкай з шыбеніцы. Парвалася пупавіна паміж дзецьмі і бацькамі». Пакутуюць ад гэтага не толькі дзеці, але і самі бацькі, якія з-за вялікай крыўды на жыццёвую неўладкаванасць «спяшаюцца хутчэй адысці на той свет...». Каб не чуць і не бачыць таго, што творыцца на гэтым свеце. І радуюцца, калі прыспявае час таго адыходу, а не — то і паскараюць яго. Тая ж пелька на

шыю — і бывайце здаровы, жывіце багата. Навек і навечна ад'язджаюць дадому, дахаты. Сапраўды, нашы дзяды не ведалі бяды, іх унукі спазналі мукі».

Апошнія фразы паказальныя і для стылістыкі «Прахожага» і іншых твораў Казько. У гэтай стылістыцы шырока і звычайна трапна выкарыстоўваюцца ўстойлівыя моўныя клішэ рознага паходжання, якія, як і ў згаданых прыкладах, найчасцей пераасэнсоўваюцца ў іранічным ключы, а ўвогуле ж ствараюць шырокі культурны кантэкст, для твораў з моцнай інтэлектуальна-філасофскай скіраванасцю вельмі істотны. У такім кантэксце натуральна ўспрымаюцца і па-свойму дасціпная фразеалогія пра шчырага камуніста, які пэўна сцвярджаў пра сябе толькі тое, што ён «без цара і Бога ў галаве», і тыя ж цытаты, часам трохі перайначаныя, з вядомых песень ці паэтычных твораў, напрыклад Маякоўскага, што ледзь не жывасілам убіваліся ў нашы галовы яшчэ са школьных гадоў, і добрыя прыказкі, і ходкія, у пэўным сэнсе таксама трапныя, штампы палітычнага жаргону эпохі, і выразы, стылізаваныя пад біблейскую ўзвышанасць ці, наадварот, пад жартоўна-зніжаны раёк.

Заканчваецца аповесць «Прахожы» трохі загадкава, ці не гібеллю жыцця на зямлі ў выніку сутыкнення з каметай, куродымны хвост якой «накрыў зямлю хмарай. Камета абрынулася на людское мора. Апошні раз заспявала ці то застагнала скрыпка. А мо так пранізліва заскрыпеў на лузе дзяркач. Заскрыпеў і змоўк». Назаўсёды? Зусім пэўна адказаць цяжка, бо заключны раздзел аповесці, з якога ўжыты працытаваныя радкі, мае яшчэ некалькі аддзеленых вялікім інтэрвалам абзацаў, дзе ўжо гаворыцца, нібыта «чыясьці касмічная душа», «адыходзячы ад зямлі», пачынае «маліцца за яе». І вось вынік: «Благаслаўлёнае, мяккае святло легла на страху хаты, на прыбярэжныя, непраглядныя і ў сонечны добры час хмызы. І хмызы тыя засвяціліся, заззялі, зазіхацелі, няйнакш як нехта асвячаў і мілаваў зямлю. Благаслаўляў яе сярод глыбокай ночы і цемры на доўгі і шчаслівы шлях у сусвеце».

Значыць, пасля катастрофы жыццё на зямлі адродзіцца і заззяе ў новай красе? Здавалася б, трэба думаць так. Але чамусьці ад таго благаслаўлёнага святла ўжо ў самых апошніх радках аповесці «гарэла хата», пакінутая двума рудымі катамі, якія «зніклі ў хмызах. Больш іх ніхто нідзе не бачыў».

Апошняя дэталь (што рудых катоў стала два) таксама трохі нечаканая, бо на працягу твора дэманстраваў сваё ўсведамленне і містычныя прароцтвы адзін вусаты рудзька, які доўга спадарожнічаў апавядальніку. Зноў раздваенне, цяпер ужо ката? У фантасмагарычным свеце яно не павінна здзіўляць.

А тое, што гарыць хата, усё ж азадачвае, бо пажар ахоплівае хату не простую, а выразна сімвалічную. Відаць, менавіта яе будаваў апавядальнік як надзейны прытулак у жахлівы, «цьмяны і няпэўны час». І будаўніцтва тое таксама з сімволікай — яно вялося на месцы, дзе некалі жыў старажытны

чалавек. Адсюль, сцвярджалася ў яшчэ адным фантасмагарычным эпізодзе, «пойдзе пачатак новага жыцця Беларусі», «пойдзе ў свет і па свеце новы чалавек». І вось такая хата гарыць. Дык ці не перакрэсліваюцца такім фіналам заяўленыя перад гэтым спадзяванні на шчаслівы ўрэшце лёс зямлі? Ці яна мысліцца шчаслівай без людзей?

Гаворка ж пра новага чалавека, якая вялася трохі раней, таксама нясе ў сабе нешта легкаважнае, можа, нават знарок парадыйнае, бо вельмі ж яна нагадвае фанабэрыстую фразеалогію бальшавікоў, якія бясконца трубілі пра нібыта распачатую імі новую эру і стварэнне таго ж новага чалавека. А што засталося ад іхніх зманлівых абяцанак-цацанак? Адно расчалавечванне людзей, пра якое шмат і з вялікім эмацыянальным напалам напісана ўжо ў аповесці «Да сустрэчы...». Крытыка нядаўняй і сённяшняй рэчаіснасці, да якой мы прыйшлі, паверыўшы ў прывід камунізму, што яшчэ з часоў жывога Маркса блукаў па Еўропе, тут надзвычай вострая і рэзкая. Значыць, меў рацыю рускі крытык Л. Анінскі, які ўжо ў канцы 1970-х гадоў хлёстка сказаў: «Казько піша — як рэжа: напор гравёра — папера гарыць і рвецца». Часам гарыць яна і ад эмацыянальнага, вядома, крытычнага, напалу ў аповесці «Да сустрэчы...».

Вось як успрымае горад свайго пастаяннага жыхарства Майстра, вяртаючыся сюды з чарговай паездкі: «Горад быў чужы яму, нейкі асуджальна, а мо і асуджана пахмурны. Лагодны і ветлівы раней, ён за нейкі тыдзень непазнавальна і брыдка перавярнуўся, перакруціўся. Не горад, а пярэварацень. Ваўкалак. За адзін толькі тыдзень, што не бачыў яго Майстра, горад непрыемна агаліўся, бессаромна, як старая баба, якой ужо нечага саромецца... Горад быў перапоўнены войскам у пачварна балотна-стракатай уніформе, накшталт вужынай скуры, калі той рыхтуецца скінуць яе. Вужыным цёкам яны займалі ўсе пад'езды і пераходы каля Дома ўрада, усе падыходы да плошчы Незалежнасці, бежкі паўзлі да выйсцяў з метро і застывалі там, як прыкіпалі ці прыклейваліся да мокрага, чорнага асфальту. Толькі няспынна, як у барабаны ці тамтамы, білі гумавымі дубінкамі ў чорныя шчыты, што трымалі перад сабой, і былі вельмі падобны на застаялых жарабцоў перад злучкай. Уражанне гэта ўзмацнялі гумавыя чорныя дубінкі, што, як у раз'юшанага жарабца пад узмакрэлым ільсняным ад жадання чэравам, увесь час падымаліся і пагойдваліся, узляталі і апускаліся на чорныя металёвыя і пластмасавыя шчыты».

Карціна зноў у нечым фантасмагарычная. Але хто, не трацячы сумлення, адважыцца сцвярджаць, што яна не адлюстроўвае нашу цяперашнюю рэальнасць? А хіба можна назваць нармальнымі для нармальнага грамадства мару дзяўчынкі-школьніцы стаць прастытуткай ці такія парадоксы, як

абвінавачванне глуханямога падлетка ў выкрыкванні абразлівых заклікаў, або тое, што ўвогуле прыстойныя жанчыны п'юць віно ў тэлефоннай будцы ці ў нейкім заснежаным садзе ў зімовую ноч? З гэтага разраду і гучная юбілейная ўрачыстасць, афіцыйна наладжаная для смяротна хворага чалавека, які з тых урачыстасцей ужо не даехаў і да бальніцы.

Прыкрая рэальнасць, адлюстраваная ў аповесці, — таксама і масавае прыслужніцтва нашай інтэлігенцыі камуністычнай уладзе. Ды ці толькі ёй? Грэшны ў гэтым прыслужніцтве і Майстра: «Бог даў яму голас і слова, адметны слых і мову. Даў тое, чаго мо і ў самога мелася няшмат, што ён даваў мо аднаму толькі на мільён ці нават на некалькі мільёнаў. А ён так бязглузда, бяздарна распарадзіўся гэтым дарам. Прадаў гэты дар, прадаў сябе. І нават невядома каму прадаў.

Фаўст хоць і заклаў душу чорту, мярзотніку, але ўсё ж інтэлекту і сіле. А ён саступіў тую ж душу звычайнаму прывіду, хай жорсткай, бязлітаснай, але ўвогуле дубаватай машыне. Машыне ў пагонах і без, якая сяк-так вывучылася пісаць, складаць пратаколы, весці дасье, брахаць на дзень светлы і на гарэлы пень, хапаць, цягнуць, саджаць. І хоча ён прызнаць ці не, але ён таксама хапаў, цягнуў, судзіў, дапамагаў, чысціў дарогу той машыне, бо яна набыла, купіла яго. І вельмі танна. А дзярмо ніколі не было ў цане».

Сказаны гэтыя жорсткія, але вельмі слушныя словы ад імя аўтара. Але па сутнасці гэта няўласна-простая мова, роздум самога Майстра. І вастрыня, нават бязлітасная здзеклівасць ягонага самаасуджэння азначае, што нешта жывое ў чалавека засталося, захавалася яно да самых апошніх імгненняў жыцця. Сваю смерць ён сустракае з годнасцю, як заслужаную расплату за нязробленае ці зробленае не так, як належыць сапраўды вялікаму Майстру, адказнасць якога таксама дужа вялікая — каму многае дадзена, з таго і найбольш патрабуецца, бо калі «дзічэе творца, дзічэе народ, дзічэюць улады».

Такім чынам, Віктар Казько таленавіта, у многім закавырыста, але з адчайнай рашучасцю адлюстроўваючы фантасмагарычнасць нашага жыцця, піша пахавальную песню. Аднак гэтая песня, пры ўсёй яе надзвычай горкай скрушлівасці, небезнадзейная. Бо на змену перакуленаму, звар'яцеламу часу з бяссіллем чалавека і мастацтва ў ім павінен прыйсці час новы. Вера ў гэта ў пісьменніка ёсць. І выказваецца яна дастаткова пэўна ў абедзвюх аповесцях. Вось толькі ці доўга давядзецца нам чакаць таго новага часу? Адказы на такія пытанні дае толькі само жыццё. Слова за ім.

*1997 г.*





## БЯДОЙ ЗАПАЛЕНАЕ СЛОВА

Чарнобыльская катастрофа і яе згубныя для многіх пакаленняў вынікі, якія ставяць пад пагрозу само існаванне беларусаў як нацыі, для нас увогуле тэма найвялікшай трагедыйнасці. Яна ўжо нарадзіла значныя творы ў самых розных жанрах. Тут можна згадаць вершы А. Грачанікава, Р. Барадуліна і Г. Бураўкіна, паэмы С. Законнікава «Чорная быль» і Я. Сіпакова «Одзіум» (паэма ў прозе), апавяданне «Ільвы» І. Пташнікава, аповесць «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел» В. Казько, раманы «Злая зорка» І. Шамякіна і «Лабірынты страху» А. Асіпенкі, шэраг дакументальна-публіцыстычных твораў, у тым ліку адметную сваёй баявітасцю і вострай крытычнасцю кнігу «Апакаліпсіс па графіку» А. Адамовіча, які шмат намаганняў паклаў на тое, каб горкая праўда пра Чарнобыль стала здабыткам грамадскасці.

Сёння ўжо раздаюцца галасы, што і Чарнобыль можа стаць тэмай дзяжурнай і зацяганай. У прынцыпе такое, вядома, магчыма. Але М. Мятліцкі звяртаецца да чарнобыльскай трагедыі не таму, што спяшаецца адгукнуцца на ходкую тэму. Наша агульнабеларуская бяда для яго яшчэ і бяда вельмі асабістая, трагедыя ўласная. Бо яна непасрэдна закранула лёс яго блізкіх сваякоў, пазбавіла самога паэта малой радзімы. Я маю на ўвазе тое, што Чарнобыль пахаваў яго родную вёску Бабчын у Хойніцкім раёне, засыпаную радыенуклідамі так густа, што прыйшлося высяляць усіх яе жыхароў. А там жа жылі сястра і цётка паэта, там засталіся магілы ягоных маці і бацькі, успаміны дзяцінства і юнацтва, словам, тыя карані, якія звычайна напаўняюць жывымі сокамі мастацкую творчасць. Такое не можа не выклікаць сапраўдны боль і вялікія пакуты, з якіх пры наяўнасці таленту і нараджаецца прачулае слова паэзіі.

Для М. Мятліцкага ў яго чарнобыльскіх вершах гэта перш за ўсё «бядой запаленае слова», слова вынашанае, усхваляванае і трывожнае. У «Палескім смутку» яно складае аснову кнігі, вызначае яе пераважную танальнасць і галоўны пафас, адкрыта заяўлены ўжо ў вершах, якія пачынаюць чарнобыльскі раздзел:

Кут мой забыты, безабаронна
Зорыш пагаслых вачыма.
Некаму ты —
Ачужэлая зона,

Сэрцу майму ты да скону —
Радзіма.

Сэрца пачула грознае ліха.
Ззяе крывёю студнае ранне.
Спяць у магілах прадзеды ціха.
Горыч атруты...
Холад выгнання...

(*«Кут мой забыты»*)

Далей гэта запеўка агульнага характару канкрэтызуецца праз вершы, у аснову якіх пакладзены канкрэтныя рэаліі, зноў жа непасрэдна звязаныя з малой радзімай паэта. Так паяўляюцца «яблыня на селішчы забытым» (аднайменны верш), «бярозы ў мёртвай зоне», якія абпалены ядзерным пажарам і таму дачасна скідаюць на дол сваю лістоту (верш «Стаяць бярозы ў мёртвай зоне»), адзінокая таполя з матчынай вёскі («Таполя») і самі «чарнобыльскія» вёскі з іх трагічнай доляй (вершы «Бабчын», «Баршчоўка», «Вялікая Пель» і інш.).

Такі ж канкрэтны характар маюць вершы «Дыпціх чакання», «Астатні начлег», «Землякам», «29 жніўня 1986 года». Вынесеная ў загаловак апошняга верша дата — дзень прыезду ў Бабчын пісьменнікаў-землякоў (І. Шамякіна, Б. Сачанкі, М. Мятліцкага), які супаў з высяленнем вёскі. Натуральна, што такое супадзенне абвастрыла пачуцці аўтара. І гэта знайшло сваё адлюстраванне ў творы, у якім звяртае на сябе ўвагу не толькі перажытасць пачуцця і шчымлівасць болю, але і значнасць некаторых абагульненняў:

Захліпнецца ў пакуце
Белым светам душа.
Свет у хіжай атруце,
Пі — нібы з гладыша!

Як спакойна, разважна
Мне сказалі тады:
«Гэты свет неабсяжны».
А падзецца — куды?

Значнасць абагульняльнай аўтарскай думкі відавочная і ў вершы «Каўтаючы выгнанніка слязу». Тут ідзе размова пра горкую долю векавой хвоі з чарнобыльскай зоны і яблыні з пакінутых садоў. Твор заканчваецца ёмістай страфой:

І толькі сонца,
граючы ў праменні,
Пасее ў кронах атамны спалох.
Яны удзвюх паўсталі на
рэнтгене
Усіх часоў, усіх зямных эпох...

Ставіцца ў паэзіі М. Мятліцкага і пытанне пра адказнасць за жахлівы чарнобыльскі рэнтген, які з асаблівай яркасцю высвеціў гаспадарчае бязладдзе ў краіне, а таксама ўсю крывадушнасць дзяржаўнага таталітарызму ў былым СССР і народжаную ім маральную дэградацыю нашага грамадства.

Бабчынцы з верлібра «Малюнкі на чорным асфальце» думаюць, што лёс пакараў іх за «смяртэльны грэх» — непавагу да звычаяў і веры продкаў. Бо на месцы іхняй царквы, спаленай нейкім нецярплівым прыхільнікам «шчаслівай будучыні» любой цаной, «у вайну хавалі забітых немцаў», а потым, зруйнаваўшы «астатняй чалавечай помстай» іх магілы, паставілі клуб, у які перабралася вясковае начальства.

Святатацтва безумоўнае. І яно ў нас праяўлялася ўсюды, набывала глабальныя маштабы, катастрафічна нявечачы людскія душы. Так дайшлі і да Чарнобыля, які, думаецца, таксама няшмат чаму нас навучыў. Пра гэта ўжо верш «Паводле аднае сустрэчы». Тут паўстае перад намі адказны чыноўнік высокага рангу, з тых, што бралі на сябе місію вырашаць лёс народа, але клапаціліся не пра яго, а толькі пра свае высокія пасады. У нас яшчэ на памяці бессаромная хлусня такіх дзеячаў, іх спробы, не думаючы пра трагедыю людзей, схаваць сапраўдныя маштабы чарнобыльскай катастрофы.

Ты быў скупым. І не было
спагады,
Мальба не далятала да вушэй,
Бо ведаў ты адзін закон
улады:
Абы цішэй... Абы было цішэй.
Далёка страх ад вокнаў тваёй
хаты,
І ты занёс на боль чыноўны
бот.
Ды ведаю, што прыйдзе час
адплаты
І для такіх — калючы ўстане
дрот, —

піша М. Мятліцкі, звяртаючыся да таго высокага чыноўніка. Калючы дрот лагернай зоны, выкліканы ў свядомасці аўтара па асацыяцыі з зонай чарнобыльскай, нашым нядаўнім валадарам, адказным у канчатковым выніку і за Чарнобыль, здаецца, асабліва не пагражае. Але гісторыя ўжо вынесла ім свой, будзем спадзявацца, канчатковы прысуд, які замацоўвае і слова паэта.

Шмат месца ў чарнобыльскіх вершах М. Мятліцкага займаюць матывы тугі, адзіноты, беззваротнасці страт. Для лірычнага героя паэта яны зусім зразумелыя і выказваюцца ў большасці выпадкаў з добрай пранікнёнасцю. Вось некалькі прыкладаў:

І сонца тут —
як вока адзіноты —
Цікуе з-за пахмурных
вершалін,
Пытаючы бязмоўна, хіжа:
Хто ты,
На бальшаку асмужным,
адзін?
(*«Штоноч бяссонне кліча»*)

І вось — здзічэлая зямля,
Палын у пары з лебядою
Трапечуць крылы матыля
Над палыноваю бядою.
Іду. Бязлюдная зямля
І сонца дыск, як бохан
здобны.
І сам душой на матыля
Безабаронна так падобны.
(*«Матыль»*)

Гэтыя тужлівыя, горасныя матывы ўзмацняюцца напамінкам пра магілы бацькоў, пахаваных у чарнобыльскай зоне. Трэба сказаць, што паэт часта звяртаецца да лёсу бацькі і асабліва маці, прачула піша пра дзядоў і іншых сваякоў, увогуле пра сваю арганічную з'яднанасць з мінулымі пакаленнямі, якая складае адну з найбольш істотных прыкмет ягонага адчування роднага краю.

Зразумела, і ў гэтым тэматычным коле выразна гучаць трагедыйныя ноты. Але разам з тым успамін аб продках з'яўляецца апорай для гістарычнай памяці аўтара, адной з важных асноў яго жыццёвай філасофіі, яго светаадчування. «Мне свет зямны нашмат шырэй відзён у продкаў чалавечай праваце», — сцвярджаецца ў добрым вершы «Дзяды».

Палескі жывічны бор, яшчэ не атручаны радыяцыяй, успрымаецца як сімвал неўміручасці жыцця і самой вечнасці. Нездарма ж баравы шум тут набывае такую важкасць, што здаецца, «нібы рыпіць сама зямная вось».

Увогуле, нахіл да філасафічнасці ў многіх творах М. Мятліцкага відавочны. Як быццам толькі пра змену пораў года, у прыватнасці пра асенняе заміранне прыроды, піша паэт у вершы «На ўзлессі восенню зіхоткай». Але і тут ёсць выразны філасофскі аспект, падкрэслены канцоўкай твора:

На ўзлессі восенню замглёнай
Паміж камлёў бяроз і хвой
Снуецца сумна і стамлёна
Жыцця сувой.

Філасофскі роздум пра будучыню, яе, калі можна так сказаць, пэўную гіпатэтычнасць, ва ўсякім разе — далёка не безумоўную гарантаванасць пры сённяшнім шаленстве разбуральных сіл, а значыць, і крохкасць спадзяванняў на лепшае нарадзіў верлібр «Будучыня», якая аўтару ўяўляецца ў вобразе «азяблай на скразняках, жахнутай папялішчамі» дзяўчынкі, што грукаецца ў людскія сэрцы. «Але мала хто чуе стук яе кулачкоў», — робіць несуцяшальную выснову паэт.

Вядома, ёсць у паэзіі М. Мятліцкага, у тым ліку ў творах апошніх гадоў, і свае недахопы. Часам яго падводзіць імкненне пісаць прыгожа і размашыста. У некаторых выпадках М. Мятліцкі дазваляе сабе ўжываць недакладна выверанае слова, якое, бывае, уносіць пэўную дысгармонію ў эмацыянальную атмасферу твора. Так, у іранічных замалёўках «Спачуванні» ёсць радкі:

Я спачуваю браканьеру,
Хто бачыў з юшкаю вячэру
Ды быў ухоплены за чуб.
Урон рацэ з усмешкай меру
Прад тым, што мкне з
атрутных труб.

Відаць, усмешка адрасавалася няўдачліваму браканьеру, але скіравалася яна на атручаную раку, гледзячы на якую хутчэй не засмяешся, а заплачаш.

Пра адзін з вершаў хацелася б сказаць асобна. Маю на ўвазе «Афганскую баладу». Верш, мяркуючы па яго змесце, пісаўся яшчэ тады, калі нашы хлопцы невядома дзеля чаго клалі свае галовы ў далёкай краіне. Відавочна, гэтая храналагічная акалічнасць і паклала свой адбітак на стылістыку твора. Але ж перадрукоўваўся ён, прытым двойчы — і ў «Палескім смутку», і ў «Благаславенні», — ужо ў 1991 годзе, калі і самы малы налёт нашай былой афіцыёзнасці ў поглядзе на Афганістан успрымаўся як нясцерпны фальш.

Ці не адзінае, што ў «Афганскай баладзе» сапраўды жывое, дык гэта боль маці, якая даведваецца пра гібель сына. Але і пра яе трагедыю напісана ў вершы не вельмі ўражліва.

Мацней гучыць падобны трагічна-балючы матыў у вершы «Бабчынскія могілкі», дзе ў ліку іншых нябожчыкаў з Бабчына згадваецца і «афганец». Праўда, фальшывы штрых ёсць і там — у згадцы пра «павечную славу» хлопца. Тыя, каго прывозілі ў цынкавых трунах з Афганістана, заплацілі за недаравальны авантурызм нашага тагачаснага кіраўніцтва самым дарагім, што ў іх было, — жыццём. Але славы яны не здабылі, ні «павечнай», ні нават часовай. Праўда гэта, зразумела, горкая, невыносна балючая. Але нікуды ад яе не дзенешся.

Адзначу таксама паўторы адных і тых жа ці блізкіх паэтычных вобразаў у розных творах: «Дажджы – наскрозь – цярусяць кіслатою», «Цярусяцца кіслотныя дажджы», «Дажджы кіслотныя абіваюць пялёсткі» і да т. п.

Вядома, гэта ўжо агрэхі зусім дробныя. Увогуле ж у мяне склалася ўражанне пра «Палескі смутак» як пра добрую, важкую кнігу, якая невыпадкова ў наш тлумны, шчодры на самыя розныя нечаканасці, але вельмі неспрыяльны для захаплення паэзіяй час ужо прыцягнула пэўную ўвагу грамадскасці.

*1992 г.*





# ЖОРСТКАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ З МІСТЫЧНЫМ ДАМЕШКАМ

Кніга Юрыя Станкевіча «Апладненне ёлупа» (Мінск, «Настаўніцкая газета», 2005) вызначаецца перш за ўсё сваім вялікім памерам. У ёй ажно 560 старонак стандартнага фармату. Гэта не азначае, што празаік піша расцягнута. Такога грэху я ў яго не заўважыў. Шматстаронкавым выданне атрымалася з-за таго, што ў ім змешчаны тры раманы, таксама тры аповесці і яшчэ дзевяць апавяданняў, асобныя з іх паводле памеру маглі б сысці і за аповесць.

У тэматычных адносінах кніга зноў жа разнастайная. Адзін з важных аспектаў у ёй закранае касмічную праблематыку. Яна прысутнічае ў рамане «Ліст у галактыку «Млечны шлях».

Сюжэтная канва гэтага рамана трымаецца на пасланні школьнага выкладчыка фізікі і астраноміі Андрэя Корбата іншапланецянам са скаргай на парадкі ў былой савецкай дзяржаве (больш скардзіцца няма каму).

Корбат вельмі песімістычна глядзіць на свет. Ён мяркуе, што прыкладна ў жніўні 2026 года Зямля можа сутыкнуцца з вялікім астэроідам. І наступствам гэтага сутыкнення стане гібель чалавецтва, увогуле зямнога жыцця: «Астэроід з такой хуткасцю працінае атмасферную абалонку (яна ўсяго толькі 8—11 кіламетраў), што ў дзірку адразу ўрываецца касмічны холад, які спараджае ўраган неверагоднай магутнасці, тэмпература ўнутры якога становіцца як на ценявым баку Месяца — мінус сто шэсцьдзесят пяць градусаў па Цэльсію... Мацнейшыя маразы ператвораць рэкі, азёры і нават моры ў суцэльнае шкло, але з-за выкідаў попелу і лавы хутка тэмпература зменіцца ў бок павышэння на дзесяць — пятнаццаць градусаў... На некалькі тысяч год на небе не будзе бачна зорак і цемра абдыме планету».

Калі ж такая жахлівая катастрофа і не здарыцца, дык, на думку таго Корбата, людзям, прынамсі прадстаўнікам белай расы, усё роўна радавацца не выпадае, бо іх можа знішчыць нашэсце «галодных, неадукаваных, хцівых і прагных да разбурэння варвараў... А калі спраўдзіцца генетычная рэвалю-

цыя, а потым стане цалкам рэальным і працэс ажыўлення мёртвых, то на Зямлю ўвогуле можа прыйсці Вялікі Хаос».

Словам, хоць так, хоць гэтак, а наперадзе нявыкрутка, нагнятае жахі пісьменнік. Праўда, ад шляху ў бездань нас як быццам яшчэ можа ратаваць з'яўленне касмічнага прышэльца. «Будзе гэтая з'ява спантаннай ці штучна створанай — мы наўрад ці даведаемся».

Магчымы штучна створаны касмічны прышэлец, закліканы ратаваць чалавецтва, — гэта ўжо яўная фантастыка.

А што да рэальнага, без фантастычных нагнятанняў пададзенага настаўніка Корбата, дык ён за сваё пасланне ў космас павінен атрымаць жорсткую кару. Савецкія ахоўнікі таталітарных парадкаў у дзяржаве яго ўжо арыштавалі, вядуць допыты. А вынікам павінна стаць псіхушка ці фізічнае знішчэнне шукальніка справядлівасці.

Зрэшты, у канцы твора ў лёс Андрэя Корбата ўмешваецца яго ахоўнік Анёл, фігура, вядома, зноў фантастычная. Той Анёл ужо спявае песню аб захаванні Сусвету «ў большай ці меншай ступені такім, якім ён ёсць».

Так што аўтар спачатку моцна палохаў чытачоў рознымі магчымымі жахамі, а потым злітасціўся, зазначыўшы, што жыццё працягваецца. А гэта азначае, што ўвесь касмічны антураж уведзены ў твор для расквечвання яго сюжэтнай канвы.

Галоўнай жа ў рамане «Ліст у галактыку «Млечны шлях» з'яўляецца крытыка зямнога жыцця пры бескантрольнай, нічым не абмежаванай уладзе бальшавікоў. І гэтая крытыка атрымалася дасціпнай і часта з'едлівай.

Адна з праяў тагачаснага абсурду — замах на свабоду чалавека, сачэнне за кожным ягоным крокам з боку карных органаў. Яны ўсюды маюць сваіх сексотаў — «стукачоў». Той жа Андрэй Корбат сваё пасланне ў космас, фактычна ў нікуды, зрабіў у адным экзэмпляры, які перадаў астранаўту В. А яно стала вядома карным органам, апынулася ў іх руках. Пашчыравала на гэты конт «актывістка Ася», вобраз якой належыць да самых яскравых у рамане. Пісьменнік прасочвае гісторыю падзення дзяўчыны, якая, аднойчы згвалтаваная маладым нахабнікам, хутка пайшла па руках, ужо добраахвотна, часта з карыслівымі мэтамі пераходзячы з адной пасцелі ў другую.

Не без уражлівасці напісана пра самыя разнастайныя Асіны сексуальныя выверты-вывіхі, а таксама пра абсалютную амаральнасць і грубы цынізм гэтай авантурысткі, пра яе гатоўнасць на ўсё. Словам, праз «актывістку Асю» аўтар паказаў многія заганы сучаснай моладзі, вядома, не ўсёй, а яе найгоршай, самай разбэшчанай, «апушчанай» часткі.

Добра дасталася ў рамане і прадстаўнікам бальшавіцкіх карных органаў. Гэтыя прыслужнікі гвалтоўна навязанай народу ўлады самі адчуваюць яе

крывадушнасць, але ўсімі сіламі імкнуцца падтрымліваць афіцыйную ману і паказуху і гатовы выконваць вызначаны ім «сацыяльны заказ» любой цаной.

Цікавая ў рамане і сама апавядальная структура. Яе адметнасць у тым, што розныя раздзелы твора напісаны з пункту гледжання розных персанажаў. Аўтар у большасці раздзелаў сваё права апавядальніка саступае то аднаму, то другому, то трэцяму герою. І ён тады раскрываецца знутры, а значыць, з большай пераканальнасцю і псіхалагічнай дакладнасцю. Атрымліваецца шматмерная карціна. І гэта яўны выйгрыш. Але ў асобных эпізодах сюжэтная нітка так заблытваецца, што бывае цяжка вызначыць, чый пункт гледжання тут адлюстроўваецца. Такая цьмянасць ужо празмерная. Яна яўна шкодзіць твору.

Падобныя між сабой, як блізняты, прышэльцы з космасу, двое мужчын і жанчына, якія яшчэ называюцца паветранымі вандроўнікамі, дзейнічаюць і ў рамане «Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн». Гэта нейкія «Суперістоты Сусвету», перад якімі людзі — нішто. Але самыя зямныя рэальнасці яны спасцігаюць з цяжкасцю, толькі пасля адпаведных людскіх тлумачэнняў.

Мушу прызнацца, што нагрувашчванне касмічных фатасмагорый з гэтага рамана мне падалося не вельмі цікавым, за жывое сур’ёзна не закранула. Ды мноства тэарэтычных звестак, разгляд розных гіпотэз на касмічную тэму і іншы пазнавальны матэрыял, не пераплаўлены ў мастацкую прозу, загрувашчвае твор у такой ступені, што яго цяжка чытаць.

Затое наступны раман («Любіць ноч — права пацукоў») выклікаў найлепшае ўражанне. Думаецца, што гэта па-свойму выдатны твор пра нашы зямныя справы. У ім паглыбляюцца і некаторыя матывы, якія ўжо намацваліся ў рамане «Ліст у галактыку». Ужо там была гаворка пра ўварванне чужынцаў у звыклае жыццё абарыгенаў. У рамане «Любіць ноч — права пацукоў» гэткае ўварванне становіцца галоўным зместам твора. Тут нахабная набрыдзь, як крыважэрныя пацукі, што спаскуджваюць усё, да чаго яны дакранаюцца, пасяляецца ў невялікім правінцыяльным гарадку Яноўску, размешчаным недалёка ад сталіцы дзяржавы. І пачынаюцца жахлівыя рэчы: гандаль наркотыкамі, імклівае пашырэнне п’янства, шматразовае гвалтаванне непаўналетніх рознымі суб’ектамі. А ў дадатак да ўсяго практыкуецца і забойства людзей ці такі здзек з іх, у выніку якога чалавек траціць свой чалавечы воблік, пачынае паддавацца любым маніпуляцыям з ім. Самагубства ў такім разе выглядае ўжо не самым жахлівым варыянтам.

Наркамафія, якая гаспадарыць у Яноўску, варочае вялікімі грашыма. І гэта дазваляе ёй шчодра аплачваць тых, хто павінен стаяць на варце грамадскага парадку. І нашы ахоўнікі, пра якіх крыклівы расійскі паэт казаў: «мая міліцыя мяне беражэ», — гэтыя ахоўнікі робяцца самымі небяспеч-

нымі ворагамі чалавека, бо яны надзелены ўладнымі паўнамоцтвамі і выкарыстоўваюць іх супроць сумленных людзей.

Першай ахвярай са смяротным зыходам у Яноўску становіцца сціплая настаўніца Люба, якая і да таго ўжо была абдзелена жыццём. Яна гадавала нямоглага хлопчыка, які «нарадзіўся з хваробай Даўна па той простай прычыне, што быў зачаты там, дзе дазіметры паказвалі больш за пятнаццаць кюры». Гадавала жанчына адна, бо муж з гора пачаў піць і дачасна загнаў сябе ў магілу.

Энергічны брат Любы Даніла Прусак, супрацоўнік канструктарскага бюро ў сталіцы, прыязджае на пахаванне сястры і сам трапляе ў вельмі складаны пераплёт, з якога толькі нейкім цудам выходзіць пераможцам.

Такая падзейная канва дазволіла аўтару выбудаваць напружаны, насычаны глыбокім драматызмам сюжэт. У гэтым сюжэце ключавая эмацыянальна-псіхалагічная роля адведзена згаданаму хлопчыку па імені Уля (ад поўнага Юльяна). Ды ні поўным, ні памяншальным імем яго ніхто не называе. У рамане ён ідзе проста як даўнёнак — хворы на адпаведную хваробу. Такая абязлічанасць можа характарызаваць толькі нядобрую звычку дарослых, а не самога хлапчука, у якога дзіцячая непасрэднасць і гранічная шчырасць спалучаюцца з дабрынёй да ўсяго жывога. Нездарма ж ён, «рахманы і ціхі», даверліва «размаўляў з птушкамі, пчоламі, восамі, чмялямі, трусом у клетцы», якога сам клапатліва даглядаў. Уля цярпліва зносіць нягоды, якія шчодра сыплюцца на малога. Але боль свету, яго неўладкаванасць ён адчувае вельмі моцна, пранікнёна, усімі фібрамі сваёй дзіцячай душы. І гэтая абвостраная чуласць хлопчыка выступае як выразны кантраст да той жорсткасці, што пануе ў наваколлі, падкрэслівае яе непрымальнасць для жыцця сапраўднага, усталяванага на гуманістычнах пачатках.

Ненармальнасць, зрушанасць той рэчаіснасці, якая правіць баль у Яноўску, яе абсурднасць падкрэслена ў рамане і самой стылёвай манерай твора. Гэтая манера далёкая ад ураўнаважанага, спакойна-плаўнага апавядання. Нармальны па звыклых уяўленнях тэкст тут скрозь перабіваецца кавалкамі з нязвыклым чляненнем на радкі, фразы са знарок парушанымі знакамі прыпынку. Асобныя словы, а то і цэлыя сказы нярэдка замяняюцца наборам літар, якія закліканы падкрэсліць дзікасць канкрэтнай сітуацыі.

І трэба сказаць, што такая знарок пакручаста-ўскалмачаная, са шматлікімі вывертамі структура апавядання ў рамане ўяўляецца апраўданай, бо за ёю зноў жа бачацца неўладкаванасць рэчаіснасці, праявы яе абсурднасці.

Раней гаварылася, што пераможцам у рамане аказваецца энергічны Даніла Прусак. Ён сапраўды прымушае прыхадняў з’ехаць з правінцыяльнага Яноўска і нават дабіваецца пакарання забойцы сваёй сястры Любы. Але гэ-

тая перамога ніколькі не настройвае на павярхоўна-спрошчаны аптымізм. Справа ў тым, што прыхадні з'язджаюць недалёка. Яны трывала атабарваюцца ў сталіцы, пагражаючы ўжо і яе ператварыць у пекла.

Ды застаецца ж непарушнай галоўная прычына бедстваў карэннага насельніцтва ў дзяржаве, паказанай у рамане. Гэтая прычына — катастрафічная раз'яднанасць абарыгенаў. Усё, што робіцца супроць іх, у канчатковым выніку здзяйсняецца іхнімі ж рукамі. Сястру Данілы Прусака забівае пакаёўка Васіліна, якая стала адданай прыслужніцай прыхадняў, іх волю яна з халопскай адданасцю і выканала. За свае злачынства яна ўрэшце пакарана.

Гэта прамы вынік Данілавай перамогі. Фінал тут жудасны: Даніла «ўбачыў у лужыне крыві пакаёўку чужынцаў — вены на яе звязаных руках былі перарэзаны, не інакш, твар і выскаленыя зубы запэцкаліся ў крыві, яна была яшчэ жывая і, убачыўшы Данілу Прусака, прахрыпела

я забіла

і ўсё цягнулася да чужынцаў, прагнула быць з імі і прасіла забярыце мяне, забярыце альбо дабіце

і мужчына [Даніла] здзівіўся ў душы гэтай халопскай адданасці і халопскай жорсткасці».

Настойліва падкрэсліваючы, што галоўная бяда ў раз'яднанасці карэнных жыхароў, з-за якой яны застаюцца бяссільнымі супроць прыхадняў, раманіст вельмі мэтанакіравана сцвярджае думку пра неабходнасць нацыянальнага адзінства, якое і павінна стаць выратавальным для народа, калі ён хоча мець нармальную будучыню.

Гэтая ідэя сцвярджаецца і праз вобраз Данілавага сына Ігната, які абыякава ставіцца да бацькі, не выконвае яго прамыя даручэнні, у тым ліку тыя, ад ажыццяўлення якіх залежыць лёс хворага даўнёнка. Гэта ўжо размова пра крызісныя з'явы ў сучаснай сям'і. А сям'я таксама павінна быць апорай ва ўсталяванні нацыянальнага адзінства.

Сярод аповесцяў Станкевіча самай цікавай мне здалася аповесць «Сезонныя гульні ў футбол». Яна напісана ў спакойнай традыцыйнай манеры, сціплыя вартасці якой хораша ўспрымаюцца на фоне фармальных навацый папярэдніх твораў, навацый, паўтару, цікавых, закліканых перадаць абсурднасць рэчаіснасці, яе жорсткую ўзбунтаванасць. А тут, у аповесці «Сезонныя гульні ў футбол», рэчаіснасць яшчэ без самых жорсткіх цяперашніх вывертаў. І чытаючы пра яе аповед традыцыйны, бясхітрасны, ужо, здаецца, душою адпачываеш і ад той жорсткасці, і ад шматлікіх фармальных вышукаў, характэрных для твораў ранейшых.

Аповесць «Сезонныя гульні ў футбол» напісана як успамін рэпарцёра гарадской газеты пра свае маладыя гады. Яны прыпалі на пасля-

енны час, таксама вельмі нялёгкі. Але апавядальніку яны ўжо бачацца ў трохі настальгічным святле, хаця знарочыстага прыхарошвання жыццёвай рэальнасці ў творы няма.

Галоўнымі дзейнымі асобамі тут выступаюць адзіннаццаць падлеткаў, якія арганізавалі футбольную каманду і ходзяць на спаборніцтвы туды, дзе пасля гульні іх могуць накарміць хоць бы сціплым абедам. Праўда, прыцісклівыя харчовыя кіраўнікі ўстаноў, з прадстаўнікамі якіх гуляюць хлопцы, часамі замест абеду даюць толькі кампот. Але і гэта для галодных хлапечых страўнікаў нейкая спажыва.

Амаль усе падлеткі растуць бязбацькавічамі. Яны называюць адзін другога не сапраўднымі імёнамі, а мянушкамі, за якімі таксама бачыцца нялёгкі час. Так, апавядальнік мае мянушку «шпіён», бо яго бацьку бальшавікі пасля вайны пасадзілі як калабаранта (ён пры гітлераўцах быў запісаны ў так званую Беларускую краёвую абарону). «А раз сядзіць ці сядзеў — то нямецкі шпіён». Сын, вядома, не меў ніякага дачынення да той «абароны», але шпіёнам, і «не толькі на вуліцы, а і ў школе», завуць і яго.

Федзя Маркевіч ідзе як Фрыц, бо пагалоска сцвярджае, што ён «нарадзіўся ад немца».

Бацька хлопца з мянушкай Кацап з расіян. Гэта былы супрацоўнік НКУС. Асеўшы ў Беларусі, ён тут сачыў за ўсталяваннем бальшавіцкіх парадкаў, а потым з'ехаў на радзіму, «у сваю Масковію, быццам там яго першая жонка чакала, толькі прозвішча сыну пакінуў». Ёсць яшчэ Плахіш (яўны водгалас папулярнай у свой час гайдараўскай аповесці пра ваенную тайну), Баптыст (сын беларуса, які належаў да абшчыны евангельскіх хрысціян), яўрэйскі нашчадак Залман. Ён Міша Алейнік, а Залманам звалі яго па бацьку. Прываблівае вельмі чалавечы фізрук з асяцін Асланавіч, які ўсяляк спрыяе хлопцам, выручае іх у многіх выпадках.

Самі хлопцы — звычайныя падлеткі, любяць гумар, кепікі, розыгрышы і падначкі, бываюць задзірыстымі, часамі вядуць бойкі між сабою. Але іх шчырасць, чалавечнасць, што праглядвае за паказной бравадай, жыццёвая ўчэпістасць надаюць ім тую сапраўднасць, якою заўсёды была моцнай рэалістычная літаратура.

У эпілогу аповесці настальгічныя ноты, адчувальныя на працягу ўсяго твора, пераходзяць у журботны матыў. Ён звязаны з лёсам добрага Асланавіча, які дажывае свой век («даўно на восьмы дзясятак пайшоў») у вельмі незайздросным становішчы: «П'яненькі і недагледжаны, ён адзінока сядзеў на лаўцы ў гарадскім скверы» і гатовых дапамагчы яму сваіх выхаванцаў ужо не пазнаваў.

Такі эпілог выразна сведчыць, што аўтар гэтай аповесці застаецца цвярозым рэалістам да канца.

У аповесці з назвай-выклікам «Апладненне ёлупа» размова ідзе пра руйнаванне ўзведзенага на народныя сродкі, спецыяльна сабраныя насельніцтвам для гэтага, славутага храма Хрыста Збавіцеля і намеры на месцы той святыні, па-варварску знішчанай бальшавікамі, пабудаваць палац правадыра, задуманы як самы высокі ў свеце гмах у выглядзе гіганцкай фігуры бальшавіцкага важака Леніна. Аповесць зноў грувасткая ў кампазіцыйна-структурным плане, шматаспектная па змесце і ўжо з такім дамешкам містыкі, які ўносіць сатанінскія матывы ў ленінскі вобраз.

Цяпер добра вядома і пра поўную амаральнасць Леніна, і пра яго жахлівую крывадушнасць, і пра жорсткасць у расправах з людзьмі, якая ў прынцыповым плане ніколькі не ўступала сталінскай практыцы знішчэння мільёнаў, па сутнасці, ні ў чым не вінаватых ахвяр.

Ленінскія злачынствы супроць чалавечнасці маюць сваё зямное тлумачэнне. Яны абумоўліваліся бескантрольнасцю бальшавіцкай улады ў захопленай спрытнымі дэмагогамі краіне, палітычнымі і сацыяльнымі ўмовамі, у якіх дзейнічаў дыктатар, а таксама асаблівасцямі яго характару. Тут можна згадаць і ленінскі фанатызм, ідэалагічную зашоранасць, адданасць камуністычнай ідэі, якая на словах выглядала прывабна-спакуслівай, але пры яе практычным ажыццяўленні прывяла да незайздросных вынікаў.

А ў аповесці «Апладненне ёлупа» Ленін падаецца як увасабленне д'ябла. Маўляў, праз Леніна, выкарыстаўшы яго біяфізічную абалонку, дзейнічае ягоны фантомны двайнік-прывід, народжаны сатанінскімі сіламі. Такая містыфікацыя бальшавісцкага дыктатара фактычна ўжо здымае з яго віну за ўсе зробленыя ім злачынствы, бо выходзіць, што зло рабілі сатанінскія сілы, а ён быў толькі іх ахвярай, гуманоідным знакам.

Шмат жахлівага прадстаўлена ў таксама моцна закручанай аповесці «Лавец святла поўні» («Месяца»). Яна мае падзагаловак «Дарожныя нататкі невядомага вандроўніка». У гэтым творы вялікі храналагічны і прасторавы абсяг — дзеянне адбываецца і ў перыяд Айчыннай вайны, і пасля яе (у 50-я гады), а потым асобным штрыхом выкіравана і ў другое тысячагоддзе нашай эры. Падзеі разгортваюцца спачатку ў Беларусі, дзе змагаюцца з гітлераўцамі партызаны рознай палітычнай арыентацыі, некаторыя і проста хаваюцца. Гэтак робіць частка так званых акружэнцаў, якія займаюцца марадзёрствам, не грэбуюць і гвалтаўніцтвам, калі сутыкаюцца з прывабнымі асобамі жаночага полу. Такая складана-супярэчлівая карціна таго афарбаванага ў гераічныя і трагедыйныя колеры часу паўстае перад чытачом.

Галоўным героем аповесці з'яўляецца персанаж з псеўданімам Сплюшка, запісныя кніжкі якога складаюць амаль усю змястоўную частку твора. Гэты Сплюшка таксама партызаніў. Але ён вораг бальшавікоў, бо яны

рэпрэсавалі бацьку хлопца, а потым і яго самога абвінавацілі ў нацыяналізме. Яшчэ да вайны ён сядзеў і за кратамі, а ў вайну быў у радах Краёвай абароны, падтрымліваў сувязі з «бульбашамі» і іншымі ўдзельнікамі тагачаснай калатнечы ў Беларусі, наглядзеўся розных жахаў і сам прымаў удзел у крывавых забойствах. Вось і давялося яму ратавацца. Спачатку прытулак быў у Францыі, потым у Германіі, а скончылася гарачай Афрыкай. Так дзеянне перакідваецца ў Экватарыяльную, Цэнтральную і Паўднёвую Афрыку. Шмат увагі аддаючы паказу звычаяў афрыканскіх плямёнаў, аўтар (ад імя Сплюшкі) з такімі падрабязнасцямі апісвае ўласцівы ім канібалізм, што чытаць становіцца цяжка і непрыемна, часам ажно да агіды.

Змястоўныя ў большасці выпадкаў і апавяданні Ю. Станкевіча. Але ёсць у іх празмерна натуралістычная дэталізацыя, асабліва кідкая ў «Ізумруднязялёных мухах». Нахабная пацучыха з гэтага апавядання, якая робіць «гняздо проста ў трупе чалавека», на целе якога «ўжо кішэлі чэрві», — такія штрыхі ўяўляюцца мне пераборам.

Думаецца, злоўжывае пісьменнік у шэрагу твораў рознага жанру і навязлівым педаліраваннем сексуальных матываў. Вядома, гэта важная і, канечне, прыемная сфера чалавечага жыцця. Але і тут пераборы толькі шкодзяць. У Станкевіча ж секс, секс, секс, пры зручнай нагодзе і без яе, часта з груба-фізіялагічнай аголенасцю і ў самых розных варыянтах, у тым ліку самых вычварных, густа плямяць старонкі кнігі. Здаецца, няма такіх вывіхаў на гэтай глебе, якіх не занатаваў аўтар. Ды яшчэ з падрабязнасцямі, ад якіх трохі далікатнага чалавека можа пацягнуць на ташноты.

І ўсё ж агульная ацэнка кнігі ў мяне застаецца высокай. Выдаткі ж у выглядзе розных пераboраў і крайнасцяў не могуць перакрэсліць тое добрае і значнае, што ёсць у прозе Ю. Станкевіча, пісьменніка з вострай рэакцыяй на жорсткасць сучаснай рэчаіснасці, яе неўладкаванасць у шмат якіх адносінах.

*2005 г.*





# ГІСТАРЫЧНАЯ ПРОЗА АЛЕСЯ НАВАРЫЧА Ў СВЯТЛЕ КАРАТКЕВІЧАЎСКАЙ ТРАДЫЦЫІ

Алесь Наварыч (Аляксандр Іванавіч Трушко) нарадзіўся ў 1960 годзе ў палескім краі (вёска Відзібор Столінскага раёна). Пісьменніцкія даведнікі і іншыя друкаваныя крыніцы паведамляюць, што сярэднюю адукацыю Наварыч атрымаў у Відзіборскай школе, якую закончыў у 1977 годзе. Там жа працаваў лабарантам, быў таксама цесляром-бетоншчыкам, а пра наканаваны яму пісьменніцкі лёс тады яшчэ і не здагадваўся. Вабіла ж хлопца заўсёды прэстыжная ў вачах многіх медыцына. І ў 1978 годзе ён падаўся на стаматалагічны факультэт Мінскага медінстытута. Пасля двух гадоў вучобы на медыка няўрымслівы Наварыч зрабіў нечаканы па звыклых уяўленнях крок – падаўся ў філалогію (1980). Скончыўшы філфак БДУ, настаўнічаў у Скірмантаўскай школе Дзяржынскага раёна (1985–1986), выкладаў рускую мову і літаратуру шкалярам у вёсцы Малюшычы Карэліцкага раёна (1986–1987).

Сваё пісьменніцкае прызванне адчуў ужо тады, калі развітваўся з медыцынай. А з канца 1980-х гадоў і працаваць стаў у друку – у часопісах «Бярозка», «Вожык» (тут Наварыч быў літаратурным рэдактарам аддзела фельетонаў), намеснікам галоўнага рэдактара РУП «Выдавецкі цэнтр БДУ».

Друкуецца Алесь Наварыч з 1983 года. Тады часопіс «Маладосць» у сваім першым нумары змясціў Наварычавы апавяданні «Хто першы?» і «Аднойчы ў лесе». У 1988 годзе выйшаў зборнік апавяданняў і аповесцяў «Рабкова ноч». У 1989 годзе пабачыў свет зборнік «Ноч пацалункаў незалежнасці».

Над гістарычным раманам «Літоўскі воўк»[1] праца пачалася толькі праз дзесяцігоддзе з гакам – такім чынам, Алесь Наварыч не імкнецца здзяйсняць колькасцю твораў, ажыццяўляе свае задумы без хапатлівасці і спешкі. Ён ва-

[1] Асобнае выданне, пра якое далей пойдзе гаворка. – Мінск, Мастацкая літаратура, 2005.

лодае бясспрэчным пісьменніцкім талентам і, калі меркаваць па выніках, працуе над словам сур'ёзна, удумліва, з адчуваннем адказнасці перад чытачамі.

Таму зусім не выпадкова, што ўжо першыя апавяданні і аповесці празаіка выклікалі вельмі прыязныя водгукі літаратурнай крытыкі. Пра Наварыча прыхільна пісаў М. Кусянкоў («Каб служыла часу пяро». «Маладосць», 1984, № 2). «Притяжение реальности»— так вызначыў галоўную сутнасць прозы А. Наварыча выдатны даследчык нашай літаратуры М. Тычына («Неман», 1984, № 8).

І ўжо з відавочнай захопленасцю выказаўся пра творы Наварыча імпульсіўны Аляксей Карпюк. «Словам пра талент» назваў ён свой уступны артыкул да кнігі «Рабкова ноч» і ў азарце пахвалы паставіў маладога празаіка адразу ў шэрагі класікаў: «Каб староннему чалавеку зачытаць асобныя старонкі з гэтай кнігі, то ён хутчэй за ўсё сказаў бы, што напісаў іх Прышвін ці ранні Шолахаў». Канечне ж, гэта перабольшанне. Яно відавочнае і ў наступнай Карпюковай заяве: «Месцамі па сіле эмоцый і апісальнасці ў Алеся Наварыча так па-майстэрску пададзены матэрыял, што не можаш прыпомніць аналага ў беларускай літаратуры». Выходзіць, што Наварыч ужо ў першых апавяданнях і аповесцях паказаў сябе большым майстрам празаічнага слова, чым Якуб Колас, Іван Мележ, Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Іван Навуменка, Уладзімір Караткевіч, якія здабылі шырокае прызнанне не толькі ў Беларусі яшчэ да таго, як Наварыч узяўся за пісьменніцкае пяро.

Аднак мушу сказаць, што ў прадмове А. Карпюка да зборніка «Рабкова ноч» ёсць і зусім слушныя назіранні. Так, А. Карпюк цалкам меў рацыю, калі падкрэсліваў, што «ў Алеся Наварыча тэкст уражвае трапнасцю дэталяў, каларытам намаляваных вобразаў і самабытным апісаннем сітуацый, у якія трапляюць яго героі».

Гэтыя вельмі прывабныя рысы пісьменніцкага стылю ніколькі не страчаны аўтарам і ў гістарычным рамане «Літоўскі воўк», твор, за які Алесь Наварыч ужо атрымаў спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Раман па-свойму адлюстроўвае і працягвае характэрную тэндэнцыю часу — абуджэнне цікавасці да жыцця нашых продкаў, да гістарычных каранёў беларусаў. Знакавай фігурай тут стаў, канечне ж, Уладзімір Караткевіч, які рашуча сцвярджаў, што выхоўваць гонар нацыі ў вялікай ступені дапамагае гістарычная проза, найперш такі яе жанр, як раман. «Без гістарычнага рамана, гістарычнай літаратуры ўвогуле не можа абудзіцца нацыя, бо няма нацыі без пачуцця гістарызму, без спакойнага гонару за сябе і проста самапавагі, без веры ў тое, што яна ёсць, яна непераходзячая сталая вечная каштоўнасць вечнага чалавецтва і па ўсіх гэтых прычынах павінна жыць, жыць дзейсна і велічна, ведаючы сабе цану і ў дрэнным, і ў вялікім», — з прарочай упэўненасцю разважаў выдатны пісьменнік.

Вядома, у нас і да Караткевіча былі пэўныя спробы ў галіне гістарычнай прозы. Даследчыкі звычайна называюць аповесць «Адвечнае» Б. Мікуліча і рускамоўны раман «Георгій Скарына» М. Садковіча і Е. Львова. Можна прыгадаць таксама, што яшчэ ў першых варыянтах «Мінскага напрамку», тых, што ствараліся ў 1947—1953 гадах, І. Мележ звярнуўся да гістарычнай асобы генерала арміі І. Д. Чарняхоўскага, які ў час вызвалення Беларусі ад гітлераўцаў камандаваў войскамі Трэцяга Беларускага фронту. Праўда, больш разгорнуты паказ Чарняхоўскага зроблены ўжо ў значна пазнейшым варыянце кнігі, які датуецца 1967—1973 гадамі. А ў другім рамане з «Палескай хронікі» — «Подыху навальніцы», які пісаўся ў 1961—1965 гадах, Мележ намаляваў вобразы такіх гістарычных асоб, як Чарвякоў і Галадзед. Гэтая кніга друкавалася ў перыёдыцы на працягу 1964—1965 гадоў, асобным выданнем выйшла ў 1966 годзе.

Тады Караткевічавы творы з гістарычнай тэматыкай былі ўжо добра вядомымі, бо ён зрабіў свой рашучы прарыў у беларускай гістарычнай прозе яшчэ на самым пачатку 60-х гадоў — яго аповесць «Сівая легенда» друкавалася ў «Полымі» ў 1961 годзе. Тады ж апублікавана аповесць «Цыганскі кароль». Затым пайшлі ў друку раман з гістарычнымі рэмінісцэнцыямі «Леаніды не вернуцца на зямлю» (пазнейшая назва — «Нельга забыць»), напісаная яшчэ ў 1958 годзе аповесць з гістарычнай асновай «Дзікае паляванне караля Стаха», якая хутка пасля публікацыі зрабілася класічным беларускім дэтэктывам, ключавы ў гістарычнай прозе пісьменніка раман у дзвюх кнігах пра паўстанне Кастуся Каліноўскага «Каласы пад сярпом тваім» (1968), а яшчэ па-філасофску заглыбленая аповесць «Ладдзя Роспачы», раманы «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і «Чорны замак Альшанскі». Гэта настолькі важкі ўнёсак у нашу гістарычную прозу, што пераацаніць яго немагчыма.

Пад магутным уздзеяннем Караткевіча ў нас паявілася цэлая кагорта прадстаўнікоў гістарычнай прозы. Сярод іх — Б. Сачанка з яго аповесцямі «Англіцкая» сталь» і «Дыярыуш Мацея Белановіча» (1973), Л. Арабей, якой належаць аповесці пра Цётку «На струнах буры» (1967) і «Стану песняй» (1977). З пачатку 1970-х гадоў стала друкаваць гістарычную прозу В. Іпатава, якая цяпер цалкам пераключылася на гэтую тэматыку. А яшчэ ж нельга не згадаць Л. Дайнеку і Г. Далідовіча, А. Лойку і В. Коўтун, Э. Ялугіна і А. Мальдзіса, К. Тарасава і В. Чаропку, 1983-м годам датуецца гістарычная аповесць пра Ф. Багушэвіча «Пры апазнанні — затрымаць» ужо нябожчыка В. Хомчанкі. Натхнёна працуе на гэтай дзялянцы гісторык па адукацыі У. Арлоў.

Нават пісьменнікі, якія выступілі ў літаратуры намнога раней за Караткевіча, у сваіх пазнейшых творах аказваюцца сугучнымі яму. Гэта, у прыватнасці, стасуецца да знакамітага яшчэ з часоў «Глыбокай плыні»

І. Шамякіна. У капітальнай па сваёй грунтоўнасці акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» (чатыры велічэзных тамы, апошні ў дзвюх кнігах) сцвярджаецца, што раманам «Вялікая княгіня» пісьменнік працягваў традыцыі «той прозы, падмурак якой быў закладзены яшчэ У. Караткевічам» (Мінск, 2001. Т. 3. С. 633).

Прыгадаўшы гістарычна дакладны вобраз Чарвякова ў быкаўскім «Знаку бяды» (1984), я падумаў, ці не паўплываў Караткевіч у гэтым кірунку і на Быкава. Бо Васіль Уладзіміравіч вельмі паважліва ставіўся да твораў Караткевіча і яго самога, называў рыцарам чалавечага духу, найвыдатнейшым нашым пісьменнікам, у якога «ёсць чаму павучыцца», але пра сваю вучобу ў маладзейшага сябра нічога не казаў. Быкаў звычайна аддаваў перавагу жорстка рэалістычнаму «пяру аналітыка», ён не любіў расквечваць сваё блізкае да графікі пісьмо прыгожымі фарбамі. У Караткевіча ж у найбольшай пашане было слова яркае, узнёсла-квяцістае, рамантычна-ўзвышанае. Ён, як адзначыў Быкаў, рамантызаваў і нашу гісторыю ў духу Майна Рыда, Вальтэра Скота і Генрыка Сянкевіча.

Рамантызацыя па-свойму ўзвышала мінулае. Такі падыход да гісторыі тыповы для нацый, якім трэба зноў і зноў даказваць свае правы на існаванне. Але і самая яркая рамантызацыя ў рамане «Каласы пад сярпом тваім» не перашкодзіла Караткевічу дасягнуць вялікага поспеху ў паказе Каліноўскага і яго часу. «Такой шырыні ахопу гістарычнай эпохі і такога пранікнення ў яе яшчэ не было ў беларускай прозе», — падкрэсліваў В. Быкаў.

Раман «Каласы пад сярпом тваім» і ва ўласна мастацкіх адносінах атрымаўся вельмі прывабным. Караткевіч заўсёды пісаў займальна, так выбудоўваў свае творы, каб яны захаплівалі чытача, але пры гэтым не збіваўся на голае пацяшальніцтва. Вострая інтрыга ў яго звычайна спалучалася з падтэкставай глыбінёй і ёмістасцю, винаходлівы вясёлы гумар набываў з'едлівасць, калі трэба было выкрываць крывадушнасць хцівых уладароў.

Арыентацыя, калі не свядомая, дык міжвольная, на традыцыі Караткевічавай гістарычнай прозы бачыцца мне і ў рамане «Літоўскі воўк». У добрай гістарычнай прозе ў нас цяпер без гэтага ўвогуле наўрад ці можна абысціся. А ў Наварыча і гістарычны перыяд узяты той жа, што і ў «Каласах пад сярпом тваім», — часы паўстання Кастуся Каліноўскага.

Праўда, і ў Караткевіча вобраз Кастуся Каліноўскага не стаў галоўным. Яго вельмі істотна пацясніў вымышлены паплечнік Кастуся Алесь Загорскі. Можа, таму, што аўтару «Каласоў» цяжка было паэтызаваць уласцівую Каліноўскаму дыктатарскую ўладарнасць і жорсткасць яго натуры.

У рамане «Літоўскі воўк» Каліноўскі паяўляецца толькі эпізадычна, пераапрануты ў англічаніна, і гаворыць некалькі патрыятычных фраз. Ды яшчэ, паказваючы сваю мужчынскую сілу, «бярэ» фанабэрыстую, праг-

ную да ўцех кахання польку. Іншыя першарадныя кіраўнікі ўвогуле адно згадваюцца. Але гістарычныя акалічнасці, у якіх паўстанне разгортвалася, узноўлены з гістарычнай дакладнасцю і з выкарыстаннем шэрагу дакументальных матэрыялаў.

Такім чынам, асноўная ўвага раманіста скіроўваецца на мастакоўскі аналіз самой грамадскай атмасферы ў тых асяродках, дзе разгортвалася паўстанне (узята заходняе Палессе, пераважна самыя блізкія пісьменніку рэгіёны). Добра паказана таксама бязладдзе ў шэрагах паўстанцаў і стаўленне да іх розных пластоў насельніцтва. Адлюстраванне атрымалася грунтоўнае і пераканальнае ў сваёй рэалістычнасці, глыбокае па тых высновах, якія з яго вынікаюць.

Алесь Наварыч умее ствараць змястоўныя чалавечыя характары, няспрошчана паказаць псіхалогію сваіх персанажаў, іх часам супярэчлівыя, а то і парадаксальныя ўчынкі.

Добрая псіхалагічная змястоўнасць бясспрэчная ў абмалёўцы каларытнай фігуры Яся Кавальца. Ён напалову шляхціц, напалову селянін. І ўжо гэта вызначае яго адметнасць. Ясь блізкі да прыроды, памяркоўны па натуры, не любіць сядзець без справы. Ён таксама сім-тым дапамагае паўстанцам, але робіць гэта вымушана, бо арганічна не прымае кровапраліцця, непазбежнага ва ўзброенай барацьбе. Не па душы яму жорсткасць, якую кіраўнікі паўстання праяўляюць не ў меншай меры, чым урадавыя войскі, кінутыя на яго падаўленне.

Запамінаюцца ў рамане і такія актыўныя паўстанцы, як Людовік Бароўскі і Артур Буевіч. Яны абодва са зброяй у руках змагаліся супроць царскіх войскаў. Але Людовік, выдадзены правакатарам, трапляе на катаргу. Артура таксама ўрэшце арыштоўваюць. Але дзякуючы ладным грашам, патрачаным на подкуп чыноўнікаў самага высокага рангу, ён пазбягае жахлівай долі іншых паўстанцаў, што не загінулі ў баявых сутычках, — смяротнай кары ці высылкі ў далёкую і халодную Сібір.

Пра такі паварот справы Наварыч піша не без прыхаванай з’едлівасці. Яна ўжо зусім відавочная ў сцэнах, прысвечаных агітатарству малодшага Артуравага брата Стасіка. Ён таксама поўніцца патрыятычнымі пачуццямі і імкнецца ўсяляк садзейнічаць паўстанню. Жадаючы выклікаць большы давер сялян, Стасік ідзе іх агітаваць «апрануты, як парабак, у партках і світцы, праўда, паясок падпераза ў святочны, вышываны».

Але сяляне не ўспрымаюць яго заклікаў паўставаць супроць цара, дамагацца палітычнай свабоды і вольнага жыцця. Першы ж стары селянін, да якога пастукаўся малады агітатар, горка расчароўвае яго скептычнай рэплікай: «Нам бы зямелькі, а не свабоды».

Пра сялянскую недаверлівасць да паўстанцаў, якая стала галоўнай прычынай іх паражэння, у рамане згадваецца шмат разоў, бо такая была

гістарычная праўда, пераканальна, у розных мадыфікацыях адлюстраваная пісьменнікам.

Значнае месца ў творы займае вобраз Ежы Урбановіча. У яго абмалёўцы псіхалагічнае майстэрства Наварыча зноў жа выяўляецца вельмі выразна. Моцна «закручана» тут і падзейная інтрыга, якая часамі, як і ў некаторых іншых месцах рамана, набывае рысы сентыментальнасці. Ужо стараваты разбагацелы аканом, уладальнік ладнага маёнтка, Ежы Урбановіч узяў за жонку намнога маладзейшую жанчыну, якую горача кахае. Не абыходзіцца і без рэўнасці, хоць сур'ёзных падстаў для яе няма. Ачмурэлы ад кахання Урбановіч ідзе за жонкай і ў паўстанне (яна там свой чалавек, актыўная дзяячка), дапамагаючы паўстанцам перш за ўсё грашыма. А клянецца, што для перамогі патрыётаў гатовы і жыццё аддаць. Аднак жыцця ён не аддае і на шыбеніцу ці ў Сібір не трапляе, бо ўмее спрытна выкручвацца ў самых складаных сітуацыях. Пры вялікіх грашах разумнаму чалавеку ўдаецца многае. У фінальных сцэнах рамана мы бачым Урбановіча па-ранейшаму дбалым гаспадаром, які любуецца сваім добра дагледжаным паркам ды зусім памяркоўна разважае: «Любыя рэзкія рухі прыводзяць да беспарадку... Рэвалюцыя, бунт ёсць зменлівая форма хаосу... Эт глупства. Толькі б здароўе. А то нешта Аксанцы ўсё нездаровіцца...» Аксанка — гэта ўжо згадваная Урбановічава жонка. Яна таксама змірылася з паражэннем паўстання і збіраецца жыць так, як даводзіцца, — без бунтарства і вялікіх амбіцый. У раздзельчыку «Заміж пасляслоўя» і Аксана, і Ежы Урбановіч бавяць час у курортных Друскеніках.

Сапраўдных змагароў, якія заслугоўваюць назвы рэвалюцыянераў, з іх так і не атрымалася. Глыбінныя рэвалюцыі, якія ўскалыхваюць грамадства і ўсё ж абнаўляюць яго, няхай і цаной большых ці меншых, але непазбежных ахвяр, патрабуюць вялікай самаахвярнасці самых актыўных дзеячаў. Ні Урбановіч, ні Аксана на такую самаахвярнасць няздольныя. Іх часовае бунтарства аказалася бясплённым, як і шлюб, што не прывёў да нараджэння дзяцей. Тая бяздзетнасць, як і шмат што іншае ў рамане, выглядае сімвалічнай.

Ды вярнуся да псіхалагічнай дакладнасці ў абмалёўцы персанажаў. Ёсць яна і ў паказе Аксаны. Каб неяк суцешыць маладую жанчыну, якая не можа нарадзіць дзіця, ёй падарылі ваўчаня, названае Інсургентам (паўстанцам). Гэтак паклапаціліся прыхільнікі пра летуценніцу, якая тады марыла пра волю і незалежнасць краіны, трызніла пра свой удзел у паўстанні. Аксана цешыцца ваўчанём, аддае яму багата цеплыні і пяшчоты. А ў выніку з яго вырастае вынесены ў загаловак рамана літоўскі воўк.

Усе звярыныя павадкі Наварыч падае дасведчана і маляўніча. Але ягоны воўк не проста звер, а яшчэ і фігура шматзначна-сімвалічная. Ён прагне волі, свабоднага жыцця на ўлонні непаўторнай прыроды роднага краю, «улюбёнага навечна». А яго затаўклі за краты, прымушаючы «пухнуць за жалеззем». Гэта апошнія словы рамана. Імі падводзіцца рыса пад асацыятыўным збліжэннем долі няшчаснага ваўка і лёсам паняволенага народа краіны, беларусаў (іх тады называлі літвінамі).

Пра палякаў у рамане сказана: «Іх б'юць, таўкуць, у Сібір валакуць, а ім — не-под-лег-лосць!»

Беларусы сваёй «непадлегласці» і ў часы паўстання Каліноўскага дружнай грамадой не дабіваліся. Як ужо гаварылася, свайго Яську (Кастуся Каліноўскага) наша сялянства не падтрымала, надоўга вызначыўшы гістарычнае занядбанне, гібенне краіны, роднага краю. І гэтую горкую праўду Наварыч, яшчэ раз паўторым, паказаў з рэалістычнай дакладнасцю.

Сімвалічна гучыць у рамане эпізод са шчыглом, які настолькі прывык да сваёй клеткі, што не жадае вылятаць з яе на волю і тады, калі клетку адчынілі. Парадокс. Але ён магчымы не толькі ў птушыным царстве, паказаным у рамане з такой жа, калі яшчэ не большай, дасведчанасцю, як і свет жывёльны. Вядома, напрыклад, што Піліп Пестрак (ён пры паляках правёў у зняволенні ажно 11 гадоў) хадзіў начаваць у сваю камеру-адзіночку ў гродзенскай турме пры бальшавіках, якія польскія турмы на пэўны час парасчынялі. А Пестрак жа быў бунтаўнік па натуры. Ды прывычка спрацоўвала і ў яго — камера здавалася абжытым прытулкам. Дык чаму ў ёй не пераначаваць і добраахвотна!

Сярод прывабных рыс рамана «Літоўскі воўк» варта адзначыць і тое, што апавядальная структура тут living рознабакова-рухомая. Эпічна спакойныя інтанацыі чаргуюцца не толькі з іранічна-ўсмешыстымі, але і з лірызавана-ўзнёслымі. Такая лірызаваная ўзнёсласць адчуваецца ў некаторых пейзажных замалёўках, якія дазваляюць пісьменніку выявіць уласную любасць да прыроды роднага краю і паказаць неардынарнасць унутранага свету некаторых персанажаў. Яшчэ раз згадаю Яся Кавальца. Вось як чула ўспрымае ён прыроднае хараство: «Крыху пасвятлела. Потым хмары адпаўзлі ўбок і касыя промні сонца зайгралі на паверхні падтопленага вадою лесу. І пад вадой гарэлі жоўтыя агеньчыкі лотаці. Ясь заплюшчыў вочы. Як хораша, як добра, як прыгожа: сонца, лотаць пад вадой, на душы лагодна і супакаенне... Божа, дзякуй, што даеш паветра дыхаць, а вачам бачыць такі прыгожы, чароўны свет. Ёсць мноства краін, земляў, дзе жывуць розныя людзі, дзе горы, цясніны, непралазныя нетры з рознымі дзівоснымі птушкамі і звярамі, а вось такога краю, дзе так радасна, так прыветна цвітуць лотаці пад вадой, — няма нідзе на Зямлі.

Сонца бліснула промнямі, нібы прывіталася, і зноў схавалася за хмары, зноў замжэў халодны дождждык. Нібы абуджаны сонцам, над вершалінамі альхі зазвінеў лясны жаваранак. І ягоная песня лілася гаючым бальзамам на душу.

Божа, дзякуй... О, Усемагутны, бясконцая міласць твая», — радуецца і спавядаецца Ясь Кавалец. І ягоная шчырая радасць, выказаная адкрыта і прачула, надае густую пачуццёвую насычанасць тэксту, «грэе» пейзажны малюнак, робіць яго не будзённа-стрыманым, а лірызавана-ўзвышаным.

Вельмі прыкметнае ў Наварыча таксама імкненне пісаць займальна, інтрыгаваць чытача рознымі нечаканасцямі, знарочыстай загадкавасцю, калі ў адным месцы нешта сцвярджаецца, а потым, у іншым эпізодзе, будзе зазначацца, што на самой справе ўсё адбывалася не так, як сказана раней. Гэта ўжо элемент гульні з чытачом, якая сама па сабе цікавая, але ў шэрагу выпадкаў яна абцяжарвае ўспрыняцце рамана.

Мабыць, залішне ў творы містыфікацый — пераапрананняў, калі то адзін, то другі персанажы выдаюць сябе за іншых асоб. Разабрацца, хто з іх хто, бывае нялёгка не толькі шпегам, якія сочаць за паўстанцамі, але і чытачу.

Вельмі добрае ўражанне пакідае мова рамана. Яна мае пэўнае дыялектнае адценне. Але яўных перабораў не адчуваецца, бо дыялектнае слова ў агульным моўным кантэксце становіцца зразумелым. Я спатыкаўся толькі ў двух ці трох выпадках. А для перадачы палескага каларыту, вельмі істотнага для выяўленчай адметнасці твора, яго рэалістычнай грунтоўнасці, праўдзівасці і на мікраўзроўні, умела пакладзеная дыялектная фарба нямала значыць.

Наварыч піша: «даць лупня» (замест агульнапрынятай лупцоўкі), «растрындзела» (замест разбалбатала), харты «ўнюшкавалі ваўчаня» (унюхалі), «люнуў з-пад ложка пад стол» (сігануў, скочыў). І ва ўсіх гэтых выпадках вылучаныя словы больш каларытныя і яркія, чым адпаведныя агульнапрынятыя літаратурныя варыянты.

Асобна ўзлятае слова «галда» для непалешука незразумелае. А ў фразе «...шляхцюкі, з шарачковых, выйшлі цэлай галдою з карчмы, пэўна, пілі нечы магарыч» яно даволі пэўна праясняецца. Лёгка здагадацца, што тая галда азначае натоўп, але спакойна-ўраўнаважаны, а не шумліва-ўзбуджаны.

У тых жа вельмі рэдкіх выпадках, калі і кантэкст не дапамагае зразумець вельмі ўжо спецыфічнае палескае слоўца, яно тлумачыцца ў падрадковай зносцы. Так зроблена ў дачыненні да слова «цацунок». Яно, удакладніла зноска, азначае «выпестак, распешчанае дзіця».

Моўная яркасць у стылі Наварыча ўзмацняецца і за кошт такой экспрэсіўнай лексікі, як «адбамберылі» (адгрохалі. Сказана пра рэформу, якою сяляне вызваляліся ад прыгону), «вычапурыстыя» (пра воблакі, якія «высіліся вычапурыстымі слупамі») і інш.

Адметнасць мовы рамана павышае цікавасць да твора.

А ўвогуле мне думаецца, што Наварычаў раман «Літоўскі воўк» і пры яго адзначаных мною пагрэшнасцях (яны нешматлікія і прыватныя, а не глыбінна-сутнасныя) мае ўсе шансы на доўгатэрміновую ўвагу і прыхільнасць чытачоў, на тое, каб заняць трывалае месца ў нашай літаратуры. Гэты раман развівае Караткевічаву традыцыю, самую плённую і перспектыўную ў беларускай гістарычнай прозе.

*2005 г.*





# БЕЛАРУСКІ ДЭТЭКТЫЎ ЛЮДМІЛЫ РУБЛЕЎСКАЙ

Людміла Рублеўская працуе ў літаратуры актыўна і плённа. Яна выдала шэсць зборнікаў паэзіі, а цяпер перайшла і на прозу. У 2005 годзе ў яе выйшла кніга «Пярсцёнак апошняга імператара», у якой найбольш цікавым мне ўяўляецца дэтэктыўны раман «Золата забытых магіл».

Дэтэктыўная літаратура карыстаецца прыхільнасцю многіх чытачоў. Добразычліва ставяцца да яе і выдаўцы. Пра гэта сведчыць перадрук твораў У. Караткевіча з дэтэктыўнай сюжэтнай асновай, выхад зборніка «Сучасны беларускі дэтэктыў. Карона Вітаўта Вялікага». Сюды ўвайшлі дэтэктыўныя раманы М. Адамчыка, М. Клімковіча, А. Глобуса, В. Праўдзіна, Л. Рублеўскай (яна змясціла тут містычны дэтэктыў «Дзеці гамункулуса»), Т. Сабоцкай, У. Сакалова, У. Сіўчыкава, С. Трахімёнка, М. Чаргінца, а таксама некалькі аповесцей.

Адметнай асаблівасцю дэтэктыўных твораў тэарэтыкі (Л. Цімафееў і іншыя) лічаць тое, што гэтыя творы прысвячаюцца раскрыццю метадам лагічнага аналізу складанай заблытанай тайны, найчасцей звязанай са злачынствам.

Цэнтральнае месца ў дэтэктыўнай літаратуры належыць персанажу, які вядзе расследаванне крымінальных спраў, сышчыку (яго называюць дэтэктывам), які шукае злачынцу, высвятляе абставіны злачынства, яго характар, небяспеку для грамадства і асобных людзей.

Узорам такога дэтэктыва стаў славуты Шэрлак Холмс, створаны класікам дэтэктыўнай літаратуры Артурам Конан-Дойлам. Ён часта дзейнічае ў звязцы з доктарам Уотсанам (Ватсанам), ствараючы мноства камедыйных сітуацый. Але такая звязка для дэтэктыўнай літаратуры не абавязковая, бо праніклівы сышчык можа паспяхова дзейнічаць і без трохі абмежаванага напарніка з камедыйнымі рысамі. Затое тыповым у добрых дэтэктывах з'яўляецца напружаны дынамічны сюжэт з нечаканымі паваротамі дзеян-

ня, вострай інтрыгай, наогул віртуознасць апавядання, якая заклікана паказаць вынаходлівасць сышчыка і выкрутлівасць злачынцаў, якіх яму трэба абясшкодзіць.

Тыповым можна лічыць і патрабаванне, каб дэтэктыўны твор даваў чытачу інтэлектуальнае задавальненне ад разгадкі таямніцы менавіта лагічным шляхам. Адсюль вынікае пастулат, што дэтэктыў (сышчык) павінен валодаць строга лагічным мысленнем, пазбягаць у сваёй працы лагічных памылак.

«Логіка, апранутая ў белетрыстычную вопратку», — вось аснова дэтэктыўнага сюжэта, настойваў Р. Осцін Фрымен, прадаўжальнік традыцый Конан-Дойла ў англійскай літаратуры.

«У аснове дэтэктыва ляжыць тайна, якая раскрываецца работай розуму, разумовым намаганнем», — пагаджаўся і знакаміты аргенцінец Хорхе Луіс Борхес.

Раскрыццё гэтай тайны — галоўная задача дэтэктыва. А раз яна павінна вырашацца інтэлектуальным напружаннем, лагічным шляхам, дык трэба пазбягаць варажбы, спірытычных сеансаў, усялякай містыкі, увогуле звышнатуральных сіл, уздзеянне якіх не паддаецца лагічнай разгадцы.

Не пажадана адхіляцца і на падрабязныя апісанні, паказ любоўных прыгод і на іншыя рэчы, калі яны непасрэдна не звязаны са злачынствам, якое раскрывае дэтэктыў.

У дэтэктыўным рамане «не павінна быць любоўнай лініі. Размова ж ідзе пра тое, каб аддаць злачынцу ў рукі правасуддзя, а не пра тое, каб паяднаць вузамі Гіменея засумавалых закаханых», — сцвярджаў амерыканскі пісьменнік С. С. Ван Дайн. Але практыка літаратурнага развіцця паказала, што любоўная інтрыга хоць і рэдка, але бывае арганічнай часткай дэтэктыўнага сюжэта. Такую арганічнасць Борхес бачыў у любоўнай лініі з шырокавядомага рамана Уілкі Колінза «Месяцавы камень».

Дэтэктыўныя творы Л. Рублеўскай сведчаць, што яна добра знаёмая з галоўнымі патрабаваннямі, якія прад'яўлялі аўтарытэтныя тэарэтыкі і пісьменнікі да дэтэктываў, і ў галоўным канцэптуальным падыходзе не парушае гэтых патрабаванняў.

У яе таксама ёсць свой сышчык (дэтэктыў), які займаецца разгадкай таямніц. У такой ролі выступае Паліна Ведрыч, выкладчыца гісторыі ў мінскай беларускай гімназіі. Яе лічаць «вучонай дамай», бо яна займаецца і навуковымі даследаваннямі. Пісала і дысертацыю пра паўстанне Кастуся Каліноўскага. Але да абароны не дайшла «з-за сваёй «недатыкальнасці». Проста ў пэўны момант зрабілася брыдка: арганізатарская беганіна, бясконцыя перамовы, намёкі на тое, што Кастусь Каліноўскі — асоба супярэчлівая». Увогуле ж Паліна як быццам належыць да няўдачніц — яна ў свае 28 гадоў развядзёнка. Мужчыны паглядалі на яе з прыхільнасцю, але

блізка знаёміцца асцерагаліся, бо пабойваліся яе крутога характару, маўляў, «штучка». Дык вось гэтая «штучка», захопленая беларушчынай, апантаная ёю, імкнецца, як і належыць дэтэктыву, разгадаць таямніцу беларускай гісторыі, звязаную з лёсам некаторых удзельнікаў паўстання 1863 года. А ў выніку дзеянне з сучаснасці перакідваецца ў XIX стагоддзе, а потым зноў і зноў вяртаецца ў наш час.

У падзагалоўку твора даецца жанравае вызначэнне — паралельны раман. Тэорыя літаратуры пакуль што не фіксавала такой раманнай формы. У Рублеўскай гэтая форма атрымалася. У яе паслядоўнае чаргаванне раздзелаў пра сучаснасць з раздзеламі гістарычнымі і праўда стварае двухпланавую раманную структуру са складаным, драматычна напружаным і займальным сюжэтам, з мноствам большых і меншых загадак.

Раней гаварылася, што Л. Рублеўская ўлічвае каноны дэтэктыўнай літаратуры, вызначаныя многімі тэарэтыкамі і практыкамі. Але найбольш яна абапіраецца на нацыянальную, караткевічаўскую традыцыю ў гэтым жанры. Свае сімпатыі да Караткевіча Рублеўская падкрэслена дэманструе ў рамане, шмат разоў згадваючы асобу гэтага выдатнага майстра і яго творы, асабліва «Каласы пад сярпом тваім». Абмяркоўваецца, напрыклад, ці быў працяг рамана, ці сапраўды той працяг (калі ён усё ж існаваў) у пісьменніка ўкралі...

Сама рамантызаваная стылістыка рамана «Золата забытых магіл» таксама збліжае Рублеўскую з Караткевічам. Ды і выхад на беларускую гістарычную праблематыку, а тым больш на пераломныя гістарычныя падзеі XIX стагоддзя, не мог быць хоць колькі-небудзь паспяховым без моцнай апоры на зробленае Караткевічам у мастакоўскім спасціжэнні нашай гісторыі, у рэабілітацыі яе самых яркіх, гераічных старонак.

Рублеўская ж дамаглася значнага поспеху. Сваю двухпланавую апавядальную плынь яна разгарнула так, што ў ёй добра адчуваецца і абавязковае для дэтэктыва інтэлектуальнае напружанне, і займальнасць інтрыгі, падпарадкаванай разгадцы цэлага шэрагу таямніц.

Раманістка свабодна, раскована піша і пра сучаснасць, і пра мінулае. Пераканальнасць аўтарскага пісьма забяспечваецца найперш дакладнасцю дэталізацыі, тых непаўторных штрыхоў, за якімі праглядваецца воблік часу, яго атмасфера. А яна ў рамане ўзнаўляецца пазнавальна і праўдзіва. Чытаючы згадку, што на месцы ўзарванага касцёла пабудаваны Дом культуры, мы адразу ўяўляем варварства тых часоў, калі ўлады бясконца трубілі пра культурную рэвалюцыю, а практыкавалі дзікунства ў яго непрыхаваным выглядзе. Або вось сказана пра стаўленне беларусаў да роднай мовы: «Нават маці сваю Паліна не магла пераканаць, каб гаварыла па-беларуску. “Позна мне перавучвацца”, — казала тая, ды ўсё. Сустрэць у іх горадзе чалавека, які

валодае роднай мовай, — усё роўна што земляка на чужыне». Горкая праўда, якая стала вынікам шматгадовага трэціравання беларускай мовы на самых розных узроўнях.

І ўжо зусім дробная дэталь. Паехаўшы ў Вільню, Паліна купляе там бохан хлеба, «чорнага, як урадлівая зямля, цяжкога... А цяпер яго пякуць і з семкамі — хочаш, з гарбузовымі, хочаш — са сланечнікавымі. Паліна ўзяла цэлы каравай — падзеліцца з маці, занясе па акрайцу сяброўкам... Хто б з продкаў мог падумаць, што хлеб зробіцца некалі сувенірам...».

Сёння і ў нас, прынамсі ў Мінску, выбар добрага і вельмі смачнага хлеба самы багаты, купляй любы, абы грошы былі. А ў рамане раздзелы пра сучаснасць — гэта часы перабудовачныя, калі сапраўды з Вільнюса прывозілі такі хлеб, пра які згадвае Паліна.

Не перабольшвае пісьменніца і там, дзе гаворыць пра запусценне беларускай вёскі ў перабудовачныя гады. «Вёска Гарнушкі калісьці бачыла лепшыя часы. Меліся школа, амбулаторыя, крама, у якую час ад часу можна было зайсці», — прыгадвае Паліна, завітаўшы ў колішняе родавае гняздо Вінцэся Рашчынскага. (Гэта той паплечнік Каліноўскага, які зацікавіў Паліну). Але цяпер яно ў куды горшым стане, бо «палова хатаў пазірала на свет сляпымі вачыма забітых вокнаў. За вёскай святлеў самотны двухпавярховы дом з белай цэглы — чорныя прагалы на месцы выбітых шыбаў надавалі яму падабенства з чэрапам волата. Гадоў пяць таму тут паспрабаваў адзін узяцца за фермерства». Аднак гарнушкаўцы не далі яму разгарнуцца, палічыўшы, што з ініцыятыўнага гаспадара можа вырасці новы пан. За гэтым стаяў добра вядомы спрадвечны сялянскі кансерватызм, які можа адыгрываць і станоўчую ролю, калі ён супрацьстаіць рызыкоўным валюнтарысцкім эксперыментам, а можа выступаць і як фактар адмоўны, калі перашкаджае зменам у лепшы бок.

Дакладная Л. Рублеўская і там, дзе яна гаворыць, як не ў XIX стагоддзі, а ў савецкія часы ў нас вялася барацьба з так званымі антысаветчыкамі, да якіх у краіне залічалі невінаватых людзей. Такі лёс напаткаў і Палінінага бацьку Генадзя Рагманава. Ён вучыўся на рэжысёрскім факультэце ў тэатральным інстытуце і для курсавой работы ўзяўся ставіць п’есу заходнебеларускага пісьменніка, аб’яўленага потым ворагам народа. А яшчэ «і поўху замдэкана адвесіў. А той з органаў — усе ведалі». Дык Рагманава асудзілі «на прымусовае пасяленне ледзь не ў тундру». Маці ж, тады камсамолку, прымусілі публічна «каяцца, выкрываць антысаветчыка», фактычна толькі ўяўнага. Так і вырасла дачка без бацькі, з матчыным прозвішчам (каб нішто не нагадвала пра адыёзнага па савецкіх мерках бацьку). За ўсім гэтым зноў горкая праўда. І Л. Рублеўская сумленна напісала пра яе.

Карэктная яна і ў пастаноўцы іншых грамадскіх праблем той пары. Адна з іх — барацьба з алкагалізмам, якая нікольі не страціла актуальнасці і цяпер. Яна ставіцца ў творы востра, з паказам трагічнага лёсу чалавека, які не здолеў вызваліцца ад згубнай цягі да спіртнога.

Гутарка ідзе пра таленавітага выкладчыка беларускай літаратуры ў сталічным інстытуце Артура, які з-за п'янства страціў працу і жонку, а потым і жыццё: «Два тыдні ў моргу праляжаў... Падабралі на сметніцы». Пазней высвятляецца, што памёр ён «не сваёй смерцю», а фактычна быў забіты: «Нехта пачаставаў клафелінчыкам», які і забіў Артура, бо ў яго слабое сэрца.

Так паяўляецца труп, характэрная з'ява дэтэктыўнага жанру. Але не пошукі віноўнікаў Артуравай смерці кладуцца ў сюжэтную аснову рамана «Золата забытых магіл». Ніхто тут не шукае забойцаў Артура. Вырашальны штуршок для крутога сюжэтнага закручвання паспявае даць яшчэ ён сам, зацікавіўшы Паліну загадкавай фігуркай жабкі з надмагілля Вінцэся Рашчынскага, аднаго з паплечнікаў Кастуся Каліноўскага. Той Рашчынскі атэстуецца як паўстанцкі філосаф і вялікі дзівак. Пасля падаўлення паўстання ён здолеў уцячы за мяжу, а калі былым паўстанцам дазволілі вяртацца на радзіму, выкарыстаў гэтую магчымасць. Ды праз год памёр загадкавай смерцю. Як высвятляецца ўжо ў канцы рамана, яго забілі ў ягоным жа доме сяляне, свае людзі. З-за золата, якога Рашчынскі тады не меў, і ўжо быў ён небагатым чалавекам, бо ўсю сваю маёмасць паадпісваў тым з суседзяў і сваякоў, каго глыбока паважаў. Але забойцы былі ўпэўнены, што золата Вінцэсь Рашчынскі мае. «Табе цмок золата носіць. Ты ў магіле прадзеда Чорную Кнігу адкапаў. Цмок вылупляецца з яйка пеўня. Вынасіў яго пад пахай... Ён табе яшчэ прынясе... Дабром просім — аддай золата! А то абыдземся, як з ведзьмаком і чарнакніжнікам належыць!» Вось і абышліся, закатавалі высакароднага чалавека да смерці.

Між тым золата ў Рашчынскага было, толькі раней. І не цмокава, а паўстанцаў. Вінцэсь Рашчынскі схаваў яго так, каб знайсці маглі толькі разумныя і здагадлівыя нашчадкі. Шлях да таго золата зашыфраваны праз надмагілле, пабудаванае на немалыя сродкі Вінцэсем Рашчынскім для самога сябе яшчэ пры жыцці. Тое надмагілле шмат разоў разбуралася, але ў яго руінах капаюцца і сучасныя пінкертоны ды шэрлакхолмсы. І скарб яны як быццам знаходзяць. Але ён аказаўся падманным — замест золата, як у Ільфа і Пятрова, знайшлі чыгунныя балванкі. Дзе дзелася сапраўднае паўстанцкае золата, адказу няма. Так што крута закручаная сюжэтная загадка ў рамане застаецца неразгаданай.

Адна з галоўных ідэй рамана — адказнасць нашчадкаў за справы продкаў. Калі Вінцэся катуюць, ён думае, што сваімі пакутамі, магчыма, сплаціць

«грахі свайго роду, увесь боль, які спарадзіў яго род». І гэтых грахоў у Вінцэсевым родзе набіраецца багата. Галоўны з іх — жорсткае абыходжанне з сялянамі.

А пры чым тут Паліна? Яе як гісторыка цікавяць гістарычныя карані знакамітых беларусаў — барацьбітоў за свабоду. Ды і сама яна мае родавыя сувязі з паўстанцамі Каліноўскага, асабліва з Рагманавымі, бо яе ж бацька таксама быў Рагманаў. Таму яна так апантана капаецца ў загадках забытых магіл, шукаючы там карані і сваёй радаслоўнай. Урэшце высвятляецца, што яна нашчадак не толькі Рагманавых, але і Рашчынскіх, бо Вінцэсь Рашчынскі меў тое, пазашлюбнае, дзіця ад Вальжыны Рагманавай, дзяўчыны, да яго яшчэ цнатлівай, вельмі прывабнай і надзвычай высакароднай.

Але ў яе ўчынках, здаецца, ёсць залішняе і для дэтэктыўнага сюжэта. Шмат разоў гаварылася, што Вальжына кахае не Вінцэся, хлопца маладога і прыгожага, а ваўкалака з пакалечаным тварам, намнога старэйшага за дзяўчыну, амаль равесніка яе бацькі. Ды аддаецца дзяўчына ўсё ж не ваўкалаку, а Вінцэсю, з якім праводзіць цудоўную ночку (адзіную за ўсё сваё жыццё). «Наша адзіная ноч — не падман. Хутчэй сон, мроя», — патлумачыць Вальжына ўжо ў старасці Вінцэсю Рашчынскаму, усе нашчадкі якога ідуць пад прозвішчам Рагманавых (дзіця ж ад яго ў Вальжыны пазашлюбнае). А гэтаму дзіцяці і наканавана працягваць род жанчыны і яе каханка на адну ноч.

З каханнем у рамане Л. Рублеўскай нейкая нескладуха творыцца скрозь. У раздзелах аб мінулым прапаноўвала сябе Вінцэсю закаханая ў яго багатая і таксама вельмі прыгожая Хрысціна. Ды ён адмовіўся ад той прапановы з-за кахання да Вальжыны, што ўвогуле зразумела. Рамантыкі сваё каханне на багацце не мяняюць.

Затое ў раманнай сучаснасці нагрувашчана ў гэтым плане шмат. Тая ж Паліна яшчэ кахае свайго былога мужа Стася, які пасля разводу з ёю добра ўладкаваўся ў Амерыцы. Цяпер, наведаўшы Беларусь, ён гатовы развесціся з амерыканскай жонкай і зноў ажаніцца з Палінай. А яна, яшчэ кахаючы былога мужа, цягнецца ўжо да скульптара Валянціна, які абяцаў ажаніцца з другой, ды ўрэшце ўсё ж звязаў свой лёс з Палінай. І гэта адзіная шчаслівая развязка любоўнай гісторыі, бо высвятляецца, што і Паліна горача кахае гэтага скульптара, хоць на адным сюжэтным вітку згаджалася адмовіцца ад яго дзеля магчымасці працягваць свае раскопкі ды пошукі на зруйнаваным надмагіллі Рашчынскага.

Самую Паліну вельмі моцна кахае былы штурман-падводнік Сымон Пятровіч, які кажа, што можа бязмежна доўга чакаць яе згоды на шлюб з ім. Жонка ў яго ўжо была. Яна так кахала скульптара Валянціна (не таго, з якім мае справу Паліна, а яго нахабнага двайніка), што з-за кахання ўрэшце

звар'яцела і закончыла свае дні ў псіхушцы. Чуллівы Сымон Пятровіч так кахаў жонку, што нават збіраўся скульптара-нягодніка «расшукаць і за ручку да яе прывесці». Крутыя вузлы атрымліваюцца.

Яшчэ больш нагрувашчана такой круцізны ў дачыненні да гандляркі Дзіны, якая таксама кахае скульптара Валянціна, сапраўднага, а не яго нахабнага двайніка, і робіць самыя неверагодныя заходы, каб трымаць хлопца каля сябе. Так што выдаткі і празмернасці ў гэтым плане відавочныя.

А калі і пры гэтых выдатках твор застаецца цікавым і значным, дык дзякуючы яго інтэлектуальнай заглыбленасці і выяўленчаму майстэрству раманісткі, высокай агульнай культуры яе пісьма, якая не перакрэсліваецца і залішне ўжо крутымі паваротамі дэтэктыўных хітрасплячэнняў, і праколамі ў паказе інтымных стасункаў.

Інтэлектуальная заглыбленасць твора найбольш ярка выяўляецца ў спрэчках розных персанажаў і ў аўтарскіх разважаннях пра самыя высокія матэрыі — пра сувязь мінулага, сучаснага і будучыні, гістарычныя карані беларусаў, свабодалюбства і тыранію, поўнае самапрыніжэнне рабоў, якія канчаткова страцілі самую мару пра вызваленне і ўжо гатовы ўслаўляць тыранаў, што ўладараць над імі, і інш.

У гэтым жа кірунку ідуць сентэнцыі наконт жахлівасці братазабойчых раздораў ці таго, што ў паваротныя моманты гісторыі гінуць лепшыя прадстаўнікі народа, найбольш самаахвярныя, разумныя і сумленныя. Так нараджаецца адмоўная селекцыя, бо асцярожныя палахліўцы не ўключаюцца ў барацьбу за вартую чалавека будучыню і выжываюць, плодзячы цярплівых палахліўцаў, гатовых мірыцца з вялікім злом і пастаянным прыніжэннем.

Прываблівае ў рамане Л. Рублеўскай і пейзажнае майстэрства. Яна ўмее літаральна некалькімі штрыхамі ўражліва акрэсліць прыродны фон падзей. Вось некалькі характэрных прыкладаў: «Адлютавала зіма, адплакала адлігамі вясна, адспявала птушкамі лета» і надышоў «цьмяны лістападаўскі дзень». Так хораша гаворыцца пра рух часу, пра звыклую змену пораў года, вядомую кожнаму чалавеку, гаворыцца выразна і ёміста, аднак гранічна сціслa, паэтычна.

Такая паэтычнасць выразная і ў наступных штрыхах: «Восень прыйшла без дазволу, як цыганка, і адразу раскінула свае стракатыя спадніцы на зжоўклай траве, расселася гаспадыняй, пазвоньваючы залатымі маністамі».

Часта пейзажныя штрыхі суадносяцца з пачуццямі, настроем персанажаў, узмацняючы выразнасць іх агульнай абмалёўкі. «Вецер ударыў у твары, і быў ён вільготны, як зрэзаныя на золку кветкі. Ды яшчэ з сасны пасыпаліся дробныя кроплі-слёзы, і ўсмешка сусвету стала трохі сумнай». Адпаведна сумным становіцца і настрой героя, тут чуллівага Сымона Пятровіча.

Гаваркія і трапныя ў Л. Рублеўскай шматлікія параўнанні. Яны звяртаюць на сябе ўвагу не толькі ў пейзажных штрыхах, але і на працягу ўсяго рамана. Пра панылы настрой аднаго з герояў (скульптара Валянціна, таго, што не падманны, а сапраўдны) у скрушлівую для яго хвіліну сказана, што хлопец «сядзеў такі сумны, нібыта зазірнуў ва ўласную магілу». Згушчэнне фарбаў максімальнае. Але для рамантызаванай стылістыкі рамана Л. Рублеўскай гэта натуральна. Нармальна ўспрымаюцца ў гэтым стылі і наступныя кідкія параўнанні. У гандляркі Дзіны пагляд на саперніцу па каханні да скульптара «быў вастрэйшы ад касінерскага ляза». Вінцэсь Рашчынскі цалуе Вальжыну Рагманаву «вуснамі, гарачымі, як апошняя надзея». «Хрысціна рэзала голасам паветра, як лязом шаблі». У аднаго з дэманічных герояў пагляд чорных вачэй, як «сама нянавісць». Ёсць і «страла, кароткая, нібы апошні ўздых». Арыгінальна гучыць характарыстыка перарывістай размовы двух узаемна насцярожаных персанажаў: «Яна, як рэчка ў афрыканскай саване, якая то перасыхае, то зноў выблісквае».

За кідкасцю трапных параўнанняў і агульнай яркасцю пісьма ў рамане «Золата забытых магіл» адчуваецца вопыт працы Л. Рублеўскай у галіне паэзіі. Бывае, што гэткі вопыт ідзе і на шкоду празаічнаму пісьму, калі аўтар збіваецца на сентыментальнае сюсюканне ў эпічным жанры. А Рублеўская такіх збояў не дапускае. Яна тонка адчувае магчымасці слова, ведае, як яго трэба павярнуць, каб дабіцца максімальнай выразнасці. Яе раман «Золата забытых магіл» — цікавая і значная з’ява ў сучаснай беларускай прозе.

*2005 г.*





# ПРА ВАСІЛЯ БАРЫСЕНКУ
## (да 100-годдзя з дня нараджэння даследчыка)

З дня нараджэння Васіля Васільевіча Барысенкі 25 красавіка 2004 года спаўняецца 100 гадоў, вядомага беларускага літаратуразнаўцы і крытыка, акадэміка НАН Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа, заслужанага дзеяча нашай навукі. Амаль тры дзесяцігоддзі (1946—1973) ён узначальваў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы, а ў даваенны перыяд (1937—1941) быў дырэктарам Інстытута мовы і літаратуры. Набіраецца амаль трэць стагоддзя кіраўніцтва літаратуразнаўчым развіццём. З'ява ў нашай гуманітарнай навуцы рэдкая, можна сказаць, выключная. Дык ці трэба дзівіцца, што яго дзейнасць выклікае розныя ацэнкі? Ды яна і не магла быць аднолькава плённай у розныя часы. Розныя і храналагічна, і па тых магчымасцях, якія мелі крытыка і літаратуразнаўства, існуючы ва ўмовах зігзагападобных перамен, рэзкіх перападаў у грамадскай атмасферы.

Я зблізку ведаў Васіля Васільевіча ў свае аспіранцкія гады (ён быў маім навуковым кіраўніком) і ў перыяд працы ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы (1959—1964). Прыязныя адносіны з ім захоўваліся і тады, калі я з акадэміі перайшоў на працу ў БДУ.

Адразу скажу, што маё стаўленне да В. В. Барысенкі ў цэлым станоўчае. Я лічу яго сваім настаўнікам, якому шмат чым абавязаны і ў навуковай працы, і ў чалавечым лёсе. Барысенка ўзяў мяне ў аспірантуру, запрашаў у Інстытут літаратуры пасля яе заканчэння. А калі я пабаяўся прыняць гэтае запрашэнне і паехаў у Мазыр на выкладчыцкую пасаду ў педінстытуце, крыўды не затаіў. Наадварот, ён зрабіў усё, каб пазней выратаваць мяне ў ахавай сітуацыі. Дзякуючы ягоным немалым намаганням я, ужо выгнаны з Мазыра, уладкаваўся ў сталіцы і мог тут займацца даследаваннем літаратуры.

Ды добразычлівасць Барысенкі хочацца падкрэсліць не толькі таму, што яна выразна праяўлялася ў дачыненні да мяне, але і з той прычыны, што ягоная чалавечнасць і нават звычайная прыстойнасць аспрэчваюцца ў некато-

рых публікацыях нядаўняга часу. Маю на ўвазе кнігу А. А. Семяновіча «З пражытага і перажытага» (Мінск, 2000). Гэта апошняе прыжыццёвае выданне даследчыка, які таксама пры Барысенку працаваў у Інстытуце літаратуры, але ў 1963 годзе мусіў адтуль пайсці. Прычынай стаў яго канфлікт з Барысенкам, якога Семяновіч у згаданай кнізе (яна выйшла праз дваццаць гадоў пасля Барысенкавай смерці) абвінаваціў у многіх знарочыстых грахах. Тут мне бачыцца не проста перабольшанне, а яўная неаб'ектыўнасць і нават ваяўнічая прадузятасць.

Вось Семяновіч, які не толькі мне ўяўляўся чалавекам незласлівым, хутчэй пакладзістым, ужо на парозе свайго нябыту (а ў гэткім становішчы лагічна было б чакаць цвярозай разважлівасці) заяўляе, што Барысенка «свае абавязкі навуковага кіраўніка аспірантаў» выконваў чыста фармальна, хоць грошы за гэта атрымліваў рэгулярна. Ніводнай дысертацыі (ні маёй, ні іншых аспірантаў) ён не чытаў. <...> Такія адносіны да навуковага кіраўніцтва сваіх аспірантаў былі ў Барысенкі на працягу ўсёй яго амаль трыццацігадовай дзейнасці на пасадзе дырэктара Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі». Няпраўда для мяне відавочная.

Я ведаў многіх Барысенкавых аспірантаў. Яны ніколі не скардзіліся на яго. Прыгадваецца, як і я прынёс Барысенку першы дысертацыйны раздзел (агляд літаратуры 1920-х гадоў). Напісаў яго даволі хутка (у маладосці, як мне цяпер здаецца, усё робіцца хутка), здавалася, і талкова. Васіль Васільевіч прачытаў, мяркуючы па мностве паметак, уважліва і прама, без усякіх змякчальных агаворак ці суцяшэнняў сказаў: усё гэта трэба выкінуць і пачынаць зусім іначай, адразу з размовы пра Міхася Лынькова (дысертацыя была па творчасці гэтага пісьменніка). Я збянтэжана пачухаў патыліцу, колькі дзён пабедаваў і стаў пісаць па-новаму.

У тыя гады, калі я быў яго аспірантам, Васіль Васільевіч сам пісаў доктарскую дысертацыю, якую потым паспяхова абараніў. Але вялікая загружанасць уласнай навуковай работай і рознымі службовымі абавязкамі, якіх у Барысенкі заўсёды, акрамя, можа, самых апошніх гадоў яго жыцця, набіралася шмат, не перашкаджала яму ўважліва ставіцца і да аспірантаў. Прынамсі, ён неяк знаходзіў час і чытаць нашу няўмелую пісаніну, і сур'ёзна, грунтоўна гаварыць пра яе. Так, размова пра наступны раздзел маёй дысертацыі, у якім Барысенка ўжо ўбачыў нешта жывое, зацягнулася далёка за поўнач. Была гэтая размова вельмі шчырая, даверлівая, з падрабязным разглядам таго, што трэба неяк праясніць, дацягнуць, падаць у іншым святле. Такі канкрэтны, падрабязны аналіз без уважлівага прачытання самога тэксту працы быў, канечне ж, немагчымы.

Пасля сустрэчы з Барысенкам я вярнуўся ў інтэрнат на Кіраўскай, дзе тады жылі педінстытуцкія аспіранты, ужо, бадай, пад самую раніцу. І калі

сказаў здзіўленым хлопцам, што быў на кватэры ў Барысенкі, абмяркоўвалі з ім чарговы раздзел работы, дык яны не паверылі, падумалі, што я, мусіць, хадзіў на спатканне з дзяўчынай, але чамусьці не хачу прызнацца, дурачу іх.

У кнізе Семяновіча Барысенка ўвогуле атэстуецца як подлы кар'ерыст, які ў дадатак да ўсяго загубіў некаторых беларускіх пісьменнікаў. «У мяне з'явілася антыпатыя, але і агіда да гэтага чалавека, які рабіў сваю навуковую і службовую кар'еру менавіта ў страшны час масавых сталінскіх рэпрэсій», — размашыста піша Семяновіч, адкрыта заяўляючы, што на сумленні Барысенкі, «мабыць, не адно загубленае жыццё з ліку беларускай творчай інтэлігенцыі». Канкрэтна называюцца Максім Гарэцкі і Якаў Бранштэйн. Спасылка даецца на два Барысенкавы артыкулы, напісаныя ў 1936 і 1937 гадах. У адным з іх была рэзкая крытыка Гарэцкага, у другім — Бранштэйна. Барысенка сапраўды надрукаваў іх «у страшны час масавых сталінскіх рэпрэсій». Дык жа тым страшным часам усё і тлумачыцца. Вядома, асабістая віна Барысенкі ўсё роўна застаецца. Ён не адмаўляе яе. І ў паслясталінскі перыяд публічна пакаяўся ў гэтым сваім немалым граху. Слушна казаў ён і пра тое, што такія артыкулы тады пісаліся не па ўласнай ініцыятыве аўтараў, а па партыйнай разнарадцы. Яна распаўсюджвалася на Барысенку таму, што ён яшчэ са сваіх студэнцкіх гадоў стаў членам бальшавіцкай партыі, якая абяцала ашчаслівіць народ. Тыя, хто паверыў гэтым зманлівым абяцанням, былі проста кар'ерыстамі? Тады да кар'ерыстаў можна залічыць і коласаўскіх станоўчых герояў Сцёпку Баруту і Аленку Гарнашку з аповесці «На прасторах жыцця» і, бадай, усю рэальную, жывую моладзь, якая ў паслярэвалюцыйных умовах актыўна праяўляла сябе ў літаратуры, навуцы і іншых сферах дзейнасці.

У жахлівыя 1930-я гады, калі барацьба з так званай нацдэмаўшчынай зрабілася афіцыйнай дзяржаўнай палітыкай, дзікія вульгарызатарскія артыкулы станавіліся не выключэннем, а звыклай нормай, для публіцыстаў з партыйным білетам абавязковай. Той жа Бранштэйн, член бальшавіцкай партыі з 1924 года, быў ваяўнічым крытыкам. Ён напісаў цэлы шэраг артыкулаў з навешваннем самых грозных ярлыкоў на добрых пісьменнікаў. Чаго варты толькі ягоны артыкул «Апошні рэйд шукальнікаў хараства з Сівецкага сельсавета», накіраваны супроць М. Зарэцкага. Але па іроніі лёсу крытык быў расстраляны бальшавікамі разам з Зарэцкім.

Семяновіч жа з'едліва зазначае, што Бранштэйн быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання праз чатыры месяцы пасля Барысенкавага артыкула. Гэты артыкул Семяновіч кваліфікуе як данос. На самой жа справе даносу ў такіх артыкулах пры ўсёй іх жахлівасці не было. Яны пісаліся, паўтару, па партыйнай разнарадцы супроць тых асоб, якія падлягалі рэпрэ-

сіраванню. Выканаўцы такіх разнарадак ні грамадзянскай мужнасці, ні звычайнай чалавечнасці не выяўлялі. І за гэта яны нясуць усю меру маральнай адказнасці. Але губілі людзей усё ж не яны. Губіла тая сістэма, якая тыя разнарадкі давала. Гэта наглядна выяўляецца ў трагічным лёсе Максіма Гарэцкага. Падставай для яго расстрэлу быў, канечне ж, не Барысенкаў артыкул (ён зусім не ўпамінаецца ў следчай справе, па якой пісьменніку вызначылі смяротны прысуд). І нават не самы сапраўдны данос у галоўную бальшавіцкую газету «Правда», напісаны зайздроснівым лайдакаватым калегам па апошнім месцы настаўніцкай працы М. Гарэцкага, а зусім іншыя матэрыялы. Следчыя, якія атрымалі заданне падрыхтаваць забойчы кампрамат на пісьменніка, згарбузавалі сфальсіфікаваныя паказанні сведкаў, прыпісалі бязвіннаму пакутніку шпіянаж у карысць Польшчы, «контррэвалюцыйную работу», «тэрарыстычныя і контррэвалюцыйныя намеры» і іншую стандартную па тых часах лухту, сур'ёзна даказваць якую ніхто і не збіраўся. Дастаткова было таго, што чалавека судзілі раней, у 1931 годзе, хоць таксама беспадстаўна. «Таму былі даносы ці не былі — вынік быў бы аднолькавы: адбіралі незагінуўшых у мінулыя гады «недабітых» «ворагаў народа», — слушна напісаў Р. Гарэцкі, пляменнік пісьменніка, выдатны вучоны, якога ніяк нельга западозрыць у неаб'ектыўным стаўленні да свайго дзядзькі.

Не ведаць пра ўсё гэта Семяновіч не мог, бо ўсе падрабязнасці гібелі Гарэцкага апублікаваны па архіўных матэрыялах у друку яшчэ ў 1990-я гады. Самае грунтоўнае іх асвятленне даецца ў кнізе Р. Гарэцкага «Ахвярую сваім "я"...» (Мінск, 1998).

Але Семяновічу карцела даняць Барысенку, тады ўжо нябожчыка, любой цаной. І ён нагрувашчваў абвінавачанні, не лічачыся ні з чым. Як дрэнная фантастыка ўспрымаецца гаворка пра тое, што Барысенка намагаўся неяк перашкодзіць выданню невялічкага зборніка выбраных твораў М. Гарэцкага, падрыхтаванага Семяновічам у 1960 годзе. Семяновіч тады зрабіў, вядома, добрую справу, хоць творчасць нашага класіка ацаніў вельмі неадэкватна, напісаўшы ў прадмове да кнігі так: «Шмат якія творы М. Гарэцкага для нашага часу гучаць ужо анахранічна, яны не могуць задаволіць сучаснага чытача ні сваім зместам, ні эстэтычнымі якасцямі. Аднак некаторыя яго апавяданні і аповесці маюць пазнавальнае значэнне і ўяўляюць пэўную цікавасць».

Барысенка вымусіў на такую ацэнку? Дык ён жа ніяк не вызначаў характар таго больш чым сціплага выдання і яго прадмову. І чым кіраўніку Інстытута літаратуры пагражала публікацыя твораў пісьменніка?

Трохі пазней (у 1968 годзе) я выдаў невялікую кніжку «Максім Гарэцкі» (яна пра пісьменніка была ў нас першай) і паслаў адзін экзэмпляр Барысенку. Ён мне падзякаваў і ніякай незадаволенасці з-за таго, што я ўзяўся даследаваць творчасць Гарэцкага, ніколі не выказваў.

Але пара вярнуцца да таго канфлікту, з-за якога Семяновіч мусіў пайсці з Інстытута літаратуры. Гэты канфлікт разгортваўся на маіх вачах. І я мушу сказаць, што Семяновіч падае яго зусім няпраўдзіва. «А пачалося ўсё з-за таго, што я заступіўся за аднаго малодшага навуковага супрацоўніка Інстытута Дзмітрыя Захаравіча Бародзіча, якога дырэктар задумаў звольніць з працы. Бародзіч аказаўся «няўгодным» Барысенку таму, што зашмат ведаў пра яго былую дзейнасць. Ён пачасту паказваў супрацоўнікам Інстытута фотакопіі друкаваных у перыёдыцы 1930-х гадоў артыкулаў Барысенкі, у якіх узводзіўся паклёп на некаторых беларускіх пісьменнікаў, яны абвінавачваліся як «ворагі народа». Але па гэтай прычыне звольніць Бародзіча было нельга. Таму Барысенка вырашыў дзейнічаць іншым шляхам. Ён стварыў атэстацыйную камісію з асабіста адданых яму супрацоўнікаў Інстытута і даў ім заданне праверыць усю навуковую працу Бародзіча, выявіць яе недахопы і даць заключэнне аб нізкай якасці ўсёй яго навуковай прадукцыі. Услужлівая камісія так і зрабіла. На падставе яе высноў Вучоны савет Інстытута не атэставаў Бародзіча. І дырэктар Інстытута меў законнае права звольніць яго як прафесійна непрыгоднага. Усё гэта, вядома, было шыта белымі ніткамі, і на Вучоным савеце ў час адабрэння вывадаў атэстацыйнай камісіі я выказаў нязгоду і ўстрымаўся ад галасавання».

Няпраўда, што Семяновіч тады выказаў нязгоду. Ён сціпленька маўчаў, бо сказаць не было чаго, і пры галасаванні не ўстрымаўся, а прагаласаваў за звальненне Бародзіча. Ды і ўстрыманне ад галасавання, калі прыняць версію Семяновіча, вельмі ж хліпкая нязгода.

За звальненне Бародзіча дружна прагаласавалі ўсе члены Вучонага савета. А ў ліку іх быў і Алесь Адамовіч, які ніколі не крывіў душою. Камісію па праверцы навуковай працы Бародзіча ўзначальваў Міхась Лынькоў, які таксама вызначаўся сваёй прынцыповасцю. І яму Барысенка не мог даваць установак на тое, як ацаніць працу Бародзіча. Той амаль цэлы год не займаўся сваімі абавязкамі малодшага навуковага супрацоўніка, а траціў час на фельетоны ў маскоўскіх выданнях, прызнаныя потым ілжывымі не Барысенкам, а тымі выданнямі, якія мусілі даваць абвяржэнні. Словам, амаль год Бародзіч «сачкаваў». І ў час праверкі, якая робіцца пры атэстацыі ўсіх навуковых супрацоўнікаў, гэта выявілася з усёй неаспрэчнасцю.

Барысенка на згаданым савеце прапанаваў прагаласаваць і супрацоўнікам, якія не былі членамі савета. Яны гэта зрабілі ахвотна. Са страху? Якраз не. Бародзіча за ягоную, як мне здавалася, фанабэрыстасць не любілі многія. А страху-жаху Барысенка ў Інстытуце не наводзіў. Парадкі тут былі больш дэмакратычныя, чым у суседніх навуковых інстытутах. Скажам, у Інстытуце мовазнаўства яго дырэктар М. Р. Суднік так «пасвіў» сваіх

маладых супрацоўніц, што бегаў фіксаваць нават час, які яны «марнавалі» ў туалеце, а ўжо за спазненне на працу хоць на якую хвіліну-другую здымаў «стружку» неміласэрна, сочачы за ўсім асабіста. Барысенка пасмейваўся з гэтакай дробязнасці калегі са званнем члена-карэспандэнта НАН Беларусі. Выкананне планавых тэм было абавязковым і ў Інстытуце літаратуры. Але патрабаваць, каб уся праца рабілася непасрэдна за інстытуцкімі сталамі, у карпенні за імі ад званка да званка, Барысенку ў галаву не прыходзіла. Часам гэтым і злоўжывалі. Але ўсё ж плюсаў тут было больш.

І на пасяджэннях Вучонага савета ў Барысенкі можна было выказвацца свабодна, спрачацца па розных праблемах, пярэчачы і самому дырэктару. Толькі за пярэчанні ці спрэчкі нікога на маёй памяці з працы не звальнялі.

Перабольшваў Семяновіч і ў сваіх сцверджаннях, што Барысенку напалохалі фотакопіі ягоных старых артыкулаў, зробленыя Бародзічам. Гэтым мала каго можна было здзівіць. Большасць даследчыкаў і без Бародзіча ведала пра тыя артыкулы і пра тое, што тварылася ў 1930-я гады, калі нават Купалу і Коласу даводзілася пад дыктоўку не Барысенкі, а Лукаша Бэнды нагаворваць на сябе жахлівыя рэчы.

Зрэшты, кіраўнікі навуковых інстытутаў і больш уплывовага Саюза пісьменнікаў мусілі падтрымліваць ідэалагічныя абвінавачванні не толькі ў перыяд сталінскіх рэпрэсій, але і ў пазнейшыя часы, аж да гарбачоўскай галоснасці. На маёй памяці паважаныя пісьменнікі ругалі і Б. Пастарнака (рабіў гэта і Барысенка) за раман «Доктар Жывага», і А. Кулакоўскага за праўдзівую аповесць «Дабрасельцы», і В. Быкава за «Мёртвым не баліць». Ужо ў 1971 годзе І. Мележ, тады адзін з намеснікаў старшыні нашага СП, згадваючы магутную быкаўскую аповесць «Мёртвым не баліць», мусіў паўтараць, што гэтая аповесць стала творчай няўдачай аўтара. Мусіў таму, што яшчэ ў 1965 годзе яна была афіцыйна асуджана. І ідэалагічныя службы таго прысуду строга трымаліся.

Праўда, Мележ не называў пісьменніка ворагам народа, як гэта рабілася ў 1930-я гады, ён яго асцярожна абараняў, але з вымушаным прызнаннем уяўных грахоў мастака. У артыкуле «Раманы, аповесці, апавяданні» (1971) Іван Паўлавіч напісаў: «Для Быкава не прайшла бясследна тая крытыка, якой быў падвергнуты ў свой час яго твор «Мёртвым не баліць». Ужо ў аповесці «Праклятая вышыня» Быкаў, хоць і не ва ўсім з поспехам, паспрабаваў вырвацца з палону тых схем, якія прывялі пісьменніка да творчай няўдачы ў аповесці «Мёртвым не баліць». Між героямі аповесці «Праклятая вышыня» і капітанам Сахно з «Мёртвым не баліць» ужо значная адлегласць. Яшчэ далей у гэтых адносінах ад «Мёртвым не баліць» новыя дзве аповесці Быкава, хоць і яны выклікаюць крытычныя водгукі».

Гутарка ішла пра аповесці «Круглянскі мост» і «Сотнікаў». Іх Мележ таксама злёгку пакрытыкаваў, зазначыўшы, напрыклад, што «Сотнікаву» «шкодзіць камернасць».

У тым, што і выдатны пісьменнік Мележ мусіў аглядвацца на афіцыйныя ідэалагічныя прысуды, тут на прысуд Быкаву, бачыцца плата за несвабоду мастака ў таталітарным грамадстве. Гэтая аглядка была абавязковай для ўсіх, хто займаў кіраўнічыя пасады. Тыя ж, хто афіцыйных прысудаў хоць бы фармальна не паўтараў, на пасадах не затрымліваліся. Давялося ж Алесю Адамовічу развітацца з Маскоўскім універсітэтам, дзе ён чытаў курс беларускай літаратуры, пасля таго, як адмовіўся падпісаць асуджальны ліст супроць А. Сіняўскага. І ў Мінску яго нідзе на працу не бралі. Рызыкнуў гэта зрабіць асцярожны ў многіх выпадках Барысенка.

Зноў вяртаючыся да канфлікту Семяновіча з Барысенкам, мушу падкрэсліць, што тут Антон Аляксандравіч не сказаў пра самае галоўнае. У Інстытуце літаратуры тады арганізавалася ладная група навуковых супрацоўнікаў з кандыдацкімі ступенямі, якія намерыліся скінуць Барысенку з дырэктарскага крэсла. Закулісна гэтай групай дырыжыраваў Ю. Пшыркоў. Знешне сваёй апазіцыйнасці ён ніяк не праяўляў, мабыць, разлічваючы, што так у яго будзе больш шансаў трапіць на пасаду кіраўніка Інстытута, калі ўдасца зваліць Барысенку. Семяновіч жа ўзначальваў апазіцыянераў адкрыта. У іх склад уваходзілі, апрача яго, А. Коршунаў, М. Луфераў, С. Александровіч, В. Жураўлёў, К. Хромчанка. Яны напісалі ліст у ЦК КПБ з прэтэнзіямі да Барысенкі. Якія канкрэтна былі тыя прэтэнзіі, я не ведаю, бо самога ліста не чытаў. Але што ён быў і выклікаў найбольшае Барысенкава абурэнне, ведаю дакладна.

Кіраўнічая кар'ера Барысенкі тады вісела на валаску. Бо гэта ж не жартачкі, што ажно шэсць чалавек з навуковымі ступенямі адкрыта ўзбунтаваліся супроць свайго кіраўніка, патрабуючы яго замены. Але Барысенка і тут перамог. Ён заручыўся падтрымкай ЦК КПБ і разгром апазіцыі правёў па ўсіх правілах чыноўніцкага майстэрства. Найперш ён узяўся за Коршунава, які два гады рабіў «Хрэстаматыю» па старабеларускай літаратуры, кнігу вельмі патрэбную, але няпланавую. Сваю планавую тэму, за працу над якой атрымліваў зарплату ў Інстытуце літаратуры, Коршунаў праваліў поўнасцю. Пакуль ён не ўздумаў бунтавацца супроць дырэктара, дык той не прыспешваў яго са справаздачай, мабыць, мяркуючы, што і па планавай тэме чалавек нешта робіць. А з Коршунавым-бунтаўніком размова аказалася рашучай. У канчатковым выніку Коршунаў напісаў заяву, што яго подпіс на лісце ў ЦК паставілі без ягонай згоды, значыць, падрабілі. А дакумент з падробленым подпісам ужо не дакумент... Словам, Коршунаў падвёў сяброў па апазіцыі найбольш, але дзякуючы гэтаму ў Інстытуце застаўся.

Застаўся і Жураўлёў, які ўвогуле вызначаўся сваёй памяркоўнасцю. Ён шчыра пакаяўся. І Барысенка яму дараваў часовую няўстойлівасць. Хромчанка і Александровіч пайшлі ў БДУ чытаць груваскі курс літаратуры народаў СССР, Семяновіч — у Мінскі педінстытут (цяпер БДПУ імя Максіма Танка). Пісаў Семяновіч заўсёды ў лепшым выпадку пасрэдна. Але пакуль сядзеў ціха, дык гэта неяк даравалася, хоць пэўныя нараканні былі. А як стаў ваяваць, дасталося і яму напоўніцу. Што тут зробіш... На вайну трэба ісці добра ўзброеным. А калі належнай узброенасці няма, на перамогу разлічваць наіўна.

Здзіўляе ў кнізе Семяновіча і тое, што ён выдае сябе непагрэшным празарліўцам, хаця таксама паўтараў усе тыя казённыя догмы, без прызнання якіх наша літаратуразнаўства ў часы таталітарызму існаваць не магло. Ужо не ў жахлівыя 1930-я гады, а ў перыяд адносна ліберальнай хрушчоўскай адлігі А. Семяновіч падтрымаў той паклёп на беларускую інтэлігенцыю, які зрабіў З. Бядуля ў другім томе рамана «Язэп Крушынскі», дзе праз вобраз Антона Цярэшкі здзекліва высмейваўся Янка Купала, зняважліва пісалася аб працы «Узвышша», у негатыўным асвятленні трактавалася творчасць У. Дубоўкі, Я. Пушчы, крытыка А. Бабарэкі. Пры гэтым падаваліся сапраўдныя назвы іх твораў, цытаты з вершаў, вытлумачаныя з нядобразычлівасцю, характэрнай для гаворкі пра заклятых ворагаў. У скажоным асвятленні Бядуля паказаў акадэмічную канферэнцыю 1936 года, якая паўстае ў рамане як зборышча замежнікаў, што прыехалі ў Беларусь рыхтаваць дзяржаўны пераварот.

Фактычна Бядуля скаціўся да антыбеларускіх твораў. Такім творам стаў другі том рамана «Язэп Крушынскі», напісаны ва ўгоду пагромшчыкам беларускай літаратуры. Семяновіч жа ў сваёй брашуры «Змітрок Бядуля» (Мінск, 1960) сцвярджаў: «Абапіраючыся на гістарычныя факты, Змітрок Бядуля раскрывае контррэвалюцыйную дзейнасць беларускіх буржуазных нацыяналістаў як у часы нямецкай і белапольскай акупацыі Беларусі (1918—1920), так і ў першыя гады мірнай стваральнай працы савецкага народа. Наш народ выкрыў змяінае гняздо ворагаў і абясшкодзіў яго. Усе так званыя “прэм’еры”, “маршалкі”, “міністры” былі выкінуты на сметнік гісторыі».

На самой справе Бядуля абапіраўся не на гістарычныя факты, а на іх крывадушнае перакручванне, на знарочыстыя інсінуацыі, якія патрэбны былі нашым тагачасным уладам для пагрому беларускай культуры. Тое, што злачыннай антыўрадавай дзейнасці не вялі людзі, абвінавачаныя ў нацдэмаўшчыне, буржуазным нацыяналізме, пацвердзіла сама савецкая ўлада, пасмяротна рэабілітаваўшы за адсутнасцю складу злачынства і В. Ластоўскага, і А. Луцкевіча (на іх быў ківок праз распісванне злачыннага гнязда «прэм’ераў», «маршалкаў», «міністраў»), і Дубоўку, і Пушчу, і Бабарэку, і іншых пакутнікаў, распінаных за любоў да Беларусі, за шчырую працу па ўздыме яе культуры.

Апраўдваючы самае горшае ў паклёпніцкім творы З. Бядулі, А. Семяновіч далучаўся да дзікіх нападак на пісьменнікаў. Па сваёй сутнасці гэта была такая ж недаравальная вульгарызацыя, як і ў Барысенкавых артыкулах супроць Гарэцкага і Бранштэйна. Толькі Семяновіч у адрозненне ад Барысенкі сваіх грахоў не прызнаў і публічна ў іх не пакаяўся.

Зрэшты, мы ўсе так ці іначай паўтаралі многія казённыя догмы, аддаючы сваю даніну несвабодзе ў таталітарным грамадстве, бо мусілі пісаць у каардынатах афіцыйнай ідэалогіі. Усведамляць гэта непрыемна, але трэба, калі сумленне для нас нешта значыць.

Для справядлівай ацэнкі зробленага Барысенкам неабходны як гаворка пра яго вульгарызатарскія артыкулы сталінскіх часоў, так і разважлівы аналіз яго ў цэлым плённай працы ў беларускім літаратуразнаўстве пазнейшага перыяду. А набытак у Барысенкі тут немалы. Ён грунтоўна даследаваў літаратуру XIX стагоддзя, перш за ўсё спадчыну Францішка Багушэвіча і яго ролю ў развіцці крытычнага рэалізму на беларускай нацыянальнай глебе, пісаў пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа, Змітрака Бядулі і Міхася Лынькова, Кандрата Крапівы і Паўлюка Труса, вывучаў сувязі нашых пісьменнікаў з рускай і ўкраінскай літаратурамі.

Ажно 19 выданняў вытрымаў падручнік для 8-га класа «Беларуская літаратура», напісаны В. Барысенкам у суаўтарстве з В. Івашыным. Варта згадаць таксама складальніцкую працу В. Барысенкі, вынікам якой сталі хрэстаматыі па беларускай літаратуры для школ і педвучылішчаў, а таксама такія навуковыя выданні-зборнікі, як «Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя» (1956), «Беларуская дакастрычніцкая проза» (1965), «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1967).

На пасадзе дырэктара Інстытута літаратуры ён аддаваў шмат увагі падрыхтаваным у гэтым інстытуце працам: «Очерк истории белорусской советской литературы» (М., 1954), «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры» (1956), двухтомная «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» (1964—1966) і «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (1968—1969), «История белорусской дооктябрьской литературы» (Мінск, 1977).

Як аўтар, ён не так багата напісаў для згаданых аб'ёмных выданняў, але затое быў іх непасрэдным практычным арганізатарам і адным з навуковых рэдактараў. А гэта таксама вельмі нялёгкая справа, у некаторых адносінах нават больш складаная, чым індывідуальная ўласна даследчыцкая праца. Усяго ж праз рукі В. Барысенкі як навуковага рэдактара прайшла цэлая бібліятэка самых розных выданняў — ад збораў твораў нашых класікаў да першых прац маладых вучоных. І рэдактар ён быў талковы, разумны і непалахлівы. Прыгадваецца, як у маёй кнізе «Паэзія Максіма Танка», якая ў 1964 годзе вый-

шла ў «Навуцы і тэхніцы», кіраўнікі выдавецтва са спазненнем убачылі «крамолу» і прапанавалі выдзіраць некаторыя лісты ўжо гатовага тыражу. Барысенка (ён быў навуковым рэдактарам кнігі) яшчэ раз уважліва перачытаў «падазроныя» мясціны і запэўніў палахліўцаў, што нічога страшнага тут няма. Пасля выхаду ў свет кніга рэцэнзавалася ў шэрагу выданняў. І ні адзін рэцэнзент не зачапіўся за тое, з-за чаго ўзняўся пярэпалах у выдавецтве.

Словам, мне было за што паважаць Барысенку, хоць і пра яго колішнія грахі я ведаў. Але самым важным мне ўяўляецца тое, што там, дзе можна было быць чалавекам, ён ім быў. Пра гэта ў свой час пісалі А. Адамовіч, У. Калеснік, В. Каваленка і іншыя нашы літаратары з гучнымі імёнамі. Яны таксама былі ўдзячныя Васілю Барысенку за яго добрыя справы.

*2003 г.*





# ЯШЧЭ РАЗ ПРА СЦЯПАНА АЛЕКСАНДРОВІЧА

Сцяпан Хусейнавіч Александровіч пражыў вельмі нялёгкае, але надзвычай змястоўнае жыццё (1921—1986). Сорак гадоў працаваў ён на ніве беларускай культуры і атрымаў шырокае, трывалае прызнанне як адзін з найбольш працавітых яе рупліўцаў. Гэтае прызнанне прыйшло да яго яшчэ пры жыцці. Не змяншаецца ягоная папулярнасць і пасмяротна, бо трымаецца на трывалым падмурку сапраўдных дасягненняў навукоўца шырокага профілю, добразычлівага педагога, а лепш сказаць, прыроджанага настаўніка, таленавітага літаратара, які цаніў слова няхай знешне і някідкае, але дакладнае, жывое і трапнае, калі яно пастаўлена там, дзе трэба.

Цяперашнія нашы навуковыя чытанні, прысвечаныя 85-годдзю з дня нараджэння Сцяпана Александровіча, — гэта ўжо чацвёртае ягонае юбілейнае ўшанаванне, у якім мне давялося ўдзельнічаць. Кажу так, бо я выступаў з дакладамі пра Александровіча ў 1996 і 2001 гадах (75 і 80-годдзі з дня нараджэння Сцяпана Хусейнавіча), а яшчэ ў 1971 г., з выпадку першай круглай даты даследчыка, апублікаваў артыкул пра яго. Тады газета «Літаратура і Мастацтва» ў нумары за 17 снежня змясціла цёплае прывітанне юбіляру ад Саюза пісьменнікаў (С. Александровіч быў яго сябрам з 1955 г.) і мой артыкул «Працавітасць, памножаная на талент». Загаловак, здаецца, невыпадковы, бо Сцяпан Хусейнавіч на працягу ўсяго свайго жыцця ў літаратуры і навуцы працаваў на поўную моц падараванага яму лёсам таленту, з рэдкай цягавітасцю і ўпартасцю, якая пры яго вельмі слабым здароўі, катастрафічна падарваным у гітлераўскім палоне, проста здзіўляла. І якраз у 1971 г. ён паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю «Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя». Яна апублікавана асобнай кнігай пад назвай «Пуцявіны роднага слова». Гэта адна з самых важкіх і змястоўных у нашым літаратуразнаўстве даследчых кніг.

Я прымаў удзел у абмеркаванні Сцяпанавай дысертацыі і горача падтрымаў яе, бо выразна бачыў навізну і выключную грунтоўнасць працы. Заўважыць і тое, і другое было зусім не цяжка, бо Сцяпан Хусейнавіч вельмі доказна, на велізарным фактычным матэрыяле, які ў большасці выпадкаў упершыню ўводзіўся ў навуковы ўжытак, паказаў, як збеднена ўяўлялі мы сваю літаратуру ў адзін з самых адказных перыядаў яе развіцця. У навуковай грамадскасці дысертацыя Сцяпана Александровіча і асабліва яго кніга « Пуцявіны роднага слова» выклікалі самае прыязнае стаўленне. Але начальства, вядома, не кафедральнае ці факультэцкае, а больш высокае, тое, што ажыццяўляла над намі пільны ідэалагічны нагляд, глядзела на Сцяпана Хусейнавіча з пэўнай асцярогай — з-за таго злашчаснага палону і настойлівага імкнення даследчыка па-новаму асэнсоўваць беларускую гісторыю, заглыбляцца ў нацыянальныя праблемы.

У такой сітуацыі сяброўская падтрымка тых, хто паважаў нашу гісторыю, з трывогай думаў пра лёс беларускай культуры і самой нашай мовы, была зусім не лішняй. Таму Сцяпан Хусейнавіч з удзячнасцю ўспрымаў шчырае, прыхільнае слова пра яго. Мне ён падарыў «Пуцявіны роднага слова» з вельмі прыязным подпісам. Усяго ж у сваёй дамашняй бібліятэцы я налічыў 8 Александровічавых кніг з дарункавымі аўтографамі.

Але вярнуся да юбілейных ушанаванняў Александровіча. У 1998 г. выйшла цэлая кніга (памер — 152 старонкі, тыраж выдання не пазначаны), у якой сабраны матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 75-годдзю з дня нараджэння Сцяпана Александровіча. Яна праходзіла ўжо без яго самога, бо ён адышоў у лепшы свет на дзесяць гадоў раней. Гэтая канферэнцыя адбывалася на нашым філфаку з удзелам пісьменнікаў Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Міколы Аўрамчыка, навукоўцаў не толькі з БДУ, але і з НАН (А. Ліс, Г. Кісялёў, Л. Лыч, гісторык па спецыяльнасці, і інш.), а таксама з Расійскай АН. Яе прадстаўляў А. К. Каўка з Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага. Былі, як сведчыць згаданае выданне, і навукоўцы негуманітарнага профілю. Адзін з іх — Х. М. Александровіч, доктар хімічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі НАН. Ён назваў сябе родзічам і земляком Сцяпана Хусейнавіча. Дык вось гэты Сцяпанаў родзіч і зямляк прыгадвае: «У перыяд нашага знаёмства Сцяпан Хусейнавіч настаўнічаў у Навагрудку». Ён быў «выхаваны ў ідэалогіі таталітарнай савецкай дзяржавы», пабыў «у час Айчыннай вайны ў нямецкім палоне». І гэта, працягвае родзіч, накладвала на яго свой адбітак: «Ён у той час ... выклікаў уражанне чалавека вельмі падаўленага жыццём... быў мала разгаворлівым і замкнёным, пазбягаў размоў пра вайну, пра палон, пра палітыку, пра мінулае і будучыню. Кантрастам гэтаму былі сустрэчы з ім

у больш познія гады ў Мінску, асабліва пасля першай адлігі ў 1953 г. Відаць было, як Сцяпан Хусейнавіч літаральна перайначваўся ў жыцці, у яго пачала паяўляцца ўпэўненасць у сабе, ён станавіўся больш камунікабельным у зносінах і адкрытым. Дзякуючы высокаму ўнутранаму інтэлекту ён з глыбокай цікавасцю і разуменнем ставіўся да людзей і іх жыццёвых праблем. Таму ў памяці ён захаваўся вельмі добрым, адзыўлівым, высакародным, бескарыслівым і добразычлівым Чалавекам з вялікай літары».

Сказана зусім слушна, прынамсі пра большую натуральнасць у штодзённых стасунках Сцяпана Хусейнавіча тады, калі пачалася хоць нейкая лібералізацыя ў краіне, і, вядома, пра яго чалавечае высакародства.

Я добра пазнаёміўся са Сцяпанам Хусейнавічам у час сумеснай працы ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі. Сцяпан Хусейнавіч там працаваў старшым навуковым супрацоўнікам у 1958—1963 гадах. А потым перайшоў у БДУ, на філфак. Чытаў ён даволі груваскі курс літаратуры народаў СССР. Я ж трапіў у акадэмічны Інстытут літаратуры ў 1959 г. Як і Сцяпан Хусейнавіч, працаваў там чатыры гады. Праца ў Інстытуце літаратуры пад крылом майго навуковага кіраўніка В. В. Барысенкі мне вельмі падабалася. Падабаўся і інстытуцкі калектыў. Асабліва Алесь Адамовіч. Ён з цягам часу пачаў ставіцца да мяне з сяброўскай прыязнасцю. Гэта радавала вельмі моцна, бо я бачыў featured рознабаковую таленавітасць Адамовіча, разумеў, што ён самы выдатны беларускі крытык. Шмат чаго абуджала ў душы ягоная глыбока праўдзівая, баявіта-задзірыстая мастацкая проза, па шэрагу параметраў роднасная быкаўскай прозе. Як і Быкаў, вызначаўся Адамовіч сваёй выключнай сумленнасцю, грамадзянскай мужнасцю і прынцыповасцю ва ўсім.

Сцяпан Александровіч таксама адыграў немалую ролю ў маім лёсе. Гэта ён сагітаваў мяне перайсці на выкладчыцкую працу ў БДУ, на кафедру беларускай літаратуры. Тады яе ўзначальваў Міхась Ларчанка, памяркоўнасць і добразычлівасць якога вядомыя, як і гатоўнасць бараніць беларушчыну тады, калі іншыя мэтры сціпленька маўчалі.

Праца ў БДУ вабіла і жывымі кантактамі са студэнцкай моладдзю, якая сваёй няўрымслівасцю і энтузіязмам, здаецца, падсілкоўвае і выкладчыкаў, калі ў іх яшчэ захоўваецца жывая душа. Згадаю і тое, што, перайшоўшы ў БДУ, я захоўваў трывалыя кантакты з Інстытутам літаратуры. Так што парада Александровіча падацца ўслед за ім на філфак БДУ аказалася слушнай. Тут я працую з 1964 года і на сваю выкладчыцкую долю скардзіцца не маю падстаў. Пашанцавала мне і ў тым сэнсе, што давялося чытаць беларускую літаратуру.

У 1972 г. быў уведзены курс гісторыі літаратурнай крытыкі. Чытаць яго выпала разам са Сцяпанам Александровічам. Ён узяў сабе крытыку дарэва-

люцыйную, а мне застаўся савецкі перыяд. Гэта мяне цалкам задавальняла, бо ў тыя гады прымаў актыўны ўдзел у літаратурным жыцці, добра ведаў самых славутых нашых пісьменнікаў і карыстаўся іх падтрымкай.

Навуковыя працы Сцяпана Александровіча заўсёды прываблівалі сваёй багатай канкрэтыкай, шчодрым выкарыстаннем архіўных матэрыялаў і малавядомых фактаў, якія даследчык здабываў у выніку карпатлівых пошукаў. Каб напісаць чарговую кнігу ці толькі артыкул даследчага характару, ён нярэдка гадамі збіраў неабходныя звесткі, перачытваў горы старых выданняў у розных бібліятэках і музейных сховішчах былой савецкай краіны і за яе межамі, падымаў не толькі колішнюю беларускую, але і рускую, украінскую, польскую перыёдыку, працаваў у архівах Мінска, Масквы, Ленінграда і Вільнюса, Кракава і Прагі.

І ён умеў займальна пісаць як пра свае пошукі, так і пра лёс пісьменнікаў, што станавіліся аб'ектам даследавання.

Рыхтуючы гэтае выступленне, я стаў перагортваць некаторыя Александровічавы кнігі. Перачытваць іх усе не было патрэбы, бо і так ведаў яшчэ з тых часоў, калі выкладаў літаратурную крытыку студэнтам. Цяпер узяў «Крыжавыя дарогі» (1985). Як вядома, гэта заключная аповесць пра Якуба Коласа. Ранейшыя выходзілі пад назвамі «Ад роднае зямлі» (1962) і «На шырокі прастор» (1972). У «Крыжавых дарогах» па-мастацку паказаны жыццё і праца народнага пісьменніка на Куршчыне і ў наступныя гады, да самых апошніх коласаўскіх дзён уключна. Напісана так, што ад кнігі нельга адарвацца. Асабліва пранікнёна гаворыцца пра цяжкія выпрабаванні, што выпадалі і на долю Коласа.

У іншых выпадках, калі пра ўсе акалічнасці трагічнага характару, з якімі сутыкаліся беларускія пісьменнікі, з-за ўмоў часу сказаць нельга было, Александровіч, здаецца, фізічна пакутаваў. Вось у кнізе «Тут зямля такая» (1974) ён падышоў да арышту Кузьмы Чорнага восенню 1938 г. Але пра той арышт і турэмнае зняволенне, якое жахлівым цяжарам абрынулася на пісьменніка, з-за цэнзурнай забароны нельга было сказаць ні ў 1964 г., калі пісаўся артыкул, ні праз дзесяцігоддзе, калі праца перадрукоўвалася ў кнізе. Даследчык мусіў у абодвух выпадках абмяжоўвацца такой фразай: «Захварэла жонка, і Кузьма Чорны позна ўвечары 13 кастрычніка 1938 года пайшоў у аптэку па лекі, а дамоў вярнуўся толькі 8 чэрвеня 1939 года». Але зміруцца з такім глуха-няўцямным дакрананнем да вялікай бяды С. Александровіч не мог. І як цэнзурныя ўмовы змяніліся, ён даў волю сваім пачуццям, растлумачыўшы, што 13 кастрычніка 1938 г. Чорны не вярнуўся з аптэкі дамоў, бо «яго арыштавалі ля пад'езда дома. Жонка не ведала, што з ім здарылася, але неўзабаве ноччу прыйшлі рабіць вобыск, перавярнулі кнігі, рыліся ў рукапісах і забралі іх з сабою.

У турме пісьменнік перажыў страшэнныя маральныя і фізічныя пакуты. З дня ў дзень цягнуліся здзеклівыя допыты і цяжкія катаванні. Абвінавачанне было недарэчнае і дзікае: хацеў забіць … Варашылава. Для гэтага нібыта ездзіў у пагранічныя Цімкавічы, каб атрымаць адпаведныя інструкцыі ад чалавека, які назваўся старшынёю калгаса». Далей даследчык цяпер яшчэ дадаваў, што вялікі здзек уладаў з невінаватага Кузьмы Чорнага падкасіў і ягонага бацьку. Ён «уныў душою, вялікае ўтрапенне ахапіла яго сэрца. Стары праседзеў у роздуме каля акна, потым неяк як сам не свой звязаў венік, лёг спаць і больш не прачнуўся».

Прачытаеш такое і будзеш памятаць калі не заўсёды, дык вельмі доўга.

З цікавасцю чытаецца і аповесць С. Александровіча «Далёкія зарніцы» (1967). Галоўны герой гэтай аповесці — беларускі юнак з татарскімі генетычнымі каранямі Адам Асановіч. Ён уцякае з нямецкага палону, у які трапіў параненым у цяжкіх баях каля Керчанскага праліва вясною 1942. Гэта выразна пераклікаецца з ваеннай біяграфіяй Сцяпана Хусейнавіча. І па складзе свайго характару Асановіч вельмі блізкі да аўтара. Словам, пісьменнік у «Далёкіх зарніцах» узнавіў многае з пражытага ім самім у час Айчыннай вайны. Але ён не ставіў перад сабой задачу напісаць твор цалкам аўтабіяграфічны. І таму нярэдка адыходзіў ад фактаў сваёй ваеннай адысеі. Адзін паказальны прыклад. У аўтабіяграфіі «Радзіма мая — Капыль» так згадваюцца Александровічавы ўцёкі з палону і потым далучэнне да падпольшчыцкай і партызанскай барацьбы: «Разам з сябрамі-ўкраінцамі ўцёк з лагера і пасля амаль двухмесячнага блукання, прайшоўшы Украіну і Палессе, у вёсцы Сярэдзінкі пад Слуцкам зваліўся з ног. Адзін дзядзька злітаваўся і прывёз мяне тайком ледзь жывога ў Капыль, у бацькаву хату. Было гэта ў кастрычніку 1942 года.

Пацягнуліся пакутлівыя дні хатняга арышту. З хаты не пускала хвароба (з лагера прынёс працэс у лёгкіх), баяўся я і чужога вока. На легальнае становішча перайшоў канчаткова вясною 1943 г. Маладосць і дамашні харч збольшага прытушылі хваробу. К гэтаму часу ў мяне ўжо наладзіліся сувязі з партызанамі, якім бацька вырабляў аўчыны і круціў сырамяць на збрую». Далей яшчэ зазначаецца, што хлопец «стаў членам капыльскай падпольнай групы, выканаў два баявыя заданні. Савецкую Армію сустракаў у партызанскім атрадзе».

Асановіч з «Далёкіх зарніц» далучаецца да партызан больш хутка і проста. Да спагадлівай гаспадыні лесніčоўкі, дзе знайшлі часовы прытулак Асановіч з сябрамі яшчэ ў час уцёкаў з палону, заходзяць партызаны. «Мы кідаемся да іх, абдымаемся і плачам ад радасці». Гэта апошняя фраза аповесці. Такі фінал сведчыць, што Сцяпан Александровіч і там, дзе ён

абапіраўся на ўласна перажытае, літаральна не капіраваў рэальныя факты, а кіраваўся логікай мастацкага твора, якая і дыктавала тыя ці іншыя сюжэтныя павароты. Гэта азначае, што ў яго было мастакоўскае пачуццё, якое вяло аўтара не толькі ў «Далёкіх зарніцах» ці ў аповесцях пра Якуба Коласа, але і ў кнігах «Незабыўнымі сцежкамі» (1962), «Па слядах паэтычнай легенды» (1965), «Тут зямля такая» (1974) і інш.

Заканчваючы размову пра Сцяпана Хусейнавіча, хочацца яшчэ раз падкрэсліць, што ён быў сапраўдным беларусам, хоць меў генетычна не беларускія, а татарскія карані. Але беларушчынай ён пранікся з дзяцінства і самаадданa служыў ёй да канца сваіх дзён.

*2006 г.*





# ЖЫЦЦЁ, АБАРВАНАЕ НА ЎЗЛЁЦЕ
## (пра Сяргея Гусака)

Сяргей Адамавіч Гусак пражыў няпоўныя сорак гадоў (02.IV.1930–20.XII.1969). У магілу звяла яго страшная хвароба веку – рак. Яна напаткала Сяргея Адамавіча тады, калі ён ужо атрымаў прызнанне як удумлівы даследчык літаратуры і таленавіты педагог, які добра ведаў школьную і вэнэунаўскую спецыфіку.

Ён нарадзіўся ў вёсцы Іванькаўшчына Мазырскага раёна ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Мазыры. У 1950–1955 гадах вучыўся на філфаку ў БДУ. Яшчэ ў час навучання ва ўніверсітэце працаваў карэктарам, потым стыльрэдактарам рэспубліканскай газеты «Калгасная праўда». Пасля сканчэння філалагічнага факультэта выкладаў беларускую і рускую мовы і літаратуру ў Жалудокскай сярэдняй школе на Гродзеншчыне, затым, ужо на Брэстчыне, быў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў вёсцы Воўчын былога Высокаўскага раёна, завучам сярэдняй школы ў Малых Зводах, загадчыкам раённага аддзела народнай асветы ў г. п. Высокае, займаўся ў завочнай і стацыянарнай аспірантуры Белдзяржуніверсітэта. Закончыўшы аспірантуру, працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, начальнікам вучэбна-метадычнага аддзела таго ж міністэрства.

У 1965 годзе, паспяхова абараніўшы кандыдацкую дысертацыю па творчасці Аляксея Кулакоўскага, Сяргей Гусак перайшоў на выкладчыцкую работу ў БДУ. Тут ён быў старшым выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры, потым в. а. дацэнта. Роўна год (IX. 1967 – IX. 1968) працаваў намеснікам дэкана філфака. На гэтую пасаду яго ўладкаваў Аляксей Арсеньевіч Воўк, які ў 1967 годзе стаў філфакаўскім дэканам. У яго было даўняе і трывалае сяброўства з Гусаком. Воўк, які меў арганізатарскі талент і вызначаўся сваёй чалавечай неардынарнасцю, на пасадзе дэкана заставаўся да канца свайго жыцця. Але ён не праяўляў схільнасці вельмі ўжо запабягаць перад вышэйшым начальствам, якое не раз ушчувала яго за розныя дробныя

прамашкі, якія непазбежна здараюцца ў практычнай рабоце. Бывала, што прапясочвалі Аляксея Арсеньевіча моцна, шмат разоў збіраліся пазбавіць дэканскай пасады. У такія часы Воўк казаў мне, што ён асабліва не бядуе, бо ў крайнім выпадку пойдзе да Гусака намеснікам. Было гэта ўжо тады, калі Гусак стаў рэктарам Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна. У Брэст на рэктарскую пасаду Сяргей Гусак пайшоў з БДУ ў кастрычніку 1968 года і працаваў там да канца сваіх дзён, здабыўшы шчырую прыхільнасць многіх людзей.

Я крыху ведаў Гусака яшчэ да таго, як ён прыйшоў на нашу кафедру. Адносіны былі памяркоўна-прыязныя. Я трымаўся незалежна не толькі з Гусаком, бо ўжо быў, як цяпер кажуць, сябрам Саюза пісьменнікаў (з 1961 года) і паўнапраўным дацэнтам, меў дыплом старшага навуковага супрацоўніка, які зарабіў у АН БССР, тры аўтарскія кнігі і цэлы шэраг артыкулаў у самых розных выданнях, некалькі раздзелаў у акадэмічнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры». Але ўсё гэта аказалася малаістотным, калі Гусак стаў намеснікам дэкана.

Тады пасылалі выкладчыкаў, звычайна самых маладых, да якіх я не належаў, «на бульбу» — быць ці то наглядчыкамі, ці то прыганятымі-цівунамі, як смяяліся жартаўнікі, у дачыненні да студэнтаў, якія капалі калгасную бульбу з поўнай выкладкай сіл. Выкладчыкі не капалі: ад іх такое не патрабавалася, а выступалі хутчэй у ролі, я сказаў бы, нейкіх «прыдуркаў», якіх трэба было яшчэ і карміць за кошт студэнцкіх заробкаў (калгас плаціў студэнтам нейкія, увогуле зусім невялікія, грошы). Так што выкладчыкі блыталіся пад нагамі ў тых, хто працаваў, бясплатна. Словам, заўсёды дарагі час траціўся ўпустую.

Дык вось памяркоўны Гусак, стаўшы начальнікам, загадаў ехаць у калгас мне. Я адмовіўся, бо ў дадатак да ўсяго яшчэ хадзіў на лячэнне (у мяне было абвастрэнне хранічнага запалення сярэдняга вуха, захворванне сур'ёзнае, годам раней я з ім ляжаў і ў бальніцы). «Нясіце даведку пра хваробу», — паначальніцку афіцыйна загадаў наваспечаны намеснік дэкана.

Вядома, даведку я прынёс. І Гусак ад мяне адступіўся. А як выйшла ягоная кніжка «Аляксей Кулакоўскі. Крытыка-біяграфічны нарыс» (Мінск, 1967), дык і запрасіў мяне ў рэстаран на абед і там падпісаў тую кніжку так: «Дарагому Дзмітрыю Якаўлевічу з пачуццём глыбокай павагі. 25. XI. 67. С. Гусак». Гэта адзіная Гусакова кніжка, якая пабачыла свет пры ягоным жыцці. Другая кніжка (невялікі зборнік артыкулаў «Пафас праўды». Мінск, 1973) выдадзена пасля смерці крытыка.

У Саюз пісьменнікаў мы прымалі яго ў 1969 годзе, тады, калі ён ужо быў безнадзейна хворы. Рабілася гэта больш дзеля таго, каб сям'я крытыка магла разлічваць на нейкую дапамогу ад пісьменніцкай арганізацыі, якая тады валодала немалымі сродкамі. Кажу тут «мы прымалі», бо я ў той час быў старшынёю секцыі крытыкі і разам з Іванам Мележам, які ўзначальваў прыёмную камісію, удзельнічаў у афармленні неабходных папер. Ад імя секцыі

(відаць, мною, бо тэкст захаваўся ў мяне) была зроблена наступная рэкамендацыя: «С. А. Гусак пачаў друкавацца не так даўно. Стаж яго работы ў якасці крытыка і літаратуразнаўцы не налічвае і дзесяці гадоў. Колькасна С. Гусаком апублікавана пакуль што таксама не вельмі многа. Яму належыць крытыка-біяграфічны нарыс «Аляксей Кулакоўскі» (1967) і шэраг артыкулаў пераважна ў часопісах «Полымя», «Маладосць» і ў газеце «ЛіМ». Тым не менш С. Гусак звярнуў на сябе ўвагу нашай літаратурнай грамадскасці. Яго працы звычайна прываблiваюць сваёй прынцыповасцю, пафасам праўды, высокай патрабавальнасцю да літаратурных з'яў сучаснасці (С. Гусак піша галоўным чынам пра сучасную беларускую прозу), уменнем аўтара кваліфікавана і тонка аналізаваць мастацкія творы.

Шчырая любасць да літаратуры, добрае моўнае чуццё, развіты эстэтычны густ, грунтоўная тэарэтычная падрыхтоўка (Гусак з'яўляецца кандыдатам філалагічных навук) — усё гэта ёсць у Гусака, усё гэта дазваляе і ў будучым чакаць ад яго плённай працы ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства».

Аптымістычнае заключэнне не апраўдалася, бо Гусак, паўтару, ужо фактычна паміраў. Мы, канечне ж, ведалі пра гэта. Але хацелася спадзявацца на нейкі цуд. Ды статус рэкамендацыі і вымагаў бадзёрай канцоўкі.

Вельмі высокую ацэнку крытыку даў тады Іван Мележ. На пасяджэнні прыёмнай камісіі ён сказаў: «Сяргей Гусак адносіцца да ліку самых сур'ёзных, удумлівых нашых крытыкаў. Яго працы, у прыватнасці яго манаграфія, прысвечаная творчасці А. Кулакоўскага, сведчаць пра самастойнасць даследчага падыходу, пра здольнасць крытыка глыбока аналізаваць літаратурныя з'явы, правяраць іх важкасць жыццём, рэальнымі жыццёвымі праблемамі».

Прыгадаю таксама выказванне Р. Шкрабы: «Гусак рос творча з кожнай сваёй новай працай».

Цяпер я перачытаў абедзве Гусаковы кнігі. У іх, асабліва ў зборніку артыкулаў, моцна адчуваецца тагачасная ідэалагічная зададзенасць (ёй тады аддавалі непазбежную даніну мы ўсе). А Гусак жа быў дысцыплінаваным членам бальшавіцкай партыі, яе патрабаванні ведаў добра і, прынамсі адкрыта, не парушаў іх. Але ў сваіх артыкулах ён звычайна вылучаў лепшыя творы той пары. Ён з прыхільнасцю пісаў пра Я. Коласа і К. Чорнага, М. Зарэцкага і К. Крапіву, І. Мележа і Я. Брыля, І. Шамякіна і М. Лобана, І. Навуменку і Б. Сачанку. Ды і ў гэтых пісьменнікаў хваліў тое, што пахвалы заслугоўвала. У таго ж Шамякіна ён асабліва цаніў раман «Сэрца на далоні». Там жа, дзе вялася канкрэтная размова пра эстэтычную адметнасць майстроў слова, своеасаблівасць іх стылю, меркаванні Гусака і сёння застаюцца безумоўна цікавымі і не патрабуюць значнай карэкцiроўкі.

Асабліва шмат такіх нагляданняў у кнізе пра Аляксея Кулакоўскага, якая належыць да лепшых, найбольш грунтоўных крытыка-біяграфічных нарысаў, выдадзеных у тыя гады.

Зразумела, Гусак мусіў пісаць як пра няўдачу пра самую вострую і шчыра праўдзівую аповесць Кулакоўскага «Дабрасельцы», бо яна тады афіцыйна лічылася ідэйна заганнай якраз за тое, што пісьменнік там сказаў нямала горкай праўды пра савецкія парадкі. Але затое крытык шмат добрага знайшоў у некаторых апавяданнях пісьменніка, сапраўды лепшых, у аповесцях «Да ўсходу сонца» і «Нявестка», у дылогіі «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях».

Вызначаючы мастакоўскую своеасаблівасць празаіка, Гусак слушна пісаў: «З першых крокаў сваёй літаратурнай дзейнасці Кулакоўскі заявіў сябе бытапісцам. Арыентацыя Кулакоўскага на быт чалавека была адной з прычын, якая аслабляла навуковую цікавасць да яго творчасці. Звязаная з бытам літаратура ва ўмовах, калі заахвочвалася ўяўная манументальнасць мастацтва слова, калі лічылася няёмкім гаварыць аб надзённых патрэбах чалавека, разглядалася як літаратура другога эшалона, ніжэйшага гатунку. Насцярожанасць да мастацкага асэнсавання штодзёншчыны, быту адчуваецца ў нашай літаратуры і крытыцы і зараз; будзёншчыны, па словах Янкі Брыля, "усё яшчэ баяцца і тыя, што пішуць, і тыя, што вучаць пісаць"».

У бытапісцу часам схільны бачыць пісьменніка, які толькі і здольны, што паслядоўна, крок за крокам, з этнаграфічнай дакладнасцю апісваць прадметы хатняга ўжытку, сямейнае жыццё, норавы і звычкі людзей і іх нейкай застыласці, ізаляванасці ад жыццёвых бур. Бытавая плынь твора пры гэтым разглядаецца як перашкода стварэнню значных чалавечых характараў».

Крытык паслядоўна абвяргае такі падыход, даводзячы канкрэтным аналізам твораў Аляксея Кулакоўскага, што «праз быт пісьменнік ідзе ў свет вялікага жыцця, дзе сутыкаюцца маральна-этычныя, грамадска-палітычныя і філасофскія праблемы». Гэта асноўная ідэя даследавання, рэалізаваная ў кнізе пра Кулакоўскага ў цэлым паспяхова.

І невыпадкова, што кнігу Гусака Аляксей Кулакоўскі цаніў высока. Мне даводзілася чуць ад яго словы шкадавання, што быў добры крытык, які зацікаўлена і з разуменнем даследаваў яго творчасць, ды рана памёр...

Пра тое, якую страту панесла беларускае літаратуразнаўства з-за дачаснай смерці Гусака, спрабаваў сказаць і я ў некралогу, які за сваім подпісам надрукаваў у «Весніку БДУ» (1970, № 2). А ў самім факце, што наш «Веснік» даў гэты некралог, адгукаючыся жалобным словам на смерць рэктара Брэсцкага пединстытута, таксама было сведчанне павагі да памяці Сяргея Гусака, да таго, што звязвала яго ў свой час з нашым універсітэтам, філфакам і кафедрай беларускай літаратуры.

*2001 г.*





# ГОЛАС ЧАЛАВЕЧНАСЦІ БЫЎ ДЛЯ ЯГО ЗВЫКЛЫ
## (штрыхі згадак пра Віктара Антонавіча Каваленку)

Адна з ранніх кніг Віктара Каваленкі мае назву «Голас чалавечнасці» (1970). Загаловак па-свойму сімвалічны і разам з тым дакладны ў прамым, літаральным сэнсе — у гэтай невялікай, але змястоўнай манаграфіі прасочваюцца гуманістычныя матывы ў беларускай літаратуры. Напісана праца з тагачасных афіцыйных ідэалагічных пазіцый. Аднак цэлы шэраг канцэптуальных тэзісаў з той кнігі захоўвае сваю актуальнасць і цяпер. Прыгадаю хоць бы наступныя выказванні аўтара: «Сапраўднае мастацтва і літаратура — гуманістычныя па сваёй сутнасці, па сваіх задачах і мэтах. Адступленне ад гуманізму ніколі не застаецца непакараным, яно абавязкова выклікае скажэнне саміх эстэтычных асноў і прынцыпаў». Гуманістычная па духу літаратура — «залаты фонд чалавечай культуры». «Колас у паэме "Новая зямля" паказаў, што багацце, зямля, задавальненне хоць бы самых звычайных, натуральных патрэб народа — гэта першая і самая важная аснова яго духоўнага прабуджэння і развіцця яго чалавечнасці. Народ, які асуджан на вечную галечу, асуджан і на духоўны заняпад. Калі клопат пра кавалак хлеба забірае ўсю энергію чалавека, то адкуль могуць узяцца ў яго сілы для духоўнай творчасці, для інтэлектуальных пошукаў? Таму ідэя зямлі ў паэме Коласа была гуманістычнай». З такімі разважаннямі можна выходзіць на людзі і сёння.

Пазней, у палемічным запале, В. Каваленка будзе не раз адмаўляць відавочную залежнасць магчымасці духоўнага і інтэлектуальнага развіцця чалавека ад яго нармальнай матэрыяльнай забяспечанасці.

Сам зварот Віктара Каваленкі да вывучэння гуманістынага зместу літаратуры таксама вельмі характэрны менавіта для гэтага даследчыка, бо ён звычайна кіраваўся гуманістычнымі прынцыпамі і ва ўласным жыцці. Голас чалавечнасці быў для яго вызначальны, арганічны і звыклы. Збоі ў гэткай

накіраванасці калі і здараліся (хто з нас зусім бязгрэшны?), дык былі рэдкімі выключэннямі. Сваёй чалавечнасцю В. Каваленка прываблівaў многіх людзей, а ягоны неаспрэчны талент літаратуразнаўцы і крытыка, які настойліва змагаўся за сумленную, праўдзівую літаратуру, забяспечваў яму павагу з боку лепшых беларускіх пісьменнікаў.

Пра свае даследчыцкія магчымасці ён заявіў яшчэ ў студэнцкія гады, надрукаваўшы ў «Полымі» (1952, № 11) артыкул пра Якуба Коласа-крытыка. Выпадак у нашым тагачасным жыцці нячасты. Таму ён меў пэўны розгалас. Я тады таксама ўпершыню пачуў пра Каваленку, хоць некаторы час вучыўся з ім у Мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага. Там Каваленка быў студэнтам (1940—1953), а я аспірантам (1952—1955). Студэнты з аспірантамі кантактавалі мала. І я калі што ведаў пра тагачаснага Каваленку, дык ад ягонага сябра Міколы Васілеўскага, тады таксама педінстытуцкага студэнта, які з цягам часу стаў вядомым мовазнаўцам, доктарам філалогіі.

З Васілеўскім мы зблізіліся ў дыялекталагічнай экспедыцыі на Палессі і потым сталі блізкімі сябрамі. Сяброўства з Каваленкам узнікла крыху пазней, ужо ў тыя часы, калі ён апынуўся ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы. З той пары мы ўтрох склалі трывалае сяброўскае кола, часта сустракаліся з рознай нагоды. Разам адзначалі дні нараджэння кожнага, ездзілі да Каваленкі ў яго Сакаўшчыну (Валожынскі раён), там лавілі рыбу ў блізкім вадасховішчы на Беразіне (прытоку Нёмана), карысталіся шчодрай гасціннасцю Віктаравых бацькоў, людзей з добрай беларускай душой, якія вылучаліся сваёй далікатнасцю і сардэчнасцю.

Вялікі навуковы патэнцыял Віктара Каваленкі для мяне станавіўся ўсё больш відавочным у тыя часы, калі і я ўладкаваўся на працу ў Інстытуце літаратуры. Нас збліжала захапленне Алесем Адамовічам, прыхільнасць да В. В. Барысенкі, тагачаснага дырэктара гэтага інстытута, павага да Р. Бярозкіна, які выдатна пісаў пра беларускую паэзію, разуменне таго, што лепшыя нацыянальныя традыцыі ў новых умовах развіваюць І. Мележ, Я. Брыль, В. Быкаў, М. Танк, А. Куляшоў, П. Панчанка, А. Макаёнак, а не пасрэдныя, ды затое ваяўнічыя літаратары, якія ўпарта трымаліся за старое, выдаючы прыгладжана-лакіровачны падыход да паказу жыцця за сапраўдны прагрэс у літаратуры.

У адзін год мы выдалі свае першыя кнігі (Каваленка пра З. Бядулю, я пра М. Лынькова). Абедзве яны некалькі гадоў не пускаліся ў друк у выдавецтве АН БССР, куды былі здадзены першапачаткова, а выйшлі па рэдакцыі мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. Уладкаваў іх туды Алесь Адамовіч, які заўсёды спрыяў нам абодвум.

Тады нас звычайна ставілі побач у гаворцы пра літаратурную крытыку. У мяне захаваўся экзэмпляр маскоўскага часопіса «Вопросы литературы»

(1962, № 9). Гэты нумар, як пазначана на яго вокладцы, «прысвечаны маладым сілам савецкай літаратуры». Ёсць у ім і раздзел «Маладыя крытыкі і літаратуразнаўцы за працай». З беларусаў тут прадстаўлена магчымасць сказаць пра сябе толькі В. Каваленку і мне.

Нас энергічна падтрымлівала член рэдкалегіі гэтага часопіса А. М. Дзмітрыева, якая «курыравала» нацыянальныя літаратуры. Яе прываблівала тое, што мы, як маглі, змагаліся за праўду ў літаратуры, вылучалі ў ёй не старавераў і прыстасаванцаў, а мастакоў арыгінальных, сумленных і мужных. З дапамогай А. М. Дзмітрыевай мы апублікавалі ў гэтым часопісе і адну суаўтарскую працу – рэцэнзію на кнігу А. Кучара «Аб мастацкай прозе» (1961). У гэтай кнізе А. Кучар у многім яшчэ заставаўся на старых, вульгарызатарскіх пазіцыях. І мы ў Беларусі не змаглі надрукаваць сваю рэцэнзію, у якой гэтыя пазіцыі востра крытыкаваліся, а ў «Вопросы литературы» таксама прабіліся з вялікімі цяжкасцямі.

Рэцэнзія змешчана з многімі папраўкамі ў шостым нумары часопіса за 1962 год пад рэзка перайначаным загалоўкам «Праблемы майстэрства і гістарызм аналізу» (у нас яна мела назву «Калі перашкаджаюць застарэлыя пазіцыі»). А справа была ў тым, што за Кучара заступіўся Бярозкін (ён лічыў, што крытыкаваць Кучара ёсць маральнае права толькі ў яго самога). Пэўную падтрымку Кучару аказаў і М. В. Гарбачоў. Гэта наш зямляк, беларус з Віцебшчыны, які працаваў у Маскве на пасадзе сакратара СП СССР. Ён вядомы як перакладчык беларускай прозы на рускую мову. Але яго-ныя пераклады хоць і дапамагалі нашым празаікам дзякуючы шырокай распаўсюджанасці гэтай мовы выходзіць у вялікі свет, аднак дасканаласцю не вызначаліся – у іх прыкметна нівеліраваўся стыль самых арыгінальных мастакоў.

Займаўся М. В. Гарбачоў па сваёй службовай пасадзе і пытаннямі крытыкі. Чаму ён бараніў А. Кучара, дакладна не магу сказаць і цяпер.

Разам з Каваленкам мы змагаліся супроць рэтраградных выступленняў П. Глебкі, які адзін час выяўляў вялікую актыўнасць у нападках на беларускую крытыку. Тады ён ужо быў акадэмікам АН БССР і дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі. У розных аўдыторыях (ад навукоўцаў да медсясцёр, якія непасрэднага дачынення да літаратуры, а тым больш да крытыкі, не мелі і наўрад ці хоць колькі цікавіліся ёю) ён настырна ўшчуваў Каваленку за артыкул «Думкі пра сучасны беларускі раман», апублікаваны ў «Полымі» (1963, № 1). У гэтым артыкуле згадваліся імёны Джойса, Пруста і Кафкі, зазначалася, што і вопыт гэтых пісьменнікаў можа быць у нечым карысным для савецкай літаратуры. П. Глебка тут убачыў небяспечны ідэалагічны крымінал. Пакідаць без адказу такія заявы нельга было. І я на адным акадэмічным сходзе таксама выступаў з пярэчаннямі Глебку.

В. Каваленка, вядома ж, цаніў такую падтрымку. Пра гэта сведчаць і яго прыязныя аўтографы на падараваных мне кнігах. Іх у мяне захавалася больш за дзясятак. І аднойчы (аўтограф на выдадзеным у 1967 годзе зборніку літаратурна-крытычных артыкулаў «Давер») В. Каваленка сярод іншых пахвальных слоў, на якія ён ніколі не скупіўся, напісаў: «Майму аднадумцу». Здаецца, тады так і было.

На кнізе «Вытокі. Уплывы. Паскоранасць» (1975), якая стала доктарскай дысертацыяй В. Каваленкі, значыцца: «Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву — добразычліваму рэцэнзенту гэтай кніжыцы з удзячнасцю за спагадлівую дапамогу, з сяброўскімі пачуццямі, сардэчна».

Звярну ўвагу на тое, што В. Каваленка сваю выдатную манаграфію на 336 старонак вялікага фармату называе ўсяго толькі кніжыцай. Так ён «прыбядняўся» даволі часта.

А што да маёй «спагадлівай дапамогі», дык я ўжо і не помню, у чым яна заключалася. Хутчэй за ўсё гэта тыповае для Каваленкі перабольшанне, бо ў лепшым выпадку я зрабіў нейкія прыватныя заўвагі і ўдакладненні.

Каваленка ж дзякаваў і за адну выдавецкую рэцэнзію, у якой я нарабіў сябру мноства заўваг прынцыповага характару. Так было з кнігай «Праблемы сучаснай беларускай крытыкі» (1977), якую я рэцэнзаваў як старшыня крытычнай секцыі ў нашым пісьменніцкім Саюзе. Вядома, я ўрэшце выказваўся за выданне кнігі. І Каваленка потым падарыў яе мне з такім подпісам: «Дзмітрыю Якаўлевічу — першаму суроваму, але таленавітаму крытыку гэтай недасканалай — вядома ж! — кніжыцы з удзячнасцю за заўвагі. Аўтар. 14. II. 1978 г. В. Каваленка».

Рэцэнзія на «Вытокі. Уплывы. Паскоранасць» таксама пісалася не для друку, а для выдавецтва. І галоўная яе мэта была ў падтрымцы кнігі. Я сапраўды шчыра падтрымліваў В. Каваленку, лічачы гэта цалкам справядлівым, і ў перыяд падрыхтоўкі ім доктарскай дысертацыі, і тады, калі ён выбіраўся членам-карэспандэнтам, а потым правадзейным акадэмікам АН БССР. Як адбываліся гэтыя выбары, я ўжо працаваў на філфаку БДУ. Філфакаўскае кіраўніцтва таксама вітала выбары Каваленкі ў АН БССР. Неабходныя паперы з атэстацыяй яго навуковых заслуг даводзілася пісаць мне (падпісвалі, вядома, кіраўнікі). І я рабіў гэта зноў жа ахвотна, з пераконанасцю, што пішу пра свайго сябра чыстую праўду. Важна і тое, што ў такіх выпадках даецца агульная ацэнка зробленага вучоным. У дачыненні да В. Каваленкі яна, з майго пункту гледжання, магла быць толькі высока станоўчай. Ды і ў тыя часы, калі мы з Каваленкам вялі палеміку ў друку, я таксама звычайна падкрэсліваў і таленавітасць Каваленкі-даследчыка, і агульную значнасць ягоных прац. Вось што напісалася ў маёй разгорнутай рэцэнзіі на двухтомную «Гісторыю беларускай літаратуры», выдадзеную ў 1977 годзе на рускай мове

ў Мінску: «Некаторыя спрэчныя, на маю думку, палажэнні ёсць і ў раздзеле аб творчасці Я. Коласа. Гэты раздзел належыць В. Каваленку, які, бясспрэчна, з'яўляецца адным з самых таленавітых, цікавых і арыгінальных сучасных крытыкаў. Пра Я. Коласа В. Каваленка таксама піша ўвогуле змястоўна, глыбока. Але асобныя разважанні даследчыка пра паэмы "Новая зямля" і "Сымон-музыка" здаюцца мне недастаткова абгрунтаванымі».

Палемізуючы з Каваленкавым артыкулам «Эстэтычны ідэал і грамадзянская пазіцыя пісьменніка», надрукаваным у перыядычным зборніку «Вобраз» (1986) і ў калектыўнай кнізе «Ідэйна-тэарэтычныя пытанні сучаснага літаратурнага працэсу» (1987), я зноў падкрэсліваў, што артыкул «у цэлым вызначаецца тэарэтычнай абгрунтаванасцю, надзённы сваёй праблематыкай, слушны ў агульным пафасе абароны духоўнасці. Але ёсць і думкі, на мой погляд, спрэчныя, недакладныя ці недастаткова ўзважаныя». На гэтых думках я і спыніўся, напісаўшы пра іх з'едліва і пад гучным загалоўкам «Пара глядзець праўдзе ў вочы» (Полымя, 1989, № 3). Палеміка ў нас тады ўжо бушавала. І Віктар Антонавіч, які ладна крыў мяне і ў згаданым артыкуле, зноў у даўгу не застаўся. Ён у тым жа нумары часопіса змясціў яшчэ больш з'едлівы артыкул «У імя чаго баталія», дзе ўжо не столькі канкрэтныя аргументы разглядаў, колькі раздражнёна, з нейкімі рызыкоўнымі намёкамі асуджаў стыль маіх паводзін у літаратуры, прадказаўшы мне незайздросны лёс закончанага рэтраграда, які будзе гатовы пабегчы за кожным, хто яго паманіць.

Гэта ўжо быў перабор яўны. І я не змаўчаў, выступіў з артыкулам «Яшчэ раз пра крытычныя прыпіскі» («Полымя», 1989, № 10), але зноў зазначыў, што ў Каваленкі «аспрэчваю не ягоную пазіцыю ўвогуле, а толькі асобныя канкрэтныя сцверджанні ды выпадкі адвольнага абыходжання з тэкстам».

Гэтым артыкулам тады фактычна падводзілася нейкая рыса пад нашымі спрэчкамі. Спрэчкі тыя зацягнуліся. І вяліся яны, як бачыцца цяпер, з перахлёстамі з абодвух бакоў. Самі пісьменнікі, пра творчасць якіх мы найбольш спрачаліся, скажам, В. Быкаў ці В. Казько, глядзелі на нашу палеміку спакойна, не ўмешваючыся, бо значнасць твораў мастакоў не ставілі пад сумненне ні Каваленка, ні я. А калі канкрэтная трактоўка некаторых аспектаў у нас разыходзілася, дык пісьменнікам шкоды ад гэтага не было. Хутчэй наадварот, спрэчка вакол іх твораў толькі павялічвала чытацкую цікавасць.

Думаецца, што палемічны запал прыцягваў увагу і да саміх нашых артыкулаў, асабліва тады, калі спрэчкі толькі пачыналіся.

Сыр-бор найбольш разгарэўся з-за маёй публікацыі «Пошукі новых падыходаў». Гэта была зноў разгорнутая рэцэнзія (яна перарасла ў ладны артыкул) на кнігу В. Каваленкі «Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры» (1981). Рэцэнзію мне заказалі ў «ЛіМе». І я ўзяўся пісаць яе з

намерам толькі пахваліць кнігу сябра, падараваную мне з аўтографам: «Дарагому Дзіму — майму сябру, лепшаму дарадчыку і субяседніку, з якім я люблю сустракацца, сардэчна. 5. 01. 81 г. В. Каваленка». Але «лепшы дарадчык і субяседнік» на гэты раз моцна падкачаў. Праўда, у пачатку рэцэнзіі я пахваліў першую Каваленкаву кнігу «Пошукі і здзяйсненні», зазначыўшы, што яна «і на сённяшні дзень [1981 год] застаецца лепшай працай пра Бядулю», і «тры ёмістыя, важкія значнасцю выказаных у іх думак зборнікі крытычных артыкулаў — «Давер» (1967), «Прага духоўнасці» (1975), «Жывое аблічча дзён» (1979)», назваў змястоўнай манаграфію пра І. Шамякіна, выдадзеную ў Маскве (1979) і Мінску (1980), згадаў і ўсе іншыя абсягі даследчай працы В. Каваленкі, яго кнігі, асабліва вылучыўшы ўжо ўпамінаныя «Вытокі. Уплывы. Паскоранасць». Пра самі «Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры» таксама выказваўся ў цэлым пахвальна, як пра маштабнае даследаванне з новай для нас праблематыкай, у якім у святле выбранай аўтарам праблемы разглядаецца ўся наша літаратура — «ад яе старажытнымх вытокаў да сённяшніх дзён. І гэты разгляд дазволіў даследчыку зрабіць многія цікавыя і значныя высновы, па-новаму прачытаць нямала старонак беларускай літаратурнай гісторыі». Здаецца, тон узяты дастаткова высокі. Ды і сам загаловак «Пошукі новых падыходаў» меў на ўвазе падкрэсліць неардынарнасць кнігі. Але час паказаў, што ўсёй яе значнасці я ў пэўнай меры не адчуў.

Сярод больш-менш аб'ектыўных крытэрыяў ацэнкі навуковых прац ёсць і такі: як часта спасылаюцца на іх у друку. Па гэтым паказчыку Каваленкавы «Міфа-паэтычныя матывы...» займаюць трывалае месца ў шэрагу самых выдатных літаратуразнаўчых прац беларускіх вучоных.

Закончаны мой артыкул пра манаграфію сябра зноў на высокай аптымістычнай ноце: «Хачу з усёй выразнасцю падкрэсліць, што для аўтара кнігі пра міфа-паэтычныя матывы характэрныя пошукі новых падыходаў у вывучэнні беларускай літаратуры. І яго кніга пры ўсёй супярэчлівасці асобных яе палажэнняў вызначаецца не толькі навізной, але ў цэлым і добрай абгрунтаванасцю асноўнай канцэпцыі. Няма сумнення, што яна выкліча грамадскую цікавасць і дасць новыя імпульсы нашаму літаратуразнаўству, магчыма, яшчэ больш значныя, чым ранейшыя працы гэтага арыгінальнага і вельмі таленавітага даследчыка».

Гэты прагноз апраўдаўся напоўніцу. Але ж у маім артыкуле было нагаворана шмат такога, што аўтара кнігі ўзрадаваць не магло. Я ўвогуле лічыў, што ніякае сяброўства не вызваляе крытыка ад абавязку быць шчырапраўдзівым ва ўсім, што ён сцвярджае, бо толькі яго шчырае слова, народжанае ўласным бачаннем жыцця і літаратуры, можа мець нейкую цану і грамадскую значнасць, вядома, калі гэтае слова не зводзіцца да пустой та-

рабаршчыны, а схоплівае нешта істотнае ў той з'яве, якой яно датычыцца. Хваліць жа, няхай і з сяброўскіх меркаванняў, тое, што на самой справе табе не падабаецца, я лічыў недапушчальным, мяркуючы, што з непраўдзівасці ды няшчырасці, а па сутнасці крывадушнасці пачынаецца кан'юнктуршчына і прыстасавальніцтвва, небяспечныя не толькі ў палітыцы, але і ў літаратуры, у мастацтве і любых іншых сферах чалавечай дзейнасці.

Літаратурная палеміка, вынесеная і ў друк, але, канечне ж, абгрунтаваная, канкрэтная і не разлічаная на знішчэнне апанента, таксама ўяўлялася мне з'явай нармальнай. В. Каваленка, здаецца, таксама трымаўся блізкіх поглядаў. Словам, у тэорыі тут у нас былі яснасць і згода. А на практыцы так атрымлівалася не заўсёды, бо ёсць жа ў жывых людзей самалюбства, амбіцыі, увогуле эмоцыі, закранаць якія (ды яшчэ публічна) бывае рызыкоўна. А я ў сваім артыкуле з нагоды «Міфа-паэтычных матываў...» спрэчцы аддаў залішне багата ўвагі і самой друкаванай плошчы.

Не думаю, аднак, што сама спрэчка была беспадстаўнай. Віктар Антонавіч любіў пісаць канцэптуальна і быў у гэтым па-сапраўднаму моцным. Але захапіўшыся нейкай ідэяй, ён нярэдка падводзіў пад яе і тое, што сюды яўна не клалася. Калі тэкст мастацкага твора відавочна супярэчыў гэтаму, Каваленка спасылаўся на падтэкст. І ўжо тады даваў волю фантазіі, якая магла ісці ў разрэз і з тэкстам, і з сапраўдным падтэкстам.

У «Міфа-паэтычных матывах...» ён сцвярджаў, што Наталька з купалаўскай паэмы «Магіла льва» шчыра пакахала распуснага баярына і тым самым сцвердзіла сябе як асобу. У Купалы ж той баярын хітрасцю і падманам спакушае Натальку, якая была яшчэ нявопытнай дзяўчынай і потым «ішла за ім, як цень», гэта значыць праявіла сябе тут не як вартая пахвалы і захаплення асоба, а як бязвольная ахвяра, якая ва ўзаемаадносінах з баярынам пайшла «пуцінамі крывымі» (тут і раней у двукоссі словы з паэмы).

Звярнуўшыся да пушкінскай «Палтавы», Віктар Антонавіч апалагетычна пісаў і пра намаляванага ў паэме Мазепу, і пра яго інтымныя ўзаемаадносіны з дачкой Качубея Марыяй, хаця ў паэта яны паказаны ў негатыўным асвятленні. У яго паэтызуецца толькі «герой Палтавы» Пётр І.

Пра гэтыя разыходжанні з аўтарамі славутых твораў і пра іншыя спрэчныя моманты ў кнізе я сказаў без эківокаў, а дзе-нідзе і з'едліва.

Асабліва здзівілі мяне сябравы асуджальныя разважанні пра каханне, якое ўслаўляецца як норма ў народнай творчасці. На думку В. Каваленкі, яно патрыярхальнае і маральна непатрабавальнае, бо «няздатнае адарвацца ад зямной, нізкай, прыродна-фізіялагічнай асновы».

А «чаму нармальнае здаровае каханне яго і яе павінна ісці на такі адрыў, а не спалучаць у сабе духоўныя і зямныя, прыродна-фізіялагічныя пачаткі? І як без гэтых зямных пачаткаў будуць нараджацца дзеці, як будзе працяг-

вацца род чалавечы?» — не без іроніі пытаўся я і ахарактарызаваў пазіцыю Каваленкі, па сутнасці, здзекліва, назваўшы такі падыход немужчынскім. Выразы былі мацнейшыя. Але я цяпер не хачу іх паўтараць, бо тады за язык мяне пацягнуў няйначай як нячысцік, які вельмі ж любіць рабіць прыкрасці добрым людзям. Зразумеўшы, што атрымалася нядобра, я самыя здзеклівыя выразы перайначыў, перадрукоўваючы свой артыкул у кнізе «Чалавечнасць» (1985).

Але той здзеклівасці, якая была ў газетнай публікацыі, не вытрымаў і Каваленкаў гуманізм. Далей у нашых спрэчках пайшло-паехала. Яны станавіліся ўсё больш зацятымі. Крыўднага, як ужо бачна і з папярэдніх згадак, мы нагаварылі адзін аднаму шмат. Віктар Антонавіч аднойчы сцвярджаў у друку, што я ўвогуле нічога не разумею ў літаратуры, хаця раней так, канечне ж, не лічыў, прызнаваў, паўтаруся, сваім аднадумцам, а ў аўтографе на зборніку літаратурна-крытычных артыкулаў «Прага духоўнасці» напісаў: «Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву — сапраўднаму крытыку, літаратару па натуры, любоў да праўды ў якога стала страсцю, што і з'яўляецца вышэйшай мерай таленту».

У перыяд самых зацятых спрэчак, якія мы вялі ў розных выданнях, я таксама не скупіўся на ўшчуванні сябру, даймаючы яго ўедлівай гаворкай пра фактычныя недакладнасці, якія зрэдку пракідаліся ў ягоных артыкулах, ды яшчэ, думаецца, слушнымі заявамі пра недакладнае вытлумачэнне маёй пазіцыі ў шэрагу выпадкаў, пра дарэмнае прыпісванне мне безумоўнай абароны патрыярхальнасці, адмаўлення духоўнасці і інш.

Словам, пацешылі публіку мы нямала. Наша сяброўства тады пачало даваць трэшчыны, фактычна знаходзілася пад пагрозай і ўжо ва ўсякім разе не было такім пранікнёна-сардэчным, поўным узаемазахопленасці, як у перыяд яго росквіту. Але ў аснове сваёй яно ўсё ж захоўвалася, бо ў галоўным мы, нягледзячы на зацятасць спрэчак па асобных праблемах, заставаліся аднадумцамі. І гэта дазваляла пры ўсіх перахлёстах у палеміцы падтрымліваць даволі прыязныя практычныя ўзаемаадносіны, заснаваныя на даўняй трывалай павазе. Тут зноў на поўную сілу спрацоўваў Каваленкаў голас чалавечнасці, красамоўным фактычным пацвярджэннем якога з'яўляюцца аўтографы на апошніх кнігах Віктара Антонавіча.

Ягоную манаграфію «Агульнасць лёсаў і сэрцаў», у якой даследуецца беларуская проза аб Вялікай Айчыннай вайне ў кантэксце рускай і іншых літаратур, у тым ліку зарубежных (выдадзена на рускай мове ў Мінску ў 1985 годзе), я атрымаў з подпісам: «Дарагому Дзмітрыю Якаўлевічу — майму шчыраму сябру, пачуцці да якога не прытупляюцца нават у выніку самых злосна-зацятых літаратурных нападак на мяне, з найлепшымі і шчырымі пажаданнямі. 20. 12. 85. В. Каваленка».

У 1989 годзе выйшаў ёмісты том выбраных артыкулаў В. Каваленкі з характэрным для ягонай пазіцыі ў літаратуры загалоўкам «Веліч праўды». Подпіс на гэтай кнізе зноў надзвычай прыхільны: «Дарагому Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву — у знак даўняга і нязменнага сяброўства, якому не перашкаджае «крытычная любоў», — з найлепшымі пажаданнямі. 27. 12. 89. В. Каваленка».

Шчырым, сардэчным чалавекам з вялікім гуманістычным патэнцыялам ён заставаўся да канца сваіх зямных дзён. Як многа значыла для мяне ягонае сяброўства, я па-сапраўднаму адчуў, калі Віктар Антонавіч пайшоў ад нас назаўсёды. Крыху раней памёр Мікола Васілеўскі. З усёй нашай сяброўскай тройкі цяпер застаўся я адзін. І скрухай поўніцца маё сэрца. Непапраўна балючыя страты ідуць адна за адной. Зусім нядаўна з вялікай народнай жалобай пахавалі Васіля Быкава, магутнага пісьменніка і ўнікальнага па аўтарытэтнасці і душэўнай далікатнасці чалавека, у якога гэтая далікатнасць спалучалася з непахіснасцю маральна-этычных прынцыпаў нязломнага барацьбіта. Ад яго невымернай душэўнай цеплыні нямала ласкавых промняў перападала і мне яшчэ з часоў «Жураўлінага крыку» і аж да гэтага трагічнага для беларускай літаратуры года, які забраў ад нас Васіля Уладзіміравіча ў вечнасць. А мы на грэшнай зямлі папраўдзе асірацелі.

Вельмі балюча было траціць Лынькова, Мележа і Дубоўку, Танка, Панчанку і Янішчыц, Алеся Адамовіча і Чыгрынава, з якім мяне таксама звязвала блізкае і трывалае сяброўства.

А сяброўства з Каваленкам і Васілеўскім вылучалася яшчэ і тым, што мы равеснікі, у літаральным сэнсе прадстаўнікі аднаго пакалення. І гэта таксама істотная рэч.

Не хацелася б скардзіцца на лёс, бо ён пры ўсіх пертурбацыях складваўся ў мяне ўсё ж шчасліва. І яшчэ застаецца нямала добрых і выдатных людзей найперш з пісьменніцкага і навуковага асяроддзя, якім я шчыра ўдзячны за прыхільнасць, добразычлівасць, спагаду і падтрымку. Але адсутнасць самых блізкіх сяброў маладосці адчуваецца ўсё больш востра. Іх страта ўспрымаецца як незагойная рана. Суцешыцца, згадваючы Віктара Каваленку, застаецца хіба тым, што яго голас чалавечнасці ў нашай крытыцы, у літаратуразнаўстве гучыць выразна, моцна і надзейна і будзе яшчэ доўга патрэбны людзям, не абыякавым да Беларусі і яе нацыянальнай культуры.

*2005 г.*





# НАТУРА БАРАЦЬБІТА
## (жменя ўспамінаў пра Уладзіміра Калесніка)

Уладзіміра Андрэевіча Калесніка я трохі ведаў яшчэ з 50-х гадоў мінулага стагоддзя, бо вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага, з якім Калеснік быў трывала звязаны працяглы час. Ён атрымліваў тут і вышэйшую адукацыю, і аспіранцкую падрыхтоўку, быў блізкім сябрам Ф. М. Янкоўскага, часта наведваў яго ў педінстытуцкім інтэрнаце на вуліцы Кірава. Мне таксама давялося правесці ў гэтым інтэрнаце тры аспіранцкія гады і якраз у той перыяд, калі там жыў Янкоўскі. Пакоі ў нас, вядома, былі розныя, але размешчаныя на адным паверсе і з выхадам у адзін калідор. Таму выпадковыя сустрэчы з Янкоўскім здараліся нярэдка. Калі-нікалі трапляўся з ім і Калеснік. Яны абодва ўжо тады вылучаліся сваёй відавочнай сталасцю, мелі за плячыма вопыт узброенай барацьбы з гітлераўскім фашызмам, словам, яўна адрозніваліся ад яшчэ зялёных і ў многім легкадумных аспірантаў майго ўзросту, але ставіліся да нас з таварыскай зычлівасцю, бо адчувалі і нашу захопленасць беларушчынай.

А яшчэ ў мяне былі добрыя стасункі з Алесем Адамовічам, які сябраваў з Янкоўскім, і асабліва з Калеснікам.

У 1960 годзе я нарэшце наважыўся абараняць кандыдацкую дысертацыю па ранняй творчасці М. Лынькова. З гэтай нагоды У. Калеснік, які ўжо працаваў (з 1956 года) загадчыкам кафедры беларускай літаратуры ў Брэсцкім педінстытуце, па просьбе А. Адамовіча напісаў мне наступны вельмі прыязны водзыў, які падаю тут цалкам, бо ён нідзе не друкаваўся.

«Жыццёвы і творчы шлях Міхася Ціханавіча Лынькова да апошняга часу не вывучаны ў той меры, на якую заслугоўвае такі арыгінальны пісьменнік — адзін з заснавальнікаў беларускай савецкай прозы.

Артыкулы Д. Я. Бугаёва, прысвечаныя гэтаму пытанню, з'яўляючыся ў друку, выклікалі ўвагу літаратурнай грамадскасці, студэнтаў і настаўнікаў-славеснікаў нашай рэспублікі.

Калі меркаваць пра дысертацыйную працу толькі па артыкулах ды аўтарэфераце, дык і яны даюць падставу сцвярджаць, што дысертант зрабіў новы крок у вывучэнні ранняй творчасці Лынькова, пераадолеўшы схематызм і спрашчэнства, якія наслаіліся ў шэрагу папярэдніх літаратурнакрытычных прац і часткова атрымалі значэнне дрэннага нарматыву. Даследаванні Д. Я. Бугаёва праведзены на ўзроўні сучаснага савецкага літаратуразнаўства, мастацкія творы разглядаюцца аўтарам у адзінстве зместу і формы, глыбока раскрываюцца сувязі пісьменніка з жыццём.

Карціна творчага шляху Лынькова здаецца тым больш пераканальнай, што аўтар разглядае яго творы на шырокім гісторыка-культурным фоне, прыцягваючы матэрыялы беларускай, рускай, украінскай літаратур.

Напісанае з улікам дасягненняў савецкага літаратуразнаўства апошніх гадоў, даследаванне Д. Я. Бугаёва з'яўляецца, на наш погляд, плённым працягам той працы, якую правялі беларускія даследчыкі да яго, таму суіскальніку варта было б адлюстраваць у аўтарэфераце не толькі тыя моманты, якія адрозніваюць яго працу ад папярэдніх прац па гэтым пытанні, але падкрэсліць якраз тыя агульныя моманты, што сведчаць пра навуковую паслядоўнасць, уласцівую савецкаму літаратуразнаўству, якое стаіць на метадалагічным фундаменце марксізму-ленінізму.

Кафедра лічыць, што суіскальнік заслугоўвае прысуджэння яму вучонай ступені кандыдата філалагічных навук.

Заг. кафедры беларускай літаратуры
кандыдат філалагічных навук У. Калеснік».

Такія водзывы звычайна пісаліся па пэўнай схеме. Збольшага яе прытрымліваўся і Калеснік. Але яго прынцыповасць, удумлівае стаўленне да справы выявіліся і тут. Пра гэта сведчыць і агульная змястоўнасць напісанага тады Уладзімірам Андрэевічам, і ягоная заўвага пра маю недастатковую карэктнасць да зробленага папярэднікамі. Гэта тыповы для дысертацыйных прац перакос. Зусім абмінуць такое Калеснік не мог і ў сяброўскім водзыве — не дазваляла сумленнасць. З-за яе ён дапускаў і рэзкасць ацэнак, калі сутыкаўся з павярхоўнымі ці залішне прыгладжанымі працамі. Такую прыгладжанасць пасля бясконцых рэдагаванняў і ўзгадненняў ён убачыў у «Нарысах па гісторыі беларускай літаратуры» (1956) і сказаў нямала рэзкіх слоў пра гэта, выклікаўшы нараканні з боку некаторых аўтараў тых нарысаў і іх рэдактараў. Аднак Уладзімір Андрэевіч, калі быў перакананы ў сваёй слушнасці, не зважаў на ўшчуванні самых амбітных, у тым ліку і надзеленых уладнымі паўнамоцтвамі асоб. Сам ён па дробязях не лез на ражон, да літаратурнай палемікі ставіўся спакойна, разважліва, асабліва не крыўдаваў, калі нешта аспрэчвалася і ў ягоных

працах. Зразумела, гэта датычылася толькі тых выпадкаў, калі нейкія падставы для аспрэчвання былі.

Кажу пра гэта, абапіраючыся на свае стасункі з Калеснікам у сувязі з вывучэннем танкаўскай творчасці. Я звярнуўся да яе пасля кнігі Уладзіміра Андрэевіча «Паэзія змагання. Максім Танк і заходнебеларуская літаратура» (1959). Гэта першая кніга даследчыка, але кніга выдатная, як і іншыя яго этапныя для нашага літаратуразнаўства працы. Пазней ён казаў, што яе моцна парэзала цэнзура, бязлітасна выкасаваўшы некалькі друкаваных аркушаў. Я суцяшаў, зазначаючы, што ў тым выглядзе, у якім кніга дайшла да чытача, яна вылучаецца сваёй грунтоўнасцю, багаццем фактычнага матэрыялу і значнасцю абагульненняў. Калеснік з гэтым не спрачаўся, але знятых раздзелаў усё роўна шкадаваў. Ды іначай яно і не бывае. Па сабе ведаю, што выкрасленае гвалтоўна, насуперак волі аўтара, заўсёды здаецца самым цікавым і значным.

Рыхтуючы сваю кнігу пра Максіма Танка (яна выйшла ў 1964 годзе), я мусіў звярнуцца за парадамі да паэта, бо без ягонай дапамогі цяжка было разабрацца ва ўсёй складанасці тых судовых спраў, якія заводзіліся на яго ўладамі ў заходнебеларускія часы. Танк, вядома, дапамог, але разам з тым настойліва казаў, што ён лічыць памылковымі некаторыя сцверджанні пра яго ў кнізе «Паэзія змагання». Усе Танкавы пярэчанні Калесніку я ўключыў у сваю працу (яны для таго і рабіліся паэтам) і не без асцярогі чакаў рэагавання Уладзіміра Андрэевіча. Чалавек усё ж можа пакрыўдзіцца, думалася мне, хоць я даваў і шэраг сцвярджальных спасылак на «Паэзію змагання», цытуючы тое, што Танк не крытыкаваў. Было ў мяне і некалькі дробных удакладненняў ужо ад сябе, зробленых там, дзе я заўважыў нейкія «апіскі», што праскочылі ў Калесніка. Ні за гэтую ўедлівасць, ні за публікацыю танкаўскіх крытычных заўваг Калеснік ніколі не папракаў, фактычна пагадзіўшыся, што я павінен быў лічыцца найперш з поглядам самога паэта.

Такім чынам, нядобразычліўца з-за спрэчкі пра паэзію Танка я сабе не прыдбаў. Нашы адносіны заставаліся нармальнымі, увогуле прыхільнымі. Былі сустрэчы з ім на розных пісьменніцкіх сходах, на якія Калеснік прыязджаў з Брэста. Калі мне даводзілася гаварыць у вусных выступленнях ці ў друкаваных артыкулах пра нашу крытыку, я, канечне ж, не абмінаў добрым словам і Калесніка. Але даследчыя дзялянкі ў нас збліжаліся, а тым больш перакрыжоўваліся рэдка. Бо ён шмат пісаў пра старажытнасць, і асабліва пра заходнебеларускую літаратуру. А я якраз тут спецыялістам сябе не лічыў, як даследчык не займаўся ні творчасцю заходнебеларускіх пісьменнікаў (акрамя Максіма Танка), ні літаратурай ранейшых эпох,

хоць у час выкладчыцкай працы ў Мазыры чытаў курс дарэвалюцыйнай літаратуры, цішком, але шчодра выкарыстоўваючы напаўзабаронены тады вялізны фаліянт В. Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі».

Даводзілася не раз рэцэнзаваць абагульняльныя літаратуразнаўчыя працы, для якіх пра Заходнюю Беларусь заўсёды пісаў Калеснік, бо тут па агульнай аўтарытэтнасці ніхто з ім тады параўнацца не мог. Але і ў такіх выпадках пра асвятленне заходнебеларускага літаратурнага працэсу я падрабязна пісаць не рызыкаваў, абыходзячыся сумарным заключэннем. У якасці прыкладу згадаю тое, што напісалася ў рэцэнзіі на двухтомную «Гісторыю беларускай літаратуры», выдадзеную ў 1977 годзе ў Мінску на рускай мове (так давала сябе адчуць моцная тады русіфікацыя). У той рэцэнзіі падкрэслівалася, што для новаай «Гісторыі беларускай літаратуры» і даследчыкі, якія ў папярэдніх працах такога профілю таксама рыхтавалі адпаведныя раздзелы, «цяпер, як правіла, не толькі нанава пісалі, але і нанава вывучалі свае ранейшыя тэмы, ва ўсякім разе, паглыблялі і ўзбагачалі іх асэнсаванне. Гэта ў першую чаргу стасуецца да разгляду заходнебеларускай літаратуры, зробленага У. Калеснікам, які, дарэчы сказаць, амаль што адзін і ўзняў на сапраўдны навуковы ўзровень гэтую галіну нашага літаратуразнаўства». (Агаворка «амаль што адзін» невыпадковая. Яна выклікана тым, што пра творчасць некаторых заходнебеларускіх літаратараў час ад часу пісалі і іншыя, маладзейшыя за Калесніка крытыкі з добрым веданнем жыцця ў Заходняй Беларусі, напрыклад, М. Арочка, А. Ліс).

Ацэнка напісанага Калеснікам для той «Гісторыі» раздзела ў мяне зроблена, канечне ж, па вельмі высокім рахунку, але ўсяго адной фразай. Праўда, там і пра іншых даследчыкаў пахвала выдаецца без размазвання і шматслоўнасці, а больш падрабязна, з канкрэтнай аргументацыяй ідзе толькі крытыка спрэчных мясцін. У Калесніка такіх я не бачыў. І ён зноў успрыняў усё належным чынам.

Рэцэнзія на двухтомную рускамоўную «Гісторыю беларускай літаратуры» друкавалася ў 1978 годзе. К таму часу я ўжо меў зноў бліскучую Калеснікаву кнігу «Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі» (1977) з аўтографам: «Дзмітрыю Бугаёву — з пажаданнем новых поспехаў у даследаванні сучаснай прозы. У. Калеснік. 8. II. 1978». А потым была падаравана параўнальна невялікая памерам, але ёмістая ў змесце, глыбокая па думках кніга «Максім Танк. Нарыс жыцця і творчасці» (1981). Тут зноў кароткі, але яшчэ больш прыязны аўтограф: «Дзмітрыю Бугаёву — з павагай да творчай прынцыповасці. Ул. Калеснік. 18. X. 1981. Брэст».

У 1983 годзе У. Калеснік падарыў мне свой зборнік выбраных партрэтаў і нарысаў «Лёсам пазнанае». Кніга выдадзена «Мастацкай літаратурай»

(1982) да 60-гадовага юбілею даследчыка. І зроблена яна так, як і павінны рабіцца нешэраговыя выданні выдатных літаратараў, класікаў у сваёй галіне (а што Калеснік дасягнуў самых выдатных вышынь у нашай крытыцы, стаў яе класікам, сёння ўжо відавочна для многіх).

Але яшчэ колькі слоў пра тое выданне. Яно вельмі арыгінальна аформлена, надрукавана на першакласнай паперы, з партрэтамі аўтара і тых майстроў слова, якім прысвечаны нарысы, напісаныя з зайздроснай таленавітасцю. Выдавецкі рэдактар кнігі — А. Разанаў, цяпер славуты паэт, якога Калеснік мужна бараніў усе тыя гады, калі на хлопца насядалі з усіх бакоў рэтраграды ад ідэалогіі і літаратуры, не прымаючы ні яго грамадзянскай няскоранасці, ні эстэтычнай нязвыкласці ягонай паэзіі.

Кнігу «Лёсам пазнанае», якую толькі пагартаць і то прыемна, а чытаць — адно задавальненне, я атрымаў з аўтографам: «Дзмітрыю Бугаёву з нязменнай сімпатыяй і павагай. 6. V. 1983. Ул. Калеснік».

Належна выдадзена і Калеснікава кніга «Тварэнне легенды» (1987). Яна мае вельмі сціплы падзагаловак «Літаратурныя партрэты і нарысы». На самой справе гэта вялікая праблемная манаграфія, адна з тых, у якіх даследуюцца кардынальныя праблемы нацыянальнага быцця. Падрабязней скажу пра яе далей. А цяпер перачытаем ужо і зусім апалагетычны аўтограф з кнігі: «Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву — змагару за гонар і годнасць нашага літаратуразнаўства, за права на ўласную думку. 26. XII. 87. Ул. Калеснік. Брэст».

З гэтай кнігай Уладзіміра Калесніка я знаёміўся яшчэ па прысланых аўтару з выдавецтва карэктурных адбітках, бо незадоўга да яе выхаду ў свет апынуўся ў Брэсце. У студзені 1987 года мяне ўрэшце выбралі на пасаду прафесара БДУ — без абароны доктарскай дысертацыі. Падчас летняй экзаменацыйнай сесіі трапіў і ў Брэст у якасці старшыні дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі па беларускай літаратуры. Вось тады і паявілася магчымасць наладзіць з Калеснікам больш шчыльныя дзелавыя кантакты, паглядзець на яго педагагічную працу зблізку. Яна пакінула найлепшае ўражанне. Уладзімір Андрэевіч быў педагогам надзвычай дасканалым, гэткім жа таленавітым, як і ў літаратуразнаўстве ці грамадскай дзейнасці. Ён трымаўся натуральна, свабодна, з той душэўнай адкрытасцю, якая найбольш прываблівае ў людзей разумных, дасведчаных і незакамплексаваных рознай афіцыяльшчынай і клопатам пра чыноўніцкую субардынацыю. Такога клопату ў яго не было ні кроплі. З ім можна было гаварыць зусім шчыра, зноў жа свабодна, даверліва, без аніякай палахлівай аглядкі пра ўсе тагачасныя вострыя праблемы і ў самім жыцці, і ў літаратуры. І мы гаварылі шмат, у смак, не асцерагаючыся падвохаў. Гэтаму нямала спрыяў сам той час, пазначаны істотнымі

грамадскімі пераменамі. Але Калеснікава чалавечнасць яшчэ падахвочвала. А яна адчувалася скрозь.

Прыемна было бачыць, як паводзіў ён сябе са сваімі выкладчыкамі і студэнтамі. Роўны тон, спакойная разважлівасць тут былі нормай. Прымаючы экзамены ў студэнтаў, Калеснік не збіваўся на безадказную паблажлівасць, добрага ўзроўню ведаў дамагаўся без сюсюкання, але і па-дурному прыдзірлівым не быў. Усмешка, жарт, зусім не злосны ці з лёгкай падкавыркай, не разлічанай, аднак, на яўнае прыніжэнне чалавека, імпанавалі ў яго асабліва.

Вельмі высокая павага да Калесніка адчувалася не толькі ў выкладчыкаў і студэнтаў, але і ў тых людзей за межамі педінстытута, з якімі мы па яго прапанове колькі разоў сустракаліся. Гэтыя сустрэчы наглядна сведчылі, як трывала зросся ён з Брэстчынай, якім свойскім і дарагім стаў тут многім.

У 1987 годзе я атрымаў ад У. Калесніка і ладны ліст, які зноў падаю поўнасцю, бо ён таксама яшчэ не друкаваўся. «Брэст, 12. XII — 87.

Паважаны Дзмітры Якаўлевіч!

Дзякую Табе за перададзеную цераз Сіранькова кнігу пра Быкава. Прачытаў з задавальненнем, хоць і часу не меў, але стараўся пазнаць яшчэ адну працу з серыі бібліятэкі для старэйшых школьнікаў. Прыемна было ўсведамляць, што пачаўся прынцыповы пералом у гэтай занарматывізаванай да бязлікасці серыі. Звяртаючыся да Дзяльца, калі рэдактары мне рэзалі рукапіс манаграфіі пра Брыля, я прапанаваў яму зняць абмежаванні памеру, ці хоць зрабіць нейкія рамкі (10—15 аркушаў), і гаварыў, што пара адмовіцца ад жорсткай рэгламентаванасці зместу, і выказваў меркаванне — упэўненасць, што Твая кніга пра Быкава пры адпаведнай падтрымцы з боку выдавецтва і Камітэта магла б напэўна стаць вяхою абноўленых арыенціраў, арыенціра на буджэнне думкі, дапытлівасці і прывучвання юных чытачоў да культуры палемікі, адвучвання ад артадаксальна-дагматычнай глупоты. Я рады, што кніга Твая, нягледзячы на кансерватызм выдавецтва, усё ж стала такім творам, які сёння патрэбны як паветра ці гаючая вада, каб лячыць душы ад застою.

Мяне, на жаль, трасуць і скубуць (рукапіс), перанеслі ўжо ў план 1989 года. Не дзейнічаюць на ўпартых пасрэднасцей нават словы аўтарытэтных людзей, лезуць і правяць мову — гэта пасля Брыля, які чытаў жа рукапіс, і пасля Цябе, які (дзякуй Табе) вельмі высока адазваўся пра мову. Думаю змагацца, засланяючыся Табою і Брылём як шчытом. Давядзецца папсаваць крыві і сабе, і выдаўцам, а ўсё дзеля філалагічнага дылетанцтва, якое мучае і раз'ядае і мастакоў многіх, і нас, крытыкаў, і найгорш чытачоў, для якіх руска-беларуская мяшанка выдаецца ідэальнаю літаратурнай мо-

вай. Зрэшты, такую мову яны чуюць і ад настаўнікаў у школе і са школы прыносяць дамоў, яе чуюць па радыё і г. д.

Ну, ладна, не будзем займацца спрэчным бурчаннем.

Прачытаў учора Тваю палеміку з Каваленкам. Думаю, што абодва Вы, міленькія-харошанькія, хочаце вырашыць маральна-псіхалагічную загадку, развязаць гордзіеў вузел тым самым спосабам: знайсці абавязкова адназначную дэфініцыю — вечны, скончаны здраднік гэты самы Рыбак ці не. А Рыбак жа застаўся жывы. Вы ж спрачаецеся, як пра нябожчыка. Дакладней, Ты лічыш яго скончаным мярзотнікам антычалавекам, а Віктар [Каваленка] упэўнены, што ў яго ёсць яшчэ шанц. І абодва Вы забываеце, што праблема зусім не ў гэтай плоскасці. Праблема ў тым, ці ёсць у грамадстве права на адкупленне віны і як савецкі, ваенны варыянт гэтага права суадносіцца з адвечным, агульначалавечым (больш ён жорсткі ці не і чаму? Апраўдана гэта ці не? На які час дапушчальна жорсткасць і абмежаванні ў праве на раскаянне?), гаворыцца ў Цябе нешта пра змыванне віны крывёю, але мімаходзь. А між іншым фактам вайны на Беларусі была і біяграфія Гіль-Радзівонава. Я не думаю, што ён, камандзір карнага фарміравання, перайшоў да нас, партызан, толькі са страху перад намі і нашай Перамогай. Тысячы здраднікаў жывуць сабе за мяжой прыпяваючы і знаходзяць сабе апраўданне і гераічнае падвышэнне ў прэсе. Тут дзейнічала ўсё ж і сумленне, і раскаянне, і права на адкупленне віны. Перад усім гэтае права!! Але пра гэта можа пазней... Цісну руку. У. Калеснік».

Ліст ёмісты, шматзначны. Ён, акрамя ўсяго іншага, паказвае глыбіню разважанняў Калесніка, яго ўменне гаварыць праўду. Я ж толькі патлумачу, што размова ідзе ў пачатку ліста пра маю кнігу «Васіль Быкаў. Нарыс жыцця і творчасці», выдадзеную «Народнай асветай» у 1987 годзе (серыя — «народныя пісьменнікі БССР»). Яе перадаў Калесніку брэсцкі выкладчык А. Ф. Сіранькоў. М. І. Дзялец тады быў старшынёй Камітэта па друку, які курыраваў выдавецтвы, паліграфію і кніжны гандаль. Рыбак — персанаж з быкаўскай аповесці «Сотнікаў». Рукапіс Калеснікавай кнігі пра Брыля я рэцэнзаваў для выдавецтва «Народная асвета». Кніга выйшла толькі ў 1990 годзе, але памерам трохі большым, чым аналагічныя папярэднія выданні (13,84 друк. арк.). Калеснік мне падараваў яе з надпісам: «Дзмітрыю Бугаёву, чыя лёгкая рука блаславіла рукапіс гэтага сачынення, — з удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі. Ул. Калеснік. Мінск, 13. XI — 90».

Ды вярнуся нарэшце да «Тварэння легенды». Разгорнутую рэцэнзію на гэтую кнігу я надрукаваў толькі ў 1989 годзе («Полымя», № 2). Затрымка была выклікана celebrating рознымі прычынамі. Гэтую працу я разглядаў як

адну «з самых значных, глыбокіх і канцэптуальна змястоўных у нашым літаратуразнаўстве». Бо тут зноў выразна выявілася маштабнасць крытычнай думкі Калесніка, які цяпер стварыў кнігу пра тое, як беларусы станавіліся народам, як яны выпрацоўвалі сваю ўласна патрыятычную і нацыянальна-вызваленчую свядомасць. Ключавымі фігурамі ў гэтым працэсе Калеснік называе Ф. Скарыну, М. Гусоўскага, казачніка Рэдкага (за ім — глыбіні нашага фальклору і памежжа паміж нацыянальным фальклорам і літаратурай) і, канечне ж, Я. Купалу. Але фактычна ў кнізе праз ёмістую прызму тварэння нацыянальнай легенды, нацыянальных асноў даследуецца ўся беларуская літаратура дакастрычніцкай пары, а праз савецкага Купалу зроблены пэўны экскурс і ў паслярэвалюцыйныя гады. Аўтар звяртаецца да В. Цяпінскага і С. Буднага, А. Філіповіча і М. Сматрыцкага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча і Я. Лучыны, П. Багрыма і К. Каліноўскага, не кажучы ўжо пра Я. Коласа і М. Багдановіча, Цётку, М. Гарэцкага і З. Бядулю. Праўда, у кнізе не згадваюцца імёны А. Гаруна ці В. Ластоўскага. Але тады гэтыя пісьменнікі яшчэ не былі рэабілітаваны. І пахвалу ў іх адрас савецкая цэнзура прапусціць ніяк не магла.

Ацэньваючы «Тварэнне легенды» як выдатнае дасягненне нашага літаратуразнаўства, я мусіў звярнуць увагу і на тое, што савецкі перыяд у творчасці Купалы тут пададзены без належнай крытычнасці, што ў даследчыка абмінута трагедыя, якая напаткала паэта пры бальшавіках (30-я гады XX стагоддзя). Вядома, у мяне адзначалася, што прычына гэткай недастатковасці не ў самім Калесніку, а ў тым, што яго кніга пісалася і выдавалася тады, калі яшчэ не ўсе цэнзурныя забароны былі зняты і пра многія жахлівыя факты літаратурнай гісторыі мы яшчэ добра не ведалі. Нам жа такую праўду старанна дазіравалі, адкрывалі па кропельцы, калі скрыць яе цалкам было ўжо немагчыма. Уладзімір Андрэевіч мае заўвагі па «Тварэнню легенды» прыняў без пярэчанняў (казаў пра гэта пры сустрэчы), бо ён і сам, па меры таго як гарбачоўская галоснасць набывала пашырэнне, выказваўся пра савецкія парадкі ўсё больш рэзка і бескампрамісна. У яго ж і праўда была натура барацьбіта, якая штурхала на пошукі ісціны, вялікай праўды пра чалавека і свет. Гэтаму была падпарадкавана і яго грамадская актыўнасць, і літаратурная дзейнасць, і педагагічная праца.

А ў заключэнне працытую яшчэ адзін неапублікаваны Калеснікаў тэкст — адрасаваную мне віншавальную паштоўку: «Дарагі Дзмітры Якаўлевіч!

Сардэчна віншую з Новым годам! Няхай не зморваецца Твая працавітая рука і не траціць баявога запалу сэрца!

Абнімаю. Ул. Калеснік.

26. XII. 1987».

Якія харошыя, бадзёрыя, чалавечныя словы! І які нячысцік пастараўся, каб яны загучалі іначай, сталі па кантрасце нагадваць пра незваротныя страты? Бо і маё сэрца праз непрацяглы час ледзь-ледзь выкараскалася з чорнай прорвы (інфаркт з клінічнай смерцю ў 1991-м). А пра смерць, ужо канчатковую, няўмольную, самога Уладзіміра Андрэевіча, якая балюча скаланула не толькі свядомасць, але і ўсё нутро, я пачуў у Бараўлянах, чакаючы непрадказальнай па магчымых выніках аперацыі на страўніку.

Суцяшэнне толькі адно. Зробленае чалавекам такога маштабу, як Уладзімір Калеснік, застаецца нашым духоўным набыткам доўгатэрміновага значэння. Каб нічога, нават драбніцы, не страціць з гэтага набытку, я і падаў усе неапублікаваныя тэксты Калесніка, якія ёсць у мяне, цалкам, без скарачэнняў і знарочыстых умаўчанняў.

*2003 г.*





# З ЛЮБОЎЮ ДА РОДНАГА СЛОВА

Наша мова больш за трыста гадоў знаходзіцца ў неспрыяльным стане, адлік якога пачаўся яшчэ з 1696 года, калі ў тагачаснай аб'яднанай беларуска-польскай дзяржаве Рэчы Паспалітай была прынята пастанова пра забарону пісаць дзяржаўныя дакументы па-беларуску. Гэта вельмі хутка адбілася і на становішчы нашай літаратуры, усёй нацыянальнай культуры. Ціск неспрыяльных абставін на яе то рэзка ўзмацняўся, то паслабляўся, бывала, што і вельмі істотна, але існаваў з тых даўніх часоў заўсёды. Нават тады, калі афіцыйна, але больш на словах, чым папраўдзе, абвяшчалася самая рашучая падтрымка беларушчыны.

А яна, беларушчына, усё дыхае, жыве і з большым ці меншым поспехам развіваецца. Яе развіццё не можа быць спынена, пакуль ёсць беларусы як самастойны этнас са сваёй адметнай ментальнасцю, якая ўжо самім сваім існаваннем узбагачае сусветную культуру, даючы ёй няхай і сціплую, але непаўторную адмысловую фарбу, як гэта робіць і кожны іншы самабытны народ.

Вялікая заслуга ў падтрымцы беларускай культуры, у садзейнічанні яе выжыванню належыць нашым самаахвярным руплівцам, якія прысвяцілі сваё жыццё абароне роднага слова, клопату пра яго захаванасць і нармальнае развіццё. Адным з самых паслядоўных, можна сказаць — апантаных руплівцаў у гэтай святой для нас справе быў Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі (1918—1989). Ён сам у гутарцы з А. Гардзіцкім, якая адбылася ў 1970 годзе, падкрэсліваў: «Кніжкі, якія я выдаў, прысвечаны розным галінам мовазнаўства: дыялектнай лексіцы, фразеалогіі, культуры мовы і стылістыкі... Але ўсё, што рабілася, — рабілася з клопатам пра літаратурную мову, пра яе ўнармаванне, узбагачэнне, выяўленне невычэрпных рэсурсаў беларускай народнай мовы».

Сказана зусім слушна. І тая слушнасць неаднойчы пацвярджалася праніклівымі добрасумленнымі даследчыкамі, якія пісалі пра Ф. Янкоўскага

яшчэ пры ягоным жыцці. Вось характэрнае ў гэтым сэнсе выказванне С. Александровіча, датаванае 1975 годам: «Чалавек гэты [Янкоўскі] не проста збірае скарбы беларускай мовы і народнай творчасці. Ён адкрывае людзям моўныя і фальклорныя багацці свайго народа, дае прыклад, як трэба шанаваць роднае слова, што стваралася і шліфавалася вякамі. Ён сам умее захапляцца і ўмее натхніць тых, хто ідзе ў літаратуру і навуку».

Яшчэ больш лаканічна праз пяць гадоў напісаў М. Тычына: «Любоў да роднага слова складае сэнс усяго жыцця Фёдара Янкоўскага».

А яно ў Фёдара Міхайлавіча было поўным нялёгкіх выпрабаванняў і небяспекі, якая шмат разоў пакідала свае балючыя адмеціны ў лёсе рупліўца. Не буду падрабязна казаць пра тое, што яшчэ юнаку Янкоўскаму давялося спазнаць цяжар фізічнай працы, бо рос ён у вялікай сялянскай сям'і (на дзесяць душ), дзе змалку цанілі кавалак хлеба і вучылі здабываць яго толькі сумленна.

Таленавіты і настойлівы ў дасягненні мэты хлопец здолеў прабіцца да адукацыі. У васямнаццацігадовым узросце ён скончыў Рагачоўскі белпедтэхнікум (1936) і атрымаў настаўніцкую пасаду на Міншчыне. Тады ж стаў завочна вучыцца ў Мінскім настаўніцкім інстытуце.

Вайна для Фёдара Янкоўскага пачалася ў 1939 годзе — з нападу Савецкага Саюза на Фінляндыю, якая аказала ўпартае супраціўленне сталінскай агрэсіі і здолела адстаяць сваю незалежнасць, хоць і панесла некаторыя тэрытарыяльныя страты.

Зіма 1939/40 гадоў, калі вялася тая вайна супроць Фінляндыі, выдалася асабліва марознай. Тады Янкоўскі намёрзся як ніколі. Ён быў цяжка паранены і ледзьве выжыў. Урэшце яму ўручылі белы білет, які сведчыў пажыццёвую непрыгоднасць да вайсковай службы. Але ў першыя дні Айчыннай вайны гэты белабілетнік прымаў самы актыўны ўдзел ва ўзброенай барацьбе супроць гітлераўцаў. Тады ён стаў начальнікам коннай разведкі партызанскага атрада. А на яе долю выпадалі самыя рызыкоўныя сітуацыі, нечаканыя баявыя сутычкі. Выжыць у такіх умовах было рэдкай удачай. Цяпер падлічана працягласць жыцця на перадавой. Для салдата яна складала менш за суткі, для камандзіраў: узвода — тры дні, роты — сем дзён, батальёна — адзінаццаць, палка — дваццаць.

Гэты падлік датычыць вайны франтавой. Але партызанская вайна патрабавала ніяк не меншай рызыкі. Ды лёс збярог Фёдара Янкоўскага і ў такой калатнечы. Але цана выжывання была вялікай і для яго. Згадваючы свае дзве вайны, Янкоўскі са скрухай зазначаў: «Першая пакінула ў целе больш за дваццаць асколкаў, другая адабрала маіх родных-крэўных [загінула чацвёра Янкоўскіх: Карп, Сава, Вольга, Інэса. — *Д. Б.*], маіх сяброў, вучняў, знаёмых. Вайна парадніла мяне не з адным дзясяткам дарагіх людзей».

Апошнія словы добра выяўляюць аптымізм аўтара, яго ўменне знаходзіць нешта суцяшальнае і там, дзе пераважае драматычны пачатак.

У пасляваенныя гады Фёдар Янкоўскі скончыў Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы (1948), потым аспірантуру пры Мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага (1954).

З гэтым інстытутам, які цяпер мае назву БДПУ імя Максіма Танка, звязана ўся далейшая праца Ф. Янкоўскага. Тут ён з 1953 года быў выкладчыкам беларускай мовы, у 1956—1982 гадах узначальваў кафедру беларускага мовазнаўства, якая пры Янкоўскім стала адным з вядучых навуковых цэнтраў філалогіі ў рэспубліцы.

Аднойчы Ф. Янкоўскі прыгадваў, што гэтая кафедра, супрацоўнікі якой у 1956 годзе надрукавалі толькі тры артыкулы, «у апошнім навучальным годзе апублікавала больш за дваццаць артыкулаў і адзінаццаць кніг, сярод якіх падручнікі для школ, дапаможнікі для студэнтаў-філолагаў і настаўнікаў, слоўнікі, манаграфіі.

Гады працы ў гэтым калектыве — мае добрыя гады. Узаемная павага і падтрымка, шчырыя адносіны да працы, да роднага слова забяспечылі калектыву пэўныя поспехі». Гэта напісана Янкоўскім у лютым 1972 года. Вялікія поспехі ўзначаленага ім калектыву ён назваў толькі пэўнымі з-за сціпласці. Па той жа прычыне не падкрэслівалася, што такі спрыяльны мікраклімат у калектыве педінстытуцкіх беларусазнаўцаў ствараўся найперш намаганнямі кіраўніка, які дасягнуў поспеху ў гэтым кірунку дзякуючы і сваёй чалавечнасці, і вялікаму навуковаму аўтарытэту.

З 1983 года Фёдар Міхайлавіч адмовіўся ад кіраўніцтва кафедрай, але да канца сваіх дзён заставаўся яе супрацоўнікам на пасадзе прафесара, якім быў з 1970 года.

Працуючы ў Мінскім педінстытуце, ён абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі, стаў заслужаным дзеячам навукі Беларусі.

Ягоная пісьменніцкая праца пачыналася спакваля, без вялікіх прэтэнзій і амбіцый і вылівалася ў нарысы, абразкі, эцюды. А потым склаліся і кнігі: «Абразкі» (1975), «Прыпыніся на часіну» (1979), «І за гарою пакланюся» (1982), «Радасць і боль» (1984), «Само слова гаворыць» (1986), «З нялёгкіх дарог» (1988). Апошняе з прыгаданых тут прыжыццёвых выданняў прозы Янкоўскага — гэта ёмістая кніга яго выбраных твораў. А зборнік «Само слова гаворыць» мае падзагаловак «Філалагічныя эцюды, абразкі, артыкулы». Ён вельмі дакладны.

Лінгвістычнымі нататкамі называў абразкі Фёдара Янкоўскага Сцяпан Александровіч. Гэта таксама трапнае акрэсленне. Увогуле, замалёвачнасць уласцівая абразкам па вызначэнню.

Абразкі, створаныя Ф. Янкоўскім, звычайна выраставі з дакладнага і падрабязнага апісання нейкага канкрэтнага факта, уражання ад яго. Ці ўзнікалі як роздум над недзе пачутым або ўспомненым каларытным словам. Пры гэтым нярэдка ўзгадваліся ўсе акалічнасці, пры якіх тое слова было пачута, адзначалася, як выглядаў чалавек, што вымаўляў яго, дзе ён жыў і які меў лёс, як ставіўся да аўтара замалёўкі. Усё падавалася цікава і любасна-захоплена. Асабліва каларытнае слова нярэдка проста смакавалася, паварочвалася то адной, то другой гранню, а ўрэшце і праўда само пачынала гаварыць з такой выразнасцю, што не захапіцца ім, чытаючы абразок, можа хіба што зусім глухі да слова чалавек.

Уменнем пераканальна паказаць хараство народнай мовы, здольнасцю бясконца любавацца беларускім словам, сапраўды каларытным, як казаў сам Янкоўскі, гаваркім, забяспечаным сэнсавай глыбіннасцю і эмацыянальнай змястоўнасцю, калі гэтае слова пастаўлена на сваім месцы, прамоўлена дарэчы і са смакам, — усім гэтым Ф. Янкоўскі ў нас вылучаўся асабліва. А сярод вучоных-філолагаў ён тут увогуле не меў сабе роўных.

Хораша пісаў ён і некаторыя нарысы. Адзін з іх прысвечаны Янку Брылю, з якім Фёдара Янкоўскага звязвала трывалае непаказное сяброўства. Той нарыс апублікаваны пад загалоўкам «Ідзе хораша, сумленна, смела». І ўжо самім гэтым загалоўкам вызначаны эмацыянальны тон гаворкі. Яна падкупляе сваёй натуральнасцю, свабодай выяўлення асобы нарысіста і той даверлівасцю, якую за яе гранічную шчырасць можна назваць спавядальнасцю.

Свабода і раскаванасць, з якімі напісана пра Янку Брыля, звязаны, можа, найперш з вельмі блізкім веданнем пісьменніка, якое абумовіла дакладнасць усяго, што сказана ў нарысе.

Але зрэдку Фёдар Янкоўскі браўся пісаць і пра тое, што ведаў прыблізна. Ён тонка разумеў мастацкую літаратуру, пра творчасць шэрагу пісьменнікаў выказваўся арыгінальна і змястоўна, але прафесійным літаратуразнаўцам ён усё ж не быў і маштабы зробленага канкрэтнымі літаратуразнаўцамі, іх практычныя справы і стасункі ўяўляў прыблізна. І гэта яскрава выявілася, напрыклад, у нарысе «Па бацьку пазнаюць сыноў». Нарыс увайшоў у кнігу «Прыпыніся на часіну». Прысвечаны ён М. Р. Ларчанку і нібыта выпеставаным ягонымі намаганнямі і клопатамі літаратуразнаўцам. Але нацяжкі тут ідуць скрозь. А ў выніку воблік Ларчанкі атрымаўся яўна ідэалізаваным, яго роля ў нашым літаратуразнаўстве вельмі істотна перабольшана.

«Міхась Ларчанка гадаваў і выхоўваў, ствараў і стварыў цэлы вялікі калектыў, дружны і працавіты, літаратараў — літаратуразнаўцаў, гісторыкаў літаратуры, крытыкаў, вучоных педагогаў», — піша Ф. Янкоўскі, маючы на

ўвазе тагачасную кафедру беларускай літаратуры ў БДУ. Кафедра і на самой справе ўжо тады была моцнай. І Ларчанка быў на пасадзе яе загадчыка даволі працяглы перыяд. Ён вызначаўся сваёй памяркоўнасцю і добразычлівасцю, у 1956 годзе абараніў доктарскую дысертацыю (тады доктарам філалогіі па беларускай літаратуры ў нас быў яшчэ толькі Васіль Барысенка) і часта выступаў афіцыйным апанентам у многіх нашых навукоўцаў, спрыяючы тым самым іх новым поспехам. Словам, тут значная заслуга М. Ларчанкі відавочная і неаспрэчная.

Але кафедрай Міхась Ларчанка кіраваў, здаецца, не найлепшым чынам. Тое, што сюды прыходзілі выдатныя літаратуразнаўцы (І. Навуменка, А. Лойка, значна пазней С. Александровіч, Р. Семашкевіч, В. Рагойша), не заўсёды было заслугай загадчыка. Урэшце ж, БДУ і сам па сабе меў вялікую прыцягальнасць. І сюды імкнуліся такія таленавітыя людзі, якіх у большасці выпадкаў проста нельга было не ўзяць на працу. Міхась Рыгоравіч іх урэшце браў. І дзякуй яму за гэта!

Але ўжо і на маёй памяці ў давер да Ларчанкі ўціраліся і карысталіся яго падтрымкай асобы прайдошлівыя, да педагагічнай і навуковай працы зусім не здольныя. Пра аднаго з іх, абазначанага ініцыяламі А. П., мне ўжо даводзілася пісаць з другой нагоды. Не буду цяпер усё паўтараць, а скажу толькі, што ён паўгода рыхтаваў лекцыю, якую павінны былі наведаць члены (цяпер кажуць сябры) кафедры, каб ацаніць выкладчыцкія здольнасці новага супрацоўніка. А Ларчанкаў пястун за 45 хвілін вычарпаў усе свае веды па тэме заняткаў, астатні час (зноў 45 хвілін) з вялікай натугай паўтараў тое, што сказаў раней. Ды яшчэ рабіў пры гэтым жахлівыя памылкі.

Спрабаваў той А. П. пісаць і дысертацыю. Ягоным кіраўніком быў Ларчанка. Ён, на наша здзіўленне, прыхільна паставіўся да бездапаможнай пісаніны А. П., у якой І. Навуменка выявіў і злёгку замаскіраваны плагіят-перакручванне. Толькі пасля гэтага кафедра ад А. П. пазбавілася.

Затое Міхась Рыгоравіч адпрэчыў добрага пісьменніка Міколу Лобана, які хацеў у БДУ чытаць курс беларускай літаратуры.

А колькі важданіны было з тым жа Р. Семашкевічам. Начальства коса глядзела на яго з-за яршыстасці хлопца, вастрыні ягоных крытычных выказванняў (не ў друку). Дысертацыю ж ён падрыхтаваў талковую. Я пісаў на яе афіцыйны кафедральны водзыў, вядома, станоўчы. Ларчанка да абароны дапусціў Семашкевіча з вялікім скрыпам і пасля працяглай валакіты, пераадолець якую ўдалося з цяжкасцю.

Такія «праколы» (я згадаў не ўсе з іх) сведчаць, што шаноўны Міхась Рыгоравіч у ацэнцы прафесійных якасцей навукоўцаў і педагогаў не заўсёды быў на вышыні. Яму яўна не ставала ўмення адрозніваць сапраўды таленавітых людзей ад пустых, але дагодлівых балбатуноў.

Гэта магло мець вельмі сумныя вынікі. Але іх не здарылася таму, што на кафедры, прынамсі, ужо на маёй памяці, вырашальнае слова належала І. Навуменку і А. Лойку. Гэтых хлопцаў на мякіне правесці нельга было, бо яны выразна бачылі, хто чаго варты.

Міхась Рыгоравіч мусіў мірыцца з такім становішчам. І ад загадвання кафедрай ён адмовіўся ў 64 гады. У тыя часы пра абмежаванні на кіраўнічыя пасады па ўзросце яшчэ ніхто і не заікаўся. Ды, здаецца, і цяпер кіраваць можна да 65 гадоў без паблажак ці скідак, пры якіх у нас можна заставацца кіраўніком пажыццёва.

Ды вярнуся да Фёдара Янкоўскага. Уласцівае яму глыбіннае і разам з тым вельмі тонкае разуменне хараства роднай мовы выявілася ў ягонай асаблівай прыхільнасці да фразеалогіі. І гэта невыпадкова. Бо якраз тут арыгінальнасць любой мовы, яе адметнасць праяўляецца найбольш ярка. Фёдар Міхайлавіч адчуваў гэта нутром, усёй сваёй чалавечай сутнасцю. Таму ў сваёй складальніцкай практыцы Янкоўскі нязменна шчыраваў і ў гэтым кірунку. Ён стаў складальнікам кніг: «Крылатыя словы і афарызмы: З беларускіх і літаратурных крыніц» (1960), «Беларускія народныя параўнанні: Кароткі слоўнік» (1973). У тым жа 1973 годзе выйшаў «Фразеалагічны слоўнік», складзены Ф. Янкоўскім разам з Н. Гаўрош, І. Лепешавым. Прыкладна з сярэдзіны 1970-х гадоў Янкоўскі стаў рэдагаваць практычна ўсе беларускія выданні прац па фразеалогіі і іншых устойлівых выслоўях.

Шмат увагі аддаваў ён яшчэ з маладых гадоў збору і публікацыі беларускіх прыказак і прымавак, у якіх акумуліравана глыбінная мудрасць народа, праверaная шматвяковым вопытам.

Першы іх салідны зборнік выйшаў у 1957 годзе пад назвай «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі». У 1962 годзе выданне было паўторана ў абноўленым і пашыраным выглядзе. Складальнік крыху змяніў тады і загаловак. Кніга атрымала назву «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы. Выданне другое, дапоўненае». Дапаўненні былі вельмі істотнымі — у кнігу ўключалася звыш дзвюх тысяч прыказак, прымавак і фразеалагізмаў, якія адсутнічалі ў першым выданні.

Зроблена кніга 1962 года на самым высокім прафесійным узроўні. Тут ёсць прадмова М. Р. Судніка, тады дырэктара Інстытута мовазнаўства АН БССР. Суднік узначальваў гэты інстытут чвэрць стагоддзя. Ён быў прызнаным спецыялістам па лексікалогіі і лексікаграфіі, грунтоўна вывучаў таксама беларускія прыказкі і прымаўкі. Пра іх адметнасць, ролю ў моўнай практыцы народа Суднік напісаў дасведчана, з добрым веданнем справы. Таму тая прадмова з цікавасцю перачытваецца і цяпер. Удакладнення тут патрабуе толькі гаворка пра стан даследаванасці і публікацыі беларускіх прыка-

зак і прымавак. Тады, як пісалася Суднікава прадмова, беларускія прыказкі і сапраўды былі вывучаны мала. Але за сорак з лішнім гадоў, што мінулі з той пары, становішча істотна перамянілася. Паявіліся новыя зборнікі, некаторыя з грунтоўным аналізам. Назаву хоць бы ёмістую кнігу А. Аксамітава «Прыказкі і прымаўкі. Тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак з архіваў, кафедральных збораў, рэдкіх выданняў XIX і XX стст. 2002, 2-е выд.».

Багата прыказак, сабраных аўтарам на Мсціслаўшчыне, прадстаўлена з фіксацыяй моўнага кантэксту ў кнізе Г. Ф. Юрчанкі «Народнае мудраслоўе» (2002), у трох выпусках «Дыялектнага слоўніка» Ф. Янкоўскага (два з іх выйшлі яшчэ ў 1959 і 1960 гадах, трэці – у 1970-м), у яго ж, Янкоўскага, «Беларускай фразеалогіі» і іншых кнігах аўтара. У 1996 годзе выдалі слоўнік беларускіх прыказак І. Я. Лепешаў, М. А. Якалцэвіч. Іх аб'ёмная кніга перавыдавалася ў 2002 годзе. Ёсць і шэраг іншых зборнікаў нашых прыказак, якія тут няма патрэбы пералічаць, бо яны з адпаведнай ацэнкай згадваюцца ў напісанай у 1961 годзе прадмове Ф. Янкоўскага да другога выдання, якая, як і само выданне, перадрукоўваецца цяпер.

Цікавы зборнік прыказак і прымавак пад назвай «Паслухай, што людзі кажуць» выдаў у 1984 годзе В. Рабкевіч, які ў «Слове да чытача» падкрэсліў, што стаў збіраць гэтыя ўзоры народнай мудрасці пад уплывам свайго настаўніка Ф. Янкоўскага.

Нямала сапраўды народных прыказак і прымавак, а таксама прыгаворак-зычанняў, народных параўнанняў і іншых мудраслоўяў ёсць у складзенай Нілам Гілевічам кнізе «Народныя казкі-байкі, апавяданні, мудраслоўі» (1983) з серыі «Беларускі фальклор у сучасных запісах», якая рыхтавалася ў БДУ пад кіраўніцтвам паэта.

Без дадатковых каментарыяў перадрукоўваецца цяпер «Слова складальніка» (Ф. Янкоўскага) да першага выдання «Беларускіх народных прыказак і прымавак», змешчанае і ў зборніку 1962 года. Яно датуецца яшчэ 1956 годам, але і цяпер цалкам захоўвае сваю каштоўнасць. Тое ж можна сказаць і пра «Слова складальніка да другога выдання», напісанае 17 лістапада 1961 года.

Завяршаецца кніга «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы» «заўвагамі і тлумачэннямі», у якіх Янкоўскі даў надзвычай каштоўны каментарый да прадстаўленых у зборніку твораў. Гэты каментарый узнаўляецца з невялікімі скарачэннямі.

Тлумачэння патрабуе тое, чаму для перадруку ўзята менавіта другое выданне кнігі «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы». Праца ж Ф. Янкоўскага мела і трэцяе выданне. Яно выйшла ў 1992 годзе, праз тры

гады пасля смерці аўтара-складальніка. У падрыхтоўцы трэцяга выдання сам Янкоўскі ніякага ўдзелу не прымаў. Яно падрыхтавана жонкай (тады ўжо ўдавой) Фёдара Міхайлавіча Серафімай Андрэеўнай (яна была прафесійным філолагам, цяпер таксама нябожчыца), дачкой Інай Фёдараўнай і супрацоўніцай Янкоўскага па кафедры беларускага мовазнаўства Нінай Васільеўнай Гаўрош (цяпер прафесар БДПУ імя Максіма Танка).

Трэцяе выданне друкавалася праз трыццаць гадоў пасля другога. С. Янкоўская разам з І. Янкоўскай і Н. Гаўрош істотна перагледзелі кнігу, значна павялічылі яе памер, але скарацілі пры гэтым некаторыя раздзелы як яўна не сугучныя новаму часу. Выданне пазначана як «дапрацаванае, дапоўненае». Праўда, пры дапаўненні не абышлося ў асобных выпадках без пэўных «накладак». Так, у раздзеле «Вялікая Айчынная вайна» паявіліся псеўдапрыказкі: «Гітлеры ды Чэрчылі не раз ад злосці (зайздрасці) енчылі»; «Гітлеры ды Чэрчылі — чэрці адной шэрсці».

У прыжыццёвых выданнях Ф. Янкоўскага гэтых псеўдапрыказак няма. Відаць, таму, што ў іх скажалася гістарычная праўда. Як вядома, Чэрчыль быў адным з самых паслядоўных праціўнікаў Гітлера і ўнёс вялікі ўклад у перамогу над ім. Такія псеўдапрыказкі стваралiся не народам і не ў Айчынную вайну. Іх у перыяд пазнейшай халоднай вайны паміж Савецкім Саюзам і заходнімі дэмакратычнымі дзяржавамі, былымі саюзнікамі па антыгітлераўскай кааліцыі, прыдумвалі, выконваючы заказ нашых тагачасных ідэалагічных службаў, супрацоўнікі выданняў тыпу «Блакнота агітатара».

І яшчэ. Для пасмяротных перадрукаў звычайна бярэцца апошняе прыжыццёвае выданне, калі аўтар меў да яго непасрэднае дачыненне. Такім для кнігі «Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы» з'яўляецца другое выданне. Яно было дбала і вельмі ўдумліва падрыхтавана менавіта самім аўтарам-складальнікам Ф. Янкоўскім, хоць без пэўных уступак патрабаванням ідэалагічнай цэнзуры не абышлося і ў яго. Гэта асабліва прыкметна ў раздзелах: «Камуністычная партыя, вялікі Ленін», «Кастрычніцкая рэвалюцыя. Грамадзянская вайна», «Савецкая Айчына. Новае жыццё», «Калектывізацыя. Калгасная праца», «Супраць падпальшчыкаў вайны, ворагаў Савецкай Радзімы», «Рэлігія і яе сутнасць. Рэлігійныя прыслужнікі». Гэтыя раздзелы і каментарыі да іх цяпер апускаюцца, бо яны ўзніклі ў выніку жорсткага ідэалагічнага дыктату, без якога ў нас пры бальшавіках, прынамсі ў гуманітарнай сферы, нічога не выдавалася.

Дарэчы сказаць, згаданыя раздзелы, за выключэннем аднаго, зняты ў трэцім выданні. Але адназначна адмоўнае асвятленне рэлігійных пытанняў там яшчэ пакідалася. Цяпер жа ніяк не выпадае перадрукоўваць тэндэнцыйна падабраныя з-за тагачаснага ідэалагічнага ўціску матэрыялы, у

якіх у адпаведнасці з жорсткай бальшавіцкай дагматыкай адмаўляецца цывілізатарская роля рэлігіі, яе пропаведзь дабрыні і чалавечнасці, клопат пра духоўнасць людзей, іх душэўнае здароўе.

Такім чынам, усе скарочаныя цяпер раздзелы з кнігі Ф. Янкоўскага (памерам яны невялікія) былі вымушанай данінай складальніка ідэалагічным устаноўкам савецкай таталітарнай дзяржавы. Яму хочаш не хочаш, а даводзілася ісці за абавязковымі патрабаваннямі ідэалагічнай цэнзуры.

Ф. Янкоўскі выдатна ведаў, што сапраўды народныя прыказкі праходзяць працяглую, а то і шматвяковую апрабацыю. І таму яны з'яўляюцца згусткамі народнага вопыту, народнай мудрасці і праўды. А якая праўда была ў такіх паспешліва скляпаных па ідэалагічным заказе выслоўях з апушчаных цяпер раздзелаў: «Ад ленінскай навукі мацнеюць розум і рукі», «Да шчасця і свабоды вядзе партыя народы», «Голас партыі — голас міру». Тут усё крыкам крычыць пра грубую падтасоўку. Бо па ленінскай (а потым сталінскай) навуцы з яе пропаведдзю найлюцейшай класавай барацьбы рукі мільёнаў ні ў чым не вінаватых людзей закоўваліся ў кайданы ці атрымлівалі лапату, кірку, кайло, адбойны шахцёрскі малаток, пілу і сякеру для прымусовай працы да поўнага знясілення. Свабода і сапраўднае, вялікае ў грамадскім сэнсе шчасце прыдаўленаму народу тады маглі толькі сніцца, а апантаныя прагай навязаць камуністычную ўтопію ўсяму свету крамлёўскія «міралюбцы» бальшавіцкай закваскі вялі такую шалёную гонку ўзбраенняў, што ўрэшце разарылі краіну з велізарнымі прыроднымі багаццямі і магутным чалавечым патэнцыялам.

Усё, што рабіў Фёдар Янкоўскі ў мовазнаўстве, у збіральніцкай і складальніцкай працы, у мастацкай літаратуры, натхнялася такой любасцю да роднага слова, якая рэдка сустракаецца ў асяроддзі чыстых навукоўцаў і нават пісьменнікам уласцівая не ўсім, а толькі сапраўды значным, арыгінальным майстрам.

Ён і почырк меў вельмі прыгожы, а свае кнігі падпісваў часамі з такімі аздабленнямі некаторых літар, што імі можна любавацца.

У мяне захавалася некалькі ягоных кніг з аўтографамі. І ўсе яны падпісаны так, што іх можна дэманстраваць на выстаўцы. І змест у подпісах вельмі прыязны, пранікнёна-шчыры. З подпісу ў кнізе «Само слова гаворыць» вылучу радок «З удзячнасцю душы і сумлення». А вось разгорнуты аўтограф з кнігі «Радасць і боль»: падаю яго з разбіўкай на радкі, зробленай Янкоўскім.

«Дарагому
Дзмітрыю Бугаёву
з нязменнай
Прыязнасцю, сімпатыяй!

З нязменнаю цеплынёю
Ад гэткіх кароценькіх
нашых (што іншы раз
не адразу і сам адчую, улаўлю)
філалагічных
                сустрэч!
З Богам, Чалавек!
Надоўга, надоўга Вам
Вашай някідкай філалагічнай цеплыні, вернасці.
Шчыра Ф. Янкоўскі».

Яму хацелася, каб была нейкая прыгажосць і ў самім размяшчэнні радкоў, ключавых слоў у іх. А сустрэчы ў нас і праўда былі філалагічнымі пры любых абставінах: і ў кнігарні (найчасцей), і ў інтэрнацкім калідоры (у мае аспіранцкія часы мы жылі ў педінстытуцкім інтэрнаце па вуліцы Кірава), і проста на вуліцы, найбольш на праспекце, які цяпер носіць імя Францішка Скарыны, звычайна ў адрэзку ад педінстытута да Купалаўскага сквера.

Сардэчны ён быў чалавек. І я рады, што на маю долю выпала блізкае знаёмства з ім. Шкадую толькі, што пры ягоным жыцці да мізэрнага мала пісаў пра яго працы, хаця вусных размоў пра іх было мноства. Напісаў жа больш-менш грунтоўна толькі адзін раз: з мовазнаўцам А. Баханьковым мы рэцэнзавалі першы выпуск «Дыялектнага слоўніка» Янкоўскага. Рэцэнзія называлася «Хараство народнага слова», друкавалася ў «ЛіМе». І Фёдар Міхайлавіч быў ёю задаволены, шмат разоў гэта падкрэсліваў. Ён умеў быць удзячным за кожнае шчырае слова, асабліва калі яно было пахвальнае, за ўвагу і павагу да той справы, якой сам аддаваў усю сілу свайго таленту, увесь жар сваёй надта добрай, трапяткой душы.

*2004 г.*





# ЖЫЦЦЁМ ІДУЧЫ...
## (старонкі ўспамінаў)

Напісаць больш-менш падрабязную аўтабіяграфію для друку мне прапаноўвалі неаднаразова. Асабліва настойліва рабіў гэта Янка Казека, калі рыхтаваў цяпер добра вядомыя кнігі пісьменніцкіх жыццяпісаў. Я не менш настойліва адмаўляўся. І не толькі з-за сціпласці, але і таму, што не бачыў магчымасці расказаць пра сябе праўдзіва, без вымушанага ўтойвання істотных момантаў. Увогуле, думалася мне, такія рэчы лепш за ўсё пісаць на схіле дзён і, вядома, з гранічнай шчырасцю, без вымушанай аглядкі на розныя акалічнасці. Бо толькі праўдзівыя сведчанні няхай сабе і звычайных людзей могуць мець нейкую каштоўнасць, праліваць пэўнае святло на час і яго норавы.

Цяпер такая пара, здаецца, прыйшла. Бо, па-першае, ёсць магчымасць выказвацца свабодна, без апаскі, што за тваю шчырасць цябе ж і будуць цягаць, а то і зусім сапсуюць табе жыццё. А па-другое, адкладваць на будучае я ўжо нічога не магу, бо не ведаю, ці ёсць яно ў мяне, тое будучае, ці адолею я страшную хваробу, якую выявілі ў мяне ў канцы мінулага года. Дактары з Бараўлянаў, якія выразалі мне дзве трэці страўніка, кажуць, што пэўную адтэрміноўку я яшчэ буду мець. Але цвёрдай веры ім у мяне няма.

Аўтабіяграфію пачну, як і звычайна гэта робіцца, з нараджэння. Ва ўсіх афіцыйных даведніках пазначана, што нарадзіўся я 12 студзеня 1929 года ў в. Сычык Крычаўскага раёна. Дакладная тут толькі дата нараджэння. Усё астатняе патрабуе ўдакладнення.

Пра дату, яе правільнасць кажу вельмі ўпэўнена. Бо ў мяне захавалася яшчэ даваеннае пасведчанне аб нараджэнні, выдадзенае 18 жніўня 1936 года. У нас яно называлася метрыкамі. Па гэтых метрыках мяне прымалі ў школу. У 1941 годзе, калі перад самым прыходам гітлераўцаў нашу школу рабавалі, мае метрыкі знайшоў сярод раскіданых абы-як і ўжо, здавалася, нікому не патрэбных папер Іван Міхайлавіч Фралоў, мой траюрадны брат, старэйшы

на некалькі гадоў. Хлопец падумаў, што ўсё ж гэта дакумент, і на ўсякі выпадак прынёс яго мне. Тыя метрыкі потым сапраўды шмат разоў мяне выручалі.

Яны цікавыя і як штрых да характарыстыкі часу. Бо бланк аддрукаваны яшчэ на беларускай мове, але запоўнены ў асноўным па-руску, прычым з памылкамі. Кідаюцца ў вочы і яўныя беларусізмы, таксама пададзеныя непісьменна: само пасведчанне называецца «О нарожденні (дарэчы, «О» замест «Аб» тут друкарскае, значыць, памылка была і ў бланку), запаўнялася папера 18 «жнівня», прадстаўлялася яна в «навуковыя установы». Словам, справавод (яго прозвішча напісана неразборліва) добра не ведаў ні беларускай, ні рускай мовы. Даўняя трагедыя многіх нашых «грамацеяў», тых псеўдаінтэлігентаў, якіх А. Салжаніцын называў прадстаўнікамі «образованщины».

І яшчэ. Пераважнасць рускамоўнага тэксту ў беларускім па задуме дакуменце наводзіць на думку, што ўжо тады пачынала згортвацца беларусізацыя, хоць сама наша школа, для якой і выдаваліся тыя метрыкі, была беларускай. Выкладанне ўсіх прадметаў, за выключэннем, вядома, рускай мовы і літаратуры, вялося на роднай мове. І нам гэта падабалася.

Але я забег далекавата наперад. Пра дакладнасць даты майго нараджэння, зафіксаванай у тых даваенных метрыках, сведчаць і неаднаразовыя матчыны згадкі, паводле якіх я нарадзіўся ў каляды. А па новым стылі гэта ў праваслаўных, да якіх належалі і мае бацькі, якраз студзень.

Затое месца нараджэння ў афіцыйных даведніках падаецца недакладна. На самой справе я паявіўся на гэты свет зусім не ў Сычыку, а ў в.Губіншчына. Так, здаецца, гаварыла маці. Так запісана і ў маіх метрыках.

Там жа ідзе і наступны запіс пра бацькоў: «отец: Бугаев Яков Якимович; мать: Бугаева Гапка Антоновна».

Афіцыйнае імя маці — Агаф'я. Але ў вёсцы яе сапраўды звалі Гапкай. І гэта добрасумленна адлюстраваў сельскі справавод. І мяне, і ўсіх братоў, і нашу сястру таксама называлі Гапчынымі дзецьмі. Гэта было зусім справядліва, бо ў цяжкія часы нас ратавала менавіта маці. У бацькі такой магчымасці проста не было.

А што да Губіншчыны, дык гэта старая і некалі вялікая беларуская вёска на мяжы з Крычаўшчынай. Адным сваім канцом яна выходзіла да ракі Воўчас (прыток Сожа). Тады Губіншчына належала не да Крычаўскага, а да Чэрыкаўскага раёна. Была яна ў складзе Горкаўскага сельсавета, тэрыторыя якога ў перыяд хрушчоўскага ўзбуйнення адміністрацыйных адзінак далучалася да суседняга Бацвінаўскага сельсавета, бо і сам Чэрыкаўскі раён тады скасоўваўся, дакладней, уключаўся ў склад Крычаўскага. Пазней наш раён быў адноўлены, але Горкаўскі сельсавет ужо не аднаўляўся. Так наша мясцовасць і засталася ў Крычаўскім раёне, а я стаў ураджэнцам Крычаўшчыны.

Старая Губіншчына адчувала перанаселенасць, бо не толькі ў коласаўскіх мікалаеўцаў былі «цесна збіты нашы хаты, як авечкі ў летні жар». Калі здараўся пажар, дык ён і ў губіншчанцаў вынішчаў не адну хату і гаспадарку. Адзін раз гарэў набытак і маіх бацькоў. Я сам гэтага не памятаю (мусіць, не пры мне тое было), але ведаю з успамінаў маці.

У 1920-я гады мясцовыя ўлады ў адпаведнасці з агульнай бальшавіцкай палітыкай заахвочвалі стварэнне хутароў і пасёлкаў. Сталі падавацца на больш вольны прастор і многія губіншчанцы. Так узніклі пасёлкі Асінаўка, Падабак, Ліпкі, Майскі, Чырвоны, Сычык і іншыя. Усе яны ствараліся перасяленцамі з Губіншчыны.

Мае бацькі і яшчэ пяцёра гаспадароў пабудаваліся ў пасёлку, які атрымаў назву Быкоўка. Магчыма, па мянушцы майго бацькі і яго малодшага брата Яшкі, якіх чамусьці дражнілі не бугаямі, а быкамі. «Быкаў брат», — казалі і на мяне, калі я са старэйшым братам трапляў у гурт большых хлопцаў.

У літаратурным асяроддзі ўжо ў Мінску пра гэтую мянушку, канечне ж, не ведалі, аднак прыдумалі ўвогуле няхітрую хохму, нібыта я напрошваўся ў «Маладосці» напісаць рэцэнзію на кнігу Васіля Быкава. Але там адмовілі, зазначылі, што сваякам рэцэнзіі не заказваюць. На самой справе я рэцэнзаваў першы быкаўскі зборнік у гэтым часопісе. Але вострых на язык «братоў па літаратуры» спакусіла нагода абыграць сэнсавую сугучнасць прозвішчаў.

Наша Быкоўка была размешчана каля маляўнічага і тады досыць глыбокага балота, у якім яшчэ і на маёй памяці вадзіліся качкі, кулікі (у нас іх называлі дзікімі баранамі), зрэдку пракідаліся журавіны. Побач быў добры лес. У ім раскашавалі магутныя дубы і вельмі прыгожыя клёны, якія давалі дужа смачны сок — кляновік. Гэтыя дрэвы падыходзілі да самых хат, а ў Яшкі дык раслі і на двары. (Ягонае селішча было крайнім ад лесу.) Памятаю таксама тоўстыя бярозы, ад якіх ранняй вясной набіралі поўныя вёдры бярозавіку. Восенню чырванелі вялікімі гронкамі ладныя рабіны. У розныя поры года радаваў вока гаманлівы асіннік, вусцішна шумеў пры ветраным надвор'і змрочны ельнік. Мясціны былі багатыя на грыбы, у тым ліку на баравікі. На сонечных прагалах расло шмат суніц.

Пазней усё гэта знікла. Бо лес бязлітасна вынішчылі. Спрабавалі асушаць і балота. Ваду спусцілі ў лагчыну пад назвай Яросвін. Але ўрадлівага поля на месцы былой балотнай раскошы чамусьці не атрымалася. Нават добрая трава там не хацела расці. Буяла толькі грубая асака, якую не жадалі есці ні коні, ні каровы, ні авечкі. Скошаная, гадзілася яна толькі на подсціл жывёле ды зрэдку ішла на сечку, калі з нармальным сенам станавілася тугавата.

У Быкоўцы, яшчэ не спаганенай людской прагнасцю, і прайшло маё дзяцінства, шчодрае толькі на ўражанні ад прыроднага хараства навакольных мясцін, якое, мусіць, заўсёды будзе хваляваць жывую чалавечую душу.

Засмучала, здаецца, адно — у бацькі не было сапраўднага саду. Думаю, што ён з мужыцкай практычнасцю бярог зямлю на прысядзібным пляцы для больш рацыянальных патрэб — для бульбы, канопляў і, вядома, гародніны.

Каля самай хаты і гаспадарчых пабудоў ды каля плота, якім агароджвалася сядзіба ад дарогі праз пасёлак, расло некалькі вялікіх і вельмі ўраджайных кустоў іргі (яе часам завуць беларускім вінаградам), шэраг сліў і тры моцныя ігрушы-паўдзічкі, надта прыгожыя ў шчодрай квецені вясною. Яны таксама кожнае лета давалі багата пладоў, якія станавіліся прыдатнымі для яды пасля добрай лёжкі. А яшчэ іх можна было сушыць, што маці заўсёды і рабіла. Сялянская печ для гэтага вельмі падыходзіла. Зімою тыя сушаныя грушы былі ці не найбольшымі нашымі прысмакамі.

З Быкоўкі нам, аднак, давялося пераязджаць. Недзе ў 1939-м ці 1940-м годзе. Перасяленне было вымушанае. «Родная савецкая ўлада», якая ўсё за нас рашала, тады ўзялася ліквідоўваць тыя пасёлкі, якія сама ж некалі і арганізоўвала ці, прынамсі, заахвочвала.

Але вярталіся мы ўжо не ў Губіншчыну, а на недалёкае ад Быкоўкі поле паміж пасёлкамі Сычык і Чырвоны. У гэты прамежак сцягнулі і яшчэ некалькі пасёлкаў, так што ў канчатковым выніку атрымалася адна ладная вёска на пяцьдзесят з лішнім двароў, якая стала і цэнтрам калгаса, а старая Губіншчына аказалася ўжо наводшыбе. За новай, па сутнасці, вёскай замацавалася не прэтэнцыёзная назва Чырвоны, а больш сціплая Сычык.

Каб не ўдавацца ва ўсе гэтыя тонкасці, я і стаў пісаць у розных анкетах, што нарадзіўся ў Сычыку.

Загад аб перасяленні маці ўспрыняла як вестку пра вялікую бяду і не адзін раз паўтарала, што ўсяго два перасяленні роўныя пажару. Трэба ж было перацягваць на новае месца і знізу падгнілую ўжо хату, і таксама не новыя гаспадарчыя пабудовы. Ды і зямля на новым месцы няўгноеная. Колькі гадоў яна будзе радзіць слаба. А самае галоўнае, што ўвесь цяжар перасялення клаўся на матчыны плечы, бо ў нас тады ўжо не было бацькі...

І тут самы раз сказаць пра яго лёс. Нарадзіўся бацька ў 1885 годзе. Дзень і месяц нараджэння мне невядомы. Увогуле, ніякіх дакументаў ад яго самога ў нас не захавалася. Нават ягонай фотакарткі не было і ў даваенныя гады. Няма яе і ў судовай справе, якая цяпер захоўваецца ў Магілёўскай абласной пракуратуры. Быў ён чалавекам непісьменным. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. Да калектывізацыі, як і абсалютная большасць сялянства, паставіўся насцярожана. Але ўсё ж у 1931 годзе ўступіў у калгас. Настаяла маці, якая лепш за бацьку разумела, што іншага выйсця няма. 19 красавіка 1933 года быў высланы на пяць гадоў «за агитацию и вредительство в колхозе». Гэта цытата з бацькавай судовай справы, з якой я пазнаёміўся ў

1994 годзе. (Усе дакладныя даты, звязаныя з бацькам, бяру таксама з гэтай справы.) Пра тое, у чым заключалася шкодніцтва і якую канкрэтную агітацыю праводзіў непісьменны чалавек, у судовай справе нічога не гаворыцца. Але маці была пераканана, што яго пагубіў уласны жарабок, набыты незадоўга да калектывізацыі, як быццам лепшы ва ўсім наваколлі. Бацька вельмі ганарыўся ім, не хацеў аддаваць у калгас, але мусіў гэта зрабіць. Відаць, ён увогуле захапляўся коньмі, бо ў калгасе атрымаў пасаду конюха. «Свайго» жарабка ён, сцвярджалі самыя пільныя зайздроснікі, даглядаў лепш, чым іншых калгасных коней. У гэтым і было ўсё шкодніцтва.

Пакаранне бацька адбываў у Дзмітраўскім ВПЛ. Разам са сваім братам Іванам, які ў судовай справе памылкова названы пляменнікам, будавалі яны канал Масква — Волга.

27 чэрвеня 1936 года пастановай Асобай нарады НКВД прысуд у дачыненні да бацькі быў перагледжаны. Тэрмін высылкі яму зменшылі «до отбытого срока». Так бацька апынуўся на волі.

Я добра памятаю, як аднойчы пахмурным летнім ранкам, які адразу зрабіўся для нас святочным, ён прыйшоў дамоў. Мы не маглі нацешыцца ад усведамлення, што цяпер і ў нас ёсць бацька. Цэлы дзень (і, можа, не адзін) ішлі людзі, вялі з бацькам доўгія гамонкі. З тых гамонак мне запомніліся словы пра канал і яшчэ пра тое, што бацьку вызваліў Галадзед, які, як вядома, у той час яшчэ ўзначальваў беларускі ўрад. Як удалося выйсці на Галадзеда, я не ведаю. Не памятаю і таго, ці ўпамінаў бацька ягоную пасаду. Але само гэтае прозвішча засела ў маёй памяці назаўсёды, бо здавалася яно нейкім смешным, асацыіравалася з нечым накшталт галапупіка.

Святочны настрой, прынамсі для мяне, трымаўся, аднак, нядоўга. У хуткім часе бацька зноў стаў даглядаць калгасных коней. Мясцовыя кіраўнікі не пабаяліся яшчэ раз даручыць такую справу «шкодніку». Відаць, добра ведалі сапраўдную цану тым абвінавачванням.

Догляд у летнюю пару заключаўся галоўным чынам у тым, што коней трэба было пасвіць. Статак быў даволі вялікі. І бацька ў якасці свайго памочніка ўзяў мяне. Тады мне было ўжо сем гадоў. А па вясковых звычках гэта самы час падключацца да сур'ёзнага занятку. Але падпасак з мяне атрымаўся далёка не ідэальны. Залюбаваўшыся якой-небудзь прыроднай з'явай, я мог і не заўважыць, як найбольш збродлівы конь падаваўся ў шкоду. За такія міжвольныя прамашкі і ўвогуле за любую нядбаласць бацька караў жорстка, без скідкі на дзіцячы ўзрост і маю прыроджаную ўражлівасць. Сырамятная пуга, разлічаная на тоўстую конскую шкуру, хадзіла па маіх голых лытках так, што я неаднойчы з крыўдай думаў: «А навошта нам такі бацька?» Спрабаваў скардзіцца маці, тая ўшчувала бацьку, але ён ад свайго не

адступаўся. Мабыць, у гэтым праяўлялася не толькі сялянская натура, нязвыклая да сентыментальнасці, але і суровая жыццёвая школа, пройдзеная ў зняволенні.

Усё ж і крутая і ўвогуле дзейсная бацькава педагогіка добрага пастуха з мяне не зрабіла, хоць практыкавацца ў гэтай справе мне давялося нямала. Аднак і без бацькі, пасучы нашу карміцельку-карову з сяголетнім цялём, якое восенню трэба было па кантрактацыі здаваць у калгас, і з цёлкай-паразімкай, што рыхтавалася на замену старой рагулі, я часам губляў рахманую тройцу, а пазней і ўвесь ладны ды вельмі ж шустры статак калгасных авечак, які потым даводзілася шукаць усёй сям'ёй, здаралася, што і да позняй ночы. Гэтак падводзіла мяне захапленне кнігамі. Іх, за выключэннем таго, што «задавалася на ўроку», чытаць дома мне не дазвалялі — каб эканоміць час для розных гаспадарчых спраў. А тут нарэшце дарвешся да цікавага і, вядома ж, не прадугледжанага школьнай праграмай твора і на ўсё забудзешся...

Які ні строгі быў бацька, але жыццё наша з яго прыходам палепшылася. У вельмі ўраджайным 1937 годзе мы атрымалі з калгаса на працадні шмат збожжа (адзін раз на маёй памяці). Яно дасушвалася ў нас на печы. Дык я добра памятаю тое багацце. Аднак бацьку спажываць зароблены ў асноўным ім самім хлеб не давялося — яго зноў арыштавалі. На гэты раз, як сведчыць судовая справа, 1 верасня 1937 года.

Арыштоўваць прыйшоў раніцай міліцыянер у форме. Бацькі дома не было. Ён быў пры конях і яшчэ не вярнуўся з начлегу. Знайсці месца начнога выпасу калгаснай жывёлы ў ладных лясных абшарах узяўся Маскалёў Іван. Ён, напэўна, мог бы па-суседску сказаць бацьку пра небяспеку і тым самым дапамагчы яму неяк уратавацца, але не зрабіў гэтага, а здаў міліцыянеру.

Пазней, ужо пры гітлераўцах, маці ўзяла таго чалавека за хроснага для малодшага брата, якога хрысцілі ў вайну, бо немцы абвясцілі, што нехрышчоных дзяцей будуць знішчаць. Чаму яна так зрабіла, не ведаю і цяпер.

Бацьку ж свайго мы больш не ўбачылі. А ратунак быў, здаецца, рэальнай справай. Ва ўсякім разе, людзі, якія падлягалі арышту, але перахаваліся ў час таго «хапуна», потым адкрыта жылі дома. І іх ужо не чапалі.

А можа, бацька сам не захацеў хавацца, усё яшчэ верыў у нейкую справядлівасць? Гэткая думка ўзнікла, калі я прыгадаў, што маці, як бы прадчуваючы нешта нядобрае, раіла бацьку ў хуткім часе пасля вяртання з Дзмітраўскага лагера не ісці ў калгас, а з'ехаць некуды, хоць бы ў Крычаў, напрыклад, на цэментны завод — там заўсёды патрэбны былі рабочыя рукі. Але бацька адмовіўся. Ён некалі быў вельмі дужым чалавекам, калі меркаваць хоць бы па сундучку, які служыў яму ў высылцы замест чамадана і застаўся ў нас пасля паўторнага арышту. Той сундучок, зроблены не з фа-

неры, а з танкаватых дошак, і пусты важыў нямала. А бацька ж насіў яго не пустым. Ён хаваў там усе свае зэкаўскія набыткі. Відаць, шмат здароўя адабраў канал. Бо я і сам чуў, як бацька ноччу цішком скардзіўся маці, што ў яго пачынаюць пухнуць ногі.

А можа, спрацавала славутая беларуская талерантнасць, якая на практыцы вельмі часта ператвараецца ў абыякавасць да ўласнага лёсу?

Увогуле, бацькава справа выклікае цэлы шэраг пытанняў. Пачну з таго, што ордэр на арышт быў выдадзены чэрыкаўскімі ўладамі яшчэ вясною, у красавіку. А сам арышт, як я ўжо казаў, адбыўся 1 верасня. Значыць, некалькі месяцаў міліцыя дабіралася з Чэрыкава да Быкоўкі. А гэта ўсяго нейкіх 18 кіламетраў... Чаму так доўга цягнулі з арыштам? Нехта спрабаваў да апошняга моманту ратаваць бацьку? А можа, улічвалі, што і ў калгасе вясною шмат працы, дык з-за гэтага знарок не спяшаліся арыштоўваць? Ці вельмі вялікая нагрузка была на карныя органы?

Кідаецца ў вочы і разнабой у вызначэнні маёмаснага стану нашай сям'і. Згодна аднаго дакумента, падпісанага старшынёй сельсавета Жаранковым, у бацькі было да калектывізацыі 4,97 га зямлі, конь, карова і 7 галоў дробнай жывёлы. Гэта, вядома, авечкі і свінні. У адпаведнасці з другой паперай, зямлі было ўжо 6 га, каровы дзве, конь, як і раней, адзін, затое дробнай жывёлы на адну галаву паменела. Потым паяўляюцца звесткі пра ажно тры каровы, тры кані і 8 авечак са свіннямі. Плошча зямельнага надзелу таксама імкліва ўзрастае — спачатку да 18, а потым і да 40 га. Апошнюю лічбу назваў Маскалёў Васіль, які праходзіў у якасці сведкі разам з І. П. Князьковым ды І. Т. Кураленкам.

Маці было аднекуль вядома, што і Князькоў, і Кураленка сведчылі нядобрасумленна. І таму яна часта праклінала іх. Але асабліва ненавідзелі ў нас Васіля Маскалёва. Гэта брат Івана Маскалёва, таго самага, што прывёў бацьку да міліцыянера. Але Іван быў чалавекам куды больш памяркоўным, чым ягоны брат. Васіль жа ў даваенныя гады выдаваў сябе за самага прававернага камуніста. Быў ён аднавокім. Дык вяскоўцы празвалі яго Сляпы Камбал (відаць, ад слова камбала). Ён і мне, як і маім братам, не раз пагражаў: «Пойдзеш і ты туды, куды пайшоў бацька». Але ягонай прававернасці хапіла ненадоўга. У перыяд гітлераўскай акупацыі ён спачатку трохі хаваўся, а потым стаў памочнікам старасты. А яго як быццам пакідалі для арганізацыі падпольнага супраціўлення. Як потым высветлілася, ніякай падпольнай работы ён не вёў, адно перад прыходам савецкіх войскаў некалькі дзён пабыў у лесе, а сказаў, што партызаніў. Нейкім чынам яму пасля вызвалення яшчэ ўдалося ўладкавацца на пасаду старшыні калгаса, але не ў нашай вёсцы, а ў суседняй Касцюкоўцы. Ды «ліпа» адносна ягонага «геройства» даволі хутка высветлілася. І Васіль Маскалёў сам атрымаў дзесяць гадоў зняволення.

Вось такі гэта быў «барацьбіт», які прыдумаў версію пра міфічныя 40 гектараў зямлі ў майго бацькі. Маёмаснае становішча завышалася, вядома, знарок, каб звычайнага селяніна можна было аб'явіць кулаком і, значыць, класавым ворагам. А з класавымі ворагамі якая ж размова? На іх ужо можна было валіць усё. Вось і бацьку ў 1937 годзе надалі кулацкі статус, хоць нават у 1933-м, мяркуючы па афіцыйным прысудзе, размовы пра гэта не было.

Кажу тут толькі пра афіцыйны прысуд 1933 года, бо саміх тагачасных матэрыялаў у бацькавай справе з Магілёўскай абласной пракуратуры няма, а звесткі пра вынесены тады, у 1933 годзе, прысуд і яго змену ў 1936 годзе падаюцца. Усе астатнія матэрыялы ў гэтай справе звязаны з паўторным арыштам і новым прысудам.

Судзіла бацьку ў 1937 годзе тройка НКУС БССР у складзе... двух чалавек. 5 лістапада яна прызнала, што бацька быў кулаком, выступаў «против мероприятий партии и правительства», і пастанавіла: «заключить в исправительный лагерь сроком на десять лет». Тэрмін вылічаўся з 1 верасня, г. зн. з дня арышту.

Ужо ў той дзень (1.9.37) бацька быў дастаўлены ў магілёўскую турму. У віну яму зноў ставілі контррэвалюцыйную агітацыю, маўляў, гаварыў, што ў калгасе працуюць толькі дурні, сам працаваў, але заявы ў калгас не падаваў, сцвярджаў, што хутка будзе вайна і савецкая сістэма разваліцца, заклікаў не падпісвацца на абаронную пазыку. Гэта запісвалася са слоў тых крывадушных сведкаў.

У адзіным пратаколе допыту, які адбыўся 6 і 7 лістапада, рабіўся закід, нібыта яшчэ да калектывізацыі ён, Бугаёў Якаў, трымаў парабкаў. Непісьменны селянін добра зразумеў, куды хіліць такі закід, і запярэчыў, што быў толькі адзін парабак на час сезонных работ і не ў яго самога, а ў ягонага бацькі.

На абвінавачванне, што «умышленно выводил колхозных коней из строя зимой 1936 г.», бацька зноў запярэчыў: «Верно, работал на лесовозе, но коней колхозных из строя не выводил».

Нашы сяляне сапраўды кожную зіму мусілі выконваць цяжкую павіннасць: некалькі тыдняў цягаць з Васілеўшчыны да сплаўных пунктаў на Сажы будаўнічы лес, які ішоў у розныя куткі краіны, у тым ліку ў Данбас. Называлася гэта ехаць у калоды, бо там, на лесавывазцы, сяляне ўвесь гэты час і жылі, адарваныя ад сем'яў. Здаралася, што і гінулі. А цяпер гэтае шчыраванне на дзяржаву паварочвалі як абвінавачванне!

Ды бацька прызнаў сябе вінаватым толькі ў тым, што ў 1933 годзе быў «судим по подозрению в агитации».

Прачытаўшы гэтыя радкі пратакола, запісаныя са слоў непісьменнага бацькі, я ажно сцепануўся: такая мужнасць і непахіснасць ужо ў 1937 годзе! Нездарма, значыць, адзін наш вясковец яшчэ задоўга да краху камуністычнай сістэмы, аднак пасля смерці Сталіна і, вядома, без сведкаў, казаў, што бацька быў не толькі вельмі працавіты, але і надта сумленны, справядлівы чалавек. Гэты вясковец — Кастусь Палякоў. Звычайна на працу ён хадзіў паўз наша селішча. Дык мы, малыя, часам выскоквалі з-за кустоў іргі ў агародзе ля плота і крычалі: «Косцік задраў хвосцік!» А потым зноў хуценька хаваліся, каб чалавек не паспеў пабачыць, хто гэта займаецца хуліганствам. Праўда, на нашы выбрыкі ён ніколі не рэагаваў. Рабіў выгляд, што нічога не чуе. Для той памятнай размовы ён спыніў мяне на лясной паляне. Я падумаў, што будзе, можа, ушчуваць за старыя грахі. Ажно не. Ён быў заклапочаны адным — каб я ведаў праўду пра бацьку.

Вяртаючыся да бацькавай судовай справы, не магу не сказаць, што 16 снежня 1940 года яна пераглядалася. Людзі, якія ажыццяўлялі гэты перагляд, ніякіх няўвязак у ёй не ўбачылі. І вырашылі «жалобу оставить без удовлетворения».

Такая фенаменальная слепата тагачасных юрыстаў выпадковай быць не магла. Яна, відаць, азначала, што бацькі тады ўжо не было на гэтым свеце. Ягоны прысуд на дзесяць гадоў лагернага зняволення ці не суправаджаўся не зафіксаваным на паперы дадаткам: «без права перапіскі», якім тады пафарысейску камуфліраваўся расстрэл? Ва ўсякім разе, мы ніякіх звестак ад свайго бацькі пасля яго другога прысуду ўжо не мелі. А пасля першага арышту і высылкі лісты, як казала маці, вельмі рэдка, але прыходзілі.

І яшчэ адно пытанне ўзнікае. Якая скарга разглядалася ў 1940 годзе? Хто тады мог скардзіцца на «самы справядлівы ў свеце савецкі суд»? Гэта ж таксама быў бы яўны крымінал. А вось прашэнне аб памілаванні бацькі сапраўды было. Яно пісалася на імя самога Сталіна і так падавала трагедыю сям'і, пазбаўленай кармільца, што, здавалася, магло расчуліць і халодны камень. Гэтае прашэнне доўга шліфавалася рознымі людзьмі і таму неаднойчы зачытвалася ў прысутнасці ўсіх нас. І мы кожны раз плакалі пры гэтым горкімі слязьмі.

А плакаць было ад чаго. Маці заставалася ў вёсцы з пяццю дзецьмі. Старэйшаму з іх, Івану, праўда, было ўжо 14 гадоў, але ён жа яшчэ мусіў хадзіць у школу. Затое самаму малодшаму, Аляксею, тады споўнілася толькі чатыры гады. Дарэчы, у матэрыялах справы яму, а таксама сястры Лене і мне ўзрост завышаны, кожнаму на год. Выпадковая памылка? Не ведаю.

Зусім не ўпамінаецца ў гэтых матэрыялах матчын першынец Яфім (маці называла яго Аўхімам). Ён нарадзіўся ў 1914 годзе. Ад нас з'ехаў калі не да, дык адразу пасля першага бацькавага арышту. Мабыць, асцерагаўся, каб

не «замялі» і яго. А таму шукаў нейкага свайго заробку ў сталіцы. З цягам часу паступіў у Мінскі мединстытут, які закончыў толькі пасля вайны. У час вучобы (у даваенныя гады) працаваў у мединстытуце лабарантам фізічнай ці радыёфізічнай лабараторыі. Колькі-небудзь істотнай дапамогі сям'і ён аказаць не мог, хоць зрэдку летам, калі мы жылі яшчэ ў Быкоўцы, дамоў прыязджаў. Прывозіў кожнаму з нас нейкі падарунак. Мне аднойчы перапаў картовы пінжачок фабрычнага крою з накладнымі кішэнямі. Я ім вельмі ганарыўся, хоць штаны да яго ў мяне былі саматканыя, толькі сяк-так пафарбаваныя ў чорны колер. Дома той пінжачок надзяваць строга забаранялася, а ў школе я колькі гадоў у ім фарсіў.

Яфім захапляўся радыётэхнікай. Нам ён у апошні свой даваенны прыезд пакінуў дэтэктарны прыёмнік, які можна было слухаць толькі праз навушнікі. Пры добрым зазямленні і доўгай антэне, нацягнутай паміж высокімі дрэвамі, ён браў Мінск. У нас ён хутка сапсаваўся, але тым не менш быў канфіскаваны ў першыя дні вайны.

Пісьмы дамоў Яфім прысылаў зрэдку. І заўсёды без зваротнага адрасу, які маці трымала ў строгім сакрэце. Відаць, баялася, каб хто з вясковых актывістаў не настукаў на хлопца ў сталіцу.

У прашэнні аб памілаванні бацькі пра існаванне Яфіма нічога не гаварылася. Гэта ўжо была наша маленькая хітрасць, падказаная тымі, хто параіў звярнуцца да самога ўладара краіны.

Дужа жаласнае пасланне «вялікаму правадыру» (так і яшчэ з многімі іншымі пашанотнымі вызначэннямі называўся ў тым пасланні Сталін) пісалася, вядома, не ў канцы 1940 года, а намнога раней, відавочна, у хуткім часе пасля вынясення другога прысуду. Мы лічылі, што яно ўвогуле бясследна знікла, бо афіцыйнага адказу, здаецца, не было. Аказваецца, у сацыялістычнай дзяржаве нічога не знікае. Вось толькі паперы даўгавата ходзяць. Да мяне ўкосная вестка пра тое пасланне дайшла, лічы, праз 57 гадоў — у час знаёмства з бацькавай справай. Можна прэтэндаваць на месца ў кнізе рэкордаў Гінеса...

З гэтай жа справы я даведаўся, што па прысуду 1937 года бацька афіцыйна рэабілітаваны 26 верасня 1989 года. Спрацавала пастанова аб рэабілітацыі ўсіх, хто быў асуджаны асобнымі нарадамі і рознымі тройкамі.

Прысуд, вынесены тройкай «ПП ОГПУ» 19 красавіка 1933 года, адменены 25 ліпеня 1958 года вызначэннем судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР. Судовая справа супроць бацькі тады была спынена «за недаказанасцю абвінавачання». Пра гэта мне паведамілі з пракуратуры Магілёўскай вобласці 17 лютага 1995 года. Раней ні я, ніхто іншы з нашай сям'і, у тым ліку і маці, пра гэтую акалічнасць нічога не ведалі.

Да поўнай бацькавай рэабілітацыі маці і ўвогуле не дажыла. Яна памерла ў 1967 годзе, адпакутаваўшы на гэтым свеце 78 гадоў. Пахавана ў Мінску на Маскоўскіх могілках. Дата яе нараджэння на сціплым надмагільным помніку недакладная. Там пазначаны 1882 год, хоць у сапраўднасці маці нарадзілася, як вынікае з матэрыялаў бацькавай справы, у 1889 годзе. Такім чынам, сем годзікаў мы ёй дабавілі. Гэтая дабаўка найбольш на маім сумленні. Зроблена яна адразу пасля вызвалення ад гітлераўцаў. Тады нанова афармляліся дакументы, бо ранейшыя загінулі ў полымі вайны. А разам з бальшавікамі вярталіся і непамерныя падаткі, калі плаціць трэба было за ўсё — за кожную яблыню і кожную курыцу. Яблынь у нас тады ўсё яшчэ не было. А куры і іншая жыўнасць вяліся. Каб хутчэй вызваліцца ад тых падаткаў (з састарэлых яны ўсё ж здымаліся), я трохі і завысіў матчын узрост. Што завышаў — ведаў, наколькі — не. 1882 год нараджэння Купалы і Коласа. А біяграфіі народных паэтаў я цвёрда засвоіў яшчэ ў школьныя гады. Вось і прыдалося тое засваенне.

Сама маці дакладную дату свайго нараджэння таксама не ведала, вылічала яе вельмі прыблізна. І яшчэ казала, што нарадзілася вясной. Дык мы ёй паставілі 8 сакавіка, зноў жа добра запамінаць. І ўсё ж нейкае свята — жаночы дзень. Няхай будзе хоць такая радасць. А што трохі пристарылі жанчыну, дык яна была не ганарыстая, крыўды з гэтай нагоды не выказвала ніколі. У сельсавеце, напэўна, здагадваліся пра нейкую прыбаўку матчыных гадоў, але таксама не пярэчылі. Нам многія спачувалі, бо разумелі, колькі гора абрынулася на маці. Цяжка нават уявіць, як яна яго вынесла, як здолела падняць усіх нас.

Бо і ў 1937 годзе, за выключэннем Яфіма, мы былі яшчэ дзецьмі. А пры першым бацькавым арышце карціна выглядала зусім жахлівай: Івану было дзесяць гадоў, брату Мішу, які загінуў на фронце ў Айчынную вайну, — сем, мне — чатыры, Лене — адзін год, а Аляксей увогуле толькі нядаўна перад тым нарадзіўся.

Страшна такое ўспамінаць, але маці пад старасць казала, што ад роспачы яе адольвала спакуса прыдушыць апошняга сына, паклаўшы яму падушку на галаву. Ды кожны раз перамагала боязь узяць на душу непапраўны грэх. А хіба ж яна, наша вялікая гаротніца, не любіла сваіх дзяцей? Яшчэ як любіла! Яна маладою выйшла замуж, доўга чакала першынца, потым некалькі хлопцаў і дзяўчатак пахавала (часта згадвала іх у сваіх малітвах), а ўжо тых, што выжылі, старалася ўсяляк берагчы. І раптам такая навала, якая магла раздушыць каго хочаш. А потым беды сыпаліся адна за другой, як з рога. Дык ці трэба дзівіцца, што неаднойчы ўзнікала і думка пра самагубства. Ды маці яе адганяла, зноў жа баючыся граху перад Богам.

Незадоўга да вайны пайшла пагалоска, што ў Крычаве аб'явіўся нейкі сляпы дзед, які, сцвярджалі, вельмі ж трапна прадказвае чалавечы лёс.

Маці кінула ўсе неадкладныя справы і пайшла да таго правідца варажыць. Адтопаўшы 50 кіламетраў (25 туды і столькі ж назад), яна вярнулася абураная: дзед наваражыў, што чалавека яна ўжо ніколі не ўбачыць, будзе перабірацца на новае месца, зведае пажар, страту часткі блізкіх людзей, якія цяпер жывуць з ёю побач, і іншыя згрызоты. «Лухта нейкая»,— казала ўзлаваная маці, зноў і зноў кленучы таго варажбіта. Але потым мусіла прызнаць, што ўсе яго прадказанні спраўдзіліся.

Першым звяном у ланцугу чарговых няшчасцяў і стала тое перасяленне з Быкоўкі, ад якога я так далёка адхіліўся. Тады, як і ў многіх іншых выпадках пасля бацькавага арышту, моцна дапамог матчын старэйшы брат Лазар, чалавек вельмі яркі і арыгінальны, выдатны майстар у розных справах. Ён умеў капаць калодзежы, быў добрым садоўнікам і пчаляром, таленавіта расказваў народныя казкі і цікавыя здарэнні. Кожны ягоны прыход быў для нас святам. На вялікі жаль, у апошнюю перадваенную зіму ён загінуў на той абавязковай лесавывазцы, за шчыраванне на якой яшчэ і вінавацілі майго бацьку, «шыючы» яму справу.

Дык вось Лазар са сваім сынам Фёдарам і ўзяў на сябе галоўны клопат па нашым перасяленні. Ён выбіраў пляц пад селішча на вызначаным уладамі ўчастку, разбіраў і перавозіў на калгасных конях будынкі, клапаціўся, каб іх належным чынам сабралі на новым месцы, і нават сам склаў нам печ, якая вельмі ж добра трымала цяпло, хаця ў асноўным рабілася з цэглы-сырца, над «вытворчасцю» якой давялося трохі папацець і нам, малым. Абпаленая цэгла заводскага вырабу набывалася толькі на комін, под і чарон.

Засталася ў памяці ад тых тлумных дзён перасялення і адна «сенсацыя». Калі разбіралі страху хлява (у нас ён называўся пуняй), дык знайшлі таўставаты жмут царскіх грошай, якія я тады бачыў упершыню. Іх нам аддалі на забаўкі. І мы насіліся з імі ці не па ўсёй Быкоўцы. Так што сёй-той з нядобразычліўцаў не без зларадства казаў: глядзі ты, а ў Якава ляснуў ладны капітал.

На самой справе ніякага капіталу не было. Па словах маці, якая знаходцы ніколькі не здзівілася, бацька недзе падабраў тыя грошы, калі яны ўжо не мелі вартасці. Але ён на ўсякі выпадак прыхаваў іх у падстрэшку. А раптам вернуцца старыя парадкі і царскія грошы яшчэ набудуць сілу... Вось тады і ён разбагацее...

Вельмі знаёмая псіхалогія, на якой закліньваюцца многія і ў наш час, марачы пра тое, каб вярнуўся ўчарашні дзень. Як ні дзіуна, паддаюцца гэткаму настрою не толькі былыя партыйныя функцыянеры, але і некаторыя таленавітыя пісьменнікі. Вядома, з тых, каго старыя беды закранулі найменш.

Абжывацца на новым месцы было нялёгка. Ды патроху прывыкалі, сёетое і з пасадак перанеслі на пляц у Сычыку. Гэта рабіў у асноўным я з братам

Мішам. Але значную частку дрэў перасадзіць было ўжо немагчыма. Асабліва шкада было ігруш, якія так упрыгожвалі нашу сядзібу ў Быкоўцы. Іх спілавалі на дровы, бо з апалам тады таксама было чамусьці тугавата. Грушавыя дровы гарэлі хвацка, але ж знікла адна з галоўных радасцей дзяцінства...

З вясны 1941 года і ледзь не да прыходу гітлераўцаў зноў жа з Мішам мы пасвілі калгасных свіней, бо трэба было зарабляць працадні — спадзяваліся нешта на іх атрымаць. Яшчэ на досвітку маці падымала нас кожны дзень, без выхадных. Мы наспех снедалі і ішлі на працу, як дарослыя. Свінні былі вечна галодныя і таму асабліва збродлівыя, так і лезлі ў шкоду то тут, то там. Дык мне ўжо і ад брата нярэдка перападала, бо ён нёс галоўную адказнасць за наша пастухоўства. Вучыў ён не так балюча, як некалі бацька (замах быў не той), але таксама ўсур'ёз. Што ж, жыццё ёсць жыццё. Нас яно тады не песціла.

Але самае крыўднае было ў тым, што ўся гэтая праца аказалася дарэмнай. Перад прыходам немцаў калгасную жывёлу, у тым ліку і нашых падапечных свіней, пагналі на ўсход. Калгас распаўся. І ніхто ніякай аплаты па зillerобленых працаднях ужо не збіраўся рабіць.

Затое я меў магчымасць пабачыць, як праз нашу мясцовасць адступалі чырвонаармейцы. Пасвілі мы тых дзёдак ля бальшака (у нас ён называўся шляхам) з Верамеек на Чэрыкаў. Па гэтым шляху спачатку арганізаванымі групамі ў поўнай вайсковай форме, але толькі з лёгкім узбраеннем ішлі пагранічнікі. Яны былі вельмі стомленыя. У Асінаўцы, каля якой і размяшчалася свінаферма, рабілі кароткі прывал, з задавальненнем абліваліся халоднай вадой з калодзежа (дні былі гарачыя і сонечныя), самі пілі ваду і праз нейкі час знікалі ў напрамку Горак. Зрэдку рухаліся танкеткі (танкаў тады я ні разу не бачыў). Потым замест арганізаваных груп утварыўся суцэльны паток вайскоўцаў, многія з якіх узбраення ўжо не мелі. У каго на галаве была пілотка, а хто-ніхто ішоў і з непрыкрытай галавой. Гімнасцёркі былі расшпіленыя. Траплялiся і байцы без гімнасцёрак — у майках. З цягам часу і гэты стыхійны паток усё радзеў, змяншаўся, змяняўся купкамі вайсковых людзей і проста адзіночнымі байцамі. Пазней тым бітым шляхам перасталі ісці і яны.

Прыкладна тады ж сталі паяўляцца так званыя акружэнцы, якія рабіліся прымакамі. Яны пакінулі пасля сябе некалькі малых нашчадкаў. Іншыя проста працавалі па некалькі дзён у сялян, а потым ішлі далей. Адзін такі працаўнік дні тры ці чатыры жыў і ў нас. Гэта быў вясёлы хлопец з Цэнтральнай Расіі. Ён добра спяваў папулярныя песні. Мы ад яго запісалі цэлы сшытак тэкстаў, сярод якіх былі песні пра тачанку-растаўчанку, пра маладога канагона і іншыя.

Старэйшым па мужчынскай лініі ў нас тады заставаўся Міша (Івана яшчэ паспелі прызваць у армію). Дык той вясёлы рускі чалавек вучыў яго

сакрэтам сялянскай працы: паказваў, як трэба вастрыць сякеру і пілу, кляпаць касу, як пры касьбе трымаць яе так, каб з меншымі затратамі сілы дасягаць найбольшага эфекту. Міша пераняў ад бацькі працавітасць і тую навуку спасцігаў хутка і кемліва. Праз нейкі год ён касіў ужо нароўні з дарослымі мужчынамі.

Акрамя акружэнцаў-прымакоў, траплялiся і групкі вайскоўцаў, якія імкнуліся хутчэй прабіцца на ўсход. Яны адчувалі голад і прасілі ў нас ежы. Многа ім даць мы не маглі, аднак часамі цішком ад маці прыносілі кошык бульбы, якую яны тут жа пачыналі варыць, трохі хлеба, колькі яек, а то і невялічкі кавалак сала. Больш браць было немагчыма, бо скароміну маці берагла асабліва ашчадна і нам самім давала далёка не заўсёды.

Вайскоўцы любому харчу былі радыя і нашу стараннасць імкнуліся неяк заахвоціць. Мне ад іх перапаў ножык-складанчык, мара кожнага вясковага хлапчука, і шырокі камсастаўскі рэмень, спражку якога ўпрыгожвала вялікая чырвоная зорка. Гэты рэмень, якім я, на зайздрасць аднагодкам, падпяразваў саматканыя штаны, потым заўважылі паліцэйскія і, вядома, адабралі яго.

У самыя першыя дні вайны на захад з пагрозлівым гулам ляцела шмат нашых самалётаў. Не памятаю, каб яны вярталіся назад. Затое даволі хутка сталі паяўляцца нямецкія самалёты. Яны часта ішлі зусім нізка над зямлёю і стралялі нават па асобных людзях. Забілі аднаго чырвонаармейца, якога вяскоўцы пахавалі недалёка ад школы.

Я таксама аднойчы ратаваўся ў жыце ад нямецкага лётчыка, які, здавалася, кружыў нада мною, хацеў расстраляць з кулямёта.

Увогуле, страху перад немцамі было багата. Людзям раілі капаць акопы-схованкі. Мы ў канцы сваіх сотак (каб было далей ад хаты) выкапалі ладную яміну, якую зверху накрылі нятоўстым бярвеннем і прысыпалі для надзейнасці і маскіроўкі зямлёю. Ніхто нас не бамбіў, але часам хавацца ў тым акопе-бліндажы і ад немцаў, і ад паліцаяў мы спрабавалі.

Не спатрэбіўся і супрацьтанкавы роў па-над ракой Воўчас, выкапаны калгаснікамі нашага і суседняга калгасаў па загадзе начальства.

Гітлераўцы прыйшлі ў нашу вёску надвячоркам пахмурнага жнівеньскага дня. Даволі вялікая калона ў нязвыклай форме мышастага колеру здзіўляла і тым, што былі ў ёй веласіпедысты. Вяскоўцаў заваёўнікі не зачапілі, але двух парсюкоў, што трапіліся на вуліцы, застрэлілі і павезлі з сабою. Потым яшчэ колькі дзён з вайсковай часткі, што атабарылася на месцы аднаго з былых хутароў, прыходзілі ў Сычык асобныя немцы, некаторыя ў адных трусах, але ўзброеныя аўтаматамі і з каскамі. З іх гаворкі мы з цяжкасцю схаплівалі толькі асобныя словы. Але вокліч «матка, яйка, млека, шпэк» быў зразумелы і непісьменным сялянкам.

Як стваралася новая цывільная ўлада, я ва ўсіх падрабязнасцях не ведаю. Але памятаю, што першым старастам у нас прызначылі Ягора Грыбкова, былога дэпутата сельсавета ад нашай вёскі. Сам ён да гэтай пасады не рваўся, наадварот, усяляк адбіваўся ад яе. Але яму загадалі: «Быў дэпутатам, пабудзеш і старастам!» Усё ж Грыбкоў праз непрацяглы час дастаў даведкі аб хваробе і клопатны, вельмі небяспечны ў тых няпэўных абставінах абавязак з сябе скінуў.

Тады «давер аказалі» Сцёсаву, сыну былога стражніка, рэпрэсіраванага пры бальшавіках. Звалі малодшага Сцёсава, здаецца, Мікалаем. Іхняя сям'я таксама пераехала ў Сычык з Быкоўкі. Сам Мікалай пасля арышту бацькі з'ехаў у Данбас на шахты, а цяпер, з прыходам немцаў, вярнуўся на радзіму. Але станавіцца старастам ён катэгарычна адмовіўся. Немцы расхлябанасці і вольнасцяў не цярпелі. Яны завезлі Мікалая ў Чэрыкаў і там пасадзілі ў кутузку. Ратаваць сына кінулася маці. Казалі, што ёй неяк удалося адкупіцца (хабарнікі былі і пры немцах). Словам, хлопца ўрэшце адпусцілі, а Сычык яшчэ колькі часу заставаўся без старасты. Потым на гэтай пасадзе пабыло яшчэ два чалавекі — былы настаўнік і селянін. Але абодва яны трапілі ў начальства насуперак свайму жаданню, знарок крыўды людзям стараліся не рабіць, увогуле выконвалі загады і немцаў (удзень), а ноччу — і партызан, калі тыя ў нас паявіліся.

Былога настаўніка бальшавікі пасля перамогі ўсё ж пасадзілі, а селяніна трохі патузалі, аднак у вёсцы пакінулі.

З прыходам немцаў наш калгас, вядома, распаўся. Збажыну, якая яшчэ стаяла ў полі (частка была зжата, абмалочана і вывезена), бульбяныя палеткі і сенакос, а затым і ўсю ворную зямлю сяляне дзялілі між сабою ў адпаведнасці з наяўнымі едакамі. Падзялілі і коней (іх на ўсход пагнаць не паспелі). Нам дасталася кабыла Сможка, жывёліна цягавітая, але вельмі ж наравістая. Яна часта брыкалася, часам магла і ўкусіць падшыванца. Так што запрэгчы тую Сможку амаль заўсёды было нялёгка. Але бераглі мы яе ўсімі сіламі, бо цяпер галоўнай нашай карміцелькай станавілася яна.

А яшчэ былым быкоўцам, і нам у тым ліку, вярнулі ўцалелыя гумны, некалі забраныя ў калгас.

Працаваць даводзілася вельмі многа не толькі маці і Мішу, але і мне. Падключаліся да пасільных гаспадарчых спраў і самыя малодшыя — Лена і Аляксей.

Матэрыяльна мы жылі ў акупацыю лепш, чым пры калгасах, ва ўсякім разе, не галадалі (пасля арышту бацькі даводзілася жыць і ўпрогаладзь) і не збіралі вясною на полі гнілую бульбу. З яе здабываўся крухмал і пякліся чорныя, як зямля, праснакі, ад якіх цягнула на ташноцікі. Мы такія праснакі

елі перад вайною і ў першыя пасляваенныя гады. Пры немцах абыходзіліся без гэтых прысмакаў.

Але я не памятаю, каб нехта радаваўся прыходу чужынцаў. А вяртання «нашых» чакалі. Праўда, хадзілі чуткі, што калгасаў пасля перамогі ўжо не будзе. І саджаць за нішто не будуць, суцяшалі сябе сяляне. Словам, гітлераўцаў баяліся, глядзелі на іх з вялікім недаверам. А калі яны сталі вывозіць моладзь у Германію, дык па вёсках пракочваўся плач, як на хаўтурах. Увогуле, няўпэўненасць — сёння жывыя, а заўтра невядома як будзе — панавала над усім.

Асцерагаліся і партызанаў. Іх лічылі сваімі, кармілі, калі яны заходзілі ў хату і выказвалі намер падмацавацца, але соль, напрыклад, хавалі ад лясных салдат гэтак жа, як і ад паліцаяў. Яна тады разглядалася як адна з найбольшых каштоўнасцей.

Зрэшты, партызаны траплялiся розныя. Былі і такія, што маглі забраць апошні кажух. Але галоўная небяспека заключалася ў тым, што за дзеянні партызан гітлераўцы помсцілі насельніцтву. З вуснаў у вусны перадавалася пагалоска, што за забітага ў вёсцы немца паляць сялянскія хаты разам з жыхарамі. Дык як было не баяцца?

У 1943 годзе, калі партызанскія ўдары па камунікацыях сталі сур'ёзна ўскладняць становішча акупантаў, яны пачалі ганяць людзей з навакольных вёсак на ахову чыгункі. З нашай сям'і спачатку хадзіў Міша (раз ці два), потым я, а потым Аляксей, якому тады было толькі дзесяць гадоў. Маці паслядоўна вызваляла старэйшых для работы па гаспадарцы. А магчыма, жыло ў яе спадзяванне, што ў выпадку бяды малых могуць пашкадаваць і не расстраляць.

Вядома, сапраўдную ахову неслі самі гітлераўцы. У іх для гэтага былі пабудаваны ў прыдарожнай паласе агнявыя кропкі тыпу дзотаў і дотаў. Нас жа бралі толькі на начное дзяжурства — падымаць трывогу, калі заўважым партызанаў. Папярэджвалі: калі адбудзецца дыверсія дзе-небудзь на нашым участку, расстраляюць усю начную змену. Такім чынам, мы фактычна былі заложнікамі.

Першыя дзве-тры ночы перапалоханыя вяскоўцы (адны жанчыны і падлеткі) яшчэ сядзелі на чыгуначным насыпе, бо гітлераўцы з вялізнымі аўчаркамі час ад часу рабілі абходы. А потым мы толькі «адзначаліся» ў нейкага начальства і адразу хаваліся ў лесе за высечанай прыдарожнай паласой. Жанчыны ўсю ноч маліліся, каб сёння дыверсіі не адбылося. Падлеткі пад гэтыя гарачыя малітвы хутка засыналі. На наша шчасце, нікога не расстралялі, бо выбухаў ад партызанскіх мін паблізу не было. А адзін немец з ахоўнікаў (гэта былі не эсэсаўцы, а пажылыя вайскоўцы з тылавых часцей) нашаму Аляксею нават даў цукерку і сказаў, каб кіндэр спаў дома. Пасля

гэтага маці нікога з нас не пасылала на тое дзяжурства. Перасталі хадзіць і іншыя, бо ў нас з цягам часу ўсталявалася партызанская зона і нямецкія загады можна было ўжо не выконваць.

Але страху на тых начных дзяжурствах мы набраліся надоўга. Я таксама баяўся не менш за іншых. І ўсё ж Міша, калі ўжо быў партызанам, аднойчы прымусіў мяне весці на чыгунку невялікую дыверсійную групу (ён сам і яшчэ двое хлопцаў). Да чыгункі яны па маёй наводцы падышлі, але былі заўважаны аховай, якая падняла моцную страляніну. Так што дыверсія тады не ўдалася. А больш на такія справы мяне не бралі.

У партызаны Міша пайшоў летам 1943 года. З гэтай нагоды мы таксама надрыжэліся, бо было вядома, што гітлераўцы распраўляюцца з партызанскімі сем'ямі. Дык вось і мы ўдзень і ўночы прыслухоўваліся да грукату кожнага матора. Здавалася, што гэта карнікі едуць нас арыштоўваць. Яны, казаў Міша, які калі-нікалі прыходзіў з атрада дадому за нейкай патрэбай, сапраўды рыхтавалі блакаду нашай мясцовасці, але партызаны адбілі іх наступ.

У нас партызанілі грышынцы. І ваявалі яны здорава, па ўсіх правілах вайсковай навукі. Асабліва паспяхова грамілі паліцэйскія гарнізоны. У нашай вёсцы толькі былы ляснік стаў паліцаем. З ім звялі рахункі мясцовыя хлопцы. Гарнізон жа, у які былі сцягнуты паліцаі з усёй воласці, размяшчаўся ў добрых, з моцнымі цаглянымі падмуркамі будынках Губіншчанскай школы, пакрытых пафарбаванай у чырвоны колер бляхай. Грышынцы на досвітку скрытна акружылі гэты гарнізон і з блізкай адлегласці парасстрэльвалі большасць напаўсонных паліцаяў у адной бялізне. Тых жа, хто паспеў схапіць зброю і спрабаваў адстрэльвацца з-за цагляных падмуркаў і атынкаваных сцен, папалілі разам з будынкамі.

Там загінуў і мой стрыечны брат Іван Логінаў. У пачатку вайны ён трапіў у акружэнне, мабыць, пабыў і ў палоне. У паліцыю пайшоў пад прымусам і там, як быццам, асабліва не шчыраваў. Але ў запале барацьбы з такімі дробязямі ніхто не лічыўся і лічыцца не мог. Я ведаў яго мала, бачыў, можа, два ці тры разы, аднойчы — і ў паліцэйскай форме. Прычынай тут была істотная розніца ва ўзросце, а яшчэ тое, што Логінавы жылі далекавата ад нас — у вёсцы з назвай Гарадок, размешчанай кіламетраў за дзесяць ад Губіншчыны. Але Іванаву маці Куліну памятаю вельмі выразна. Асабліва запомніліся яе вялікія, падобныя на мужчынскія, рукі, амаль заўсёды чырвоныя ад пастаяннага працоўнага напружання.

Куліна (яна ўжо даўно нябожчыца) была адзінай бацькавай сястрой і вызначалася асаблівай дабрынёй і спагадлівасцю. Калі пасадзілі нашага бацьку, цётка Куліна стала даволі часта наведвацца да нас, заўсёды прыносіла

кожнаму з малых нейкі гасцінец — цукерку, пернік (тады ў вёсцы гэта было рэдкасцю), колькі яблыкаў і сапраўдных ігруш-дуляў.

Лёс цётчынай сям'і склаўся трагічна. Мне ён уяўляецца паказальным для нашай шматпакутнай Беларусі. Акрамя Івана, у цёткі было яшчэ два хлопцы. Адзін з іх, Валодзя, стаў прафесійным вайскоўцам з афіцэрскім званнем. На працягу ўсёй вайны ён служыў на Далёкім Усходзе і застаўся жывы. Другі, Косця, быў значна маладзейшы, апошні ў цёткі. Рос ён хуліганістым хлопцам. І яго некалькі разоў выключалі са школы. Прызваны ў армію пасля вызвалення нашых мясцін, Косця пакляўся, што дойдзе да Берліна. І амаль дайшоў — загінуў ужо на подступах да гітлераўскай сталіцы.

Трагічна загінула і цётчына дачка, якую звалі, здаецца, Анютай. З вяртаннем бальшавікоў яе як сястру паліцэйскага мабілізавалі на працу ў шахтах Данбаса. Але да месца прызначэння дзяўчына не даехала — перапоўнены людзьмі з Беларусі цягнік трапіў у аварыю. У гады акупацыі небяспека страціць жыццё часта падсцерагала бадай што ўсіх нас. Можна было натрапіць на кулю паліцэйскага ці немца, падарвацца на міне, загінуць або пакалечыцца ад тых гранат і снарадаў, якія мы, па маладой дурноце, кідалі ў агонь і, трошкі адбегшыся, чакалі, як здорава яны будуць бабахаць.

Наогул, рознай зброі, прынамсі ў пачатку вайны, валялася процьма. І неасцярожнае абыходжанне з ёю нярэдка даводзіла да бяды. Я сам аднойчы ледзь не забіў брата Аляксея.

Пайшлі мы з ім паліць печ у еўні — для сушкі снапоў. Занятак сам па сабе нескладаны. І нам ён быў прывычны. Але еўня робіцца без коміна. Таму пакуль дровы добра не разгарацца, дым займае ўсю яе прастору, забівае дыханне. Потым ён спакваля падымаецца ўсё вышэй. І каля печы ўжо можна раскашавацца.

А трэба сказаць, што ў нашым гумне (яно падыходзіла ледзь не да самага лесу) акружэнцы выкапалі акоп, замаскіравалі яго ад цікаўных вачэй і схавалі ў ім вінтоўку з патронамі. Мы гэты акопчык агледзелі, вінтоўку перахавалі ў іншае месца і цяпер сталі любавацца ёю. Дым яшчэ высока не падняўся, бачнасць была слабаватая, а я ўжо адкрываў-закрываў затвор. І не адчуў, што патрон з магазіна трапіў у ствол. Праз нейкі час я націснуў на курок, спадзеючыся пачуць халасты шчаўчок і аддаць вінтоўку брату, каб з сапраўднай зброяй пазабаўляўся і ён. На шчасце, у Аляксея, які сядзеў недзе амаль побач, я не цэліўся, а накіраваў ствол вінтоўкі ў кут еўні. Але замест чаканага бясхрыбднага шчаўчка грымнуў стрэл, заглушаны крыкам брата. Куля трапіла яму ў кісць правай рукі, адарвала палову мезенца і выхапіла кавалак мяккай тканкі на правай жа назе, ніжэй калена, за якое трымаўся хлопец.

Ашаломлены нечаканасцю і болем Аляксей памчаўся дамоў. Ён ужо быў скінуў для прасушкі свой абутак. І цяпер у гарачцы пабег басанож, хоць зям-

ля ўжо была прыцярушана снегам. Параненая нага і асабліва палец гаіліся трудна, бо ніякіх лекаў тады не было. Дык хлопец цэлую зіму пракачаўся на печы. А мне і цяпер становіцца вусцішна, калі ўспомню той страшны стрэл, бо ён жа мог стаць і смяртэльным, калі б я ўздумаў папалохаць брата і стаў бы цэліцца не ў кут, а ў яго...

Пэўная рызыка, пра якую па наіўнасці не здагадваліся, была, відаць, і ў тым, што мы ў гады акупацыі, замест газет, якіх тады не было, абклейвалі сцены хаты савецкімі лістоўкамі. А ў іх жа прапаноўвалася немцам здавацца ў палон. Каб нарваўся які эсэсавец, мог бы і пастраляць — за прыхільнасць да бальшавіцкай прапаганды. Хоць мы ні пра якую прапаганду не думалі.

Першыя з тых лістовак паявіліся яшчэ ўлетку 1941 года. Масавай іх распаўсюджанасці я не памятаю. Але адзін ладны пачак Міша аднекуль прыцягнуў. І мы яго выкарысталі для аздобы хаты. Тады цікава было разглядаць розныя малюнкі, якія мелі на мэце пераканаць фанабэрыстых гітлераўцаў, што крочылі пераможным маршам па нашай краіне, як добра ім будзе ў савецкім палоне. А пазней, ужо ў сталым узросце, я не раз думаў, наколькі ж слаба тагачасныя ідэалагічныя службы ведалі праціўніка, калі ў пачатку вайны звярталася да яго з тымі заклікамі.

Зімой 1943 года, недзе ў канцы лютага ці пачатку сакавіка, у нас паявіліся лістоўкі аб перамозе пад Сталінградам. Асабліва шмат было лістовак з напісанай па-нямецку назвай «Што здарылася пад Сталінградам?». Тут адразу кідаўся ў вочы круг з лічбай «330 тысяч», перакрэслены вялікім чырвоным крыжам у выглядзе літары «х». На другім баку змяшчаліся партрэты Паўлюса і ўзятых у палон генералаў яго штаба. Траплялся, але намнога радзей, і лістоўкі з картай Сталінградскай бітвы, дзе быў перакрэслены надпіс «22 дывізіі».

Такім чынам, гэтыя лістоўкі гаварылі пра паварот у вайне мовай фактаў, ды яшчэ кідка пададзеных, і таму былі вельмі дзейснымі. Яны прымусілі многіх задумацца, паверыць, што не за гарамі і наша вызваленне.

На сталінградскія лістоўкі мы ўпершыню натрапілі марозным ранкам па дарозе ў школу. Заняткі ў той дзень фактычна сарваліся, бо большасць вучняў, пераважна хлопцы, але і некаторыя дзяўчаты, на ўрокі не пайшлі, а кінуліся на пошукі новых трафеяў. Асцярожныя настаўнікі імкнуліся неяк суняць наш імпэт, найбольш заўзятых шукальнікаў з кіпамі лістовак вадзілі і ў паліцэйскую дзяжурку, размешчаную ў адным са школьных будынкаў. Там лістоўкі, якія мы не паспелі прыхаваць, у нас адабралі (вобыску не рабілі). А яшчэ прыгразілі, што будуць лупцаваць шомпаламі, калі мы не перастанем збіраць крамольныя паперы. Усур'ёз тыя пагрозы не ўспрымаліся. Але заняткі ў школе ў хуткім часе ўвогуле спыніліся. Яны цяпер зусім страцілі сэнс. Ды і раней вялікай цікавасці не выклікалі.

Да вайны я скончыў пяць класаў. Пры немцах той памятнай зімой хадзіў у шосты. Але сапраўднай вучобы не было. Старэйшыя хлопцы на задніх лаўках рэзаліся ў карты. У класе звычайна стаяў гармідар, бо амаль усе настаўнікі не мелі ніякага аўтарытэту. Адзін з іх — аднекуль выкапаны завуч, які выкладаў, здаецца, беларускую мову і літаратуру — меў зняважліва-непрыстойную мянушку Мацьзайба. Другі — выкладчык арыфметыкі — прымушаў бясконца рашаць задачы, якія мы ўжо рашалі ў пятым класе. Ён наогул быў дзіваком, сцвярджаў, што толькі Бог мае права на пяцёрку, ён жа сам, як настаўнік і, мусіць, намеснік Бога на зямлі, варты чацвёркі, а ўжо вучань, які б спрытны ён ні быў, можа заслужыць толькі троечку...

Праўда, сярод іншых вылучалася выкладчыца нямецкай мовы. Гэты прадмет мы пачыналі вучыць у пятым класе. Але даваенная настаўніца сама ведала нямецкую мову зусім слаба, нават некаторыя артыклі чытала, як я пазней зразумеў, няправільна. Новая ж выкладчыца сваім прадметам валодала дасканала. У палітыку яна асабліва не ўдавалася, ва ўсякім разе, Гітлера на ўроках не славіла. Не памятаю, каб гэта рабілі і іншыя настаўнікі, хаця антысавецкія плакаты ў школе віселі. Адзін з іх называўся «Апошнія сутаргі Сталіна» і суправаджаўся карыкатурай на «правадыра ўсіх народаў», а таксама малюнкамі вайсковага ўзбраення і лічбамі вялікіх страт Чырвонай Арміі ў 1941—1942 гадах.

Тая ж выкладчыца па нашай просьбе збольшага пераклала тэкст сталінградскай лістоўкі, ніяк яе не каменціруючы. Адважыўшыся на такі крок, ды яшчэ на ўроку, жанчына, трэба думаць, ішла на немалую рызыку. Яна хараша чытала казкі братоў Грым у арыгінале і адразу іх перакладала. Заданні на пераклад тэкстаў з нямецкай яна таксама давала па гэтых казках, змешчаных у даваенным падручніку.

У літаратуры я не раз сустракаў сведчанні, што многія ў гады вайны пераносілі сваю варожасць да гітлераўцаў і на нямецкую мову. Мы ў акупантах таксама бачылі ворагаў і баяліся іх. Але нямецкая мова агіды ў нас не выклікала. Больш таго, пры добрай настаўніцы вучыць яе было цікава. За сябе я гэта магу сказаць зусім пэўна.

Але, паўтаруся, такая цікавасць была выключэннем. У цэлым жа вучоба пры немцах нам мала што дала. Бо ў дадатак да ўсяго і выкладаліся далёка не ўсе дысцыпліны, прадугледжаныя ранейшай школьнай праграмай. У нас не было нават алгебры, геаметрыі і, здаецца, гісторыі. Хутчэй за ўсё, не знайшлі настаўнікаў на гэтыя прадметы. Таму пасля вызвалення зноў прыйшлося ісці ў шосты клас.

А перад самым вызваленнем у Сычыку яшчэ раз паявіліся немцы-франтавікі. Да вялікага бою яны не рыхтаваліся, самі казалі, што хутка будуць адступаць далей, але перад гэтым павінны спаліць вёску. І нашы людзі

змірыліся з гэтым як з непазбежным злом. Баяліся толькі, каб іх не пагналі яшчэ і ў бежанцы. Да бежанства справа не дайшла, але трое сутак хавацца ў лесе з хатнім скарбам і жывёлай нам давялося.

Вёска гарэла ноччу. Але я з сябрам дзяцінства Юзікам Катоўскім, цяпер ужо нябожчыкам, выбягаў на ўскрай лесу глядзець, як палаюць нашы хаты. З нейкай дзікунскай апантанасцю мы любаваліся велічным у сваёй знішчальнай сіле, гіпнатычна-прыгожым відовішчам, зусім не думаючы, якую бяду нясе нам гэтае буйства прагнай вогненнай стыхіі, выпушчанай на волю людской ашалеласцю.

Яшчэ раней згарэла і наша гумно, пад самы вільчык набітае збажынай і сенам. Бо, акрамя нас, там складваў свой ураджай з поля і лугу за цэлы год і Юзікаў бацька.

Такім чынам, страта гумна таксама была вялікай бядой, і адбылася яна на маіх вачах. У той дзень я, як звычайна, выпаліў печ у еўні з жытнімі снапамі для заўтрашняй малацьбы і ўжо сабраўся ісці дамоў. Але замыкаючы гуменныя вароты, убачыў конніка на шэрым кані з вялікімі белымі крапінамі. Гэта быў немец, які трымаў у руках запалены факел. Ён ужо абмінуў іншыя быкоўскія гумны і яўна накіраваўся да нашага, якое, паўтаруся, было крайнім ад лесу. Яго адно і падпаліў той факельшчык. Астатнія гумны ўцалелі. А я радаваўся, што паспеў незаўважна для падпальшчыка прашмыгнуць у лясны гушчар. А яшчэ з дзіцячай наіўнасцю не раз суцяшаў сябе думкай, што затое не трэба будзе цэлую зіму ўставаць на досвітку і ісці малаціць.

Высокі слуп дыму, што пайшоў ад нашага гумна адразу пасля таго, як яго падпаліў той конны немец, быў бачны і ў Сычыку. Маці заўважыла яго і стала ўжо трывожыцца за мой лёс, бо хадзілі чуткі, што падпальшчыкі могуць кідаць у агонь і людзей. А тут я паяўляюся ўласнай персонай, жывы і здаровы. Дык і маці напачатку асабліва не бедавала, задаволіўшыся тым, што не здарылася горшага.

Было нейкае суцяшэнне і ад таго, што тады частку свайго ўраджаю мы ўжо абмалацілі і закапалі намалочанае збожжа ў зямлю. Яно праляжала там нядоўга і добра захавалася. Праўда, трохі пахла зямлёй, але было годным і для пасеву, і для ежы. Гады на два гэтае збожжа стала для нас неацэннай падтрымкай.

30 кастрычніка прыйшлі нашы. Мы вярнуліся на папялішча роднай хаты і сталі думаць, як жыць далей. На поўную сілу ўцягнуўся ў працу па гаспадарцы Міша. Ён тады быў з намі, бо за некалькі дзён да вызвалення Грышын зрабіў перафарміроўку сваіх сіл. Частка партызан накіравалася на Крычаў — насустрач Чырвонай Арміі, іншыя пайшлі трохі далей у нямецкі тыл. Лёс гэтых іншых аказаўся самым трагічным. Калі па рацэ Проні надоўга стабілізаваўся фронт, карнікі ва ўзаемадзеянні з франтавымі часткамі заціснулі іх у прырэч-

ных балотах і амаль усіх пазнішчалі. Сам Грышын і яго бліжэйшыя паплечнікі ратаваліся на спецыяльна прысланых за імі самалётах.

Хлопцаў жа з нашай мясцовасці Грышын паадпускаў дамоў з разлікам, што неўзабаве яны спатрэбяцца для папаўнення чырвонаармейскіх шэрагаў. Пра ўсё гэта было добра вядома і самім хлопцам. Дык вось цяпер наш Міша ў чаканні мабілізацыі і шчыраваў з клопатам пра тое, каб мы маглі перазімаваць. Часу ў яго было ўжо ў абрэз. Але ён яшчэ паспеў зрабіць адну неадкладную справу — накасіць ледзь не на ўсю зімоўку сена і на кабылу Сможку, якую, праўда, хутка забралі ў адноўлены калгас, і на карову, і на авечак. «Ледзь» тут нялішняе слова, бо трохі дакошваць давялося яшчэ і мне разам з маці. Мы змагаліся галоўным чынам з балотнай асакою, якую нарыхтоўвалі да самага снегу. Але спрыт да касьбы ў мяне быў зусім не той, што ў Мішы. Маці ж толькі зграбала накошанае.

Адвезці брата на зборны пункт у в. Сетнае выпала на маю долю. Я гэта і зрабіў, не падазраючы, што ўбачыць Мішу больш не давядзецца ніколі. Як і іншыя ягоныя равеснікі, што падраслі за час акупацыі, сямнаццацігадовы Міша быў кінуты ў мясарубку на Проні пад Чавусамі. Там жа склалі свае галовы і тыя нашы мужчыны, якія, прайшоўшы праз акружэнне і палон, у 1941 годзе прыбіліся да родных мясцін. Усіх іх цяпер накіравалі ў штрафныя роты, з якіх пасля раненняў вярнуліся дамоў двое.

Мішу ў штрафнікі тады не залічылі. Але ў першы свой бой без ніякай вайсковай падрыхтоўкі ён пайшоў разам з імі. Спрацаваў элементарны падман. Навабранцам аб'явілі: «Хто хоча стаць танкістам, выходзь наперад!» Такая спакуса прывабіла далёка не ўсіх сычыкаўскіх хлопцаў. А наш Міша, яго дваюрадны брат Яшкаў Коля, па прозвішчы таксама Бугаёў, якога дражнілі Гіполікам, і яшчэ некаторыя легкаверныя юнакі выказалі жаданне асвойваць сталёвыя машыны. Але наганяць страх на ворагаў гэтымі машынамі ім не давялося. Хлопцаў назвалі добраахвотнікамі і паслалі браць нямецкія акопы ў пешым страі. Гіполік загінуў адразу, а Міша атрымаў цяжкое раненне ў нагу.

Лячылі яго спачатку ў Клімавічах. Туды колькі разоў хадзіла маці. Ад яе я і ведаю гэтую гісторыю, пацверджаную таксама хлопцамі, якія былі пад Чавусамі, але ў бой з ходу не трапілі, бо «танкістамі» быць не пажадалі. Яны і потым ацалелі. Адзін стаў на вайне сувязістам, у другога была грыжа, якую яму выразалі, а потым даўгавата залечвалі. Трэці ўвогуле быў маларослы, слабаваты здароўем. Дык яго неяк выбавілі бацькі, хоць спачатку і ён трапіў пад мабілізацыю.

З Клімавіч нашага Мішу завезлі ажно ў Тулу. Там ён яшчэ доўга лячыўся, больш за паўгода. І ўрэшце стаў-такі штрафніком, можна сказаць, на законнай падставе. За якія грахі — я не ведаю. З Тулы ён прысылаў шмат

пісьмаў, часам з фотакарткамі, на адной з якіх красаваўся ў гімнасцёрцы з ордэнам. Але, хутчэй за ўсё, гімнасцёрка была з чужога пляча, бо пра сваё ўзнагароджанне ён нам нічога не пісаў. Ды і за што яго было ўзнагароджваць?

У апошнім лісце, які мы атрымалі ўлетку 1944 года, Міша паведаміў, што едзе на фронт абараняць радзіму. Гэтым паведамленнем ліст і заканчваўся. Напісаны ён быў, як і іншыя лісты, па-руску і, відаць, паспешліва, у вялікай узрушанасці, бо ў слове «родину» кідалася ў вочы грубая апіска — яно чыталася «роду».

А неўзабаве прыйшоў яшчэ адзін ліст, але ўжо не ад самога Мішы, а ад камандзіра ягонай штрафной роты ў складзе войскаў аднаго з украінскіх франтоў. Тут былі паперы, у якіх гаварылася, што прызнаецца не меўшым судзімасці Бугаёў Міхаіл Якаўлевіч, накіраваны ў штрафныя роты па прысудзе ваеннага трыбунала на падставе КК РСФСР. Канкрэтна называліся і артыкулы, але я іх цяпер не памятаю, бо яны нам нічога не гаварылі пра сутнасць абвінавачвання, а самі дакументы не захаваліся. Мы іх, мусіць, здалі ў ваенкамат.

Пра Мішаву гібель у тым лісце з фронту не паведамлялася. Але і так было зразумела, што хлопец ужо загінуў. Усё ж маці на нейкі цуд яшчэ спадзявалася, хаця казала, што ёй прысніўся сон (выпаў здаровы зуб), які азначае няйначай як Мішаву смерць. Але хацелася ведаць усё дакладна. І таму мне было даручана звярнуцца да таго ж ротнага камандзіра з просьбай, каб ён паведаміў дадатковыя звесткі пра Мішу. Вядома, ніякага адказу на гэтую просьбу мы не дачакаліся. Ды і самі здагадваліся, што ў франтавога камандзіра штрафнікоў, калі ён яшчэ не загінуў і сам, хапае клопатаў і без нашага ліста.

З цягам часу за Мішу прызначылі пенсію. Было гэта яшчэ тады, калі пра калгасныя пенсіі ніхто і не заікаўся. Калі ж іх устанавілі, дык яны ўсё роўна былі меншыя, чым пенсія за загінуўшага сына, якую маці атрымлівала да самай смерці. Праўда, і гэтая пенсія была невялікая, у самым пачатку — сто рублёў, тагачасны кошт паўлітровай бутэлькі гарэлкі. Гэткіх грошай іншыя сяляне тады не атрымлівалі.

Увогуле, ад вайны і бальшавіцкіх рэпрэсій былыя быкоўцы пацярпелі вельмі моцна. Пералік чалавечых страт пачну з дальняга канца пасёлка. Крайнімі там былі Сцёсавы. У іх загінуў, як ужо ўпаміналася, сам гаспадар, рэпрэсіраваны за тое, што быў пры ранейшай уладзе стражнікам, і сын Мікалай, той, што не пажадаў пры немцах станавіцца старастам. Ён склаў сваю галаву ў мясарубцы пад Чавусамі разам з іншымі штрафнікамі.

Наступным было селішча Лагуновых. У іх быў рэпрэсіраваны галава сям'і Макар. І адзін з двух ягоных сыноў не вярнуўся з вайны.

За Макаравым ішло селішча Аўрамкі. Яго раскулачылі ў пачатку калектывізацыі і некуды вывезлі разам з усёй сям'ёю. На маёй памяці

Аўрамкі ў пасёлку ўжо не было, а толькі ўзвышаўся невялікі курганок на месцы былога двара ды зеўралі ладным прагалам Аўрамкавы соткі, якія засяваў калгас. Гэты прагал дзяліў Быкоўку на дзве няроўныя палавіны. Наша маці зрэдку згадвала Аўрамку, казала, што зусім дарэмна знішчылі чалавека і яго-ную сям'ю.

Паміж Аўрамкавай і нашай сядзібамі размяшчаўся пляц Данілавых. Так іх называлі па дзеду, які яшчэ быў жывы. Але гаспадаром у іх лічыўся сын Мікалай. Гэта быў сельскі гумарыст, які любіў расказваць непрыстойныя анекдоты. Ён загінуў зноў жа пад Чавусамі. Мікалаева сястра Мар'я разам з рэпрэсіраваным мужам і дзецьмі апынулася ў Мурманску. У перадваенныя гады яны ўжо мелі магчымасць улетку прыязджаць на радзіму. У кожны свой прыезд яны абавязкова адзін раз частавалі цукеркамі быкоўскую малечу. Таму і мы заўсёды чакалі гэтага прыезду, як пэўнага свята. Апраналіся беларускія мурманчане ў чыстае гарадское адзенне і здаваліся нам забяспечанымі людзьмі. Але тую іхнюю забяспечанасць мы, відаць, перабольшвалі, успрымаючы яе на фоне сваёй галечы. А вось іхняя чалавечнасць і выхаванасць, далікатнасць у абыходжанні з малымі былі сапраўднымі і западалі не толькі ў памяць, але і ў душу.

Канчалася Быкоўка, у якой, паўтару, напачатку жыло шэсць сем'яў, Яшкавай сядзібай. Сам ён, адзін з усіх быкоўскіх гаспадароў, якія стваралі пасёлак, ацалеў. Але на вайне, як ужо ўпаміналася, загінуў ягоны сын Гіполік. Такім чынам, чалавечыя страты ў гады жорсткіх выпрабаванняў мелі ўсе сем'і быкоўцаў. Прычым на самай крывавай вайне іх загінула нават менш, чым ад бальшавіцкіх рэпрэсій (залічаю ў ахвяры ўсю Аўрамкаву сям'ю, якая пасля раскулачвання знікла бясследна. А гэта як мінімум тры чалавекі, бо бяздзетных сярод быкоўцаў не было). І зноў жа ў трагедыі быкоўцаў больш-менш адэкватна адлюстроўваецца трагедыя Беларусі ўвогуле і яе сялянства ў асаблівасці.

Вяртаючыся да першых дзён вызвалення ад гітлераўцаў, хачу падкрэсліць, што яны, тыя дні, прынеслі нам і радасныя весткі. Высветлілася, што жывымі засталіся нашы самыя старэйшыя хлопцы — Яфім і Іван.

Івана ў 1941 годзе на фронт не паслалі як быццам з-за бацькі, мусіць, баяліся, каб ён не перабег да гітлераўцаў. Дык ён трапіў у геадэзію. А яна працавала на абарону і таму давала права на бронь.

Яфім жа азваўся з дзеючай арміі. Ён меў медаль за Кенігсберг, які нашы войскі бралі штурмам і панеслі там велізарныя страты. Але медыкі і ў такіх абставінах гінулі радзей за іншых удзельнікаў вайны. Вось і брату пашанцавала. Ён уцалеў і нават быў прыслаў нам з Германіі ажно дзве пасылкі, якія ўмясцілі скураную куртку, два мужчынскіх касцюмы і пэўную колькасць трафейных медыкаментаў у самых разнастайных упакоўках. Абодва касцюмы

былі вялікіх памераў і разлічаныя на такую паўнату, што на мне віселі як на калу (я спрабаваў іх прымерваць). Скуранка таксама была велікаватая, але некалькі разоў у дажджлівае надвор'е я апранаў яе на начлег. Аднак потым Яфім забраў у Мінск усё гэтае багацце, пакінуўшы маці толькі трохі таблетак ад галаўнога болю, якімі яна карысталася не адзін год. Ды крыўдаваць не выпадала, бо брату самому яшчэ трэба было завяршаць адукацыю ў медінстытуце. І на чыю-небудзь дапамогу ён разлічваць не мог.

Нам жа давялося думаць, як і дзе зімаваць. Выручыла Ганна Макараўна, удава дзядзькі Лазара, якую вяскоўцы звычайна называлі Лазарыхай. У яе ўцалелі ажно дзве хаты, старая і новая, якія стаялі пад адной страхой. Яны не згарэлі таму, што дзядзькава сядзіба была скрозь абсаджана вялікімі дрэвамі. Тыя дрэвы і не далі агню перакінуцца ад суседскіх хат з аднаго і другога боку.

З намі ў старой хаце Лазарыхі мясцілася і сям'я бежанцаў з горада Ржэва. Гітлераўцы прымусова вывезлі іх спачатку ў Асіповіцкі раён, а калі там разгарнуўся моцны партызанскі рух, перакінулі да нас (каб яны не дапамагалі партызанам). Адступаючы далей на захад, немцы гэтых бежанцаў ужо не чапалі, а самі яны дамоў не спяшаліся ажно да лета 1944 года.

Жылі мы ўсе дружна, без сварак і калатнечы. І нават перанаселенасць у нашым новым жытле асабліва не турбавала, хоць у ім яшчэ кватаравалі і чырвонаармейцы з аўтабата, які стаяў у Сычыку ледзь не да самага пачатку летняга наступлення, якое завяршылася поўным вызваленнем Беларусі. Гутарка ідзе пра аперацыю «Баграціён». Але мы тады не ведалі, што яна так называецца. А што наступленне рыхтуецца, ведалі ўжо з вясны 1944 года.

Аўтабатаўцаў у нашых падсуседзях было небагата — два-тры чалавекі, якія часта змяняліся. Былі сярод іх людзі розных нацыянальнасцяў, у тым ліку адзін кіргіз, які не вельмі добра гаварыў па-руску. Харчаваліся вайскоўцы на аўтабатаўскай кухні. Але хлебныя пайкі, а зрэдку і абед ім прыносілі ў хату. І мы мелі магчымасць бачыць, што кормяць іх слабавата.

Вельмі цікава было слухаць размовы вайскоўцаў. Вяліся яны прыглушана, з пэўнай аглядкай. Але вечарамі, ужо на падпітку, шафёры часам забываліся на нас і давалі волю сваім думкам і языкам. Адзін з іх, былы лётчык, успамінаў, як у пачатку вайны яму з-пад Беластока давялося ўцякаць пяхотай, бо немцы яшчэ на зямлі разбамбілі самалёты, якія ў выніку нейкага бязглуздага загаду стаялі на аэрадроме без запраўкі.

На хату мы ўзбіліся толькі к наступнай зіме. Ды і то ў выніку моцнага шанцавання, пра якое варта сказаць.

З прыходам бальшавікоў мы сталі бясконнымі. Бо калгас аднавіўся, і, як ужо згадвалася, цягавітую Сможку, да якой мы прывязаліся ўсёй душою, у нас забралі. Дровы з блізкага лесу яшчэ зімою давялося вазіць на сабе — упрогшыся ў санкі.

Але вясною, ідучы са школы, я напаткаў ля вёскі Сетнае (там мы тады вучыліся) чырвонаармейца, які падарыў мне каня. Ягоная нечаканая шчодрасць вельмі здзівіла. Але ад такога нязвыклага падарунка я адмаўляцца не стаў. Дык вось на гэтым кані мы з Аляксеем (часам дапамагала і маці) за лета нацягалі бярвення на цэлую хату. Яно ўжо было трохі падсохлае, бо нарыхтоўвалі яго для сваіх патрэб аўтабатаўцы, але з пачаткам наступлення пакінулі. Не вельмі тоўстыя сосны мы валілі і самі.

Праз нейкі час высветлілася, што наш конь зусім не вайсковы, як мы думалі і ўсім казалі. Яго той вясёлы чырвонаармеец з размашыстай рускай душой прыхапіў у адным з суседніх калгасаў. Калі там даведаліся, што іхняя жывёліна не знікла бясследна ў армейскіх абозах, а спраўна працуе ў нейкіх падшыванцаў з Сычыка, каня нам давялося аддаць. Ды бярвенне мы ўжо навазілі.

Новенькі зруб зрубілі цесляры-чырвонаармейцы з воінскай часткі, якая прыйшла на змену аўтабатаўцам. Рабілася ўсё адкрыта, з адпаведным дазволам, бо існаваў загад высокага армейскага камандавання дапамагаць у будаўніцтве жылля чырвонаармейскім сем'ям, якія сталі бяздомнымі па віне гітлераўцаў. І платы з нас не бралі. Маці толькі па ўласнай ініцыятыве гатавала вячэру ўвішным будаўнікам.

Але працавалі яны нядоўга. І таму паспелі ашчаслівіць толькі некалькі сем'яў з тых, у каго быў гатовы будаўнічы матэрыял. Ды і то ні ў кога не давялі справы да наваселля. Нам таксама ставілі на фундамент гатовы зруб, ад якога ішоў духмяны смалавы водар, ужо нанятыя людзі і добраахвотныя памочнікі з вяскоўцаў.

Перасяляліся мы яшчэ тады, калі ў хаце не было падлогі. Печ рабіў далёка не такі дасканалы майстар, як дзядзька Лазар. Грэла яна слабавата, а дыміла моцна. Да таго ж без падлогі нават у самыя малыя маразы з зямлі цягнула холадам. Таму звечара, а потым і ўранку даводзілася паліць чыгунную буржуйку, якую мне ўдружылі аўтабатаўцы, бо была яна без дзверцаў. Але награвалася хутка і вельмі нас выручала.

Аднак на свежага чалавека новае наша жытло, да якога мы сяк-так прыстасаваліся, рабіла цяжкае ўражанне. Калі яго пабачыў Іван, ён не змог стрымаць слёз. Тады іхняя геадэзічная партыя з Казахстана перабралася ўжо ў Беларусь. Іван асталяваўся пад Крычавам і меў магчымасць зрэдку наведвацца ў Сычык. Ён, чым мог, дапамагаў нам. Наладзіўшы добрыя кантакты з калгасным начальствам, якое любіла выпіць чарку за чужы кошт, ён прывёз з лесу некалькі тоўстых ялін, напілаваў з іх дошак і зрабіў у нашай хаце падлогу. Вось так і абжываліся.

У школу вясковыя дзеці з наступленнем халадоў хадзілі ў лыкавых ці вераўчаных лапцях. Паколькі ў нас бацькі не было, дык мы плялі іх самі.

Але гэтыя лапці хутка зношваліся. Больш надзейнымі былі лапці-чуні, пашытыя з распараных і адмыслова раскроеных аўтамабільных пакрышак. Мы з Аляксеем сцягнулі ў аўтабатаўцаў старую пакрышку і дзякуючы ёй таксама ўзбіліся на трывалы абутак. Я для сваіх лапцей увогуле ўзяў знешні пакрышачны слой з астаткамі гумавай нарэзкі. Лапці атрымаліся цяжкаватыя, але надзіва даўгавечныя і, можна сказаць, з асабістай пячаткай, выразны адбітак якой пакідала тая гумавая нарэзка на снезе ці на вільготнай зямлі. Па гэтым аўтографе было добра відаць, дзе прайшоў Гапчын Міцік (Міцікам услед за маці звалі мяне вяскоўцы). Сябры па школе часам смяяліся з маіх лапцей. Але я на іх кпіны стараўся не зважаць. Ды асабліва заўзятых насмешнікаў ушчувалі і некаторыя настаўнікі. Яны мне па-чалавечы спачувалі і паважалі за добрую вучобу.

Сёмы клас Губіншчанскай школы я закончыў вясною 1945 года з атэстатам выдатніка. Такі ж атэстат атрымаў і Фралоў Міша, мой траюрадны брат і добры сябра. Выдатнікі тады мелі права паступаць у вучылішчы і тэхнікумы без уступных экзаменаў. Мы з Мішам па аб’яве ў газеце выбралі Бабруйскі аўтатранспартны тэхнікум. Далекавата ад дому, але затое будзем аўтамеханікамі, суцяшалі сябе зялёныя юнакі.

Праўда, у той аб’яве нічога не гаварылася пра забеспячэнне навучэнцаў інтэрнатам. Гэта нас насцярожыла. Але жанчына, у якой мы бралі газету, аўтарытэтна запэўніла, што цяпер месца ў інтэрнаце даюць ва ўсіх тэхнікумах, толькі не заўсёды пішуць пра гэта ў аб’явах.

Словам, дакументы мы падалі ў Бабруйск і недзе пад восень дачакаліся выкліку на вучобу. Гэта быў афіцыйны дакумент, на падставе якога можна было, калі дасць згоду (у выглядзе даведкі, што ты ёсць ты) старшыня калгаса, атрымаць у райцэнтры пашпарт і выязджаць з вёскі.

Старшыню неяк улагодзілі. Ён і па законе павінен быў нас адпускаць. Але хто ж не ведае, што ў Краіне Саветаў начальства на ўсіх узроўнях магло беспакарана парушаць любыя пісаныя законы? А нашаму старшыні пры жаданні і парушаць нічога б не спатрэбілася. Яму было дастаткова толькі крыху зацягнуць справу, каб мы на сваю вучобу спазніліся.

Ды нічога такога не здарылася. Усе неабходныя паперы мы атрымалі своечасова. Аднак у Бабруйску нас чакала горкае расчараванне — інтэрната ў аўтатранспартным тэхнікуме не было. А прыватная кватэра аказалася для нас недасягальнай з-за дарагавізны. Так што нічога іншага не заставалася, як пакінуць негасцінны Бабруйск.

А куды падацца? Дадому? Што заўгодна, толькі не гэта, бо дома чакаў калгас. А смак працы ў ім мы ўжо спазналі не толькі ў даваенныя гады. Як і іншыя падлеткі, я пасля сканчэння сямігодкі цэлае лета (заняткі ў тэхнікумах

і вучылішчах той восенню пачыналіся толькі з 17 верасня) дзень у дзень хадзіў на калгасную працу, часта разам з дарослымі, і шчыраваў ад душы. Аднойчы нават паставіў своеасаблівы рэкорд: на заклад узараў на парцы коней 90 сотак зябліва замест шасцідзесяці па норме, якая выконвалася не ўсімі і не заўсёды. А пры разліку мы на свае працадні не атрымалі нічога. Калгасная брыгадзірка, якая як магла заахвочвала нас да працы, нагнала, парушыўшы строгія забароны, самагону і зрабіла развітальную вячэру. На той вячэры мне дасталося ажно тры шклянкі самаробнага пітва. Яно было не асабліва моцным, але мяне зваліла з ног. Я думаў, што ўвогуле кончуся. Але абышлося ташноцікамі, пасля якіх я сяк-так ачомаўся, але потым гады са два на гарэлку не мог і глядзець.

Такім чынам, дома нам нічога не свяціла. І нейкі год перачакаць мы не маглі, бо пашпарты нам выдалі часовыя, сапраўдныя толькі на шэсць месяцаў. З першага заходу на большы тэрмін іх не выдавалі нікому.

Заставаўся Магілёў, бо адтуль можна было прыязджаць дадому за падмацункам. Але ж да Магілёва трэба было яшчэ дабрацца. А гэта стала цэлай праблемай, бо на білеты грошай у нас не было. Таварняком неяк даехалі да Асіповіч. Але там высветлілася, што з Асіповіч на Магілёў і таварнякі ходзяць рэдка. Марна патраціўшы яшчэ дзень ці больш, мы ўрэшце паслухаліся парады дасведчаных людзей і адважыліся вяртацца праз Жлобін. Гэта намнога далей і з абавязковай перасадкай, але давялося рызыкнуць. І тут нам нарэшце пашанцавала. Гружаны таўшчэзнымі сасновымі круглякамі таварняк, у якім мы ўладкаваліся, забраўшыся на самы верх бярвення, сапраўды пайшоў на Бабруйск і потым на Жлобін.

Гэта таксама была ўдача, бо наконт маршруту таго ці іншага таварняка і хоць бы прыблізнага часу яго адыходу заўсёды была няпэўнасць: адны патэнцыяльныя пасажыры кажуць адно, другія — зусім іншае. А тут нехта якраз угадаў. І дзень выдаўся яшчэ цёплы, сонечны. І міліцыя на доўгіх прыпынках ні разу не прычапілася, не зняла з цягніка. А ў дадатак да ўсяго нашым вачам адкрылася відовішча, можна сказаць, гістарычнае — мы праязджалі праз мясціны, па якіх пракаціўся Бабруйскі «кацёл». Самой гэтай назвы мы тады не ведалі. Але пра зацятасць баёў і цану ўнушальнай перамогі войскаў Ракасоўскага наглядна сведчылі разбітыя танкі, гарматы, аўтамашыны, трактары і іншая тэхніка, якая дзе зусім кучна, а дзе трохі радзей грувасцілася на ўсім бачным прасцягу ад Бабруйска да Жлобіна.

У Магілёў мы трапілі толькі ў пачатку кастрычніка, згубіўшы на пераезд у Бабруйск і з Бабруйска не менш двух тыдняў. Прыём ужо ўсюды быў даўно закончаны. Ішлі заняткі. Але мы яшчэ тыцнуліся ў прэстыжнае па тым часе медвучылішча фармацэўтычнага профілю. Ды там не толькі былі запоўнены ўсе месцы, але і вісеў спіс кандыдатаў у навучэнцы.

Давялося падавацца ў педвучылішча, дзе быў недабор, бо настаўніцкая прафесія каціравалася вельмі нізка. Мы таксама менш за ўсё хацелі станавіцца настаўнікамі пачатковай школы. Але выбару не было...

Сустрэў нас завуч педвучылішча па прозвішчы Шаціла, надзіва рухавы таўстун, па адзенні і манерах якога было відаць, што ён нядаўна дэмабілізаваўся з войска. Гэты быў рашучы і хуткі на расправу, але ўвогуле добры чалавек. Пазней мы пачулі пра яго такую гісторыю. Як быццам на Шацілу ўжо ў Магілёве напала двое рабаўнікоў (тады таксама рабавалі, гвалцілі і забівалі шмат). Ён злаўчыўся, схапіў нахабнікаў за каршэнь і так стукнуў іх ілбамі адзін аб аднаго, што яны пападалі на зямлю, страціўшы прытомнасць.

Гісторыя, хутчэй за ўсё, выдуманая, бо вельмі ж нагадвае вядомы з фальклору прытчавы сюжэт. Але да вобліку Шацілы яна стасавалася добра.

У нас жа ён найперш запытаўся, чаму мы так позна прыйшлі, потым паглядзеў атэстаты, узяў іншыя дакументы, распарадзіўся наконт інтэрната і сказаў, што ўжо заўтра трэба прыходзіць на заняткі.

Размяшчалася педвучылішча ў цагляным трохпавярховым будынку на Быхаўскай вуліцы, недалёка ад базару. Быў у тым будынку прыстасаваны пад жыллё даволі цёплы падвал з паркетнай падлогай, у якім нас і пасялілі. Казалі, што ў акупацыю ў гэтым велізарным, як стадола, падвале гестапаўцы дапытвалі вязняў. Ніякіх слядоў катаванняў мы нідзе не знайшлі, і начныя кашмары нас не мучылі. Мне, напрыклад, сніліся не цені загубленых падпольшчыкаў, а Сычык, родная хата і маці. Настальгіі па калгаснай працы не памятаю.

Зрэшты, жылі мы ў тым падвале нядоўга — яго абсталявалі пад магазін, які абслугоўваў толькі вучылішча, а нас перасялілі наверх.

Наверсе было больш прывычна. Праз закратаваныя падвальныя вокны пад самай столлю мільгацелі толькі ногі пешаходаў, як адрэзаныя ад тулава. А тут усё глядзелася нармальна. Але затое даймаў холад. Паратунку ад яго шукалі самі. Сярод навучэнцаў (мы сябе называлі не навучэнцамі, а студэнтамі) у нашым пакоі знайшоўся ўмелец, які склаў цагляную печку з чыгуннай плітой. На гэтай пліце і ў самой печцы можна было гатаваць ежу, што мы звычайна і рабілі па чарзе.

І пліту, і цэглу для печкі, а таксама металічныя часткі ложкаў для тых, каму іх з-за спазнення не дасталося ад загадчыка гаспадаркі, падбіралі на месцы разбураных у вайну дамоў.

Трохі дроў выдаваў заўгас. Але для нармальнага ацяплення іх не хапала. Недастачу мы кампенсавалі самі. Будучыя сейбіты «разумнага, добрага, вечнага» спачатку цягалі сырыя плашкі з дрывянога тэхнікумаўскага склада, а потым пайшлі на раздабыткі далей.

На адной з магілёўскіх сядзіб агледзелі штабель акуратна складзеных бярвенцаў — цэлую хату ці клець, прывезеную аднекуль з вёскі. Бярвенне было не вельмі тоўстае, а галоўнае — даўно высушанае сонцам і вятрамі. І мы яго без асаблівай натугі насілі ледзь не цэлую зіму.

Гаспадар з цягам часу заўважыў, што яго будучая хата, кажучы песеннымі словамі, растае, знікае. На месцы злачынства ён нас не захапіў, але дакладна вызначыў, што сляды вядуць у педвучылішча. Наспяваў вялікі скандал з перспектывай не толькі выключэння з вучылішча завадатараў, але і судовай справы ў дачыненні да іх.

Ад вялікіх непрыемнасцей выратаваў дырэктар Чарнякоў. Добрую прачуханку ён нам даў, сур'ёзна папярэдзіў на будучае, але па-чалавечы пашкадаваў. Не жадаючы ламаць лёс маладым дурням, ён угаварыў гаспадара папаленых бярвенцаў не падымаць вялікага шуму. Спрацавала і тая акалічнасць, што гаспадаром аказаўся поп. А ў дзяржаве абавязковага атэізму шкоду, прычыненую папу, відаць, можна было, стаўшы на шлях грубай палітычнай дэмагогіі, падаць і як пэўную праяву барацьбы з рэлігіяй.

Зрэшты, усе аргументы, якія выкарыстаў Чарнякоў для нашай абароны, мне дакладна невядомыя. Але тое, што мы пакрыўдзілі менавіта папа, нам дапамагло. Пра гэта гаварылася з усёй пэўнасцю.

Хоць да суда не дайшло, аднак пакараныя мы ўсё ж былі. Не ўладамі, а Богам ці выпадкам. Аднойчы мы так напалілі сваю печку дрывамі, нарыхтаванымі з паповай хаты, што ўзнік пажар — загарэўся абутак, які мы сушылі на пліце. Пакуль збольшага ачомаліся ад сну, сцямілі, што і дзе гарыць, дык сёе-тое і згарэла. У маіх валёнках сатлелі падэшвы. Халявы, на шчасце, яшчэ засталіся цэлыя. Але ж у адных халявах не паходзіш...

Прыйшлося тэрмінова ехаць дамоў, шукаць старыя, ужо не прыдатныя для носкі, валёнкі і выкройваць з іх падэшвы для сваіх гарэлікаў. Пасля майго няўмелага рамонту хадзіць у іх было не вельмі зручна — мулялі грубыя швы і моцна пахла паленай воўнай. Але з гэтым прыходзілася мірыцца, бо новага абутку маці мне справіць не магла.

Яна і так выбівалася з апошніх сіл. Жылі ж з аднаго прысядзібнага ўчастка памерам у паўгектара. Калгасныя заробкі былі чыста сімвалічныя. А дома заставалася яшчэ двое меншых — Лена і Аляксей. І я кожны выхадны прыязджаў за падмацаваннем.

Ездзіць даводзілася ў асноўным таварнякамі, а часам на тэндары паравоза. Калі ж здараўся пасажырскі цягнік — дык без білетаў, на падножцы вагона, а то і на ягоным даху.

У цёплую пару на вагонным даху можна было ўладкавацца нават з пэўным камфортам. Трэба было толькі асцерагацца, каб пры пераездзе праз чыгуначныя масты не знесла галаву верхнімі перакрыццямі. Затое агляд

адкрываўся выдатны. За ўсё астатняе жыццё я столькі не нагледзеўся на беларускія пейзажы, як у час верхатурных студэнцкіх паездак.

Часам удавалася, ашукаўшы пільных праваднікоў, прашмыгнуць у людской мітусні і ў пасажырскі вагон, а там зашыцца ў які куток, забрацца на багажную полку ці нават пад лаўку, куды не заўсёды заглядвалі рэдкія адразу пасля вайны кантралёры. Пазней, калі на чыгунцы пачалі ўсталёўвацца больш жорсткія парадкі, кантралёраў паявілася шмат. І з безбілетнікамі яны не цацкаліся. Маглі са злосці выкінуць безабароннага «зайца» з вагона па ходзе цягніка, зусім не думаючы пра далейшы лёс чалавека. Смяртэльных выпадкаў са знаёмымі хлопцамі не памятаю. А пакалечаныя былі. Аднаму добраму юнаку з суседняга пасёлка Асінаўка ў выніку такой расправы адрэзала нагу. Сам ён цудам застаўся жывы.

Мне шанцавала больш. Але без казусаў не абыходзілася і ў маіх безбілетных вандроўках. Адна з іх запомнілася назаўсёды. Тады я пакутаваў ад моцных боляў жывата. Даведаўшыся, што дадому з Мінска прыехаў брат Яфім, я наважыўся падлячыцца ў яго. Кінуў сярод тыдня заняткі і падаўся на вакзал, але ў чалавечай мітусні ўбіўся ў цягнік, які ішоў не на Крычаў, а на Оршу. Трапіў у воінскі вагон. У такіх вагонах звычайна правяралі менш. І я, сцішыўшыся як мыш пад венікам, патроху кімарыў, радуючыся, што хутка буду на сваёй станцыі. А тут чую размовы пра Оршу... Вось табе і ўдача!

Вяртацца назад у Магілёў? Гэта здалося крыўдным і недарэчным. А яшчэ была апаска, ці застану брата дома, калі залішне праваждаюся ў дарозе. І я наважыўся нейкім таварняком ехаць з Оршы на Крычаў, спадзеючыся адтуль дабрацца да свайго Асаўца пасажырскім, які вечарам ішоў на Магілёў. Аднак і ў Крычаве мне не пашанцавала — пакуль я туды дабіраўся, магілёўскі цягнік ужо даўно прайшоў. А наступны будзе толькі праз суткі. Столькі чакаць было рызыкоўна. І я па шпалах, занесеных свежым снегам, топаў цэлую ноч да сваёй станцыі, а ўжо адтуль дабіраўся ў Сычык.

Адлегласць не такая і вялікая. Нейкіх дваццаць кіламетраў з хвосцікам. Але ж я быў хворы і зусім знясілены. Ды яшчэ і страху набраўся як ніколі. Па дарозе надыбаў на нейкі гурт п’яных хлопцаў, якія каля самай чыгункі палілі вогнішча. Я здуру падышоў пагрэцца. Хлопцы спачатку паводзілі сябе досыць мірна, а потым сталі чапляцца. Давялося ўцякаць. Яны далёка не гналіся, але страляць па мне ці, прынамсі, у мой бок спрабавалі. Ды неяк абышлося. Не зрабілі шкоды і ваўкі, вочы якіх амаль праз усю дарогу свяціліся ў блізкіх хмызняках. Казалі, што гэтыя звяры за вайну навучыліся нападаць на людзей. Гэтая акалічнасць таксама паддавала страху.

Дадому, наглытаўшыся ад смагі і болю мокрага снегу, я прыклыпаў позняй раніцай. І тут высветлілася, што мае пакуты дарэмныя — брат паехаў яшчэ ўчора.

Праляжаўшы на цёплай печы некалькі дзён, я ўсё ж мусіў вяртацца ў Магілёў. А там давялося класціся ў бальніцу, дзе мне ў часе дэзынфекцыі адзення спалілі шапку-вушанку, пашытую з вырабленай аўчыны... Вось так адно няшчасце накладвалася на другое.

Шмат праблем узнікала з атаварваннем прадуктовых картак, па якіх тады жыла краіна. Хлеб (яго нам адпускалі па 500 грамаў) трэба было выкупляць кожны дзень, бо назаўтра талон на прапушчанае чысло ўжо не дзейнічаў. Ствараліся вялікія бязладныя чэргі, у якіх перамагалі мацнейшыя. Я да мацнейшых не належаў і таму часам заставаўся без сваёй законнай пайкі.

У канцы 1947 года карткі адмянілі. Чэргі сталі яшчэ большымі, а хлеб значна даражэйшым (па картках прадукты былі вельмі таннымі). Затое ў выпадку ўдачы і пры наяўнасці грошай, якіх заўсёды не хапала, можна было купіць цэлую буханку і наесціся ўволю.

Словам, неяк жылі. Мне, акрамя маці, пасля сканчэння свайго інстытута зрэдку дапамагаў брат Яфім, а найбольш Іван. Ён час ад часу прысылаў трохі грошай, а калі па службе здаралася быць у Магілёве, дык прывозіў прадукты — то мех ці торбу бульбы, то які кілаграм круп, то крыху макаронаў, якія тады здаваліся надзіва смачнымі.

А аднойчы, мусіць, ужо на другім курсе, кожнаму з навучэнцаў, якія жылі ў інтэрнаце, выпала па харчовай пасылцы ад ЮНРРА. Там былі какава (маленькі пакет), жавальная гумка, ладная бляшанка павідла з мандарынаў і некалькі плітак шакаладу. Такая раскоша раней і не снілася...

Праўда, потым, калі халодная вайна стала набіраць абароты, нам растлумачвалі, што гэтыя пасылкі не што іншае, як прапагандысцкія буржуйскія штучкі, якія маюць на мэце ўводзіць у зман савецкіх людзей... Нам жа было шкода, што тыя штучкі больш не паўтарыліся.

Здаралася ў вучылішчы на Быхаўскай нямала і іншых прыемных ці проста вясёлых гісторый. Часам смешнымі здаваліся і некаторыя настаўнікі. Асабліва вылучаўся ў гэтых адносінах выкладчык матэматыкі Патупчык. Дзверы ў халодную аўдыторыю ён адчыняў нагою, нагою ж іх і зачыняў, а рукі, каб яны не мерзлі, трымаў у кішэнях. Класны журнал ён вытрасаў з падпахі і разгортваў яго далёка не адразу. На ўроках Патупчык любіў расказваць розныя гісторыі, часта цытаваў «Новую зямлю», асабліва радкі пра тое, як, даядаючы верашчаку, Міхал з Антосем дзялілі апошнюю скварку, а дзеці «аладкі кроілі ў квадраты (хоць геаметрыі не зналі) і на відэльцы іх чаплялі». Усё гэта было цікава само па сабе, але не мела дачынення не толькі да тэмы ўрока, але, калі не лічыць упамінання пра квадраты, і да матэматыкі ўвогуле.

Вучэбны матэрыял Патупчык падаваў з такой занудлівай абыякавасцю, што ўрэшце выклікаў у большасці з нас стойкую непрыхільнасць да свайго прадмета. Я ў школе любіў дакладныя навукі, у тым ліку алгебру і геаме-

трыю, а з-за Патупчыкавага выхавання і ягонай непатрабавальнасці да нашых ведаў страціў гэтую любоў.

Кажу гэта не столькі ва ўкор старому чалавеку, якога, трэба думаць, даўно няма на свеце (Патупчык ужо тады меў пенсійны ўзрост), колькі для таго, каб падкрэсліць, наколькі важныя настаўніцкая апантанасць, уменне педагога заахвоціць сваіх выхаванцаў, выклікаць у іх захапленне тым прадметам, які ён выкладае. Сёння такая апантанасць, падзвіжніцтва асабліва неабходныя выкладчыку роднай мовы і літаратуры і ўсіх іншых вучэбных дысцыплін, якія стымулююць абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці, бо ўрэшце ад гэтага залежыць будучыня нашай дзяржавы і самога беларускага народа.

У Магілёўскім педвучылішчы беларуская мова і літаратура выкладаліся нецікава, яўна горш за рускую. Наш класны кіраўнік Марыя Самуйлаўна Собаль, у адрозненне ад ліберальна-абыякавага беларусаведа, ад якога ў маёй памяці засталіся толькі шыкоўныя вусы ды яшчэ тое, як ён бясконца мусоліў куляшоўскі «Сцяг брыгады», вынішчаючы жывое дыханне выдатнага твора, ніколі не даравала нявывучаных урокаў па рускай мове і літаратуры. І гэта давала свой плён, а ў канчатковым выніку прымушала паважаць і выкладчыцу, і яе прадмет.

Зрэшты, навучэнцамі мы былі не самымі ўдзячнымі. Прыгадваецца, што не толькі на першым курсе многія з нас увогуле марылі пакінуць педвучылішча і ўладкавацца дзе-небудзь у іншым месцы. Была пагалоска пра нейкія шафёрскія курсы. Яны нам здаваліся больш перспектыўнымі, чым наша будучая спецыяльнасць. Але трапіць туды нікому з нас чамусьці не ўдалося.

Затое мне пашанцавала, не пакідаючы асноўнай вучобы, паступіць у аэраклуб. Ён меў на мэце падрыхтаваць юнакоў для паступлення ў лётнае вайсковае вучылішча. Я прафесійным вайскоўцам станавіцца не збіраўся, а палятаць хацелася.

Аднак лятаў я з прыгодамі. Пры самым першым палёце, у задачу якога ўваходзіла праверка таго, як чалавек пераносіць вышыню, у мяне выйшаў канфуз з прывязнымі рамянямі. Яны сцягваліся ў вузел адмысловым замком. Я той замок зашчоўкнуў, але рамяні пад зажым не трапілі. Сказаць пра гэта інструктару, які сядзеў на месцы пілота ў пярэдняй кабіне, не было як: перагаворны механізм працаваў толькі ў адным напрамку — ад інструктара да курсанта, які займаў другую кабіну. Заставалася чакаць канца палёту і спадзявацца, што ён не стане для мяне апошнім. Як назло, у галаву лез анекдот пра лётную практыку Хаймовіча і Абрамовіча. Калі іхні самалёт прызямліўся, Хаймовічу паднеслі кветкі. Але ён сказаў: лепш бы падалі не кветкі, а свежыя кальсоны. Заўвагу адносна ягонай негераічнасці ў палёце Хаймовіч парыраваў так: з Абрамовічам атрымалася яшчэ горш, яго ўвогуле выкінула на першым павароце.

Мне свежыя кальсоны не спатрэбіліся, бо сапраўднага страху я не адчуў. А думка пра тое, як утрымацца ў кабіне, была. Таму пры моцным крэне нашага «кукурузніка» (афіцыйна ён называўся «По-2») я нахіляўся да супрацьлеглага борта. Вышыню, як высветлілася, я пераносіў добра, а тэорыю ведаў слаба. А каб вывучыў яе лепш, дык і ўвогуле мог бы дужа не турбавацца і не зважаць на сумніцельныя анекдоты: верагоднасць выкінуцца з «кукурузніка» пры спакойным палёце нязначная, бо сустрэчны паветраны паток прыціскае чалавека да кабіны, а не выштурхоўвае з яе. Прывязваюцца ж для перастрахоўкі — на выпадак непрадбачаных абставін.

Пасля пасадкі я добрасумленна і, можа, нават з пэўным гонарам, што насуперак інструкцыі застаўся жывы, далажыў аб сваёй прамашцы інструктару. Ён абмежаваўся ёмістым мацюком, пасля якога з прывязкай у мяне ўсё наладзілася.

Але непрыемныя гісторыі здараліся і пазней. Перад самым выхадам на працяглыя самастойныя палёты наш аэраклуб прыехаў правяраць высокі воінскі начальнік, здаецца, генерал. З усіх курсантау я быў самы нізкарослы. Генерал якраз з мяне і пачаў праверку, мабыць, рашыўшы, што калі ўжо такі заморак навучыўся лятаць, дык за астатніх можна не хвалявацца. Але пахвалявацца яму давялося моцна.

Узляцеў я нармальна, а потым павёў той у асноўным фанерны «По-2» не па загадзя вызначаным квадраце — каробачцы, а з вялікімі зігзагамі ажно за Днепр, прызямліўся з яўным спазненнем, разы ў два ці больш перабраўшы палётны час.

Генерал выбраўся са сваёй кабіны не скажу што белы як палатно, але абураны і накінуўся на інструктара з лаянкай: маўляў, што гэта ў вас за курсанты? Гэты ж мяне ледзь не ўгробіў...

Зразумела, што мае палёты пасля гэтага скончыліся. Але я не бедаваў, а толькі радаваўся: не будуць націскаць, каб паступаў у лётнае вучылішча.

К таму часу я ўжо прыйшоў да думкі, што і настаўніцкая прафесія мае сваю прывабнасць. У гэтым я пераканаўся ў час самастойнай педпрактыкі. Яна доўжылася цэлы месяц, на працягу якога я вёў усе ўрокі ў вызначаным мне класе гарадской школы, займаўся і пазакласнай работай. А метадыст і школьны настаўнік ставілі адну агульную ацэнку за ўсю практыку. І яны ніяк не скоўвалі маю ініцыятыву, а, наадварот, заахвочвалі яе.

Увогуле, падрыхтоўка ў тагачасным педвучылішчы яшчэ з трохгадовым тэрмінам навучання (пазней ён быў павялічаны да чатырох гадоў) мела шмат прабелаў і хібаў. Мы зусім не вывучалі замежнай мовы, трыганаметрыі, аблегчаным быў і курс фізікі. Але педпрактыкі было шмат. І ёй аддавалася вялікая ўвага, куды большая, чым, скажам, у педінстытуце, у які я там жа, у Магілёве, паступіў адразу пасля педвучылішча.

Свядома выбраў філфак. Спачатку, вядома, завочнае аддзяленне. Праблем з паступленнем, ад якіх так пакутавалі пазнейшыя абітурыенты, не было. Усім, хто пажадаў працягваць адукацыю, у якасці ўступных экзаменаў залічылі выпускныя ў педвучылішчы. Так што мы з адной вучэбнай лаўкі пераселі на другую.

Займацца ў педінстытуце было намнога цікавей. Радавала і тое, што цяпер істотна звужалася спецыялізацыя, бо менавіта патрабаванне ўніверсалізму ад настаўніка пачатковых класаў мяне больш за ўсё не задавальняла.

Празаймаўшыся месяц на ўстановачнай сесіі завочнікаў, я паехаў на працу ў Іванаўскі раён. Тады ён уваходзіў у склад Пінскай вобласці, а накіраванне ў мяне было ў Брэсцкую. Але брат Яфім, які працаваў у Іванаве і як доктар-венеролаг меў добрыя адносіны з мясцовым начальствам, запрасіў у свой раён, паабяцаўшы, што тут мяне ўладкуюць і без накіравання, хаця па правілах гэта рабіць забаранялася. На правілы, вядома, махнулі рукой. І я апынуўся ў Крытышынскай сямігодцы, за дзесяць кіламетраў ад райцэнтра.

Атрымаў трэці клас і аклад у 520 рублёў, «чыстымі» — рублёў чатырыста. Але і на гэтыя грошы ў Заходняй Беларусі тады можна было пражыць, бо за кватэру з харчаваннем я плаціў трыста рублёў. Значыць, сотня яшчэ заставалася на адзенне, абутак і іншыя патрэбы. Нягуста, канечне, але ўвогуле цярпіма. Бо былі яшчэ і невялікія падработкі: я вёў з моладдзю, якая даўно выйшла са школьнага ўзросту, вячэрнія заняткі па ліквідацыі непісьменнасці і нечакана для сябе атрымаў за гэтую працу агулам ажно 500 дадатковых рублёў.

Потым замяняў выкладчыка старажытнай гісторыі (яго ў сярэдзіне навучальнага года прызвалі ў армію, а новага гісторыка прыслалі не адразу — настаўнікаў тады не хапала). Пазней звольнілася выкладчыца батанікі і заалогіі. Дык я і яе прадметы пэўны час выкладаў. Словам, па маладой самаўпэўненасці браўся за ўсё, што давалі. Рыхтаваўся ў асноўным па школьных падручніках. Але так рабілі і іншыя выкладчыкі, а некаторыя і падручнікі не вельмі старанна штудзіравалі. Так што нараканняў на мяне не было. З праграмай жа свайго трэцяга класа я спраўляўся зусім лёгка, калі не лічыць урокаў па спевах і маляванню, якія мне даваліся найцяжэй.

Увогуле, Крытышынская школа лічылася не горшай у раёне. Наш дырэктар з казачным прозвішчам (яго звалі Іван Данілавіч Рымша) быў патрабавальным, але па дробязях асабліва не прыдзіраўся, хоць папалохаць часам любіў: мог пасля ўчарашняга агульнага застолля прыйсці на ўрок і патрабаваць яго пісаны план. Ды планы пісаліся па пэўным стандарце, засвоеным у педвучылішчы, і багата часу не адбіралі.

Рымша ж быў і сакратаром партарганізацыі ў школе і, мусіць, у вёсцы. А таму ў сябе на кватэры ён трымаў пад матрасам дзесяцізарадную вінтоўку —

на выпадак начнога візіту няпрошаных гасцей. Гутарка ідзе пра ўдзельнікаў антысавецкага падполля, якіх называлі бульбашамі і бандэраўцамі. Яны дзейнічалі да пачатку 1950-х гадоў, забівалі партыйных актывістаў і адказных савецкіх работнікаў, рабавалі касіраў. Звычайных настаўнікаў не чапалі, а маладых настаўніц часам гвалцілі. Запалоханыя дзяўчаты пра сваю бяду лічылі за лепшае нікому не гаварыць. Але захаваць крыўдную таямніцу ў вёсцы не заўсёды ўдавалася.

Словам, абставіны былі няпростыя. Але па агульным узроўні жыцця Заходняя Беларусь тады яшчэ пераўзыходзіла нашы ўсходнія раёны з іхняй калгаснай абдзіралаўкай. У нас на Магілёўшчыне, напрыклад, многія юнакі лічылі за шчасце трапіць у школы ФЗН, дзе кармілі і апраналі за казённы кошт. А ў Крытышыне расказвалі, што ў іх у гэтыя школы набіралі хлопцаў з прымяненнем сілы: незгаворлівых будучых рабочых міліцыя хапала і везла ў горад, самых непакорлівых і ў звязаным выглядзе.

Чарговы паварот у маім лёсе наступіў у 1949 годзе. На сваё здзіўленне, я паздаваў усе экзамены за першы курс філфака на выдатна. Гэта было заўважана дэканам М. Д. Рыбачкіным, які чытаў у нас курс рускай мовы. Ён і прапанаваў перавесціся на стацыянар. Я, вядома, з радасцю ўхапіўся за гэтую прапанову, бо мне ўжо і самому страшэнна хацелася далучыцца да гаманкой стацыянарскай вольніцы, да тых чароўных дзяўчат, што запаўнялі інстытуцкія калідоры ў час перазменак. Здавалася, гатовы быў ісці хоць вуліцы падмятаць, але ў якасці сапраўднага студэнта.

Заставалася нямнога – даздаць некалькі прадметаў, каб выраўняцца са стацыянарнікамі другога курса (завочнікі тады вучыліся ў пэдінстытуце пяць гадоў, а дзённае аддзяленне асвойвала праграму за чатыры гады).

А яшчэ абавязкова трэба было атрымаць стыпендыю. З ёю і выйшла закавыка. Стыпендыяльны фонд быў размеркаваны яшчэ недзе ў чэрвені. І для мяне свабодных грошай ужо не засталося. З горкім расчараваннем прыйшлося вяртацца на сваё Палессе. Але Рыбачкін усё ж неяк выбіў дадатковую стыпендыю і нават месца ў інтэрнаце, на якое я ўвогуле не разлічваў. Новыя сябры, якім я пакінуў адрас, хуценька паведамілі пра гэтыя навіны. І я, не без цяжкасці здаўшы ўсе справы, як на крылах памчаўся ў Магілёў.

Ах, як пела тады душа! Ды нядоўга. Бо даволі хутка высветлілася, што мяне можа напаткаць катастрофа з нямецкай мовай. Экзамен па ёй трэба было здаваць якраз на другім курсе і ўжо ў першым семестры. А я ведаў яе вельмі слаба. Загадчыца кафедры замежных моў З. М. Даўгяла, якая сама выкладала нямецкую, высветліла гэта на першых жа занятках. Тады яна ўвесь курс падзяліла на дзве групы: слабую і моцную. Слабакоў назвала пайменна і адправіла ў другую аўдыторыю – да іншай выкладчыцы. Мяне ж у спісах, відаць, яшчэ не было. Значыць, і прозвішча маё не называлася.

Такім чынам, я і застаўся з моцнымі. А калі стаў адказваць на нейкае пытанне, Даўгяла ад нечаканасці проста ахнула і запыталася, каму геноссе Бугаёў здаваў залік за першы курс. Я назваў выкладчыка. Гэта быў Катушаў.

Загадчыца ўсё зразумела і дазволіла мне перайсці да слабакоў. Я падумаў, што з імі многаму не навучышся, і папрасіў дазволу застацца тут. Даўгяла добра ведала, што яе баяцца і не любяць за патрабавальнасць. Таму маю просьбу яна, здаецца, не без прыемнасці задаволіла.

Катушаў жа прымаў у нас залікі так арыгінальна, як ніхто іншы. На апошніх занятках ён задаў нейкае пытанне і стаў падымаць завочнікаў. Спачатку аднаго. Той не ведаў. Ён яго не пасадзіў, а выклікаў другога. Вынік той самы. Пакінуў стаяць і гэтага. Так перабраў чалавек пяць ці шэсць. Апошнім аказаўся я. І таксама нічога не адказаў. Тады Катушаў загадаў нам падаць заліковыя кніжкі і ўсім, на наша вялікае здзіўленне, паставіў залік, але ўжо ў адваротным парадку: спачатку мне, потым таму, хто стаяў перада мною, апошнім стаў першы.

Больш я з Катушавым ніколі не сустракаўся і не ведаю, ці доўга ён яшчэ працаваў. Але хадзіла пагалоска, што яму можна здаць датэрмінова і экзамен за другі курс (далей экзаменаў па замежнай мове тады ў педінстытуце не прадугледжвалася). Але трэба ўзяць для заахвочвання некалькі бутэлек кефіру. Што такое кефір, я ў той час яшчэ не ведаў, думаў, што гэта нешта спіртное, і ўвогуле па-блатному нічога не здаваў. Таму і гэтая пагалоска мяне ў практычным плане мала цікавіла. Ды яна магла быць і проста студэнцкай выдумкай.

А ў Даўгялы напачатку было вельмі цяжка. Сама яна ставілася да мяне прыхільна, прынамсі, не так прыдзіралася, як да больш падрыхтаваных дзяўчат, якіх ганяла неміласэрна. Але ж мне трэба было з ходу, за адзін семестр, навярстаць чатырохгадовы прабел. Бо я не толькі «на дурніцу» атрымаў залік на завочным, але і ў педвучылішчы, як ужо казаў, замежную мову не вывучаў. А цяпер трэба было не проста здаць экзамен нароўні з усімі, але атрымаць не менш чацвёркі, бо ўжо пры адной тройцы стыпендыі тады не давалі.

Вось і сядзеў я цэлы семестр амаль над адной нямецкай мовай. Часам браў адчай, здавалася, што не адолею. Але патроху сёе-тое стала ўспамінацца з засвоенага ад выкладчыцы пры немцах. А галоўнае, што Даўгяла працавала з намі вельмі інтэнсіўна. І к канцу семестра я ўжо адказваў нармальна, а пераклад рабіў часам нават больш дакладны, чым дзяўчаты з групы.

Словам, сваю чацвёрку я ўсё ж зарабіў. Яна ў мяне была адзінай за ўсю вучобу ў педінстытуце.

Стараўся я не так сабе, а каб атрымаць імянную стыпендыю, якая тады, як і ўсё што-небудзь вартае, называлася сталінскай. Калі ўжо на выпуск-

ным курсе вырашалася пытанне, ці даць мне гэтую стыпендыю, Даўгяла афіцыйна, як загадчыца кафедры, прагаласавала «за» і яшчэ дадала, што і сама ў свой час хацела паставіць пяцёрку, ды перадумала, успомніўшы, з якім узроўнем падрыхтоўкі студэнт прыйшоў да яе на першыя заняткі.

Атрыманых у Даўгялы ведаў мне хапіла і для таго, каб здаць на пяцёрку экзамен у аспірантуру. Але там нямецкай мовай я ўжо амаль не займаўся, бо ў якасці замежнай здаваў польскую, без якой нельга сур'ёзна вывучаць нашу літаратуру мінулых стагоддзяў. А каб яшчэ трохі папацеў у спецыяліста така-га класа, як Даўгяла, дык мог бы і практычна, а не толькі намінальна асвоіць мову Канта, Гётэ і Шылера.

Ды ў нас да рэальнага ведання замежных моў тады, як мне здаецца, і не імкнуліся, бо афіцыйна нават ад аспірантаў патрабавалася толькі чытанне і пераклад са слоўнікам.

А гэта не больш як яшчэ адна з тых фікцый, што панавалі ў вельмі многіх сферах нашага жыцця.

Сярод выкладчыкаў педінстытута высокім прафесіяналізмам вызначаліся многія. Але кумірамі ў нас былі Я. К. Усікаў, які загадваў кафедрай беларускай літаратуры, і П. Я. Юргілевіч, загадчык кафедры беларускай мовы. Дзякуючы перш за ўсё ім я і стаў адчуваць сябе беларусам не толькі па пашпарце, але і па пераконаннях. Да знаёмства ж з гэтымі людзьмі ў мяне, як і ў многіх іншых, пад уплывам агульнай атмасферы жыў недавер да ўсяго беларускага. Ён асабліва ўзмацніўся ў педвучылішчы. Таму ў педінстытут я паступаў на рускае аддзяленне, завочна вучыўся там, а на беларускае пайшоў вымушана, бо тут было месца. Спачатку шкадаваў, што трапіў да беларусаў, а потым радаваўся гэтаму. Ужо ў педвучылішчы, а затым настаўнікам у Крытышыне спрабаваў пісаць вершы, але таксама па-руску. Некаторыя з іх былі сатырычнымі і ў пэўнай меры хуліганістымі. Яны абыгрывалі камічныя здарэнні ў нашым інтэрнацкім і вучэбным жыцці і таму карысталіся поспехам, галоўным чынам скандальным. Вядома, друкаваць іх я не збіраўся, разумеў, што гэта немагчыма, але чытаў усім, хто жадаў слухаць. Жывой рускай мовы я, зразумела, не ведаў. І ўжо гэта, калі гаварыць пра паэзію ўсур'ёз, асуджала мае спробы на няўдачу.

Запісную кніжку, запоўненую вершаванымі практыкаваннямі на сур'ёзныя тэмы, я неяк паказаў С. Гаўрусёву, які таксама вучыўся ў Магілёўскім педвучылішчы. Дык ён толькі літаральна ў двух несатырычных вершах убачыў жывое пачуццё. Усе ж астатнія опусы ацаніў скептычна.

Але канчаткова вылечыў мяне ад паэтычнага свербу Якуб Усікаў. Яму я даў прачытаць прызначаную для насценнай газеты вершаваную пугу, па сутнасці, зарыфмаваную перадавіцу, у якой з пафасам сцвярджалася, як усё

дрэнна ў Заходняй Беларусі і як добра ў Беларусі Савецкай. Словам, гэта быў выкладзены рытмічнай мовай набор тагачасных прапагандысцкіх штампаў, праз якія не прабівалася нічога з таго, што я ведаў пра рэальнае жыццё і на Піншчыне, і на Магілёўшчыне. І прабіцца не магло, бо я пісаў «правільна», так, як трэба было па тагачасных мерках. Усікаў пра відавочную разбежку з жыццёвай рэальнасцю разважаць не стаў, больш таго, пацвердзіў, што напісана ўсё правільна і гладка, але паэзіі тут няма. І я супакоіўся. Тым больш што ў інстытуце хапала спраў і без версіфікатарскага словаблудства – я не толькі старанна грыз граніт навукі, але і меў шмат грамадскіх нагрузак.

Але асабліва цікава было ўдзельнічаць у дыялекталагічных экспедыцыях, да якіх нас рыхтаваў П. Юргілевіч. Запісваць беларускія дыялекты мне даводзілася ў цэлым шэрагу раёнаў, бо я займаўся гэтай справай і ў аспіранцкія часы, атрымліваючы накіраванне ўжо непасрэдна ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі.

Праца па зборы дыялектаў адкрывала вочы на многія праявы жыцця, якое было вельмі далёкім ад таго, што пісалася ў газетах і пра што бясконца трубілася па радыё. А яшчэ яна шмат давала для сапраўднага пазнання роднай мовы, яе багацця і прыгажосці.

Паэтычнае хараство беларускага літаратурнага слова да нас вельмі ўмела даносіў Усікаў, які на лекцыях і практычных занятках артыстычна чытаў не толькі вершы, але і цэлыя паэмы. Ён жа не раз дапамагаў і ў крытычных сітуацыях.

Так, за тры гады вучобы на стацыянары мяне двойчы збіраліся выключаць. Першы раз мы ўліплі ў непрыемную гісторыю з-за пацукоў. Яны ноччу гойсалі па інтэрнацкім пакоі. А мы сталі ганяць іх, падняўшы несусветны вэрхал. Не вытрымаўшы яго, да нас прыбег збялелы выкладчык, які таксама жыў у інтэрнаце, якраз пад намі. Найбольш напусціўся ён на мяне, бо я быў старастам пакоя. Спачатку ўвогуле спрабаваў выгнаць на холад у трусах і майцы, а потым апамятаўся, дазволіў вярнуцца ў пакой, але напісаў дырэктару (тады яшчэ рэктараў не было) дакладную, дзе патрабаваў выключэння злосных хуліганаў, мяне ў першую чаргу. На наша шчасце, пацукі даймалі і дырэктара. Таму ён злоснага хуліганства ў нашых дзеяннях не ўбачыў, а прыняў іх за самаабарону. Натуральна, што і да крутых мер ён не звярнуўся, а толькі абавязаў купіць стул замест таго, які мы як быццам паламалі, бароначыся ад пацукоў. На самой справе той стул нам дастаўся паламаным. Але з дырэкгарам спрачацца не выпадала. І мы для адчапнога нейкую табурэтку на базары купілі.

Другі раз я быў западозраны ў хуліганстве на адным са святочных вечароў. А хуліганства заключалася ў тым, што мой сусед залішне моцна крычаў «біс» з нагоды спеваў свайго дружбака на сцэне ў канцэрце ма-

стацкай самадзейнасці. Наскочыў разгневаны парторг і выставіў гарачага прыхільніка самадзейнага мастацтва, а заадно і мяне. Партыйны бог быў імпульсіўны, круты і ў тонкасці звычайна не ўдаваўся.

На гэты раз зноў выручыла шчаслівае супадзенне. Пакуль думалі над інцыдэнтам, з міністэрства прыйшоў загад аб прызначэнні мне сталінскай стыпендыі. Даваць задні ход было ўжо няёмка. І дырэктар абвясціў суровую вымову майму дружбаку, а наконт мяне распарадзіўся: «указаць, што не змог паўплываць». Гэта было самае малое ўшчуванне, з якога мы на радасцях і, вядома, не пры начальстве доўга смяяліся.

Праўда, калі я паступаў у аспірантуру (мне выдалі накіраванне ў Мінскі педінстытут), дык выйшла прыкрая замінка з характарыстыкай і рэкамендацыяй. Іх у адпаведнасці з накіраваннем павінен быў выдаць вучоны савет нашага інстытута. Я ўжо здаў у Мінску ўсе экзамены, а гэтых папер усё не было. Блізкі да адчаю, аднойчы стаў машынальна перабіраць пошту, якую пакідалі каля інстытуцкага гардэроба. І тут мяне зусім неспадзявана сустрэла яшчэ адна вялікая ўдача — пісьмо ад Усікава. Ён паведамляў, што сам, як загадчык кафедры, напісаў характарыстыку, падмацаваную подпісам П. Юргілевіча, і выслаў яе ў АН Беларусі.

Туды праз Усікава ж сватаў мяне Міхась Лынькоў. Таму Якуб Кірылавіч і меркаваў, што я буду паступаць менавіта ў акадэмічную аспірантуру. Але ж накіраванне ў мяне было ў педінстытуцкую... Усікаў ад некага даведаўся, дзе я шукаю шчасця, і прыслаў тое выратавальнае пісьмо. Яно ў мяне захавалася. І сёе-тое з яго варта працытаваць. Назваўшы мой выбар «праяўленнем глупства», добры, але тады разгневаны настаўнік размашыстым почыркам пісаў: «Я здзіўляюся, як Вы не можаце зразумець, што Акадэмія навук гэта не педінстытут. Інстытут літаратуры АН БССР рыхтуе для сябе ст. навуковых супрацоўнікаў. Там Вы сапраўды займаліся б навуковай работай.

У Інстытуце літаратуры АН БССР — лепшыя сілы: Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва, Пятро Глебка і інш. Там ёсць у каго вучыцца. Там навуковыя работнікі Пшыркоў, Барсток, Перкін, Вольскі выдалі свае кнігі. Каго Вы слухаецеся? Вас цягне "табунок" — хлопцы з педінстытута... Туды паступаюць тыя, хто наўрад ці змог бы паступіць у другое месца».

Значыць, наконт мяне ён не сумняваўся. Але затое сумняваўся я сам. Бо ў той год у акадэмічнай аспірантуры было ўсяго адно месца. І на яго ўжо сваталі, як мне сказаў Ю. Пшыркоў, пляменніка Якуба Коласа. Навукоўца з таго пляменніка, да якога, дарэчы, сам паэт ставіўся вельмі скептычна, не атрымалася. Але ж гэта высветлілася пазней, а тады яго ўзялі з вялікай ахвотай. Вылічыць гэта наперад няцяжка было любому правінцыялу.

Усікаўскія ўшчуванні я ўспрыняў як вялікую пахвалу. А самае галоўнае, што знайшлася характарыстыка. Яна чакала мяне ў акадэмічнай канцылярыі.

Інстытуцкія ж кіраўнікі з Магілёва патрэбных папер мне так і не выдалі, хаця пісьмо Якуба Усікава заканчвалася абнадзейлівай фразай: «Мы пастараемся, каб вучоны савет нашага інстытута выслаў Вам рэкамендацыю».

Ягоных стаўранняў на гэты раз аказалася недастаткова. Выратавала мяне прадбачлівасць Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі, якая пры падтрымцы маіх абаронцаў Усікава і Юргілевіча (яны былі членамі камісіі) у сваім пратаколе ад 26 чэрвеня 1952 года асобным пунктам запісала: «Отлично окончившего Могилевский педагогический институт Бугаева Дмитрия Яковлевича, сталинского стипендиата, проявившего интерес и навыки к научно-исследовательской работе, рекомендовать к поступлению в аспирантуру».

Выпіску з гэтага пратакола, засведчаную пячаткай агульнай канцылярыі і ўласным подпісам, мне адразу пасля экзаменаў зрабіў інспектар па кадрах Акулаў, які ставіўся да мяне вельмі прыхільна і добра ведаў цану афіцыйным паперам. Начальству зробленую выпіску ён не паказваў (гэта і не абавязкова было рабіць). Словам, яна была афармлена па ўсіх правілах. І ў Мінскім педінстытуце ёю ўрэшце задаволіліся.

Вось так, у выніку шчаслівага збегу многіх абставін, я і апынуўся ў аспірантуры. Самую вучобу ў ёй абмінаю, бо напісаў пра гэта ва ўспамінах пра свайго навуковага кіраўніка В. В. Барысенку.

Адзначу толькі, што самай цікавай у аспіранцкія гады была праца ў навуковай зале Ленінкі (цяпер Нацыянальная бібліятэка Беларусі). Там мы мелі магчымасць знаёміцца з многімі беларускімі часопісамі даваеннай пары, якія ў агульнай зале не выдаваліся, а таксама маглі па афіцыйнай просьбе, падпісанай кіраўніцтвам аспірантуры, атрымліваць некаторыя матэрыялы па тэме дысертацыі са спецфонду. Дзякуючы гэтаму можна было хоць збольшага дакрануцца да праўдзівай, а не перакручанай партыйнымі ідэолагамі гісторыі Беларусі і яе літаратуры.

Пасля аспірантуры мяне накіравалі ў Мазырскі педінстытут, старшым выкладчыкам. Выкладаў я беларускую літаратуру ад старажытнасці да 1917 года, чытаў і фальклор, вёў спецсемінар па сучаснай літаратуры, кіраваў студэнцкай педпрактыкай. Працы было шмат. Але яна мне падабалася. І я радаваўся жыццю, хоць і пакутаваў ад моцнага бранхіту.

А яшчэ пасля сталіцы трохі нязвычна было, што ў магазінах прадавалі толькі хлеб ды печань траскі ў бляшанках, якія грувасціліся ладнымі штабялямі на ўсіх паліцах. Цяпер гэта вялікі далікатэс. А тады на яго і глядзець не хацелася, так надакучала аднастайнасць.

Зрэшты, нейкі выхад знаходзіўся: большасць ходкіх прадуктаў (цукар, згушчонае малако, масла і інш.) цягнулі пры кожнай нагодзе з Мінска, сёетое куплялі на базары, абедаць хадзілі ў гарадскія сталоўкі ці ў рэстаран (там

было адносна недарагое абедзеннае меню). І жылі, не тужылі. Тым больш што пакрысе становішча змянялася ў лепшы бок.

Напачатку і з начальствам складваліся добрыя адносіны. Дырэктар інстытута А. П. Эльман залічыў мяне на працу з 25 жніўня, выдзеліў кватэру — два ладныя пакоі ў інтэрнаце. Праўда, я іх, можна сказаць, прасвістаў: па старой звычцы паехаў у дыялекталагічную экспедыцыю, потым яшчэ ў сталіцы трохі затрымаўся, пакуль абмяркоўвалі маю дысертацыю. Аспіранцкі тэрмін у мяне афіцыйна заканчваўся не ў жніўні, а ў канцы кастрычніка. І Эльман дазволіў пачаць заняткі пасля гэтага тэрміну, але з умовай, што гадавая нагрузка будзе выканана поўнасцю.

Словам, усё было б зусім добра, каб не адна прыкрая «дробязь». Пакуль я ўладкоўваў справы ў Мінску, маю кватэру заняў мой жа аднакашнік і, здавалася, сябра Губар, па спецыяльнасці матэматык. У сваё апраўданне ён казаў, што кватэра — важная справа... Як быццам жыць трэба было толькі яму!

Быў ён хлопцам разваротлівым, адразу пайшоў угору, атрымаў кафедру. Але потым у выніку няшчаснага выпадку ўтапіўся ў Прыпяці. Так паварочваецца чалавечы лёс...

Пасля доўгіх перамоў мне зноў далі жыллё, таксама ў інтэрнаце, але ўжо адзін і вельмі халодны пакойчык. Я са сваім бранхітам пакутаваў у ім цэлую зіму, пакуль нарэшце не перасяліўся ў маленькую, але надта ўтульную аднапакаёўку з калідорам і кухняй у самім вучэбным корпусе. Кватэрка была сонечная. Дом стаяў на высакаватай горцы, зусім недалёчка ад паўнаводнай і тады яшчэ мала забруджанай Прыпяці.

Летам было проста раздолле. Сходзіш акунуцца ў ласкавую прыпяцкую ваду — і можна садзіцца за стол, шкрабаць нейкую пісаніну ці чытаць добрую кнігу. Пад канец лета і восенню зрэдку ўдавалася выбрацца ў грыбы, набраць лісічак, падасінавікаў, а то і крамяных баравікоў, якіх нідзе я столькі не бачыў, як у мазырскіх лясах.

Да шчаслівага завяршэння прыйшлі і справы сардэчныя. У красавіку 1958 года студэнтка філфака Корань Ніна стала маёй жонкай. Яе бацькі жылі ў Брагіне, мелі вялікі прысядзібны ўчастак, добры сад, трымалі розную жыўнасць, параўнальна нядрэнна па тых часахараблялі ў калгасе, бо бацька быў кавалём, а маці з сялянскай цягавітасцю шчыравала на любой працы. Старшынёўскую пасаду ў іхнім калгасе займаў вядомы ў рэспубліцы чалавек, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР некалькіх скліканняў. Ён умеў з карысцю не толькі асабістай, але і для людзей выкарыстаць і сваё прывілеяванае становішча, і выгады прыгараднага размяшчэння гаспадаркі, і ўрадлівасць брагінскіх земляў. Таму і працадзень у яго не быў зусім пустым.

У часопіснай публікацыі гэтых нататак («Полымя», 1995, № 12) я напісаў, што не меў сродкаў і на шлюбную сукенку для нявесты. На самой

справе я тады атрымаў прыстойны ганарар якраз у «Полымі» і добрага шоўку на тую сукенку ў Мінску набраў.

А дапамога жончыных бацькоў маладой сям'і была сапраўды вельмі істотнай. Яны справілі ў Брагіне вяселле, а калі нарадзілася дачка — і хрэсьбіны (ужо ў Мазыры), увогуле, падтрымлівалі як маглі. Бо жаніх, хоць і лічыўся прэстыжным, усё ж інстытуцкі выкладчык, сам не сабраў грошай і на новы касцюм. Давялося з нагоды вяселля пераніцоўваць ужо ношаны, пашыты на заказ у апошні аспіранцкі год з вельмі трывалай імпартнай шэрсці. Глядзеўся ён прыстойна і пераніцаваным. Толькі верхняя кішэнька ўсё выдавала. Яна апынулася не на левым, а на правым баку грудзей. Ды мяне гэта мала бянтэжыла.

Горш было, што даволі хутка стала знікаць узаемаразуменне з начальствам. Пэўную насцярожанасць у яго выклікала ўжо тое, што ў Мазыры я ўсюды гаварыў па-беларуску. Людзі да гэтага прывыклі і перасталі дзівіцца. А ў інстытуце на гэта глядзелі не без падазронасці. Ва ўсякім разе, калі я прапанаваў правесці са сваімі студэнтамі вечар беларускай паэзіі, дык Эльман спачатку дазволіў, а праз колькі дзён схамянуўся, маўляў, гэта залішне вузка, а таму трэба абавязкова ўзяць і рускую паэзію. Я ўбачыў тут яўную перастрахоўку, недавер. Адчулі гэта і студэнты і свой энтузіязм страцілі.

Але прамыя абвінавачанні прыйшлі крыху пазней. У нас быў філасофскі семінар. Ён так толькі называўся, бо мусолілі мы «Кароткі курс» гісторыі ВКП(б). На чарговых занятках гэтага занудлівага семінара вельмі ўжо надакучліва перажоўваліся даўно вядомыя казённыя ісціны, зноў і зноў даводзілася, як пакутуюць у свеце капіталу ад няшчаднай эксплуатацыі простыя людзі, якія нібыта жывуць у трушчобах і ходзяць у лахманах. Гэтыя лахманы і вывелі маладых выкладчыкаў з цярпення. Урэшце, мы пацікавіліся, колькі там, у тым праклятым свеце, плоцяць дапамогі па беспрацоўі. Папрасілі назваць канкрэтныя лічбы.

Гэтая просьба выклікала ў нашага кіраўніка выбух абурэння. Яно было абумоўлена тым, што такія лічбы трымаліся ў вялікім сакрэце. А мы аднекуль ведалі, што ў Амерыцы беспрацоўны ўжо тады атрымліваў у некалькі разоў больш за нашага самага кваліфікаванага выкладчыка. Лічбаў нам не назвалі, мы гэта зрабілі самі. І адразу трапілі ў крамольнікі і бунтаўнікі. Справа разглядалася на вучоным савеце, дзе нам давялося каяцца і, апусціўшыся да звыклай казённай дэмагогіі, запэўніваць, што мы «нашы», нічога ніякага не хацелі, разумеем, у якой цудоўнай краіне жывём, і гатовы хоць зараз ісці бараніць няшчасных чарнаскурых рабоў імперыялістычных акул.

Такім чынам, нас паставілі на месца. Добра яшчэ, што не дайшло да арганізацыйных вывадаў. Улічылі нашу маладосць і гатоўнасць прыняць правілы гульні, вызначаныя крывадушнасцю сістэмы.

Сур'ёзныя ўскладненні ўзніклі і ў сувязі з працай на ўступных экзаменах. Наша начальства з правінцыяльнай бесцырымоннасцю навязвала зусім непадрыхтаваных людзей. Я ўзбунтаваўся, адчуўшы, што за гэтым навязваннем можа хавацца і хабарніцтва.

Пра яго скрытыя формы маладыя выкладчыкі (а нас з невялікай разбежкай у часе прыехала ў Мазыр некалькі чалавек) даведаліся хутка. Гэта было, як мы іранічна называлі, палюддзе. Яго збіралі восенню блізкія да дырэктара супрацоўнікі, у асноўным з кіраўніцтва. На інстытуцкім грузавіку, які даваў Эльман, яны ездзілі па вёсках наведваць бацькоў сваіх выхаванцаў. Вывучалі, у якіх умовах жывуць падапечныя. Абстаўлялася ўсё прыстойна. Удзячныя бацькі частавалі настаўнікаў і давалі на дарогу не толькі выпіўку, але і гасцінчык натурай, вядома, добраахвотна, «ад душы». І хто што мог ці жадаў. Неслі і бульбу, і гародніну, і садавіну, і які кавалак свежыны ці, скажам, гусь або качку... Але шчодрасць праяўлялі не ўсе вяскоўцы, а толькі тыя, у каго ўласныя дзеці або пляменнікі і пляменніцы вучыліся ў інстытуце ці збіраліся туды паступаць, як закончаць школу. Так сярод нашых студэнтаў складваліся сямейныя ці сваяцкія кланы: у некага паступіць дзяўчына, за ёю малодшая сястра ці брат, а там сястра стрыечная, потым траюрадная... Такая патрыярхальная ідылія існавала.

А з нашым прыездам гэтая сістэма стала даваць збой, бо мы сваёй незгаворлівасцю падрывалі гарантаванасць паступлення. А без гарантыі якая ж удзячнасць? Вяскоўцы — людзі практычныя, ведаюць што да чаго.

Пазней, калі я там ужо не працаваў, хабарніцтва ў Мазырскім педінстытуце набыло арганізаваны і планамерны характар. За грошы (як быццам па тысячы рублёў з чалавека, тады ладная сума) прымалі любога лайдака з атэстатам за сярэднюю школу. На гэтым і папаліся. Некалькі «актывістаў» апынуліся за турэмнымі кратамі з найбольшым тэрмінам у восем гадоў. Яго атрымаў выкладчык «адзінаправільнага вучэння», падбіты на хабарніцтва сквапнай жонкай.

Супраць мяне сапраўдная вайна на выжыванне з Мазыра была распачата не з-за нашчадкаў вяскоўцаў, а з-за дачкі першага сакратара гаркома партыі. Яна спачатку паступала на фізмат, але замест экзаменацыйнай пісьмовай работы па матэматыцы падала чысты ліст. Губар (той, што потым утапіўся) паставіў ёй двойку, пахваліўся перад намі сваёй смеласцю, хоць ён, па сутнасці, нічым не рызыкаваў, бо справа была відавочная, і яшчэ дадаў, што ў другім патоку дзяўчыну перакінуць да нас. І мы яе прымем. А я сказаў, што паглядзім, як яна падрыхтавана.

На пісьмовы экзамен па беларускай мове і літаратуры тады, як яго здавала сакратарова дачка, я не трапіў. Мяне на гэты дзень адпусцілі з'ездзіць да жонкі, хоць сам я і не прасіўся. Для чаго гэта рабілася, даведаўся толькі

назаўтра, калі цягнік ужо беспаваротна пайшоў. А вусны экзамен прымалі ўтрох: С. Кузняцоў — ад кафедры «адзінаправільнага вучэння» (ён быў старшынёю), мовазнаўца высокай кваліфікацыі і я. Ні мовы, ні літаратуры абітурыентка не ведала. Яна практычна нават не ўмела гаварыць па-беларуску, бо амаль кожнае слова вымаўляла з тым ці іншым скажэннем.

Калі абмяркоўвалі адзнаку, Кузняцоў і мовазнаўца выказаліся за тройку, я рашуча запярэчыў і прыгразіў, што не падпішу ведамасці. Адзнака ў такім выпадку па тагачасных правілах не мела сілы. Старшыня заявіў, што гэтую ведамасць ніхто правяраць не стане. І ўвогуле можна будзе сказаць у крайнім выпадку, што ты проста забыўся паставіць свой подпіс. «Напішу ў міністэрства», — спрабаваў супраціўляцца я. «Ну і што? — парыраваў старшыня. — Пакуль прыедуць, пакуль разбяруцца, дзяўчына ўжо будзе залічана. Выганяць яе не стануць. Самае большае, вынесуць мне вымову па партыйнай лініі, праз год яе здымуць, а ты заўсёды будзеш хадзіць у няміласці».

Гэты цынізм, які, між іншым, адлюстроўваў рэальнае становішча рэчаў, уразіў мяне найбольш. І я не толькі не падпісаў ведамасць, але яшчэ і накрычаў таму «правільнаму» выкладчыку, што ён невядома як аказаўся старшынёю прадметнай камісіі па мове і літаратуры, бо сам слаба ведае беларускую мову, ні сачыненне, ні дыктоўку ніколі не напіша на тройку. І вусны экзамен нізашто не здасць. «А мне і не трэба пісаць і здаваць. А старшынёю я назначаны загадам дырэктара», — парыраваў ён даволі спакойна.

Праўда, гэтага спакою яму не хапіла тады, калі вялося следства па справе аб хабарніцтве. Аказваецца, у той афіцыйна выкрытай суполцы хабарнікаў ён быў адным з галоўных і так перапалохаўся магчымага арышту і зняволення, што раптоўна памёр ад інфаркту. Факт, вядома, сумны. Ды тое ўжо было, паўтару, не пры мне.

Я ж накінуўся і на мовазнаўцу, адкрыта сказаў, што не магу зразумець, як пры ягонай кваліфікацыі і прыстойнасці можна выказвацца за станоўчую адзнаку чалавеку, які зусім не падрыхтаваны ні па мове, ні па літаратуры. Мовазнаўца паперы падпісаў, але паабяцаў сёе-тое растлумачыць трошкі пазней.

Адразу пасля экзамену мы пайшлі з ім на Прыпяць. І там у зацішным месцы (каб не мог ніхто падслухаць) ён прызнаўся, што быў вымушаны пайсці супроць сумлення, бо ў самы бліжэйшы час гаркомаўская партыйная камісія павінна вынесці канчатковае рашэнне па ягонай справе. І яно будзе залежаць ад вынікаў сённяшняга экзамену. Так яму адкрыта і сказалі.

А справа была сур'ёзная. Мовазнаўцу абвінавачвалі ў супрацоўніцтве з гітлераўцамі. Яно як быццам заключалася ў тым, што ён у перыяд акупацыі нейкі час быў перакладчыкам. Але пры гэтым меў сувязі з партызанамі, выконваў іх даручэнні. Ды з дакументамі былі нейкія няўвязкі. Таму яго

выключылі з партыі, выгналі з АН БССР і саслалі ў Мазыр. А цяпер могуць і тут пазбавіць працы, калі ён на той партыйнай камісіі не апраўдаецца. Так што мовазнаўцу трывала трымалі на кручку. І ён мусіў здацца.

Далей гісторыя з паступленнем сакратаровай дачкі развівалася так. У міністэрства я пісаць не стаў, палічыўшы гэта і сапраўды бескарысным, а расказаў пра ўсю баталію карэспандэнту «Гомельскай праўды» па Мазыры і Мазыршчыне, якога нядрэнна ведаў раней, часам і па чарцы разам бралі. Ён загарэўся ідэяй «раскруціць» гэтую справу. Ды і ў яго нічога не выйшла, начальства аказалася хітрэйшым і больш прадбачлівым.

Мудры ход прыдумаў Эльман. У афіцыйным загадзе, які вывешваўся да ведама ўсіх, дзяўчына была пазначана як непрынятая. Але на самой справе наш дырэктар дамовіўся з членамі прыёмнай камісіі, што яна, тая дзяўчына, будзе займацца, толькі першы семестр паўлегальна, як кандыдатка, якую з другога семестра ён залічыць ужо і афіцыйна, адсеяўшы на зімняй сесіі каго-небудзь з прынятых. Так яно потым і было. Але ўсё гэта рабілася незаконна, бо ў кандыдаты ў некаторых навучальных установах некалі залічалі, па-першае, адкрыта і толькі тых, хто атрымаў станоўчыя адзнакі, ды не набраў прахадной колькасці балаў. А па-другое, у той час, калі паступала сакратарова дачка, ніякіх кандыдатаў увогуле не прадугледжвалася.

Тым не менш Эльманава двайная бухгалтэрыя, характэрная для практыкі няпісаных бальшавіцкіх законаў, спрацавала выдатна. Карэспандэнту пра ўсе гэтыя фокусы я паведаміў. Але ўсё роўна зрабіць ён нічога не змог — нельга ж аспрэчыць незаконнасць загаду, які афіцыйна не існуе.

А мне заставалася чакаць пакарання. І яно не замарудзіла. Першы ўкол быў дробным. У газеце «Літаратура і мастацтва» я надрукаваў заўважаны самім П. Броўкам нарыс пра тое, з якой нядбаласцю ставяцца ў Мазыры да прапаганды беларускай кнігі і іншых выданняў на роднай мове. Гарадская газета апублікавала водгук, дзе вуснамі загадчыка аддзела «Саюздруку» сцвярджалася, што Бугаёў сам несумленны чалавек, які катэгарычна адмовіўся выпісваць беларускія выданні. Словам, верыць яму ніяк нельга. Хлусня была беспардонная, бо я без гэтых выданняў і працаваць нармальна не мог бы. Але метад правераны. У адносінах да мяне яго не раз прымянялі і ў крытычнай палеміцы, сцвярджаючы, калі не хапала аргументаў, што я сам сякі і такі, нічога не разумею ў літаратуры і г. д.

Узяўшы квітанцыі, я пайшоў у рэдакцыю. Там сказалі, што яны гатовы даць абвяржэнне, але трэба дазвол гаркома партыі, бо газета — яго орган. У гаркоме сядзелі людзі разумныя, яны пагадзіліся, што я маю рацыю, і нават абяцалі надрукаваць мой адказ. Друкуюць і па сённяшні дзень.

На іншае я асабліва і не спадзяваўся, бо здагадваўся, што тую гісторыю на ўступных экзаменах мне не даруюць. Ніколі. Бо грэх я дапусціў дужа вялікі.

Перад пачаткам экзамену са мною гутарыў сакратар гаркома, не сам першы, а той, што займаўся ідэалогіяй. Ён спецыяльна прыйшоў у інстытут, націскаў на тое, што выкладчыкі павінны вельмі ўважліва ставіцца да абітурыентаў, абяцаў, калі будзе трэба, падтрымку. Словам, праяўляў далікатнасць незвычайную. Непасрэдна пра адзнаку сакратаровай дачцэ ён не гаварыў, але і так было зразумела што да чаго.

Наступны выпад быў такі. За няведанне і спробу выкарыстаць шпаргалку ў час экзаменацыйнай сесіі я паставіў нездавальняючую адзнаку адной студэнтцы. Слаба адказвала яна і пры паўторным заходзе. Гісторыя звычайная. Лянівыя студэнты ў патрабавальных выкладчыкаў ходзяць на перадачу па многа разоў. Я да сваіх выхаванцаў знарок не прыдзіраўся ніколі, але пэўнага ўзроўню ведаў патрабаваў. І гэта нікога не здзіўляла. А тут Эльман, нічога мне не сказаўшы, стварыў камісію, якая павінна была прыняць правалены экзамен у той студэнткі. Па правілах гэта дапускаецца, але робіцца ў выключных выпадках, бо азначае фактычны недавер выкладчыку, хоць ён таксама ўключаецца ў склад камісіі. На гэты раз студэнтка падрыхтавалася прыстойна. І адзнаку мы ёй паставілі з агульнай згоды. Але чарговы чорны шар мне кінулі. За нішто. І гэта было найбольш крыўдна. Бо я раней без істотных ускладненняў праходзіў любыя праверкі і з Мінска, і з Гомеля. А ў Мазыры існавала завядзёнка, што ўсіх правяральшчыкаў накіроўвалі да маладых выкладчыкаў, маўляў, ім найбольш патрэбна дапамога. На справе ж нашы кіраўнікі самі сур'ёзных праверак пабойваліся, дык пасылалі розных інспектараў да нас. Мяне, напрыклад, ніводзін з іх не абмінуў...

За чорным шарам прыкаціўся «гарбуз» — падпісаная дырэктарам папера, што з наступнага вучэбнага года я не буду забяспечаны працай у сувязі са скарачэннем нагрузкі. Паперу ў адпаведнасці з заканадаўствам Эльман прыслаў загадзя, яшчэ вясною. На 1959/60 вучэбны год сапраўды не планаваўся набор на першы курс, бо інстытут яшчэ праз год збіраліся ўвогуле закрываць. Потым сітуацыя перамянілася, і ён, дзякуй Богу, жыве і сёння.

Але пад скарачэнне штатаў мяне падводзілі знарок, бо якраз на першым курсе я не вёў ніякіх заняткаў. Такім чынам, мая нагрузка не скарачалася ні на адну вучэбную гадзіну. Даказаць гэта не складала ніякай цяжкасці. Што я і зрабіў. Тады Эльман як быццам даў адбой — афіцыйна паведаміў, што паўстаўкі мне пакідае. Але фактычна гэта таксама было выгнанне, бо на палову зарплаты пражыць з сям'ёю я не мог. Дасведчаныя людзі раілі падаваць у суд, маўляў, справа мая выйгрышная.

Але я ваяваць не стаў, а звярнуўся да В. Барысенкі, які запрашаў мяне ў акадэмічны інстытут літаратуры яшчэ да Мазыра. Аднак тады я па многіх прычынах не рашыўся. Барысенка ж ад сваёй ідэі не адмовіўся. І я паабяцаў яму, што пасля абароны дысертацыі, калі яна, вядома, адбудзецца, рызыкну

вярнуцца ў Мінск. А сам па наіўнасці думаў, што добра было б з цягам часу ад гэтага абяцання неяк адкруціцца.

Але давялося не адкручвацца, а прасіцца. Барысенка маю ранейшую нерашучасць успамінаць не стаў і ўсё зрабіў, каб я ўладкаваўся ў сталіцы. Асабліва цяжка было прабіваць мінскую прапіску. Ды мой навуковы шэф з дапамогай К. Крапівы зрабіў і гэта. Яму патрэбны былі людзі пісаць чатырохтомную «Гісторыю беларускай літаратуры».

У Акадэміі навук я папрацаваў пяць гадоў (1959—1964). І гэта былі вельмі шчаслівыя для мяне гады. Пачаліся няхай і вельмі абмежаваныя, у многім непаслядоўныя, але ўсё ж перамены да лепшага ў краіне. Ішла рэабілітацыя нізашто-ніпрашто рэпрэсіраваных пісьменнікаў, пераглядаліся самыя адыёзныя вульгарна-сацыялагічныя ацэнкі літаратурных з'яў. Ужо гэта настройвала на аптымістычны лад. А яшчэ ж трэба ўлічыць, што з правінцыяльнага педінстытута, у якім калі не цалкам панавалі, дык былі яшчэ моцнымі дапатопныя норавы і звычкі, я трапіў у дынамічны навуковы калектыў з вялікім творчым патэнцыялам. Тут, вядома, былі свае супярэчнасці, падводныя плыні і завіхрэнні, адчувалася барацьба амбіцый і страсцей. Але сам узровень гэтага жывога віравання быў проста несупастаўляльны з мазырскім. І меў, меў рацыю мой магілёўскі настаўнік Усікаў, калі нахвальваў гэты інстытут і казаў, што там можна займацца навуковай працай.

Мы сапраўды сур'ёзна працавалі над сваімі раздзеламі для «Гісторыі беларускай літаратуры». Усяго, што ўжо тады разумелі, сказаць, вядома, было нельга. Ды і сказанае ўсё больш і больш выхалашчвалася пры бясконцым рэдагаванні. Але сёе-тое і заставалася. Ва ўсякім разе, наша «Гісторыя», для якой я пісаў раздзелы пра У. Дубоўку, М. Лынькова і М. Танка, хоць яна ў канцэптуальным плане і падганялася пад тагачасныя ідэалагічныя догмы, была непараўнальна багацейшай за тыя «Очерки» і «Нарысы», што ствараліся інстытутам літаратуры ў першай палове 1950-х гадоў.

Асабліва шмат давалі нам неафіцыйныя размовы, спрэчкі і дыскусіі ў інстытуцкім калідоры, у якіх удзельнічалі А. Адамовіч і М. Грынчык, С. Александровіч і В. Каваленка, І. Ралько і М. Мушынскі, М. Луфераў і М. Ярош, В. Жураўлёў і У. Казбярук, К. Хромчанка і А. Коршунаў, са старэйшых — Ю. Пшыркоў, А. Семяновіч і Н. Перкін, зрэдку нават В. Івашын. Часам да нас падключаліся і тагачасныя аспіранты А. Мальдзіс, С. Андраюк, В. Чамярыцкі, У. Гніламёдаў, Г. Юрчанка. Менавіта ў гэтых размовах, якія афіцыйна лічыліся ледзь не галоўнай перашкодай для паспяховага выканання планавых тэм, нараджалася ўсё жывое і цікавае ў нашай працы.

Шмат цікавага ў вузкім коле субяседнікаў расказваў і Міхась Лынькоў, які яшчэ працаваў у інстытуце.

Пераехаўшы ў Мінск, я пачаў актыўна друкавацца і нарэшце давёў да ладу кандыдацкую дысертацыю, прычым спачатку напісаў аўтарэферат, а потым і тыя раздзелы, якіх не хапала ў дысертацыйнай працы. У Мазыры з-за вялікай вучэбнай нагрузкі на ўсё гэта неставала часу. У 1961 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Рэкамендацыі напісалі Р. Бярозкін і Я. Казека, які тады быў старшынёю секцыі крытыкі і галоўным рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Яно ў 1963 годзе выдала маю кнігу пра творчасць М. Лынькова «Шчодрае сэрца пісьменніка». Праз год у акадэмічным выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшла кніга «Паэзія Максіма Танка». Словам, былі ўсе падставы дзякаваць мазыранам, якія, па сутнасці, выпіхнулі мяне ў людзі. Зрэшты, яны і імкнуліся не столькі мне нашкодзіць, колькі пазбавіцца ад упартага дзівака, каб ён не блытаў ім карты. Кажу гэта зусім пэўна, бо як выязджаў з Мазыра, дык мне вельмі аператыўна далі машыну завезці пажыткі на чыгуначную станцыю ў Калінкавічы, а таксама забяспечылі, як аказалася, вельмі нялішняй афіцыйнай паперай, у якой была просьба да высокіх інстанцый дапамагчы звольненаму па скарачэнні штатаў перспектыўнаму выкладчыку уладкавацца на працу. Напісалі і стрыманую, але ўвогуле прыстойную характарыстыку, якая фармальна патрабавалася на новым месцы.

Але і ў Інстытуце літаратуры з цягам часу ўзніклі свае складанасці. Яны выявіліся ўжо пры рэдагаванні напісаных раздзелаў. Эмоцыі часам набывалі выбуховы характар. Так, у раздзеле, прысвечаным, здавалася б, зусім вытрыманаму, з пункту гледжання тагачасных ідэалагічных канонаў, М. Лынькову, гаварылася, што пісьменнік яшчэ ў 1930-я гады выступаў у абарону багаццяў беларускай нацыянальнай мовы і з’едліва высмейваў невукаў, якім «ледзь не ў кожным беларускім слове мроілася нацдэмаўшчына». Спасылка давалася на артыкул «Пра некаторых Угрум-Бурчэевых... ці прыгоды аднаго лінгвіста». Цяпер гэты артыкул надрукаваны ў апошнім, пасмяротным ужо, лынькоўскім Зборы твораў. Тады ж ён лічыўся падазроным, хаця ў 1939 годзе праскочыў у газеце «Літаратура і Мастацтва». Усё яшчэ заставаўся ў сіле і палітычны ярлык «нацдэмаўшчына», з дапамогай якога пры бальшавіках вынішчалася нацыянальная інтэлігенцыя.

Асцярожны В. Івашын, які разам з В. Барысенкам рэдагаваў тую «Гісторыю» і быў як загадчык сектара савецкай літаратуры маім непасрэдным начальнікам, усю крамолу ўгледзеў і на высокай пафаснай ноце заявіў: «Я хутчэй скрозь зямлю правалюся, чым прапушчу гэтую фразу пра нацдэмаўшчыну». Я вытрымаў невялікую паўзу і сказаў: «Васіль Уладзіміравіч, не трэба правальвацца скрозь зямлю, бо фраза гэтая ўжо надрукавана ў кнізе пра Лынькова. Толькі там былі яшчэ і словы “з перапуду” (“з перапуду мроілася...”), якія я, шануючы Вас, у артыкуле для “Гісторыі” зняў». Як ні дзіўна, у кнізе ўсё гэта яшчэ тады і праўда прайшло.

Пачуўшы мой адказ, В. Івашын скрозь зямлю не праваліўся. У Барысенкавым кабінеце, дзе адбывалася размова, быў моцны паркет. І ён застаўся цэлым. А Івашын падскочыў з крэсла ледзь не да столі і закрычаў: «Гэта хуліганства! Я так працаваць не магу!» Барысенка яго крыху заспакоіў і праводзіў з кабінета, сказаўшы: «Вы ўжо так не хвалюйцеся. Я сам з гэтым аўтарам разбяруся». Ён быў не абы-які дыпламат. Ушчуваць мяне Барысенка асабліва не стаў, а проста перайшоў да іншых заўваг па тэксце артыкула. Аднак тую злашчасную фразу ў мяне пазней усё ж знялі, толькі ціха, без пафасу і крыку. Ды я і сам ужо трохі шкадаваў, што палез на ражон. Падвяла, вядома, гарачнасць, а яшчэ ўпартасць. Івашын жа ўвогуле ставіўся да мяне прыхільна, калі прымалі на працу, згадзіўся ўзяць у свой сектар, сам, нікому не перадаручаючы, напісаў добры водзыў на дысертацыю, якая без афіцыйнай рэкамендацыі сектара не магла быць абаронена. А тут выйшаў такі канфуз.

Новая сутычка атрымалася з-за кнігі пра У. Дубоўку. Яе, дзякуючы падтрымцы Я. Казекі, запланавала на 1965 год выдавецтва «Беларусь». Але пасля нападкаў на інтэлігенцыю непрадказальнага Хрушчова да рэабілітаваных пісьменнікаў пачалі ставіцца вельмі насцярожана. Дык і ў інстытуце баяліся, каб я не нахамутаў крамолы, за якую давядзецца адказваць кіраўнікам. Асцярога была зразумелая, бо ім ужо і так перападала за выступленні ў друку А. Мальдзіса, В. Каваленкі, А. Яскевіча. А тут яшчэ і Бугаёў са сваім Дубоўкам...

Карацей кажучы, кнігу выдаваць мне забаранілі. Настояў на гэтым В. Івашын. Яго падтрымаў і Барысенка. Зрэшты, памяркоўнага Барысенку мне ўдалося ўгаварыць. І ён ужо гатовы быў забарону зняць, а Івашын стаяў непахісна, як скала. Ён наогул не сумняваўся, што хутка зусім скончыцца хрушчоўскі лібералізм, якім выкліканы ўсе гэтыя рэабілітацыі, друкаванне А. Салжаніцына («Адзін дзень Івана Дзянісавіча» і некалькі апавяданняў) і такіх рэчаў, як паэма А. Твардоўскага «Васіль Цёркін на тым свеце». І амаль не памыліўся.

Я ж таксама добра адчуваў, што з кнігай марудзіць нельга, бо сёння выдавецтва яе друкаваць згаджаецца, а заўтра ці паслязаўтра можа адмовіцца катэгарычна. Словам, невялікую манаграфію пра Дубоўку я ўсё ж апублікаваў (яна, як і планавалася, выйшла ў 1965 годзе, калі Хрушчова ўжо звалілі, а брэжнеўшчына яшчэ не набрала сілы). Але дзеля гэтага з Інстытутам літаратуры давялося развітацца.

Страта была вялікая, бо я ўжо меў і добрую тэму для доктарскай дысертацыі, мог у планавым парадку пісаць яе за ўтульнымі акадэмічнымі сценамі, атрымліваючы неблагую па тым часе зарплату. Вядома, пры

гатоўнасці на кампрамісы. А якіх іменна кампрамісаў запатрабуюць у краіне вечнага абсурду, ніколі нельга было пэўна сказаць.

Асабліва палохала, што могуць прымусіць распінаць творы добрых пісьменнікаў.

Праўда, і выкладчыцкая праца, на якую я мяняў Інстытут літаратуры, вялікай свабоды не гарантавала. Але там выкручвацца ўсё ж лягчэй, бо не прыставіш жа да педагога пастаяннага наглядчыка. Магчымыя даносы? Гэта яшчэ віламі пісана: што данясуць, а што і не. А ў Акадэміі навук абавязкова трэба будзе друкавацца. І кожнае тваё слова перамацае пільны цэнзар, і, можа, не адзін...

Ды і пераходзіў я не абы-куды, а на філфак БДУ, на кафедру да Міхася Ларчанкі, пра дэмакратычнасць і дабрыню якога складалі гумарыстычныя «хохмы». У адной з іх сцвярджалася, што ў той час, калі Ларчанка быў дэканам, да яго ў кабінет уварваўся разгневаны студэнт. Ён яшчэ, можа, і не зусім ачухаўся ад учарашняй п'янкі. Таму стаў крычаць і стукаць кулаком па стале, за якім сядзеў лагодны дэкан. Ларчанка не падхапіўся, як можна было чакаць, а спакойна ўстаў, рассмяяўся і сказаў: «Малады чалавек, калі вы хочаце мяне раззлаваць, дык вам гэта не ўдасца...» Пачуўшы такое, студэнт астыў. І пачалася звычайная размова.

«Хохма», як усякі анекдот, зразумела, перабольшвае. Але зерне праўды ў ёй ёсць. І Ларчанкаву непаказушную добразычлівасць яно адлюстроўвае. У той добразычлівасці, як мне часамі здавалася, было штосьці і ад ляноты. Але яна ў вочы не кідалася і таму, хто жадаў працаваць з поўнай выкладкай, асабліва не перашкаджала.

А працавалі тады на Ларчанкавай кафедры Іван Навуменка, Алег Лойка, Ніл Гілевіч, Сцяпан Александровіч, людзі аўтарытэтныя і ўжо вядомыя і як пісьменнікі, і як навукоўцы. Яны мяне падтрымалі. І я лёгка пераадолеў конкурсны бар'ер. Канкурэнтам у мяне быў М. Луфераў, але ён з дваццаці галасоў атрымаў толькі два, астатнія 18 выкладчыкаў прагаласавалі за мяне.

Вядома, даводзілася шмат працаваць, рыхтуючы лекцыі, бо я цяпер чытаў зусім не тыя курсы, якія распрацоўваў у Мазыры. Але гэта было яшчэ цікавей.

Выкройваў нейкі час і на новыя кнігі, на артыкулы для друку. Я свядома спяшаўся нешта публікаваць, пакуль ёсць магчымасць. У прыватнасці, яшчэ праскочыў з манаграфіяй пра М. Гарэцкага, у якой адкрыта гаварылася пра яго рэпрэсіраванне. Трохі пазней, аж да гарбачоўскай галоснасці, такія звесткі цэнзура ўжо не прапускала.

Калегі па кафедры маё старанне заўважалі і ацэньвалі яго вельмі прыхільна. І. Навуменка нават даверыў мне місію навуковага рэдактара

сваёй кнігі пра канцэпцыю чалавека ў творчасці Янкі Купалы. Яна выйшла ў 1967 годзе пад загалоўкам «Янка Купала. Духоўны воблік героя» з маёй прадмовай, напісанай па просьбе аўтара. Гэта была частка Навуменкавай доктарскай дысертацыі, на якую я рыхтаваў і афіцыйны кафедральны водзыў. Яго падпісваў, вядома, М. Ларчанка. Але ў маім тэксце ён, здаецца, нічога не правіў. Гэта была звычайная практыка, прынятая і ў іншых калектывах, якія маюць справу з дысертацыйнымі працамі. Калі б кіраўнікі заўсёды самі пісалі такія водзывы, у іх не засталося б часу ні на што іншае.

Дружна змагаліся мы і з настырным авантурыстам А. П., які яўна выпадкова трапіў у выкладчыкі ўніверсітэта і сваё невуцтва імкнуўся кампенсаваць нахабствам і агрэсіўнасцю. Не грэбаваў ён і шантажом. А яшчэ быў ласы да дзяўчат. Казалі, што адну студэнтку ён запрасіў у свой інтэрнацкі пакой як быццам для кансультацыі, а на самой справе хацеў яе згвалціць. Дзяўчына не толькі дала яму рашучы адпор, але і паведаміла пра ўсё свайму кавалеру. Той узяў яшчэ некалькі хлопцаў. І яны ладна адмяцелілі А. П., які заявіў, што яго адлупцавалі не за намаўзлівасць, а за тое, што ён член партыі. Маўляў, пляжылі і патрабавалі, каб адмовіўся ад партыйнага білета.

Што тут праўда, а што, можа, і прыбаўлена, адназначна сцвярджаць не бяруся. А ў невуцтве А. П. пераканаўся сам, бо па даручэнні М. Ларчанкі мусіў чытаць яго кандыдацкую дысертацыю ажно на шэсцьсот з лішнім старонак. Дзве вялікія папкі машынапіснага тэксту. Дысертацыя прысвячалася купалаўскай творчасці, але напісана была без яе грунтоўнага ведання і надзіва бесталкова. Даходзіла да таго, што ў адным месцы сцвярджалася адно, а ў другім — зусім супрацьлеглае.

На абмеркаванні я адкрыта сказаў пра гэта. Навуменка з Лойкам маю крытыку падтрымалі. Яны і дысертацыю чыталі, і А. П. лепш за мяне ведалі. Ды А. П сцвярджаў, што яны да яго знарок прыдзіраюцца з-за нейкіх старых сутычак. Мяне ў гэтым абвінаваціць было цяжэй, бо я раней А. П. не ведаў.

Потым справа разглядалася яшчэ, калі не памыляюся, на факультэцкім партбюро, на якім прысутнічаў і тагачасны дэкан А. Волк. Я як беспартыйны быў запрошаны толькі для выступлення. Цяпер А. П. ужо і мяне абвінаваціў у неаб'ектыўнасці, маўляў, я да яго прыдзіраюся па асабістых матывах і да таго ж выказваюся са злосцю. Наконт злосці была праўда. І я гэта прызнаў, сказаўшы, што сапраўды злы, бо патраціў некалькі дзён на чытанне непрычасанай лухты, якую і абмяркоўваць не варта. «А што да асабістых матываў, дык адкуль ім было ўзяцца? Я ж вас, па сутнасці, зусім не ведаю. І жонку ў мяне вы не адбівалі», — зрэзаў я А. П. Апошняя фраза была з падтэкстам і выклікала дружны смех.

Словам, усыпалі тады А. П. моцна. Але ён яшчэ доўга супраціўляўся, бо яго нехта моцна падтрымліваў. Урэшце яму далі магчымасць паказаць свае

выкладчыцкія здольнасці. Цэлы семестр А. П. рыхтаваў адкрытую лекцыю па сваім уласным выбары. Вёў ён курс дакастрычніцкай літаратуры і спыніўся на творчасці М. Багдановіча. Тэма больш чым удзячная. Але А. П. за сорак пяць хвілін вычарпаў увесь свой запас ведаў пра выдатнага паэта, а другую палову лекцыі яшчэ раз паўтараў тое, што сказаў на першай. Выпадак нябывалы, проста скандальны. А ў дадатак да ўсяго А. П. бязбожна скажаў і некаторыя пісьменніцкія імёны, перахрысціўшы, напрыклад, француза Т. Гацье ў Т. Тацье. Як быццам, дробязь, але няведанне яна выяўляла красамоўна.

Абаронцы А. П. спрабавалі дзейнічаць і пасля гэтага сакрушальнага правалу. Да мяне праз некалькі дзён прыходзіў нейкі партыйны прадстаўнік і гаварыў, што на падставе адной лекцыі нельга рабіць вывад аб падрыхтоўцы выкладчыка. Я асабліва не спрачаўся, а толькі зазначыў, што ёсць вялікая розніца паміж лекцыяй звычайнай, якую кваліфікаваны выкладчык таксама не можа прачытаць зусім дрэнна, і той, што працяглы час рыхтуецца спецыяльна.

Канчатковую кропку ва ўніверсітэцкай кар'еры А. П. паставіў І. Навуменка. Ён знайшоў у ягонай дысертацыі плагіят, але не просты, а, можна сказаць, з вывертам, ва ўсякім разе, вельмі спецыфічны. Аказваецца, А. П. нярэдка браў тэкст з адной кнігі пра Пушкіна, апускаў назвы твораў, імёны герояў і іншыя рэаліі, звязаныя з рускім паэтам, і замяняў іх купалаўскай канкрэтыкай. У выніку і атрымлівалася лухта і мудрагелістая нескладуха.

Ды які б ні быў плагіят, ён не даравaўся ніколі і нікому. Таму і наша кафедра нарэшце з А. П. развіталася. А я нажыў сабе не толькі шчырых прыхільнікаў, але і тайных нядобразычліўцаў.

Пра іх існаванне я даведаўся трохі пазней, калі студэнты філфака адважыліся на адкрытую барацьбу за беларускую мову. Гутарка ідзе пра зварот у ЦК КПБ з прапановай, каб на беларускім аддзяленні філфака выкладаліся на роднай мове ўсе дысцыпліны, зразумела, акрамя рускай мовы і літаратуры. Ініцыятарамі звароту былі А. Разанаў, В. Ярац і Барташ (імя яго не памятаю). Яны ўпаўне дэмакратычна, і ні ад кога не таячыся, правялі сярод студэнтаў збор подпісаў у падтрымку сваёй ініцыятывы. Выкладчыкам падпісвацца не прапаноўвалі. А ў мяне ў той дзень не было заняткаў, дык я пра ўсё даведаўся са спазненнем, калі прыйшоў на чарговую лекцыю.

Пра свой зварот студэнты расказалі самі і спыталіся, як я да яго адношуся. Я іх падтрымаў і сказаў, што гатовы падпісацца. Ды паперы былі ўжо адасланы. А мая заява адразу стала вядома дэкану. Ён мяне выклікаў да сябе, пачалася спрэчка, але асаблівай злосці ў Волка я не ўбачыў. Складвалася ўражанне, што ён ушчувае не столькі па асабістай перакананасці, колькі па абавязку службы. Мне ж даводзіць, што беларуская мова ў нас у загоне, не складала цяжкасці.

А страсці ўжо закіпелі не на жарт. Дасталося М. Ларчанку. Ён сам не падпісваўся, але на сваёй лекцыі дазволіў падпісвацца студэнтам. У пажарным парадку знялі з пасады незадоўга перад тым прызначанага намеснікам дэкана К. Хромчанку, бо ён адпусціў трох галоўных ініцыятараў паехаць у Гродна. А што яны будуць там рабіць — невядома. Больш таго, пайшла пагалоска, што яны накіраваліся і не ў Гродна, а ў Зэльву, да апальнай Ларысы Геніюш, якую «пасвіла» КДБ...

Некаторыя вельмі ўжо артадаксальныя выкладчыкі спрабавалі падсунуць версію, што вінаваты Бугаёў. Гэта ён сваімі лекцыямі падштурхнуў студэнтаў на бунт. Бо сам крамольнік. І ў Мазыры шумеў, і ў Інстытуце літаратуры не ўжыўся... Я ад гэтых нагавораў адбіўся, бо нічога не чытаў на тым курсе, дзе вучыліся завадатары. А. Разанаў і В. Ярац, праўда, займаліся ў літаратурным гуртку, якім я тады кіраваў. Але працаваў ён дрэнна, збіраўся рэдка. І гэта было вядома.

Кардынальна выкарчоўваць крамолу на вучоны савет філфака прыйшоў ваяўнічы прарэктар С. Умрэйка. Ён доўга даводзіў, як шчыра клапоціцца партыя пра развіццё беларускай нацыянальнай культуры і мовы і як дрэнна мы выхоўваем студэнтаў, калі яны не разумеюць гэтага.

Дэмагогія была відавочнай. І я не вытрымаў, рынуўся ў бойку, хаця спачатку зусім не збіраўся выступаць. Спадзяваўся, што выступіць нехта іншы, больш вядомы і аўтарытэтны. Але ніхто не спяшаўся лезці на ражон. І я зразумеў, што прыйшла мая чарга. Бо выразна адчуў, што адседжвацца нельга, што мы страцім усякую павагу ў студэнтаў, калі прамаўчым усе і, значыць, фактычна падтрымаем не іхняе святое парыванне, а бессаромную хлусню афіцыйных дэмагогаў. Да таго ж унутраная гатоўнасць хоць бы выстагнацца, сказаўшы, як недаравальна мы занядбалі роднае слова, у мяне наспявала даўно. Яна асабліва пякла нутро з тых сумных дзён, калі мне давялося хаваць маці. Тады трэба было афармляць мноства папер, рабіць копіі розных дакументаў.

На адным з іх я і спатыкнуўся. Пачынаўся ён гербам БССР. У копіі гэта таксама канстатуецца. Друкарскі тэкст бланка, у які ўпісваліся канкрэтныя звесткі, ішоў двайны, спачатку беларускі, а пад ім — рускі. Чарговае фарысейства, паказуха, не больш. Мне было вядома, што для копіі дастаткова і аднаго стандартнага тэксту. І паколькі першым быў беларускі, толькі яго, каб не траціць лішняга часу, я і перадрукаваў, зусім не думаючы ні пра якую палітыку. Ды і як яно магло быць іначай, калі маці чакала зямной візы на той свет?

Але натарыус копію «завярнуў», раздражнёна абарваўшы мае разважанні словамі: «Русского текста хватило бы и одного, а белорусского нет». Так мне наглядна паказалі, чаго на самой справе варты герб БССР, па якім наіўныя стараверы і палітычныя дэмагогі плачуць і цяпер.

Пра гэты эпізод, які не даваў мне спакою, я і расказаў у выступленні, націскаючы на тое, што студэнцкі пратэст выкліканы недаравальным занядбаннем роднай мовы, тым, што мы яе зводзім на нішто. А таму не студэнтаў трэба распінаць, а нешта рабіць для выратавання беларускага слова.

Для падмацавання сваёй пазіцыі я спаслаўся на Леніна, нагадаўшы яго выказванне пра тое, што «члены РКП на тэрыторыі Украіны павінны на справе праводзіць права працоўных мас вучыцца і гаварыць ва ўсіх савецкіх установах на роднай мове, усяляк процідзейнічаючы спробам штучнымі сродкамі адцясніць украінскую мову на другі план», што «неадкладна ж павінны быць прыняты меры, каб ва ўсіх савецкіх установах была дастатковая колькасць службоўцаў, якія валодаюць украінскай мовай, і каб у далейшым усе службоўцы ўмелі гаварыць на ўкраінскай мове». Усё гэта зусім слушна і ў дачыненні да мовы беларускай, бо мы нічым не горшыя за ўкраінцаў, з запалам даводзіў я разгневанаму начальніку.

Дакладная цытата пад рукой у мяне аказалася выпадкова. Я яе даваў у кнізе пра М. Гарэцкага, якая ў той час друкавалася ў акадэмічным выдавецтве. Адзін экзэмпляр яе машынапісу ляжаў у мяне на стале. Збіраючыся на вучоны савет, я на ўсякі выпадак і прыхапіў з сабою старонку з гэтай цытатай.

Настойваў я і на тым, што мы неправамерна тлумачым ленінскае палажэнне пра адміранне нацый і зліццё ўсіх нацыянальных моў у адну агульначалавечую мову. Па Леніну, гэта вельмі працяглы працэс. Ён павінен адбыцца ў далёкай будучыні, тады, як пройдзе цэлая эпоха пасля перамогі сацыялізму ў сусветным маштабе.

Думка, вядома, абсурдная (наконт зліцця). І цяпер пра гэта гаворыцца. Але ў той час пра такое нельга было і заікнуцца. Затое спасылка на Леніна была моцным аргументам у любой спрэчцы. Дык я і даказваў, што сацыялізм ва ўсім свеце яшчэ не перамог, вызначаная Леніным эпоха яшчэ не пачыналася і невядома, калі пачнецца, а мы ўжо сёння вядзём справу да ліквідацыі беларускай мовы, хаця яна, зноў жа паводле Леніна, перш чым знікнуць разам з іншымі мовамі, павінна яшчэ прайсці праз стадыю свайго росквіту.

Як ні дзіўна, але спасылкі на Леніна, які тады лічыўся недатыкальнай партыйнай святыняй, ці не найбольш раззлавалі Умрэйку. Адкрыта ён гэтага не сказаў, а стаў крычаць пра дэмагогію. У кулуарах абураўся і тым, што цытату я зачытаў, так падкрэсліўшы яе дакладнасць, і даў спасылку на адпаведную старонку Поўнага збору ленінскіх твораў.

«Ага, спецыяльна рыхтаваўся апраўдваць бунтаўнікоў», — бушаваў прарэктар. І з Леніным яму была закавыка. Публічна прызнаць, што ў Леніна даўно ўжо бралася афіцыйна толькі тое, што адпавядала інтарэсам тагачасных палітыкаў, ён, вядома, не мог. Нельга было сказаць і пра тое, што ў правадыра бальшавікоў нешта ўстарэла. Класікі ж «адзінаправільнага вучэння» не памыляюцца. Вось і даводзілася круціцца.

А я яшчэ наіўна і, бадай, свята верыў у ленінскі гуманізм, якога на самой справе не было і блізка, ніяк не здагадваўся, што «Поўны збор твораў» далёка не поўны і не ўключае ў сябе самых жорсткіх, бесчалавечных выказванняў і распараджэнняў заснавальніка савецкай таталітарнай сістэмы, што гэты вялікі праўдалюбец, як нам яго падавалі шчырыя і няшчырыя апалагеты, таксама і хітраваў, і крывадушнічаў, і гаварыў на публіку, на масы, як тады казалі, адно, а ад сваіх памагатых у сакрэтных запісках патрабаваў зусім іншага.

Ды ў тыя часы любая больш-менш сур'ёзная публічная крытыка парадкаў у краіне магла весціся толькі з апеляцыяй да Леніна, з апорай на яго выказванні.

Вядома, калі чалавек не жадаў быць адразу залічаным у дысідэнты і ворагі народа, якіх чакала хуткая і няўмольная расправа. Я на сістэму не замахваўся, расправы асцерагаўся і таму спасылаўся на Леніна, паўтару, тады цалкам давяраючыся яму.

Сабраныя на вучоны савет выкладчыкі дружна падтрымлівалі маю прамову і вялікай увагай да яе (у самыя напружаныя моманты панавала такая цішыня, што можна было пачуць, як муха ляціць), і адабральнымі воклічамі, і з'едлівымі рэплікамі ў адрас Умрэйкі, калі ён спрабаваў мяне перабіваць.

Асабліва шмат рэплік кідаў Сцяпан Александровіч. А Фёдар Куляшоў, хоць ён чытаў рускую літаратуру, а да беларускай толькі зрэдку звяртаўся ў сваіх даследаваннях, і наогул выступіў у маю абарону, праўда, з пэўнымі агаворкамі, як мне здалося, больш дыпламатычнага характару.

Словам, Умрэйка пайшоў ад нас незадаволены. А назаўтра ці праз які дзень на факультэт прыбег усхваляваны «Дзед». (Так мы называлі тагачаснага рэктара А. Н. Сеўчанку.) Ён сабраў партыйных актывістаў і філфакаўскіх кіраўнікоў, пачынаючы ад дэкана і яго намеснікаў і канчаючы тымі загадчыкамі кафедраў, якія былі на месцы, і пачаў на іх крычаць, стукаць кулакамі па стале і як быццам нават мацюкацца. Кажу «як быццам», бо сам ягоных мацюкоў не чуў, паколькі на той бурнай сустрэчы не быў, а ведаю пра яе са слоў сваіх калег і прыхільнікаў.

Тут ужо дасталося не толькі студэнтам, а і мне, грэшнаму. Ды за мяне заступіліся І. Навуменка, А. Лойка, П. Шуба. Прычым Навуменка і Лойка, да іх гонару, не сталі зважаць і на тое, што я перад гэтым з імі публічна спрачаўся. З Лойкам на кафедральным абмеркаванні ягонай доктарскай дысертацыі. Пра яе я ў цэлым выказваўся станоўча, але ў асобных мясцінах убачыў пэўныя ўступкі абэцэдаршчыне, дарэчы, потым знятыя. З Навуменкам жа задзірыста палемізаваў на адным з пасяджэнняў вучонага савета, калі абмяркоўвалася пытанне аб кантролі за самастойнай працай студэнтаў.

Іван Якаўлевіч выступаў за самыя жорсткія формы кантролю, казаў, што трэба, каб студэнты вялі дзённікі і занатоўвалі ў іх усё, што з імі адбываецца. І нават думкі няхай фіксуюць. Мы, чытаючы гэтыя дзённікі, будзем ведаць кожны крок студэнтаў і такім чынам зможам ажыццяўляць кантроль і за іхнімі мазгамі, разважаў Навуменка, хоць на самой справе ён найчасцей вызначаўся памяркоўнасцю і раней, і тады, калі замяніў М. Ларчанку на пасадзе загадчыка кафедры. А тут раптам «кантроль над мазгамі»! Я зачапіўся за гэты выраз, кваліфікаваў яго як непрымальную для нас фашысцкую тэрміналогію.

А яшчэ дадаў, што і з чытаннем чужых дзённікаў трэба быць асцярожнымі, бо можна трапіць у няёмкае становішча, калі дзяўчына напіша, скажам, пра свае інтымныя адносіны з хлопцам. Словам, трохі пацвяліўся з нечаканага радыкалізму Навуменкі.

Прынцыповая пазіцыя выкладчыкаў, якія выказалі мне падтрымку, зрабіла на Сеўчанку ўражанне. Ён сам казаў, што спачатку збіраўся напісаць загад аб звальненні без усякіх папярэдніх гутарак (за «ідэалагічны крымінал» гэта, мусіць, можна было зрабіць, хоць я праходзіў па конкурсе і мой тэрмін на пасадзе дацэнта тады не скончыўся), а потым вырашыў не спяшацца, паглядзець на дзівака, які так неасцярожна бунтуе.

Неардынарнасць «Дзеда» была і ў тым, што ён не стаў выклікаць да сябе ў галоўны корпус, а прыйшоў на філфак, запрасіў мяне ў кабінет дэкана, якога адправіў дамоў, і ўжо без сведкаў павёў няспешную размову. Так, гэта была менавіта размова, а не выхаваўчая накачка з пагрозамі і крыкам, звыклая для тых гадоў.

Для пачатку «Дзед» пацікавіўся, чаму я выступаю супраць партыйнасці літаратуры. Нямала здзіўлены, я адказаў, што гэта нейкае непаразуменне, бо на самой справе на партыйнасць літаратуры не замахваюся, а, наадварот, чытаю, як і патрабуецца па праграме, цэлую лекцыю на гэтую тэму ў адпаведнасці з ленінскім артыкулам «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура». «А мне дакладвалі», — зазначыў «Дзед», яўна падкрэсліўшы слова «дакладвалі». І яно прагучала як «даносілі».

Даносы, відавочна, і сапраўды былі. Але не вельмі дакладныя, бо Леніна я не чапаў і тады чапаць, яшчэ раз паўтару, не мог. Крытыкаваў жа не сам прынцып, а толькі спрошчанае, як мне ўяўлялася, разуменне партыйнасці ў савецкай літаратуры. Са спасылкамі менавіта на Леніна і пісьменніцкія выказванні я даводзіў, што сапраўды партыйнымі ў камуністычным разуменні не могуць быць слабыя, бездапаможныя ў эстэтычных адносінах творы, у якіх няма па-мастацку выяўленай праўды жыцця. І падмацоўваў гэтыя разважанні ленінскай цытатай: «Нам патрэбна поўная і праўдзівая інфармацыя. А праўда не павінна залежаць ад таго, каму яна павінна служыць».

Сказана моцна. Але на справе і сам Ленін, і яго паслядоўнікі ў асаблівасці якраз праўды пра свае справы найбольш і баяліся. Нездарма ж яны так зацята змагаліся супроць любых праяў свабоднай думкі і так рашуча расправіліся з усімі апазіцыйнымі партыямі. А ў літаратуры ўзорнымі, ідэйна вытрыманымі, а значыць, і самымі вартымі найчасцей абвяшчаліся найбольш кан'юнктурныя, лакіровачна-ілюстрацыйныя творы, у якіх рэальная праўда жыцця падмянялася хлуслівай выдумкай пра яго.

Такія творы я рэзка крытыкаваў на лекцыях (у друку рабіць гэта было вельмі цяжка, амаль немагчыма), не зважаючы на тагачасныя пісьменніцкія рангі. Так, я адкрыта казаў студэнтам пра кан'юнктурнасць П. Броўкі, пра тое, што гэтаму ўвогуле таленавітаму паэту моцна шкодзіць ягоная гатоўнасць вельмі аператыўна вітаць любую палітычную кампанію, гучнай рыторыкай славіць кожны паварот генеральнай лініі партыі.

Крытычна ставіўся я і да п'есы «Канец дружбы» К. Крапівы, паказваў дэмагагічнасць камуніста Карнейчыка з гэтага твора, а таксама развенчваў Зосю Тварыцкую з чорнаўскага «Трэцяга пакалення» з-за таго, што яна, парушаючы звыклыя чалавечыя нормы, даносіць на ўласнага мужа.

Відаць, пра ўсё гэта і «дакладвалі» «Дзеду», яшчэ сёе-тое перакруціўшы і кваліфікаваўшы маю пазіцыю як адмаўленне самога прынцыпу партыйнасці літаратуры.

«Няправільна дакладвалі», — запярэчыў я Сеўчанку і дадаў, што магу хоць цяпер паўтарыць змест сваёй лекцыі пра ленінскае вучэнне аб партыйнасці літаратуры (так у нас гучна называлася гэтая тэма).

«Дзед» ад маёй прапановы адмовіўся і стаў расказваць пра свайго настаўніка С. І. Вавілава, пра Сталіна і многія іншыя цікавыя рэчы.

Я ўжо і забыўся, што ён мяне «выхоўвае» і ўрэшце будзе вырашаць мой лёс.

Затым гаворка перакінулася на Васіля Быкава. Тады гэтага выдатнага пісьменніка па камандзе з самага верху разносілі на ўсіх скрыжаваннях за праўдзівы паказ трагічных аспектаў вайны ў аповесці «Мёртвым не баліць». Пад такое ж шальмаванне потым трапілі «Праклятая вышыня» і «Круглянскі мост».

А я не толькі не падключыўся да гэтага разносу (афіцыйныя прапановы былі даволі настойлівыя), але і меў дачыненне да пісьменніцкага пратэсту супраць аглабельнай крытыкі, накіраванай на знішчэнне Васіля Быкава. Той пратэст набыў форму пісьма ў ЦК КПБ, які падпісалі 53 літаратары. Я падпісваўся ў ліку самых першых і не ведаў, ці будзе хто з масцітых пратэставаць разам з намі.

Кіраўнікам Саюза пісьменнікаў падпісвацца знарок не прапаноўвалі, палічыўшы, што лепш іх як афіцыйных асоб не ставіць пад удар.

Падпісалі «калектыўку» Міхась Лынькоў і Аркадзь Куляшоў. І іхнія подпісы аказаліся самымі важкімі. Бо тагачаснае начальства асцерагалася гучных канфліктаў, якія маглі кінуць цень на прапагандысцкі міф пра непарушнае адзінства партыі і яе верных памочнікаў і нават падручных, як з гонарам называлі сябе некаторыя пісьменнікі. У канчатковым выніку было вырашана вялікага шуму не падымаць, а публічныя нападкі на Быкава ў рэспубліканскай прэсе трохі прыглушыць.

На чарговым (пятым) пісьменніцкім з'ездзе Васіль Быкаў публічна падзякаваў усім, хто яго падтрымаў. Сваю прамову, якая трапіла ў друк толькі праз чвэрць стагоддзя, ён закончыў словамі: «Покуль мы будзем з'яднаны па важнейшых пытаннях нашага жыцця і будзем гаварыць пра тое адкрыта, беларускі народ можа спадзявацца на добры лёс сваёй літаратуры». Ды менавіта з'яднанасці нам найчасцей неставала і нестае.

Тады ж абышлося без прамых рэпрэсіўных мер, хаця, трэба думаць, на заметку нас усіх узялі.

А я «засвяціўся» і трохі пазней. Той жа восснню 1968 года, калі бушавалі страсці вакол А. Разанава і яго сяброў, на лекцыі ў журналістаў у мяне спыталіся, як я стаўлюся да партыйнай крытыкі быкаўскіх твораў. Канкрэтна гаворка ішла пра «Круглянскі мост». Я выразна ўсведамляў, што пра ўсё, сказанае тут на гэты конт, будзе данесена «куды трэба». Але і прамаўчаць ніяк не выпадала. Самыя лепшыя студэнты палахлівасці не даруюць. А салідарызавацца з афіцыйнымі пагромшчыкамі было ўсё роўна што напляваць сабе ў душу. Бо я ўжо быў асабіста знаёмы з Васілём Быкавым і не толькі добра ведаў цану яго творам, але і захапляўся ягонай чалавечай мужнасцю. Таму не вагаючыся, без усякай аглядкі заявіў, што адрасаваная Быкаву крытыка несправядлівая.

А яшчэ зазначыў, што сучаснікі часта насцярожана ставяцца да самых выдатных твораў, бо яны нясуць у сабе найбольш нязвыклага, адкрывальніцкага. Так было з «Ціхім Донам», які далёка не адразу прызналі класічным раманам эпахальнага значэння. Так здарылася і з коласаўскай «Новай зямлёй», якую вульгарызатары некалі распіналі як нібыта твор кулацкі і, значыць, шкодны для нашай літаратуры. Пройдзе час, мы і быкаўскую прозу пра вайну прызнаем класічнай, нікуды ад гэтага не дзенемся.

Ніколькі не перабольшваю. Менавіта так, у супастаўленні з аўтарам «Ціхага Дона» і Коласам я тады гаварыў пра Быкава, хоць па праграме ВНУ яго яшчэ не вывучалі. Была толькі адна агульная згадка ў аглядзе сучаснай літаратуры.

Звыклыя да асцярожнасці выкладчыкаў студэнты былі нямала здзіўлены. А якраз дзівіцца і не было чаго. Бо ўжо тады творы пісьменніка не толькі набывалі папулярнасць, станавіліся істотным фактарам нашага духоўнага жыцця, але і прыносілі аўтару сусветнае прызнанне.

Мая заява, канечне ж, хутка стала вядома начальству. І яно прыплюсавала яе да таго, што вынікала з іншых даносаў і выступлення на вучоным савеце філфака. Таму цяпер «Дзед» і высвятляў, чаму я хвалю гэтага, як ён сказаў, падонка, якога трэба выслаць за граніцу, каб ён нам не перашкаджаў, а працаваў на сваіх гаспадароў.

Па гэтай афіцыёзнай тырадзе, выказанай з нейкай казённай абыякавасцю, няцяжка было зразумець, што сам «Дзед» не чытаў Быкава, нічога пра яго толкам не ведае, а паўтарае тое, што гаварылася пра пісьменніка на партыйных сходах і пленумах.

І я рашуча запярэчыў, што Быкаў ніякі не падонак, а вельмі сумленны і мужны чалавек, які выявіў супраць нямецкага фашызму, на фронце двойчы паранены. І нават ёсць ва Украіне брацкая магіла, у якой ён значыцца пахаваным. «Дзед» не абурыўся, а навастрыў «лакатары», яўна зацікаўлены такімі падрабязнасцямі. І яшчэ запытаўся, дзе пісьменнік жыве цяпер, дзе ён працуе.

З кабінета мы ўжо выйшлі, пакінулі філфак, але гаворку ўсё яшчэ працягвалі па дарозе. Часам прыпыняліся, а найбольш размаўлялі на хаду, як два старыя прыяцелі ці добрыя знаёмыя. Прынамсі, староннi чалавек, гледзячы збоку, нізашто б не здагадаўся, што гэта рэктар БДУ выхоўвае свайго крамольнага дацэнта.

Так мы мінулі Чырвонаармейскую, на якой тады размяшчаўся філфак, прайшлі праз Купалаўскі сквер і апынуліся на тралейбусным прыпынку.

«Дзед» не ведаў, дзе жыву я, а я, у сваю чаргу, не ведаў, куды кіруецца ён. Аказваецца, яму трэба было ехаць да таго дома на праспекце Ф. Скарыны (у той час яшчэ Ленінскім), першы паверх якога займае вядомы магазін «Сінтэтыка». Мая ж кватэра была на вуліцы Кнорына. Значыць, мы чакалі розных тралейбусаў.

Першым падышоў «Дзедаў». І перад тым, як сесці ў яго, «Дзед» без злосці і раздражнення, а проста з чалавечай цікавасці і як быццам са спачуваннем да дзівака яшчэ спытаўся: «Ну навошта вам гэтая беларуская мова?» — «Я сам беларус, мае бацькі і дзяды былі беларусамі. Дык чаго мне не хацець, каб і дзеці ведалі родную мову?» — адказаў я, не вельмі ўпэўнены, што «Дзед» усё паспее пачуць, бо ягоны тралейбус ужо кранаўся.

Ніякіх вывадаў наконт таго, што будзе далей, Сеўчанка пры мне не рабіў. У літаратуры ён разбіраўся слаба і быў далёкі ад яе. Але вучоны, даследчык у ім яшчэ жыў (казалі, што навукай ён ужо даўно не займаецца, а толькі будуе ўніверсітэт). І людзей, іх псіхалогію ён разумеў добра. І сам быў увогуле добрым, разумным і памяркоўна-спагадлівым чалавекам. Вядома, рэктарская пасада вымушала яго і на рэпрэсіўныя меры. Так, ён, выконваючы каманду вышэйшага начальства, дамагаўся выключэння А. Разанава і яго сяброў з універсітэта.

Зрабіць гэта наважыліся, па-езуіцку праваліўшы хлопцаў на чарговых экзаменах. «Дзед» выклікаў дзеля гэтага А. Лойку і П. Ткачова і патрабаваў, каб яны паставілі ўсёй тройцы бунтаўнікоў нездавальняючыя адзнакі. Але ні Лойка, ні Ткачоў, у якіх у адпаведнасці з вучэбным планам экзаменаваліся хлопцы, Сеўчанкі не паслухаліся. Ён іх трохі паўшчуваў, але ніякай шкоды ні аднаму, ні другому не зрабіў.

«Дзедаву» каманду выканалі толькі на ваеннай кафедры. Там не далікатнічалі. Але старанне дысцыплінаваных вайскоўцаў аказалася залішнім, бо ў канчатковым выніку нашых бунтоўных выхаванцаў вырашылі не выключаць, а перакінуць у іншыя ВНУ рэспублікі. Так Разанаў і, калі не памыляюся, Барташ апынуліся ў Брэсце, а Ярац — у Гомелі.

Трэба думаць, дапамагло хадайніцтва Максіма Танка, які спецыяльна хадзіў у ЦК КПБ адстойваць хлопцаў. Ведаю гэта ад самога паэта, які быў абураны тым, што расправа чыніцца над сумленнымі юнакамі, заклапочанымі лёсам беларускай культуры, будучыняй свайго народа.

Ад мяне ж не адступаўся Умрэйка. Ён упарта дамагаўся звальнення. Таму на мае лекцыі і практычныя заняткі зачасцілі правяральшчыкі з галоўнага корпуса, якія прыходзілі, зразумела, без папярэджання. Але ніякага крыміналу яны не знайшлі, хоць я чытаў свае курсы без аглядкі на розныя камісіі.

Кафедра, у сваю чаргу, прызначыла мне адкрытую лекцыю, якая, як ужо ўпаміналася, рыхтуецца загадзя і па выбары самога выкладчыка. Так што тут тым больш не было чаго губляцца і палохацца.

Вясной 1969 года мне належала праходзіць перавыбранне па конкурсе на чарговыя пяць гадоў. Звычайна гэта рабілася на факультэцкім вучоным савеце. А тады ў якасці пакарання за студэнцкае пісьмо ў ЦК КПБ і незгаворлівасць некаторых выкладчыкаў самому філфаку перавыбранне праводзіць не дазволілі. І трэба было ўжо ісці на так званы вялікі, агульнаўніверсітэцкі вучоны савет. Тут Умрэйка зноў паказаў сябе. Ён рашуча выступіў супраць майго перавыбрання. І зрабіў гэта насуперак «Дзеду», які сказаў, што гутарыў са мною і не бачыць падстаў для недаверу.

Разгарэліся спрэчкі. У маю падтрымку ажно тройчы выступаў А. Волк. Ён быў членам таго вялікага савета і ніякага начальства не баяўся. Вядома, маіх «грахоў» ён не апраўдваў, але заявіў, што не будзе каму чытаць лекцыі па беларускай літаратуры, калі мяне пракоцяць. Галасаванне па конкурсных справах праводзіцца тайнае. І Умрэйку падтрымалі толькі чатыры ці пяць чалавек. Зусім небагата, калі ўлічыць, што ў галасаванні ўдзельнічала больш за пяцьдзесят прафесараў і дацэнтаў. Так наглядна было засведчана, што старэйшы беларускі ўніверсітэт нябедны на разумных людзей, якія дэмагогію не прымаюць.

Яшчэ адна крамольная гісторыя наспявала ў 1972 годзе. Тады я быў членам прэзідыума праўлення СП БССР і старшынёй секцыі крытыкі. Сасватаў на тое старшынёўства Іван Мележ. Дзякуючы яму ж я набыў членства і ў Савеце па крытыцы пры СП СССР. Гэты Савет у канцы 1972 года аналізаваў распрацоўку гістарычнай тэмы ў нацыянальных літаратурах. Я з дакладам не выступаў, але ўдзельнічаў у падрыхтоўцы матэрыялаў па Беларусі.

Тады ж СП СССР, Інстытут сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага і Акадэмія грамадскіх навук пры ЦК КПСС праводзілі прысвечаную 50-годдзю Савецкакага Саюза нараду з гучнай назвай «Гістарычная агульнасць — савецкі народ і літаратура сацыялістычнага рэалізму». Членаў Савета па крытыцы, якія былі на той час у Маскве, таксама запрасілі на гэтую нараду. А мне яшчэ і прапанавалі выступіць. Мерапрыемства мела афіцыёзна-казённы характар, панавала на ім юбілейная патака. Бо і сама тая гістарычная агульнасць, якую ўсяляк узвялічвалі прамоўцы, была штучнай прыдумкай брэжнеўшчыны.

Ды салідныя літаратары і навукоўцы на гэта не зважалі, а на ўсю катушку славілі русіфікацыю пад выглядам абароны двухмоўя, якое аб'яўлялася апошнім словам прагрэсу ў дзяржаўнай і пісьменніцкай практыцы, нібыта найбольш плённай для нацыянальных рэспублік.

З сур'ёзных пісьменнікаў да двухмоўных залічалі малдаваніна Іона Друцэ, Чынгіза Айтматава з Кіргізіі і нашага Васіля Быкава. Я ж заявіў, што Быкаў пісьменнік нацыянальны, ён піша па-беларуску, а сам стаў перакладаць свае творы на рускую мову толькі таму, што не мае добрых перакладчыкаў. У выніку яму даводзіцца рабіць двайную работу. І гэта нерацыянальная трата духоўнай энергіі.

А так званыя двухмоўныя пісьменнікі, па сутнасці, бязмоўныя, кажучы па-руску, «безъязыкие». Бо і родным словам не валодаюць, і жывой, кондава-глыбіннай рускай мовы не ведаюць. Таму іх бяду ніяк не выпадае выдаваць за прагрэс. Увогуле, толькі ў роднай стыхіі з найбольшым поспехам можа выявіцца сапраўдны мастак. У гэтым пераконвае і вопыт нашага класіка Максіма Багдановіча, які крытычныя артыкулы пісаў на ўсіх усходнеславянскіх мовах, але як паэт сцвердзіў сябе менавіта ў беларускім слове. Ягоныя ж рускія вершы куды слабейшыя. І гэта пры тым, што жыў ён у асноўным удалечыні «ад родных ніў» і выхоўваўся пераважна на рускай культуры.

З усіх прамоўцаў афіцыйную казуістыку не падтрымаў яшчэ Бесо Жгенці, старэйшы на той час грузінскі крытык (ён ужо даўнавата нябожчык), які вызначаўся ўменнем гаварыць дасціпна, са шматзначнай падкаыркай. Гэта ён казаў, што самае цяжкае не крытыкаваць пісьменнікаў, а хваліць іх. Пахваліш аднаго — коса глядзяць усе іншыя. Затое калі каго па-

крытыкуеш, дык толькі ён адзін і незадаволены, а ўсе астатнія пасміхаюцца і ніякай крыўды табе не выказваюць.

Не буду сцвярджаць, што наша яршыстасць прыйшлася вельмі даспадобы арганізатарам нарады. Але і вялікага спалоху яны не выказалі, а проста вялі свой рэй па прадугледжанай праграме. Праўда, потым была выпушчана кніга (а ёй папярэднічалі і брашуркі з тэкстамі дакладаў і выступленняў), у якой прадставілі ўсіх прамоўцаў, акрамя мяне і Б. Жгенці. Кампанія не з горшых. І я асабліва не бедаваў. Ды і тое, што нас абышлі, выявілася трохі пазней.

А па прыездзе ў Мінск пры першай жа сустрэчы з І. Навуменкам я атрымаў ад яго добры наганяй. «Глядзі, хлопча, дагаворышся да таго, што і я не змагу абараніць», — шматзначна папярэдзіў Навуменка. Тады ён ужо быў загадчыкам кафедры беларускай літаратуры і, значыць, маім непасрэдным начальнікам. Сам ён на той маскоўскай нарадзе не прысутнічаў, выступлення не чуў. Але там быў нехта з кіраўнікоў БДУ. Ён і ўгледзеў крамолу ў маёй прамове.

Даволі сур’ёзна паўшчуваў і П. Шуба, на той час сакратар факультэцкага партбюро. У аспіранцкія гады мы з ім жылі ў адным пакоі, прыязныя адносіны захоўвалі і надалей. А тут пасада абавязвала на адпаведнае рэагаванне.

Словам, невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б не падаспела яшчэ адна шчаслівая акалічнасць. З СП СССР мне зусім нечакана прыйшла падзяка за актыўны ўдзел у маскоўскіх мерапрыемствах, напісаная ад імя сакратарыята пісьменніцкай арганізацыі і завераная круглай пячаткай. Ніколі раней (і пазней таксама) я такіх падзяк не атрымліваў, хоць заставаўся членам Савета ажно да яго ціхага скону ў сувязі з распадам СССР. А тут такая шчодрасць! Хто да яе дадумаўся, не ведаю і цяпер, хоць на філфаку падазравалі, што ўсё арганізаваў я сам. Каб жа я мог рабіць такое! Фантастыка неймаверная.

Дайшла маскоўская падзяка з невялікім спазненнем, бо выслалі яе на старую кватэру, у якой жыла ўжо Вольга Іпатава. Яна і перадала мне выратавальны дакумент. Я паказаў яго Навуменку і Шубе (ён нават прабачэння папрасіў за ранейшае ўшчуванне), а потым занёс у галоўны корпус. На гэтым чарговую справу закрылі. Бо якія ж яшчэ могуць быць размовы пра крамолу, калі Масква дзякуе!

Закрыць-то закрылі, а ці забылі — не ведаю, бо дробныя непрыемнасці здараліся і пазней. Але хто ў гэтым жыцці ад іх гарантаваны? Я ж працую ў БДУ і па сённяшні дзень. А гэта ўжо 31 год. І прафесарскае званне тут атрымаў. Зноў праходзіў, цяпер ужо двойчы, праз тайнае галасаванне на

вялікім вучоным савеце. Першы раз — на пасаду прафесара, другі — на прафесарскае званне. Між іншым, за два разы меў толькі адзін голас супраць. Бо Умрэйкі ўжо не было, а тагачасны рэктар Л. І. Кісялеўскі да мяне ставіўся прыхільна. Як і прарэктары, сярод якіх быў і С. Шушкевіч. На цяперашняе кіраўніцтва і БДУ, і тым больш філфака таксама паскардзіцца не магу.

Але шмат марокі давялося зведаць у Маскве, якая ў той час прымала рашэнне аб выдачы прафесарскіх дыпломаў (лічылася, што ўніверсітэт толькі хадайнічае). Для мяне справа ўскладнялася тым, што я быў беспартыйным і не меў доктарскай ступені. Тады гэта былі вельмі вялікія перашкоды.

А доктарскую дысертацыю не абараняў не з-за нядбаласці і ляноты, як кажа жонка, а таму, што спяшаўся пісаць і друкаваць кнігі, пакуль была такая мажлівасць. Колькі для мяне яна яшчэ працягнецца, ніколі нельга было пэўна сказаць.

Кнігі ж я выдаваў больш-менш рэгулярна, праўда, часта з цяжкасцямі, прыгодамі і пакутамі. Першую з іх («Шчодрае сэрца пісьменніка») два гады запар адмаўлялася ўключаць у план акадэмічнае выдавецтва. Дапамог А. Адамовіч. Ён дамовіўся з М. Татурам. І мая манаграфія, зробленая па кандыдацкай дысертацыі, выйшла ў 1963 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР, дзе М. Татур узначальваў рэдакцыю мастацкай літаратуры, па якой ішла і крытыка.

У другой кнізе (гэта была «Паэзія Максіма Танка», якую друкавала «Навука і тэхніка») хацелі вырываць лісты ўжо з гатовага тыражу. Выратаваў В. Барысенка. Ён быў навуковым рэдактарам працы і ў самы апошні момант адгаварыў выдавецкіх перастрахоўшчыкаў, запэўніўшы іх, што няма ніякай крамолы ў тых лістах, якія яны наважыліся пусціць пад нож.

Трэцяй была кніга пра Уладзіміра Дубоўку. Пра тое, што супраць яе выдання рашуча выказаўся В. Івашын, я ўжо згадваў. Але і ў выдавецтве «Беларусь», дзе мяне моцна падтрымліваў яго галоўны рэдактар Я. Казека, былі свае складанасці. Бо першы рэцэнзент (сам Рыгор Бярозкін!) маю кнігу «зарэзаў». Ён лічыў, што пра Дубоўку манаграфія патрэбна, але пісаць яе трэба не так, як напісаў я. У прыватнасці, Бярозкін настойваў, што неабходна аналізаваць толькі Дубоўкаву паэзію, зусім не закранаючы разносную крытыку, якая ў свой час падводзіла грунт пад расправу над паэтам.

Гэта было шчырае перакананне таленавітага крытыка. Але ж я думаў іначай. Мяне падтрымаў і Дубоўка, які па просьбе Я. Казекі прачытаў працу, застаўся ёю задаволены і яшчэ напісаў вялікі водгук у яе абарону. А афіцыйную закрытую рэцэнзію зрабіў У. Юрэвіч. І гэтага хапіла, каб пераканаць вельмі асцярожнага дырэктара выдавецтва З. Матузава.

Асабліва істотным у гэтай сітуацыі было тое, што Р. Бярозкін афіцыйнай рэцэнзіі не пісаў. Усе свае пярэчанні ён выказаў мне вусна ў прысутнасці Я. Казекі, які перад згаданай гаворкай прачытаў кнігу, а потым прайшоўся па ёй і пасля выдавецкага рэдактара.

Над кнігай пра М. Гарэцкага дамоклаў меч завісаў двойчы. Спачатку супраць яе ўключэння ў выдавецкі план «Навукі і тэхнікі» выказаўся К. Крапіва. Ён як віцэ-прэзідэнт АН БССР курыраваў гэтае выдавецтва. Счакаўшы год, Г. Юрчанка, які тады працаваў у «Навуцы і тэхніцы» і быў ініцыятарам выдання кнігі, параіў мне самому схадзіць да Крапівы і папрасіць, каб ён зняў свае пярэчанні. Я, вядома, пайшоў. Славуты сатырык назваў М. Гарэцкага другарадным пісьменнікам (тады многія так лічылі, бо гэты наш класік быў як след не прачытаны) і дадаў: «А чаго ён застаўся ў Вільні пры палярах?» Наконт другараднасці я асабліва спрачацца не стаў, сказаў толькі, што гісторыю літаратуры ствараюць самыя розныя таленты. А што да Вільні, дык тут запярэчыў рашуча: «Бальшавікі так хутка здалі горад, што М. Гарэцкі выехаць проста не паспеў». На маё здзіўленне, К. Крапіва такім тлумачэннем задаволіўся і паабяцаў свае пярэчанні зняць. Так ён потым і зрабіў. Кнігу запланавалі.

Але яшчэ да яе здачы ў набор я меў неасцярожнасць змясціць у друку пра М. Гарэцкага артыкул, які трапіў на вочы тагачаснаму загадчыку аддзела культуры ў ЦК КПБ С. Марцалеву. І ён публічна заявіў, што Бугаёў няправільна тлумачыць М. Гарэцкага. Для палахлівага рэдактара гэтага было б дастаткова, каб кнігу «зарэзаць». Але мой рэдактар Г. Юрчанка якраз палахлівасцю не вызначаўся. Ён зрабіў выгляд, што марцалеўская крытыка да кнігі не мае дачынення. Фармальна яно так і было. Але ж тыя сцверджанні, за якія зачапіўся пільны начальнік у маім артыкуле, ішлі і ў кнізе. Адкрытай палемікі з Марцалевым я не вёў, але ў піку яму цяпер падмацаваў свае думкі цытатамі з Леніна. І ўсё абышлося.

Горш было з пятай кнігай. Яна выйшла пад загалоўкам «Шматграннасць», а магла б называцца і «Шматпакутнасць». І не толькі таму, што на долю беларускіх пісьменнікаў вельмі часта выпадалі неймаверныя пакуты, а яшчэ і з той прычыны, што і сам я зазнаў нямала турбот з гэтай сваёй кнігай, у гучную назву якой укладвалася ідэя пра жанрава-тэматычную і стылёвую разнастайнасць нашай літаратуры, яе эстэтычнае багацце.

Яно і само па сабе было вельмі адносным, а ў маёй кнізе выглядала яшчэ і абкарнаным, бо пры рэдагаванні давялося зняць артыкулы пра П. Галавача, С. Грахоўскага, І. Навуменку, А. Вярцінскага і некаторых іншых пісьменнікаў розных пакаленняў, разгляд апавяданняў 1966 года, цэлы раздзел з аналізам крытычных прац, у якіх так ці іначай ставіліся праблемы жанрава-стылёвага

развіцця беларускай літаратуры, а таксама прыйшлося рабіць шмат купюр амаль ва ўсіх уцалелых артыкулах.

Але нарэшце кнігу падпісалі ў набор. Я атрымаў зусім неблагі, калі параўноўваць з цяперашнімі ганарарамі, аванс і ўжо чакаў карэктуры. І тут выпадкова высветлілася, што адрэдагаваны з вялікімі пакутамі тэкст у друкарню не трапіў, а наогул згублены. Нячыстая сіла тут наўрад ці ўмешвалася. Была, мабыць, толькі чыясьці нядбаласць, з-за якой давялося пачынаць усё спачатку, выкарыстаўшы другі машынапісны экзэмпляр. А гэта яшчэ не менш двух месяцаў працы, спрэчак, нервознасці і, галоўнае, новыя скарачэнні і праўкі, бо цяпер не праходзіла нямала і таго, што раней пярэчанняў не выклікала ці няхай і са скрыпам, але пакідалася. Мы ўжо не ўкладваліся ў тэрміны. І кніга, запланаваная на 1969 год, выйшла толькі ў 1970-м. Яна і зусім бы не пабачыла свету, каб не атрыманы аванс. Проста спісаць яго па тых часах не выпадала. І самае парадаксальнае, што пасля таго, як мы другі раз падрыхтавалі тую шматпакутную «Шматграннасць» да набору, знайшоўся раней адрэдагаваны экзэмпляр. Яго нечакана выявілі ў нейкіх рэдакцыйных запасніках і аддалі мне на памяць.

Можа, і дарэмна, бо дзякуючы такому падарунку я зразумеў, што кнігу яшчэ па першым заходзе крамсалі і без майго ведама. І не толькі рабілі дадатковыя праўкі, але і здымалі цэлыя артыкулы. Асабліва шкода было, што «вылецеў» вызначальны для канцэпцыі кнігі артыкул «Стылёвая шматграннасць і крытычная спрошчанасць». У ім вялася палемічная ў дачыненні да артадаксальнай крытыкі размова пра раманы «Птушкі і гнёзды» Я. Брыля, «Нельга забыць» У. Караткевіча і некаторыя іншыя творы, якія найбольш вылучаліся ў тагачаснай прозе.

Вядома, усё гэта не прайшло і пры паўторным рэдагаванні. Рэдактарам кнігі была А. Куліш, якая толькі пачынала працу на гэтай вельмі няўдзячнай пасадзе. І яна напакутавалася яшчэ больш за мяне. Асцерагацца ж у яе падстаў было больш чым дастаткова. Бо якраз тады, не зважаючы на пратэст Саюза пісьменнікаў, раскідалі ўжо гатовы набор кнігі С. Андраюка пра беларускую прозу другой паловы 1950-х —1960-х гадоў. А я, хутчэй за ўсё з-за таго, што публічна падтрымаў А. Разанава і яго сяброў у іх барацьбе за беларускую мову, трапіў у артыкул тагачаснага сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі С. Пілатовіча, які ў пераліку найбольшых ідэалагічных грэшнікаў першым назваў мяне. Добра яшчэ, што абвінавачанне было агульнае, без упамінання канкрэтных прац. Таму я мог заяўляць, што паважаны сакратар мае на ўвазе не тыя артыкулы, што ідуць у кнізе.

З вялікімі цяжкасцямі прабівалася да чытача і «Чалавечнасць». Яна таксама выйшла са спазненнем, у 1985 годзе замест 1984-га. Але гэта ўжо цалкам залежала не ад выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе друкава-

лася кніга, а непасрэдна ад цэнзуры. Кіраўнікі ж выдавецтва М. Дубянецкі і С. Андраюк баранілі мяне самым рашучым чынам, за што і атрымалі наганяй ад вядомага сваёй звышпільнасцю С. Паўлава, які тады быў загадчыкам цэкоўскага аддзела прапаганды.

Больш шчаслівы лёс напаткаў манаграфіі пра Крапіву і Мележа і асабліва тры кнігі, у загалоўках якіх, як заклінанне, паўтараецца слова «талент». Кнігу «Талент і праца», за якую я потым атрымаў Дзяржаўную прэмію імя Якуба Коласа, рэдагаваў А. Разанаў. І ён адстаяў амаль усё, што там было, у тым ліку і некаторыя артыкулы, што ў свой час не прайшлі ў «Шматграннасці». «Арганічнасць таленту», якую рэдагаваў М. Мятліцкі, ішла ўжо пры гарбачоўскай галоснасці. І рэдактар, за што я яму вельмі ўдзячны, у мой тэкст, здаецца, не ўмешваўся зусім.

А што датычыць кнігі «Праўда і мужнасць таленту», дык яе ўвогуле можна лічыць падарункам, які зрабілі мне супрацоўнікі «Мастацкай літаратуры», бо яны самі прапанавалі выдаць гэтую кнігу. У яе падзагалоўку значыцца «Выбранае». І я сапраўды ўключыў сюды кнігу пра Васіля Быкава, якая выходзіла ў «Народнай асвеце» ў 1987 годзе. Тады цэнзурны ціск быў ужо не такі моцны, як раней, але перастрахоўка яшчэ адчувалася. Ды і кніга адрасавалася школьнікам. Таму давялося сёе-тое здымаць, згаджацца на некаторыя праўкі. Была і пэўная, вядома, вымушаная, аўтарская аглядка на тагачасныя ідэалагічныя догмы, з-за якіх рабіліся некаторыя тэрміналагічныя ўступкі. Цяпер усё гэта адпала. І я надрукаваў кнігу пра выдатнага пісьменніка без тых скажэнняў, якія навязваліся часам і абставінамі.

Нарэшце ўдалося аднавіць і першапачатковы загаловак гэтай працы, дастасаваны цяпер і да ўсёй апошняй кнігі. У «Народнай асвеце» яго таксама як быццам згаджаліся даць, але знялі ўжо ў самы апошні момант.

Не менш палову «Выбранага» складаюць артыкулы, напісаныя ў апошнія гады. У ранейшыя мае кнігі яны не ўключаліся. Такім чынам, «Праўда і мужнасць таленту» — гэта кніга, у якой нескажона адлюстроўваецца маё цяперашняе бачанне жыцця і літаратуры. Іншая справа наколькі глыбока і змястоўна яно адлюстроўваецца. Гэта пакажа час, суддзя аб'ектыўны і няўмольны. Аўтару ж, відаць, і ўвогуле не выпадае ацэньваць якасны ўзровень сваіх прац, а тым больш хваліць іх. І я да гэтага не імкнуся. Але хочацца сказаць пра тое, што мяне самога не задавальняе ў ранейшых кнігах, ад якіх, вядома, не адмаўляюся, бо тады так думаў і так пісаў ці згаджаўся, няхай і з болем душэўным, на такія рэдакцыйныя праўкі.

Кажуць, што ў некаторых людзей часам узнікае адчуванне, што ім баліць даўно адрэзаная рука ці нага. У мяне рукі і ногі, дзякуй Богу, цэлыя. Але і я

адчуваю амаль фізічны боль кожны раз, як з той ці іншай нагоды натыкнуся на свой некалі пакалечаны тэкст, у якім зіхаюць бачныя мне пустоты ад колішніх вымушаных ампутацый.

А даводзілася ж і самому пісаць не зусім так, як і тады думалася. І для абароны добрых пісьменнікаў ад зубадрабільнай крытыкі на знішчэнне. І для таго, каб выратаваць, скажам, кнігу ў цэлым, папсаваўшы ў ёй асобныя мясціны афіцыёзнай рыторыкай, своеасаблівым маленнем уладарнаму д'яблу.

Напісаў жа я ў «Шчодрым сэрцы пісьменніка», зачапіўшыся за адпаведныя разважанні А. Фадзеева, што ў М. Лынькова «паэтычная проза была адной з мажлівых, заканамерных і апраўданых моўна-стылёвых форм сацыялістычнага рэалізму. А яшчэ дакладней, яна была разнавіднасцю рамантычнай формы рэалістычнага (праўдзівага) адлюстравання рэчаіснасці, пафасна-прыўзнятага выражэння жыццёвай праўды».

Хаця рамантычная форма рэалізму, як у мяне атрымалася, яўны нонсэнс, нешта накшталт гарачага холаду ці гучнай цішыні. Рамантыкі любяць такія парадаксальна-супярэчлівыя сутыкненні несумяшчальных і ўзаемавыключных паняццяў. Але ж адна справа — квяціста-эмацыянальны стыль мастацкай прозы. І зусім іншая — вызначэнні, што прэтэндуюць на дакладнасць і навуковасць. Як паказвае сарамліва прыхаванае ў дужках вызначэнне («рэалістычнага (праўдзівага) адлюстравання»), падмену я адчуваў і тады, нават пазначыў яе. Але ўсё роўна фокус прайшоў, можна сказаць, на «ўра». І ён даў магчымасць узаконіць у М. Лынькова тое, што складала яго сілу як мастака, не абы-якога майстра слова, але ставілася пад сумненне ранейшай крытыкай. Дзеля гэтага падмена тэарэтычных паняццяў і рабілася, рамантызм абвяшчаўся формай рэалізму, вядома, сацыялістычнага, бо толькі ён у дачыненні да савецкіх пісьменнікаў і прызнаваўся правільным, добранадзейным, даваў ім своеасаблівую індульгенцыю на адпушчэнне грахоў.

Вось і падводзілі пад яго ўсіх: яўнага рамантыка Міхася Лынькова і рэаліста са строгім пяром аналітыка Васіля Быкава, скептычна-з'едлівага Кандрата Крапіву і бунтоўнага Уладзіміра Дубоўку 1920-х гадоў, размашыста-метафарычную лірыку Максіма Танка заходнебеларускіх часоў і спакойна-ўраўнаважаную эпіку Якуба Коласа і Івана Мележа.

Пра своеасаблівае вытлумачэнне партыйнасці літаратуры насуперак таму, што ў гэты тэрмін укладвалі звыклыя да аруэлаўскага навяза партыйныя функцыянеры, у гэтых нататках ужо гаварылася.

Тое ж самае можна сказаць і пра так званы гуманізм савецкага грамадства, бальшавіцкай таталітарнай сістэмы. Да чаго яна прыводзіла на практыцы, стала больш-менш зразумелым не сёння, а трохі раней. Але ж неяк чапаць гэтую практыку, крытыкаваць яе адкрыта, у друку можна было толькі

сцвярджаючы, што яна разыходзіцца з «адзінаправільнай» марксісцка-ленінскай тэорыяй. Як вядома, у той тэорыі абавязковым лічылася прызнанне выключнай ролі класавай барацьбы і дыктатуры пралетарыяту. А імі ж фактычна апраўдвалася самая жахлівая кроў, ад якой пахла не столькі гуманізмам, колькі генацыдам.

Аднак увесь яго жах і яго сапраўдныя маштабы трымаліся ў вялікім сакрэце, збольшага парушаным толькі ў перыяд хрушчоўскай адлігі. Таму і я шмат чаго не ведаў, хоць пра сёе-тое здагадваўся, задумваючыся над трагічным лёсам бацькі і не толькі яго. Аднак разам з тым доўгі час верыў у камуністычную ўтопію, якая абяцала нямала спакусліва-прывабнага, суцяшала зманлівымі ілюзіямі, цацанкамі-абяцанкамі, якімі наша хлуслівая прапаганда і пастаўленыя ёй на службу іншыя сродкі абалваньвання чалавека дурылі людзям галовы на працягу дзесяцігоддзяў. І як было не верыць, калі праўдзівая інфармацыя адсутнічала, а ад імя партыі, савецкай улады абвяшчалася: усё для чалавека, для простых людзей, гаспадароў краіны, пра якіх так шчыра клапоцяцца нашы вялікія, мудрыя і вельмі ж гуманныя правадыры.

А калі сутыкаўся з тым «клопатам», якім быў акружаны абсалютна бяспраўны селянін у калгасе, дык думалася, што гэта толькі ў нашай мясцовасці так, бо ў нас дрэннае начальства, якое дыскрэдытуе савецкую ўладу, не выконвае яе законаў. А вунь у Арлоўскага, у «Камінтэрне» пад Магілёвам, на Кубані, як паказвае кінафільм «Кубанскія казакі», там жывуць.

Разуменне ж, што такія кінафільмы таксама ствараліся для абалваньвання людзей, што Арлоўскі быў чалавекам у многіх адносінах незвычайным і знаходзіўся ў выключным становішчы, бо яму сыходзіла з рук тое, што ніколі не даравалася іншым, радавым калгасным старшыням, што і той жа «Камінтэрн» быў у няроўных умовах з іншымі калгасамі, — гэтае разуменне прыходзіла далёка не адразу.

А калі і прыходзіла, дык як яго было выказаць публічна? Зноў жа даводзілася неяк выкручвацца, націскаць на тое, што нібыта самой прыродзе нашага грамадства ўласцівыя гуманістычныя рысы, але ў жыцці гэта не заўсёды рэалізуецца. А героі добрых літаратурных твораў змагаюцца за такую рэалізацыю нават ва ўмовах зняволення, на тым жа будаўніцтве Беламорканала.

Яўны здзек з рэчаіснасці, у якім вінаваты і я, бо нахвальваў лынькоўскія апавяданні пра той канал, вымашчаны чалавечымі касцямі. Але мне тады здавалася, што і так я змагаюся за гуманістычны падыход да чалавека пры нашым таталітарызме, які здзекаваўся над людзьмі як хацеў.

І вось яшчэ што істотна. У класікаў «адзінаправільнага вучэння» можна было знайсці развažанні пра рэальны гуманізм пры сацыялізме, бо ў іх наогул шмат дыяметральна супрацьлеглых думак, выказаных ці ў розны час, ці з рознай нагоды. І мы з тым большай упартасцю чапляліся за гэтыя выказванні, чым далей нашы энергічныя правадыры, а потым і нямоглыя крамлёўскія маразматыкі адыходзілі ад гуманістычных каштоўнасцей чалавецтва, а то і проста глуміліся над імі.

Словам, вельмі часта найбольш даследчыцкай энергіі трацілася, па сутнасці, упустую, бо ішло не на само асэнсаванне мастацкіх твораў у іх суаднесенасці з рэчаіснасцю і эстэтычнымі законамі, а на тое, каб хоць нешта з твайго ўласнага разумення жыцця і літаратуры прабілася праз цэнзурныя рагаткі.

І мне як крытыку і літаратуразнаўцу, ды і як выкладчыку таксама, яшчэ пашанцавала. Бо і БДУ — не горшае месца працы. І рэдактары траплялiся непалахлівыя (не ўсе, вядома). І ў шэрагу друкаваных выданняў, а таксама ў галоўных беларускіх выдавецтвах было спрыянне многіх людзей. Я ўжо не кажу пра Саюз пісьменнікаў, персанальна пра самых выдатных майстроў беларускага мастацкага слова. Іх падтрымка вельмі часта была ў маім лёсе вырашальная. А думка М. Лынькова, І. Мележа, У. Дубоўкі (калі ён ужо быў рэабілітаваны), П. Панчанкі, А. Макаёнка, А. Адамовіча ўсё ж мела пэўную вагу і пры ўладзе партыйных ідэолагаў, якія, як я ўжо згадваў, на адкрытыя канфлікты з самымі вядомымі пісьменнікамі не спяшаліся ісці, асабліва па праблемах прыватных. Ды і не ўсё тыя ідэолагі маглі надзейна зарэгуліраваць і прадугледзець. Называю тут толькі імёны пісьменнікаў-нябожчыкаў, каб не выглядала, што падхалімнічаю перад уплывовымі людзьмі з нейкіх карыслівых меркаванняў.

І яшчэ на адну акалічнасць хацелася б звярнуць увагу. На маю крытычную долю выпалі не самыя горшыя часы. Больш-менш актыўна друкавацца я стаў толькі пры Хрушчове і яго пераемніках. А гэта ўжо не сталінская давільня ўсяго жывога. І як бы нас ні даймалі час ад часу, як бы ні ціснулі, масавых пасадак інтэлігенцыі ўжо не было, хаця хто-ніхто і ў псіхушках пабыў, і за кратамі сядзеў. Мяне ж гэты лёс мілаваў. І баяліся мы ўжо куды менш, чым гэта было, скажам, у зусім жахлівыя 1930-я гады.

А. Адамовіч нават казаў: нічога, нават калі нас цяпер і знішчаць, дык усё роўна потым рэабілітуюць, нідзе не дзенуцца.

Скептычны чалавек, прачытаўшы гэтыя радкі, можа з’едліва ўсміхнуцца: а завошта вас было знішчаць? Вы ж так ці інакш былі падключаны да таталітарнай сістэмы, сваю долю малення, няхай і не хочучы, вымушана, ёй аддавалі. І гэта праўда. Абавязковае, можна сказаць, рытуальнае, мален-

не было. І я не адмаўляю тут сваёй віны. Хаця той сістэме патрэбна было ад кожнага большае — «рабскае падпарадкаванне», поўная «пакорнасць, адмаўленне ад уласнай асобы». Гэта горкія, але вельмі слушныя словы Ю. Нагібіна з ягоных дзённікаў, нядаўна пасмяротна апублікаваных у «Литературной газете».

Я на такое падпарадкаванне арганічна не здольны. Таму і трапляў у розныя гісторыі. А пры сталінскіх парадках кожнай з іх хапіла б для таго, каб загрымець назаўсёды.

Але ж мы працавалі ўжо не пры Сталіне, а пасля яго. Таму, як цяпер відно, з яўна перабольшаным аптымізмам глядзелі на Хрушчова, а ўжо на Гарбачова дык гатовы былі ледзь не маліцца. Перамены, што пачаліся па ініцыятыве гэтага ўсё ж неардынарнага чалавека, як бы яго ні праклiналі артадоксы сталінскай закваскі, — гэтыя перамены далі небагата, хоць цэнзурны ўціск істотна паслабіўся. А для літаратуры гэта заўсёды нешта значыць.

*1995 г.*





## ІНТЭЛІГЕНТ НАЙВЫШЭЙШАЙ ПРОБЫ

Мусіць, кожнага, хто хоць трохі ведаў Гаўрылу Іванавіча Гарэцкага, найперш уражвалі ягоныя інтэлігентнасць, душэўная далікатнасць і арганічная ўнутраная культура. Гэтыя рысы духоўнага вобліку знакамітага вучонага і цудоўнага чалавека выяўляліся ва ўсім і адразу вабілі да яго.

Мае асабістыя дачыненні з Гаўрылам Іванавічам пачаліся пасля таго, як я стаў займацца творчасцю Максіма Гарэцкага і напісаў пра яго невялікую кнігу. Яна выйшла ў 1968 годзе ў Мінску пад загалоўкам «Максім Гарэцкі». Гэта ў нас была першая кніга пра бязлітасна знішчанага бальшавікамі пісьменніка. Афіцыйна яго рэабілітавалі ў канцы 1950-х гадоў, але сапраўднае вяртанне твораў мастака ў літаратуру ішло з вялікім скрыпам, бо ўлада і пасля рэабілітацыі вельмі насцярожана ставілася да тых, каго яна некалі загубіла. Вось чаму кожнае спагадлівае і больш-менш аб'ектыўнае слова пра іх успрымалася дэмакратычнай грамадскасцю з павышанай увагай.

Натуральна, што сваякі Максіма Гарэцкага выхад кнігі сустрэлі з радасцю. Гаўрыла Іванавіч, які вельмі любіў свайго старэйшага брата і быў яго аднадумцам у справах беларускага адраджэння, падзяляў гэтую радасць. Яму я паслаў некалькі экзэмпляраў сваёй працы па просьбе дачкі пісьменніка Галіны Максімаўны, якая шмат дапамагала мне ў стварэнні кнігі. Хутка з падмаскоўнага Дзедаўска, дзе тады жыў Гаўрыла Іванавіч, прыйшоў напісаны вельмі выразным почыркам і, вядома, на беларускай мове ліст (ён мае дату I. VI. 68), у якім гаварылася: «Дарагі Дзмітрый Якаўлевіч!

Найвялікшая Вам падзяка за кнігі пра Максіма, за ласкавы дарункавы надпіс ад 29. V. 68 г.

Кніга Ваша і мне, і маёй жонцы вельмі спадабалася і сваёй пабудоваю, і зместам, і настраёвасцю.

Гэта — лепшае, што было напісана пра Максіма за ўвесь час... Вы глыбока зразумелі Максіма і гэта разуменне добра паказалі чытачу.

З хваляваннем і радасцю чыталі мы Вашу кнігу. Укланяемся Вам нізка, да самай зямлі, за Вашу смеласць, за аднаўленне праўды». Праз пяць гадоў

Гаўрыла Іванавіч паўтарыў: «Перачытваю Вашу кнігу пра Максіма — як добра і смела Вы яе напісалі, дзякуй Вам яшчэ раз».

Атрымаць столькі пахвалы ад акадэміка, які здабыў сусветнае прызнанне як вучоны ў галіне геалогіі і добра разбіраўся ў літаратуры, сам час ад часу пісаў талковыя артыкулы гуманітарнага профілю, было, канечне ж, прыемна. Але я выразна ўсведамляў (падкрэсліў гэта ў прадмове), што мая кніга толькі пачатак вялікай працы па ўзнаўленні сапраўднага вобліку выдатнага мастака. Далікатна сказаў пра тое і Гаўрыла Іванавіч такой фразай: «Вы пабудавалі моцную прыступку да поўнай рэабілітацыі і прызнання месца Максіма ў беларускай культуры... Спадзяюся, дарагі Дзмітрый Якаўлевіч, што з часам Вы створыце акадэмічную манаграфію пра Максіма. Як гэта было б добра!» Гэтае спадзяванне я, аднак, не апраўдаў, хаця да творчасці Максіма Гарэцкага звяртаўся яшчэ шмат разоў.

Былі ў першым лісце Гаўрылы Іванавіча і зноў жа вельмі далікатна зробленыя заўвагі. Адна з іх прынцыпова важная, але аформлена толькі як пытанне: «Ці варта акцэнтаваць маштабнасць творчасці Якуба Коласа і Максіма?» Такім шляхам ставіліся пад сумненне наступныя радкі з маёй кнігі: «Колас як мастак, вядома ж, значна больш шматгранны, чым Гарэцкі. Але пісьменніцкае дараванне, уласцівае Гарэцкаму, было блізкім да асобных граняў магутнага коласаўскага таленту, сугучным яму.

Зрэшты, ні бясспрэчная рознамаштабнасць талентаў, ні тое, што Колас быў значна старэйшы па ўзросту, не перашкаджала пісьменнікам захоўваць вельмі прыязныя, сяброўскія адносіны паміж сабой».

Вядома, я пагадзіўся з цалкам слушным меркаваннем Гаўрылы Іванавіча і ў наступных публікацыях падкрэсліваў «маштабнасць творчай асобы Гарэцкага, рознабаковасць яго таленту» (цытую артыкул «Самаадданае служэнне Бацькаўшчыне»), бадай, не меншую, чым у Якуба Коласа. Бо хаця Гарэцкі, у адрозненне ад народнага паэта, не пісаў вершаваных твораў, але, як і ён, свабодна адчуваў сябе ва ўсіх празаічных жанрах, а таксама сказаў сваё вельмі арыгінальнае слова ў драматургіі, а яшчэ быў выдатным прафесійным даследчыкам літаратуры, мовы і фальклору, яўна пераўзыходзячы ў гэтых адносінах Коласа.

Ды ў кнізе, якая стваралася ў 1967 годзе, а выйшла ў наступным, я не заастраў на гэтым увагу, бо тады ўжо само збліжэнне Коласа і Гарэцкага, няхай і з некаторымі агаворкамі, гучала як пэўны выклік.

Тая кніга ўвогуле была палемічнай па сваім пафасе. Яна скіроўвалася супраць ацэнкі Максіма Гарэцкага як нейкага другараднага пісьменніка. І гэта рабілася пасля ягонай афіцыйнай рэабілітацыі. «Шмат якія творы М. Гарэцкага для нашага часу гучаць ужо анахранічна. Яны не могуць задаволіць

сучаснага чытача ні сваім зместам, ні эстэтычнымі якасцямі». Так пісаў А. Семяновіч у сваёй кнізе «З пражытага і перажытага» (Мінск, 2000).

На такім фоне я і збліжаў Гарэцкага не толькі з Коласам, але (ужо без агаворак) і з Купалам, і з Багдановічам — нашымі прызнанымі і ў тыя часы класікамі. Але прама назваць класікам і Максіма Гарэцкага я не рашыўся. Былі ў маёй кнізе і некаторыя іншыя вымушаныя ўступкі часу, ад якіх я адмовіўся ў пазнейшых публікацыях. Класікам жа ўпершыню ўпэўнена назваў Максіма Гарэцкага Алесь Адамовіч у сваёй выдатнай манаграфіі «Браму скарбаў сваіх адчыняю...», напісанай ужо ў 1970-я гады. Вельмі глыбокі аналіз творчасці Гарэцкага, зроблены тут Адамовічам, цалкам скіраваны на доказ гэтай думкі.

Ды вярнуся да Гаўрылы Іванавіча. Непасрэднае знаёмства з ім адбылося таксама ў 1968 годзе, відаць, у сакавіку месяцы, гэта значыць, яшчэ да выхаду кнігі. Тады Саюз пісьменнікаў Беларусі нарэшце наладзіў вечар, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. З дакладам на тым вечары меўся выступаць Алесь Адамовіч. Але ў яго здарылася нейкая тэрміновая паездка. А таму даклад даручылі мне. Рабілася гэта пасля таго ўжо, як былі разасланы запрашальныя білеты, у якіх пазначаны дакладчыкам менавіта Адамовіч. На вечар з Дзедаўска спецыяльна прыехаў Гаўрыла Іванавіч, здаецца, з сынам Радзімам, цяперашнім славутым вучоным і гарачым змагаром за беларускае адраджэнне.

Даклад акадэміку прыйшоўся даспадобы. Ён гаварыў пра гэта і мне, і Уладзіміру Дубоўку, з якім даўно сябраваў. Так, у лісце да У. Дубоўкі (цяпер захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі, ф. 14) Гаўрыла Іванавіч паведамляў, што на вечар з нагоды 75-годдзя Максіма Гарэцкага было разаслана 600 запрашальных білетаў. Але людзей прыйшло малавата — 60—70 чалавек.

На самой справе па нашых мерках гэта была даволі салідная аўдыторыя, калі мець на ўвазе, што вечар наладжваўся ў гонар пісьменніка, творчасць і само імя якога выкрэсліваліся з людской памяці шмат гадоў.

Далей ідзе больш усцешлівае прызнанне: «Але вельмі, вельмі нам спадабаліся прамовы Янкі Брыля, Язэпа Семяжона, Ю. Гаўрука і асабліва даклад Д. Я. Бугаёва».

Калі ўжо закрануўся матыў сяброўства Г. Гарэцкага з У. Дубоўкам, дык, мабыць, нялішнім будзе сказаць, што Гаўрыла Іванавіч, як паказваюць матэрыялы з таго ж аддзела рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі, вельмі ўважліва чытаў Дубоўку, выказваў і заўвагі, як правіла, зусім слушныя.

Пра Дубоўкаву аповесць «Жоўтая акацыя» ён напісаў яе аўтару: «Цікавая, арыгінальная кніга, у якой няма падабенства ні з якой папярэдняй.

Кнігу Тваю з удзячнасцю будуць чытаць не толькі юнакі і юначкі, але і дарослыя, асабліва настаўнікі, для якіх кніга Твая будзе настольнай.

Выхаваўчае значэнне Тваёй кнігі бязмежнае — яна прышчэпіць моладзі палкае замілаванне да Радзімы, да прыроды яе і людзей, да жыцця, да раслін, узгадуе тысячы прыродалюбаў і прыродазнаўцаў, будучых батанікаў і аграномаў, лесаводаў і садаводаў.

Ты праклаў векавы мост да людскіх сэрцаў і розуму. Хвала Табе, браце!»

Гэта пісалася ў лісце ад 18 жніўня 1967 года, пісалася патрыётам, чалавекам, які сам бязмежна любіў родную Беларусь, яе людзей і прыроду, якую ён глыбока вывучаў з маладых гадоў, ведаў яе незаменную каштоўнасць для чалавека і хацеў, каб той не губіў сваім варварствам, а, наадварот, павялічваў красу Бацькаўшчыны.

Прачытаўшы аповесць «Ганна Алелька», Гаўрыла Іванавіч паведаміў: «“Ганна Алелька” мне спадабалася. Чаруе хараство мовы, дынамічнасць, яснасць, прастата апавядання. Здаецца часам, нібы чуеш апавяданні Пушкіна, Бакачыа.

Вершаваныя ўстаўкі кранаюць сэрца, выгукаюць слёзы, надаюць апавяданню сапраўдную паэтычнасць.

Аповесць чытаецца з цікавасцю... Веды аўтара бязмежныя, культура — найтанчэйшая, веданне жыцця, асабліва настаўніцкага, глыбокае... Толькі ці не занадта станоўчая яна [Ганна] гераіня? Ці не надта лёгка пераадольвае яна жыццёвыя перашкоды?»

Учэпістае вока вучонага заўважыла карэнны недахоп Дубоўкавай гераіні, персанажа загалоўнага, цэнтральнага ў творы, аднак даволі ўмоўнага. Але зноў з якою далікатнасцю выказаны папрок!

Набытая ў шматгадовай навуковай працы прафесійная звычка гаварыць пра ўсё вельмі дакладна і ўзважана адчуваецца і ва ўсіх змястоўных, багатых на фактычныя звесткі і глыбокія высновы публікацыях Г. Гарэцкага, прысвечаных брату-пісьменніку («Успаміны пра брата», «Некалькі малюнкаў з дзіцячага і юнацкага жыцця Максіма Гарэцкага», «Сацыяльны аптымізм Максіма Гарэцкага»), і ў ягоных успамінах пра Купалу («Вобраз Янкі Купалы ў маім успрыманні»), Коласа («Такім яго помню»), Дубоўку («Некалькі сустрэч з Уладзімірам Дубоўкам»), і ў такіх даследчых артыкулах, як «Горкі і беларускі фальклор» ды іншыя.

І толькі ў пахвале тым, хто сказаў хоць і не вельмі важкае, але прыязнае слова пра Максіма Гарэцкага, Гаўрыла Іванавіч асабліва не клапаціўся пра дакладнасць меры. Тут ён часта бываў залішне шчодрым, дапускаў яўныя, вядома, знарочыстыя перабольшанні. Я, напрыклад, быў нямала здзіўлены, атрымаўшы ад яго ліст, другі па ліку (а ўсяго іх у мяне набраўся цэлы дзя-

сятак плюс адна віншавальная тэлеграма), у якім выказвалася падзяка за прадмову да палымянскай публікацыі твораў М. Гарэцкага, зробленай у 1968 годзе (№ 8).

Рыхтавалі тую публікацыю мы разам з Барысам Сачанкам. Прадмова ж была невялікая, называлася яна сціпла («Некалькі слоў пра малавядомыя творы Максіма Гарэцкага») і на многае не прэтэндавала. Але Гаўрыла Іванавіч дзякаваў і за яе. Вось што ён напісаў у тым лісце, зноў жа з Дзедаўска, датаваным 18. VIII. 68: «Дарагі Дзмітрый Якаўлевіч!

Сёння прыйшоў да нас № 8 «Полымя». Адразу ж прачытаў Вашу прадмову і ўсё Максімава. Вашу прадмову прачытаў голасна сын Усяслаў у часе абеду ўсёй сям'і.

Усе родныя Максіма бязмежна рады і ўдзячны Вам. Мне здаецца, што я толькі што пагаманіў з Максімам — так усё блізка, знаёма да дэталяў у «Меланхоліі».

А цяжка хворай Леаніле Усцінаўне [жонка пісьменніка, тады, зразумела, ужо даўно ўдава] Ваша прадмова і надрукаванае Максімава будзе сапраўдным бальзамам, як і для Галіны Максімаўны».

У тым жа 1968 годзе Гаўрыла Іванавіч пераехаў у Мінск, дзе прайшлі яго апошнія дваццаць гадоў, якія Радзім Гарэцкі характарызуе як «самыя светлыя, спакойныя і плённыя» ў багатым на крутыя павароты бацькавым жыцці.

Працаваў ён цяпер у АН БССР, у Інстытуце геахіміі і геафізікі, да якога я не меў ніякага дачынення. Сустракацца з Гаўрылам Іванавічам даводзілася нярэдка, бо ён часта прыходзіў у Саюз пісьменнікаў на літаратурныя вечары, наведваў калі не ўсе, дык многія тагачасныя тэатральныя прэм'еры і некаторыя радавыя спектаклі, увогуле, цікавіўся ўсім, што адбывалася ў культуры. Я ў тыя гады таксама бегаў на розныя мерапрыемствы, і калі бачыў Гаўрылу Іванавіча, дык заўсёды падыходзіў да яго выказаць сваю пашану. Размова звычайна адбывалася на хаду, але была шчырай і прыязнай. Абменьваліся думкамі, уражаннямі. Сяброўствам у дакладным сэнсе слова такія адносіны назваць нельга. Але прыхільнасць і непаказная ўвага з боку Гаўрылы Іванавіча адчуваліся нязменна.

Пільнай патрэбы ў перапісцы цяпер не было. Але часам прыходзілі ад яго і лісты, зноў жа з падзякай. Так, ужо ў 1973 годзе ён 4 красавіка напісаў: «Шчыра дзякую Вам за Вашу добразычлівую, змястоўную прамову пра Максіма на вечары ў клубе СП БССР.

Наш Кірылка [унук Гаўрылы Іванавіча] запісаў Вашу прамову на магнітафонную стужку, якую мы перасlалі нашым родным у Ленінград. Леаніла Усцінаўна і Галіна Максімаўна праслухалі па запісу Вашу прамову — ім спадабалася, яны шлюць Вам сваю сардэчную падзяку».

Цытую ліст з намерам падкрэсліць, як клапаціўся Гаўрыла Іванавіч, каб захавалася для будучыні ўсё, што датычылася сапраўднай, а не фармальна-адчэпнай толькі рэабілітацыі Максіма Гарэцкага.

Гэты ж клопат асабліва выразна выявіўся ў вельмі настойлівых захадах, якія рабіў Г. Гарэцкі для перавыдання твораў брата. Справа тут таксама ішла нялёгка, хаця была энергічная падтрымка тагачаснага кіраўніцтва нашага Саюза пісьменнікаў.

У канчатковым выніку турботы завяршыліся паспяхова: у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1973 годзе выйшаў двухтомнік Максіма Гарэцкага агульным памерам звыш пяцідзесяці друкаваных аркушаў — першае прыстойнае выданне твораў выдатнага мастака пасля фізічнага знішчэння яго самога. Але пакуль кнігі пабачылі свет, давялося пахваляявацца нямала.

За падрыхтоўку гэтага выдання, прымеркаванага да 80-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, я ўзяўся па даручэнні Саюза пісьменнікаў. Складальніцкая праца для мяне была ў навізну, бракавала і часу. Але адмовіцца ніяк не выпадала — з-за разумення, як важна, каб творы яшчэ аднаго нашага класіка вярнуліся да чытача.

Пазней, калі ўжо высветлілася, што моцна падціскаюць тэрміны здачы двухтомніка ў выдавецтве, я папрасіў на падмогу ў якасці суаўтараў-складальнікаў Ю. Пшыркова і Б. Сачанку. Выбар тлумачыўся тым, што абодва яны мелі прамое дачыненне да новых публікацый шэрагу твораў пісьменніка. І гэтыя публікацыі цяпер выкарыстоўваліся ў двухтомніку. Так што тут была і праява звычайнай чалавечай справядлівасці. Вядома, і Пшыркоў, і Сачанка ахвотна згадзіліся на супрацоўніцтва і сваю частку працы зрабілі вельмі аператыўна.

Але «прабіваць» выданне на той стадыі, калі яшчэ не ішла гаворка пра падрыхтоўку твораў да набору, давялося часткова мне, а галоўным чынам Гаўрылу Іванавічу. Зразумела, ён меў і афіцыйныя паўнамоцтвы, бо, як і я, Ю. Пшыркоў, Б. Сачанка і Леаніла Усцінаўна, уваходзіў у склад камісіі па літаратурнай спадчыне Максіма Гарэцкага, але ўсё рабіў зусім не фармальна. Для яго гэта была найважнейшая жыццёвая і, калі не баяцца гучных слоў, кроўная справа, безумоўна, неабходная для нашай культуры і самой будучыні Беларусі. Бо ён выдатна ўсведамляў, што нацыя, якая не можа належна ўшанаваць і нават замоўчвае сваіх творцаў такога маштабу, як Максім Гарэцкі, будучыні не мае.

З падрыхтоўкай і выданнем двухтомніка звязана палова ўсіх лістоў Гаўрылы Іванавіча, якія захаваліся ў мяне. Яны прысвечаны практычным пытанням той падрыхтоўкі і з'яўляюцца дакументальным пацвярджэннем самага актыўнага ўдзелу ў ёй акадэміка, па-ранейшаму вельмі шчодрага на

пахвалу адрасату. Каб не паўтарыцца, я не буду іх цытаваць, а толькі прыгадаю некаторыя эпізоды нашага змагання за тое, каб двухтомнік выйшаў у прыстойным выглядзе.

Пагроза падсцерагала ўжо ў самым пачатку. І набыла яна выгляд прапановы выдаць замест двухтомніка адну кнігу памерам у 40 аркушаў. Мы горача, са спасылкай, якія творы трэба абавязкова перавыдаць, даводзілі, што гэтага недастаткова.

Вырашальная гутарка была ў Р. В. Канавалава, які тады ўзначальваў Дзяржаўны камітэт па друку. Пра гэтага чалавека ў пісьменніцкім асяроддзі хадзіла пагалоска, што ён занудлівы і надта ж афіцыёзны чыноўнік, ад якога нічога добрага чакаць нельга. Ягоныя выступленні, якія мне здаралася чуць у Саюзе пісьменнікаў, сапраўды былі афіцыёзнымі і ўражанне пакідалі, мякка кажучы, нялепшае. Але пры сустрэчах у сувязі з выданнем твораў Максіма Гарэцкага ні знарочыстай афіцыёзнасці, ні яўнай занудлівасці Канавалаў не праяўляў. Было хутчэй наадварот. Нас ён прымаў карэктна-ветліва, без чыноўніцкай фанабэрыі, уважліва выслухоўваў аргументы, а да Гаўрылы Іванавіча і ўвогуле ставіўся з падкрэсленай павагай. Думаю, што яна была шчырай. Ва ўсякім разе, мы без асаблівай цяжкасці пераканалі Канавалава, што Максіму Гарэцкаму трэба «даць» двухтомнік. Выданне меркавалася ў серыі «Выбраныя творы» і большым за два тамы быць не магло. Запрасілі мы аркушаў 65—70. Канавалаў зазначыў, што і сам любіць творы пісьменніка, разумее, што гэта выдатны майстар слова, і на 65 аркушаў даў дазвол. Прычым адразу пазваніў у выдавецтва, каб там планавалі такі памер. Званок быў, здаецца, у «Беларусь», бо размова адбывалася ў пачатку 1972 года, калі новае выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе выйшаў двухтомнік, не функцыянавала.

Акрыленыя ўдачай, мы з Камітэта па друку накіраваліся да выдаўцоў дамаўляцца пра далейшыя практычныя крокі. Але выдаўцы з ходу паднеслі непрыемны сюрпрыз — адхапілі 10 друкаваных аркушаў з тых, што прызначаліся на творы Максіма Гарэцкага. Аказваецца, там некаму з жывых творцаў якраз столькі не хапала для поўнага задавальнення сваіх амбіцый. Дык не пасаромеліся адбіраць у загубленага пакутніка. Мяне гэта ўразіла страшэнна. Гаўрыла Іванавіч таксама быў трохі збянтэжаны, але палічыў, што не варта падымаць шум, каб не наклікаць горшую бяду.

Ды непрыемнасці на тым не скончыліся. Моцна ціснула цэнзура. З-за яе ніяк нельга было ўключаць у двухтомнік прынцыпова важную для разумення Максіма Гарэцкага аповесць «Дзве душы», п’есу з вострай пастаноўкай нацыянальных праблем «Жалобная камедыя» і шэраг іншых твораў такога плана, не кажучы ўжо пра апавяданне «Ашуканы палітрэдактар» ці горка-

спавядальныя «Скарбы жыцця» — «лебядзіную песню» мастака, якая разам са згаданым апавяданнем упершыню трапіла ў друк толькі ў 1993 годзе.

Зразумела, нічога з гэтага мы і не прапаноўвалі. Але ўсё роўна некалькі аркушаў яшчэ страцілі. Думаецца, страты маглі б быць і значна большымі, калі б нам не так пашанцавала з выдавецкім рэдактарам. Ім быў Алесь Бачыла, які шмат змагаўся з цэнзарамі. Аднак і ён не ўсё мог адстаяць.

Ужо ў карэктуры знялі апавяданне «Рунь», загалоўнае ў першай кнізе пісьменніка (а мы ж па прапанове Гаўрылы Іванавіча давалі творы не ў храналагічнай паслядоўнасці, а па кнігах і цыклах). Тады ж «зарэзалі» ўсё, што я выбраў для двухтомніка з «Камароўскай хронікі». Афіцыйна сказалі, што даваць кавалкі з канчаткова не апрацаванага твора нядобра. А на самой справе цэнзары зачапіліся за трагічную гісторыю Марынкі з гэтага твора, за якою стаяла рэальная жыццёвая трагедыя Ганны Іванаўны Гарэцкай, цудоўнай дзяўчыны, якая паступіла ў Маскву на вучобу, але ў хуткім часе загінула, едучы на спатканне да Гаўрылы Іванавіча, беспадстаўна арыштаванага гаспадарамі Лубянкі.

У двухтомніку Гаўрыла Іванавіч пазначаны толькі як член рэдкалегіі. А ён рабіў і многае з таго, што ўваходзіла ў абавязкі ўкладальнікаў. Ён узяў на сябе самае клопатнае — падрыхтоўку тых твораў, якія раней публікаваліся толькі на тарашкевіцы. Перадрук па цяперашніх правапісных нормах зрабіла машыністка, але яе знайшоў і аплаціў яе працу са сваіх сродкаў Гаўрыла Іванавіч. Ён жа выпрошваў ва Урадавай і Дзяржаўнай (так званай Ленінцы) бібліятэках адзіныя ў іх экзэмпляры твораў брата, па якіх рабіўся перадрук. Па правілах такія экзэмпляры на вынас, ды яшчэ не на адзін дзень, не выдаюцца. Аднак для Гаўрылы Іванавіча рабілі выключэнне, якога самім укладальнікам дабіцца было б вельмі цяжка.

Вядома, мы збіраліся кампенсаваць грашовыя затраты, на якія пайшоў Гаўрыла Іванавіч, ніякага ганарару за выданне двухтомніка не атрымліваючы. Праца ж укладальнікаў даволі сціпла, але аплочвалася. Ды Гаўрыла Іванавіч ні пра якую кампенсацыю і слухаць не стаў і яшчэ дзякаваў нам за ўдзел у выданні. Мне 13 ліпеня 1973 года падарыў двухтомнік з такім надпісам: «Дарагому Дзмітрыю Якаўлевічу Бугаёву — з бязмежнай удзячнасцю за цёплую ўвагу да жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага, за вельмі добрае ўкладанне гэтага двухтомніка, за шчыры клопат аб яго выдрукаванні».

У мяне наша ўкладальніцкая праца асаблівага захаплення не выклікала. Хоць бы таму, што мы не здолелі ўратаваць ад цэнзараў знятыя імі творы. Праўда, укладальнікаў да цэнзараў увогуле не дапускалі. Тыя размаўлялі толькі з выдавецкім рэдактарам, а для нас яны як быццам зусім не існавалі. Такое было фарысейства. Маўляў, калі нешта і здымаецца, дык гэта воля самога рэдактара...

А яшчэ бянтэжыла, што ў двухтомніку праскочыла, як мне здавалася, мнагавата друкарскіх памылак. А гэта ўжо недагляд і ўкладальнікаў, а не толькі карэктараў.

Гаўрыла Іванавіч мае бедаванні ў гэтай сувязі не падзяляў і ў лісце, прысланым ужо ў лістападзе 1973 года, напісаў: «Памылкі друку ў двухтомніку Максіма не змяншаюць вялікай каштоўнасці гэтага выдання. Яшчэ раз найвялікшая Вам падзяка за Вашу плённую працу над складаннем двухтомніка, таленавітай прадмовы да яго, за ўвесь Ваш клопат, за выключную ўвагу і разуменне творчасці М. Гарэцкага. Усе родныя Максіма далучаюцца да гэтай падзякі». Словам, суцешыць ён умеў, як рэдка хто.

Пасля выхаду двухтомніка дзелавых стасункаў з Гаўрылам Іванавічам я больш не меў. Але нейкі час яшчэ быў абмен віншавальнымі пасланнямі. Адзін эпізод гэтага абмену мне здаецца вартым увагі. 9 студзеня 1979 года я даў наступную тэлеграму: «Дарагі Гаўрыла Іванавіч! Горача віншую Вас з высокай урадавай узнагародай [тады ён атрымаў ордэн Кастрычніцкай рэвалюцыі]. Перадайце таксама мае віншаванні Вашаму сыну [гутарка ідзе пра Радзіма Гаўрылавіча] у сувязі з прысуджэннем яму Дзяржаўнай прэміі БССР. Нарэшце магутны сваёй рознабаковай таленавітасцю род Гарэцкіх атрымлівае належнае прызнанне. Няхай і надалей слава гэтага роду, пачатак якой пакладзены Максімам Гарэцкім, шырока ідзе па свеце, бо гэта слава нашага народа, нашай любай Беларусі».

У адказ пайшла пасланая 10 студзеня вельмі прыгожая паштоўка, укладзеная ў яшчэ прыгажэйшы канверт: «Ваша віншавальная тэлеграма, такая ласкавая, цёплая, выключная, узрушыла сэрцы і душы ўсіх Гарэцкіх, — дзякуем Вам, дзякуем.

Шкадуем вельмі, што не пачуюць Вашых натхнёных слоў ні сам Максім, ні Леаніла Усцінаўна, ні салдат-летуценнік Лёня, ні наша маці.

І яшчэ шкадуем, што кароткае чалавечае жыццё, асабліва тых, каму ўжо недалёка да 80-ці. А так хацелася б, каб пажыць крыху болей, каб здзейсніць хаця ў малой меры Вашы надзеі.

І яшчэ шкадуем, што працяг роду нашага пад пагрозай сцірання па мужчынскай лініі. Вайна забрала трох лепшых хлопцаў нашых [маюцца на ўвазе сын Максіма Гарэцкага Леанід і пляменнікі Віктар і Уладзімір, якія таксама загінулі на вайне, баронячы краіну ад гітлераўцаў]. А жанчын, вартых роду, такіх, як Галя, мала. І гены іх праявіцца не змогуць, бо не маюць яны ўмоў для працягу.

Дык няхай жа Вашы словы будуць каталізатарамі творчасці на рэштку дзён, бо яны абуджаюць надзею.

І жывяць нязгасную веру ў вялікую будучыню беларускага прыгожага пісьменства, носьбіта і стваральніка неўміручасці нашага народа і яго культуры».

З гэтай верай у неўміручасць беларускага народа Гаўрыла Іванавіч жыў заўсёды. Яна дапамагала яму выстаяць у многіх неспрыяльных, здавалася, невыносных абставінах і давала сілы для самаадданай працы на працягу ўсяго свядомага жыцця. Інтэлігент найвышэйшай пробы, надзелены вялікім талентам вельмі глыбокага даследчыка, а яшчэ талентам сардэчнай дабрыні і высакародства, ён паказаў, як многа можа чалавек, калі не растрачвае свой патэнцыял на дробязную побытавую мітусню ды карыслівае прыстасавальніцтва, а настойліва ідзе да мэты, часта насуперак самым нечаканым і проста жахлівым перашкодам, якіх так шмат выпадала на долю ўсіх нашых выдатных адраджэнцаў. І пакуль беларуская зямля здольная нараджаць такіх выдатных людзей, як Гаўрыла Іванавіч, у нас застаецца надзея на выжыванне ў сучасным няўмольна жорсткім свеце, які выпрабоўвае беларусаў на трываласць, можа, як ні адну іншую нацыю.

*1999 г.*





# ПАТЭНЦЫЯЛ БЕЛАРУСА
## (род Гарэцкіх у нашай гісторыі)

Радзім Гарэцкі. Ахвярую сваім «я»... (Мінск, «Беларуская навука»,1998). Радзім Гарэцкі. Шляхам адраджэння (Мінск, «Беларускі кнігазбор», 1997). Акадэмік Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі. Бібліяграфія. Складальнікі: Р. Я. Айзберг, А. М. Каўхута (Мінск, Інстытут геалагічных навук НАН Беларусі, 1998).

Тры кнігі... Яны ў сукупнасці даюць выразнае ўяўленне пра трох самых выдатных прадстаўнікоў роду Гарэцкіх і разам з тым яскрава сведчаць пра вялікі творчы патэнцыял беларусаў і пра тое, як заўзята ворагі беларушчыны глушылі гэты патэнцыял, ствараючы шматлікія, часта жахлівыя, перашкоды для яго ажыццяўлення.

Пачну з першай кнігі. Яна мае падзагаловак «Максім і Гаўрыла Гарэцкія». Расказвае пра іх Гаўрылаў сын, Максімаў пляменнік. Расказвае талкова, узважана, як і належыць вучонаму, з навуковай дакладнасцю, якая забяспечваецца апорай на шматлікія дакументы і добрасумленныя сведчанні многіх людзей. Аўтарскі тэкст кнігі, якому папярэднічае змястоўная прадмова М. Мушынскага, адкрываецца раздзелам «Радавод Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх». Тут ідуць згадкі пра даследчыкаў, якія вывучалі жыццё і творчасць славутых братоў, а сам радавод заглыблены ў гісторыю на цэлае стагоддзе (дзевятнаццатае). І даведзены ён да сучаснасці. Такім чынам, асветлена «роднае карэнне» нашых слынных дзеячаў, паказаны не толькі ўсе іх вядомыя продкі, зразумела, за асаблівым вылучэннем бацькоў, але і нашчадкі, людзі не проста добрыя, працавітыя і шчырыя, але часта і неардынарныя. Як Максімаў сын Леанід, які ў няпоўныя 22 гады загінуў на фронце, бароначы ад гітлераўскага нашэсця краіну, якая люта расправілася з ягоным бацькам, абʼявіўшы «ворагам народа» найсумленнейшага чалавека, класіка беларускай літаратуры. Імя Леаніда Гарэцкага цяпер добра вядома дзякуючы шырокай публікацыі ягоных франтавых лістоў. Усім,

хто займаецца гісторыяй нашай літаратуры, знаёма і імя Галіны Гарэцкай, Максімавай дачкі, якая сцвердзіла сябе не толькі як захавальніца бацькавай літаратурнай спадчыны (іншай не было – пісьменніка расстралялі з канфіскацыяй асабіста належнай яму маёмасці), але і як добрая даследчыца, аўтар цікавых успамінаў, у якіх вельмі натуральна гучыць жывое беларускае слова.

Плённа працуюць на навуковай ніве абодва Гаўрылавы сыны. Пра ўнікальныя дасягненні ў навуцы малодшага (Радзіма) скажу пазней. А што да старэйшага, Усяслава, дык ён «прафесар, доктар педагагічных навук, галоўны рэдактар часопіса «Начальная школа», аўтар шматлікіх буквароў». Так піша пра брата Радзім, дадаючы, што той жыве ў Маскве. З беларускімі справамі ён непасрэдна не звязаны, у сваёй творчай дзейнасці абмяжоўваецца праблемамі рускай культуры. Так жыццёвыя абставіны прадыктавалі сваю волю.

Вельмі змястоўным атрымаўся раздзел «Максім Гарэцкі: карані жыццястойкасці». Тут звяртаюць на сябе ўвагу трапныя характарыстыкі асобы пісьменніка, у якога вылучаюцца «мэтанакіраванасць, цвёрдасць рашэнняў, самадысцыплінаванасць, найвялікшая патрабавальнасць да сябе». Зусім слушны галоўны вывад: «М. Гарэцкага ўсё жыццё падтрымлівала бязмежная любоў да сваёй Бацькаўшчыны. Сваім жыццём ён падцвердзіў словы: «... ахвярую сваім “я” ва йимя святога ўсім нам Адраджэння». Гэтая выснова добра выяўляе пафас усёй кнігі і таму заканамерна стала (у падкарочаным выглядзе) яе загалоўкам.

Як змястоўныя навуковыя артыкулы чытаюцца раздзелы «Максім Гарэцкі ў Горках» і «Лёс пісьменніка – лёс пакалення». Апошні з гэтых раздзелаў завершаны сцісла пададзенымі звесткамі пра два савецкіх арышты Максіма Іванавіча і ягоны расстрэл у 1938 годзе. Больш падрабязна расказана пра тыя арышты і расстрэл у раздзелах «№ 39: Прыцягнуць да адказнасці» і «Справа Максіма Гарэцкага». Яны напісаны па архіўных матэрыялах і ўражваюць сваёй дакументальнасцю, канкрэтыкай, доказнасцю кожнага аўтарскага слова.

Публікацыя гэтых матэрыялаў уяўляецца асабліва каштоўнай яшчэ і таму, што доступ да апошняй справы Максіма Гарэцкага, заведзенай на яго ў 1937 годзе, быў дазволены толькі Радзіму Гарэцкаму як блізкаму сваяку пісьменніка. Усе іншыя даследчыкі такой магчымасці не мелі і пры нашых парадках невядома, ці будуць калі мець. Натуральна, што Радзім Гаўрылавіч падаў тыя матэрыялы з максімальнай паўнатой. Пад ягоным пяром дакументы загаварылі на ўвесь голас. І сёння проста жахае бязглуздасць і знарочыстая дэмагагічнасць сфабрыкаваных абвінавачанняў, у выніку якіх быў

знішчаны выдатны пісьменнік. А гэта ў свой час была распаўсюджаная практыка, цана якой — мільёны загубленых жыццяў. Канвеер смерці працаваў з д'ябальскім размахам. Людзей у 1930-я гады знішчалі без суда і сапраўднага следства, па рашэннях так званых «троек», якія выносілі прысуды з маланкавай хуткасцю. У кнізе прыводзяцца звесткі, што адна з такіх «троек» 25 студзеня 1938 года разгледзела ажно 406 спраў, па якіх былі абвінавачаны 923 чалавекі, з іх 587 прысуджаны да расстрэлу. Так дзейнічалі ў Смаленскай вобласці, дзе быў вынесены смяротны прысуд і Максіму Гарэцкаму. Групу з 40 зняволеных, у якой наш пісьменнік ішоў трыццатым, расстралялі і паспелі пахаваць за 15 хвілін. «Вось так па-ўдарнаму працавала "самая передовая и справедливая в мире" сталінская судовая сістэма па генацыду ўласнага народа», — з сарказмам зазначае Радзім Гарэцкі, даючы ўрэшце волю ўласным пачуццям, свайму чалавечаму хваляванню, якое ў яго звычайна стрымліваецца — каб больш гаварылі самі факты, дакументы, гучала іх неабвержнае слова.

Пра размах рэпрэсій, іх масавасць у 1930-я гады вельмі дасведчана гаворыць і прафесійны работнік расійскай службы контрразведкі М. М. Ількевіч, які зацікавіўся лёсам М. Гарэцкага і адшукаў некаторыя раней невядомыя матэрыялы пра яго, цяпер з удзячнасцю ўлічаныя ў кнізе. «Указанні аб правядзенні масавых аперацый і арыштаў, — сведчыць Ількевіч, — паступалі на месцы з НКУС СССР з сярэдзіны лета 1937 года. З кастрычніка 1937 года Масква стала даваць больш жорсткія і катэгарычныя патрабаванні аб павелічэнні колькасці арыштаў і разгляду крымінальных спраў на месцах. Упраўленні НКУС па абласцях (краях), у сваю чаргу, спускалі ў гарадскія і раённыя аддзелы НКУС кантрольныя лічбы з указаннем мінімуму арыштаваных і разгледжаных крымінальных спраў. Было дазволена не абмяжоўвацца ўзроставым і нацыянальным складам арыштаваных. Паміж перыферыйнымі аддзеламі ў абласцях і ўпраўленнямі НКУС БССР разгарнулася спаборніцтва за максімальную колькасць арыштаваных і расследаваных спраў. Такое становішча прывяло да таго, што аператыўныя супрацоўнікі, якія ахвотна фальсіфікавалі крымінальныя справы, былі ў аўтарытэце ў кіраўніцтва, прасоўваліся па службе, заахвочваліся грашыма, атрымлівалі дзяржаўныя і ведамасныя ўзнагароджанні, падарункі... І, наадварот, хто з супрацоўнікаў супраціўляўся гэтаму — знаходзіўся ў апале, пад пастаяннай пагрозай арышту».

У такой атмасферы сумленнаму чалавеку, калі ён да таго ж быў яшчэ і прыхільнікам беларускага адраджэння, уцалець было вельмі цяжка, амаль немагчыма. Вось чаму драматычныя павароты, якія лёгка маглі прывесці да поўнай трагедыі, так часта спасцігалі і Гаўрылу Гарэцкага. Яму прысвечана большая частка кнігі. Тлумачэнне гэтаму простае: пра бацьку, жыццё якога

ведаеш да драбніц, пісаць можна бясконца, асабліва калі ён прайшоў праз столькі выпрабаванняў, як Гаўрыла Іванавіч. Савецкая ўлада арыштоўвала яго ажно пяць разоў, двойчы прысуджала да расстрэлу, які адмяняўся толькі ў выніку, можна лічыць, неверагоднага збегу абставін. Ужо адно тое, што першы расстрэльны прысуд быў заменены на 10 гадоў канцлагера самім Сталіным, які адгукнуўся на просьбу Чарвякова і Галадзеда захаваць маладому вучонаму жыццё, выглядае як найвялікшы цуд, бо на паслабленне кары згадзіўся жахлівы тыран.

Так завяршыўся для Гаўрылы Гарэцкага арышт 1930 года. І да нечаканага зняволення поўны светлых надзей, бадзёрасці і сіл навуковец, адзін з заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук (яго пазбавяць акадэмічнага звання разам з В. Ластоўскім, У. Пічэтам, Я. Лёсікам, С. Некрашэвічам), паехаў на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Не ў якасці выдатнага арганізатара буйнамаштабных спраў, а як вельмі небяспечны зэк, якому на тым будаўніцтве належала прайсці суровую школу сацыяльнага перавыхавання. Гэтак тады называўся грубы здзек над сумленнымі людзьмі.

Пачынаць даводзілася ўсё спачатку. Гаўрыла Іванавіч мусіў авалодаць зусім новай для сябе спецыяльнасцю геолага, па якой ён таксама з цягам часу стаў акадэмікам (да арышту 1930 года ўзначальваў вялікі Інстытут лясной і сельскай гаспадаркі, у акадэмікі выбіраўся па эканамічнай геаграфіі). Пра ўсё гэта ў кнізе сказана зноў жа коратка, з той сціслацю, калі факт, падзея толькі засведчаны, але колькі-небудзь падрабязна не каменціруюцца. Галоўная ж увага звернута менавіта на арышт 1930 года і трохі менш драматычнае зняволенне ў 1922 годзе. Атрымалася змястоўная дакументальная аповесць пераважна пра гэтыя арышты, напісаная, як і многае пра Максіма Гарэцкага, па матэрыялах пра бацьку з закрытага кадэбісцкага архіва. Да іх Радзіма Гарэцкага, як і да справы Максіма Іванавіча, дапусцілі толькі ў парадку выключэння, якое цяпер было дазволена сыну пакутніка. Таму пратаколы допытаў бацькі, яго паказанні, заявы, сведчанні іншых асоб, прынамсі пра зняволенага ў 1930 годзе акадэміка, падаюцца ў кнізе надзвычай шчодра, амаль без скарачэнняў.

Аўтара і тут можна зразумець. Яму важна было апублікаваць тое, што дзесяцігоддзямі ляжала ў наглуха замураваных архіўных сховішчах. А яно высвечвае сапраўдны воблік выдатнага вучонага і мужнага чалавека, які застаўся непахісным і перад пагрозай, здавалася, ужо тады няўхільнай смерці.

Карацей кажучы, каштоўнасць гэтых матэрыялаў як дакументальнага сведчання несумненная. Але з пункту гледжання чытацкага ўспрыняцця аповесці бачыцца і пэўная празмернасць у іх падачы. Бо суцэльны архіўны тэкст, у якім з самымі дробнымі дэталямі абмяркоўваюцца спецыяльныя на-

вуковыя праблемы на ўзроўні іх разумення ў пачатку 1930-х гадоў, займае многія старонкі. І ідзе ён без аўтарскага каментарыя, які быў бы ў шэрагу выпадкаў вельмі дарэчы.

Вядома, для самога Гаўрылы Іванавіча, калі ён сядзеў за турэмнымі кратамі, уся гэтая дэталізацыя была неабходнай і выключна важнай. Праз яе ён змагаўся за сваю праўду і само жыццё. Але ў аповесці, якая адрасуецца не адным спецыялістам у адпаведнай галіне навукі, а разлічана на больш шырокае кола людзей, аўтару твора можна было б смялей выяўляць не толькі строга навуковы, але і ўласна пісьменніцкі пачатак, на аснове вельмі аб'ёмных дакументаў ствараючы больш сціслае ўласнае апавяданне, у прыватнасці хоць бы разбіваць суцэльны шматстаронкавы архіўны тэкст гаворкай ад свайго імя. І трэба сказаць, што там, дзе Радзім Гарэцкі ўсё ж адважваецца сам браць слова, яно ў яго гучыць змястоўна і пранікнёна. Вось як ён піша пра пакуты сваёй маці пасля арышту бацькі: «Лару звольнілі з пасады і ўсюды адмаўлялі ў рабоце, як толькі даведваліся, што яна жонка "ворага народа". Многія знаёмыя, нават тыя, якія раней стараліся з імі пасябраваць, зараз не заўважалі ці пазбягалі яе. Іншы раз, убачыўшы яе, пераходзілі на другі бок вуліцы, каб не сустракацца. Баяліся. Знаёмства з сям'ёй "ворага народа" было небяспечна. Заўсёды вельмі добразычлівая, таварыская, Лара балюча перажывала той вакуум, які раптоўна ўтвараўся вакол яе. Адчуванне, што яна нейкая "пракажоная", ад якой шарахаюцца амаль усе знаёмыя, вельмі прыгнятала. Калі раней яна ішла па вуліцы, радасна і весела глядзела вакол сябе, усміхалася людзям, дрэвам, кветкам, дык цяпер баялася падняць вочы, каб не напужаць знаёмага, які выпадкова сустрэўся. Усё здавалася змрочным і сумным. Без працы, без грошай, без падтрымкі многіх былых сяброў. Іншы раз проста не хацелася жыць. Але жыць трэба. Карміць сям'ю, малых дзетак».

Вельмі нават нядрэнная проза. І не толькі дакументальная, але, здаецца, і мастацкая...

А гэта ўжо пра пачуцці бацькі-зэка: «Пакуль даехалі да Віцебска, надвор'е сапсавалася, стала хмарна, пайшоў дождж, задуў халаднаваты вецер. Настрой яшчэ больш пагоршыўся. Высадзілі з вагонаў, пастроілі ў шарэнгі і стаялі так пад дажджом больш дзвюх гадзін: зняволеныя — гэта ўжо не людзі, усё вытрымаюць...

Гаўрыла стаяў зусім прамоклы і думаў: чаму так цяжка народу беларускаму заўсёды было на такой цудоўнай прыгожай зямлі? Чаму беларусы, у якіх такая багатая гісторыя, не могуць пабудаваць самастойную дзяржаву? Чаму беларусы, якія далі свету так многа славутых імён, не могуць адстаяць беларушчыну, а больш служаць то аднаму, то другому суседу? Чаму такі

працавіты, добры і таленавіты народ застаецца зусім абяздоленым? Чаму беларусам, якія так любяць сваю зямлю, часта зусім няўтульна жыць у родным краі, чаму іх тут крыўдзяць і яны ніяк не могуць дасягнуць таго, каб “людзьмі звацца”?»

Гэтыя пачуцці, вельмі істотныя для разумення асобы і жыццёвага лёсу Гаўрылы Гарэцкага, кроўна блізкія і самому аўтару аповесці. Пра тое пераканальна гаворыць, апрача ўсяго іншага, і ягоная кніга «Шляхам адраджэння». Яна, як падкрэслена ў анатацыі, увабрала ў сябе роздум Радзіма Гаўрылавіча «пра нацыянальнае адраджэнне Беларусі, становішча беларускай мовы, развіццё культуры, навукі, адукацыі, успаміны і нарысы пра дзеячаў літаратуры, мастацтва і навукі».

Памер кнігі — каля 12 друкаваных аркушаў. І ўсе яны маюць высокую інфарматыўнасць, характэрную для сапраўднага вучонага. Цікавыя звесткі ўражваюць амаль у кожным артыкуле. З кнігі «Шляхам адраджэння» чытач даведаецца, напрыклад, пра такое: «Беларусы, як тыя камяні, раскіданы па ўсёй зямлі. Па колькасці насельніцтва яны займаюць другое ці трэцяе месца ў многіх краях і абласцях Саюза [былога]: Латвіі, Карэліі, Прыморскім краі, Амурскай, Архангельскай, Калінінградскай, Белгародскай, Калужскай, Курскай, Ленінградскай, Маскоўскай, Мурманскай і іншых. Усіх беларусаў па-за межамі рэспублікі больш за 2 мільёны. Не менш іх і за межамі Саюза. А колькі былых беларусаў ужо не лічаць сябе беларусамі!» У другім месцы падкрэсліваецца: «Цяпер беларусы расселены па ўсіх кантынентах Зямлі... Калі б беларусы натуральна жылі на сваёй этнічнай тэрыторыі ды не разбуральныя войны, у выніку якіх гінулі кожны чацвёрты, трэці, а то і другі чалавек, то цяпер было б 25—30 млн беларусаў».

Натуральнаму жыццю беларусаў, слушна сцвярджаецца ў кнізе, страшэнна пашкодзіў бальшавіцкі таталітарызм: «Бальшавікі пайшлі на самы жорсткі этнацыд і генацыд, разбурылі этнічнае ядро беларускай нацыі шляхам прымусовай індустрыялізацыі, гвалтоўнай калектывізацыі і раскідвання народаў па тэрыторыі велізарнай імперыі, часткова знішчылі беларускую нацыянальную эліту, а рэшту народа падавілі».

Наконт частковага знішчэння нацыянальнай эліты сказана, як мне здаецца, не зусім дакладна. Наша эліта, яе самая актыўная нацыянальна свядомая праслойка была вынішчана капітальна, амаль поўнасцю, прынамсі ў 1930-я гады. Адны пісьменніцкія шэрагі як былі прарэджаны! Вынішчаліся нават тыя пісьменнікі, якія ва ўсім падтрымлівалі ўладу, захоплена, з вялікім энтузіязмам прапагандавалі камуністычныя погляды. А колькі людзей з нацыянальнай эліты апынуліся ў выгнанні! На гэты конт Радзім Гарэцкі піша: «Амаль з кожнага пакалення беларусаў за апошнія два стагоддзі найбольш

ініцыятыўныя, адукаваныя, свядомыя асобы, патрыёты Бацькаўшчыны сталі выгнаннікамі са сваёй зямлі. Гэтыя нашы страты на пакутлівым гістарычным шляху моцна аслабілі генафонд нацыі».

Велізарную шкоду ўсёй беларускай справе прынесла страта сапраўднай дзяржаўнай незалежнасці, свайго нацыянальнага суверэнітэту. Існаванне БССР, створанай бальшавікамі, па сутнасці, вымушана, у процівагу БНР, вядома, неяк падтрымлівала хоць бачнасць нацыянальнага жыцця. Але ж усе прынцыповыя справы вырашаліся тады ў Маскве. І дастаткова было яе дыктатарам кіўнуць пальцам, каб у нас паляцелі тысячы галоў самых свядомых патрыётаў.

Выдатна ведаючы пра ўсё гэта праз лёс самых блізкіх людзей, Радзім Гарэцкі настойліва паўтарае, што нацыянальнае адраджэнне павінна быць комплексным, як ён кажа, інтэгральным і абавязкова ўключаць у сябе аднаўленне нацыянальнага суверэнітэту, стварэнне на справе незалежнай беларускай дзяржавы, якая абараняе ў першую чаргу інтарэсы ўласнага народа, кіруецца нацыянальнай ідэяй: «Мы можам адрадзіцца толькі пры ўмове комплекснага вырашэння ўсіх задач, адраджаючы адначасова дзяржаўнасць, эканоміку, духоўнасць».

Ключавое значэнне для натуральнага развіцця беларускай духоўнасці, справядліва лічыць аўтар кнігі «Шляхам адраджэння», мае бесперашкоднае развіццё роднай мовы беларусаў, актыўная падтрымка яе на дзяржаўным узроўні. «Няма мовы — няма нацыі, няма нацыі — няма дзяржавы». «Тая ўлада, якая не падтрымлівае нацыянальнае пытанне і мову свайго народа, сячэ сук, на якім яна трымаецца», — трапна, набліжаючыся да афарыстычнай выразнасці, піша Гарэцкі.

У ягоным роздуме пра нацыянальнае адраджэнне ёсць нямала горычы, трывогі за беларускую будучыню, бо ён добра бачыць, як хутка асімілююцца беларусы і ў самой рэспубліцы, і на ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза, у так званым блізкім замежжы. Але надзея ўсё ж не пакідае вучонага. «Пакуль агонь беларускай нацыянальнай ідэі будзе гарэць у сэрцах беларусаў, пакуль наш розум будзе імкнуцца здзейсніць мару пра дзяржаўнасць Беларусі, пакуль будзем любіць і шанаваць нашу Бацькаўшчыну, пакуль не пакінем матчыну мову, не здрадзім ёй, не адарвемся, як той Антэй, ад роднай зямелькі нашай, датуль Беларусь будзе непераможнай, датуль будзе жыць беларускі народ», — упэўнена заяўляе Радзім Гарэцкі, выяўляючы перш за ўсё меру ўласнага патрыятызму.

Гаварылася гэта ў 1995 годзе. З тых пор шмат што для нас змянілася ў горшы бок, беларускае адраджэнне сутыкнулася з новымі вялікімі цяжкасцямі, знарок створанымі ўладнымі структурамі, якія цяпер вядуць актыўны на-

ступ на беларушчыну па многіх лініях. Але хочацца спадзявацца, што ўсё ж мы выстаім, што яўнае і трохі прыкрытае, а таму яшчэ больш небяспечнае афіцыйнае супрацьдзеянне подыхам беларускасці ўрэшце выкліча адваротны эфект, пашырыць рады прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння, свядомых барацьбітоў за яго натуральны ход.

Лёс самога Радзіма Гарэцкага пераконвае, што такое магчыма. Здолеў жа ён стаць ва ўсіх адносінах выдатным беларусам у зусім неспрыяльных для гэтага ўмовах. У трохгадовым узросце ён апынуўся за межамі Беларусі і вярнуўся на радзіму толькі праз чатыры дзесяцігоддзі. Прыклад бацькоў? Вядома, ён меў вялікае значэнне, але болш ардынарнага чалавека мог і напалохаць. Радзім Гаўрылавіч не спалохаўся. Вось што кажа ён сам пра тыя цяжкасці, якія пераадолеў на шляху да беларускасці: «Маці і бацька, дзе б яны ні былі, заўсёды размаўлялі паміж сабой па-беларуску. Але бацька быў рэдка з намі: то турма, то вайна, то камандзіроўкі разлучалі нас. Дзядуля і бабуля (па маці) хоць і беларусы, з Беласточчыны, але гаварылі па-руску. А менавіта яны мяне гадавалі, бо я жыў больш з імі». Вучыцца давялося ва ўстановах, з Беларуссю не звязаных. Адных школ ён памяняў ажно 13. І былі яны зноў жа не ў Беларусі, а ў Коле і ў Туломе, Мядзведжай Гары і ў Рыбінску, Запарожжы і ў Салікамску, Чусавым і Чкалаўску ды іншых гарадах і пасёлках. Значыць, вельмі многае залежыць не толькі ад абставін, але і ад самога чалавека, ад яго характару, волі, мужнасці, сумлення, мэтанакіраванасці. Гэтыя рысы збліжаюць, лучаць Радзіма Гарэцкага з ягонымі продкамі, асабліва з дзядзькам Максімам і бацькам, справу якога ён прадаўжае і на адраджэнскай і на навуковай ніве. Як і бацька, ён стаў выдатным спецыялістам, прызнаным вучоным у галіне геалогіі, дасягнуў тут, здаецца, усіх магчымых вышынь. Афіцыйнае прызнанне яго выдатных навуковых дасягненняў — Дзяржаўныя прэміі СССР і БССР, званне акадэміка НАН Беларусі і Расійскай акадэміі навук.

Пра маштаб яго навуковых спраў мовай канкрэтных фактаў і лічбаў гаворыць кніга «Акадэмік Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі» з падзагалоўкам «Бібліяграфія». Памер гэтай кнігі — 90 з лішнім старонак. Праўда, тут не толькі даецца спіс навуковых, навукова-папулярных і літаратурных прац акадэміка, але і прыводзяцца звесткі пра яго жыццёвы шлях, грамадскую і педагагічную дзейнасць. Аднак жа і саміх прац набіраецца больш за 700. Зайздросная прадуктыўнасць!

Словам, аўтарытэт у Радзіма Гарэцкага вялікі і сапраўдны, вядомасць міжнародная, што пацвярджаецца і ягоным выбраннем на пасаду прэзідэнта згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

На гэтым можна было б і закончыць размову пра выдатны род Гарэцкіх, радуючыся, што і сярод беларусаў не звяліся ўнікальныя таленты. Аднак радасць трохі прыглушае адна не вельмі вясёлая акалічнасць. Першая з разгледжаных кніг мае тыраж 1600 экзэмпляраў. Вядома, малавата, але па сённяшніх часах яшчэ сяк-так. Зборнік жа «Шляхам адраджэння» выдадзены ў колькасці ўсяго 250 экзэмпляраў. Проста мізэр! А разлічана выданне, паводле анатацыі, на шырокае кола чытачоў. Трэцяя кніга ўвогуле мае толькі 150 паасобнікаў. Ёсць над чым задумацца энтузіястам беларускага адраджэння.

*1999 г.*





# КНІГА ПРА БРАТОЎ ГАРЭЦКІХ (прадмова да кнігі Р. Гарэцкага «Браты Гарэцкія»)

У гісторыі шэрагу народаў выдатную ролю адыгралі асобныя славутыя роды. Гонарам Беларусі ў ХХ стагоддзі сталі Янка Купала з жонкай Уладзіславай Францаўнай, Якуб Колас са сваім шматлікім атачэннем і, вядома ж, Гарэцкія, род разгалінаваны, які ўпэўнена сягнуў у ХХІ стагоддзе. У яго вельмі моцныя жыццёвыя карані і магутны маральна-этычны патэнцыял. Некаторыя з самых старэйшых Гарэцкіх жылі да 100 і больш (115) гадоў.

У развіццё беларускай культуры і навукі велізарны ўклад унеслі Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Галоўным чынам ім і прысвечана кніга, напісаная Радзімам Гаўрылавічам Гарэцкім.

Аўтар кнігі Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі і сам стаў у пэўным сэнсе не менш знакамітым, чым ягоны дзядзька Максім Іванавіч Гарэцкі, класік беларускай літаратуры і яе даследчык, імя якога стаіць у адным радзе з вялікімі нашымі класікамі Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам. Бацьку ж, Гаўрылу Іванавіча Гарэцкага, вучонага з сусветным імем і выдатнага грамадскага дзеяча, Радзім па колькасці навуковых публікацый і перасягнуў. Выдадзены ў 2003 годзе паказальнік яго друкаваных прац (з дадаткам асноўных дат жыцця і творчасці) мае ажно 110 старонак стандартнага кніжнага фармату.

Не абдзелены Радзім Гарэцкі і навуковымі рэгаліямі ды рознымі пасадамі. Ён — акадэмік Акадэміі навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і Дзяржаўнай прэміі БССР, ганаровы дырэктар рэспубліканскага Інстытута геалагічных навук, член Амерыканскага геалагічнага саюза, прэзідэнт згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Беларускага геалагічнага таварыства, фонду братоў Гарэцкіх. Пяць гадоў (1992—1997) быў віцэ-прэзідэнтам нашай

Акадэміі навук. І на працягу ўсёй сваёй творчай дзейнасці плённа працаваў у гуманітарнай сферы. Яшчэ нямала робіць тут і цяпер, хоць мае статус пенсіянера.

Шмат разоў ён выступаў у абарону беларускай мовы, слушна лічачы, што дзяржаўная падтрымка яе ў нас недастатковая.

Цэлую кнігу Радзім Гарэцкі прысвяціў ключавым праблемам нацыянальнага адраджэння («Шляхам адраджэння», Мінск, 1997). У гэтай кнізе змешчаны і хораша напісаныя артыкулы пра Янку Купалу, Максіма Танка, Янку Брыля, Пімена Панчанку, Івана Мележа, Васіля Быкава і Алеся Адамовіча.

Ужо была ў Радзіма Гаўрылавіча і кніга пра Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх. Пад загалоўкам «Ахвярую сваім "я"...» яна выйшла ў 1989 годзе. Некаторыя звесткі з гэтай кнігі паўтораны і ў цяперашнім выданні. Але і памерам яно значна большае за папярэднюю працу, і некаторыя акцэнты тут узмоцнены.

Галоўны ўпор цяпер зроблены на дакументальную грунтоўнасць размовы з чытачом. Асабліва багатая дакументальная аснастка ў дачыненні да Гаўрылы Гарэцкага. І гэта зразумела, бо ўласнага бацьку аўтар добра памятае яшчэ з малых дзіцячых гадоў, дасканала ведае ўсе перыпетыі ягонага скрутлівага лёсу.

Памяць пра дзядзьку Максіма такой грунтоўнай, з улікам самых малых драбніц, быць не магла. Але і беднай назваць яе нельга, бо ў родзе Гарэцкіх высока шанаваліся ўсе сваякі.

Абсалютная большасць з іх — людзі вельмі яркія, неардынарныя ў многіх адносінах. Гэта і маці Максіма і Гаўрылы Ефрасіння Міхайлаўна (звычайна яе звалі Просяй), і іхні бацька Іван Кузьміч. А яшчэ браты Іван, Парфір, сястра Ганна, самая малодшая ў сям'і. Яна падавала вялікія надзеі. Але лёс дзяўчыны склаўся трагічна: везла перадачу для брата Гаўрылы, які пакутаваў тады ў турме на Лубянцы, і трапіла пад трамвай. У кнізе пра гэтую трагедыю расказана з асаблівай скрухай.

Дачасна абарвалася жыццё не толькі Ганначкі і Максіма, расстралянага бальшавікамі, але і ягонага сына Леаніда. Лёня, як звалі яго дома, у званні малодшага лейтэнанта загінуў 18 лютага 1944 года (тады яму ішоў 22 год) пад Ленінградам, баронячы краіну, якая знішчыла бацьку, ад гітлераўскага нашэсця. Пісьмы гэтага юнака з фронту, апублікаваныя ў сярэдзіне 1970-х гадоў, сталі сапраўднай сенсацыяй, настолькі хораша раскрываўся ў іх высакародны воблік мужнага хлопца. Шырыня творчых інтарэсаў, разважлівасць думкі, любоў да прыроды, беларускі патрыятызм і выключная сумленнасць ва ўсім, выхаваныя бацькам, добра падсвечваюць постаць Максіма Гарэцка-

га і паказваюць, якіх выдатных людзей забірала вайна, хаця з нашага боку яна была і праўда свяшчэннай.

Максімава дачка Галя, якая зрабіла вельмі многа для зберажэння і папулярызацыі бацькавых твораў, пражыла без малога 86 гадоў. Але замужам яна не была і дзяцей не раджала. Таму з яе смерцю лінія Максіма Гарэцкага аказалася абарванай.

Лёс Гаўрылы Гарэцкага ў гэтым сэнсе ў цэлым быў больш шчаслівым, чым у Максіма. Яго нашчадкі, дзякуй Богу, працягваюць жыццёвае шэсце. У старэйшага сына Усяслава, доктара педагагічных навук, прафесара, які жыве ў Маскве і паспяхова працуе на ніве асветы, ёсць дачка і сын, унучка і ўнук. Дачку і ўнука мае і Радзім Гарэцкі. Яны ўсе ў Мінску.

У сям'і Гарэцкіх з асаблівым піетэтам заўсёды ставіліся да Максіма. А Гаўрыла, слушна адзначана ў кнізе, «рабіў усё, што мог, для вяртання спадчыны брата», рабіў шмат, бескарысліва, часам ахвяруючы для гэтага немалыя ўласныя сродкі. І заўсёды радаваўся, калі выходзілі яго творы ці публікацыі пра жыццё і творчасць Максіма. Сябе самога Гаўрыла Іванавіч увекавечыць праз друк пра яго не імкнуўся ніколі.

Кніга пра братоў Гарэцкіх напісана з такімі замілаванасцю і сардэчнасцю, што кожны, хто ўважліва прачытае яе, абавязкова адчуе самаадданасць абодвух братоў у працы дзеля Беларусі, іх чалавечае высакародства, вышыню духоўных памкненняў і вялікую таленавітасць у многіх адносінах.

Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі не стамляўся нагадваць пра тое, што «аснова поспеху — праца, праца арганізаваная, сістэматызаваная, упарадкаваная, мэтаімклівая, але праца творчая, натхнёная, прыгрэтая ласкаю, захапленнем, уздымам».

Сам ён так працаваць умеў. Таму і паспеў вельмі многа зрабіць не толькі ў сваёй спецыяльнай галіне, у звязанай з ёю практычнай дзейнасці ўсюды, куды кідала нялёгкая доля, але і ў гуманітарнай сферы. Ён сябраваў з многімі выдатнымі пісьменнікамі, напрыклад, з Уладзімірам Дубоўкам, які амаль 30 гадоў правёў у зняволенні ды выгнанні, пазбаўлены тады магчымасці займацца літаратурнай працай.

Дарэчы сказаць, што быў Дубоўка сябрам і Максіма Гарэцкага, які выдаў першую кнігу паэта «Строма», высока цаніў яго талент.

Сустрэчы і добрыя стасункі былі ў Гаўрылы Гарэцкага з Янкам Купалам, Якубам Коласам. Тут ён, як і ўвогуле ў жыцці, браў прыклад з Максіма, з якім Колас сябраваў. Дружылі сем'ямі. Іх збліжалі і настаўніцкія клопаты, і пісьменніцкія прыхільнасці, бо Максімава жонка, чароўная прыгажуня Леаніла Усцінаўна Чарняўская, таксама ж была не толькі педагогам, складальніцай школьных падручнікаў, але і вядомай тады дзіцячай пісьменніцай.

Гаўрыла Гарэцкі меў прыязныя адносіны з Кузьмой Чорным, Пятром Глебкам, Алесем Адамовічам. Ён вызначаўся трапнай назіральнасцю і пакінуў пра некаторых выдатных пісьменнікаў унікальныя сведчанні. Вось як ён напісаў пра свае ўражанні ад сустрэчы з Кузьмою Чорным, ужо моцна хворым: «Як ён змяніўся, як састарэў, які ён хворы, прыпухлы. Проста цяжка пазнаць. Але дух яго такі малады, такі моцны, бадзёры, нязломлены. Столькі ў ім жыццярадаснасці, мудрасці, разваг глыбокіх, разумення жыцця. І яшчэ столькі намераў, столькі імпэтлівасці. Я слухаў яго як зачараваны. Вось сапраўды вялікі, святы проста чалавек. Які недасяжны ў яго маральны ўзровень. Самае моцнае ўражанне засталося ў мяне ад пабачэння з Кузьмою».

Гэта май 1943 года. Тады ж была сустрэча з Якубам Коласам і зроблены такі запіс пра паэта: «Ад усёй яго істоты павеяла велізарнай стомленасцю, заклапочаннем, занятасцю. Нібы чалавек не сам сабе гаспадар. Нібы ўвесь час ён на людзях, без асабовага жыцця, увесь час на працы, — дзейнічае, а не жыве... Спаткаў мяне Якуб вельмі ласкава, прыветна. Пагаманілі. Памяняліся адрасамі».

Колас потым хадайнічаў аб вяртанні Гаўрылы Гарэцкага на Беларусь. Але і вялікага народнага паэта ўлады не паслухаліся. Гаўрылу Іванавічу дазволілі жыць і працаваць у Беларусі толькі ў 1968 годзе. А ён жа ў выгнанні шмат гадоў песціў думку «вярнуцца ў горача любімую Беларусь і прыносіць ёй карысць, удзельнічаючы ў геалагічных вышуках». «Шчасцем здаецца даследаванне роднай зямлі», — казаў Гаўрыла Іванавіч. Ён задоўга да адкрыцця адпаведных радовішчаў сцвярджаў, што ў нетрах Беларусі ёсць «нафта, солі, вугаль, жалеза». Гэты дальнабачны прагноз базіраваўся на выдатным веданні геалагічнай структуры роднага краю.

Вялікую цікавасць уяўляюць прадстаўленыя ў кнізе сведчанні пра ўзаемападтрымку Леаніды Усцінаўны Чарняўскай і Ларысы Восіпаўны Парфяновіч — жонак Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх — у тыя страшныя часы, калі іх мужы афіцыйна лічыліся «ворагамі народа». Але і тады ад кінутых у бяду жанчын высакародныя людзі, многім рызыкуючы самі, не адвярнуліся: «Дапамагалі Янка Купала і Уладзіслава Францаўна, Якуб Колас і Марыя Дзмітрыеўна (жонка Якуба Коласа), некаторыя жонкі іншых зняволеных».

Кніга пра братоў Гарэцкіх здольная ўсхваляць чытача самой трагічнасцю лёсу Максіма і драматычнымі паваротамі ў лёсе Гаўрылы, які пражыў 88 гадоў (1900—1988). Жонка пасля яго смерці пражыла нядоўга — толькі няпоўных 6 гадоў. Яна памерла 2 жніўня 1994 года. Вельмі кранальнымі старонкамі пра адыход Гаўрылы Гарэцкага з зямнога жыцця і заканчваецца праца. Але

істотна і тое, што напісана яна чалавекам, які ведае цану не толькі факта, але і слова, якім расказваецца пра рэальную падзею і сапраўдны факт. Зноў толькі адзін прыклад. Прыгадаўшы даўку, якая ўзнікла на пахаванні Сталіна, Радзім Гарэцкі канстатуе: «Загінула 1500 чалавек». А потым дадае: «І мёртвы Сталін працягваў забіваць людзей». За гэтым дадаткам — вялікі сэнс, напамінак пра жахлівасць сталінскіх рэпрэсій. Але забывацца на іх ніяк не выпадае, калі мы не хочам, каб трагедыя паўтаралася зноў.

Вывад: кніга пра братоў Гарэцкіх — з'ява далёка не радавая. Яна з тых павучальных у сваёй багатай змястоўнасці прац, якія трэба чытаць і перачытваць...

*2007 г.*





# СТАРОНКА НЕВЯСЁЛЫХ УСПАМІНАЎ

У вялікім аўтабіяграфічным нарысе «Жыццём ідучы...» («Полымя», 1995, № 11—12) я ўжо прыгадваў сваё выступленне на вучоным савеце філфака БДУ восенню 1967 года з рэзкай крытыкай той занядбанасці роднага слова, якая ўжо тады была відавочнай, хоць афіцыйна сцвярджалася, што ўлады на ўсіх узроўнях дужа клапоцяцца пра развіццё нацыянальных моў у савецкай краіне, у тым ліку мовы беларускай. Але на самой справе яе становішча было незайздросным. Роднае слова не шанавалі і ў БДУ. Бо і тут выкладанне вялося па-руску нават на беларускім аддзяленні філфака, дзе па-беларуску чыталіся толькі курсы роднай мовы і літаратуры.

За тое выступленне мяне шмат лупцавалі. Але на працы я ўтрымаўся дзякуючы энергічнаму заступніцтву філфакаўскіх калег — І. Навуменкі, А. Лойкі, П. Шубы, Ф. Куляшова — і памяркоўнасці тагачаснага рэктара БДУ А. Н. Сеўчанкі, які збіраўся мяне звальняць, а потым вырашыў асабіста пагутарыць з маладым бунтаўніком. Для гутаркі ён прыйшоў на філфак, уважліва выслухаў мае тлумачэнні па ўсіх пунктах абвінавачанняў, якія мне тады прад'яўляліся афіцыёзнымі артадоксамі (часта зусім беспадстаўна, па хлуслівай інфармацыі нядобразычліўцаў), і перамяніў гнеў на міласць: не толькі не звольніў у 1967 годзе, але і пры чарговым перавыбранні па конкурсе падтрымліваў маю кандыдатуру.

Яшчэ адну спробу публічнай абароны роднай мовы я зрабіў ужо ў так званыя перабудовачныя гарбачоўскія часы. Маю на ўвазе сваё выступленне ў Мінскім гаркоме партыі — на пасяджэнні круглага стала, прысвечанага выкладанню беларускай мовы. Адбывалася тое пасяджэнне 11 красавіка 1988 года. Тэкст гэтага выступлення я некалькі разоў спрабаваў прабіць у друк. Было цвёрдае абяцанне даць публікацыю ў «Вячэрнім Мінску». Але і яно аказалася падманным, хаця закранаў я пераважна моўныя праблемы, а на галоўныя асновы бальшавіцкай палітыкі не замахваўся і ўвогуле ў цэлым трымаўся тагачаснага ідэалагічнага рэчышча.

Падаю гэты неапублікаваны, не пушчаны ў друк і пры гарбачоўскай галоснасці тэкст без паправак і скарачэнняў.

Перада мною выступала настаўніца, выкладчыца беларускай мовы, дарэчы, наша выпускніца, і казала, што родная мова ў нас зведзена да становішча замежнай. Гэта не зусім так. На самой справе беларуская мова ў нас у рэспубліцы знаходзіцца ў горшым становішчы, чым замежная. Бо замежная мова ў нашых школах вывучаецца ў абавязковым парадку. Гэта значыць, што ніякія бацькі не могуць вызваліць нядбалую дачку або лянівага сына ад вывучэння замежнай мовы. А вось ад вывучэння беларускай мовы вызваляць можна. Можна самім беларусам, можна тым, хто пастаянна жыве ў Беларусі. Дастаткова толькі захацець, падаць заяву. З гэтага і пачаліся галоўныя беды нашай мовы, тое, што яна стала ўсё больш актыўна выцясняцца з розных сфер ужытку, траціць свой важны грамадскі статус.

Часта даводзіцца чуць, што гэта аб'ектыўны працэс, так склалася гістарычна і г. д. Але ў грамадстве, як і ў жыцці ўвогуле, нічога само сабой не адбываецца, ва ўсякім разе, кажучы коласаўскімі словамі, «на ўсё ёсць прычына». Грамадскія працэсы таксама накіроўваюцца намаганнямі людзей. І калі мы дайшлі да таго катастрафічнага стану, які наша мова мае сёння, дык у гэтым вінаваты людзі, якія адказвалі за ідэалагічныя працэсы, вінаваты ўсе мы, бо рабілася гэта на нашых вачах, пры нашай пасіўнасці, нашай абыякавасці, нашай палахлівай перастраховачнасці. А яны, тыя пасіўнасць і перастраховачнасць, таксама не з неба зваліліся, яны таксама абумоўлены многімі прычынамі, у тым ліку масавымі рэпрэсіямі культаўскіх часоў, рэпрэсіямі, якія бязлітасна вынішчалі цэлыя пакаленні нацыянальнай інтэлігенцыі, бо тады многім заўзятым барацьбітам з нацыянальнай культурай нацыяналізм мроіўся ледзь не ў кожным беларускім слове, у самой павазе да ўсяго беларускага, свайго, роднага, хоць яшчэ Энгельс пісаў: «Нацыі абавязаны быць нацыянальнымі... Яны больш за ўсё інтэрнацыянальныя іменна тады, калі яны сапраўды нацыянальныя».

Ды вярнуся да гаворкі аб вызваленні ад навучання беларускай мове ў беларускай савецкай сацыялістычнай рэспубліцы. Закон, па якому дазваляецца гэта рабіць, мы або няправільна тлумачым, або няправільны ён сам, заганны ў сваёй галоўнай сутнасці. Дарэчы, беларускія пісьменнікі адкрыта гавораць пра гэта даўно, прынамсі яшчэ з пачатку 1970-х гадоў. Я, напрыклад, помню адну тагачасную нараду па ідэалагічных праблемах ЦК КПБ, на якой з бліскучымі, выдатна аргументаванымі прамовамі выступалі Іван Мележ, Пімен Панчанка, Генадзь Бураўкін. Яны слушна звярталі ўвагу на тое, што становішча з беларускай мовай у рэспубліцы трэба рашуча змяніць. І пачынаць трэба з хадайніцтва аб пераглядзе таго валюнтарысцкім шляхам прынятага і недастаткова прадуманага закона аб «вызваленні». Час паказаў,

наколькі мелі рацыю нашы пісьменнікі. Але практычна тады мала што было зменена, хоць нейкія абяцанні і даваліся. Дык трэба мяняць цяпер. Трэба з такім хадайніцтвам выходзіць у адпаведныя агульнасаюзныя інстанцыі.

Увогуле ж пытанне аб тым «вызваленні» ставіцца ў нас няправільна. Дэмакратыя, ленінскі падыход у гэтым пытанні даюць права бацькам выбіраць для сваіх дзяцей мову навучання. Практычна ў нас на Беларусі гутарка ідзе перш за ўсё пра рускую ці беларускую мову навучання, рускамоўную ці беларускамоўную школу. Хаця, вядома, могуць быць школы з іншымі распаўсюджанымі ў Беларусі мовамі. Для гэтага патрэбна дастатковая колькасць як рускіх (іх хапае), так і беларускіх школ (іх колькасць усё меншае і меншае, а ў сталічным Мінску ўжо няма ніводнай цалкам беларускамоўнай школы). Дык вось права на выбар мовы навучання павінна быць захавана. Тут дзвюх думак быць, мне здаецца, не можа. Але сам змест навучання вызначаецца агульнай дзяржаўнай палітыкай, а не жаданнем тых ці іншых бацькоў. Першы намеснік міністра асветы БССР М. М. Круглей, як паведаміла газета «Звязда» 7 красавіка 1988 года, тлумачыць, што беларуская мова не такі прадмет, як іншыя, дык ад яе можна вызваляць, а, скажам, ад замежнай мовы вызваляць нельга. А чаму такая няроўнасць? Я думаю, што ніякімі педагагічнымі, навуковымі меркаваннямі гэтую няроўнасць абгрунтаваць па-сапраўднаму нельга. Карацей кажучы, я глыбока пераконаны, што ў Беларусі ва ўсіх школах, на якой бы мове навучання яны ні працавалі, вывучэнне беларускай мовы павінна быць такім жа абавязковым, як і вывучэнне мовы рускай і замежнай. І пачынаць навучанне беларускай мове трэба як мага раней. Цяпер ужо аб'яўлена, што з гэтага года беларуская мова ў рэспубліцы будзе вывучацца, пачынаючы з другога класа. Гэта ўжо нейкі прагрэс, зрух у лепшы бок, бо раней такое вывучэнне пачыналася з трэцяга класа. Але трэба ісці далей. Трэба пачынаць навучанне роднай мове з першага класа, так, як гэта робіцца ў дачыненні да мовы рускай.

Кажуць, што ў такім разе дзеці будуць адчуваць пэўныя цяжкасці, блытаць мовы і г. д. Я думаю, што, наадварот, паралельнае вывучэнне дзвюх блізкароднасных моў будзе садзейнічаць засваенню адной і другой мовы. Але самае першапачатковае знаёмства з роднай мовай у нас у Беларусі, як і ва ўсіх добрых людзей, таксама павінна пачынацца яшчэ з самага ранняга дзяцінства, з дзіцячага сада, напрыклад. І трэба мець не толькі беларускамоўныя групы ў дзіцячых садах, а і ў групах рускамоўных знаёміць дзяцей з мовай беларускай. Дарэчы, ва ўмовах Мінска былі спробы з дзіцячага сада пачынаць вывучэнне замежнай мовы. Дык чаму не рабіць так і з мовай беларускай? Ды справа нават не столькі ў спецыяльным вывучэнні, колькі ў знаёмстве з беларускім словам праз чытанне цікавых казак, добрых

вершаў, співанне беларускіх песень, праз гульні на беларускім матэрыяле і інш. Усё гэта істотна, бо тое, што засвойваецца ў раннім дзяцінстве, застаецца найбольш трывалым на ўсё жыццё.

Трэба шмат што змяняць і ў падрыхтоўцы кадраў у рэспубліцы. Было б зусім натуральным, каб выпускнікі беларускіх сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў валодалі ў абавязковым парадку не толькі рускай мовай (цяпер гэта патрабуецца безумоўна), але і мовай беларускай. У нас жа, нават у БДУ імя У. І. Леніна, беларускай мовай калі і валодаюць выпускнікі, дык толькі аддзялення філфака ды яшчэ факультэта журналістыкі (апошнія — далёка не ўсе). Праўда, з гэтага года ў нас сталі прымацца пэўныя меры для выпраўлення становішча. На педагагічных патоках розных факультэтаў БДУ сталі чытацца курсы беларускай літаратуры і гісторыі БССР. Ёсць магчымасць выкладаць на гэтых патоках і беларускую мову. Але нашы мовазнаўцы за такую магчымасць не схапіліся. Кажуць, няма каму выкладаць! Дажыліся...

Што дадуць гэтыя першыя спробы, яшчэ трэба паглядзець. Крычаць «ура» тут яшчэ рана. Але ўжо само ўсведамленне той акалічнасці, што выпускнікі нашых ВНУ, якія ідуць у школу, павінны пры неабходнасці свабодна выкладаць свой прадмет як на рускай мове, так і на беларускай, — ужо само гэтае ўсведамленне істотнае. Яно нараджае пэўныя надзеі, спадзяванні на лепшае. І ідзе яно ў духу ленінскіх ідэй. Пісаў жа У. І. Ленін яшчэ ў 1919 годзе: «Члены РКП на тэрыторыі Украіны павінны на справе праводзіць права працоўных мас вучыцца і гаварыць ва ўсіх савецкіх установах на роднай мове, усяляк працідзейнічаючы спробам штучнымі сродкамі адцясніць украінскую мову на другі план, імкнучыся, наадварот, ператварыць украінскую мову ў сродак камуністычнай асветы працоўных мас. Неадкладна ж павінны быць прыняты меры, каб ва ўсіх савецкіх установах была адпаведная колькасць служачых, якія валодаюць украінскай мовай, і каб у далейшым усе служачыя ўмелі гаварыць на ўкраінскай мове». Гэтыя ленінскія словы, якія цалкам стасуюцца і да Беларусі, узяты з дырэктыўнага дакумента, з «Рэзалюцыі ЦК РКП(б) аб савецкай уладзе на Украіне», напісанай асабіста Леніным. У нас жа і сёння ў многіх дзяржаўных установах рэспублікі (амаль ва ўсіх!) на чалавека, які загаворыць па-беларуску, глядзяць як на дзівака ці малапісьменнага вяскоўца. А так быць не павінна. І не будзе, калі выпускнікі нашых школ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў будуць свабодна валодаць як рускай, так і беларускай мовамі. Каб такое стала рэальнасцю, трэба ўводзіць абавязковы ўступны экзамен па беларускай мове (экзамен залікавы, няконкурсны) і ў ВНУ, і ў сярэднія спецыяльныя ўстановы. Лічыцца ж (зусім слушна) у нас абавяз-

ковым такі экзамен па рускай мове. Такім чынам, гутарка ідзе пра тое, каб у Беларусі зрабіць рэальнасцю двухмоўе, пра якое мы многа гаворым, але якога фактычна не маем. А яно патрэбна не на словах, а на справе.

У гэтай сувязі хачу спецыяльна падкрэсліць, што, змагаючыся за паўнапраўнае існаванне беларускай мовы, мы нічога не маем і не можам мець супраць мовы рускай. Бо вялікая руская мова — гэта мова міжнацыянальных зносін у нашай краіне, мова нашага братэрства, дружбы народаў савецкай краіны. Яна выводзіць нас у вялікі свет. І без дасканалага ведання ніхто з нас абысціся не можа. Але праўда і тое, што ў нас на Беларусі рускай мове нішто не пагражае. А вось становішча з мовай беларускай трэба рашуча мяняць, мяняць карэнным чынам. Бо сёння нам яшчэ даводзіцца даказваць і тое, што па-беларуску можна выкладаць любы школьны прадмет. Я вучыўся ў школе ў даваенныя часы (скончыў да вайны пяць класаў) і ў пасляваенны перыяд. У нас школа была беларуская. І ніякіх цяжкасцей з той жа спецыяльнай тэрміналогіяй мы не мелі, бо былі падручнікі на беларускай мове па ўсіх прадметах, вядома, акрамя рускай мовы і замежнай. Выдалі ж у нас, калі захацелі, і энцыклапедыю на беларускай мове. І нічога сабе. Чытаецца. Гучыць і там беларускае слова. Дык трэба, каб яно гучала і ва ўсіх сферах нашага жыцця. Трэба, вядома, калі мы сапраўды хочам захаваць сваю нацыю, сваю культуру, мець будучыню як славянскі народ, родны брат вялікага рускага народа, народа ўкраінскага, добры сябра іншых народаў савецкай краіны і ўсяго свету.

І давайце не будзем баяцца абвінавачанняў у нацыяналізме, якім палохаюць многіх яшчэ і сёння, хоць сёння палохацца, здаецца, падстаў няма. Давайце будзем памятаць, што нацыяналізм — гэта не тое, што завецца любоўю да ўсяго роднага, краю, народа, мовы. Нацыяналізм пачынаецца тады, калі абвяшчаюць: толькі мая нацыя вартая, толькі яна найлепшая. А ўсе астатнія — гэта так сабе. Яны і грэшныя ва ўсім, іх за людзей можна асабліва не лічыць. Беларусам у масе іхняй, беларусам як нацыі (пра асобныя выключэнні гаварыць не буду, яны заўсёды магчымыя) такая пагардлівасць, здаецца, менш за ўсё ўласцівая. Наадварот, нам найбольш шкодзіць нацыянальны нігілізм, прыніжэнне сваёй нацыі, непавага да саміх сябе, тое, што Іван Мележ называў лакейскім нацыяналізмам. Калі мы хочам перабудоўвацца па-сапраўднаму, у духу ленінскага разумення нацыянальных і ўсіх іншых праблем, дык трэба нам весці рашучую барацьбу і з гэтым прыніжэннем, з гэтым лакейскім нацыяналізмам. Зрухі ў гэтым напрамку цяпер адбываюцца. Яны адчуваюцца і ў большай цікавасці да нацыянальнай гісторыі, занядбанай у нас асабліва, хоць добра вядома, што «нацыя, якая грэбуе сваёй гісторыяй, ставіць пад сумненне і сваю будучыню» (М. С. Гарбачоў).

Ды яшчэ і Пушкін падкрэсліваў: «Павага да мінулага — вось рыса, якая адрознівае адукаванасць ад дзікасці». І толькі, па яго ж словах, «дзікасць, подласць і невуцтва не паважаюць мінулага». Дык дзякуй Богу і добраму часу, што ўжо і мы з пэўнай павагай загаварылі пра сваю гісторыю. Сталі мы адкрыта абмяркоўваць і моўную праблему. Сённяшняя наша нарада (ці круглы стол) — таксама добры паказчык у гэтых адносінах. Яна таксама абнадзейвае, бо калі партыйныя кіраўнікі сур'ёзна бяруцца за нешта, за вырашэнне нейкай праблемы, дык гэта заўсёды добры знак. Вядома, калі і ўсе мы праявім належны клопат. Энтузіязм і ўстурбаванасць, з якімі тут падымаліся многія праблемы выкладання беларускай мовы ў школе і ўвогуле гаварылася пра становішча беларускага слова ў нашай рэспубліцы, у нашым духоўным жыцці, дазваляюць спадзявацца на выхад з таго тупіковага стану, у якім наша мова апынулася.

А закончыць хачу адным уражаннем з паездкі ў Пінск на жнівеньскую нараду 1987 года. Я два дні слухаў настаўніцкія выступленні. Як звычайна, яны рабіліся на рускай мове, можа, за адным ці двума выключэннямі. Але вось у залу зайшлі малодшыя школьнікі, піянеры. І загаварылі па-беларуску. З энтузіязмам, натхненнем, задзірыстай галасістасцю і з малой колькасцю пагрэшнасцей супроць норм літаратурнага вымаўлення. Загаварылі з непрыдуманай любасцю, захопленасцю, жывым чалавечым хваляваннем. І я зразумеў, што будучыня ў нашай мовы, у беларусаў як народа, як нацыі ёсць, будзе, калі мы зноў не занядбаем выхаванне любасці да роднага слова, калі, тым больш, не будзем яму, гэтаму выхаванню, працідзейнічаць, як гэта рабілася цэлымі дзесяцігоддзямі валюнтарысцкіх і застойных ды культаўскіх часоў, а зробім усё для таго, каб з дзяцінства прывіваць нашай змене культуру патрыятызму і інтэрнацыяналізму, дзейсных толькі ў непарыўным адзінстве, натуральнай узаемасувязі, прывіваць павагу да свайго народа і да народаў-братоў, да ўсёй вялікай чалавечай супольнасці.

Пераконаны, што сапраўднага поспеху ў гэтай высакароднай справе, дзе беларуская і руская мовы павінны быць саюзнікамі, а не канкурэнтамі, дасягнуць будзе надзвычай цяжка, а то і немагчыма, пакуль будзе існаваць заганная, навукова не абгрунтаваная і ў педагагічных адносінах надзвычай шкодная практыка, згодна з якой беларуская мова ў школах рэспублікі не з'яўляецца абавязковай для вывучэння ўсімі катэгорыямі вучняў. Гэтую практыку трэба рашуча перагледзець. Пара таксама вярнуць беларускай мове яе ранейшы статус дзяржаўнай мовы рэспублікі (відавочна, побач з рускай мовай)».

Рэверансы перад партыйным кіраўніцтвам, прыкметныя ў маім выступленні, апеляцыя да духу ленінскіх ідэй, спасылка на прывабнае,

вельмі дэмакратычнае выказванне бальшавіцкага правадыра пра ўкраінскую мову як на добры прыклад для беларусаў — усё гэта цяпер не ўспрымаецца і проста рэжа вуха дасведчанаму чалавеку. Але тады мы не ведалі пра крывадушнасць Леніна, пра тое, што дэмакратызм і чалавечнасць у яго былі фарысейска-паказушнымі, а прывабныя выказванні на публіку, для друку часта вельмі рэзка разыходзіліся з сакрэтнымі цыркулярамі, у якіх не было ні дэмакратызму, ні чалавечнасці. Але ж менавіта тыя сакрэтныя цыркуляры і вызначалі сапраўдную палітыку заснавальніка савецкай таталітарнай дзяржавы, ажыццяўляліся бальшавікамі на практыцы.

У сувязі з тым, што тэкст майго выступлення, зробленага ў Мінскім гаркоме, заставаўся ненадрукаваным, я цалкам паўтарыў яго і ў 1989 годзе, яшчэ за адным круглым сталом, спадзеючыся ўжо на абавязковую публікацыю. Бо гэты круглы стол праводзіўся Міністэрствам народнай адукацыі БССР і рэдакцыяй «Настаўніцкай газеты». Сустрэча была з размахам. У ёй удзельнічалі, акрамя выкладчыкаў ВНУ, супрацоўнікі нашай Акадэміі навук (літаратары і мовазнаўцы), некалькі чалавек з Міністэрства адукацыі, метадысты ці кіраўнікі з навукова-даследчага Інстытута педагогікі, з Мінскага гарадскога ўпраўлення народнай адукацыі, школьныя настаўнікі і дырэктары, а яшчэ дзетсадаўскія начальнікі.

«Настаўніцкую газету» прадстаўляў яе тагачасны супрацоўнік А. Аўрамчык (з вядомым паэтам М. Аўрамчыкам сваяцкіх сувязей не мае). Ён і падрыхтаваў справаздачу пра той круглы стол, апублікаваную ў «Настаўніцкай газеце» 18 лютага 1989 года.

Прачытаўшы гэтую справаздачу, я проста жахнуўся ад журналісцкага самавольства. Бо А. Аўрамчык не толькі дакладна не падаў практычна нічога з майго сапраўднага выступлення (з такой нядбаласцю можна было б змірыцца), але і прыпісаў мне тое, чаго я не гаварыў і гаварыць не мог. Парушыўшы этычныя і юрыдычныя нормы, журналіст стаў ад майго імя пець дыфірамбы адносна таго, як рэктарат і партком БДУ клапоцяцца пра развіццё беларускай мовы, як яны будуць ажыццяўляць «беларусізацыю» навучання, у прыватнасці, пераводзіць на беларускім аддзяленні філфака ўсё выкладанне на родную мову.

Матэрыял пра гэтыя планы А. Аўрамчык перапісаў са шматтыражкі «Беларускі ўніверсітэт» і падаў справу так, што гэта я імі вельмі задаволены. Я ж і самой газеты з распісваннем тых планаў тады яшчэ не бачыў, не чытаў і таму ніяк не мог на яе спасылацца (А. Аўрамчык спасылку мне прыпісаў). Ды я ж добра ведаў і цану такім планам і пастановам. Яны звычайна прымаліся для блізіру, мелі пераважна адпісачны характар і на выкананне практычна наўрад ці разлічваліся.

Словам, А. Аўрамчык выставіў мяне легкаверным дзіваком, які не ведае рэальнага жыцця. Аднак галоўнае нават не ў гэтым. Уся справа ў нечуваным самавольстве журналіста. Бо ніякай гаворкі пра становішча беларускай мовы ў БДУ ён са мной ніколі не вёў. А ў сваім выступленні пра магчымыя перамены да лепшага я гаварыў вельмі асцярожна, падкрэсліўшы адкрытым тэкстам, што крычаць «ура» нам яшчэ зарана.

Што заставалася рабіць у гэтай прыкрай гісторыі? Вядома, я адразу напісаў абвяржэнне. Пайшоў з ім у «Настаўніцкую газету». А. Аўрамчык нікольki не збянтэжыўся за свае прыпіскі, паабяцаў тое абвяржэнне надрукаваць і, канечне ж, не надрукаваў, а мой тэкст мне не вярнуў. Тады я выступіў па тэлебачанні і расказаў пра норавы журналіста з «Настаўніцкай газеты» і пра сваё разуменне незайздроснага становішча беларускай мовы ў БДУ. Але надрукаваць і тое тэлевізійнае выступленне мне не ўдалося. Тэлезапісы ж недаўгавечныя. Яны, кажуць, хутка размагнічваюцца. Таму я цяпер усё яшчэ з болем душэўным і ўспамінаю той прыкры эпізод, фактычна скандальны, але для практыкі бальшавіцкіх часоў дастаткова паказальны. Бо не толькі ў «Настаўніцкай газеце» імкнуліся горкую праўду падмяняць казённай алілуйшчынай. А. Аўрамчык зрабіў гэта з асаблівай бесцырымоннасцю. Але і на яго ўправы не знайшлося. Вось так мы і жылі. Думаю, не варта на гэта забывацца і тым, у каго захоўваецца настальгія па бальшавіцкіх парадках.

І яшчэ на адну акалічнасць хачу звярнуць увагу. Прыпісаная мне няпраўда ў «Настаўніцкай газеце» разыходзіцца з пафасам маіх несфальсіфікаваных выступленняў у друку. Студэнты, якія вывучаюць гісторыю нашай літаратуры і крытыкі, пішуць дыпломныя работы, звяртаючыся і да газетных публікацый, напаткаўшы Аўрамчыкавы прыпіскі, маюць права западозрыць мяне ў непаслядоўнасці. А я тады стаў ахвярай журналісцкай самавольнасці. Як у той показцы: без мяне мяне жанілі.

*2004 г.*



# БЫЦЬ САМІМ САБОЮ.

## Адказы Дзмітрыя Бугаёва на пытанні Вольгі Куртаніч

**1. Вам, як крытыку, даводзілася аналізаваць сутнасць ледзь не кожнага больш-менш значнага твора айчыннай літаратуры. Вашы назіранні: літаратура развівалася з падрэзанымі крыламі?**

Так, наша літаратуры і ў дарэвалюцыйныя, і ў савецкія часы развівалася ў складаных умовах. Але яна нараджалася з патрэб народнага жыцця і так ці іначай гэтыя патрэбы адлюстроўвала. «З глыбінь жыватворчых народнага духу» (коласаўскі выраз) да літаратурнай творчасці ўздымаліся нашы вялікія класікі — Купала і Колас, Багдановіч і Гарэцкі, шматлікія прадаўжальнікі іх традыцый. А наконт «падрэзаных крылаў» будзе справядліва зазначыць, што нашым пісьменнікам часта не толькі падразалі крылы, але і здымалі галовы. Асабліва лютавалі ў гэтых адносінах бальшавікі, якія пазнімалі мудрыя галовы ў многіх выдатных пісьменнікаў, вынішчаючы найперш самых таленавітых з іх. Выключэнні былі вельмі рэдкімі. Але на змену знішчаным прыходзілі новыя. І літаратура ўсё ж выстаяла.

**2. З вышыні вопыту: якія пачуцці ў Вас выклікае беларуская літаратура XX стагоддзя: расчараванне, сум, абыякавасць, гонар?**

Наша літаратура XX стагоддзя выклікае ў мяне перш за ўсё гонар за тое, што яна ёсць. Самы моцны падмурак беларускай нацыянальнай культуры складала і складае побач з народнай творчасцю (факльклорам) менавіта літаратура. Дзякуючы ім яшчэ жыве ў нас нацыянальны дух. Даводзілася і расчароўвацца, назіраючы, як выдаваліся за сапраўдную літаратуру творы лакіровачныя, дагодліва-лакейскія, якія пісалі не толькі літаратурныя пасрэднасці, але і некаторыя таленавітыя аўтары з гнуткай спінай пры важнай пастаноўцы. З сумам чыталіся творы бяздарныя. Абыякавасці ніколі не было. У мяне халерычны тэмперамент, актыўная эмацыянальная рэакцыя на

ўсё, што здараецца ў жыцці і літаратуры. Таму абыякава ставіцца ні да чаго не магу. Кажуць, гэта шкодна для здароўя. Але ж занепакоенасць — вынаходства д’ябла. Не стану сцвярджаць, што д’ябал не падбіваў і мяне на розныя дурыкі (у побыце, у звычайных жыццёвых стасунках). Але ў стаўленні да літаратуры ад д’ябальшчыны я імкнуўся адкараскавацца, неяк адбівацца. Іншая справа — наколькі гэта ўдавалася. Тут відней збоку, а не самому сабе.

**3. З вышыні ўзросту: што з напісанага за савецкім часам мае права на прыналежнасць да нацыянальнай літаратуры? Ці ёсць кнігі, што, умоўна кажучы, застануцца ў вечнасці?**

Пра вечнасць і за яе гаварыць рызыкоўна. Тут вельмі лёгка памыліцца. Але я не сумняваюся, што ў нас ёсць творы, імёны творцаў, якія будуць жыць, пакуль застануцца ў свеце беларусы. У савецкія часы насуперак ўсякаму ціску нараджалася магутная творчасць Васіля Быкава, які для майго пакалення стаў знакавай фігурай № 1. А яшчэ ж да яго за савецкім часам у пакутах, у блуканнях ад ссылак да турэмных камер нараджаліся выдатныя творы Максіма Гарэцкага. Ды былі ў нас яшчэ Кандрат Крапіва і Кузьма Чорны, Іван Мележ і Уладзімір Караткевіч, Аркадзь Куляшоў і Максім Танк, Пімен Панчанка і Яўгенія Янішчыц, мой добры сябра Іван Чыгрынаў і цэлы шэраг іншых неардынарных пісьменнікаў. На поўную сілу творыць і цяпер Янка Брыль. Яны не толькі належаць да нацыянальнай літаратуры, але і складаюць яе гонар, хоць некаторыя з гэтых выдатных творцаў мусілі пісаць і рэчы ангажаваныя, з відавочным праслаўленнем сталіншчыны, савецкага таталітарызму. Такія накладкі, відаць, непазбежныя для пісьменнікаў, вымушаных працаваць ва ўмовах несвабоды. Але гістарычны вопыт паказвае, што цалкам заціснуць культуру, мастацтва, літаратуру не ўдаецца ніводнаму тырану.

**4. Вы аўтар фундаментальных прац пра творчасць многіх літаратараў. Што, акрамя мовы, у іх творчасці было агульным, што яднала гэтых людзей?**

Я не стаў бы называць свае кнігі фундаментальнымі. Якраз за фундаментальнасцю не гнаўся ніколі. Мне здавалася, што трэба імкнуцца да іншага, пісаць так, каб і крытычныя, літаратуразнаўчыя працы чыталіся без натугі, прымусу, а, наадварот, з цікавасцю. Гэтая ўстаноўка на эмацыянальны кантакт з чытачом для мяне была вельмі істотнай. Пісаў я пераважна пра пісьменнікаў выдатных ці па меншай меры добрых. Усіх іх яднала тое, што я вынес у загаловак сваёй кнігі «Служэнне Беларусі» (выйшла ў 2003 годзе ў «Мастацкай літаратуры»). Гэта служэнне, любоў да Бацькаўшчыны яднае не толькі пісьменнікаў, якія жылі і яшчэ жывуць у Беларусі, але і

прадстаўнікоў дыяспары, тых, каго мы адносілі да эміграцкай літаратуры. Людзі з супрацьлеглымі ідэалагічнымі поглядамі менавіта па гэтай прыкмеце (імкненне служыць Бацькаўшчыне, любоў да Беларусі) зближаюцца трывала і надзейна. М. Танк і Н. Арсеннева, прававерны А. Куляшоў і Л. Геніюш з яе непрыманнем савецкіх парадкаў тут ідуць поруч як прадстаўнікі аднаго народа, адной нацыі.

**5. Ці заўжды пісьменнік, пішучы мастацкі твор, расказвае пра сябе?**

Пісьменнік так ці іначай, непасрэдна ці больш ускосна адлюстроўваецца ў сваім творы і ў гэтым сэнсе абавязкова расказвае і пра сябе. Тут розняцца мастакі адзін ад другога толькі ступенню і формамі сваёй выяўленасці, адкрытасці. У лірыкаў яна звычайна навідавоку. У эпікаў ці драматургаў больш апасродкаванасці. Але асоба аўтара ў добрым творы заўсёды будзе адчувацца. Зрэшты, па тым, што робіць кожны чалавек, можна меркаваць і пра яго самога. У літаратуры і мастацтве гэта выяўляецца найбольш ярка і пэўна.

**6. Часам кнігу параўноўваюць з лекамі ад адзіноты. Чым кніга ўяўляецца Вам?**

Для мяне кніга – духоўнае апірышча, тое, без чаго я сваё жыццё не ўяўляю. Я многа часу трачу і на свае ўласныя кнігі. Але гэта таксама тое, чым я жыву. Ну, няхай не ўсё, бо трэба ж чалавеку яшчэ падтрымліваць сваё фізічнае існаванне на грэшнай зямлі. Але без кнігі, зрэшты, як і без праўдзівых сродкаў інфармацыі, чалавек у сучасным грамадстве паўнацэнна жыць не можа.

**7. Калі праўда тое, што аўтар уяўляецца нам духоўнікам, а ў яго творах мы шукаем перш за ўсё адпаведнасці са сваім унутраным светам, дык хто з літаратараў найбольш «ваш» (з нацыянальнай і сусветнай літаратур)?**

Часткова на гэтае пытанне я ўжо адказваў раней, назваўшы Васіля Быкава. Тут дадам, што ягоная творчасць і сама асоба ўражвалі мяне найбольш, у цяжкія хвіліны падтрымлівалі. Цяпер грэе памяць пра яго чалавечнасць і выключную далікатнасць. Але блізкае, патрэбнае, павучальнае я знаходзіў і знаходжу не толькі ў Быкава. Мне пашанцавала на добрыя кантакты з многімі выдатнымі беларускімі пісьменнікамі. Назаву Дубоўку і Крапіву, Лынькова і Мележа, Адамовіча і Брыля, Танка і Панчанку. З рускіх пісьменнікаў-сучаснікаў і прадстаўнікоў іншых, як тады казалі, братніх літаратур у свой час захапляўся А. Твардоўскім, С. Залыгіным, В. Астаф'евым, А. Салжаніцыным, Ч. Айтматавым, Р. Гамзатавым, Д. Кугульцінавым, К. Куліевым, І. Драчом, А. Ганчаром, Д. Паўлычкам. Кантактаў тут ужо ці не было зусім, ці справа абмяжоўвалася адзінкавымі, найчасцей выпадковымі

сустрэчамі. Бывала, што прыходзілася і расчароўвацца. Вялікім кумірам і для мяне, і для многіх маіх равеснікаў быў А. Салжаніцын, толькі за чытанне якога некалі можна было атрымаць дзесяць гадоў зняволення (пасля з'яўлення «Архіпелага ГУЛАГа»). Але цяпер калі чую, чытаю прапановы Аляксандра Ісаевіча ўключыць Беларусь у склад Расіі, бо беларусы нібыта настолькі блізкія да рускіх, што нас можна не лічыць адметным народам, дык усякае захапленне былым кумірам знікае. А нараджаецца прыкрасць і шкадаванне, што колішнія пракрокі паўтараюць адыёзныя, для нас абразлівыя сцверджанні самых зацята-р'яных русіфікатараў з імперскай закваскай, дабра ад якіх беларусам ніколі не было. Сярод прадстаўнікоў зарубежнай літаратуры захапляўся Я. Гашакам (яго неўміручая кніга пра Швейка ў мяне і цяпер на падхваце), Міцкевічам і Байранам, Хэмінгуэем, Фолкнерам, Сэлінджэрам, Маркесам. Заўсёды хвалявала і хвалюе руская класіка ад Пушкіна да Л. Талстога, Дастаеўскага і Буніна.

**8. Станоўчы герой большасці кніг, якія Вам даводзілася разглядаць як крытыку, герой савецкай эпохі ў сённяшняга маладога пакалення можа выклікаць хіба што іронію... Які ж сучасны герой можа задаволіць сучасную публіку?**

За сённяшняе маладое пакаленне гаварыць не бяруся. А наконт іроніі, якую нібыта абавязкова павінен выклікаць сёння няхай сабе толькі ў маладых герой савецкай эпохі, дык магу зазначыць, што на яе (іронію) штурхае павярхоўны погляд. Урэшце ж літаратура — люстра грамадства свайго часу, эпохі, і мне бывае цікава перачытваць, вядома, пад настрой, самыя павярхоўныя творы савецкай пары з яўнай ідэалізацыяй такой станоўчасці, якая сёння сапраўды можа выклікаць усмешку. А я чытаю і радуюся: усё ж такі наша жыццё перамянілася істотна. Як бы мы ні наракалі на наш час (гэта робіцца заўсёды сучаснікамі), а і па спрэс прыгладжанай літаратуры відаць, як далёка мы адышлі ад дзікасці, прымітыву, заціснутасці, ва ўмовах якіх некалі мусілі жыць.

**9. У чым роля пісьменніка ў літаратуры?**

Самае вясёлае пытанне. Пісьменнікі літаратуру ствараюць. І ў гэтым іх роля. Іншая справа, хто якую літаратуру прапаноўвае чытачу. Але гэта ўжо зусім іншае пытанне, якое я не буду асвятляць, каб залішне не расцягнуць свае адказы.

**10. Ці супадае роля, якую грамадства ўскладае на пісьменніка, з роллю, якую ён сам сабе прызначае?**

Супадзенні тут вельмі рэдкія. Самыя выдатныя пісьменнікі, як правіла, не ўкладваюцца ў звыклыя грамадскія стэрэатыпы. Яны самое грамадства

штурхаюць наперад, за што іх і б’юць, бывае, што і неміласэрна, з вялікай зацятасцю, нават лютасцю. Могуць і распяць геніяльнага творцу. А помнік яму паставяць пасмяротна, праз працяглы час пасля знішчэння. Але сапраўдныя мастакі ідуць сваёй дарогай, не зважаючы на крыкі, выццё, улюлюканне, пагрозы, шантаж. З аглядкай жа, з баязлівым прыслухоўваннем (а што там падумае грамадства ды яшчэ ў асобе яго афіцыйных прадстаўнікоў) вялікія мастацкія адкрыцці не робяцца. Толькі голас уласнага сумлення, покліч уласнага таленту і з’яўляецца надзейнай апорай мастака. Некалі гэтую думку я імкнуўся сцвердзіць, назваўшы кнігу пра Івана Мележа «Вернасць прызванню». Мележ тым, што ўвайшло ў гэтую кнігу, быў усцешаны.

У заключэнне хачу падзякаваць Вользе Куртаніч за добрыя пытанні, а шаноўнаму «ЛіМу» за згоду надрукаваць мае адказы на іх.

*2003 г.*





# ПРА САВАЁ ЖЫЦЦЁ

Я — Бугаёў Дзмітрый Якаўлевіч, цяпер прафесар філалогіі (па кафедры беларускай літаратуры), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа, нарадзіўся 12 студзеня 1929 года ў сялянскай сям'і. У маім пашпарце і ў біяграфічных даведках, якія змяшчаліся ў друку, пазначана, што я паявіўся на свет у вёсцы Сычык Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці (раней гэтая вёска ўваходзіла ў Чэрыкаўскі раён). Маці ж казала (так запісана і ў маіх метрыках, выдадзеных у 1936 годзе), што я нарадзіўся ў вёсцы Губіншчына. Мая дзіцячая памяць ніякіх уражанняў ад Губіншчыны не захавала. І гэта невыпадкова — бацькі пакінулі Губіншчыну ў хуткім часе пасля майго нараджэння. Разам з сем'ямі яшчэ пяцярых губіншчанцаў яны, хутчэй за ўсё, у тым жа 1929 годзе стварылі пасёлак Быкоўку, якая праіснавала толькі адно дзесяцігоддзе. У 1939 ці 1940 годзе той пасёлак Быкоўка, у якім прайшло маё замацаванне ў памяці дзяцінства, быў ліквідаваны. Але яго жыхароў у Губіншчыну не вярнулі, а перасялілі ў вёску Сычык, створаную выхадцамі з той жа Губіншчыны.

У мяне з Сычыкам звязаны і частка дзіцячых гадоў, і юнацтва, і ўвесь наступны час, калі я яшчэ падтрымліваў сувязі з малой радзімай. Каб кожны раз не ўдавацца ва ўсе гэтыя падрабязнасці, я і стаў называць Сычык месцам свайго нараджэння. Вялікага граху ў тым не бачу, бо ўрэшце і Губіншчына, і былая Быкоўка, і Сычык — гэта адна ваколіца з жыхарамі губіншчанцамі, прамымі ці патомнымі.

Вучыўся я ў школе, якая называлася Губіншчанскай, але і ў даваенныя гады была размешчана не ў самой вёсцы, а трохі наводшыбе ад яе, на ладнай горцы пры ўпадзенні кароценькай і, мусіць, таму безыменнай рачулкі ў Воўчас. Тады наша школа выглядала папраўдзе зухавата. А ў вайну ў яе добрых, з моцнымі цаглянымі падмуркамі будынках, накрытых пафарбаванай у чырвоны колер бляхай, размясціўся паліцэйскі гарнізон. Яго разграмілі партызаны, а школу спалілі.

Да вайны я скончыў пяць класаў. Пасля вызвалення нашай мясцовасці ад гітлераўцаў канчаў шосты і сёмы класы ў Губіншчанскай жа школе. Але яна ўжо тулілася ў не прыстасаваных для нармальнага навучання будынках у вёсцы Сталін (была ў нас і такая вёска) і Сетнае. Урэшце атрымаў за сямігодку атэстат выдатніка і паступіў у Магілёўскае педвучылішча. Там спасцігаў асновы педагагічнай прафесіі на працягу 1945—1948 гадоў. Потым быў год настаўніцкай працы ў пачатковых класах Крытышынскай школы (Іванаўскі раён Брэсцкай вобласці). Гэты ж год вучыўся на завочным аддзяленні філфака ў Магілёўскім педінстытуце, а затым перавёўся на стацыянар і ў 1952 годзе педінстытут закончыў. Атрымаў дыплом з адзнакай і накіраванне ў аспірантуру пры Мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага. Аспіранцкую мудрасць засвойваў у 1952—1955 гадах.

З Мінска паехаў у Мазыр. Там быў старшым выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры ў педінстытуце.

З лета 1959 года да верасня 1964-га працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР у якасці спачатку малодшага, а потым (з лютага 1961 года) старшага навуковага супрацоўніка.

З верасня 1964 года — на філфаку БДУ. Працяглы час быў дацэнтам кафедры беларускай літаратуры (цяпер— кафедра беларускай літаратуры XX стагоддзя). Са студзеня 1987 года — прафесар гэтай кафедры. Прафесарскае званне прысвоена Дзяржаўным камітэтам СССР па народнай адукацыі (без абароны доктарскай дысертацыі. Кандыдацкую абараніў у 1960 годзе).

З 1957 года выступаю ў друку як крытык і літаратуразнавец. Зрэдку публікую таксама нарысы, эсэ на розныя тэмы, успаміны пра беларускіх пісьменнікаў, з якімі быў блізка знаёмы, а то і сябраваў. У пісьменніцкім Саюзе я з 1961 года. Жанрава-стылёвыя тэндэнцыі ў развіцці беларускай літаратуры XX і ўжо XXI стагоддзяў, творчая індывідуальнасць найбольш значных нашых пісьменнікаў і яе ўздзеянне на літаратурны працэс, залежнасць літаратуры ад стану грамадства і магчымасць яе ўздзеяння на гэты стан, актуальныя праблемы літаратурнай крытыкі — такая ў агульных рысах галоўная сфера маёй даследчыцкай працы.

Напісаныя мною артыкулы (іх набіраецца ўжо звыш трох сотняў) друкаваліся ў беларускіх літаратуразнаўчых часопісах і розных газетах, у шэрагу маскоўскіх выданняў. Ёсць публікацыі і ў былых савецкіх рэспубліках, а таксама ў краінах, якія цяпер адносяць да далёкага (ці дальняга) зарубежжа.

Асобнымі выданнямі выйшлі наступныя літаратуразнаўчыя манаграфіі і зборнікі крытычных артыкулаў і эсэ: «Шчодрае сэрца пісьменніка» (Мінск, 1963), «Паэзія Максіма Танка» (Мінск, 1964; другое выданне, папраўленае і дапоўненае пазнейшымі артыкуламі — Мінск, 2003), «Уладзімір Дубоўка» (Мінск, 1965), «Максім Гарэцкі» (1968; другое выданне, дапоўненае

пазнейшымі артыкуламі — Мінск, 2003), «Шматграннасць» (Мінск, 1970), «Зброяй сатыры, зброяй праўды» (Мінск, 1971; другое выданне — 2004 г.), «Вернасць прызванню» (Мінск, 1977), «Талент і праца» (Мінск, 1979; гэтая кніга ў 1984 годзе адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Якуба Коласа), «Чалавечнасць» (Мінск, 1985), «Васіль Быкаў» (Мінск, 1987), «Арганічнасць таленту» (Мінск, 1989), «Праўда і мужнасць таленту» (Мінск, 1995), «Спавядальнае слова» (Мінск, 2001), «Служэнне Беларусі» (Мінск, 2003)[1].

У складзе аўтарскіх калектываў працаваў над двухтомнай акадэмічнай «Гісторыяй беларускай літаратуры», выдадзенай у 1960-я гады, над вучэбнымі дапаможнікамі і праграмамі па нашай літаратуры для студэнтаў ВНУ, над падручнікамі для школы, а яшчэ складаў розныя зборнікі, хрэстаматыі, удзельнічаў у выданні твораў некаторых нашых класікаў, рэдагаваў артыкулы і кнігі для настаўнікаў, напісаныя іншымі даследчыкамі (звычайна з маім аўтарскім удзелам). Над калектыўнымі падручнікамі для настаўнікаў працую і цяпер, даючы свае раздзелы і рэдагуючы гэтыя падручнікі.

З 1960-х гадоў займаўся актыўнай грамадскай працай: працяглы час узначальваў секцыю крытыкі і літаратуразнаўства ў СП Беларусі, быў членам, ці, як цяпер сталі казаць, сябрам Савета па крытыцы пры СП СССР, старшынёю Рэспубліканскага міжвузаўскага метадычнага аб'яднання выкладчыкаў беларускай літаратуры, зноў жа сябрам навукова-каардынацыйнага Савета па гісторыі беларускай літаратуры пры АН БССР, удзельнічаў у працы розных камісій, рэдакцый і рэдкалегій і па пісьменніцкай і выдавецкай лініі, і па лініі Міністэрства асветы, Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Да красавіка 1998 года ўваходзіў у склад Рады (Праўлення) Саюза беларускіх пісьменнікаў, адзін тэрмін пазасядаў і ў Прэзідыуме гэтай Рады.

Загружаны грамадскай, педагагічнай і літаратурна-крытычнай працай, у якую імкнуўся ўкладваць душу, хоць, можа, і не заўсёды гэта ўдавалася ў поўнай меры, бо ў маладыя гады быў схільны да перахлёстаў у тых жа літаратурных спрэчках, я не заўважаў, як і жыццё фактычна праляцела. Што ж, такі чалавечы лёс. І нікуды ад яго не дзенешся.

Зрэшты, мне наракаць на свой лёс не выпадае, бо ён у мяне пры ўсіх пертурбацыях і завіхрэннях складваўся ўвогуле шчасліва. Асабліва мне шанцавала на падтрымку добрых людзей, выдатных пісьменнікаў. У Магілёве мне шмат дапамагалі педінстытуцкі дэкан філфака Мікалай Рыбачкін, за-

[1] Пазней выйшлі: «Уладзімір Дубоўка» (другое выданне, Мінск, 2005), «Вывучэнне творчасці Васіля Быкава ў школе» (у сааўтарстве з М. і В. Верціхоўскімі, Мінск, 2005).

гадчык кафедры беларускай літаратуры, вядомы літаратуразнаўца і крытык Якуб Усікаў, загадчык кафедры беларускай мовы і таксама вядомы ў сваёй галіне вучоны Пётр Юргілевіч.

У Мінску праз часопіс «Полымя» далучаў да канкрэтнай працы на крытычнай ніве Рыгор Шкраба, які ў «Полымі» быў спачатку супрацоўнікам аддзела крытыкі, а потым яго загадчыкам. Не раз выручаў у складаных сітуацыях мой навуковы кіраўнік Васіль Барысенка, які быў для мяне спагадлівым дарадцам не толькі ў навуковых, але часам у звычайных жыццёвых справах.

Шчырую прыхільнасць адчуваў я з боку Алеся Адамовіча, у якога захапляла грамадзянская мужнасць, цвёрдасць у адстойванні пазіцый, выдатнае разуменне часу, яго патрэб і, вядома ж, яркая, рознабаковая таленавітасць. А як крытыку і літаратуразнаўцу роўных яму ў нас не ведаю.

Шмат чым я абавязаны Івану Чыгрынаву, які быў вельмі надзейным сябрам і ўмеў прыйсці на дапамогу тады, калі яна была найбольш патрэбнай.

А як грэлі душу прыхільнасць і падтрымка з боку непахіснага ў барацьбе за праўду і разам з тым надзвычай далікатнага Васіля Быкава, апантанага ў літаратурнай працы Івана Мележа...

Хораша згадваюцца вельмі чалавечны Міхась Лынькоў, Уладзімір Дубоўка, Максім Танк, Пімен Панчанка, мудры сатырык Кандрат Крапіва, пранікнёная ў сваёй лірыцы Яўгенія Янішчыц.

Заўсёды прыемна і цяпер перакінуцца слоўцам з дасціпна-з'едлівым Рыгорам Барадуліным ці з дасведчаным, здаецца, ва ўсім Янкам Брылём (мы жывем у адным доме), які па-ранейшаму не стамляецца чытаць усё, што пішуць нашы літаратары, і сам працягвае радаваць сваімі мініяцюрамі і мемуарна-дакументальнай прозай.

У БДУ я адчуваў добрае стаўленне Леаніда Кісялеўскага, калі ён быў у нас рэктарам, філфакаўскага дэкана Аляксея Волка, многіх выкладчыкаў, найперш калег па кафедры, Сцяпана Александровіча, але не толькі яго.

Закончу гэтыя нататкі шчырай падзякай жывым добразычліўцам без пайменнага пераліку, бо іх, акрамя згадваных Барадуліна і Брыля (гады жыцця Янкі Брыля – 1917–2006.), у мяне застаецца, дзякуй Богу, яшчэ нямала. Гэта вельмі істотна, бо інакш жыццё чалавека траціла б свой сэнс, станавілася па вялікім рахунку наўрад ці цікавым.

*2003 г.*





# ОТВЕТЫ НА АНКЕТУ Л. РУБЛЕВСКОЙ ДЛЯ «СОВЕТСКОЙ БЕЛОРУССИИ» ПО ТЕМЕ «ИВАН МЕЛЕЖ: ПИСАТЕЛЬ И ВРЕМЯ»

**1. Можно ли сказать, что «Людзі на балоце» – наш национальный брэнд?**

Не знаю, можно ли называть «Людзей на балоце» национальным брэндом. Но это, конечно же, один из лучших наших романов за всю историю существования белорусской национальной литературы.

**2. Устарела ли та форма, в которой творил Мележ – классический роман, цикл романов?**

Нет, не устарела. Эпический роман – коренной, стволовой жанр реалистической прозы, в котором фокусируются «все родовые и существенные признаки эпоса» (Белинский). А поскольку «Людзі на балоце» стали нашей классикой, то они устареть не могут. Нет сомнения, что и циклы добротных романов как жанровая структура не потеряли своей весомости и в наше время. Классика на то и классика, чтобы всегда оставаться жизнеспособной и актуальной.

**3. Вы согласны с тем, что Мележ развенчивает фетишизацию земли?**

Я думаю, что никакой фетишизации земли у Мележа нет. Нет и развенчания такой фетишизации. Белорусская литература всегда была сильна поэтизацией земледельческого труда, осмыслением земли как главной основы благосостояния человека, самой человеческой жизни.

Зямля не зменіць і не здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасць волі, дасць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх не кіне,
Зямля – аснова ўсёй айчыне.

Это прекрасные строки из «Новай зямлі» Я. Коласа. Мележ продолжал коласовскую традицию в своей «Палескай хронiцы». Его Василь Дятел – персонаж, особенно близкий автору (Мележ иногда и себя называл Василем Дятлом). Так этот Василь извечную крестьянскую преданность земле, свободному труду на ней несет в себе как определяющую черту характера. Когда колхозные активисты перепахивают засеянную Дятлом его полоску земли, Василь воспринимает это как крушение всех надежд на добрую жизнь и, конечно же, издевательство над крестьянским трудом.

**4. Имеет ли будущее «деревенская тема» в литературе?**

«Деревенская тема» в литературе будет актуальной всегда, потому что только земля кормит человека естественным продуктом. Возможно, в отдаленном будущем человек придумает и синтетическое производство пищи. Но радости от этого будет мало. Уже теперь есть некоторое недоверие к продуктам, созданным с участием генной инженерии. Но это же еще не синтетика в полном смысле слова.

**5. Сегодня писатель должен работать еще ради денег. Нормально ли это? Сохранится ли «высокая литература» как основная профессия?**

Нет ничего хорошего в том, что уже сегодня писатель не может жить за счет литературного заработка. Это значит, что наше общество недостаточно заботится о духовной культуре народа. Я не знаю, сохранится ли литературное творчество как основная профессия самых одаренных. Но подлинная литература не умрет. Она будет существовать до тех пор, пока в человеке не уничтожится все человеческое.

**6. Сегодня звучит мысль о том, что Иван Мележ – автор первого «женского» романа в белорусской литературе... Так ли это?**

Мележ не считал себя творцом «женского» романа. Он писал добротную прозу, в которой с одинаковым успехом показывал подлинную душу и мужчины, и женщины. Понимание женской психологии у него было отличное. Но «женских» романов как таковых он никогда не писал.

**7. Иван Мележ творил во временных рамках советской литературы... Ограничило ли это каким-то образом его творчество? Как могли бы выглядеть «Людзі на балоце» и другие классические произведения того периода, написанные в иное время?**

Мележ, как и всякий художник, творил в координатах своего времени. И эти координаты воздействовали на него своими отрицательными сторонами. Но большие художники потому и называются большими, что они не довольствуются ролью простых иллюстраторов расхожих стереотипов. Они

стремятся утвердить свое видение жизни, ее правду. Правда Мележа, если говорить кратко и только о главном, заключается в том, что он с большой сыновней любовью изображал подлинное Полесье, открывая его и для всего мира. Конечно, очень своеобразный полесский край и до Мележа привлекал внимание многих крупных художников, того же Я. Коласа. Но они смотрели на полесскую действительность взглядом со стороны. Такой взгляд тоже способен открывать немало. А Мележ изображал полесскую жизнь изнутри, с точки зрения человека, для которого все это органически близко как собственная жизнь. И его «Палеская хроніка» еще и по этой причине стала выдающимся достижением белорусской литературы. Но очевидно и другое. Если бы Мележ писал свои романы «Палескай хронікі» в другое время, они были бы во многом иными. Хотя бы потому, что время всегда кладет свою печать на все, в том числе и на произведения больших художников.

**8. Есть ли продолжатели традиции (эстетической и т. д.) у Мележа?**

Эстетическая традиция Мележа в белорусской литературе жива и сегодня. Это одна из самых плодотворных традиций нашей литературы. В русле этой традиции, обновляя ее, возникли прозведения многих белорусских писателей. Назову И. Чигринова, И. Шамякина, И. Науменко, И. Пташникова, В. Адамчика, Л. Дайнеку, Я. Сипакова, В. Карамазова, Б. Саченко, В. Козько, А. Жука, А. Кудравца, Г. Далидовича, Л. Левановича. Из поэтов наиболее активно продолжает мележевскую традицию земляк Ивана Павловича Микола Мятлицкий, который издал около десятка сборников стихов и поэм о Полесье, особенно акцентируя чернобыльскую трагедию. Некоторыми гранями своего творчества соприкасается с мележевской традицией и Я. Брыль, хотя он по характеру таланта не эпик, а лирик. А вообще-то в чистом виде коренная традиция нашей прозы не может быть вычленена и связана, скажем, только с Мележем. Ибо на эту традицию с успехом поработали в свое время Колас и Горецкий, Гартный и Зарецкий, Головач и Крапива, Чорный и Лыньков. А еще Мележ дал блестящий пример нашим писателям в использовании живого диалектного слова. Его герои говорят с очень сильным полесским акцентом. И благодаря этому усилилась их подлинность, без которой Мележ не чувствовал живыми своих полешуков. А они живыми у него стали, сделались и нашими постоянными спутниками в дни радостей и бед.

*2006 г.*



# ЛІТАРАТУРА

*Адамовіч, А.* Апакаліпсіс па графіку / А. Адамовіч. Мінск, 1992.

*Адамовіч, А.* «Браму скарбаў сваіх адчыняю...» / А. Адамовіч. Мінск, 1980.

*Адамовіч, А.* Я з вогненнай вёскі... / А. Адамовіч, Я. Брыль, У. Калеснік. Мінск, 1983.

*Адамовіч, А.* Война и деревня в современной литературе / А. Адамовіч. Мінск, 1982.

*Адамовіч, А.* Блакадная кніга / А. Адамовіч, Д. Гранін. Мінск, 1985.

*Адамович, А.* Додумывать до конца / А. Адамович. Минск, 1988.

*Адамовіч, А.* Здалёк і зблізку / А. Адамовіч. Мінск, 1976.

*Адамовіч, А.* Літаратура, мы і час / А. Адамовіч. Мінск, 1979.

*Адамович, А.* Ничего важнее / А. Адамович. Минск, 1987.

*Адамовіч, А. М.* Беларускі раман / А. М. Адамовіч. Мінск, 1961.

*Адамовіч, А. М.* Маштабнасць прозы / А. М. Адамовіч. Мінск, 1972.

*Адамовіч, А.* Vixi / А. Адамовіч. Мінск, 2002.

*Адамчык, В.* Выбраныя творы : у 2 т. / В. Адамчык. Мінск, 1995.

*Адамчык, В.* Голас крыві брата твайго / В. Адамчык. Мінск, 1991.

Акадэмік Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі. Мінск, 1998.

*Алексіевіч, С.* У вайны не жаночае аблічча / С. Алексіевіч. Мінск, 1983; 1991.

*Алексіевіч, С.* Апошнія сведкі / С. Алексіевіч. Мінск, 1985.

*Алексіевіч, С.* Цынкавыя хлопчыкі / С. Алексіевіч. Мінск, 1990; 1991.

*Алексіевіч, С.* Зачараваныя смерцю / С. Алексіевіч. Мінск, 1993.

*Алексіевіч, С.* Чарнобыльская малітва / С. Алексіевіч. Мінск, 1997; 1999.

*Арлоў, У.* Сны імператара / У. Арлоў. Мінск, 2001.

*Александровіч, С.* Кнігі і людзі / С. Александровіч. Мінск, 1976.

*Александровіч, С.* Слова — багацце / С. Александровіч. Мінск, 1981.

*Александровіч, С.* Тут зямля такая / С. Александровіч. Мінск, 1985.

*Александровіч, С. Х.* Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. / С. Х. Александровіч, В. С. Александровіч, Мінск, 1978.

Алесь Адамовіч і час. Мінск, 1998.

*Андраюк, С. А.* Традыцыі і сучаснасць / С. А. Андраюк. Мінск, 1981.

*Андраюк, С.* А жыццё — вышэй за ўсё / С. Андраюк. Мінск, 1992.

*Барадулін, Р.* Збор твораў : у 4 т. / Р. Барадулін. Мінск, 1996—2002.

*Барадулін, Р.* Қалі рукаюцца душы / Р. Барадулін, В. Быкаў. Мінск, 2003.
*Барадулін, Р.* Қсты / Р. Барадулін. Мінск, 2006.
*Баршчэўскі, Л. П.* Беларуская літаратура і свет / Л. П. Баршчэўскі, П. В. Васючэнка, М. А. Тычына. Мінск, 2006.
*Брыль, Я.* Запаветнае: выбр. тв. / Я. Брыль. Мінск, 1999.
*Брыль, Я.* Збор твораў : у 5 т. / Я. Брыль. Мінск, 1979—1981.
Беларуская драматургія. Мінск, 1994—2003, Вып. 1—7.
Беларуская літаратура: проза 20-х гадоў : хрэстаматыя. Мінск, 1997.
Беларускія пісьменнікі: Біябібліягр. слоўнік : у 6 т. Мінск, 1992—1995.
Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. Мінск, 1985.
Беларускія пісьменнікі Польшчы: другая палова XX ст. Мінск, 2000.
Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы / склад. Ф. Янкоўскі. Мінск, 1962.
*Бельскі, А.* Сучасная літаратура Беларусі / А. Бельскі. Мінск, 2000.
*Бельскі, А. І.* Літаратурацэнтрызм / А. І. Бельскі. Мінск, 2009.
*Бугаёў, Д.* Арганічнасць таленту / Д. Бугаёў. Мінск, 1989.
*Бугаёў, Д.* Васіль Быкаў / Д. Бугаёў. Мінск, 1987.
*Бугаёў, Д.* Вернасць прызванню / Д. Бугаёў. Мінск, 1977.
*Бугаёў, Д.,* Вывучэнне творчасці Васіля Быкава ў школе / Д. Бугаёў, В. Верціхоўская, М. Верціхоўская. Мінск, 2005.
*Бугаёў, Д.* Зброяй сатыры, зброяй праўды / Д. Бугаёў. Мінск, 2004.
*Бугаёў, Д.* Максім Гарэцкі / Д. Бугаёў. Мінск, 2003.
*Бугаёў, Д.* Паэзія Максіма Танка / Д. Бугаёў. Мінск, 2003.
*Бугаёў, Д.* Праўда і мужнасць таленту / Д. Бугаёў. Мінск, 1995.
*Бугаёў, Д.* Уладзімір Дубоўка / Д. Бугаёў. Мінск, 2005.
*Бугаёў, Д.* Служэнне Беларусі / Д. Бугаёў. Мінск, 2003.
*Бугаёў, Д.* Спавядальнае слова / Д. Бугаёў. Мінск, 2001.
*Бугаёў, Д.* Талент і праца / Д. Бугаёў. Мінск, 1979.
*Бугаёў, Д.* Чалавечнасць / Д. Бугаёў. Мінск, 1985.
*Бугаёў Д.* Шматграннасць / Д. Бугаёў. Мінск, 1970.
*Бугаёў, Д.* Шчодрае сэрца пісьменніка / Д. Бугаёў. Мінск, 1963.
*Бураўкін, Г.* Выбранае / Г. Бураўкін. Мінск, 1998.
*Быкаў, В.* Выбраныя творы / В. Быкаў. Мінск, 2004.
*Быкаў, В.* Доўгая дарога дадому / В. Быкаў. Мінск, 2002.
*Быкаў, В.* Збор твораў : у 6 т. / В. Быкаў. Мінск, 1991—1994.
*Быкаў, В.* На крыжах / В. Быкаў. Мінск, 1992.
*Быкаў, В.* Поўны збор твораў : у 14 т. / В. Быкаў. Мінск—Масква, 2005. Т. 1—6.
*Быкаў, В.* Праўдай адзінай / В. Быкаў. Мінск, 1984.
*Васючэнка, П. В.* Беларуская літаратура XX стагоддзя і сімвалізм / П. В. Васючэнка. Мінск, 2007.
*Васючэнка, П.* Пошукі страчанага дзяцінства / П. Васючэнка. Мінск, 1995.
*Васючэнка, П.* Сучасная беларуская драматургія / П. Васючэнка. Мінск, 2000.
*Верабей, А.* Абуджаная памяць / А. Верабей. Мінск, 1997.
*Верабей, А.* Максім Танк і польская літаратура / А. Верабей. Мінск, 1984.
*Верабей, А.* Уладзімір Қараткевіч / А. Верабей. Мінск, 2005.

*Вярцінскі, А.* Хлопчык глядзіць... / А. Вярцінскі. Мінск, 1992.
*Гарэлік, Л.* Зямля бацькоў дала мне права / Л. Гарэлік. Мінск, 1983.
*Гарэцкі, М.* Гісторыя беларускае літаратуры / М. Гарэцкі. Мінск, 1992.
*Гарэцкі, М.* Збор твораў : у 4 т. / М. Гарэцкі. Мінск, 1984—1986.
*Гарэцкі, М.* Прысады жыцця / М. Гарэцкі. Мінск, 2003.
*Гарэцкі, М.* Скарбы жыцця / М. Гарэцкі // Полымя. 1993. № 2.
*Гарэцкі, М.* Творы / М. Гарэцкі. Мінск, 1990.
*Гарэцкі, Р.* Ахвярую сваім «я»... (Максім і Гаўрыла Гарэцкія) / Р. Гарэцкі. Мінск, 1998.
*Гарэцкі, Р.* Шляхам адраджэння / Р. Гарэцкі. Мінск, 1997.
*Геніюш, Л.* Выбраныя творы / Л. Геніюш. Мінск, 2000.
*Гілевіч, Н.* Збор твораў : у 6 т. / Н. Гілевіч. Мінск, 1996—2001. Т. 1—3.
*Гілевіч, Н.* На флейце самоты / Н. Гілевіч. Мінск, 2004.
Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя : у 4 т. Мінск, 1999—2003.
Гісторыя беларускай літаратуры пачатку XXI стагоддзя : тыпавая праграма для ўстаноў вышэйшай адукацыі. Мінск, 2012.
*Гніламёдаў, У.* Класікі і сучаснікі / У. Гніламёдаў. Мінск, 1987.
*Гніламёдаў, У.* Янка Купала: новы погляд / У. Гніламёдаў. Мінск, 1995.
*Голуб, Т. С.* У творчай майстэрні класіка: тэксталогія твораў М. Гарэцкага / Т. С. Голуб. Мінск, 2002.
*Грамадчанка, Т. К.* Праблемы сучаснай беларускай крытыкі / Т. К. Грамадчанка, А. С. Гурская, Л. М. Гарэлік. Мінск, 1996.
*Грахоўскі, С.* Выбраныя творы : у 2 т. / С. Грахоўскі. Мінск, 1994.
*Грахоўскі, С.* Так і было / С. Грахоўскі. Мінск, 1986.
*Гусак, С.* Аляксей Кулакоўскі / С. Гусак. Мінск, 1967.
*Дайнека, Л.* Меч князя Вячкі; След ваўкалака / Л. Дайнека. Мінск, 1993.
*Далідовіч, Г.* Заходнікі / Г. Далідовіч. Мінск, 1994.
*Дасаева, Т. М.* Летапіс жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага / Т. М. Дасаева. Мінск, 1993.
Да 80-годдзя народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. Мінск, 2005.
Да 100-годдзя Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Кузьмы Чорнага. Мінск, 2001.
*Дзюбайла, П. К.* У пошуках духоўных каштоўнасцей / П. К. Дзюбайла. Мінск, 1987.
*Дедков, И.* Василь Быков / И. Дедков. М., 1980.
*Дранько-Майсюк, Л.* Гаспода / Л. Дранько-Майсюк. Мінск, 1998.
*Дранько-Майсюк, Л.* У Вільні і больш нідзе / Л. Дранько-Майсюк // Дзеяслоў. 2009, № 4; 2010, № 4; 2011, № 3, 4.
*Дубоўка, У.* Выбраныя творы : у 2 т. / У. Дубоўка. Мінск, 1965.
*Дубоўка, У.* О Беларусь, мая шыпшына... / У. Дубоўка. Мінск, 2002.
*Дудараў, А.* Князь Вітаўт / А. Дудараў. Мінск, 2005.
*Жук, І.* Сустрэчны рух / І. Жук. Гродна, 1998.
*Жураўлёў, В. П.* Актуальнасць традыцый / В. П. Жураўлёў. Мінск, 2002.
*Жураўлёў, В. П.* У пошуку духоўных ідэалаў / В. П. Жураўлёў. Мінск, 2002.
*Зарэцкі, М.* Збор твораў : у 4 т. / М. Зарэцкі. Мінск, 1989—1992.
Зона бяды. Мінск, 1990.

Зорка Палын. Мінск, 1993.
*Зуёнак, В.* Выбраныя творы : у 2 т. / В. Зуёнак. Мінск, 1996;1998.
*Іпатава, В.* Альгердава дзіда / В. Іпатава. Мінск, 2002.
*Іпатава, В.* За морам Хвалынскім / В. Іпатава. Мінск, 1996.
*Кабржыцкая, Т.* Слядамі знічкі / Т. Кабржыцкая, В. Рагойшла. Мінск, 1990.
*Каваленка, В. А.* Веліч праўды / В. Каваленка. Мінск, 1989.
*Каваленка, В.* Вытокі. Уплывы. Паскоранасць / В. Каваленка. Мінск, 1975.
*Каваленка, В.* Голас чалавечнасці / В. Каваленка. Мінск, 1970.
*Каваленка, В.* Жывое аблічча дзён / В. Каваленка. Мінск, 1979.
*Каваленка, В. А.* Іван Шамякін / В. Каваленка. Мінск, 1980.
*Каваленка, В.* Міфапаэтычныя матывы ў беларускай літаратуры / В. Каваленка. Мінск, 1981.
*Каваленка, В.* Покліч жыцця / В. Каваленка. Мінск, 1987.
*Каваленка, В.* Пошукі і здзяйсненні / В. Каваленка. Мінск, 1963.
*Каваленка, В.* Прага духоўнасці / В. Каваленка. Мінск, 1875.
*Калеснік, У.* Ветразі Адысея / У. Калеснік. Мінск, 1977.
*Калеснік, У.* Зорны спеў / У. Калеснік. Мінск, 1981.
*Калеснік, У.* Лёсам пазнанае / У. Калеснік. Мінск, 1982.
*Калеснік, У.* Максім Танк / У. Калеснік. Мінск, 1981.
*Калеснік, У.* Паэзія змагання / У. Калеснік. Мінск, 1959.
*Калеснік, У.* Тварэнне легенды / У. Калеснік. Мінск, 1987.
*Калеснік, У.* Усё чалавечае / У. Калеснік. Мінск, 1993.
*Калеснік, У.* Янка Брыль / У. Калеснік. Мінск, 1990.
*Казько, В.* Выбраныя творы : у 2 т. / В. Казько. Мінск, 1990.
*Казько, В.* Выратуй і памілуй нас, чорны бусел / В. Казько. Мінск, 1993.
*Калюга, Л.* Творы / Л. Калюга. Мінск, 1992.
*Караткевіч, У.* Збор твораў : у 8 т. / У. Караткевіч. Мінск, 1987–1991.
*Караткевіч, У.* Творы / У. Караткевіч. Мінск, 1996.
*Караткевіч, У.* У дарозе і дома: з запісных кніжак / У. Караткевіч // Полымя. 1989. № 1–3.
Карона Вітаўта Вялікага. Мінск, 2004.
*Карпюк, А.* Выбраныя творы : у 2 т. / А. Карпюк. Мінск, 1991.
*Козіч, В. І.* Чалавек і прырода ў сучаснай беларускай прозе / В. І. Козіч. Мінск, 1998.
*Колас, Г.* Карані міфаў / Г. Колас. Мінск, 1998.
*Колас, Я.* Збор твораў : у 14 т. / Я. Колас. Мінск, 1972–1978.
*Крапіва, К.* Збор твораў : у 6 т. / К. Крапіва. Мінск, 1997–2004.
Краса і сіла: анталогія беларускай паэзіі ХХ ст. Мінск, 2003.
*Кулешов, Ф. И.* Подвиг художника / Ф. И. Кулешов. Мінск, 1982.
*Куляшова, В.* Лясному рэху праўду раскажу... / В. Куляшова. Мінск, 1989.
*Куляшоў, А.* Збор твораў : у 5 т. / А. Куляшоў. Мінск, 1974–1977.
*Куляшоў, А.* Маналог / А. Куляшоў. Мінск, 1989.
*Купала, Я.* Поўны збор твораў : у 9 т. / Я. Купала. Мінск, 1995–2003.
*Лаўшук, С.* Кандрат Крапіва і беларуская драматургія / С. Лаўшук. Мінск, 2002.

*Лаўшук, С. С.* На драматургічных скрыжаваннях / С. С. Лаўшук. Мінск, 1989.
*Ластоўскі, В.* Выбраныя творы / В. Ластоўскі. Мінск, 1997.
*Лынькоў, М.* Выбраныя творы / М. Лынькоў. Мінск, 2013.
*Лойка, А. А.* Гісторыя беларускай літаратуры : у 2 ч. / А. А. Лойка. Мінск, 1989.
*Лойка, А.* Галгофа / А. Лойка. Слонім, 2001.
*Лойка, А. А.* Роўнакутны трохвугольнік, або Ад Палямона да Максіма Танка / А. А. Лойка. Мінск, 2003.
*Лявонава, Е. А.* Беларуская літаратура XX стагоддзя і еўрапейскі літаратурны вопыт / Е. А. Лявонава. Мінск, 2002.
*Макаёнак, А.* Збор твораў : у 5 т. / А. Макаёнак. Мінск, 1990.
*Макарэвіч, А. М.* Гісторыя беларускай літаратуры першай трэці XX ст. / А. М. Макарэвіч. Магілёў, 2013.
Максім Гарэцкі: успаміны, арт., дакументы. Мінск, 1984.
*Мальдзіс, А.* Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча / А. Мальдзіс. Мінск, 1990.
*Мележ, І.* Выбраныя творы / І. Мележ. Мінск, 2001.
*Мележ, І.* Збор твораў : у 10 т. / І. Мележ. Мінск, 1979—1985.
*Мішчанчук, М. І.* Беларуская літаратура на сучасным этапе / М. І. Мішчанчук. Мінск, 1978.
*Мішчанчук, М. І.* Беларуская літаратура XX ст. / М. І. Мішчанчук, І. С. Шпакоўскі. Мінск, 2001.
*Мушынская, Т. Ф.* Беларуская літаратура 20—40-х гадоў XX стагоддзя / Т. Ф. Мушынская. Мінск, 2000.
*Мушынскі, М. І.* І нічога, апроч праўды / М. Мушынскі. Мінск, 1990.
*Мушынскі, М.* Каардынаты пошуку / М. Мушынскі. Мінск, 1988.
*Мушынскі, М.* Тэксталогія твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа / М. Мушынскі. Мінск, 2007.
*Мятліцкі, М.* Бабчын: Кніга жыцця / М. Мятліцкі. Мінск, 1996.
*Мятліцкі. М.* Палескі смутак / М. Мятліцкі. Мінск, 1991.
*Мятліцкі, М.* Чаканне сонца / М. Мятліцкі. Мінск, 2004.
*Наварыч, А.* Літоўскі воўк / А. Наварыч. Мінск, 2005.
*Наварыч, А.* Рабкова ноч / А. Наварыч. Мінск, 1988.
*Навойчык, П. І.* «Наша Ніва» і літаратурна-грамадскі працэс на Беларусі пачатку XX стагоддзя / П. І. Навойчык. Мінск, 1996.
*Навуменка, І.* Выбраныя творы : у 2 т. / І. Навуменка. Мінск, 1995; 1997.
*Навуменка, І.* Збор твораў : у 6 т. / І. Навуменка. Мінск, 1981—1984.
*Навуменка, І.* Змітрок Бядуля / І. Навуменка. Мінск, 2004.
*Навуменка, І.* Кніга адкрывае свет / І. Навуменка. Мінск, І978.
*Навуменка, І. Я.* Максім Багдановіч / І. Я. Навуменка. Мінск, 1997.
*Навуменка, І. Я.* Ранні Кузьма Чорны (1923—1929) / І. Я. Навуменка. Мінск, 2000.
*Навуменка, І. Я.* Якуб Колас / І. Я. Навуменка. Мінск, 2003.
*Навуменка, І. Я.* Янка Купала / І. Я. Навуменка. Мінск, 1980.
*Навумовіч, У. А.* Шляхамі арлянят: проза «Маладняка» / У. А. Навумовіч. Мінск, 1984.

Насустрач духу: анталогія беларускай хрысціянскай паэзіі. Мінск, 2001.
Насустрач духу: анталогія беларускай хрысціянскай прозы. Мінск, 2002.
Наш Быкаў. Мінск, 2004.
*Панчанка, П.* Збор твораў : у 4 т. / П. Панчанка. Мінск, 1981–1983.
*Панчанка, П.* Зямля ў мяне адна / П. Панчанка. Мінск, 1996.
*Панчанка, П.* Млечны шлях / П. Панчанка. Мінск, 1980.
*Пашкевіч, А.* Круг / А. Пашкевіч. Мінск, 2006.
*Пашкевіч, А.* Пляц Волі / А. Пашкевіч. Мінск, 2001.
*Петрашкевіч, А.* Воля на крыжы / А. Петрашкевіч. Мінск, 2000.
*Пісьмянкоў, А.* Думаць вершы… / А. Пісьмянкоў. Мінск, 2005.
Прайсці праз зону. Мінск, 1996.
Пра час і пра сябе: аўтабіяграфіі бел. пісьменнікаў. Мінск, 1906.
*Пшыркоў, Ю. С.* Беларуская савецкая проза (20-я – пачатак 30-х гадоў) / Ю. С. Пшыркоў. Мінск, 1960.
*Пшыркоў, Ю. С.* Летапісец свайго народа: жыццё і творчы шлях Якуба Коласа / Ю. С. Пшыркоў. Мінск, 1982.
Пяцьдзесят чатыры дарогі: аўтабіяграфіі бел. пісьменнікаў. Мінск, 1963.
*Рагойша, В.* Паэтыка Максіма Танка / В. Рагойша. Мінск, 1968.
*Рагойша, В.* І адгукнецца слова ў слове / В. Рагойша. Мінск, 1992.
*Рагойша, В. П.* Вяршыні: з невядомага і забытага пра Я. Купалу, Я. Коласа і М. Багдановіча. / В. П. Рагойша. Мінск, 1991.
*Рублеўская, Л.* Пярсцёнак апошняга імператара / Л. Рублеўская. Мінск, 2005.
*Сачанка, Б.* Апошнія і першыя / Б. Сачанка. Мінск, 2005.
*Сачанка, Б.* Родны кут / Б. Сачанка. Мінск, 1989.
*Сачанка, Б.* Сняцца сны аб Беларусі / Б. Сачанка. Мінск, 1990.
*Семашкевіч, Р.* Выпрабаванне любоўю / Р. Семашкевіч. Мінск, 1982.
*Станкевіч, Ю.* Апладненне ёлупа / Ю. Станкевіч. Мінск, 2005.
*Стральцова, В. М.* Шлях да сябе / В. М. Стральцова. Мінск., 2002.
*Стральцоў, М.* Выбранае / М. Стральцоў. Мінск, 1987.
*Стральцоў, М.* Пячатка майстра / М. Стральцоў. Мінск,1986.
*Стральцоў, М.* У полі зроку / М. Стральцоў. Мінск, 1976.
Сучасная беларуская драматургія. Мінск, 2003.
Сучасная беларуская проза. Мінск, 2003.
*Танк, М.* Выбранае / М. Танк. Мінск, 1993.
*Танк, М.* Дзённікі / М. Танк. // Полымя. 1996, № 9–12; 1997, № 1–12.
*Танк, М.* Збор твораў : у 6 т. / М. Танк. Мінск, 1975–1981.
*Танк, М.* Збор твораў : у 13 т. / М. Танк. Мінск, 2006. Т. 1–2.
*Тарасюк, Л.* Апалогія красы / Л. Тарасюк. Мінск, 2003.
Туга па Радзіме. Мінск, 1992.
*Тычына, М. А.* Аляксандр Пушкін і Якуб Колас / М. Тычына. Мінск, 1999.
*Тычына, М.* Карані і крона / М. Тычына. Мінск, 2002.
*Тычына, М.* Кузьма Чорны / М. Тычына. Мінск, 2004.
*Тычина, М.* Народ и война / М. Тычина. Минск, 1985.
*Тычына, М.* Час прозы / М. Тычына. Мінск, 1988.

*Уладзімір Караткевіч*. Быў. Ёсць. Буду! : успаміны, інтэрв'ю, эсэ. Мінск, 2005.

*Усікаў, Я*. Андрэй Макаёнак / Я. Усікаў. Мінск,1984.

*Усікаў, Я*. Беларуская камедыя / Я. Усікаў. Мінск, 1979.

Успаміны пра Змітрака Бядулю. Мінск, 1988.

Успаміны пра Івана Мележа. Мінск, 1982.

Успаміны пра Якуба Коласа. Мінск, 1982.

Успаміны пра Янку Купалу. Мінск, 1982.

*Федарэнка, А*. Вёска / А. Федарэнка. Мінск, 2013.

*Федарэнка, А*. Сечка / А. Федарэнка. Мінск, 2012.

*Хомчанка, В*. Пры апазнанні — затрымаць / В. Хомчанка. Мінск, 1983.

*Хромчанка, К. Р*. Беларуская мастацкая проза (канец XIX — пачатак XX ст.) / К. Р. Хромчанка. Мінск, 1979.

Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі : у 4 т. Мінск, 1997—2005.

*Чаропка, В*. Храм без Бога / В. Чаропка. Мінск, 1992.

*Чорны, К*. Збор твораў : у 6 т. / К. Чорны. Мінск, 1988—1990.

*Чыгрынаў, І*. Выбраныя творы : у 3 т. / І. Чыгрынаў. Мінск, 1994.

*Чыгрынаў, І*. Звон — не малітва / І. Чыгрынаў. Мінск, 1993.

*Чыгрынаў, І*. Новае ў жыцці, новае ў літаратуры / І. Чыгрынаў. Мінск, 1983.

*Чыгрын, І. П*. Паміж былым і будучым / І. П. Чыгрын. Мінск, 2003.

*Шамякін, І*. Збор твораў : у 23 т. / І. Шамякін. Мінск, 2003—2006. Т. 1—7.

*Шамякін, І*. Збор твораў : у 6 т. / І. Шамякін. Мінск, 1977—1979.

*Шамякін, І*. Роздум на апошнім перагоне: дзённікі 1980—1995 гг. / І. Шамякін. Мінск, 1998.

*Шамякін, І*. Сатанінскі тур / І. Шамякін. Мінск, 1995.

*Шамякін, І*. Карэнні і галіны / І. Шамякін. Мінск, 1986.

*Шамякін, І*. Пошукі прытулку / І. Шамякін. Мінск, 2001.

*Шамякіна, Т. І*. Беларуская класічная літаратурная традыцыя і міфалогія / Т. І. Шамякіна. Мінск, 2001.

*Шамякіна, Т. І*. Іван Шамякін: вядомы і невядомы / Т. І. Шамякіна. Мінск, 2011.

*Шамякіна, Т. І*. Міфалогія Беларусі / Т. І. Шамякіна. Мінск, 2000.

*Шамякіна, Т*. На лініі перасячэння / Т. Шамякіна. Мінск, 1981.

*Шапран, С*. Васіль Быкаў / С. Шапран. Мінск—Гародня, 2009.

*Шапран, С*. Дажыць да зялёнай травы / С. Шапран. Мінск, 2008.

*Шкраба, Р*. Моваю вобразаў / Р. Шкраба. Мінск, 1989.

Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі : у 5 т. Мінск, 1984—1987.

*Юрчанка Г. Ф*. Народная сінаніміка / Г. Ф. Юрчанка. Мінск, 1969.

*Янушкевіч, Я*. Неадменны сакратар Адраджэння: В. Ластоўскі. / Я. Янушкевіч. Мінск, 1995.





# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**Бугаёў** Дзмітрый Якаўлевіч

# ЖЫЦЦЁМ ІДУЧЫ:
## з гісторыі беларускай літаратуры і літаратурнай крытыкі

Адказны за выпуск *А. А. Лагвіновіч*

Мастак вокладкі *Т. Ю. Таран*
Тэхнічны рэдактар *Т. К. Рамановіч*
Камп'ютарная вёрстка *А. В. Зайцава*
Карэктар *Л. С. Мануленка*

Падпісана да друку 29.11.2013. Фармат 60×84/16. Папера афсетная.
Рызаграфія. Ум. друк. арк. 17,64. Ул.-выд. арк. 20,2.
Тыраж 100 экз. Заказ 774.

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.
ЛВ № 02330/0494425 ад 08.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 4, 220030, Мінск.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта».
ЛП № 02330/0494178 ад 03.04.2009.
Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.